Таіса Бондар

# Імем Айца і Сына

АПОВЕСЦЬ, РАМАН

МІНСК

«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА». 2000

# Імем Айца і Сына

## АПОВЕСЦЬ

> Апошняя таямніца чалавечая — нараджэнне ў чалавеку Бога. Апошняя таямніца Божая — нараджэнне ў Богу чалавека. І таямніца гэта — адзіная таямніца. Бо не толькі ў чалавека ёсць патрэба ў Богу, але і Богу патрэбен чалавек.
>
> *М. Бярдзяеў*

Памаліцца б за гэты край, ды хто памоліцца? Скрозь, ад мяжы да мяжы гэтай высіненай халоднымі промнямі ночы,— ні душы. Пустка. Аграмадная пустка, што нагадвае адкрыты небу дол, у якім, бы ў цёмным страшным чэраве, варочаюцца сплеценыя галіны дрэў, і самі няўклюдныя, непазнавальныя ўжо дрэвы, і цені пустых, кінутых людзьмі хат, і самі хаты ўздоўж белай стужкі ракі, і рака, што нясе мёртвыя адбіткі зорак у Прыпяць...

Памаліцца б! Адно — каму? Каму маліцца, калі ніколі не страчала тут яна, Параскева, свайго заступніка? Колькі памятала: не паспяваў дзень, аднюткі дзень дагарэць, а на яго напялішчы год пражыты хаваць даводзілася. А ўжо як год у працы і клопатах адыходзіў — здавалася, жыццё на цэлы век карацела. Ды і карацела. Успамінамі яго не надточыш.

Але, успамінамі свой век не надточыш. Ні ў адзін бок, ні ў другі. Жывеш, пакуль карані яго чуеш. Карані, якія ў балотах тутэйшых карчэюць, пакуль не адгніваюць, не адвальваюцца. Добра, калі дзе на цвярдзейшым месцы колькі здаровых парасткаў праб'ецца, расці пачне: здаралася ж, не дрэвы, лясы валіліся, багнаю высмактаныя, здаралася, не сем'і, цэлыя вёскі выміралі, так ніколі і не адрадзіўшыся. Вось і яе Радзімічы гэткі лёс, мусібыць, напаткае: адыдзе вёска следам за ёю, Параскеваю, адзінай гаспадыняй цяпер на ўсе сорак яе двароў. Адзінай і апошняй.

То вайна людзей забірала, зямлю спусташала, а то і вайны не спатрэбілася: збылося прароцтва, запісанае некалі ў

Кнізе Жыцця,— упала з неба долу гарачая зорка і ўспыхнула, нібы свяцільня, і святло яе атруціла трэць усіх рэк, азёр і крыніц, і імя тае зоркі Палын... Пэўна ж, Палын, бо згоркла ўсё адразу: і вада, і паветра, і цішыня. Згоркла, і атрутную горыч зямля не прыняла. Не прымае.

Ціха струменіцца, пагойдваючы нерухомую бляклую поўню, неба. Ціха, бязгучна асыпаюцца з вычварна хісткіх кустоў белыя, набраклыя волкім месячным святлом пялёсткі, і ніводзін зрух іх, ніводная іскрачка не адбіваюцца ў цёмных шыбах акон за імі — так, бы паміж палісаднікамі, у якіх буяе, не чуючы трывожнае цішыні, чэрвень, другі ўжо хворы чэрвень, і вокнамі аглухлых ад гэтае цішыні хат устала нябачная сцяна. Устала і будзе ўставаць штодня, штоноч, ажно пакуль не спарахнеюць, не рассыплюцца хаты сярод зараснікаў перароджанага, здзічэлага за гады бэзу і не ўзыдуць на гэтым праху новыя, невядомыя часы.

Памаліцца б, ды дзе ўзяць словы для малітвы, як знямелі скаваныя незнаёмым, смяротным, холадам вусны? Стыне, замаруджвае свой гарачы бег кроў у венах. У венах зямлі, і ў яе, у Параскевы, у венах, і няма, няма ў Параскевы ні для зямлі атручанае, ні для сябе ніякіх лекаў: ад бяды не залечышся...

Адыдзе ноч, слязьмі сваімі абмытая, выблісне, пачне разгарацца новы дзень — і прачыніць, а потым і насцеж адчыніць Параскева акно ў яго ззянне, каб, перш чым пасунуцца ў гарод, да сваёй капаніцы, доўга ўзірацца ў раку, у лес за ракою, у твары жывых і мёртвых, усіх, хто пакінуў вёску і яе, Параскеву, дажываць сваё, паміраць у самоце. Ніхто твару не адверне, ніхто вачэй не адвядзе — і хвіліну, і другую, і трэцюю: быццам чакаюць штораз нейкіх слоў, быццам адно на яе, старую, састарэлую разам з вёскаю, у іх спадзяванне. Смерць, нябачная смерць кругом насеялася, карані пускаць пачала, так. Але ж пасеянае ўзыходзіць, прарастае і як не капаніцаю падсячэцца, то з коранем выдзерацца. Калі будзе каму выдзіраць...

Адно на яе, Параскеву, цяпер спадзяванне, яна разумела. Адыдзе ноч, выблісне, пачне разгарацца новы дзень — пашоргае трохі пабітым іржою напільнікам па капаніцы, каб вастрэйшая стала, і — хай Бог памагае! Які ні малы лапік гарода праполе, ад злога пустазелля выбавіць, а ўсё зямлі лягчэй уздыхнецца. Зямлі ці мо ёй самой: вочы, здэцца, не глядзелі б на запусценне вакол, на лес бур'яну, цераз які ўсё цяжэй працерабіць ад хаты да хаты сцежку: тут жа, следам, зарастае. А трэба ж працярэбліваць. Нельга адступацца. Пакуль жывая. Пакуль ногі трымаюць і сілы стае.

Ведае, чуе Параскева: смерць за ёю ходзіць. Ужо і не хаваецца. Асмялела: то ціхі смяшок, ад якога кроў ледзянее, раптам напужае Параскеву, то крокі, лёгкія і таропкія,— размераныя, быццам лёгкія ўзмахі касы: шорх-шорх... Азірнецца ж — нікога. А трава пакалыхваецца, усё роўна як сама па сабе, ад свайго дыхання, а на траве — не след, дык знак які-небудзь нядобры: то зламаны і пачарнелы адразу рамонак, то вывернутая алешына, што каранямі бездапаможна чапляецца за дрогкае паветра, ці то нават стужка, абрывак лахмана, што рассыплецца, развеецца ў паветры, ледзь толькі насмеліцца Параскева падысці бліжэй. А яна насмельвалася, падыходзіла. Аднойчы здалося нават, што вось-вось пазнае, што бачыла ўжо некалі гэткую стужку, заплеценую ў касу, і калі напружыць памяць...

Здалося, відаць. Стужка як стужка. Рассыпалася ў прах, перш чым кранулася яе Параскева, а за спінаю, хоць не было там нікога, хтосьці з'едліва захіхікаў. Плюнула Параскева, адступілася: блізка смерць, а час яе, мусіць, яшчэ не прыспеў — вось і дражніцца, вось і пужае. Марна пужае. Пужаная Параскева ўжо, колькі разоў за жыццё пужаная, а цяпер... Цяпер, каб не няўцямнае якоесь пачуццё, што не можа, не павінна яна сама, заўчасна, гукаць сваю смерць, пагукала б, гучна, на ўсю гэту абязлюдзелую зямлю выгукнула б: прыходзь, забірай і мяне, калі Богам ці якім нячысцікам дадзена табе такая ўлада!

Не, не. Пакуль ногі трымаюць і сілы ў яе стае, будзе жыць, будзе гаманіць з ёю вёска галасамі сваіх мёртвых: хіба ж мёртвыя яны, калі памятае іх Параскева, калі з любым яна сама слова мовіць можа,— і ён адкажа: то на боль у паясніцы пажаліцца, то на бяссонне шматгадовае сваё, у якім што ні пасееш, адно месячныя промні ўзыходзяць, а то і на яе, Параскеву, што рэдка заходзіць, рэдка выслухае да канца балючую споведзь. Бо і рэдка. Усіх жа не перапаслухаеш, хоць дзень і ноч слухай: не адно пакаленне радзімічаў у зямлі да яе, Параскевіных, крокаў прыслухоўваецца, а часта ж не яе гэта крокі, а смерці. Ні пра зямлю гэту, ні пра яе люд памяці не застанецца, калі паддасца, аслабне і паддасца ёй Параскева.

Тое, што заезджыя эвакуатары ёй, старой, летась нагаварылі, з імі і засталося. Белая смерць ці шэра-бура-малінавая — усё смерць, і не ўсім жа кідацца ўцякаць ад яе, вёску, зямлю, магілы свае атаму ці шчэ якому чорту лысаму пакінуўшы: зямля ж заставалася, магілы заставаліся — тут, побач са сваім Пахомам, вайною зраненым, побач з сынам і ёй, Параскеве, ляжаць. У зямлі ці на зямлі, калі не

зямлёю, то небам прыкрытай, пакуль прах з костачак дажджы не змыюць, мо і не ўсё роўна, ды як не будзе каму пахаваць, то і так абыдзецца. Душа ж яе тут, над берагамі Славечны, застанецца. Тут адлятае, адплача сваё, і гэту зямельку, і люд, сагнаны з яе, аплакваючы, а костачкі... I костачкі, так ці інакш, з часам ператруцца. Не пра гэта, не пра гэта думаць трэба!

З уздыхам адвярнулася Параскева ад сцяны і міжволі звяла на міг павекі, зажмурылася. Проста перад ёю, у акне, стаяла поўня — вялізнае, ледзь не ва ўсе шыбіны, вока яе: нешта выглядвала, нечага шукала...

Калі позірк звыкся з белым, сляпучым святлом, сталі бачныя дрогкія яго ніці — ад сцяны да сцяны, ад рамкі са старымі фотаздымкамі да вышчарбленага ў ніжнім левым кутку люстэрка, цераз усю хату. Яны ледзь заўважна трымцелі і, пэўна ж, лёгенька вызвоньвалі, звінелі, але звон губляўся ў руху, рух доўжыўся, рос ушыркі, рассоўваючы сцены, і праз колькі хвілін Параскева здзіўлена азіралася вакол: не ў хаце яна ляжала, а на каменнай, зусім аблыселай за апошні год выспе, што ў канцы вёскі, за Маланніным гародам, і ўгары, над ёю, над выспаю, пагойдвалася аконная рама з поўняю. Рама, што ўсё больш нагадвала крыж, стары драўляны крыж з матчынай магілы.

«Маці?» — варухнула Параскева вуснамі.

Крыж павярнуўся, выпрастаўся, пасунуўшы, атросшы поўню, і на яго пачарнелай ад часу паверхні пачалі праступаць нейкія літары. Белыя-белыя літары.

Параскева напружыла свой слабы ўжо зрок, узіралася, стараючыся прачытаць, пазнаць якую з іх, а літары скакалі ўваччу, расплываліся, змываліся святлом і зноў праступалі — і адно, што ўдалося як не разгледзець, то нейкім чынам уразумець: літары былі незнаёмыя, чужыя. Па-старому, няйначай, пісаныя. I не разабраць ёй: якоесь імя гэта ці мо слова заклёну, замовы старой.

«Маці?» — няўцямна перапытала яна ў наваколля, і ціха, самотна ўздыхнула ў адказ зямля. Уздыхнула і аціхла. I холад яе, холад шмат стагоддзяў праляжалага ў зямлі каменю, апёк, наскрозь працяў Параскеву.

Яна зноў прымружыла вочы, цяпер ужо для таго, каб адгарадзіцца, хоць так адгарадзіцца ад халоднай прасторы неба, і сапраўды неяк адразу стала лягчэй. Параскева паспела нават падумаць, што гэта сон перанёс яе сюды, на каменную выспу, і варта прачнуцца...

Поўня схілялася над ёю. Усё ніжэй і ніжэй. Параскева баялася расплюшчыць вочы і ўсё ж бачыла, як расла яна,

цяжэла, засланяючы ўсё бачанае толькі што, усё выразней набываючы рысы жаночага твару, незнаёмага і ненавіснага жаночага твару. Не, Параскева не пазнавала яго, не пазнавала — і ўжо ненавідзела.

«Хто ты? Чаго ты хочаш? — выдыхнула яна, баронячыся і словамі і рукамі, якімі імкнулася адпіхнуць навіслы над ёю твар.— Чаго ты ходзіш за мною?»

«А то ты не ведаеш! — ашчэрыўся твар, перакошаны ці то злосным, з'едлівым пахіхікваннем, ці то згадкаю пра штосьці, што даўно, у мінулым, мела нейкае дачыненне і да яе, Параскевы.— На Бога спадзяешся? Дык няма ж яго, Бога, у табе няма! Зямлі, зямному скрозь, колькі жыла, пакланялася...»

«Але. Зямлі. Зямному. Дык жа ў ім... Яно і ёсць Бог!» — хацела запярэчыць Параскева, але так і не змагла расцяць вусны, выдыхнуць гэтыя няўпэўненыя словы: не ведала яна Бога — як і ўсе, ахрышчаныя некалі, не бачыла, ніколі не бачыла ў ім ні свайго суддзю, ні свайго заступніка. З зямлі і працы сваёй на зямліцы жыла, ёй з дня ў дзень паклоны адбівала, каб не пакрыўдзіла, каб ні вады, ні хлеба не пашкадавала,— дзе тут месца Бога? І нашто яно яму, як і ён, сын зямлі гэтае, і ён зямную муку прыняў?

«Чаго ты ходзіш следам? Чаго ты хочаш? Смерці маёй?» — не прамовіла, падумала, але твар над ёю перастаў хіхікаць і, крыху адхінуўшыся, пагардліва скрывіўся.

«Смерці! Ды ты ж ужо мярцвей за ўсіх мёртвых тут, у зоне, у гэтай ядзернай пустыні: яны, мерцвякі, жывых вакол сябе збіралі, плач іхні, а цябе, цень смерці, што на сабе носіш, і зграі здзічэлых сабак абмінаюць. Мёртвая ў царстве мёртвых!»

«Няпраўда! Брэшаш! — не вытрывала здзеку Параскева, і словы прарваліся, хлынулі, запырскваючы сарочку цёмнаю, чорнаю ў нерэальна белым святле крывёю.— Не ўсё, што лятае, ходзіць ці поўзае,— жывое, не ўсе, што ў зямлі гады ці нават вякі ляжаць,— мёртвыя. Іншым жыццё вымяраецца, невымерна большым!»

«І чым жа?» — адхінаўся, адступаўся твар.

«Ужо ж не смерцю... І даўно прамінулае, і далёкае, непрычаканае памяць зблізіць, зніт ує — у памяці, памяццю ўсё жыве і жыць будзе, пакуль зямля стаіць, пакуль неба ад яе не адраклося».

«Цю-ю, прарочыца! Цябе, цябе хто па смерці ўспомніць?»

«Не мяне, дык зямлю гэту, не пакінутую мной, успомняць, чуеш? Ты чуеш?!»

Немы крык яе разбіўся аб штосьці цвёрдае, нягнуткае і сцяўся, сціснуўшы болем грудзі. З цяжкасцю ўздыхнула, вызваляючыся з невыноснага болю, Параскева, з цяжкасцю прыўзняла набраклыя шматгадоваю стомаю павекі: у хаце было светла, хоць голкі збірай,— у акне, ва ўсё акно, стаяла поўня.

Прыўстала, ссунулася Параскева з ложка. Памарудзіла крыху, каб адчуць якую-ніякую сілу ў нагах, няспешна пайшла ў сенцы да вядра з вадою і конаўкай зачэрпнула набранай звечара і ўжо сцяплелай вады, доўга піла, цадзіла яе з конаўкі, быццам вось так, па глытку, адпівала ад начнога спакою, ад цішыні, і супакойвалася. Дыханне выраўноўвалася доўга: сэрца ледзьве варушылася ў грудзях, і, здавалася, цяжкія, няроўныя штуршкі яго глушэлі і вось-вось аціхнуць.

Сон не пужаў Параскеву, не. Хутчэй, здзівіў. Трэба ж, каб так сышлося ўсё: ноч, белая каменная выспа напрыканцы вёскі, поўня, яе ненавісны, перакошаны злосцю твар! А мо не сон гэта? Знаёмым жа, добра знаёмым здаўся ёй твар, ды і на сарочцы, калі прыгледзецца, цямнелі як не кропелькі засохлай ужо крыві...

Вяртацца ў хату не хацелася. Душна. Занадта ціха і душна. Не засне ж больш. Колькі тут заставалася да раніцы, не варта і класціся. Мо на ганку, сам-насам з небам, над якім і поўня не гаспадыня, думкі адступяцца. Ці хоць пацішэюць, тузаць перастануць. А то лезе ў галаву хто ведае што. Душа не на месцы... Ногі яшчэ ходзяць, рукі рыдлёўку ці капаніцу трымаюць, а з душою які ўжо дзень штосьці дзеецца: ці то вырасла так, што ў целе яе старым, нямоглым не месціцца, ці то і ўзапраўду Бога ўчуць імкнецца і ўсё прыслухоўваецца, прыслухоўваецца да нечага. Вось як зараз, у гэту хвіліну.

Зябнучы, Параскева перасмыкнула плячыма, але назад, у сенцы, каб сасмыкнуць з крука плюшаўку і акрыцца, не пайшла. Спынілася на верхняй прыступцы, пашукала няўцямным позіркам поўню і, не ўбачыўшы, не адразу здагадалася, што тую засланяла старая галінастая яблыня напрыканцы двара, а здагадалася — згодна паківала галавою. Няхай яе! Хутка ўжо на золак возьмецца: раса ўпала...

Нядаўна, відаць, упала раса: зямля не паспела астыць, набранае за дзень цяпло выдыхаць — то тут, то там калыхаліся лёгкія воблачкі пары, і, здавалася, калыхалася, не-не і выплёскваючыся цераз край ночы, густое, настоенае на незнаёмых пахах паветра: штоміг, на кожны такі ўсплёск, мяняліся рысы наваколля.

Параскева напачатку як не заўважала гэтых змен: пазірала — і не бачыла нічога, апроч высокага зорнага неба над сабою, не бачыла, а на небе ніякага, нават самага малога, зруху не было. Мо толькі белае сляпучае святло крыху прыжухла ды зоркі, тыя, што бліжэй да яе, пацяжэлі і больш выразна акрэсліліся. Ноч на сыходзе. Яшчэ адна ноч... Куды, у якую бездань яна праваліцца, абрушыцца ўсімі сваімі зоркамі ўслед за астатнімі, не папытаеш. Ды і не ў яе трэба б пытаць, не яна адкажа...

«Але хто, хто адкажа?!» — вярнуўся, апёк ранейшы боль, і Параскева міжволі звяла на грудзях рукі, сцялася. Позірк саслізнуў ніжэй, зачапіўся за няроўны край бліжняга, адразу за гародамі, лесу, там-сям зацягнутага ўсё яшчэ празрыстым мроівам, і скаціўся пад ногі. Яна асцярожна падняла позірк і — як захлынулася здзіўленнем: месячныя промні з заблытанымі ў іх зоркамі ці мо толькі іх адбіткамі, нагадвалі вялізную, ад краю да краю ночы, мярэжу, у якой бязгучна пялёхкаліся зарослыя ледзь не да самых стрэхаў хаты, замшэлыя камяні старога, хто знае калі разбуранага млына ў затоцы Славечны, незнаёмыя, прынамсі, непазнавальныя ўзлескі без аніводнае сцежкі ўздоўж ці ўпоперак, паскручаныя ў клубкі калючага дроту дарогі за імі, мутныя азерцы туману, зараснікі шыпшыны, густа пакрытай палінялымі ў халодным святле, белымі-белымі кветкамі... Усё гэта ўздрыгвала, калыхалася, ціха струменілася кудысьці ўгару, усё вышэй ад зямлі, ад ганка, на якім яна стаяла. Было не адвесці вачэй, хоць здзіўленне падмываў, падымаў ужо жах перад чымсьці незразумелым, няўведаным за цэлае яе жыццё — жах, больш падобны на захапленне. Здавалася: ноч канала ў яе на вачах, хворымі грудзьмі сваімі ўцягваючы, усмоктваючы астуджаную, настылую прастору, і тая вось-вось знікне, растворыцца ў гэтым цяжкім, гарачкавым дыханні.

Параскева нават уздыхнуць баялася, не тое што зварухнуцца: боль, пякучы боль разрываў ёй грудзі, дыхаць станавілася ўсё цяжэй і цяжэй.

Праз сілу звяла на міг павекі, прыслухалася да болю. Калі ж, адступіўшы крыху назад і прыхінуўшыся да шула, зноў адрыла вочы, убачыла, як наўсцяж, ад краю да краю, лопнула, пачало расколвацца неба.

«Божа! Божа літасцівы!» — вырвалася ў яе, хоць ад хараства, якогась жудаснага хараства, што адбывалася на вачах, займала дух: расколвалася, папалам раскалолася пацямнелае адразу неба, і ў расколіну, у бездань, што адкрылася за ёю, хлынула, пачало абрушвацца ўсё толькі што

ўбачанае: хаты, замшэлыя камяні, узлескі, папераразаныя калючым дротам дарогі, зараснікі шыпшыны... Святло клубілася, паглынаючы рэшткі — якіясь невыразныя абломкі, брудныя пляміны, святло загусала і цяжэла, зацягваючы ўсё вакол белаю, задушліваю параю. Хутка нічога не было відаць ужо за некалькі крокаў, а сцяна насоўвалася, насоўвалася на яе, і як ні ўціскалася ў шулу, у драўляны шурпаты бок Параскева, праз нейкі міг сцяна павінна была раздушыць, раструшчыць і яе.

«Што гэта? Туман? — баранілася Параскева здагадкаю, выпростваючы перад сабою дрогкія, пахаладзелыя рукі, і калі шорсткія, агрубелыя ад працы пальцы яе адчулі мяккую, ліпкую вільгаць, роспачна ўсміхнулася: — Туман...»

Усмешка надала ёй сілы, і толькі калі дзверы за плячыма, бразнуўшы, зачыніліся, Параскева адчула, што ўся ззябла і не можа спыніць калатун: выскачыла, неба не саромеючыся, у адной сарочцы, вось і закалела. Глынула б чаго гарачага, ды не распальваць жа цяпер у печы: і доўга, і зарана дужа. Пад коўдраю сагрэецца. Плюшаўку паверх накіне — і сагрэецца.

І думкі, і звыклыя, упэўненыя рухі супакоілі. Падкурчыўшы ногі, сцяўшыся пад коўдраю, якую нацягнула ледзь не да самых вачэй, Параскева хоць і не сагрэлася адразу, у першую хвіліну, але калаціцца перастала, задыхала раўней.

Халодны туман. Не чэрвеньскі. Як аднекуль з падыспаду ночы. Нездарма ж лопнула, папалам раскалолася неба, паглынуўшы і поўню, і асветленае, зачараванае ёю наўколле. Не прыгадвала падобнага Параскева, не памятала. Мо толькі ніколі не страчалася вось так, твар у твар, з небам, над безданню яго, паміж ноччу і золкам, калі раптам край, самы краёк вечнасці, стаў бачны. На адно-два імгненні ўсяго, і калі б прадоўжыліся гэтыя імгненні...

Не-не, ужо ж душа не вытрывала б. І так да Бога раптам звярнулася. Бога пагукала, ні імя, ні сцежкі яго не згадаўшы, а калі б адгукнуўся хто на кліч, на словы яе? Калі б адгукнуўся?!

Уражаная, Параскева нават прыўзнялася на ложку: разламанае, расколатае колькі хвілін таму неба ўва ўсім харастве, ува ўсім жаху сваім паўстала зноў перад вачыма, і не тады, не ў тыя хвіліны, а цяпер, толькі цяпер, і хутчэй не позіркам, а ўспамінам, які таіўся недзе ў глыбіні душы, убачыла Параскева, што з расколіны, з цёмнага чэрава неба выпраменьвалася ззянне. На адно кароткае імгненне, нават

не ўсвядомленае адразу, прыадкрылася ёй якаясьці таямніца. Што гэта было, яна не ведала. Мо той краёчак вечнасці, пра які падумала звыкла адчужана, як пра штосьці далёкае і ў далечы сваёй заведама недасягальнае.

За вокнамі ж, ушчыльную, вісела шэрань. Беспрасветная шэрань, ад якой і тут, у хаце, стала густою, ліпкаю цішыня. Параскева яшчэ нейкі час муляла падцятымі, выцягнутымі ў адзін тонкі шнурочак губамі, але дрымота ўжо навальвалася на яе ўсім сваім цяжарам, скоўваючы і гэтыя па-старэчы бездапаможныя рухі.

Маладое сонца... Гэта ж маладое сонца купаецца ў Славечне, у іхняй затоцы, прыхаванай ад наўколля старымі, тоўстымі, як абняць, вербамі! Сюды яны з Пахомам прыходзяць ледзь не штовечар. Вось у такую хвіліну ці крыху пазней. Другі ўжо месяц — другі ж месяц пайшоў, як Пахом дома, і кожнага дня вядзе яе сюды, каб прычасціцца зямным хараством, зямной цішынёй і на волі, сярод гэтага хараства, надзівіцца на яе, сваю Параскеву. Надзівіцца, налюбавацца целам яе гнуткім, падатлівым пад яго далонямі — не стамляецца Пахом чэрпаць, гарнуць далонямі празрыстую ваду і ёю, сцяплелаю за дзень вадою, гарачымі, і ў вадзе гарачымі, пальцамі кранацца Параскевы, агладжваць, лашчыць плечы яе, грудзі, рукі...

— Яшчэ ўбачыць хто, Пахомка,— адварочваецца яна, ступае глыбей у ваду.

— І няхай, няхай! — смяецца, утрымлівае яе Пахом.— Гэткую вайну прайшоўшы, не адно чаду парахавога, а і крыві ўласнае наглытаўшыся, мне цяпер шчасця свайго стыдацца? Жывы застаўся, вас жывых знайшоў — ды мне за сто гадоў шчасця гэтага не размяняць, мне з табою, Параскева... Хадзі бліжэй! Хадзі, хадзі, а то я, няйначай, да сонца раўнаваць пачынаю: зусім побач з табою плёскацца ўздумала!

Яна азіраецца, і ўсмешка, не паспеўшы асвятліць твар, сцінаецца, застывае ў куточках вуснаў: сонца аграмаднаю вогненнаю плямінаю падплывае да яе, пачынае абвалакваць, зацягваць, апякаючы цела спярша пяшчотнымі, потым усё больш і больш прагнымі і патрабавальнымі дотыкамі. Параскева кідаецца наўцёк — прэч з вады да берага, а агонь трымае, агонь павісае на ёй і ўтрымлівае.

— Хадзі бліжэй! Хадзі! — гукае, туліць яе да сябе Пахом.

Яна чуе яго голас, яго рукі, яна рвецца ім насустрач — і не можа скрануцца з месца. «Пахом! — шэпча.— Пахомка...» А сама ўжо ва ўладзе агню: курчыцца, звіваецца пад

яго гарачымі дотыкамі, то губляючы прытомнасць і правальваючыся ў якоесь мутна-зялёнае месіва, то зноў выплываючы на паверхню і спрабуючы адбіцца, вырвацца з агню, палкія і зусім не бясцелыя языкі якога адгарадзілі яе ад зямлі, ад вечара, ад Пахома.

І ўжо здаецца: не яна курчыцца, не яна звіваецца ад іх дотыкаў, а яны, вогненныя языкі гэтыя, звіваюцца, скручваюцца вакол яе, працінаючы цела сваімі гарачымі джаламі. Глыбей і глыбей. Ажно пакуль не перастае яна адчуваць боль апёкаў, ажно пакуль не скараецца, захлынуўшыся зглынутым стогнам.

— Ну што ты, што ты, родненькая? Гарыш уся...

Гэта Пахомаў голас. Гэта Пахом плёскае ёй у твар вадою, вымываючы з-пад злепленых веек, змываючы са шчок чорныя, перагарэлыя ў ёй слёзы. Праз міг Параскева ўжо бачыць гэтыя слёзы — чорныя іх гарошыны — у Пахома на далані: чым павольней ён зачэрпвае ваду даланёю, тым больш у ёй чорных гарошын, якія на вачах растуць, пачынаюць выпраменьваць мёртвае чорнае ззянне.

«Мёртвыя зоркі!» — здагадваецца яна.— Мёртвыя зоркі ў вадзе Славечны, і хвалі выплюхнуць, выкінуць іх на бераг, і ўсё загіне: вербы, сцежка ў вёску, палі і гароды, лес за гародамі...»

Рукі ўжо адштурхоўваюць, гоняць ад берага чорныя, бязважкія, пустацелыя шары, раз-пораз прабіваючы, ірвучы тонкія абалонкі і адчуваючы, як усё часцей і ўсё мацней угразаюць у ліпкай пустаце, а рака праціўіцца — вада цясніць, адцясняе Параскеву кудысьці ўбок, убок і вышэй, па стромым беразе, па камлях паваленых вербаў. Смыліць абадраная на плячах і локцях скура, нямеюць ад напружання, ад таго, што яна ўвесь час спрабуе ўчапіцца за што-небудзь, утрымацца, адчуць пад сабою глебу, рукі, пот і кроў, якія точацца з усіх пораў, змешваюцца, цвярдзеюць, дзе-нідзе бяруцца скарынкаю, і там, дзе рвецца, лопаецца гэтая скарынка, утвараецца, расце гнойнае струп'е...

— Гля, гля, што вычварае!

— Бабы, трымайце яе: не помніць сябе, няйначай...

— Голая на магілу мужа дзярэцца, цьфу, каб ты прапала!

— Не помніць яна сябе ад гора: двух месяцаў не прайшло, як дамоў вярнуўся...

— Цяпер, нябось, не вернецца!

— Аксціся, Верка!

— Ды трымайце ж, трымайце яе хто-небудзь: дзеці ж вакол, ім жа ня ўказ!

— Параскева! Што ты вырабляеш, маць тваю? Апамятайся, зірні на сябе! Вачмі сына свайго зірні, вачмі дзіцёнка!

Зацкавана азіраецца яна, пазірае ўніз. Саўка Рапуха са сваёю Волькаю, Свірыд Сапун, Гэлька — дачка каваля Уласа Воюша, Хведар Сыч і яго тоўстая, як ступа, Соня, стараверы — Пятрок і Ганна Старобінцы, трактарыст Шура Леўчык, дзед Гаўрыла, самагоншчыца Верка са сваім п'яненькім Стасам, Ігнацій, былы поп, а цяпер, гады са тры ўжо — вясковы пчаляр, глухая Маланння... Як не ўсе Радзімічы сабраліся ўнізе! Што яны крычаць? Чаго яны ад яе хочуць? Яе Пахом гукае, другую ночку гукае... Насыпалі, навалілі на яго зверху зямлі і думаюць, што яна не пачуе яго голасу, яго клічу...

Гэта ж гэтулькі зямлі насыпалі! Няйначай курган высокі, якому ў пору неба падпіраць. Колькі часу, колькі гадоў шкрабецца яна ўгору, пазногці абламваючы, грудзі аб каменне і выпнутыя з-пад пяску карані раздзіраючы, а ўсё ніяк не далезе да верху, да таго слупка фанернага з зоркаю замест крыжа, ля якога Пахом яе чакае. Не травою ўзяўся курган, а тлустымі каржакаватымі соснамі паспеў абрасці, а канца дарозе, канца пакутам яе не відаць. Смыліць абадраная на плячах і локцях скура, нямеюць ад напружання рукі і ногі, і ўсё ж аднекуль зноў і зноў бярэцца сіла, і Параскева больш не азіраецца назад, уніз, дзе сабралася ўся вёска і кожны крычыць штосьці сваё — ёй, Параскеве, і небу, і кургану, удзірванеламу за тыя сорак гадоў, што рос разам з яе горам.

Сорак? Ужо сорак гадоў, як знерухомела, згасла неба над ім? Не, не. Яна ж чуе голас Пахомаў, кліч ягоны: да сябе ён яе кліча, за сабою. Параскева і так доўга прамарудзіла: работа, неператробленая работа трымала...

— Ужо ж, прамарудзіла, не паспяшалася, галубка. Нават я, нямоглая, хі-хі-хі, цябе апярэдзіла, раней прыйшла. Так што на сябе крыўдуй, на сябе, а не на мяне.

Жаночы голас нагадваў з'едлівае, чутае ўжо некалі пахіхікванне, але калі спакутаваная Параскева падняла галаву, павяла паглядам, то нідзе, як і чакала, нікога не ўбачыла.

— Не туды пазіраеш. Сюды, сюды вочы падымі — трохі вышэй свайго носу, хі-хі-хі! Работа ў яе, бачыце... Работа яе ўтрымлівала... Вось гэта — работа!

Перш чым Параскева паднялася на ногі, перш чым па-

спела абазваца, сэрца ўжо аблілося крывёю: на магільным грудку, побач з тым, шматгадовай даўнасці, фанерным слупком, ля якога чакаў яе Пахом, стаяла згорбленая бясконцым пахіхікваннем жанчына ўва ўсім белым з зоркаю, з бляшанаю, саржавелаю ўжо зоркаю ў руцэ. Рух, кароткі ўзмах гэтай бясцелай рукі — і ржавая, рудая ад іржы зорка, апісаўшы высока ў паветры цёмную дугу, упала недзе за ракою, за даляглядам. Упала, і ў тым месцы ўзвілося ў неба полымя — слуп агню, такіаграмадны і такі яркі, што ўкруг пацямнела, зрабілася мутным святло.

— Бачыла? — падхіхікнула, як падміргнула ёй, вядзьмарка (што гэта вядзьмарка, калі не сама Смерць, Параскева ўжо не сумнявалася).— Вось работа! На сто гадоў наперад можна мерцвякоў падлічваць. І сярод іх — усё больш маладыя ды прыгожыя, усё больш дзеткі, народжаныя і не народжаныя...

— Што-о... што ты зрабіла?! — рушыла да яе Параскева, не слухаючы, не чуючы, як распаўзаецца, тлее на ёй сарочка, як з ціхім звонам асыпаюцца долу з рук, з плячэй камячкі пяску і тут жа ўспыхваюць, пачынаюць разгарацца, злізваючы траву, ліжучы, апякаючы ёй ногі.— Што ты нарабіла?!

Крык яе, здавалася, пахіснуў прастору: курган стромым, абрывістым берагам пачаў спаўзаць, папоўз уніз, і па яго схіле пакаціліся, угрызаючыся ў пясок і падымаючы воблакі пылу, вывернутыя з каранямі сосны, каменныя пліты, падгнілыя крыжы, абломкі агароджы, птушыныя гнёзды, абымшэлыя валуны. Хутка ў гэтым жахлівым клубку з глухім, страшным гулам звілося, сплялося ўсё бачнае і нябачнае, і Параскева, перастаўшы адчуваць сябе, сваё збітае, ушчэмленае паміж болем і жахам цела, ужо не працівілася нястрымнаму руху, нястрымнаму абвалу некуды ў цемру, у беспрасветную цемру невядомасці. У свядомасці яе яшчэ зрэдку ўспыхвалі гарачыя вогненныя водсветы, але ўсё цішэй і цішэй — адно каб ад выпадковай, не пагаслай на самым донцы сну іскры заняўся новы золак.

Золак саступаў месца раніцы неахвотна. Доўга сцінаўся да цяжкіх, набраклых цёмнай сінечаю аблачын, паміж якімі раптам выразна вымалёўваліся купкі вербаў, пахілены штыкетнік ці старая шпакоўня, прыбітая да вішні, пасля зноў разрастаўся, расцякаўся на неаглядныя кіламетры ўздоўж Славечны туман. Доўга адцярэбліваліся ад яго вільготнага павуціння і сохлі першыя сонечныя промні. Доўга выцягвалі яны з-за лесу цяжкое, астылае за ноч сонца. І вось ужо

пачала разгарацца раніца. Змрок аплыў за край зямлі, неба паднялося так высока, што растварылася, знікла ў вышыні, у сваёй недасяжнасці, азерцы туману, якія дзе ніжэй, у лагчынках, яшчэ не высахлі, на вачах мялелі, падсыхалі і ўсё больш нагадвалі мутныя, зацягнутыя шэрай, ліпкай гразёю лужыны.

Хутка зніклі і лужыны, і ўсё вакол, ад кволай зёлкі да магутных спічастых ялін, што з усіх бакоў, куды ні зірнуць, падпіралі сцены далечы, прасторы, утвараючы лінію гарызонту,— усё, зачараванае гэтымі хвілінамі і пагружанае ў дзівосны казачны сон, застыла, знерухомела ў росным ззянні. Не толькі ніводная галінка — ніводны лісток, пасрэбраны расою, не ўздыхнуў, не зварухнуўся ад дыхання раніцы, ніводная нітачка святла не азвалася, не зазвінела ў соннай, мёртвай цішыні. Ціха, нячутна струменіўся ў белых берагах Славечны час, ды і гэты рух яго быў хутчэй сімвалічны, надуманы, бо і рака, зашклёная небам, спала, і калі што і снілася ёй, то ўжо ж не час, аблытаны нябачнымі ланцугамі і ланцужкамі гадоў, дзён ці імгненняў, і яго ўладыка.

Кроплі расы — Божыя слёзы... Часу — ніякаму часу! — ні ў бязвер'і сваім, ні ў веры сваёй гэтага не ўразумець, а прырода ведае. Ведае — і штораз замірае, уражаная, зачараваная, быццам засынае і ў сне, у чуйным сне сваім бачыць Бога, бачыць, што ў ёй, у прыродзе,— у лясах і пералесках, у рэках, рачулках і ручаінках, у красках і зёлках, у птушыных сцежках і іскарках матылёў, у зарослых жбанкамі азярынах і бязгучных песнях рыб,— увасоблены Бог, што кроплі расы — гэта ягоныя чыстыя слёзы. Слёзы захаплення. Ці слёзы смутку. Штоміг жа памірае, штоміг уваскрасае ў ім усё жывое, і ні для каго, ні для чаго ў цэлым свеце няма смерці: у сне, у кожным імгненні чуйнага сну прыроды адлюстроўваецца вечнасць.

У кожным імгненні... У кожным неўсвядомленым імгненні! Калі ад цяжару сонечнага водсвету абрываецца з яблыневай галінкі, з галінкі сусвету, абпалены з краёў лісток і, павіснуўшы на павуцінцы і нагайдаўшыся на ёй, падае, цэлую вечнасць падае скрозь тоўшчу святла на вострыя шабелькі магутнага, неўміручага пырніку, каб яму і зямлі аддаць сваё цяпло. Калі на імклівы ластаўчын палёт нанізваюцца ўздыхі ветру і іх адбіткі ў вадзе, у застылай рачной плыні, афарбоўваюцца ў колер неба. Калі выпітая сонцам раса вяртаецца аблачынкаю, якая зацвітае, цвіце ў хвалях дня ці ў хвалях ночы і асыпаецца долу срэбнымі пялёсткамі-кропелькамі, каб напаіць усё, што прагне

вады, усё, што прагне жыцця. Калі на аксамітна-празрыстых крылцах стракоз закалыхваюць чараты цішыню і з яе дрымоты пачынаюць выплываць чыесьці ўспаміны, стужкі, сцежкі...

Урэшце, не вымераць імгненнямі ні зямнога хараства, ні яго ўродства, якія часта побач, адно ў адным — адно цэлае, непадзельнае і невытлумачальнае. Зусім як гэта раніца ў невялікай вёсачцы з гучнаю родаваю назваю Радзімічы: раскоша чыстага сонечнага неба, затканае росным срэбрам святло — і непралазны, аблытаны леташнім, не выцерабленым ні чалавекам, ні зверам сухім бадыллем і космамі абраслага пылам, касматага павуціння гушчар дзядоўніку, палыну і дзікай шыпшыны вакол пустых, за адзін год пастарэлых, пачарнелых хат; цёплае дыханне ветрыку, у якое ўплятаюцца лісце, птушкі, ліловыя гронкі бэзу, агністыя кветкі матылькоў,— і свінцовым цяжарам леташніх атрутных пладоў сваіх вывернутыя з карэннем, мёртвыя яблыні, якіх кранулiся ўжо гніль і распад; люстраныя водбліскі цішыні ў рачных затоках, да самага дна прапахлых аерам,— і заброснелыя, гнілыя калодзежы, з якіх нікому не напіцца, і высмаленая якімсь нутраным, падземным агнём вогненна-белая пляміна каменнай выспы там, дзе, як нідзе ў іншым месцы, буяе, раскашуе шыпшына, абсыпаная бясфарбнымі, мёртвымі кветкамі. Смерці — няма, а сляды яе на ўсім, паўсюдна...

Смерці — няма? Чаму ж памірае вёска? Чаму апусцелі яе хаты, зараслі, узяліся дзірваном двары і сцежкі, заброснелі, пачалі гніць калодзежы?

Зорка... Зорка Палын... З якой даўніны ўсплыло яе імя? Мо гэта знак які — знак-папярэджанне? Выракліся людзі — перш Бога, потым памяці, мовы сваёй, вось і адраклася, адракаецца ад іх зямля. Воляю Бога ці сваёю воляю, але адракаецца — адрачэцца, калі не апамятаюцца, не ўсвядомяць яны, што самі ідуць насустрач пагібелі. Насустрач сваёй пагібелі. Бо ўжо ж знойдзе працяг жыццё — новы, іншы працяг, і не будзе там, у новай рэальнасці, месца чалавеку.

Думкі гарчылі, але Параскева распаліла ў печы. Наабірала чыгунок бульбы. Падаспелым варам заліла дробна наламаны маліннік, прыкрыўшы, каб настояўся. Прачыніла акно і колькі хвілін узіралася ў раку, у лясную прастору за ёю, спрабуючы разгледзець яшчэ штосьці, апроч няроўнага краю лесу і неба над ім,— што, і сама не ведала. Там, за лесам, за шмат вёрст адсюль, гаманіла з прастораю жыццё, тут, у пакінутай людзьмі вёсцы, было ціха, як у магіле: ні

птушак не ўчуць, ні ветру, ні зямлі пад нагамі. Мёртвая ў царстве мёртвых...

Не, не! Што гэта яна ўслед за начною прыблудаю заведамую лухту паўтарае? Ногі яшчэ носяць, рукі капаніцу трымаюць, памяць не пакінула. Вось сходзіць да каго з суседзяў солі пазычыць, паснедае — і за працу. Праца ўсё пасвойму разважыць і расставіць: мёртваму — мёртвае, жывому — жывое. Ужо ж, як і штодня, выйдзе: не думкі, не сны свае ёй, Параскеве, высочваць трэба, а з бур'яном, з зараснікамі яго змагацца, сцежкі ад хаты да хаты працярэбліваючы. А то і праўда, перш бур'яном, потым лесам Радзімічы зарастуць. На гады, нават на стагоддзі, як Саўка Рапуха гугніў, вачэй на яе не падымаючы. Мо Саўка нешта і ведаў: сын ягоны ў Мінску вялікім начальнікам, але як на яе бабін розум, то не павінен чалавек, пакуль жывы, бядзе паддавацца, хоць гэтай, хоць любой,— на тое і чалавек.

Прыслухоўваючыся да цішыні, падышла Параскева да люстэрка, ссунула, а потым і зняла хустку, выняла з валасоў грэбень і, зіркнуўшы на сябе, сівую, як лунь, міжволі ўздыхнула: калі б убачыў яе такую Пахом, не прызнаў бы, не пазнаў — сама сябе часам пазнаваць не хацела. Ні пасмачкі русае ў косах, ні крывінкі ў зрэзаным глыбокімі зморшчынамі твары, на якім адно вочы і жылі яшчэ, паглыбеўшы, паправальваўшыся, незнаёма выбліскваючы. Здэцца, каб прыгледзелася Параскева больш пільна, гэткае ўбачыла б, што і адхіснуцца не паспела б: збалелая душа на яе пазірала ці той, каму яна, душа, належала, а ўжо ж у паглядзе не толькі жах і мука жылі, а і прадчуванне, веданне і канца, і працягу — працягу смяротнага ў несмяротным, людскога ў Богавым, якога нікому з жывых ведаць, уведаць нельга.

«Не паспею... Нічога не паспею»,— мільганула ў думках, і Параскева, адвярнуўшыся ад люстэрка, звыкла закалола грабянцом сабраныя ў жмут валасы, завязала хустку, не тую, у якой была, а навейшую, белую. Скінуўшы ватнік, дастала і надзела шарсцяную, там-сям пабітую моллю, хоць і зусім мала ношаную (куды яе было насіць?) кофту, памкнулася з хаты. З парога азірнулася на печ, на чыгунок з ускіпелаю бульбаю (быццам успамінаючы, куды і чаго сабралася) і прычыніла за сабою дзверы. З прыцемкаў, што панавалі ў сенцах, на яркае святло выйшла, не чакаючы, пакуль трохі звыкнуцца вочы, і таму як аслепла ў першы момант: рэзь у вачах разыходзілася чырвонымі кругамі, чырвань доўга саступала белізне і празрыстасці —

так доўга, што сэрца паспела сцяцца ў нядобрым прадчуванні, і не адразу адпусціла гэта прадчуванне. Ужо і раптоўны боль пацішэў, і рэзь у вачах зменшылася, а страх перад слепатою трымаўся, так што спатрэбілася не адно намаганне, каб пераадолець яго, зрабіць колькі крокаў уніз, з ганка, па хісткіх прыступках і, ступіўшы босымі нагамі на зямлю, адчуць палёгку: значыцца, нейкі час у яе яшчэ быў.

Так, яе, Параскевін, час яшчэ доўжыўся. Мо толькі таму, што не ўсё, што магла зрабіць для Радзімічаў, для зямелькі свае гаротнае, зрабіла,— было штосьці на яе шляху, у яе лёсе, з чым дасюль не спаткалася, чаго дасюль не зведала: не ўсё аддало ёй жыццё, не за ўсё яна з ім разлічылася. Гэтак выходзіла. І дзе яно — усё, якой кроплі, якой салінкі яшчэ не ставала, апошні міг, апошні ўздых адно і падкажа.

Пакуль жа на кожны ўздых толькі ціхенька адзываўся ў грудзях звыклы боль ды незнаёма, быццам сціснутая круга галавы цяжкім свінцовым вобадам, пужала Параскеву цішыня. Мёртвая якаясь цішыня: без перасвіствання птушак, без шолаху лісця і травы, без брэху пакінутых людзьмі, здзічэлых тут, у зоне, сабак, зграя якіх не-не і кружыла вакол яе двору, вакол гародчыка, адваяванага цяжкою працаю ў зараснікаў. Параскева і цяпер бачыла іх сляды, іх сцежкі ў бур'яне, ніводнага гуку не чула.

Зламала, раструшчыла нагою колькі леташніх сцяблін і, не пачуўшы іх сухога, злоснага хрусту, уздыхнула: аглухла, няйнакш, аглушана гэтай цішынёю. Адно вочы і засталося заплюшчыць.

«Ідзі, ідзі! — падагнала сябе.— У печы выгарыць».

Хмызняк неахвотна расступаўся — хвошчучы па руках, па плячах, на момант адхінаўся, прапускаў яе і зноў сцяной уставаў вакол, хаваў працярэбленую Параскевай уздоўж зарослай вясковай вуліцы сцежку. Пагляду яе не замінаў (пакуль што не абганяў яе ў росце), але ж калі памятаць, што ўсё лета яшчэ наперадзе, то ўжо ж недалёка быў той дзень, які знікне ў гэтым бура-зялёным зарасніку, засланіўшы і хаты і ваколіцы. Зусім недалёка. Нездарма ж яна не-не і адчувала, як усё большым цяжарам налівалася, цяжэла цела (нярэдка ногі ў каленях падгіналіся), нездарма нічым не магла супакоіць, суцішыць боль, што варочаўся ў грудзях, раздзіраючы ўсё ўсярэдзіне сваімі вострымі кіпцюрамі.

Лета толькі ўбіралася ў сілу: усё расло, буяла, а для каго буяла? Ужо ж, не для яе, старой. Для жыцця. Для Бога... Калі быў ён, Бог, для гэтае зямлі...

Думкі вярэдзілі, тузалі душу, паглыбляючы боль у грудзях, а выбавіцца ад іх Параскева не магла: ці то пагляд, змучаны няўцямным пошукам хоць якіх прыкметаў былога, ранейшага жыцця вёскі, утрымліваў, ці то неба, люструючы бязлюддзе, запусценне вакол, адштурхвала, не прымала іх, жадаючы іншага, большага. Большага адчужэння, ці што... Адчужэння не ад зямлі, не ад зямнога — што без яго Параскева? — а ад сваіх страхаў за яго перад тым аграмадным, незразумелым, што насоўвалася на Радзімічы, паглынала іх у яе на вачах. Зробленае, створанае людзьмі за столькі дзесяцігоддзяў гінула, гінула перад наступам прыроды — зарастала хмызам і лесам, урастала ў зямлю, у яе немату. Памаліцца б, ды каму? Пaмiралі словы малітвы ў Параскевы на вуснах? Нявымаўленыя — паміралі...

Тое, што адбывалася бліжэй да запруды, ля замшэлых камянёў даўно разбуранага млына, заўважыла не адразу: як для яе вачэй — далекавата, ды і пазірала Параскева паверх адхінутых сцяблін на хаты — на Саўкаву, потым на Уласаву, якія свядома абмінала, кіруючыся да двору сваёй колішняй сяброўкі Алены (хай зямля будзе ёй пухам!). Пазірала, да рэзі ў вачах узіралася ў аслеплыя вокны, быццам вось-вось мог з'явіцца ў адным з іх, зухавата пачэсваючы патыліцу, Саўка Рапуха з ягоным: «Не мяне шукаеш, суседка?» — замест звыклага здароўкання, быццам далей, праз двор, каго з Гэльчыных байструкоў выглядала, каб пачаставаць чым мела. А павяла галавою — і ўбачыла, адсюль, здалёк, убачыла, як гнецца, выгінаецца хмызняк каля запруды няроўнымі хвалямі, а з іх, з гэтых хваляў, то мех, чымсьці наштукаваны, вытыркаецца, то галава нечыя: трое, а то і чацвёра беглі да выспы, у бок дарогі, што ахінала яе, выводзячы лес і балаціны па ім да шасейкі. Хто яны і ад каго ўцякалі, было незразумела, а ногі ўжо неслі Параскеву следам. Хутчэй і хутчэй: там жа людзі, там...

«Гэта ж яны ад сабачай гайні ўцякаюць,— мільганула здагадка.— Нарабавалі ў мёртвай вёсцы дабра, якое пад руку трапіла, і ўцякаюць... Машынай, напэўна, прыехалі».

Крокі міжволі запаволіліся (не дагоніць, і не варта даганяць!), а ўсё ж ішла ў той бок, куды павярнулі, знікшы за купкай алешын, нечаканыя госці. Ішла, абмінала адзін за адным пустыя двары, бязгучна варушачы вуснамі: «Што ж гэта дзеецца? Што ж гэта з людзьмі на белым свеце дзеецца?»

Выбліснула з-за лазняку Славечна. Выбліснула і згасла, прыжухла: тваністая раска тут, на мелкаводдзі, каля сліз-

кіх камянёў, яшчэ нядаўна раскалыханая, патрывожаная чымсьці (мо кінулі што ў ваду ўцекачы?), сышлася, застыла, не прапускаючы, не люструючы больш ніводнага сонечнага праменьчыка. Промні слізгалі вышэй — перш па лісці аеру, яшчэ невысокім і ярка-зялёным, потым па гнуткіх сцяблінах лазняку, каб, падхопленым слабым ранішнім ветрыкам, рассыпацца ў паветры, расцячыся па лысай каменнай выспе на ўзгорку, адбеленай за гэты апошні год ці то якойсь невядомай падземнай сілаю, ці то самім святлом гэтым, занадта сухім, занадта сляпучым.

Параскева міжволі прымружвала вочы, баронячыся ад бляску, ад балючага свячэння каменю, і ўсё ж не спынілася, зрабіла яшчэ колькі крокаў, каб мінуць Маланнін двор, спрэс зарослы дзікай белай шыпшынаю, і наблізіцца да выспы ўшчыльную. Яна заўважыла ўжо і насцярожанае чаканне сабак, якія, упусціўшы перапужаных заезджых гасцей, па сваіх слядах вярнуліся ў вёску і цяпер здалёк цікавалі за ёю, Параскеваю, і якраз пасяродку, на каменным схіле — цёмную на белым — ікону, вынятую з рамы: дастаць дастаў хтосьці з няўдалых рабаўнікоў, а не данёс да машыны — выпусціў, кінуў, уцякаючы ад здзічэлых ахоўнікаў мёртвае вёскі. Заўважыла адно краем вока, бо вочы здрадліва слязіліся, але і таго было даволі: пайшла шпарчэй, вальней, тым больш што зараснікі тут, перад выспаю, адступілі, даючы прастору святлу і руху сцяплелага пасля ночы паветра.

Апякла босыя ногі холадам шурпатая каменная цвердзь — звялі ногі, падагнуліся, не ўтрымаўшы яе. Апусцілася Параскева на калені, на міг прыціснула да грудзей дрогкія рукі, каб супакоіліся і здолелі падняць з долу абраз святой Багародзіцы, што ляжаў тварам да яе, тварам да неба і, здаецца, патанаў, паволі раставараўся ў святле, у белым, нежывым яго ззянні.

— І табе балюча... І ты пакутуеш... — мовіла ціха, як сама сабе, схіляючыся да абраза, і не асмелілася, нейкі момант не асмельвалася крануць яго: сумна, з затоеным смуткам — зямным, гэткім жа як і ў людзей, і ўсё-ткі ў нечым няўлоўным незямным, незнаёмым смуткам узіралася ў яе святая, і чаго больш у гэтым паглядзе — шкадавання ці простага матчынага разумення, Параскева, канешне ж, не вызначыла б.

— Грэх жа, мусіць, Пахомка, быць такімі шчаслівымі, калі столькі гора вакол, га? Грэх жа, мусіць... — няўцямна паўтарала Параскева, радасна дзівячыся на мужа і сына, на

іх вясёлую валтузню ў пяску, ля самай вады, і тут жа забывала і пра свае словы, і пра няўцямную, якуюсь нутраную, да пары да часу бяссільную адагнаць яе радасць трывогу: Пахом, мокры, выкачаны ў пяску, дражніў малога Янука, гукаў пакатацца на спіне, як на кані, а калі малы з радасным смехам і крыкам: «Но! но!» — кідаўся да яго, смешна адбрыкваў нагамі паветра і адкочваўся далей.

— До, Пахомка, чуеш? До ўжо! Людзі хто іх ведае што падумаюць, на вас гледзячы.

— І няхай, няхай! — гулліва адцярэбліваўся ад сынавых ручанят Пахом, падымаючыся разам з ім з пяску.— Гэткую вайну прайшоўшы, цяперыча шчасця свайго саромецца?

Ён кружыўся з малым на руках, пакідаючы ў пяску глыбокую баразну і ўздымаючы пырскі вады, і Параскева, хоць стаяла крыху воддаль, міжволі прымружвала вочы і паводзіла перад сабою рукой — як баранілася ад сляпучага, колеру вячэрняга неба, ззяння.

— Малога пастаў на зямлю, Пахом! Чуеш? Яшчэ млосна дзіцяці стане, чуеш?

— Яшчэ чаго! Ды мы з ім зараз навыперадкі... Услед за сонцам... Праўда, Янук? Дагоніш татку?

І вось ужо ён бег уздоўж вады, а то і па вадзе, па чырвані, якою афарбоўвала ваду, няспешна апускаючыся за лес, сонца,— і чатырохгадовы Янук весела ўзбрыкваў следам, адмахваўся ад яркіх пырскаў, падаў, зарываўся носам у пясок, смяяўся і зноў кідаўся наўздагон бацьку, які не надта каб і спяшаўся, а потым і зусім пачаў пятляць і спатыкацца.

Калі Пахом, нібы хапаючыся за паветра, валіцца на мокры пясок, тварам у ваду, а малы, крыху не дабегшы да яго, у нерашучасці застывае ў баязлівай, па-птушынаму насцярожанай позе, Параскева яшчэ ўсміхаецца. Адно імгненне мінае, другое, трэцяе... Яна пачынае ўжо разумець, што здарылася штосьці — штосьці страшнае ў сваёй жорсткасці і недарэчнасці тут, на беразе Славечны, на вачах у яе і сына, і ніяк не можа сцерці з твару гэту ўсмешку: як прырасла яна, сцягваючы, раздзіраючы скуру вакол рота.

— Пахом... — спрабуе гукнуць мужа і вось ужо захлынаецца ўласным крыкам: — Па-хо-ом!!

Зямля, раскалыханая ці то яе крыкам, ці то хвалямі Славечны, плыве з-пад ног, правальваецца ў чырвона-чорныя віры гэтага яе роспачнага крыку, клічу, гукання: Пахом жа толькі што смяяўся, толькі што паддражніваў малога і бег

скрозь пырскі вады, скрозь пырскі цёплага ліпеньскага вечара — ён зараз падымецца! ён устане! ён казаў пра сто гадоў шчасця наперадзе!

Яе хтосьці трымае. За рукі. За плечы. Яе хтосьці супакойвае, угаворваючы паплакаць, даць волю слязам, каб, нявыплаканыя, неляглі камянямі на сэрцы, а блаславілі сына ў апошні шлях...

Параскева ўсё чуе — кожнае слоўка! — і ніяк не можа дабрацца да сэнсу ўчутага. Сына? Апошні яго шлях?! Радзімічы ж хаваюць свайго салдата. Пахома Нябабу. Яе, Параскевінага, Пахома! Пры чым жа тут...

— Марфутку так і не знайшлі. Як паглынуў гадаўку вір.

— Грэх на душу ўзялі...

— Невялікі грэх — усёю вёскаю спомсціць ненавісніцы. За мужыкоў нашых... За Янука... Гэткага хлопца загубіла!

— Не вярнула Славечна Марфутку, не аддала — і ўвесь сказ. За Янука, за яго чыстую душу загубленую Гасподзь яе прыбраў.

— Бацьку свайго, Пахома-нябожчыка, часта згадваў, а лёс, бач, як павярнуўся: ад заезджага хахаля Марфутчынага смерць прыняў, ад нажа ягонага.

— Гасподзь літасцівы. Гасподзь прыме душу раба свайго Янука!

Параскева чуе гаворку жанок за спінаю і не чуе. Узіраецца ў родны твар — як у душу сваю знямелую, скамянелую ўзіраецца: няма ў яе ні слоў, ні слёз. Пахома столькі гадоў аплаквала, а цяпер... А цяпер?! Чаго яны трымаюць яе? Чаго супакойваюць?!

Зноў здалося, што пачалі якісь вар'яцкі танец вакол яшчэ не апушчанай у дол труны кладзішчанскія сосны: каржакаватыя, тлустыя, з вычварна паплеценым паміж сабой голлем, амаль чырвоным ад цяжкога ўнутранага жару, яны, пакручваючыся ў паветры і атрасаючы пясок з карэння, то адплывалі далей, да цёмных аблачын, што цэлы дзень віселі над вёскаю, то зноў набліжаліся, падступалі ўшчыльную да адкрытага долу і купкі людзей за ім — і тады ціхія галасы зліваліся з пошумам голля і скрыгатам каранёў.

І тут хлынуў дождж. Такі спорны і не па-летняму халодны, што на вачах згасалі, гаслі, як свечкі, сосны, глушэлі, аціхалі жаночыя галасы.

— Ды забівайце, забівайце труну! — спалохана ўзляцеў насустрач абрынутаму на іх дажджом небу чыйсьці воклі.

— Яну-ук!! Сы-но-о-чак!! — тузанулася, на момант вырвалася з Аленіных рук Параскева, раптам зразумеўшы, што адбывалася, што вось-вось адбудзецца на кладзішчы: два месяцы як вярнуўся Янук дамоў пасля службы на флоце і — забіты, зарэзаны з-за распуснае бабы, з-за вяхоткі Марфуткі! — Яну-у-ук!! У-у-у...

Параскева не крычыць, вые, чапляючыся за труну. Падмыты да мутнай, да ледзь-ледзь кранутай жаўцізною шэрані размыты дзень мокрай, слізкай глінаю распаўзаецца пад нагамі, спаўзае ўніз, цягнучы за сабою і яе, і каб не музыкі, каб не Алена, якая толькі што не павісла на ёй, там, на дне свайго крыку, знайшла б супакаенне і Параскева: яна таго і хацела, туды следам за сынам і імкнецца.

— У-у-у... — вые наўколле, распіхваючы людзей, і скамянелыя сосны, і аблокі над імі, ламаючы сцяблiны халоднага дажджу і высцілаючы імі сцежку цераз кладзішча.

Маўчыць, адно падалася насустрач растузанай даждджом, разарванай на невялікія купкі жалобнай працэсіі вёска. Плача прыціснутая кімсьці з жанок да грудзей, захінутая ад зацягнутага хмарамі неба ручніком Багародзіца — плача па сыне сваім...

Згадка мільганула і знікла, а сілы падняцца не было. Так, бы ўсё пражытае ёю жыццё навалілася ў гэту хвіліну на плечы і прыгінала, прыціскала да зямлі, да зямное цвердзі, з якой выступаў, усё больш агаляючыся, белы, нежывы ў гэтай сваёй белізне пасярод лета, пасярод буяння траў і красак камень, здаўна, са старых часоў вядомы як Перуноў камень. Параскева толькі цяпер і ўспомніла пра гэту назву, пра паданне, звязанае з ім, і міжволі падняла вочы ўгору, зірнула на неба, яркае, залітае святлом, у якім не пялёхкалася ніводнае хмурынкі.

Перуноў камень... Усё адбылося яшчэ ў тыя дні, калі сонца ледзьве прадзіралася сюды праз непралазныя лясныя гушчары, затканыя гнусам і камар’ём, калі любая сцежка вяла на край свету, а любое слова магло разбудзіць Перуна. І калі гняўлівым было тое слова, гневаўся Пярун. Гневаўся, грымеў, рассыпаючы свае стрэлы, і нярэдка караў смельчака — такога страху ў душу наганяў, што ў нябогі да канца жыцця рот не раскрываўся, а не — дык гумно ці хату падпальваў, усяму паселішчу бядою пагражаючы. Здаралася, што і самога адступніка спапяляў: не праклінай жыццё, не гняві неба!

Улас, пра якога паданне згадвала, ці то за грахі продкаў сваіх, ці то за грахі нашчадкаў быў пакараны. Як было? Так,

як памяталася. Бацькоў сваіх Улас не ведаў, сіроцінаю рос, ад усіх, каму ў ахвоту, гузакі атрымліваючы. У сілу ўвабраўшыся, звёў, на руках панёс красуню Галену і не выпускаў з абдымкаў да самага золку, пакуль не мінуў апошнюю з тых, што вызначыў, лясную вярсту ўздоўж Славечны і не выйшаў да першага ў іх на шляху ўзгорка, густа парослага высокіміляснымі травамі. Там, на мяккай духмянай пасцелі, асушыўшы пацалункамі слёзы сваёй нарачонай, заснуў, каб праз гадзіну прачнуцца і зноў, не выпускаючы з пагляду стужку Славечны, ісці далей, на ўсход і на ўсход,— да другога ўзгорка, да трэцяга...

На трэці дзень, калі скончыліся прыпасы з захопленай з сабою торбачкі і з кожным крокам стала цяжэць, скоўваючы рухі, знаёмая Уласу п'янлівая стома, паставіў ён на ногі сваю Галену, павёў рукою: «Адсюль пойдзе род наш. Тут жыць будзем!».— «Адны?» — толькі й спытала яна. «Чаму адны? З сынамі...»

Сем сыноў нарадзіла Галена Уласу, сем маладзіц прывялі тыя, кожны ў сваю пару, з далёкіх паселішчаў, праз сем гадоў па сем сыноў у новых сем'ях з'явілася і ўсе як адзін волатамі стаць абяцалі. І тут, пасля Галенінай смерці, як паморак найшоў: перш маладзіцы адна за адною сталі адыходзіць, потым хлапчукі пасыпаліся... У хуткім часе на ўзгорку цэлы лес жалобных слупоў стаў, глякі і глячкі са свяшчэнным попелам над зямлёю ўздымаючы. І не стрываў Улас. Не асушыў вачэй, Галенін слуп абняўшы, а загукаў у прастору над ім, над клятым ім паселішчам: «Бяры і мяне, ненажэрны! Праклятая тая зямля, якой жыццё выракаецца. Чую, ведаю: хто і выжыве на ёй, на зямлі гэтай, і ад яе, і ад мяне некалі адрачэцца. Гарам гары яна, доля гэткая... Бяры і мяне, ненажэрны!»

Са страшэнным грукатам раскалолася на яго словы неба, і пасыпаліся на ўзгорак Перуновы стрэлы. Застагнала, абгараючы, спаконвечная цішыня, адхінуўся, атрасаючы агонь, лясны гушчар, а на месцы спапялёнага разам з Уласам кладзішча пачала ўзбухаць, выпучвацца зямная цвердзь, выварочваючы з цёмнае свае глыбіні аграмадны камень. І тут зноўку ацiхла ўсё, супакоілася, застыла, чакаючы ратоўнага дажджу. І дождж хлынуў — і змыў сляды таго, што адбылося. Толькі вывернуты камень, такі вялізны, што нагадваў каменную выспу, цьмяна свяціўся ў траве, каб бялець усякі раз з таго часу, калі прыйдзе на гэту зямлю бяда.

Казалі, што даўней можна было ўгледзець на яго шурпатай, вечна лысай паверхні сляды сцёртых агнём і вадою

літар — якіх, ніхто не ведаў. Адно і засталося, што паданне старое. Ды яшчэ назва: Перуноў камень, пра якую не заўсёды і ўспаміналі. Вось яна, Параскева, столькі гадоў не ўспамінала!

Перуноў камень... Белы-белы ён пасля зімы стаў. Ужо ж, мусібыць, кепска зямельцы даводзілася: хварэла яна, ніяк не магла атруты смяротнае пазбыцца. І тут не дарадчыца ёй Параскева, не памочніца, не. Сама сваю смерць чула. Ніводны шолах, ніводны гук жывы даўно да слыху не даходзіў, а смерць, крокі яе, злоснае пахіхікванне ўслед, з-за спіны, чуліся ўсё больш выразна: міг-другі, здавалася, і сыдуцца, саўюцца іх сцежкі ў адну, ужо неразрыўную, у якой, скурчыўшыся, скукожыўшыся ў перадсмяротнай сутарзе, згасне жыццё. Яе, Параскевіна, жыццё. Жыццё вёскі, ад якой адракліся напужаныя смерцю дзеці яе. Гады, дзесяцігоддзі мінуць — знікне, лесам зарасце і памяць пра Радзімічы, пра гэты куточак зямлі дзедаўскае.

Не, не! Трэба было падымацца. Трэба было вярнуць вёсцы яе Багародзіцу — знайсці ў сабе сілу і абысці хаты з абразом у руках, каб потым у разбуранай, закінутай капліцы на кладзішчы засвяціць перад ім апошнюю свечку. Жывых няма — няхай мёртвыя з ёю загамоняць: мёртвых Параскева ўсё яшчэ чула. Мо таму, што больш года заставалася адна сярод іх і ўжо нейкім чынам сама належала смерці, а мо з якой іншай прычыны, але чула.

— Бач ты на яе! праведніца знайшлася... — прасіпеў хтосьці побач, але голас быў той, раней чуты, і Параскева нават галавы не павярнула.

Выпростваючыся, абаперлася на руку, другой узяла абраз. Чамусьці не здзівілася, што ён такі лёгкі, амаль бязважкі,— ёй раптам як дадалося сілы. Без асаблівай натугі ўстала на ногі, зрабіла колькі крокаў, звыкла прыслухалася да болю ў грудзях і адчула, што боль аціх — знік, раставарыўся ў цёплай хвалі, якая расла, падымалася ў ёй і, здавалася, вось-вось выплеснецца ў паветра, у раніцу, як не малітваю, дык якімісь гаючымі малітоўнымі словамі выплеснецца. Ніякіх такіх слоў Параскева не ведала, не памятала, ды, напэўна ж, былі яны ў ёй, калі так пасвятлеў пагляд, калі так палягчэла цяжкая ношка гадоў.

Удзячна зірнула на паднятую ікону, перш чым прыхінуць яе да грудзей, дрогкімі пальцамі пагладзіла адваротны бок дошкі, абгарэлы, на вугаль счарнелы ад дотыку да мёртвага каменю, і павольна пайшла назад. Сваёю ж сцяжынаю. Звыкла абмінаючы Маланнін двор, зараснікі шыпшыны, якая буяла тут, як нідзе ў іншым месцы.

Мільганула ў памяці нейкая згадка — нават не згадка, а цень яе, не ўгаданы, не пазнаны,— і знікла, не зачапіўшы ні свядомасці, ні душы, змучанае і нечакана, не яе, Парас126кевінаю, воляю прасвятлелае. Чыя гэта была воля, хто дарыў ёй спакой і прасветленасць цяпер, пасля доўгіх дзён і начэй пакутнага роздуму, на самым крайку жыцця, Параскева і на міг не задумалася. Колькі памятала, пакланялася, кланялася яна адно зямлі-матухне — і ў самыя светлыя хвіліны жыцця, і ў самыя горкія, жалобныя, і прымала зямля яе любоў і яе муку, яе блізкіх і яе слёзы, як скрозь, ва ўсе часы, ад усіх прымала. Думалася, а як жа іначай? А льга ж, льга было і іначай!

«Маці-сыра зямелька, святая Багародзіца, не крыўдуй на дзяцей тваіх, мёртвых і жывых: неразумныя яны, сляпыя ў сваіх памкненнях да спакою і сытасці,— няўцямна паўтарала Параскева чыесьці словы, то адным, то другім плячом захінаючы абраз ад колкіх, абчапляных павуціннем сцяблін дзядоўніку, Хутчэй, ёй здавалася, што паўтарала — словы гучалі ў ёй самі па сабе: — Ужо ж, як схочуць выжыць, павернуцца дзеці твае да святла, пачуюць голас душы сваёй, жаданне яе спаконвечнае...»

Словы нагадвалі слёзы. Не прамаўляла Параскева (у яе нават моцна сцятыя яшчэ там, на выспе, вусны не варухнуліся) — душа яе, прасветленая гэтымі балючымі словамі, плакала. Пасля стольkіх гадоў скамянеласці, цяжкой нематы зламала свае аковы і бязгучна плакала, і малітваю станавіўся плач гэты, толькі ёй, Параскеве, чутнаю малітваю.

Прыпынілася, з паўхвіліны пастаяла Параскева перад дзвярыма Леўчыкавай хаты, наспех перакрыжаванай дошкамі, якія тады, на пачатку мая, перад таропкім ад'ездам, трапілі пад руку Шурку-трактарысту, потым, там-сям з цяжкасцю прадзіраючыся цераз зараснікі дзядоўніку, абышла з абразом у руках хату. Ніхто не абазваўся на яе ўздых, на яе паклон, і старая скіравалася да наступнае хаты, у двор дзеда Гаўрылы, якога ледзь не сілаю забралі ў дзень эвакуацыі дачка з зяцем: не адбараніўся, не давёў ім, перакананым, што не людскога, а Божага суда трэба баяцца, што дома памерці хацеў — на сваёй зямлі, у сваёй хаце. Відаць, гэтым годам і адышоў недзе: слабы быў, загаворвацца пачынаў...

Дзверы, не зарыпелі (мо што яна не чула?), прачыніліся: з вузенькіх сенцаў патыхнула гніллю і сырасцю, але Параскева адно прытрымала на які міг, пакуль ступіла ў хату, дыханне. У хаце раскашавала святло, і хоць дух таксама быў нежылы (час рабіў сваё), усё выглядала па-раней-

шаму, так, быццам гаспадары выйшлі на хвілінку і вось-вось вернуцца, прывітаюць госцю, просячы да стала, да няхітрага вясковага пачастунку.

— Не людскога, Божага суда трэба баяцца: не свечка, якою жыццё тваё дагарэла, а душа твая перад Усявышнім паўстане, літасці просячы, на літасць спадзеючыся... А якая ж літасць да яе, сляпой і неразумнай?

«Гаўрылы старога голас, царства яму нябеснае! Дома памерці, у сваю зямельку легчы хацеў, ажно не, мусібыць... Хай дарує ён мне ўсе словы, усе думкі горкія: ад пакуты яны, ад пакінутасці».

— Каб заслужыць літасць і змагчы, адолець самую смерць сваю, жыць трэба, а не паміраць — у жыцці, жыццём сваім чыстым і праведным здабыць збавенне і паратунак. Скрозь я так казаў, скрозь так думаў і казаў таму, хто слухаць хацеў, а адчуў толькі тут, цяпер, з родам сваім спалучыўшыся... Ужо ж, і чалавечай плоці слабой святасць не цураецца, але не адно дух, а плоць можа быць наскрозь хлусліваю, сатанінскаю — і тады сее смерць. Колькі яе насеялася на нашай зямлі! — праз гады, праз стагоддзі зло, ёй учыненае, дасць плады свае горкія.

— Ці чуеш ты мяне, дзед Гаўрыла? Развітацца прыйшла... — прашаптала міжволі глыбока ўражаная яго словамі Параскева: сама ж іх у душы шукала, да болю ў грудзях прыслухоўваючыся!

— Вас, аднавяскоўцы, пытаюся: калі перастанеце зжыраць адно аднаго? — глушэў, цішэў голас старога.— Калі спыніце забойствы і вынішчэнне ўсяго жывога на зямлі? Калі адчуеце сябе дзецьмі прыроды, воляю Божаю пасля стольkіх пажараў і разбурэнняў жывой, маладой у вечным сваім харастве? Неба над вамі і далячыні перад вамі пустыя, мёртвыя, таму што мёртва, пуста ў душах вашых... Не нябожчыкаў шкадуйце, бо не чуюць, не ведаюць яны ў сваім спакоі ні смерці, ні мукі вашае,— сябе пашкадуйце, гаротнікі! За тое пашкадуйце, што не можаце, не здольны нічога змяніць, а святло жыцця ўспыхвае і гасне, калі яно хоча...

Параскева яшчэ чула якіясь словы — нават не словы ўжо, а няўцямныя, глухія гукі, якія ўсё больш нагадвалі шолах, шархаценне полымя, калі яно ўзлятае, пакідаючы пасля сябе попел, але і гэты шолах, і гэтае шархаценне хутка зніклі. І зноў запанавала ў хаце цішыня. І цяпер ужо ёй, цішыні, нізка пакланілася Параскева, перш чым, прыхінуўшы, прыціснуўшы да грудзей абраз святой Багародзіцы, павярнуцца да дзвярэй.

За дзвярыма позірк упёрся ў неба. Здавалася, не на ганак, не ў двор яна выходзіла, а адразу ў дзень. У ззянне, за якім не пагляду, душы адкрыецца нейкае іншае жыццё, іншая рэальнасць. Якая? Параскева і на міг не задумалася — проста іншая! Дзе кожная рачулка вяртаецца да сваіх вытокаў. Дзе кожная пташына нясе сваю песню ў гняздоўе вечнасці, якое трымае ў далонях чалавек, і гэты чалавек — не хто іншы, як...

Думка, і не дадуманая да канца, апякла, апаліла нутро, і шчыльней прыхінула, прыціснула Параскева да грудзей ікону. Быццам спалохаўшыся нечага, прымружыла вочы і, калі зноў расплюшчыла, усё-такі пазнала, прызнала няроўную, зарослую хмызам вясковую вуліцу, ціхаплынную Славечну, цёмную сцяну лесу за ёй. Прызнала—і ледзь чутна ўздыхнула. Ці то з палёгкаю, ці то са шкадаваннем. Не выйшаў яшчэ яе час, не ўткнуўся ў нябачную сцяну, доўжыўся яе шлях. Каторы раз за апошнія дні прыадкрыўся краёк невядомага, вабячы незямною прастораю, незямным хараством — прыадкрыўся і схаваўся. І не ў яе волі было прыспешыць разгадку таямніцы гэтае: разгадка блізілася — кожны пражыты міг, кожны Параскевін крок набліжаў яе, і адступала, адступалася ад Параскевы трывога.

Святло жыцця ўспыхвае і гасне тады, калі хоча,— у кулаку яго не заціснеш. Тут праўду дзед Гаўрыла казаў. Мо і не ягоную, калі ўспомніць вечна хітраваты прышчур маленькіх мутнаватых вочак, а праўду: відаць, там, дзе ён цяпер, хай зямля яму будзе пухам, былая хітрасць не прыдалася. Нічога з былога не прыдалося. Паспеў жа не адно перажыць, а і забыць тое, чым жылі некалі продкі. Зусім як яна сама цяпер... Зусім як яна, Параскева...

Маці яшчэ памятае. Хворую ўжо, нямоглую, але памятае. Бацькавага ж твару, як ні ўзіраецца ў сябе, ва ўспаміны свае, убачыць не можа. Адно і ведае: не дачакаўся бацька свае смерці — у гневе, абараняючыся ад раскулачвання Фядота, швагра свайго, на кулю помслівую, казённую, наткнуўся. Маці потым на людзях і заплакаць, загаласіць па ім не асмелілася — ёй, Параскеве, малой тады, гора сваё цішком па начах выплакала. Разам, удзвюх, плакалі... А далей, глыбей у гады зазірнуць — цёмна там. Хоць і людна, а цёмна. Не тое што знаёмых ці незнаёмых рысаў не разгледзець, імёнаў не расчуць! Каго з далёкіх продкаў яна, Параскева, тварам нагадвала, каго — доляю-нядоляю, адзін Бог сказаў бы. А мо і Ён не сказаў бы — мусібыць жа, не дужа ўглядаўся ў іх асмужаныя ветрам твары, у іх спрацаваныя, цяжкія ад жыл рукі: ведама, «паны сахі» ледзь не

ў дзесятым калене! Хто калі іх радаводную запісваў? Уроблена поле, пасеяна жыта, засыпана ў пуню зерне — ужо ж, каму хлеб замясіць, знойдзецца!

На ёй, Параскеве, род заканчваўся. Не толькі яе род — род Ветахаў, а і мужаў, Пахомаў. Янук, сын іх, у смерці, смерцю сваёю недарэчнаю, яе апярэдзіў... Даўно чакае... Зачакаўся ўжо! Думкі сталі блытацца. Яна не заўважыла, што крочыць, ідзе, з іконаю у руках, абышоўшы хату Шуры-трактарыста, да наступнага, Аленінага, дворышча, быццам падуладная чыёйсьці волі. Яна не заўважала, не бачыла нязвыклага свайго суправаджэння — зграі худых, аблезлых сабак, якія не набліжаліся ўшчыльную, але і не разбягаліся, сачылі як не за кожным яе рухам, у любы момант гатовыя знерухомець, стаіцца ў высокім хмызняку. Глухата адгароджвала Параскеву ад наўколля, балючыя, усё больш блытаныя думкі — ад неба. А шлях цераз усю вёску, да пагорка, дзе пахавана яе мінулае, быў і няблізкі і нялёгкі: сорак двароў, сорак хат, асірацелых, пакінутых тлену і знішчэнню хат — сорак бязгучных малітваў, выплаканых яе сэрцу... Цяпер вось — Аленіна малітва...

Колькі яна з Аленаю, сваёй сяброўкаю старою, не бачылася? Два... Тры гады ўжо! Тры гады мінула пасля Аленінай смерці. Летась, перад самаю трывогаю той, дачка яе, Вераніка, невядома ад каго цяжарная, прыехала, вярнулася на корань — выходзіць, адно каб атруты смяротнае глынуць, і прыязджала. Нарадзіла ўжо, відаць, дзіцятка сваё, а ці будзе яму шчасце на гэтай зямлі, у маткі не папытае... І яна, Параскева, не папытае, ці стрэла Алена Янука, душу ягоную, Марфуткаю загубленую...

— Не заходзь у хату, Параска: не ў хаце душа мая, ад зямной юдолі вольная, а над табою, у небе ясным,— запыніў яе крокі голас, і не так прызнала, як адчула Параскева, што сяброўчын гэта голас, Аленін,— застыла, у прастору над сабою ўслухваючыся. А голас, спакойны, як і той, ранейшы, пачуты ў Гаўрылавай хаце, не гучаў, а, здавалася, перацякаў аднекуль звонку ў яе душу, не закранаючы ні цішыні вакол, ні яе слыху: — Сцежка твая малітваю тваёй абрываецца, зваротам да Усявышняга. Няма яшчэ ў душы тваёй гэтых слоў — няма, і прыйдуць, калі мусіш ты сказаць іх небу, свету, які пакінеш, людзям, якім яшчэ нарадзіцца... Калі ўсё па-людску дурное, дробязнае ці бруднае, што не што іншае, як прах зямны, бачыцца так выразна, так ясна, а ўсё Боскае і святое — усё яшчэ невыразнае, цьмянае і неверагоднае, гэта абазначае толькі тое, што ў табе мала Бога, што Бог не пагукаў цябе.

— Але ж і ты, Алена, скрозь не трымалася веры,— выціснула, выкаўтнула з сябе Параскева і сама спалохалася сваіх слоў, міжволі падаўшыся за іконаю, якую няўцямна прыўздымала як мага вышэй угору.— Але ж і ты...

— У табе мала Бога! Мала Бога! Бог не пагукаў цябе! не пагукаў... — рэхам азваліся вымаўленыя ўжо словы, і стала ціха, так ціха, што цішыню, здавалася, можна было працэджваць праз сіта.

Параскева бездапаможна азірнулася, павяла паглядам па цёмных вокнах Аленінай хаты, падняла вочы ўгору: пуста было ўгары, ціха і пуста. Так, бы пагаманіла з ёю Аленіна душа і адляцела, паляцела над Славечнаю: ці то да вытокаў яе — туды, дзе збіраліся продкі, усе, хто жыў некалі на зямлі гэтай, ці то за плынню рачною нетаропкаю — туды, куды суджана часам і гісторыяй. Куды мкнуў і яе, Параскевін, шлях, усведамляла яна гэта ці не.

Мо і ўсведамляла. Не розумам, бяссілым перад адкрытым душы бязмежжам і невядомасцю, у якой яно, гэта бязмежжа, патанала, а нутром, самою існасцю сваёю, што, пэўна ж, была не адно плоццю яе, не адно вось гэтым спрацаваным, па-старэчы нямоглым целам, а яшчэ чымсьці. Чымсьці бясцелым. Чымсьці большым за яе, і не толькі ёй, а і небу, гэтаму яго бязмежжу, прыналежным. І памяццю яго называй, або родавым, спрадвечным наканаваннем, або боскасцю, уразуметаю ці неўразуметаю за нядоўгі век, галоўнае, што не адмерла яна ў ёй за непатрэбаю, не сцерлася ні пакутамі, ні перажываннямі: засталася сам-насам з небам, з цішынёю, што адгукаецца на яе кліч галасамі мёртвых, і адчула, упершыню адчула, што цесна, млосна душы яе ў целе, што кожны крок, асветлены незнаёмымі балючымі думкамі, набліжае вызваленне яе, і вызваленне гэта — у смерці. У смерці цела...

«У табе мала Бога»,— сказала, як папракнула Алена. Ды ўжо ж. Калі было ёй, Параскеве, угледзецца ў душу сваю, услухацца ў яе нячутнае маленне? Хіба во цяпер, перад смерцю, і ўглядаецца, услухваецца, і што там, у душы,— холад і морак ці дрогкае, незямное святло, гатовае выплюхнуцца, зліцца з вечнасцю, усё яшчэ не відаць. Стома перашкаджае ці хвароба, агульная з зямлёю, атручаная нябачнаю заразаю, ці яшчэ што, а не ведае Параскева, што і думаць пра яе, пра душу. Баліць у грудзях, а што баліць? Прыхінае, туліць да грудзей ікону Багародзіцы, дзіўную палёгку ў тым адчуўшы, а памаліцца ні за сябе, ні за нябожчыкаў (во хоць бы за Алену, у пустым двары яе), ні за зямельку гэту гаротную не можа. Няма ні слоў, ні слёз.

«Цётачка, паплач за мамчыну душу, мяне, гаротніцу, успомні без асуджэння»,— заплакала, ад'язджаючы, Аленіна Вераніка, і ўсё даравала ёй Параскева за тыя слёзы: і тое, што матку хворую некалі пакінула, у горад скруціўшыся, лепшай, лягчэйшай жыткі шукаючы, і тое, што да самай смерці Аленінай грошы з яе цягнула, а памінкі па ёй вёска спраўляла, і тое, што бязбацькавіча народзіць,— вярнулася ж у вёску, заплакала, назаўсёды магілы яе пакідаючы... А ў яе, Параскевы, і слёз няма. Яна, Параскева, не плача — адно думу горкую думае пра долю-нядолю людскую, пра адзіноту сваю, мо адзіна для таго і адчутую так балюча, так востра, каб убачыць, адчуць сваю повязь з небам. Не толькі з зямлёю, а і з небам. Бо калі не неба злучыць, зноў звядзе яе з Пахомам, з Януком, з Аленаю, то што? Хто?!

— Я ўжо іду, родненькія, іду,— няўцямна варухнула вуснамі, быццам убачыўшы раптам увесь свой шлях цераз мёртвую вёску да кладзішча, да разбуранае капліччкі пасярод яго, дзе паставіць яна ікону і засвеціць апошнюю сваю свечку.— У мяне яшчэ хопіць сілы дайсці, дайсці да вас...

Зноў пачуўся смех, але не такі ўпэўнены, як раней — учора ці заўчора, і цяпер Параскева пазнала гэта пахіхікванне: нябожчыца Марфутка — смерць у абліччы гэтае вяхоткі! — следам хадзіла, часу свайго чакала, і хутка, ужо хутка сцежкі іх сыдуцца, схліснуцца, абрываючы, ірвучы адна адну. Як сышліся, схліснуліся некалі ў жыцці...

Раптам вельмі выразна ўбачыўся Параскеве той летні адвячорак, надзіва цёплы, сонечны пасля цэлага тыдня шэрых, па-восеньску зацятых дажджоў, калі ледзь не ўсёю вёскаю выйшлі на луг перагрэсваць, падварушваць падмоклае, падпрэлае за гэты тыдзень сена; бліжэй да ракі шчыравалі маладзейшыя (Параскева не-не і азіралася на іх, шукаючы позіркам сына, на якога ўсё ніяк не магла надзівіцца, нацешыцца), далей, на балаціне, завіхаліся яны, бабы. Завіхаліся, зрэдку перакідваючыся жартамі. Перагукваліся, радаваліся цяплу і сонцу, сіле рук і песні, якую, абапёршыся на вілы, завяла Алена. Работа блізілася да завяршэння, неба абяцала надвор'е і на заўтра, і сена можна было ўратаваць — чаго ж яшчэ!

Калі песня адгучала, а на беразе з'явілася Марфутка з кавалерам, якімсь заезджым хахалем, жарты аціхлі самі сабою. Але цішыня трымалася нядоўга. Гучна зарагатаў, распранаючыся, незнаёмец. Падхіхікнула яму Марфутка.

— Што вы млееце на санцапёку, калі побач рака? Ра-

бот-нічкі! — скінула, кінула яна долу лёгкую стракатую сукенку, застаўшыся амаль голаю — голаю, калі не лічыць вузенькай палоскі паркалю паміж ног, якая трымалася на гарэзлівым шнурку, завязаным крыху ніжэй пупка.

— Ты... Ты... Што ты робіш?! — тузануўся да яе Янук і, затрыманы Шурам-трактарыстам, на момант застыў, знерухомеў, калі ўбачыў, як на вачах ува ўсіх валасатая рука заезджага слізганула па грудзях Марфуткі, абвіла стан яе і, апусціўшыся ніжэй, смачна ўпілася ў пульхную ягадзіцу.— С... су-ка!!

— Вытры малако з губы, смаркач! — кінула ў адказ, не павярнуўшы галавы, Марфутка і, пакручваючы клубамі, прыляпілася, прыпала да свайго кавалера.

— Заб'ю! — вырваўся з рук сябрука, матлянуўшыся следам за імі, Янук.— Заб'ю, ссука!

Параскева, яшчэ нічога не зразумеўшы, ляцела напярэймы — і святло гасла, згасала ў яе вачах, і здавалася, што не бяжыць яна, падае — падае ў якуюсь чорную яму, у бездань, і канца няма гэтаму балючаму, на разрыў сэрца, падзенню.

Зрок вярнуўся ўсяго на момант, каб убачыла яна за колькі крокаў ад сябе, ад таго месца, дзе ўпала, скрываўленага, з нажом у грудзях сына і сцяну баб, якія віламі заганялі ў раку паўголую зляканую Марфутку,— вярнуўся і, патушаны страшным жывёльным крыкам, які вырваўся з самай душы яе, згас.

— Марфутку так і не знайшлі. Як паглынуў гадаўку вір.

— Грэх на душу ўзялі...

— Невялікі грэх — усёю вёскаю спомсціць ненавісніцы. За мужыкоў нашых. За Янука... Гэткага хлопца загубіла!

— Не вярнула Славечна Марфуткі, не аддала — і ўвесь сказ на тым. Мо гэта Гасподзь за ягоную чыстую загубленую душу прыбраў яе, нашымі рукамі пакараўшы.

— Божа літасцівы, прымі душу раба твайго Янука! Не загневайся і злітуйся над маткаю яго, Параскеваю, каб не ўпала яна побач з сынам сваім, каб не кранулася розумам ад мукі невыноснае...

Параскева чуе перамовы жанок, шэпт Аленін — і не чуе. Узіраецца ў родны твар, як у душу сваю знямелую, скамянелую ўзіраецца: няма ні слёз, ні слоў. Пахома столькі гадоў аплаквала, дасюль не аплакала, на ўсё жыццё без яго асірацеўшы, а цяпер... А што — цяпер?!

Зрушылі, пачалі свой вар'яцкі танец вакол яе і яшчэ не апушчанай у дол труны кладзішчанскія сосны: каржакава-

тыя, тоўстыя, з вычварна паплеценым паміж сабой голлем, амаль чырвоным ад цяжкой унутранай гарачыні, яны, пакручваючыся ў паветры і атрасаючы ад пяску карэнне, то адплывалі далей, да высокіх цёмных аблачын, што таіліся ў сінечы, то зноў набліжаліся, падступалі ўшчыльную да адкрытага долу і купкі людзей за ім — і тады ціхія галасы зліваліся з пошумам голля.

— Не нябожчыкаў шкадуй, бо не чуюць, не ведаюць яны ў сваім спакоі ні смерці, ні мукі твае, а сябе — сябе пакутніцу!

— Колькі пакаленняў сышло ў зямлю, а неба не павышэла, не вырасла. Ні для каго не павышэла...

— Не душу, а цела гадавалі!

— Гасподзь усім дарує, над усімі, хто пакаецца, злітуецца, збавенне ад вечнай мукі даруючы.

— Толькі той прасочвае вобраз і воблік Божы, хто не засланяецца жыццём зямным, кароткім ад вечнасці, ад іншага, вечнага свету, гэткага ж існага ў сваёй працягласці, у пазачасавай рэальнасці, як і гэты, бачны ў часе, на малым яго прамежку.

— Прырода спіць і ў сне бачыць Бога...

— Мы самі выракліся сваёй памяці, сваёй мовы, сваёй годнасці. Вось і выракаецца нас зямля — хмызняком, лесам след зарастае...

— Не нябожчыкаў шкадуй у спакоі іх вечным, а сябе — душу сваю!

— Ды няма, няма яе! Вынялі з мяне даўно душу гора ды бяда спаконвечная! — памкнулася крыкнуць у адказ змучаная галасамі Параскева і не пачула свайго крыку.

Схамянулася. Агледзелася, пазнаючы і не пазнаючы Аленін двор, вуліцу, якая адступала ад ракі, ад замшэлых камянёў старога разбуранага млына, выгіналася і паціху пачынала падымацца ўгору, выцярэбліваццa з хмызняку. Успомніла, што зранку распаліла ў печы і, хоць не знайшла, чым прысаліць, паставіла чыгунок бульбы: і ў печы даўно, відаць, выгарала, і бульба даўно ўпрэла, а сцежка ўсё ніяк да свайго двору не паварочвала — як навязала яе, Параскеву, і, пакуль не абыдзе ўсе двары, усе хаты, дамоў не паверне. Параскева і ўспомніла пра печ і пакінуты ў ёй сняданак усяго на момант, невядома з чаго.

«Калі б я знала Бога, то даўно папрасіла б яго аб збавенні, аб смерці ці... ці даўно ўзненавідзела б за ўсё...» — перайначанаю вярнулася ранейшая думка, і Параскева, ужо зноў абыякавая, бяссілая, ніяк яе не прымала. Павольна сунулася следам за паглядам, не заўважаючы, што да крыві

параздзірала аб асцюкі ногі, што паркалёўка, развязаўшыся, засталася на калючай сцябліне дзядоўніку і сонца пякло непрыкрытую галаву, што ікона, ледзь толькі крыху мацней сціскала Параскева яе краі ў пальцах, крышылася і чорнымі крышынкамі пазначала яе жалобны шлях.

Двор, скасавураная набок хатка Свірыда Сапуна, былога вясковага конюха, гады са тры ўжо як нябожчыка. Кавалёў двор і вялікі пяцісценак з ветрачком на самым вільчаку, які, як і пры жыцці Уласа, спраўна пакручваўся на кожны подых ветру. Кранутая тленам і запусценнем гаспадарка Хведара Сыча, апошняга, каго пахавалі Радзімічы на сваіх могілках...

Згадка прыпыніла Параскеву — дакладней, нават не згадка, а нейкае слова з яе, што мільганула з памяці і, зачапіўшыся за свядомасць, змусіла яшчэ раз азірнуцца на Хведараў двор. Ужо ж, самую заможную ў Радзімічах гаспадарку меў некалі Хведар — нават па савецкіх часах заможную: і хата як лялька, і ў хаце поўна рознага дабра, і свіран ніколі не пуставаў, а вось жа ні Марыля, ні Клаўдзя пасля яго смерці нічым не пакарысталіся. Мо грошы і прыхапілі, спехам, як і ўсе, ад'язджаючы, а ўсё дабро, нажытае разам з хатаю, прахам пойдзе. Мо не тое дабро нажывалі? Мо ўсе яны — і яна, старая, век свой пражыўшы ледзь не да апошняга дзянёчка,— не таго дабра шукалі, не тае праўды? Мо і ўчынілася тая страшная бяда, зямельку спустошыўшы на шмат вёрстаў вакол, што не душы, а целы свае скрозь гадавалі, ім, жаданням іхнім і патрэбам патрафляючы?

Ат, якія там патрэбы! — адмахнулася ад папроку. Іншай, большай патрэбы жыць не бачылі, не ўведалі, лёгка звыкнуўшыся з адвечна грахоўнаю думкаю, што няма — не было і няма над імі суддзі, як няма, не патрэбна ў жыцці сумленне. За тое і пакараны, няйначай. Усім народам пакараны, а кары не ўсвядомілі...

І яна ж во не ўсведамляла: ад душы сваёй адварочвалася... Як гэта — няма душы? Куды яна, яе душа, дзелася? З кім размаўляла Параскева, як не з душою сваёю, растузанаю болем і адзінотаю, адзінокім чаканнем смерці? Упершыню за столькі месяцаў убачыла ўранку людзей — і тыя, як аказалася, заразы не збаяўшыся, прыязджалі на чужой бядзе рукі пагрэць, дабром, гаспадарамі пакінутым, разжыцца. Не разжывуцца на бядзе, не разбагацеюць... Спяшалася, бегла за імі Параскева, каб сказаць гэта, ды не дабегла, не дагукалася. Мо і добра, што не дагукалася: сляпы — не ўбачыць, глухі — не пачуе. Зямля хво-

рая, вёска памірала — і ні адпець, ні аплакаць не было каму...

Азірнулася на белую выспу, на гасцінец за ёю — і святло, яшчэ імгненне назад зіхоткае, сляпучае, стала чэзнуць, сцінацца. Спалохана чапляючыся за яго рэшткі, рэзка выпрасталася Параскева. Выпрасталася і змусіла сябе ступіць далей. Крок, яшчэ крок, яшчэ! Прастора пацІху святлела, акрэслівалася, набывала знаёмыя рысы. Адно — і хвіліну, і другую — нагадвала не глыбокі сіні раўчук, сціснуты з усіх бакоў няроўнымі берагамі далягляду, а шчыльнае студзяністае месіва, у якім рухаліся, мільгалі, мітусіліся мірыяды празрыстых чарвякоў, і доўгенькіх, і зусім кароткіх, і пакручастых, хвастатых. Параскева не надта і дзівілася: не першыня! — але, як і кожны раз у падобных выпадках, міжволі стрымлівала дыханне і незаўважна пацепвала плячамі.

— Вернецца прах у зямлю, чым ён і быў, а дух вернецца да Бога, каторы даў яго...

Хто гэта? Хто загаварыў з ёю? Параскева запаволіла пацяжэлыя крокі, потым зноў памкнулася ўздоўж вуліцы, быццам прыспешаная словамі: да яе ж звернуты, яе шлях пазначалі, і, пакуль не пакінула сіла, Параскева мусіла ісці, абысці ўсе двары. І была якаясь таямніца ў тым, што мусіла ісці і ведала гэта, ці не было, не ёй разгадваць, не яе слабому розуму: не з-за адчужэння ад таямніцы пакутавала, а з-за адчужэння ад зямлі, ад прыроды, раптам аглухлай, глухой і да яе зваротаў, і да яе паглядаў. Буяла ўсё вакол — цвіло, зелянела, а вока не цешыла. Быццам чужое ўсё: і зараснікі калючай шыпшыны з белымі бяскроўнымі кветкамі, і ашалела пахкі бэз з палеглымі на вуглы хат і платы палісаднікаў галінамі, абцяжаранымі нязвыкла вялікімі і пышнымі гронкамі, і дзядоўнік, што ўжо на пачатку лета вымахаў ледзьве не па плечы ёй, і чорныя, як скамянелыя пасля леташніх (кожны — як не качан капусты) яблыкаў яблыні, і сама зямля пад нагамі, перасохлая, перацёртая вятрамі на пыл, на попел, які то там, то сям шэра-белымі воблачкамі ўздымаўся ў паветра, кружыўся, рассейваўся ў сонечным святле і зноў асядаў, тлустым слоем пакрываючы ўсё вакол,— ні дажджы яго не змывалі, ні сляды не ўтоптвалі...

Унурыўшыся, не-не і зіркала Параскева ўніз, пад ногі, дзе як жывы парушыўся пыл — прах дзён, гадоў, а мо і стагоддзяў ужо, прашумелых над гэтай зямлёю, над гэтым селішчам людскім, і ёй здавалася, што і там, у пыле, бачыць яна тых чарвячкоў, то доўгенькіх, то зусім кароткіх і па-

кручастых, што і ў паветры колькі хвілін таму, калі пачало чэзнуць, гаснуць у вачах у яе святло. Толькі цяпер, пад нагамі, чарвячкі былі не празрыстыя, а шэра-белыя, попельныя, як сам пыл, і рухаліся, выгіналіся, звіваліся ў клубкі і распаўзаліся з-пад ступакоў яны шпарчэй — так хутка, што і адчуць іх рух загрубелаю за вясну скураю Параскева не паспявала.

Вернецца прах у зямлю, чым ён і быў... Ужо ж, у сказаных невядома кім словах праўда. І яе, Параскевіна, праўда. Бо і ёй, гэткай жа, як і ўсё на зямлі, смяротнай, ні цяпер, ні ў самую апошнюю сваю хвіліну не ўразумець, не знайсці разгадкі тае таямніцы, у якой карэнілася яе жыццё, у якой ляжаў выток яе лёсу.

— Калі б я знала Бога, то даўно папрасіла б яго аб збавенні — аб смерці,— гэты раз не падумала, а ўголас, гучна мовіла яна, быццам адказваючы сваім думкам. І не здзівілася, калі пачула ў адказ: «Смерці няма... смерці няма...» Словы зашархацелі ці крылы, не разабрала — не дужа ўслухоўвалася. І вачэй не падымала. Быццам ведала: няма ў небе птушак. Няма ці не бачна — не ўбачыць яе старэчымі вачмі. Мігценне, капашэнне чарвякоў, чарвячкоў розных, што на зямлі, што ў паветры бачыць — бачыць і заплюшчыўшыся, а птушак ужо не ўгледзіць. Не яе гэта птушкі. Яе адляцелі і не вярнуліся, ужо не вернуцца: пуста ў сэрцы...

— Смерці няма! Смерці няма! — трапяталіся, шархацелі над ёю нябачныя крылы, і Параскева мацней, што было сілы, прыціскала да грудзей ікону, не заўважаючы, што краі яе крышыліся пад зведзенымі сутаргаю пальцамі.

Леўчыкава хата, хата Веркі-самагоншчыцы, Ігнацція... Даўно ніхто не адчыняў іх дзвярэй. І яна, Параскева, абмінала гэтыя двары як пры гаспадарах, так і потым, калі апусцелі хаты. Не заходзіла ні ў адну з іх. Сёння — іншая справа. Сёння цераз усе Радзімічы ляжаў яе шлях. І Шуру Леўчыка ўспомніла, і яго тоўстую, як у дзверы, Соню. І ля Верчынага парога на хвіліну прыпынілася, памянуўшы бацькоў яе, Петрака і Хвядосю Сітнікаў, памерлых яшчэ ў вайну. І Ігнацьеў двор іконаю абнесла: блудзіць недзе пацiху былы святар, як і тут, у вёсцы, блудзіў, каторую з маладзіц мёдам са свайго пчольніка, прывабіўшы, а і хата і гаспадарка асіроцелі — сіротамі, на самоце памруць, прахам у зямлю сыдуць...

Думкі блыталіся. Зноў расла, нарастала няўцямная трывога, прычыны якой Параскева не ведала. Нутром, якоюсь

падсвядомаю сваёю існасцю адчувала неадпаведнасць цяжка, пакутна пражытага жыцця цела той мэце, з якою нарадзілася, прыйшла некалі ў жыццё, а што гэта за мэта, дазнацца не было мажлівасці — не было ў каго, як раней, так і цяпер, напрыканцы свайго веку, свайго зямнога шляху. Мо і праўда не было смерці ў прыродзе — нечага ж смылела, непакоілася душа! Яшчэ каб ведаць, чым ёй дапамагчы... Ціха навокал. Пуста і ціха. І што ўсе яе шакадаванні? Што ўсе гуканні да Наступнага, ці да Бога, калі не чула яна ў сабе ні пакоры, ні малітоўнай гатоўнасці ўкленчыць перад ім?

Бязвер'е, быццам кароста, раз'ядала, раз'ела ўсё вакол і ў ёй, старой, а яна не знаходзіла ў душы ні слоў малітвы, ні слоў каяння. Толькі расла, нарастала трывога, то на колькі хвілін адступаючыся, то зноў засланяючы сабою ўсё вакол — на многія вёрсты і назад, у мінулае, і наперад, на ўвесь той прамежак часу, які ў яе заставаўся.

А дзень разгарэўся — ад неба патыхала жарам, і ў Параскевы кружылася галава: ці то сонца за ранак напякло, ці то думкі бязладныя стамілі. Марудна, нага за нагу, брыла яна мёртваю вуліцаю, напрасткі, цераз зараснікі дзядоўніку і высокі, у пояс, бур'ян, заходзіла ў кожны двор, абносіла ікону вакол пустой, гулкай хаты, то згадваючы, а то і не згадваючы яе гаспадароў, і не азіралася ні на выспу, якая засталася за балацінаю, ні на свае гады.

Сядзіба Петрака Старобінца, перадзеленая гадоў пяць таму назад з сынам папалам, і дзве хаты: старая, падслепаватая, з перакошанымі аканіцамі — Петракова, і новая, недабудаваная за часам — сынава... Дом Ванькі Гарчака, зроблены па-гарадскому, з рознымі штукарствамі — ганкамі і ганачкамі, разнымі лаўкамі і мудрагелістымі ўзорамі скрозь па фарбаванай вохраю шалёўцы... Саракагадовыя, адразу пасля вайны пасаджаныя вішні Саўкі Рапухі, з-за якіх усё яшчэ не відаць яе, Параскевінай, хаты...

Не Саўка, маці ягоная — нябожчыца Грыпіна, царства ёй нябеснае, вішні гэтыя садзіла. З раёна саджанцы везла, і ёй, Параскеве, маладой тады, дзвюх маладзенькіх вішанек не пашкадавала. Пасадзі, сказала, пад вокнамі, каб на неба дужа не заглядвацца, а яна, Параскева, і не перапытала тады пра неба: чаго ёй было яго баяцца? Сёння — спыталася б, ды Грыпіна не адкажа.

— Упадзе з неба долу гарачая зорка і ўспыхне, нібы свяцільня, і святло яе атруціць трэць усіх рэк, азёр і крыніц, і імя тае зоркі — Палын.

«Палын? Ужо ж... Чарнобыль — абазначае палын...» — адгукнулася ў думках Параскева і напружыла слых, каб не прапусціць ніводнага слоўца, хоць, пэўна ж, слых быў ні пры чым: яна даўно ўжо нічога не чула.

— Кажы, кажы, цётка Грыпіна!

— Паруш путы няпраўды і не шукай нічыйго прыгнёту... І таго, каго любіш, адпусці на волю, і з галодным падзяліся хлебам тваім, і бадзягу-жабрака ўпусці ў дом твой. Як убачыш голага, апрані яго, і ад адзінакроўнага твайго не хавайся. Тады адкрыецца, як зара, святло тваё, і збавенне тваё наблізіцца, і праўда твая пойдзе паперадзе цябе, і слава Гасподняя будзе суправаджаць цябе ўсюды. Лёс не з'яўляецца караю.

— Лёс?! — пагляд яе не знаходзіў, за што зачапіцца.

— Падобна Хрысту, кожны чалавек можа быць укрыжаваны і падмануты. Лёс не з'яўляецца караю... не з'яўляецца караю.. не з'яўляецца...

Голас аддаляўся, глушэў, зноў парываўся вярнуцца аднекуль з прасторы, з зіхоткае бездані неба, і доўга не змаўкаў канчаткова; не словы, водгулле іх далёкімі перуновымі раскатамі пагойдвала цішыню, спёку яе, і Параскева, не знайшоўшы за што зачапіцца паглядам у ясным, без аднае аблачынкі, небе, утаропілася ў абраз, скрышаны, вышчарблены з абодвух бакоў пальцамі — тою сілаю, з якою яе пальцы сціскалі абгарэлую дошку.

Пачутае здымала з яе цяжар уласнага жыцця? Але ж Параскева павінна, павінна несці яго цераз сваю адзіноту, пакуль не падломяцца ногі, пакуль не аціхне, навекі не супакоіцца збалелае яе сэрца, даўшы спакой і ёй.

Мо гэта і не цётка Грыпіна мовіла да яе толькі што, але тады хто? Сама прастора? Неба? Цішыня? Ці гэта ў ёй, у Параскеве, гучаў голас, будзячы далёкія ўспаміны, забытыя словы? Дзіўна, што яна так і не ўспаміпала гэтых слоў у адносінах да сябе, усё было знаёмае, да болю блізкае, і ўсё ж — далёкае, як водар травы ці сонечнае святло, як увесь гэты свет навокал, што не заўважаў яе, не зважаў ні на яе волю, ні на яе смяротныя пакуты. Ён, велічны, жорсткі ў сваім незалежным характве, у якім бачылася штосьці нечалавечае, супрацьстаяў ёй усёю сваёю магутнасцю, і варта было ёй, Параскеве, зразумець гэта, як і навакольныя лясы, і рака, і неба над даўно апусцелымі Радзімічамі сталі чужыя, сталі аддаляцца і ўсё часцей успрымаліся страчаным раем. Агораным ёю некалі ў цяжкой штодзённай працы — і цяпер назаўсёды страчаным.

Там, у мінулым, высушаная, спаленая чахоткаю, ціха

ўсміхалася ёй маці, яшчэ не ведаючы, што Пахом, вылучаны даччыным сэрцам з усіх хлопцаў, Пахом Нябаба, пераймаў любую Параскевіну сцежку, пакуль сцежка сама аднойчы не пабегла яму, яго абдымкам насустрач. Усе Радзімічы гулялі ў іх на вяселлі і нікому ў галаву не прыйшло, што сыпанутае пад ногі, як таго патрабаваў звычай, зерне ўзыдзе гадамі ліхалецця — і для іх, маладых, і для ўсяе зямелькі.

Усё жыццё яе прайшло над Славечнаю, так, і, калі задумацца, рака цякла не адно ў сваіх берагах, а і ў яе, у Параскевы, венах: не адно ж пот і стому змывала Параскева яе зеленаватаю вадою, а і скрозь, колькі помніла`сябе, піла з крыніц яе, чыстых і халодных, сілу зямную, гаючую. Піла — і напілася. Не чула болей смагі, не імкнулася зачэрпнуць яе халадку. ·Холад, нават у гэту паўдзённую спёку, пакалыхваўся ў яе ў грудзях — і сэрца стыла, камянела, не даючы затрымацца, сагрэцца каля якой-небудзь згадкі, шчаслівай ці нешчаслівай, не даючы здыхацца, дыхаць раўней, спакайней.

Не, яна ні аб чым не шкадавала: шкадаванне ж — гэтаксама нейкае спадзяванне, а ў яе не было ўжо спадзяванняў і ніколі не ўмела яна ўзірацца ў партрэты мінулага. Водар травы і густое, гарачае святло, мігценне сонечных матылёў і бязгучны, нячутны пошум кладзішчанскіх соснаў... Хіба пакінула, хіба пакіне на ўсім гэтым след яе нялёгкае жыццё?

Кожны чалавек можа быць укрыжаваны і падмануты, сказала цётка Грыпіна, і каб жа ведаць, што гэта значыла! У чым падмануты? Кім? Лёсам? Жыццём? Богам? Дык жа і лёс які-ніякі, а выпаў, і жыццё ні следам за Пахомам, ні следам за сынам не адпусціла, і Бог...

Параскева мацней, амаль сутаргава, прыціснула абраз да грудзей, быццам баронячыся ім ад раптоўнага спалоху: сотні, а мо і тысячы разоў памінала за жыццё Бога (хутчэй па звычцы, чым з нейкай пільнай патрэбы) і ніколі гэта не выклікала ў душы ніякаватасці ці, тым больш, спалоху, а сёння яна не-не і палохалася сваіх думак, па-святатацку абыякавых, неасцярожных. Нейкія іншыя словы трэба было шукаць і знайсці ў сабе, перш чым прызнае Параскева сваё поўнае бяссілле і перад мінулым, і перад наступным,— гэта ж яна разумела!

Не магла Параскева, не магла ў свой час, своечасова, не памёршы, цяпер, хай сабе і напярэдадні смерці, толькі таму, што так трэба, што так прынята, укленчыць, павярнуцца ·тварам да Бога, на якога ніколі раней не малілася, якому

ніколі не служыла так, як служыла жыццю: калі не абзавецца, не загукае да яго душа, сама душа, укленчыць яна, Параскева, перад пустатою, перад пустым небам, за якім нічога, нікога няма. І гэта будзе абазначаць канец, канец усяму, і смерць акажацца толькі прakляццем.

— Не, не! Для нечага ж доўжыліся, утрымлівалі яе гэтыя хвіліны. Нешта ж смылела ў ёй, абзывалася болем, шукаючы выйсця. І нават калі выйсце — у смерці, да смерці яшчэ трэба было дажыць.

— Смерці няма, Параскева. Ці ж табе іншыя не казалі?

— Ага, казалі, Пахомка,— пазнала яна голас і ўзрадавалася, і раптам як знясілела ад гэтае радасці — цяжка апусцілася на ганак, на другую, цалейшую прыступку яго і, раз і другі раз пажвакаўшы ў роце гэтае «ага, казалі», агледзелася, агледзела свой двор. Быццам шукала паглядам Пахома і пэўна ведала, што ён недзе тут, паблізу.

— Шчасліва ўсміхаючыся, з тваім імем на вуснах і ў сэрцы пайшоў я ад цябе, з ношкаю смутку, гора і смутку, ідзеш ты да мяне, нічыёй дапамогі не просячы. Не данясеш сама...

— Данясу, Пахомка. Данясу, каб ён, крый Божа, на зямельцы нашае не насеяўся,— уздыхнула Параскева.

— Насеяўся ж. Зірні вакол!

— Я зараз... зараз... — чаплялася яна за голас, за плямiны святла, што зноў сціналіся, чэзлі, набракалі халодным моракам.— Гасподзь святы, што ж гэта... зноў...

Чарната сышлася над ёю, раскалолася папалам, пачала паволі, імгненне за імгненнем, распаўзацца, выпускаючы праз усё больш шырэйшую расколіну сноп яркіх промняў, і калі Параскева прыгледзелася, то ўбачыла ў ім светлую, здавалася, зусім бязважкую постаць юнака. Пахом, не Пахом... Яна ўжо хацела пагукаць мужа (хто ж гэта, як не Пахом?), але губы нібы прыстылі адна да аднае і зрасліся, ды і змянілася ўжо ўсё, змянілася проста на вачах. Не Пахома акружалі яркія зіхоткія промні, а дрэва — белае, ад камля да апошняга дрогкага лісціка белае дрэва, якое каранямі ўтрымлівала краі зямлі, Славечну, зарослую здзічэлым бэзам вёску, яе, Параскевін, двор. Так, так, і яе двор! — Параскева пазнавала яго, нягледзячы на аддаленасць, на адлегласць, што ўсё павялічвалася паміж імі. Павялічвалася, таму што дрэва камлём, кронаю хілілася, падала сюды, у гэты бок, разам са святлом, выдзіраючы ў яе з-пад ног і зямлю, і самую рэальнасць.

— Пахом! — пагукала.

У адказ захіхікала цішыня і, як зацiснуў хто смех рукою, змоўкла. І Параскева, адварочваючы галаву і ўціскаючыся

ў ганак, адчула, як — спярша стогнам, а потым усім цяжарам голля — абрынулася на яе белае дрэва: галінкі сцябалі па твары, па галаве, па плячах, ламаліся, саступаючы месца іншым, і ўпіваліся ў плоць, праціналі яе наскрозь — так, што жывога месца на сабе не чула, не помніла Параскева. Рыпела, са стогнам паміраючы, дрэва — уставала, атрэсваючыся ад абляцелага мёртвага лісця, жанчына. Не яна, Параскева, не,— іншая, нечым падобная на тую, намаляваную некалі на іконе.

— Лю-лі, лю-лі, лю-лі... не ветры паснулі, а вякі дрымоты параслі сумотай,— пела яна, пахітваючыся з боку на бок.— Скрозь клады былога... Ні адна дарога, гразкая, зямная, іх не абмінае...

— Лю-лі, лю-лі, лю-лі, прыляцелі гулі... — падпела ёй прастора, згадаўшы вясковую старую калыханку, і спеў нечакана перайшоў у плач, і Параскева раптам зразумела, што ніякая гэта не прастора плача горка і няўцешна ў яе на плячы, што гэта яна сама плача — ці то аб пражытым, ці то аб непражытым і таксама ўжо мёртвым.

Слёзы вярнулі свядомасць, вярнулі зрок — і Параскева, падняўшыся з прыступкі, падалася за добра бачнаю Багародзіцаю, якая няспешна пайшла са двара і адразу за брамаю павярнула на кладзішча. Белыя строі вольнага, яўна не тутэйшага крою, белая, не завязаная, а толькі накінутая паверх косаў хустка, чорны, як прыцярушаны вугалем, след... Няўжо яна не прымроілася? Няўжо сапраўды вяла Параскеву з вёскі да кладішчанскага ўзгорка?

Адказы, пэўна ж, не зацікавілі б Параскеву, нават калі хто і запэўніваў бы яе цяпер, у гэтую хвіліну, што яна проста трызніла, пры сваёй памяці, але трызніла, ад доўгае адзіноты, а яшчэ больш — ад нязвыклага, незнаёмага адчужэння паміж сабою і прыродаю, крануўшыся розумам: яна б а ч ы л а жанчыну ў белых строях паперадзе, перад сабою, і кім яна з'яўлялася для яе, было не так і важна. Сцежкі сыходзіліся, гэта галоўнае. Сустрэнуцца ў каплічцы...

Сонца смаліла неміласэрна. Гарачае паветра, густое і цяжкое, не магло ні ўскалыхнуцца, ні проста зрушыцца, каб адхлынуць ад Параскевінага твару — хоць крыху адхлынуць і адкрыць пагляду неба. Неба не было. Яго месца — ад краю да краю далягляду — займала сонца, яго сляпучы белы шар: спёка нарастала разам з ззяннем, у якім танулі і кладзішчанскі ўзгорак, і лес вакол, што падступаў усё бліжэй, ужо ўшчыльную да крайніх магіл і іх пахіленых крыжоў, заплятаючы тонкім гнуткім голлем прастору і яе, Параске-

віну, сцежку. Спёка душыла Параскеву, забіваючы ўсе поры, усе сасуды ліпкаю, гарачаю масаю, і калі б не тая, у белых строях, што ішла паперадзе і змушала рухацца, ісці следам і яе, Параскеву, даўно абвалілася б усім сваім цяжарам, перапыніўшы і сцежку і дыханне.

Кружылася галава. Млосць варочалася ўжо недзе пад грудзьмі — Параскева не зважала. Да рэзі, да болю ў вачах узіралася ў сваю праваднiцу, у бясцелую жаночую постаць наперадзе, крокаў за дваццаць наперадзе, і больш не думала пра тое, хто яна і адкуль з'явілася тут, у гэтай ядзернай пустэчы: ці неба, ці смерць паслала — цяпер было ўжо ўсё роўна. Цяпер ужо яна дойдзе.

Старая капліца, дакладней — ацалелая ад яе сцяна з высечаным проста на камені распяццем, ля якога скрозь некалі ставілі радзімічы свечкі, не набліжалася, а насоўвалася на Параскеву ўсёю сваёю пачарнелаю, замшэлаю за апошні год грудаю.

«Ікона! У мяне ж у руках ікона!» — успомніла, міжволі супакойваючыся, але калі апусціла пагляд і зірнула на рукі, знямела ад здзіўлення, ад нечаканасці ўбачанага: у руках, у сутаргава сцятых пальцах, запэцканых сажаю, трушчыліся, крышыліся рэшткі абвугленай, чорнай галавешкі, якая, здаецца, і не была ніколі іконаю, абразом святой Багародзіцы. Вачам сваім не паверыла. Схілілася, падслепавата жмурачыся, нейкі міг недаўменна пазірала на свае скурчаныя пальцы, памкнулася нават разагнуць іх, абтрэсці — пальцы не разгіналіся, апошнія крышынкі вугалю церушыліся на спадніцу, на параздзіраныя калючым дзядоўнікам ногі.

— Святою хацела абараніцца? Малітву ліхаманкава ўспамінаеш, каб ад мяне, ад смерці сваёй, адхрысціцца? Не выйдзе, цётачка, не спадзявайся!

— Ты, Марфутка? — пазнала, пакорна азвалася Параскева і раптам зазлавала, загневалася: — Згінь, нячыстая сіла! Бач, моду ўзяла — цягаешся ззаду, дражнішся...

— Ззаду! — засмяялася.— Ды я цябе каторы дзень за сабою ваджу па вёсцы, з канца ў канец, каб вочы ў цябе нарэшце адкрыліся, каб зразумела ты ўсю бязглуздасць свайго жыцця, сваіх спадзяванняў. Ажно не. Колькі мёртвых хат, колькі мёртвых двароў абышла, колькі мёртвых птушак і мёртвых яблынь па дарозе бачыла, а ўсё верыш, што жыве вёска, жыве, пакуль ты жывеш. Хіба ты жывеш? Глухая, як сыч, мёртвая ў царстве мёртвых... На, акрыйся маёю хусткаю ад гэтага ззяння, а то яшчэ самлееш, і хадзем.

— Куды? — адчула халодны дотык якоесь бязважкае тканіны Параскева і міжволі павяла галавою, каб адхінуцца, не прыняць ні падарунка, ні насмешкі.— Чаго ты ўвесь час дамагаешся?

— Каб ты не на жыццё, якое пражыла, азірнулася, а на сябе, падманутую.

— Падманутую? Гародзіш абы-што... — выцірала Параскева крыху адмяклыя пальцы аб спадніцу, спрабуючы вызначыць, куды, за якім крыжам павярнуць, каб выйсці да родных магіл.— Ты сваю смерць знайшла, я сваёй гэтаксама не абміну, але пражылі мы з табою, дзякаваць Богу, розныя жыцці.

— А тое, што я — твая смерць, ні пра што табе не гаворыць? — зноў засмяялася Марфутка і тузанула старую за рукаў (той здалося, што тузанула).— Хадзем да ракі, сёе-тое пакажу, пакуль у нас ёсць яшчэ час. Тут, цётачка, табе няма чаго рабіць.

— Згінь, згінь, нячыстая сіла,— замахала Параскева на яе, з усяе сілы стараючыся ўтрымацца на месцы, каб потым адвярнуць убок і пайсці сваім шляхам (гэта ж за ёю, за Марфуткаю, убранаю ў белыя строі, ішла, таго не ведаючы!), а сама ўжо ступіла следам, падалася на яе кліч, на яе зман і нічога, апроч прывіднай белай постаці за колькі крокаў ад сябе, не бачыла. Чаплялася за грудкі магіл, натыкалася на пахіленыя крыжы і замшэлыя, зарослыя высокаю кладзішчанскаю травою камяні, няўцямна, усляпую абмінала каржакаватыя сосны і — ніжэй, там, дзе пагорак падмывала сонная, ціхаплынная ручаіна,— зараснікі густой, у свой рост, крапівы.

— Згінь, згінь,— шаптала.— Цябе няма, вось ужо два дзесяцігоддзі мінула, як цябе няма!

Шэпт патанаў у цішыні. Лес расступаўся, радзеў, саступаў вербам, потым, бліжэй да ракі, вербалозу, і калі пачалася нешырокая пясчаная водмель уздоўж вады, першае, на што міжволі звярнула ўвагу Параскева,— наперадзе, на пяску, не было следу. Марфутка апярэджвала яе на добрых пяць-шэсць крокаў, а следу, нават самага лёгкага, за сабою не пакідала — звідзілася, няйначай... Нябожчыца ж даўно... Недзе тут, непадалёку, пайшла пад ваду...

— Ты на ваду, на раку глядзі,— павярнулася Марфутка, спыніўшыся каля вывернутай з коранем вярбы.— Тут твой Пахом Богу душу аддаў, пазнаеш нябось. Толькі не ягоны бераг, а твой Славечна падмывае, ракою смерці зрабіўшыся. Глядзі, глядзі!

Глядзець было немагчыма: вадою, па ўсёй тоўшчы, ку-

ды мог дацягнуцца яе пагляд, плылі, сплывалі у далёкую Прыпяць мёртвая рыба, мёртвыя птушкі і бабры, мёртвыя жабы і лілеі — і ўсё, нерухомае, як зашклёнае ў самім гэтым руху паўз яе, Параскеву, услед за плынню, свяцілася, высвечвала якімсь дзіўным святлом, мёртвым у мёртвым. Параскева нават ушчыкнула сябе, каб упэўніцца ў тым, што не спала, што ўзапраўду стаяла на беразе Славечны, непадалёку ад Марфуткі, вясковай блудніцы, з-за якой загінуў некалі ў крывавай бойцы яе сын...

Марфуткі побач не было. Нідзе не было. Як згінула, растварылася ў гарачым ззянні неба. І Славечна, калі зноў зірнула на раку Параскева, змянілася. Пацямнела. Схавала пад цёмнаю люстраною роўняддзю і водмелі і віры, і толькі снапы зыркіх промняў пакалыхваліся там, дзе ўразаліся ў плынь зялёныя астраўкі аеру. «Згубіла хустку, вось і напякло галаву,— вытлумачыла тое, што толькі што ўбачылася ёй, Параскева.— Трэба ўмыцца, асвяжыць твар ды паціху сунуцца дадому».

Штосьці ўтрымала Параскеву — што, і сама не вызначыла б, але не пайшла да Славечны, а падалася да струмка, які выбіваўся з-пад каменя крыху вышэй, крокаў за дзесяць ад пясчанай водмелі. Адчула палёгку, ужо проста адвярнуўшыся ад рачнога ззяння, ад неба, што люстравалася ў рацэ, и калі апынулася ў ценю раскідзістае вербы і глынула зачарпнутае са струмка вады, лёгкасць разлілася па ёй, вярнула яснасць думак і якую-ніякую сілу.

Доўга, зрэдку распростваючыся, каб перадыхнуць, піла. Доўга плёскала вадою ў твар, раз-пораз прыціскаючы да яго халодныя далоні. Доўга стаяла потым у нерашучасці (сунуцца дадому ці тут, у цяньку, прылегчы?), змораная нарэшце гэтаю нерашучасцю, уцерлася падолам і апусцілася ў траву, не адчуўшы, як спружыніла тая пад цяжарам яе цела. Зялёная хваля ўскалыхнулася, узляцела і сышлася над ёю. Сышлася мякка, пяшчотна...

Зялёная хваля? Чаму зялёная? Сонца, вада, стужка пясчанае водмелі... Дзень разматваецца стракатаю яркаю стужкаю — Пахом, мокры, выкачаны ў пяску, дражніць малога Янука, гукае пакатацца на спіне, як на кані, а калі малы з радасным смехам кідаецца да яго, смешна адбрыквае нагамі паветра і адкочваецца далей.

— До, Пахомка,— смяецца і яна.— До ўжо! Людзі хто іх ведае што падумаюць, на нас гледзячы.

— І няхай, няхай! — весела адцярэблівается ад сынавых ручанят Пахом, падымаючыся з пяску разам з малым, па-

віслым у яго на шыі.— Гэткую вайну прайшоўшы, не адно парахавога дыму, а і крыві ўласнае наглытаўшыся, мне — цяпер! — шчасця свайго саромецца? Жывы застаўся, вас жывых знайшоў... Ды мне, Парасачка, шчасця гэтага і за сто гадоў не пазбыцца!

Ён прыціскае да сябе сына, кружыцца, пакідаючы ў пясочку глыбокую, тут жа набрынялую вадою баразну і ўздымаючы цэлыя снапы пырскаў, і Параскева, хоць стаіць крыху воддаль ад іх, міжволі прымружвае вочы і паводзіць перад сабою рукамі — як бароніцца ад сляпучага колеру вячэрняга неба, ззяння.

— Малога пастаў на зямлю: яшчэ млосна дзіцяці стане...

— Яшчэ чаго! Мы з ім зараз навыперадкі... Праўда, Янук? Дагоніш татку?

І вось ужо ён бяжыць уздоўж вады, а то і па вадзе, па чырвані, якою афарбоўвае ваду, няспешна апускаючыся за лес, сонца,— і чатырохгадовы Янук весела ўзбрыквае следам, адмахваецца ад халодных пырскаў, спатыкаецца, падае на пясок, зноў кідаецца наўздагон бацьку, які не надта каб і спяшаецца, а потым і зусім пачынае пятляць і спатыкацца.

Калі Пахом, хапаючыся за паветра, валіцца на мокры пясок, тварам у ваду, а малы, крыху не дабегшы да яго, застывае ў баязлівай, па-птушынаму насцярожанай позе, Параскева яшчэ ўсміхаецца. Адно імгненне мінае, другое, трэцяе... Яна пачынае разумець, што здарылася штосьці — штосьці недарэчнае, страшнае ў сваёй жорсткасці і недарэчнасці тут, на беразе Славечны, на вачах у яе і сына, і ніяк не можа сцерці з твару ўсмешку: як прырасла тая, нацягваючы, раздзіраючы скуру вакол рота.

— Па-хом... — спрабуе гукнуць мужу і захлынаецца ўласным роспачным крыкам: — Па-хом!!!

Зямля, раскалыханая хвалямі Славечны, плыве з-пад ног, правальваецца ў чырвона-чорныя віры яе роспачнага крыку, клічу, гукання: Пахом жа толькі што смяяўся, толькі што паддражніваў малога і бег скрозь пырскі вады, скрозь пырскі цёплага ліпеньскага вечара — ён зараз падымецца! Ён устане! Ён казаў пра сто гадоў шчасця наперадзе!

Яе хтосьці трымае. За рукі. За плечы. Яе хтосьці супакойвае, угаворваючы паплакаць, даць волю слязам, каб, нявыплаканыя, не ляглі камянямі на сэрца, а благаславілі сына ў апошні ягоны шлях...

— Божа літасцівы, прымі душу раба твайго, Янука! Не адступіся ад маці яго, Параскевы!

— Усё думае, што мужа хавае, а не сына.

— Розум не прымае... Ведама ж, з-за бабы распуснае прырэзалі!

Параскева чуе гаворку жанок і не чуе. Узіраецца ў родны твар — як у душу сваю знямелую, скамянелую ўзіраецца: няма ў яе ні слёз, ні слоў. Пахома столькі гадоў аплаквала, а цяпер... А цяпер?!

— Ды забівайце вы ўжо труну, забівайце! — падхіхікнуў як не Марфутчын голас.— Хай паглядзіць, з-за каго, з-за чаго сынка ейнага прырэзалі!

«Марфутка?! Ды як яна насмелілася?» — абуджаецца ў ёй гнеў, і Параскева, раскінутымі рукамі засланяючы, абараняючы сынаву труну, мёртвага свайго сына, паглядам шукае нягодніцу ў купцы аднавяскоўцаў: Алена, Соня Леўчыкава, Верка-самагоншчыца, старая Малання... Недзе побач павінна аціраццa і тая: нейкай жа далёкаю сваячкаю даводзілася Маланні!

Голая, у чым маці нарадзіла, Марфутка стаяла воддаль, на зусім адкрытым месцы, прыцягваючы да сябе і погляды і праклёны жанок,— раз-пораз, пакалыхваючыся, агладжвала па-маладому пругкія цыцкі і паводзіла клубамі, усім сваім выглядам дражнячы, раздражняючы ўсіх, хто прыйшоў на пахаванне.

— Чаго зенкі павылупвалі? Не з вамі, з ёю гаманю, з вашаю праведніцаю. Кыш адсюль!

— Божухна-бацюхна, во дажылі! Во прычакалі! — зайшлася ў крыку Соня.— Вяхотка, сучка драная перад намі голаю сракаю круціць, а мы маўчым... Ды з-за яе гэткага хлопца Радзімічы страцілі! Ганіце яе, бабы! Лупіце паскуду, чым пад руку трапіць, пакуль язык на плячо не валіць!

— У горадзе ля кожнага слупа нагу задзірала і тут, у нас, гулі развяла, мужыкоў нашых сваім зеллем спойвае...

— У раку яе! У вір галавою прыблуду!

— Рыдлёўкі, вілы бярыце, бабы. Не ўцячэ ад нашае помсты гадаўка, не схаваецца!

Залямантавалі ўсе разам. Падаграючы адна адну, не слухаючы мужыкоў, якія спрабавалі ўціхамірыць іх, пагналі Марфутку да ракі. Тая круціць голым задам, выскаляецца, адплёўваецца бруднаю лаянкаю, але адступае перад іх гневам, перад вострымі віламі, скіраванымі ў яе бок. Крок за крокам, метр за метрам набліжаецца бераг, высокі, стромкі тут, над кручаю.

— Галадранкі! Быдла дзеравенскае! — не крычыць, вішчыць не сваім голасам Марфутка.— Ужо ж, на ваша жылістае мяса, абцягнутае задубелаю скураю, мужыкі не квапяц-

ца, дык мне што — ад свайго кожнай з вас узрэзаць? Як аралі, так і будуць араць на вас, пакуль не паздыхаеце, чуеце? Чуеце вы, быдла?

— Во дажылі! Во дачакаліся!

— Хутчэй, бабы... Не давайце ёй выслізнуць... Няма ў тым граху — ад падлы пазбавіцца, няма!

— Быдла мы ёй... Бач, вызверылася гадаўка! А хлеб і сала чые са сваімі хахалямі жэрла?

— Выскаляецца! Не, каб літасці папрасіць...

— Ды згніеце вы ўсе ў сваіх халупах, перш чым я прасіцца ў вас буду! — адступала пад іх націскам Марфутка, трывожна зіркаючы цераз плячо: і чатырох крокаў не заставалася да абрыву.— Пусціце! Пусціце мяне, сволачы!

Яна тузаецца ў адзін бок, у другі і, наткнуўшыся на настаўленыя вілы, пачынае істэрычна рагатаць — віхляецца з боку на бок, прыкрываючыся рукамі, адступае і рагоча. Рогат не аціхае і тады, калі бераг выслізгвае ў яе з-пад ног і, падштурхнуты гнеўнымі жаночымі крыкамі, з гулам абвальваецца ўніз, услед за ёю... Марфутка рагоча ці неба абзываецца?

Неба, у тым разуменні, якое ўкладваюць у яго зазвычай, Параскева не бачыць. Замест яго ад краю да краю зямлі цямнее расколіна, якая на вачах глыбее, страчвае няпэўныя абрысы і межы, пачынае ўцягваць, усмоктвае ў чорную, бязмежна чорную сваю бездань навакольныя лясы, невядома чаму раптам апусцелыя, абязлюдзелыя Радзімічы, раку, над якою стаіць разгубленая, зніякавелая ад такой хуткай змены ў прыродзе Параскева. Стаіць чыста вонкава, бо ўжо і сама падхоплена, зачаравана рухам (ці то палётам, ці то падзеннем), і сама чуе, як ціха, зусім без болю, рвуцца повязі з жыццём — з тым, што яна скрозь называла сваім жыццём.

Дзесьці там, наперадзе,— Параскева ўвесь час памятала пра гэта! — выблісне, таямніча ўспыхне блакіт, і дасягне яна яго ўспышкі або не, яе, як і ўсё вакол, паглыне вечнасць...

— Вечнасць? Замнога хочаш, цётка, за сваё беспрасветнае жыццё.

— Чаму гэта беспрасветнае? — абурылася Параскева, лыпнуўшы вачамі і зноў убачыўшы побач Марфутку ў белым.— Ты ж нечага дамагаешся, нечага ўсё хочаш, калі ў сне высочваеш мяне.

— А ты палагаднела да мяне, няйначай.

— Сама ж казала, што толькі твар ды голас Марфутчыны ўзяла... — узіралася, спрабуючы разгледзець яе твар, Па-

раскева і таму расцягвала, цадзіла словы.— Даўжэй прыглядацца, дык і ў гэтым зманіла: юрлівая была Марфутка, ненасытная. І на мужыкоў, і на зло ненасытная... Сына майго не пашкадавала...

— А мяне хто калі шкадаваў, га? — адвярнулася ад задужа пільнага позірку старой тая.— Чатырнаццацігадовую — піхнулі ў абдымкі ласага да малалетак следчага, абы толькі бацьку, абвінавачанага ў спачуванні ворагам народа, пад суд не падвёў, дапамог ад нагавору людскога адцерабіцца. Дапамог! Перш бацьку адправіў к чорту на выселкі, потым, да дна, да донца вылюбіўшы і ператварыўшы ў прасцітутку, мяне ў калонію справадзіў.

— А матка? — схаладнела ўсё ўнутры ў Параскевы ад яе слоў.— Матка куды глядзела?

— Матка? — здзівілася яе пытанню Марфутка, потым, задумаўшыся, перасмыкнула плячыма.— Казалі, рукі на сябе наклала...

— Вунь яно што,— сумелася Параскева.— Дык гэта ж і з горада цябе, мусібыць, проста выселілі.

— А чаго з такімі няньчыцца? Калі ўжо з гэткімі, як ты, ніколі не цацкаліся...

Падняўшыся, Марфутка доўга стаяла над ёю моўчкі, потым павярнулася ісці, але перадумала і засталася. Толькі засланілася веццем, што навісала проста над ёю; з жывою ж, з яшчэ жывою гаманіла!

— І мной, і табою, цётка, аднолькава заплацілі. У маім выпадку — бацькаваму кату, хоць ахвяра была марная, у тваім... У тваім — заведзенаму некалі галадранцамі парадку!

— Цяпер ты гаворыш зусім як Марфутка. Злосна... — пачала падымацца, абедзвюма рукамі чапляючыся за вярбу, пад якою ляжала, Параскева і не ўбачыла, калі і куды адышлася дзіўная яе суразмоўніца.— Як бы, якім бокам ні павярнулася жыццё, зла ў душы на яго трымаць няможна. Усе — і зёлка любая, і казюрка, і жывёліна — заслугоўваюць спагады і жалю нашага, а ўжо чалавеку без іх нікуды. Адно ў магілу.

— Ты ж, цётка, як і іншыя, спадзяешся, што смерці няма.

Голас прагучаў здалёк: Параскева ледзьве пачула. Трымаючыся за галіну (кружылася, вяла ў бакі цяжкая, як налітая свінцом галава), паспрабавала вызначыць, адкуль даляцелі да яе словы — з лесу ці ад ракі, але потым няспешна адштурхнулася ад дрэва і пасунулася ў бок вёскі. Ёсць смерць, няма смерці — хіба ёй, Параскеве, вызначаць? Хіба

ў гаворцы з Марфуткаю? З такім толькі да Бога і можна звярнуцца, калі ёсць ён і пачуе.

Сон і ява зблытваліся, перапляталіся ў ёй, хворай гэтаю пустэчаю, і не ставала ўжо ні часу, ні моцы іх разблытаць, неяк адасобіць. І няхай! Урэшце, яна даўно ўжо не бачыла мяжы паміж імі, не шукала... Тут, у бязлюддзі, сярод непазнавальнай, здзічэлай усяго за год прыроды, не было месца розуму, разумнаму сэнсу: на вачах разбуралася, парахнела, зарастала лесам усё зробленае рукамі чалавека, і толькі белае сонца, а ноччу белая поўня абыякава дзівіліся на гэтыя разбурэнні. Толькі белае сонца, ды белая поўня, ды яна, Параскева, калі падымала пагляд...

Быў бы жывы Пахом, удваіх яны ўправіліся б — не далі памерці вёсцы, а самой ужо не здолець: прыйшоў, мусібыць, яе час, калі адно з нябожчыкамі пагаманіць можа, у сне ці ў яве, прывіднай, размытай болем. Болем і слабасцю. Слабая зусім стала. Агаладала за апошні месяц, ці што? — нічога ж, апроч пяці-шасці бульбін, за дзень не з'ядала каторы месяц, а дні сталі доўгія, патыхалі спёкаю і дагаралі ўжо ў сне. Дагаралі, каб зноў, ледзьве заняўшыся, успыхнуць і адагнаць сон яе, цяжкі і трывожны, і зноў зблытаць яго з яваю — у мройлівым пакалыхванні гарачага, густога паветра адзець плоццю, ажывіць начныя прывіды.

Не, у нейкія моманты — няйнакш, як у гэтыя, Параскева разумела, што становіцца забаўкаю сваіх балючых, хворых думак — ужо ж, не смерць сваю і сапраўды сустракала штодня то тут, то там! — але разуменне не станавілася ні пераканаННем, ні разгадкаю.

Марфутку Параскева памятала, як жа. Ды памятаць памятала, а шмат чаго з таго, пра што ішла з ёю гэта дзіўная гаворка, не ведала і ведаць не магла ні тады, у свой час, ні цяпер: хто калі ў Радзімічах распытваў чужую ім гарадскую прыблуду пра пражытае ёю, пра маленства? Не любілі яе ў вёсцы. Не любілі — яшчэ мякка сказана. ПераканаНы былі (адкуль, і самі не ведалі), што пасля прыезду Марфуткі ніводная бяда Радзімічы не абмінула. Ніводная...

Пра што гэта яна? Пра якую бяду? Караю — караю самога Усявышняга, няйнакш! — абярнулася перараджэнне вёскі, перараджэнне селяніна. Ад продкаў, ад іх запаветаў адвярнуліся, ні на ўлады, ні на сябе не спадзяваліся — гарэлкаю вочы залівалі, распусту цярпелі, пра дзяцей сваіх не думаючы... Дзе, калі трывала гэткае зямля? Вось і выраклася іх, дзяцей сваіх, вось і стала чужаніцаю, лесам зарастаючы: колькі гадоў, колькі дзесяцігоддзяў міне, перш чым загамоняць, загукаюць будучыні абсягі гэтыя? Тое і яно.

— Тое і яно, чуеш? — шаптала, звяртаючыся да самой сябе ці мо да цішыні, што абступала яе з усіх бакоў, і сама не чула сваіх слоў: было ціха, як у магіле.

Як у магіле... Дык жа і ў магіле: «Гэты прасцяг, гэта пустэча і стануць мне ў хуткім часе магілаю!» — апякла раптам думка, і Параскева доўга адцярэблівалася ад непрыемнага прысмаку гэтага апёку, супакойваючы гарачае, перарывістае дыханне, доўга азіралася па баках, перш чым рушыць далей, паўз пахілены плот, да свайго двара — хутчэй па звычцы, чым з нейкай пільнай патрэбы. Патрэбаў даўно не засталося — канец сцежкі вырываўся з-пад ног, здзеравянелых і бяссілых, і калі б не ўтрымлівала яго чыясьці ўладная рука, ужо выслізнуў бы і бясследна знік у пражытым. Але вось жа ўсё яшчэ ўтрымлівала, змушаючы ісці, перамагаць стому і слабасць і ісці.

Памаліцца б! За сябе і за зямлю, якую пакідала, пакіне ў бядзе, памаліцца б — так, як умела, так, як склалася б, ды нешта страшыла Параскеву, нешта каторы дзень утрымлівала. Ікону, падабраную на выспе, да алтара не данесла, ні жалю, ні смутку на кладзішчы не адчула, смерць сваю — Марфутку! — увесь час сярод дрэў выглядвала...

Міжволі азірнулася, ці не ідзе тая следам і цяпер: не ішла. Адно далей, крокаў за сорак, між густых кустоў вербалозу, не-не і з'яўлялася морда то аднаго, то другога сабакі са зграі, што ўвесь час суправаджала яе, і, уздыхнуўшы, Параскева скіравала ў двор. Выйшла ўранку, каб разжыцца ў каго з суседзяў солі, а ўспомніла пра яе толькі ў гэту хвіліну. Ну, ды нічога. Не першыня. Бульба, відаць, зусім паразварвалася. Зачэрпне, з'есць колькі лыжак бульбяное кашы — і будзе. Колькі ёй трэба!

Падумала і тут жа забыла. Здалёк, ад брамы, было відаць: на ганку, на самай верхняй прыступцы, ляжала мёртвая варона — ляжала так, быццам хто прынёс і паклаў яе там наўмысна, ці то палохаючы, ці то папярэджваючы Параскеву. Ужо ж, ніякае гэта не папярэджанне, ніякі не знак: ледзь не на сорак вёрст вакол ні душы жывой не заставалася, а пагляд як скамянеў адразу.

«Рыдлёўка недалёка, у палісадніку... Трэба б прыкапаць...» — Параскева не адводзіла вачэй ад ганка, ад брудна-шэрага камячка пер'я на ім і слухала, да звону ў вушах услухоўвалася ў прасцяг над сабою. Ён павінен быў гусці ад узмахаў крылаў: вароны ж доўга з крыкам кружаць над месцам, наведаным смерцю, а тут, у яе двары, смерць пабывала... На міг Параскеве нават здалося, што яна чуе гул, лопанне мноства крылаў, злавеснае карканне, але, пэўна

ж, толькі ад таго, што ў паветры замільгалі, замітусіліся лёгкія, лёткія цені. Птушак не было, а цені іх то ўзляталі, то падалі, то вокамгненна праносіліся паўз яе, каб тут жа матлянуцца назад, затрапятаць, ледзь не кранаючыся твару. Птушак не было, а мноства ценяў іх сваім лёгкім мітусеннем запоўнілі двор, запоўнілі прасцяг паміж ёю і небам. І варта толькі зварухнуцца — паветра адхлынула б, свядомасць пакінула б яе.

Не, не! Гэта ўсё ад слабасці. Зараз яна возьме рыдлёўку, закапае за хлеўчуком мёртвую варону і тады адпачне. Схаваецца ад спёкі, гэткай жа задушлівай, як і раней, хоць дзень ужо добра пахіліўся на вечар, і адпачне. Перад смерцю ж яшчэ што якое трэба зрабіць: даўно, загадзя падрыхтавала ўсё сабе на смерць, а і ў апошнім спадзявацца не было на каго. Вось управіцца, тады што ж... Тады няхай прыходзіць.

— Акыш, праклятыя! — не прамовіла, а шапнула, адмахваючыся ад нябачных крылаў, і як не словы, дык узмахі рук адкінулі, адсунулі прасцяг на колькі крокаў.

І дыхаць і рухацца стала лягчэй. А калі, прысыпаўшы зямлёю мёртвую птушку, Параскева прытуліла да хлеўчука рыдлёўку і выцерла аб спадніцу ўспацелыя далоні, то адчула, што сілы нібыта дадалося. Здаецца, не было адкуль узяцца ёй, той сіле, у высахлым, яшчэ больш змарнелым за гэты дзень целе, ды вось жа ўзялася: марудна, нага за нагу, але совалася яшчэ нейкі час Параскева па двары, упраўляючыся з няхітраю сваёю гаспадаркаю, потым вымыла рукі і, перш чым зайсці ў хату, доўга, падслепавата жмурылася на сонца, ужо крыху прыгаслае і таму добра бачнае ў залітай ззяннем вышыні. Думкі, што бачыць яго апошні раз, што развітваецца з ім, не ўзнікла — проста стаяла і дзівілася. На сонца. На лес, за які яно схаваецца. На раку, што адгароджвала няроўную сцяну лесу ад вёскі. На дальні, той, што пачынаўся ад белай выспы, канец вёскі, дзе ўпершыню, яшчэ не пазнаючы, сустрэла яна Марфутку. На шалёнае буянне бэзу вакол пустых, пачарнелых хат...

Нічога, нічога ўжо не магла зрабіць Параскева для сваіх Радзімічаў, для зямлі гэтае хворае, і толькі смутак жыў яшчэ ў ёй, у душы яе, ды смутак — усяго толькі смутак...

Сон доўга не прыходзіў. Выпрастаўшыся, выпрастаўшы ўдоўж цела лёгкія рукі, што не-не і ўздрыгвалі ад усё яшчэ не астылага ў іх жару летняга спякотнага дня, Параскева бяздумна, абыякава сачыла за мухаю, злоўленаю нябачнай павуцінаю,— і змога паціху адпускала яе. Жывей-

шы, больш рухомы стаў пагляд, перасталі ўздрыгваць рукі, квола, ледзь чутна нагадвала пра сябе жаданне штосьці — штосьці вельмі важнае — успомніць. Яна яшчэ не адчула неспакою, хоць позірк ужо абмацваў столь, край бярвенчатае сцяны, рамку, у якой, шчыльна падагнаныя адна да аднае, цясніліся фотакарткі... Штосьці ёй, перш чым засне, трэба было ўспомніць! Успомніць ці зрабіць.

Цішыня пачала заглынаць прастору вакол, і Параскева разумела, што калі не падымецца, не змусіць сябе зрабіць усё так, як таго патрабавала, ужо, лічы, стоячы ў галавах, смерць, то так і застанецца ляжаць бездапаможнаю, распластанаю тут, на ложку, так і адыдзе, ні неба над сабою, ні зямлі пад сабою не ўчуўшы. Ставала сілы жыць — пражыла адпушчанае ёй жыццё па-людску, па-людску, па хрысціянскім звычаі, здаўна заведзеным, трэба было і расстацца з ім: ніколі яна не адступалася ад заведзенага, ніколі не сумнявалася ў яго правільнасці і неабходнасці, не адступацца ж цяпер. Святло жыцця зямнога не згасне разам з ёю, і дзякуй Богу! Мо дзверы, якія перад ёю адчыняцца, прымуць і памёрлую вёску — памяць пра многія пакаленні, што яе ўзводзілі над Славечнаю.

Спадзеўка, малюпасенькая, з макавае зярнятка, варухнулася ў знясіленай памяццю душы, а і гэтага зруху аказалася даволі, каб зварухнулася, вырвалася са спратаў цішыні, што нечым нагадвала павуціну, у якой заблыталася муха, і Параскева. Здавалася, яе змога, яе здранцвеласць скамечаным радном засталася на ложку — у рухах хоць і не з'явілася ранейшай упэўненасці, але і надлому, скаванасці ўжо не было.

Першае, што зрабіла,— насцеж парасчыняла вокны, упусціўшы ў хату вечар, яго горка-салодкія, усё яшчэ не астылыя пасля дзённае спёкі пахі. Потым прынесла з сенцаў балею, выцягнула з печы чыгун з вадою, яшчэ трохі цёплаю, паставіла на падлогу побач: памыцца не памыецца, а абмыцца, абмыць, як таго патрабуе звычай, цела вады хопіць. Пакуль зашкрабе конаўка па дне, лягчэй стане, вальней дыхаць...

Распрануўшыся, нядоўга дзівілася на худое, прыжоўклае цела — чаго на яго глядзець? Знасілася, усохла за жыццё, але трывала дасюль — вытрывае і да смяротнага часу. Хутка ўжо. Як вокам скінуць. Што ўжо з ім далей будзе, не яе, Параскевін, клопат, а апошнюю пашану яму аддасць, ушануе напаследак.

Кожны раз, калі конаўка напаўнялася і трэба было разагнуцца, падняць яе вышэй плячэй, рука ўздрыгвала і ва-

да расплёсквалася, хоць праз якое імгненне цёплыя струменьчыкі разбіваліся, драбіліся то на адным, то на другім плячы і сцякалі ўніз, астуджваючы, асвяжаючы цела. Станавілася нават зябка, але Параскева ліла і ліла на сябе ваду, вычэрпваючы яе з чыгуна дарэшты, адчуваючы, як змогу яе, стому яе перамагае лёгкасць. Лёгкасць, якая ўяўляецца не чым іншым, як вызваленнем: па-старэчы нямоглая плоць, амаль бязважкая, бясцелая ў сваім памкненні сцяцца, растварыцца пад гэтымі мяккімі, пяшчотнымі дотыкамі вады, не чула больш звыклых цяжкіх сваіх аковаў і трымцела ад прадчування хуткага свайго пераўвасаблення і насалоды. Ні страху, ні шкадавання не было: сіла не пакідала, цяплілася і ў апошнія дзянькі яе на гэтым свеце — і ў сэрцы, то свядома, калі Параскева думала пра раскрыленае над мёртваю вёскаю неба, то несвядома расла ўдзячнасць. Удзячнасць таму невядомаму, таямнічаму гаспадару ўсяго жывога вакол, перад якім ніколі не схілялася яна з паклонам і якога ўсё ж чула, чула ў сабе ў рэдкія мінуты душэўнае лёгкасці і прасвятлення. Знасілася, памірала цела, а душа не засмучалася — быццам і сапраўды толькі цялесная смерць прыносіла вызваленне...

Усе адчуванні Параскевы паярчэлі і набылі свежасць і вастрыню. Мяккім, пяшчотным успрымаўся перш кожны струмень вады, потым кожны дотык ільнянога духмянага ручніка. Ненадзяваныя, падрыхтаваныя на смерць белая кашуля і гэткая ж белая, на матузках, спадніца ахінулі, ахуталі яе спакоем. У вечаровым святле, што лілося ў хату праз усе вокны, кожны крок, кожны ўздых патанаў няспешна, як бы злёгку запаволена, і Параскева паспявала заўважыць то вясёлкавы водбліск сонца на чыстай драўлянай падлозе, то шпака з акропленаю цёмнымі блёсткамі грудкаю на галінцы яблыні, то вясёлую Пахомаву ўсмешку, захаваную першым пасляваенным фотаздымкам, то свой незнаёмы светлы адбітак у люстэрку.

Адкінуўшы радно, адхінуўшы коўдру, яна не адразу легла — позіркам, сэрцам прыпала на колькі доўгіх хвілін да рамкі з фотакарткамі, на якіх, занатаванае ў розныя свае імгненні, заставалася яе жыццё. Маці з тоўстаю касою кругa галавы, яшчэ дзеўкаю знятая гомельскім жыдком, што ўхітрыўся трымаць сваю майстэраньку і пасля грамадзянскай... Бацька ў даўгім кажуху і з пугаю — недзе напярэдадні ўступлення ў калгас, якое ён мала чаго пераніжыў: душа, як расказвала маці, не вытрывала пазіраць на ўсё... А побач — яна, Параскева, з Пахомам, перад самаю вайною: у яе, як у мамкі некалі, русая каса вянком кругa галавы, Па-

хом першы раз за жыццё пры гальштуку... А мо і не было гальштука, мо гэта ўжо фатограф потым гальштук прымаляваў, яна не памятала. У сорак пятым — там, дзе Пахом з карткі весела, на ўсе зубы ўсміхаецца, ён у гімнасцёрцы, у той, у якой прыйшоў з вайны.

Астатнія карткі — сынавы. На адной ён, трынаццацігадовы, зняты са школаю. На трох, не, на чатырох — у матроскай форме з шырокім каўняром. На апошняй, ужо дома: пасля службы, стаяў у абдымку з сябрам, з Мішкам Леўчыкавым. Мішка, абзавёўшыся сям'ёю, тым годам з'ехаў далей ад смерці, агнём рассеянае, Янук... Янук, сустрэўшыся ці мо і не сустрэўшыся на тым свеце з бацькам, яе, Параскеву, каторы год гукаў.

— Я хутка, сынок, ужо хутка,— бязгучна мовіла, угледаючыся ў сынаў твар, і праз нейкі час, улёгшыся, выпраставўшыся на ложку, уголас, гучна паўтарыла: — Ужо хутка!

Словы аціхлі. Паволі згасаючы, струменілася ў хату праз незачыненыя вокны святло, апошняе святло гэтага дня.

Ручайкі святла вузелі, зліваліся ў адзін і ўжо той, сабраўшыся ў пучок, а потым стаўшы яркаю вогненнаю кропкаю пасярод хаты, застываў, каб тут жа выбухнуць, выслізнуць з агню стужкаю ці, яшчэ дакладней,— сцяжынаю і перацячы ў прастору за акном. След яго, дрогкі, прамяністы, не губляўся, а станавіўся добра бачным ва ўсё гусцейшай цемры вакол праменем, які яўна абмацваў гэту цемру, і ўсё шырэй і глыбей, каб выгледзець, выявіць тое загадкавае, таямніча-незразумелае, што ўвесь час няўцямна трывожыла Параскеву. Спачатку яна пазнала прыгажуню Прыпяць і ўжо за ёю ўбачыла шэры, напалову разбураны каменны гмах, вакол якога грудзіліся лаўжы паваленых, прысыпаных нагорнутаю зямлёю дрэў і кустоў, кінутыя, паржавелыя машыны і трактары, рознае іншае, не патрэбнае ўжо людзям, ламачча. Пасля таго як промень рассунуў змрок крыху шырэй, пагляду адкрыўся пусты, у спешцы пакінуты жыхарамі горад, па вуліцах якога белы вецер ганяў, пераносіў з месца на месца абрыўкі газет, сарваныя з балконных вяровак пялёнкі і дзіцячыя камізэлечкі, даўно выцвілыя аб'явы і бруднае птушынае пер'е,— горад-нябожчык, праз чые пустыя вачніцы бязмежжа пазірала адчужана і абыякава.

Не паспела Параскева прыгледзецца, паспрабаваць адшукаць хоць штосьці, што гаварыла б пра адраджэнне ў ім некалі жыцця, як гарадскія дамы і вуліцы паглынуў змрок, і ў промні святла, на самым вастрыі яго, заскакаў, затанчыў

да расплёсквалася, хоць праз якое імгненне цёплыя струменьчыкі разбіваліся, драбіліся то на адным, то на другім плячы і сцякалі ўніз, астуджваючы, асвяжаючы цела. Станавілася нават зябка, але Параскева ліла і ліла на сябе ваду, вычэрпваючы яе з чыгуна дарэшты, адчуваючы, як змогу яе, стому яе перамагае лёгкасць. Лёгкасць, якая ўяўляецца не чым іншым, як вызваленнем: па-старэчы нямоглая плоць, амаль бязважкая, бясцелая ў сваім памкненні сцяцца, растварыцца пад гэтымі мяккімі, пяшчотнымі дотыкамі вады, не чула больш звыклых цяжкіх сваіх аковаў і трымцела ад прадчування хуткага свайго пераўвасаблення і насалоды. Ні страху, ні шкадавання не было: сіла не пакідала, цеплілася і ў апошнія дзянькі яе на гэтым свеце — і ў сэрцы, то свядома, калі Параскева думала пра раскрыленае над мёртваю вёскаю неба, то несвядома расла ўдзячнасць. Удзячнасць таму невядомаму, таямнічаму гаспадару ўсяго жывога вакол, перад якім ніколі не схілялася яна з паклонам і якога ўсё ж чула, чула ў сабе ў рэдкія мінуты душэўнае лёгкасці і прасвятлення. Знасілася, памірала цела, а душа не засмучалася — быццам і сапраўды толькі цялесная смерць прыносіла вызваленне...

Усе адчуванні Параскевы паярчэлі і набылі свежасць і вастрыню. Мяккім, пяшчотным успрымаўся перш кожны струмень вады, потым кожны дотык ільнянога духмянага ручніка. Ненадзяваныя, падрыхтаваныя на смерць белая кашуля і гэткая ж белая, на матузках, спадніца ахінулі, ахуталі яе спакоем. У вечаровым святле, што лілося ў хату праз усе вокны, кожны крок, кожны ўздых патанаў няспешна, як бы злёгку запаволена, і Параскева паспявала заўважыць то вясёлкавы водбліск сонца на чыстай драўлянай падлозе, то шпака з акропленаю цёмнымі блёсткамі грудкаю на галінцы яблыні, то вясёлую Пахомаву ўсмешку, захаваную першым пасляваенным фотаздымкам, то свой незнаёмы светлы адбітак у люстэрку.

Адкінуўшы радно, адхінуўшы коўдру, яна не адразу легла — позіркам, сэрцам прыпала на колькі доўгіх хвілін да рамкі з фотакарткамі, на якіх, занатаванае ў розныя свае імгненні, заставалася яе жыццё. Маці з тоўстаю касою кругa галавы, яшчэ дзеўкаю знятая гомельскім жыдком, што ўхітрыўся трымаць сваю майстэраньку і пасля грамадзянскай... Бацька ў даўгім кажуху і з пугаю — недзе напярэдадні ўступлення ў калгас, якое ён мала чаго перажыў: душа, як расказвала маці, не вытрывала пазіраць на ўсё... А побач — яна, Параскева, з Пахомам, перад самаю вайною: у яе, як у мамкі некалі, русая каса вянком круга галавы, Па-

— Малітвы не ведае... Як жа без малітвы?

— Цс-с-с! Засынае... Пачакаем і, убачыўшы, хто яе ўтрымлівае, дапаможам...

— Алена? — здалося Параскеве, што пазнала яна голас былой сяброўкі.— Гэта ты, Алена?

Убачыла, як адкаснулася і, пахіліўшыся, пачало перацякаць кудысьці за сцяну лесу неба, як разгаралася, рабілася жорсткім, сляпучым святло, і марна яна захінала твар рукою, прыкрываючы вочы: і берагі Славечны, і кожная хваля яе, кожная чарацінка ці сцябліна аеру іншым, унутраным, зрокам бачыліся надзіва выразна. Яшчэ праз які момант Параскева пазнала і мясціну, дзе толькі што бачыла Марфутку, гаманіла з ёю...

— З Марфуткаю? Ты ўпэўнена? — крануў яе хтосьці за плячо ледзянымі пальцамі, і ад гэтага дотыку, хоць Параскева і была гатова да сустрэчы, адразу зайшлося, заекатала сэрца.— Марна вышукваеш сярод сваіх успамінаў і ашалелых ад адзіноты думак нейкае суцяшэнне: няма для цябе суцяшэння. Ні ў смерці, ні ў жыцці, якое пакідаеш, так і не дабраўшыся да яго сэнсу.

— Жыццё дужэйшае і за мяне і за цябе,— памкнулася вызваліць плячо старая і адчула, што не можа зварухнуцца: як прыкаваў яе да ложка той мяккі дотык.— Ведама ж, пажывішся — касцьмі маімі старымі, пакручанымі!

Нябачная, усё яшчэ нябачная госця засмяялася, але пальцаў не паслабіла, і смех калючымі ледзянымі голкамі доўга перацякаў, перакочваўся цераз Параскеву, прысутнасцю, блізкасцю смерці студзячы грудзі, упіваючыся ў скаванае цела. Марна яна збірала, напружвала ўсе сілы душы, каб вытрываць гэту, апошнюю, па ўсім відаць, сутычку: смех праціnaў яе, пранікаў ва ўсе поры, пускаў у яе ўсярэдзіне свае калючыя карэньчыкі, разрастаўся, пагражаючы выбухнуць, разбіць, разбурыць тонкія перагародкі свядомасці. У горле ў Параскевы перасядалі першыя, яшчэ невыразныя гукі, смех вырываўся з яе...

— Забіра-ай! — выгукнула, выдыхнула, перамагаючы боль, які расколваў галаву.— Бу-дзя-я-а!!

Крык, вырваўшыся, выдраў з рук смерці і яе, Параскеву, бо дыхаць стала лягчэй, аковы апалі і яна ўжо магла варухнуць рукою, перш адной, потым другою.

— Ну-ну-ну! Чаго ўжо гэтак нервавацца? — супакойліва, як заглынуўшы свой смех, звярнулася да яе госця, і цяпер Параскева ўбачыла яе: маладая, нечым (ці не нахабнаю самаўпэўненасцю, упэўненасцю ў сваёй беспакаранасці?) і сапраўды падобная на колішнюю вясковую распусні-

цу, і ўсё ж не яна, не Марфутка.— Гаворка ж толькі пачынаецца.

— Хто ты такая, каб я з табою гаманіла? — буркнула, як засаромеўшыся нястрыманасці, калі не страху, што раптам захліснулі яе мінуту таму.

— Хто? Смерць твая.

— А як смерць, то і бяры, забірай тое. што ад мяне засталося: не вельмі пажывішся, як бачыш,— скура ды косць... Ці мо скажаш, што падаль не падбіраеш, га? Дык зманіш жа, зманіш, галуба. Усё ты падбіраеш, хоць і маладзіцца перада мною ўздумала.

Параскева ўжо супакоілася. Разглядвала госцю (пэўна, не кожнаму выпадала такая мажлівасць — са смерцю сваёю пагаманіць), сачыла за ёю без асаблівага страху, без асаблівай цікавасці — так, абы не выпускаць з пагляду да апошняга свайго імгнення. Нечага ж яна з'яўлялася ўвесь час на вочы!

— Прызнайся, цётка, не мяне чакала, а старую з касою на плячы, якую некалі на карцінцы бачыла, так? Людзі іншаю ніколі мяне ўявіць не маглі, дзе ўжо ім! — коратка рагатнула госця і, налёгшы на спінку, рэзка адхінулася — так, што скалануўся, зарыпеў пад Параскеваю ложак.— А я з кожным новым глупствам, з кожным злачынным памкненнем людскім маладзею, у красу ды ў сілу ўбіраюся.

— З Марфуткаю, смерць... ты Радзімічы наведала?

— Далася, цётка, табе ў косці Марфутка... Ды такіх марфутак сярод вас ведаеш колькі! — лічыць, не пералічыць. Раней граху, кары за грахі свае хоць трохі баяліся, а цяпер ледзь не з калыскі ўмудраецеся ўразумець, што няма нічога святога — нічога вартага душэўных намаганняў, душэўнае працы.

— Судзіць людзей бярэшся? Ты, якая ніколі не грэбавала нічым і нікім? — баранілася ад яе слоў Параскева.— Слабыя людзі. Неразумныя...

— Ды ўжо ж, за мяне не разумнейшыя! — павысіла голас, загневалася госця, але тут жа ахалынула, скрывіла вусны ў пагардлівай усмешцы.— Не адну, дык другую чуму пад бокам у сябе гадуеце, а туды ж! — годнасць бараніць... Якая годнасць, цётка? Дзе ўзыдзе хоць адзін парастак вашае годнасці, як усю зямлю далёка наперад атруцілі, самі атруцілі? Дзе, я ў цябе пытаюся? Вы, старыя, і так ужо адною нагою ў магіле, а дзеці вашыя, унукі, праўнукі — чым вінаватыя, што маладыя, а то і ненароджаныя ў сырую зямлю палягуць? А? Не ведаеш? Дык я табе скажу, калі ты не ведаеш! Парода ваша, чалавечая, гнусная: усё б хапаць, прысвой-

ваць — сваё і чужое, усё б плоць сваю ненажэрную цешыць то пітвом, то любошчамі, а таго ўспомніць не хочаце, што для іншага створаны, іншым уратаваліся б ад сваёй цемнаты і невідушчасці.

— Ніякая ты не смерць,— ціха і ўсё ж даволі рашуча перапыніла яе Параскева.— Раскаркалася... Паверыць мяне ў гнуснасць уласную ўгаворваць уздумала... Хто ты, як не Марфутка?

— Ды смерць, смерць жа твая, хіба не чуеш?

Яна, не хаваючы пагарды (каму даводзіць, каму спрабуе вытлумачыць свой прыход?), прысела на ложак, пацягнулася рукою да Параскевінага лба, кранулася яго кончыкамі пальцаў — і на лбе выступіў халодны пот.

Цёмнаю глыбаю навальвалася на яе прастора — і ўздых, уздых палёгкі вырваўся з грудзей.

— Лёгка, на ложку, адысці хочаш,— зноў пачула яна і смех і голас госці.— Мо і пашкадавала б цябе, не тузала, ды канец сцежкі твае, цётка, не мне ў цябе з-пад ног выдзіраць: няма мне на тое волі. Так што даслухаць мяне давядзецца, хочаш ці не хочаш. Сумненні ў табе чую, вось і кажу...

Параскева не расплюшчвала вачэй: перад вачыма праходзіла ўсё яе жыццё, і не так, як зазвычай,— з гадоў маленства да старасці, а наадварот — у адваротны бок, назад, да вытокаў, якіх не помніла, не ведала, і таму раптам падумала, што смерць і ёсць вяртанне назад, да вытокаў, у так і не ўсвядомленую невядомасць, якой усё пачыналася і ўсё заканчвалася. І гэта азначала... Гэта азначала, што смерці ў тым разуменні, якое людзі ў гэта ўкладвалі, не было.

— Падманулі цябе, цётка. Вас усіх падманулі, лёгкае, сытае жыццё паабяцалі: лёгкае лёгка і выпетрае, сытае сыта, кепска пераваранаю мярцвячынаю, і адрыгнецца. Вось і адрыгаецца. Казалі некалі пракокі, папярэджвалі, кнігі свае пакінулі, каб розуму і духоўнае сілы іхняе людзі набіраліся, а хто згадвае сёння тыя казанні, дзе сёння тыя кнігі? Замест храмаў корчмы паўсюдна, замест мудрых кніг — сучасныя, у сяго-таго пазалочаныя, карытцы... Добра б, сябе не шкадавалі, зямлі не шкадуеце — зямлю на смерць аддаяце, таго не ведаючы, што яна сябе абароніць, усё-такі абароніць, няхай нават людзей вывесці, вынішчыць давядзецца.

— Што ты? Што ты такое кажаш? — пачала падымацца з падушкі зляканая, абураная яе словамі Параскева і, ледзьве прыўзняўшыся на локцях, цяжка асунулася назад, цяжка задыхала, перамагаючы слабасць.— Ёсць жа — павінен быць! — той, хто ўсё бачыць... хто не дапусціць...

— Дапусціў жа. Упала з неба долу гарачая зорка і ўспыхнула, нібы свяцільня, і святло яе атруціла трэць усіх рэк, азёр і крыніц. І ты — чуеш? — і ты ад гэтага святла паміраеш! Спазнілася са сваёю малітваю, ха-ха-ха! — зарагатала страшная госця, і рогат яе рэхам адскокваў ад сцен, кружыўся, запаўняючы, перапаўняючы хату.— Добрая палова тваіх суродзічаў засвяціліся... Гэткія светлякі-гнілушкі, ха-ха-ха! На страх усім астатнім — як знак таго, што на іх, даўно бязмоўных, бяспамятных, як на зачумленых адусюль пазіраюць... Светлякі-гнілушкі, ха-ха-ха! Пальцам ткнуць — во як цябе, цётка,— і рассыплюцца, ха-ха-ха! Рассыплюцца — і ніякая будучыня не падбярэ: навошта?

Ад злоснага, бязлітаснага смеху стала не па сабе Параскеве — нават боль на нейкі момант адступіў перад крыўдаю: няўжо так награшыла яна ў сваім жыцці, што ў апошнія хвіліны выслухоўвае гэткае? Няўжо і сапраўды няма каму заступіцца за яе, за душу яе перад нячыстаю сілаю?

— Гэта я — нячыстая сіла? Я? — рагатала, знікаючы з вачэй, раствараючыся ў паветры, у белым яго свячэнні, Марфутка (ці тая, каго прымала за яе старая).— Ды я, будзе табе гэта вядома! — ад нячыстага, гнілога і хворага зямлю ачышчаю, каб зараза не заводзілася. Марна шчырую, праўда: ледзь адну заразу прыбяру, чалавек новую адкрывае... Зусім як цяпер... Маё, маё гэта святло ліецца ў хату праз адчыненыя вокны! Падымайся, уваходзь у яго і ідзі, пакуль не дойдзеш — не маёю воляю, Ягонаю...

— Ягонаю? — няўцямна перапытала Параскева, заўважыўшы раптам, што нішто больш не ўтрымлівае яе на ложку, што вакол ціха-ціха і так светла, быццам не праз вокны, а праз драўляныя сцены тачылася, струменіла ў хату святло.

Не так зляканая, як здзіўленая тым, што заснула і прачнулася сярод ночы, збуджаная яе занадта яркім святлом, што ўсё яшчэ мае сілу падняцца, прыўзнялася, села, звесіўшы ногі, на край ложка і нейкі час марудзіла, дрогка намацвала нагамі халодную падлогу: заснула ці не заснула, а вось жа не ўлежала!

Пахіснулася і ўсё ж устаяла на нагах, не абсунулася назад, на ложак. Дыханне з балючым свістам вырывалася з грудзей — не чула, галава, цяжэючы ад непрыемнага камарынага гуду, кружылася — адно сціскала пальцамі скроні, каб які міг перачакаць, і рабіла наступны крок... Ёй бы толькі з хаты, у двор, выйсці! Ёй бы ўдыхнуць поўныя грудзі!

Кожны крок даваўся з намаганнем — з кожным крокам расло, шырылася бязмежжа — за плячыма заставалася пражытае, перацярпелае, перадуманае — і пагляд і душа імкнуліся ўвысь, у залітую белым святлом вышыню, у якой пялёхкаліся, іскрылі, на вачах буйнеючы, зоркі. То адна, то другая раптам зрывалася, падала і, траха не даляцеўшы да зямлі, павісала на нябачнай нітачцы, быццам утрыманая кім у самы апошні момант, і штораз Параскеве здавалася, што яна чула, як уздыхалі далёкія званы — не перамаўляліся, не адгукаліся на гэта падзенне, а толькі ўздыхалі. Ледзь чутна і бездапаможна.

Зоркі, зоркі! Нават святло поўні (мо таму, што яна заставалася крыху ўбаку і свяціла як бы ў Параскевы з-за спіны) не засціла, не аддаляла іх — буйнымі слязьмі скочваліся яны аднекуль з бязмежнай высі і павісалі над самаю зямлёю, нізка-нізка. Калі Параскева ўзіралася ў іх зіхоткую глыбіню, яшчэ больш замаруджваючы хаду, то выразна бачыла адбіткі некалі даўно, як не ў нейкім іншым жыцці, бачанага твару. Адбіткі, размытыя, змытыя на зямлю слязінамі, тут жа знікалі, каб зноў успыхнуць, заззяць наперадзе — і стваралася ўражанне, што сцежка вяла не цераз вёску, не ўздоўж берага Славечны, а ў прастору, угору і ўгору: нездарма ж Параскеве не ставала паветра, нездарма ж яна задыхалася!

Пакінутая ўсімі (а цяпер вось і ёй, Параскеваю) цёмная, ахутаная злавеснымі ценямі, ляжала зямля пасярод цішыні, на самым дне ночы, цяпер ужо надоўга, калі не навекі знямелая, і Параскева не ведала, што рабіць, што зрабіць, каб зняць з яе страшны заклён ці самой застацца з ёю, зліцца з яе самотаю, стаць яе нематою. Падуладная чыёйсьці волі, якой не магла ні пярэчыць, ні працівіцца, яна ішла ўсё ўгору і ўгору, не пазнаючы сцежкі, не чуючы змогі. Самі сабою ўзніклі, загучалі словы:

— Што ж ты маўчыш, Госпадзе? Што ж ты, смерці ўсё жывое на зямлі аддаючы, так зацята маўчыш? Ні галінка скрозь не зварухнецца, ні птушка на тваё дыханне не абзыўнецца... Мо аглухла я? Мо аглушана табою, каб не чуць, як ступае следам, крок у крок за мною, смерць? Дык ці ж смерці я баюся? Маўчання твайго боязна — горш чым праклён яно і для мяне і для зямлі гэтае хворай, абязлюдзелай. За зямлю, за апусцелую вёску душа баліць. Пакуль я была жывою, і яна жыла, не памірала, а як прыбярэ мяне зараз смерць, га? Не адно пустазеллем, лесам зарасце, так? Ці мо і лес тут, на палыселых выспах, не падымецца, белую, мёртвую кроў у падземных раўчуках і крыніцах учуўшы?

Што ж ты маўчыш, Госпадзе? Хто я? Якую зямлю аплакваю? Адкажы мне, бяссілай перад маўчаннем тваім... Імем Айца і Сына...

— Адкажы мне, бяссілай перад маўчаннем тваім... Імем Айца і Сына... Адкажы мне! Адкажы...

Аднекуль узніклае рэха вярнула словы, закружыла іх вакол, заўздыхала, будзячы неабсяжныя прасцягі, будзячы далёкія званы,— і першыя ж глухія, раскацістыя ўдары самага старога з іх абрушылі неба. Параскева яшчэ паспела адчуць мяккі дотык зямлі, убачыла, як нібыта ў адказ на яе малітву, упала і разбілася аб белы камень, што скрозь называлі ў народзе Перуновым, аграмадная, як не ў паўнеба, поўня. Імя, якое невыразнымі літарамі праступіла на надколатым камені, Параскева ўжо не разабрала.

Вечнасць наблізілася, сама падступіла да Параскевы, перш чым яна ўсвядоміла бездань і пад сабою і над... Яна шукала не Бога, як, здавалася б, павінна была, а смерць, якая яго адцясніла, адпрэчыла, умярцвіла, і толькі ў апошні момант зразумела, адчула, што сама прырода, пакрыўджаная, знявечаная людзьмі, пазірала на яе вачыма Бога.

*1991*

# Мечаная

**РАМАН**

> І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым і мяккім пылу дарогі сляды... Але гора вам, людзі, бо даўно затапталі вы іх...
>
> *М. Багдановіч*

1

Дарога вяла ў нікуды. У бязмежжа між зямлёю і небам, населенае невыразнымі ценямі, галасамі, што прамаўлялі якіясь словы, і словы гэтыя былі як шолах полымя, калі яно ўзлятае, пакідаючы пасля сябе попел. Колькі ні ўслухоўвалася Стэфа, нічога не магла разабраць, колькі ні ўглядалася — шэрань і шэрань. Цяжка нават зрушыцца, не тое што зрабіць хоць крок наперад, яшчэ цяжэй адступіць назад, адступіцца: страх утрымваў і адначасова падштурхоўваў у спіну — і ёй даводзілася раз-пораз бездапаможна хапацца рукамі за паветра, стараючыся ўтрымацца на нагах, не сарвацца ў бездань, з якой патыхала гніллю і тагасветным холадам. Яна не памятала, як трапіла на гэтую бязлюдную дарогу, не ведала, ці выберацца калі-небудзь адсюль, з беспрасветнае шэрані. Каб хоць агеньчык дзе!

— Агню! Агню! — зашархацела вакол.

Адзін за адным зацепліваліся, успыхвалі дрогкія агеньчыкі свечак, асвятляючы не дарогу, не прастору між зямлёю і небам, як чакала Стэфа, а сцяну — белыя сцены, што не адразу заўважным рухам выцягваліся ў адну бясконцую сцяну, уздоўж якой, прыкручаныя да яе, стаялі жалезныя ложкі. Адзін, другі, трэці...

— Забойца! Ды гэта ж забойца, якая нават рук ад крыві нашае не адмыла! Зірніце! Зірніце на рукі! — залямантавала, плюнуўшы ў яе бок, жанчына на адным з ложкаў, зусім непадалёку.— Думае, калі завяла рукі за спіну і ліхаманкава трэ адна аб адну, сляды крыві выціраючы, то я не бачу? Думае, не бачу? Ды гэтая кроў ужо ў яе на лбе выступае — з-пад белай доктарскай шапачкі... Душэўнахворыя мы для яе, як жа! Быццам лепш, калі зусім няма душы? А? Зірніце, трупы вакол, на кожным ложку... Гэта яе, яе работа! Чуеце?

— Чаго вочы вылупілі? Заткніце ёй глотку! — як апамятаўшыся раптам і ўцяміўшы, што яна ў бальніцы, супіць бровы Стэфа, адварочваецца ад ложка, ад звязанай санітарамі хворай, і хуткім уважлівым позіркам акідвае палату: не, усё як зазвычай — ніводная з жанчын ніяк не абзываецца на істэрычны віск суседкі. Што ж, яны сваё ўжо атрымалі і цяпер няскора ачухаюцца, гэтая ж... І гэтай нядоўга крычаць. Не тая тут установа, каб бунтаваць, калі ўздумаецца: два-тры ўколы...

— Пусціце! Вам, крывасмокам, маю кроў не высмактаць! Не дамся, чуеце? Мяне ў бальніцу везлі — у бальніцу, а не на бойню! Прэч, нячысцік! Прэч! Ужо крыж святы набліжаецца...

Недаўменна паварочваецца Стэфа да санітараў: што яны — работы сваёй не ведаюць? Рот гэтай наваяўленай прарочыцы заткнуць не могуць?

— Вы што, чорт бы вас... — не заканчвае фразы, раптам пахіснуўшыся і толькі ў гэты момант заўважыўшы, што знаходзіцца зусім не ў бальніцы, не ў палаце, куды ўчора паклалі новенькую, а ў аграмадным, круглым, як барабан, пакоі, які пакручваецца, раскручваецца ўсё хутчэй і хутчэй — за вокнамі ўжо не плывуць, а імкліва мільгаюць размытыя рухам да невыразнасці краявіды, зялёныя пляміны дрэў, усплёскі неба. Як жа яна, Стэфа, дасюль трымалася на нагах? І дзе дзеліся гэтыя чортавы недарэкі?

— Ха-ха-ха! Га-га-а! Гы-гы-гы! — пачынае перакочвацца то пад нагамі, то над самаю галавою (Стэфа нават прыгінаецца міжволі) дзікі, нечалавечы рогат, і, здаецца, кроў стыне ў венах і сэрца спыняецца ў грудзях: вакол жа — нікога. Ні душы. Кола сцяны з няроўнымі проразямі акон, раскручанае невядома кім, і рогат, які перакочвае рэха: — Ха-ха-ха! Га-га-га! Гы-гы-гы!

Яна няўцямна робіць крок убок — і, пахіліўшыся, падае. І сама пачынае перакочвацца, коціцца з месца на месца, па крузе, у кагосьці пад нагамі. Усё хутчэй і хутчэй. Нязграбна спрабуючы заткнуць вушы і не чуць ні гулкіх крокаў недзе над сабою, ні гэтага нечалавечага рогату: вось зараз, зараз апусціцца на яе цяжкі, бязлітасны ступак і яна прачнецца — сон адступіцца... Бо што ж гэта, як не сон? Што?!

— Хіба тыя эксперыменты над людзьмі, над хворымі людзьмі, якімі ты займалася, не злачынныя? — падкідвае, адфутбольвае яе да сцяны чыйсьці ступак (ці голас?), і ўдар на міг аглушае Стэфу. Калі ж яна зноў чуе рыпучы насмешлівы голас, словы не адразу даходзяць да свядомасці.

— Што? — сцінаецца, чакаючы новага ўдару.

Чакаць доўга не даводзіцца. Адфутболеная цяпер да другой, процілеглай, сцяны, Стэфа ўплішчваецца ў яе слізкія, з цёмнымі падцёкамі дошкі і не адкочваецца, як толькі што, назад, а спіной, выгнутым хрыбетнікам прыліпае да іх, бяссіла, бездапаможна тузаючыся, заграбаючы рукамі і нагамі паветра. Няйначай, як злоўленая муха ў павуціне.

— Ну, як? Падабаецца? — абрушваецца на яе з усіх бакоў рогат.— Кампанія нішто сабе?

«Якая кампанія?» — хоча спытаць яна і не пытае — не паспявае: з няяснага мітусення цёмных невыразных плямін пачынае вылучацца, выяўляцца адна фігура, другая, трэцяя... На сцяне, па ўсім крузе яе, гэтак жа, як і яна, Стэфа, падчэпленыя на адну з дошак, тузаюцца, брыкаюцца нагамі ў паветры дзесяткі, сотні жанчын. Так, так, жанчын! — гэта добра відаць Стэфе, і кожная нагадвае злоўленую тлустую муху.

— Як? Падабаецца? Кампанія нішто сабе? — грыміць адусюль.

— Што за д'ябальскія жартачкі? — спрабуе Стэфа засяродзіцца на сваёй здагадцы і перастаць біцца, тузацца на сваім круку.— Калі гэта Галгофа...

— Гал-го-фа?! — гучнее рогат.— Ды каб трапіць на Галгофу, мілая, не адно душу трэба мець, як мінімум, а і сёетое за душою. Ты ж — проста ка́вал мяса, ка́вал плоці, якім калі і спакусіш каго, то ўжо ж не Госпада, га-га-га!

— Ты ж спакусіўся! — крычыць, усю сваю адвагу ўкладвае ў гэты крык Стэфа.— Табе ж на нешта спатрэбіўся гэты кавалак плоці!

— Га-га-га! — раскручвае рогат жахлівае кола. Усё хутчэй і хутчэй. Так, што вецер свішча ў вушах. Яшчэ круг, яшчэ, яшчэ!

Калі раптам пачынае трашчаць, раздзірацца, спаўзаючы з плячэй, блузка і Стэфа зрываецца з крука, са сцяны і падае ўніз, у глыбокі паветраны вір, у першы момант яна адчувае палёгку: не боўтаецца ж больш, бездапаможна сукаючы ў паветры нагамі, а ляціць... Праўда, відаць, не яна адна. Бо вось жа ўжо натыкаецца на нечыя рукі, плечы, ногі — і ўсё часцей, усё балючэй. Так, бы ляціць, падае, абарваўшыся ўніз, уся груда целаў, і ў гэтых сутыкненнях, у гэтых іх адштурхваннях адно ад аднаго праглядваюцца і нечая воля, і нечая мэта. Чыя?

Падзенне замаруджваецца, бездань, куды яна падае, звужаецца і вось-вось зашчэміць, перапыніць шлях: усё

шчыльней аблепліваюць Стэфу жанчыны, іх пульхныя, потныя целы — і хутка яна ўжо не яна, а клубок пераплеценых, паабкручваных вакол рук, ног, грудастых і слізкіх ад поту тулаваў, рух якіх душыць яе, душыць...

— А-а-а-!! — стогнам, немым крыкам вырываецца з грудзей жах — і з глухім страшным грукатам разбіваецца аб дол, аб камяністую, шурпатую цвердзь яго. Жахлівы клубок разрываецца, раскочваецца, і Стэфа нейкі час цяжка, напружана дыхае, узіраючыся ў занадта яркае, сляпучае святло вакол: дзе яна апынулася? Куды патрапіла і як будзе адсюль выбірацца?

— Спакойна, спакойна, хворая,— чуе яна дотыкі спрактыкаваных, жорсткіх рук і разумее, што яе прывязваюць да кропельніцы.— Адсмокчам лішнюю кроў — і запаленне крыві пачне згасаць, стане менш небяспечным.

— Якое запаленне?! Я ж не хворая! — спрабуе Стэфа прыўзняцца, разгледзець таго, хто шчыруе над рознымі трубкамі, і не можа: яна прывязана, прывязана да ложка шырокімі рамянямі.— Развяжыце мяне, чуеце? Зараз жа адпусціце!

— Спакойна, спакойна,— апускаецца на лоб чыясьці халодная, ледзяная рука.— Гэта ж самая простая працэдура на сённяшні дзень: адсмокчам лішнюю кроў і...

— Не-е-е! — б'ецца яна на ложку, напружваючы, ірвучы жылы ў непасільным намаганні, і бачыць, як кропля за кропляю ўжо точыцца ўверх па празрыстай трубцы кроў — яе, Стэфіна, кроў.

Трубкі, трубкі! Яны вычварна сплятаюцца, выпінаюцца, абвіваючы Стэфу, яе крык, яшчэ шчыльней прывязваючы да ложка,— яна ўжо і зварухнуцца не можа, і дыхае з цяжкасцю. «Усё... канец...» — мільгае ў думках адчайнае, бездапаможнае, і яна нават не спрабуе бараніцца.

Жывуць толькі вочы, адно толькі вочы: Стэфа не хоча бачыць і бачыць, як палата напаўняецца наведвальнікамі — хворымі ў доўгіх бальнічных сарочках. Усіх іх — і ціхіх, з бяссілымі, скаванымі, як у самнамбул, рухамі, і нервова ўзбуджаных, з апаленымі шалёным бляскам вачэй тварамі — зганяюць сюды, няйначай, з усіх Навінак. На памінкі па ёй, ці што? Дык жа яшчэ і рана нібыта, яшчэ ёй вачэй ніхто не закрыў...

— Глядзі, глядзі! Яны не пашкадуюць цябе, бо ты іх ніколі не шкадавала,— не хаваючы смутку, прамовіў хтосьці зусім побач, і Стэфе здалося, што яна пазнала матчын голас. Маці? Тут? — Хвароба не пытае парады ва Ўсявышняга, а ты заслужыла і гэтую іх абыякавасць, і гэты іх гнеў.

— Гнеў? — варухнула яна вуснамі і сама не пачула свайго голасу.

— Забойца!

— Яна ж забойца! — пакаціўся праз натоўп, ад хворага да хворага, гучны шэпт.

— Бач, схавалася! Крывёю хоча адкупіцца! Мала, мала яе крыві! — залямантаваў хтосьці, зрываючыся на віск, і натоўп, як падхліснуты гэтым віскам, рушыў на Стэфу, да ложка яе.— Крышы ўсё, браткі! Рві, ламай гэтыя ненавісныя трубкі!

У паветра, распырскваючы цяжкія чырвоныя кроплі, паляцелі пазрываныя трубкі — рукі, мноства рук прадзіраліся праз іх клубок да Стэфы, да яе высмактанага гэтымі трубкамі цела, а яна па-ранейшаму не магла зварухнуцца, толькі пазірала на буйства распаленага нянавісцю натоўпу, марна спрабуючы позіркам, у якім боль перамешваўся з жахам, адштурхнуць хоць бы самых ашалелых, сляпых у сваёй жорсткасці. Вось зараз! Зараз!

Рукі, мноства рук засцілі ўжо не толькі ўсё вакол, але і раз'юшаныя твары хворых з падцёкамі цёмнага поту на іх — Стэфа бачыла толькі злосныя звівы іх, ды яшчэ падоўжаныя, выцягнутыя пальцы, пазногці, што сінім адлівам нагадвалі драпежныя кіпцюры і раслі, люта паблісквaючы пры набліжэнні.

— Вочы, вочы ёй выдзірайце!

— Галаву назад, тварам уніз павярнуць трэба, як даўней з клятваадступнікамі рабілі!

— Мне, мне дайце!

Калі адразу, разам з крыкамі ўпіліся пазногці ў твар яе, у грудзі, раздзіраючы іх, крык Стэфін, быццам вызвалены пякучым болем, скалануў палату.

— А-а-а-а! — выдзіраўся, рваўся ўгару страшны, нечалавечы гэты крык, а рукі тузалі яе, пальцы пазногцямі ўпіваліся ў цела...

— Ды прачніся, прачніся, грамадзяначка! Пад'язджаем ужо,— будзіў яе чыйсьці ўстрывожаны голас, а Стэфа, лыпнуўшы вачмі, адно і ўразумела ў першы момант, што спала, што дасюль, невядома чаму, зашчэмлена паміж дошкамі, паміж цяжкімі паліцамі.— Прыснілася што-небудзь з перажытага? А? У цягніку здараецца. Духмень жа нясцерпная!

«Духмень,— пагадзілася ў думках Стэфа.— У цягніку здараецца. А я ў цягніку. На верхняй паліцы... І гэта — суседка па купэ, мітуслівая старая, з якой я мусіла з вечара памяняцца паліцамі, квохча побач».

— Усе бакі змуляла,— павярнулася да старой, намацваючы рукою халат.— А пад раніцу прыснілася хто ведае што... Патрывожыла, мабыць вас, так?

— Патрывожыла? Не, тут іншае.

«Што іншае?» — хацела спытаць Стэфа, і, нібыта збаяўшыся адказу, не спытала. Зіркнула на пустыя матрацы насупраць (выйшлі раней спадарожнікі па купэ ці проста ўсталі ўжо), паціху ссунулася з паліцы, саскочыўшы на падлогу. Адкінула сцягнуты з плячэй халат, пачала апранацца.

Сон адступаўся. Калі яна прыціснулася лбом да халоднага аконнага шкла ў калідоры, з няўцямным смуткам узіраючыся ў краявіды Полаччыны, цьмяныя ў шэрым світальным святле, то ўжо забыла і пра сон, і пра пераблыты ў ім жах.

Няспешна наплывалі, на міг застывалі перад самым паглядам пералескі і, ссунуўшыся назад, знікалі, раствараліся ў празрыстым ветры, а іх месца займалі зарослыя лазняком балаціны ці невысокія ўзлобкі, разлінаваныя шнурамі пажухлага ўжо бульбоўніку. І зноў пералескі, светлыя там, дзе трапляўся беразняк, ці больш змрочныя ў акружэнні кашлатых, добра ўжо замшэлых ялін.

І было ў гэтай змене святла і замшэлага на камлях ялін змроку штосьці, што, і не разгаданае, не названае, прыкоўвала Стэфіну ўвагу. Неадрыўна пазірала яна ў акно, быццам усё ж хацела зразумець, знайсці разгадку. Хацела — і не магла. Яе і світанак падзяляла, размяжоўвала не толькі шкло, а яшчэ і сцяна адчужэння, даўняга, сотні разоў за жыццё апраўданага адчужэння. Прырода жыла сваім, сама па сабе, яна, Стэфа, таксама. Што магло іх зрадніць?

2

Ведаць не азначае памятаць. Яна ведала, што Збавіцель прыходзіў. Што гаварыў з ёю. Што сказанае ім тады і ўтрымала яе на зямлі, кожны раз змушаючы вяртацца да яе адусюль, куды заваблівала зіхоткая ад святла прастора. Адкуль ведала, чаму нічога, нічагуткі не ўспаміналa пра той Яго прыход, не задумвалася — навошта? Ён прыходзіў. Ад таго і неба павышэла і заіскрылася, і рака весела плюскоча ў зарослых аерам берагах, і апошнія сёлета кветкі высока трымаюць свае галоўкі, назіраючы за тым, як птушкі гуляюць са стужкамі ветру. Вунь іх колькі, гэтых стужак! — ярка-сінія, блакітныя, белыя, бела-ружовыя, крамяныя... Якой ні кранісся — затрымціць, забруіцца ўвысь, выгінаючыся, уплятаючыся ў стракаты клубок прасторы — і з ёю,

разам з ёю затрымціць, закружыцца ранак, закружваючы ў сваім руху стрыжоў, першыя залацінкі лісцяў, вясёлыя дымкі, ае, Нялюбу. Ці ж не любата!

Лета заканчваецца? Ну і што! Наляцяць халодныя ветры — здзьмухнуць, узвеюць мноства даспелых, нават і ў сваёй прыжухласці вогненных лістоў і лісцікаў, высока над сабою ўскалыхнуць птушыныя чароды і, прыспешваючы, пагоняць іх адвечным асеннім шляхам туды, дзе нараджаецца іх туга па родных мясцінах, дзе нараджаюцца іх песні. Запалае, запалымнее ўсё вакол — ад ломкай рыжай пожні да стромых вершалін дрэў, ад высланых лісцем і птушыным пер'ем сцежак да шматслойных, шматфарбных аблачын на ўзмежку ночы — і засмяецца, заплача неба: перш светлымі і звонкімі, потым пацяжэлымі, цёмнымі слязьмі, і як светлым слязам, так і познім, набраклым шэранню, узрадуецца, будзе радавацца зямля, прадчуваючы зараджэнне новага жыцця.

Зіма абгоніць восень? І няхай абганяе. Павінна ж ад краю да краю зямлі разліцца цішыня! Марозная, чыстая, звонкая, яна скуе пагоркі і рачулкі, раскіслыя палі і дарогі, і на першы хрусткі лядок іх зацярушыцца, пасыплецца святло — само нябеснае святло, кранутае дыханнем бязмежжа. Умомант усё пачысцее, зменіцца — толькі і чакай самых неверагодных дзівосаў: то зачэпіш галінку — і асыпле плечы зіхоткае ад сонца срэбра, то правалішся некуды ніжэй сцяжыны і ўгрузнеш у мяккім пухавіку, разглядаючы дзівосных снежных матылёў, то паслізнешся на лядку і злякаеш яркагрудага снегіра з мерзлаю ягадкаю каліны ў дзюбцы, то не надзівішся на надыханыя нябачнымі нябеснымі гасцямі ўзоры на аконным шкле, спрабуючы разгадаць іх малюнак, то змушана ўслухоўвацца ў чароўныя гукі, не адразу і ўразумеўшы, што гэта вецер іграе на сваім грабянцы, кранаючы, выцягваючы з-пад снежнага насцілу на страсе празрыста-блакітныя ледзяшы... Ды ці мала дзівосаў узімку!

Пра вясну ж і казаць няма чаго: кожнае імгненне здараецца хоць невялічкі, але цуд. Цуд першага ручайка, які адхуквае, адтайвае ў снезе сваю сцяжынку. Цуд першае пралінкі на самым адкрытым небу ўзлобку. Цуд першага кволага парастка ўсемагутнага пырніку, першага альховага лісціка, першай пралескі. Цуд абуджэння магутнай ракі, калі цямнее, набухае, лопаецца ўздоўж па хрыбце і пачынае рвацца, рваць зімовыя ковы лёд, узрываючы, ссоўваючы, крышачы аграмадныя крыгі, якія, напаўзаючы адна на адну, сунуцца, плывуць за акрыялаю плынню да сцен Сафійскага сабора і далей, у бок далёкага халоднага мора на поўначы.

А вясёлыя капяжы ўсюды, куды зазірае сонца! А прылёт птушак! Радасць надараецца штодня, штохвіліну — і не заўважаць яе? Не прымаць з захапленнем і ўдзячнасцю?! Дык жа адно на тое і дадзена жыццё, каб любіць усё вакол, любіць усім сэрцам, адчуваючы кожнае імгненне і радасць і ўдзячнасць за яе. Дзіўна, што гэта не ўсім льга давесці. Хоць бы і Стэфе...

Успомніўшы пра маці, пра тое, што яна прыехала забраць яе ад бабулі ў Мінск, да сябе, Нялюба нейкі час марна спрабуе адагнаць, сагнаць з твару цень аблачынкі: што ёй рабіць у Мінску, у гэтым аграмадным каменным горадзе, калі ёсць Дзвіна, і Сафійскі сабор на стромым яе беразе, і дарога святой Ефрасінні, па якой ідуць і ідуць у вечнасць стагоддзі, і вось гэтая прастора зямлі і неба, злітая ў адно магутным рухам увысь, у бязмежжа?

«Стэфе патрэбна твая дапамога, твая прысутнасць»,— усё, што сказала ў адказ на яе пратэст, на ўсе яе мольбы бабуля, і не голас яе, рука яе лёгенька ўздрыгнула ў Нялюбы на плячы.

«Але ж яна не любіць мяне,— пярэчыла дзяўчынка.— Ад таго, каго не любяць, дапамогі не прымуць».

«Ты памыляешся, дзіця. Ты хутка зразумееш, што памыляешся,— ласкава хінула яе да сябе бабуля.— Кожнаму Бог даў душу, не кожны яе чуе...»

Чуе, не чуе... Не глухая ж Стэфа ад нараджэння! Душа ў яе глухая, бяскрылая — вось і не можа развінуць крылы і ўзляцець, хоць зрэдку ўзляцець, атросшыся ад зямнога пылу і шуму. Вось і трымаецца слоў, заўсёды лжывых і пустых, вось і не чуе нічога за імі. Чым тут дапаможаш?

«Маці яна твая. Пра гэта, дзіця, памятай»,— паўтарала і паўтарала бабуля, пазіраючы не на яе, Нялюбу, а на абраз святой Багародзіцы, які вісеў над сталом, у куце, і з-за кволага агеньчыка лампады выдаваў жывым, рухомым, і Нялюбе здавалася, што гэта не бабуля прамаўляла, а яна, Багародзіца, незнаёмая і чымсьці блізкая, родная нават, дадзіла: «У любві ці ў нелюбві цябе зачала, а маці яна твая, Нялюба...».

Маці, канешне. І што б там ні бараніла старая прымаўка: «Не тая маці, што нарадзіла...», неаднойчы памянутая ў гаворцы з бабуляю, а ад гэтага факта не абароніць. Ехаць у Мінск давядзецца: не яна, Нялюба, выбірае, а і ў сабе пярэчанняў больш не знаходзіць. Лёс, значыцца. Гасподзь, значыцца, таго хоча.

З-пад ног выпырхнула пташына, і не адразу пазнала ў ёй Нялюба сваю сяброўку малінаўку: устрывожаная нечым,

мітусліва кідаецца, носіцца ўверх-уніз перад самым тварам, быццам шлях ёй загароджвае, быццам папярэджвае...

— Што здарылася, маленькая? Гняздо ж тваё не тут,— выпрастала руку Нялюба, запрашаючы малінаўку прысесці, супакоіцца, але тая, як не заўважаючы рукі, моўчкі, не падаўшы голасу, білася па-ранейшаму ў паветры.— Ну што, што ты хочаш сказаць?

Прасачыўшы за яе рыўком, за яе падзеннем уніз, засмяялася: у траве — іх падзяляў толькі крок — на ўсохлай за лета валежыне грэлася гадзюка, занадта мірная, каб зварухнуцца без асаблівае патрэбы.

— Дык гэта гадзюку ты ўгледзела, палахліўка? Яе, старой, спалохалася так, што трымціш, як асінавы лісток? — паддражніла малінаўку смехам.— Сядай лепш, адпачні. Не будзем трывожыць з-за такога недарэчнага здарэння раніцу, а?

Малінаўка села на выпрастаную руку, яшчэ колькі раз зіркнула ўніз, на валежыну, так, нібыта хацела пераканацца, што адтуль і сапраўды не сыходзіць небяспекі, успырхнула, адляцела, потым зноў вярнулася, запрашаючы, вабячы за сабою. І калі Нялюба, усміхаючыся, рушыла следам, радасна залопала крылцамі, закружылася, запырхала над ёю, каб праз міг-другі матлянуцца ўбок, у цень старой, добра палыселай вярбы і знікнуць.

— Ты ж не развіталася,— гукнула ёй услед дзяўчынка.— А я ад'язджаю...

Апошнія словы прагучалі так ціха, што і сама яна ледзьве пачула, але ў адказ зверху, з галінкі, урослае ў нябесную шыр, палілася песня: малінаўка дарыла ёй разам з зіхоткім ранкам, разам з высокім небам песню — і не было ў гэтай песні расстайнага смутку, зусім не было.

— Ну, канешне ж, мы не развітваемся,— зразумела Нялюба.— Я вярнуся. Я прыеду... Ты ж таксама адлятаеш кожную восень, а восень — вунь яна, восень, за які пералёт адсюль.

Сказала, ці падумала, і сама не вызначыла. Ну, ды гэта было, па сутнасці, адно і тое ж: Нялюба ўжо пабегла пералескам да ракі, шырока, як крылы, раскідваючы рукі,— і ўсё наўколле ўмяшчалася ў гэтых узмахах-абдымках, і ўсё наваколле звінела ад вясёлых, радасных усплёскаў яе маленькага сэрца, птушыных песень і ўзвеваў ружовага ранішняга ветру.

— Зя-ям-ля-я! Ма-ая-я! — раз-пораз кружылася, пакручвалася Нялюба, і неба паварочвалася, пакручвалася вакол, і сонца сцякала па руках на плечы, пакуль не ўгнуліся,

не абвялі яны пад нязвыклаю ношкаю, перагінаючы, перакульваючы дзяўчынку ў траву.— Бог мой, як хораша! Якім святлом перапоўнена душа!

Знерухомеўшы, застыўшы на траве, пад ліўнем сонечнага святла, нягледзячы на тое, што слепла, усё відочней слепла ад нясцерпнага ззяння і аднекуль набеглых слёз, Нялюба ўглядвалася ў недасяжную вышыню над сабою, у бездань яе, якая гукала, якая так даўно вабіла яе, і, здаецца, сэрцам, памкненнем увысь, сляпым, засланым слязьмі паглядам узносілася, падымалася ўсё вышэй і вышэй: перш над прыкамечанымі шорсткімі травінкамі, потым над прыбярэжнымі вербамі, каржакаватымі і галінастымі, потым над усім дзвінскім узбярэжжам, быццам зморшчынкамі, пасечаным раўчукамі і рачулкамі, наскрозь, да самага пясчанага дна празрыстымі — празрыста-блакітнымі ад патанулых у іх промнікаў неба. Карціна, якая адкрывалася вачам, да болю знаёмая і незнаёмая адначасова, шырэла, мянялася, знікала і зноў з'яўлялася, то патанаючы ў бязмежжы, то зноў пакалыхваючыся ў яго на крыле,— Нялюба чула, адчувала мяккія, ледзь чутныя дотыкі, чула галасы, шмат галасоў, і ўсё ніяк не магла ўцяміць таго, што яны прамаўлялі, аб чым прасілі. Так, так, прасілі! — вось толькі чаго? За каго? Яна нават уздыхнуць баялася, не тое што ўзяць і запытацца як ні ў чым не бывала...

— Лю-у... Ня-люба-а! — данеслася да яе гуканне, і яна са здзіўленнем пазнала голас Тофіка — Антона Сінькевіча, свайго аднакласніка: ён тут — адкуль? Ён жа не ўмее лётаць!

— Ну, ты даеш! Добра, што я твае сцежкі ведаю.

Расплюшчыла адно вока, потым другое: Тофік. Уласнаю персонаю. Узмоклы, задыханы, нават крыху, самую крышачку разгублены — так, быццам штосьці здарылася.

— Што-небудзь здарылася? — прыўзнялася, а потым і села, падкурчыўшы пад сябе нагу, спакойна ўтаропіўшыся ў хлопца.— Пажар? Землятрус у нашых паўночных шыротах? Ці мо гром грымнуў сярод яснага неба, заклапочаных сваімі справамі палачан напужаўшы?

— Ты... хіба не ад'язджаеш сёння? — стараўся ён выраўняць дыханне і прыняць больш незалежны выгляд, але нічога не атрымлівалася: распатланая чупрына колеру спелага аўса не паддавалася пяцярні, якой ён, як заўсёды, прыгрэбваў, прыгладжваў яе, кропелькі поту на лбе і ўкруг носа нагадвалі вяснушкі, якіх і без таго хапала, шэрыя ў ледзь прыкметную крапінку вочы неспакойна абмахваліся светлымі рэдкімі вейкамі. Жар ад твару не адхлынуў, голас, калі ён, не дачакаўшыся адказу, прадоўжыў гаворку, здрадліва,

не па-хлапечы ўздрыгнуў: — Я толькі цяпер, колькі хвілін таму дазнаўся... калі зайшоў да вас. Баба Зіна сказала.

— І што? Ты не паверыў ёй?

Ён заматаў галавою, зноў, ледзь зіркнуўшы на яе, адвёў пагляд і, сціснуўшы глыбока засунутыя ў кішэні пальцы ў кулакі так, што кішэні як не павытыркаліся вонкі, пачаў насвістваць нейкі матыў і адышоўся. Бліжэй да берага. Каб яна, чаго добрага, не засмяялася, не падняла яго, як яшчэ толькі месяц таму, калі ён паспрабаваў абняць яе за плечы, на смех. Каб, чаго добрага, і на хвіліну не падумала раптам, што ён...

— Вось і я дасюль не магу паверыць,— ціха азвалася Нялюба, падымаючыся з зямлі і агладжваючы сукенку.— Не магу і павінна... Ну, я пайшла?

— Куды, можа, скажаш? — амаль што абыякава, ужо ўзяўшы сябе нарэшце ў рукі, пацікавіўся Тофік.

— Я ж яшчэ ні з кім не развіталася.

— З кім гэта «ні з кім»? — перастаў ён насвістваць.

— З Палатою, з Сафійкаю, з Дзвіною вось, з прапрапрабабкаю Ефрасінняю... Мне лепш адной, самой, разумееш?

— Дк ідзі... Бяжы! Ляці! Мне што? — пакрыўдзіўся сябра.— Я ж не прапрапрабабка Ефрасіння, на якую ты молішся.

— Яна заслугоўвае не адно мае малітвы,— ціха, апускаючы галаву, мовіла яна,— і ты гэта ведаеш не горш за мяне. І дарэмна злуеш: я знайшла б хвілінку, каб забегчы развітацца.

— Вельмі трэба! — буркнуў Тофік, хаваючы вочы, у якіх паблісквалі здрадлівыя агеньчыкі.

— Дурненькі, ты зараз жа і пашкадуеш пра свае словы... Бывай. Я не ў крыўдзе. Я ведаю, што ты хацеў мне сказаць і не сказаў,— засмяялася лёгка і весела і ўспырхнула — толькі белая ў сінія гарошынкі сукенка матлянулася між кустоў вербалозу. Матлянулася і знікла. Нялюба ж, нястрыманым, імклівым рухам нагадваючы вялікую белую птушку (а мо яна і была птушкаю?), ужо спускалася па стромым беразе ўніз, да вады, ужо зноў злівалася з раніцаю, раставаралася ў яе святле.

— Нялюба, пачакай! Ды пачакай жа! — блытаючыся ў лазовым вецці, кінуўся Тофік да абрыву.

— Я ведаю, што ты хацеў мне сказаць! — даляцела да яго ўжо аднекуль здалёк і, слепнучы ад зіхоткага ззяння, нідзе, колькі ні ўглядваўся, нідзе не ўбачыў хлапчук белае, белае ў драбнюткія сінія гарошыны сукенкі.

А Нялюба, скінуўшы лёгкія пантофлікі, дзе па пяску, сухім і шорсткім, дзе, каб абмінуць зараснікі густога лазняку ці замшэлыя слізкія камянюкі, вывернутыя стромаю, па вадзе, ужо даволі халаднаватай, спяшалася ўніз уздоўж Дзвіны да той шырокай водмелі, за якою будзённа, добра-такі абмялеўшы за прамінулыя стагоддзі, злівалася з Дзвіною Палата, рачулка, чыім імем назваўся некалі горад.

Пэўна ж, іншай, мнагаводнаю была яна ў тыя часы, бо там, перад вусцем, глыбока ўразаліся ў груд яе берагі, цяпер зарослыя вербамі, зрэзаныя драўлянымі сходамі і мастками, а то і паскочванымі ці павымыванымі хто ведае калі валунамі або нават так-сяк прыхаванымі кустоўем кучамі смецця.

Не, і сёння Палата вабіла да сябе — няхай не аматараў адпачынку з вудаю ці лодкаю, дык аматараў гісторыі, захопленых трагічным у сваёй велічы мінулым гэтага краю і тутэйшага люду, і хоць Нялюба не любіла іх (вечна корпаліся ў зямлі, выкалупваючы з яе схаваныя стагоддзямі святыні), але не пазбягала тых рэдкіх сустрэч, якія выпадалі: паслухаць каторага з іх, хоць бы і старога падслепаватага Міколу Савіча, было цікава.

Шмат пра што з таго, аб чым, гадзінамі разглядваючы які-небудзь гліняны чарапок, разважаў Мікола Савіч, яна і сама думала неаднойчы. Пра тое, да прыкладу, што многія падручнікі і кнігі аднабакова, а то і зусім ілжыва тлумачылі падзеі далёкіх і не вельмі далёкіх часоў, абы не ўзнікла ў такіх, як яна, думкі пра дзяржаўнасць, здабытую і сцверджаную некалі даўно палачанамі, пра магутнасць іх дзяржавы і іх культуры. Толькі ж усё роўна ўзнікала — цераз продкаў, цераз любоў да іх: на любоў жа ніхто ніколі не мог пасягнуць.

«Не мог і не можа!» — думала яна, і ўспыхвалі, загараліся ўкруг перш чым абляцець, асыпацца пад ногі, вадзяныя пырскі. «Не мог і не можа!» —падхоплівалі, мітусіліся, скакалі вакол бліскі, сонечныя водбліскі. «Не можа! не можа!» — пацвярджалі, разблытваючы, адцягваючы ўбок стужкі ветру, імклівыя стрыжы, і сэрца ў грудзях у дзяўчынкі бомкала, гуло, як раскалыханы магутны звон, адзін са званоў Сафіі, што адкрылася ўжо яе вачам, велічная ў сваім вечным, нязгасным характве.

Сафійскі сабор, Сафійка... Неаднойчы разбураная прышлымі з захаду ці ўсходу варварамі, кожны раз адбудоўвалася яна, узводзілася наноў. На старых мурах. На старым падмурку. І хоць мяняла сваё аблічча і сваё ўбранства, усё больш паходзячы на чужаземку, ні велічы, ні характва не

страціла, залатымі сваімі крыжамі, як і тысячу гадоў таму, бласлаўляючы неба і тых, хто жыў пад ім на гэтай шчодра засеянай камянямі і касцьмі зямлі.

Нялюба ведала пра яе ўсё, што можна было ўведаць у яе ўзросце і тут, у даўно не стольным Полацку, якому ні Кіеў, ні Ноўгарад, ні значна маладзейшая Масква больш не кланяліся, у сваёй пагардзе не згадваючы ні ягонага імя, ні ягонай колішняй магутнасці: гісторыя ж, на думку многіх, тым і цікавая, што яе можна перапісваць па шмат разоў і таму, каму ўздумаецца, усякі раз па-свойму. Вось і перапісвалася, перакройвалася, калі не тое што пэўныя часавыя прамежкі, цэлыя эпохі выдзіраліся з Кнігі Жыцця — старонка за старонкаю, летапіс за летапісам. Дзе сёння Полацкія летапісы? У каго з суседзяў пытаць?

Павольна, нага за нагу, стараючыся не ўздымаць пырскаў (падол сукенкі і так ужо намок і ліпнуў да каленяў), ішла Нялюба па цёмнай дзвінскай вадзе і вачэй не магла адвесці то ад самой Сафійкі, то ад яе белага адбітку на люстраной воднай паверхні, які гэткаю ж белаю птушкаю з ускінутымі крыламі, гатоваю ўзляцець і паплыць уверх, вышэй і вышэй, ледзь прыкметна пакалыхваўся ў сонечным мроіве. Так, так, не на хвалях, а ў сонечным мроіве, перавернутым, перакуленым уніз, пад абрыў, да падножжа магутнага камяністага груда, на якім пазначыў некалі месца для храма Усяслаў. Усяслаў Чарадзей, як называлі князя і ягоныя сябры і ягоныя ворагі.

Кім даводзіцца яму яна, Нялюба,— кім даводзілася б, калі б льга прасачыць змены пакаленняў на працягу дзевяці стагоддзяў, пра гэта і думаць не варта. Гасподзь ведаў: сястрою...

Чым бліжэй падыходзіла Нялюба да храма, тым вышэй ён узносіўся ўгору, быццам вырастаючы з зямлі, з камяністага ўзгорка. «Ну ж, ну,— шаптала, аднымі вуснамі прамаўляла дзяўчынка, быццам падштурхваючы яго,— узлятай!» Але ўзлятаў не храм, узлятала, падымалася над яго сценамі яна, Нялюба,— зноў, як усякі раз, калі апыналася побач, паміж Сафійкаю і яе адлюстраваннем у Дзвіне, няспешна ўзмывала ўгору. Так блізка ад белых муроў, што адчувала іх не астылае занач цяпло, бачыла прамяністае свячэнне. Вось ужо калыхнуліся — золатам на сіні! — крыжы, і тут жа выступіла, стала праясняцца над імі выява знаёмага твару, спакойнага ў сваёй трагічнасці, якім пазірала на дзяўчынку, узіралася ў яе неба.

— Я не развітваюся. Я плоць Твая, іскра душы Тваёй...

Словы, малітоўныя словы расстання і набліжэння, згас-

лі не адразу. Перш чым яна адчула, што зноў стаіць на пяску, зноў чуе плёскат дзвінскіх хваляў, Нялюба выразна ўбачыла, як знікае, раствараецца ў прасторы, у вышыні — у памяці — той твар, і толькі пагляд, бяздонны пагляд мудрых усёвідушчых вачэй не адступаецца, падтрымвае яе, яе вяртанне на зямлю.

— Ты што, спіш на хаду, сястрычка? — спыніў Нялюбу не так раздражнёны, як насцярожаны голас.— Не кінься я напярэймы — так і напаролася б на вуды.

Змаргнула расінкі нячутных слёз — незнаёмец. Не палетняму цёпла апрануты: з-пад штармоўкі выглядваў тоўсты світар, у высокіх гумовых ботах... Заступіў дарогу, хмурыцца, разглядваючы яе, а ў куточках сініх, як гэты ранак, вачэй цепліцца лагодная ўсмешка, якая быццам падсвечана глыбокім ззяннем.

— Прабачце,— памкнулася яна абмінуць мужчыну.— Я, напэўна, глыбока задумалася і не заўважыла...

— Спадзяюся, усё ў парадку?

— Усё ў парадку. Дзякуй.

— Ну, ну,— зайшоў той глыбей у ваду, прапускаючы Нялюбу.— А то я падумаў быў...

— Не, не, дзякуй! — усміхнулася яна сваім думкам.— Я зусім не русалка, запэўніваю вас. І падобныя моманты надараюцца нячаста. На жаль, не так часта, як хацелася б.

Апошняе прагучала ціха, ледзь чутна, так што і сама яна не расчула, але ў вачах у незнаёмца мільганула падазронасць, мільганула і знікла. Мо адно таму, што Нялюба і не пазірала ўжо на яго: кіўнула і прайшла, не заўважаючы, што па-дзіцячы няўцямна прыціскае да грудзей свае лёгкія пантофлікі, знятыя, ледзь толькі спусцілася да вады. «Так і напаролася б на вуды...» На якія вуды? Ніводнае вуды ў вадзе яна не абмінала.

Азірнулася — незнаёмец стаіць там, дзе і стаяў, і задумліва пазірае ёй услед.

— Ты хто? — гукнуў, убачыўшы, што яна азірнулася.

— Нялюба.

— А-а-а...

Размова гэтым ягоным, крыху ніякаватым «А-а-а...» і закончылася, бо яна адвярнулася і рашуча пашыбавала далей, крокаў праз дваццаць выбраўшыся на пясчаную водмель, якую падмывалі стрэчныя хвалі Палаты і Дзвіны. Атрэсла далонямі пясок з ног, абулася і, зрэдку чапляючыся то за сцяблiны хмызняку, то за гнуткую лазіну, пачала падымацца па схіле наверх, да нешырокага драўлянага мастка,

якім намервалася перайсці на той бераг, каб прадоўжыць шлях, цяпер ужо берагам Палаты, вакол горада, да таго месца, дзе і сёння стаяла збудаваная яшчэ ў дванаццатым стагоддзі Спаса-Ефрасіннеўская царква,— трохі вольнага часу ў яе яшчэ заставалася і яна паспявала на спатканне з ёю.

3

Дзень разгараўся так хутка, што абганяў час. Сонца ўжо як не другую гадзіну нерухома стаяла ў зеніце, хоць яшчэ і на другую палову дванаццатай не пераваліла, і Стэфа, якая і так нудзілася ў чаканні вечара, вячэрняга цягніка, не-не і незадаволена зіркала ўгору: што яно там, заснула?

Родныя мясціны, матчына хата... Даўно не закраналі яе споміны пра іх: ні Полацка, задымленага, забруджанага атрутнымі выкідамі нафтаперапрацоўчага завода, ні гэтае састарэлай матчынай хаты яна не любіла — за што іх любіць? Правінцыя. Задворак, можна сказаць. І чарапкі гісторыі, якія паўсюдна трапляліся тут, нярэдка проста валяючыся пад нагамі, не больш чым труха былых, няхай сабе і вялікіх, часоў, нікому, апроч некалькіх гісторыкаў, непатрэбная сёння труха. І той, хто гаворыць іншае, хлусіць. Хлусіць і сабе, і нашчадкам: ні Полацкае, ні Вялікае Княства Літоўскае на гэтай зямлі не адродзяцца, і марна ўскладаць спадзяванні на гісторыю і наваспечаных адраджэнцаў. На якое адраджэнне можна спадзявацца, калі трэба б гаварыць пра перараджэнне, а то і поўнае выраджэнне нацыі: мала было шматвекавога прыгнёту, чарнобыльскае атруты кожнага глынуць змусілі...

Думкі звыкла, лена варушыліся, вярэдзячы і ўсё ж глыбока не закранаючы душы: рэха даўно адгучалых студэнцкіх спрэчак, пра якія і згадвацца не згадвалася каторы ўжо год. Каторы? Шаснаццаты... Не, семнаццаты. Калі не ўсе семнаццаць. Дачцы ж спаўняецца шаснаццаць ужо недзе ўвосень!

Дачка... Яе, Стэфіна, дачка? Гэта часам Стэфе самой здавалася неверагодным: ёй жа толькі трыццаць шэсць — адно ў сілу ўвабралася. Пры чым тут дзяўчынка? Без яе яна вырасла, ні тварам, ні характарам Стэфу не прасачыўшы...

— Нялюба не вярнулася? — з парога, не паставіўшы на лаўку напакаваную нечым карзіну, спытала маці, і Стэфа падняла на яе спакойны, поўны дакукі пагляд.— Нялюбы што, няма ў хаце?

— Зранку некуды зляцела,— падбірала Стэфа словы.— Сёння я яшчэ не бачыла яе. Як і ты, напэўна.

— Развітваецца,— стомлена апусцілася побач з пастаўленаю на лаўку карзінаю старая, і тое, што яна так пастарэла, так здала за апошні год, упершыню кінулася Стэфе ў вочы.

— Развітваецца? — няўцямна перапытала, уважліва ўглядаючыся ў матку.— З кім?

— З горадам,— не зразумела тая яе насцярогі, але адказала.— З небам над ім.

— З небам? Ты нешта не тое кажаш, мама,— зрабіла выгляд, што па-сапраўднаму ўстрывожана.— Табе не здаецца...

— Адно мне здаецца, Стэфа: ты ніколі не зразумееш свайго дзіцяці, бо ніколі не палюбіш дзяўчынку, як магла б, як абавязана была б палюбіць.

— Мама!

— Не, паслухай! — ціха, але цвёрда, абапіраючыся на стол абедзвюма рукамі, прамовіла старая, і штосьці ў яе ў голасе, у яе звароце змусіла Стэфу змоўкнуць і прыслухацца.— Усе гэтыя гады, усе шаснаццаць гадоў я нястомна дзякавала Богу за пасланае мне дзіця — за тваё дзіця, Стэфа. Пасланніцаю неба, пасланым мне анёлам прыняла яго ў гэтай хаце, анёлам, чыстым і бяскрыўдным, нягледзячы на твой грэх, на ўсе твае грахі, вырасла дзяўчынка. Ведай: ніколі не аддала б я яе ў твой дом, у твае рукі — ніколі! — калі б не хвароба мая, калі б не блізкая ўжо зусім смерць. Чую яе...

— Што ты такое кажаш, мама? Паедзем з намі ў Мінск, пойдзем да дактароў!

— Крывінка ты мая, плоць ад плоці маёй, Стэфа, а сэрца ў цябе каменнае, з самага цвёрдага на зямлі каменю,— як не пачула яна Стэфінага воклічу.— Ні гады вучобы, ні бальнічныя калідоры не навучылі цябе дабрыні, міласэрнасці ні да сваіх блізкіх, ні да тых, каго ты лечыш. Значыцца, марнаю была вучоба. Значыцца, нельга было табе даюраць душэўнахворых людзей.

— Я не разумею, мама,— нервова пакусвала вусны Стэфа.— Ты што, суд нада мною чыніш сёння?

— Над усімі намі ёсць суддзя, і суд над табою, дачка, наперадзе. Мяне ўжо сырая зямелька ўкрые, і не будзе каму за цябе памаліцца. Гэтага страшуся, гэта прадбачу: не знойдзецца ніводнае душы, каб памаліцца за цябе, грэшную.

— А твая ўнучка? — злосна рагатнула яна, і тут жа ўпілася пазногцямі ў падаконнік, стараючыся ўзяць сябе ў рукі: яшчэ не хапала, каб маці падумала, што яна спалохалася,

што яна баіцца нечыйга суда, хоць бы і суда самога Усявышняга.

— Глухі не пачуе...— сцяла, сціснула, як перад малітваю, рукі матка.— Не пра цябе, не пра цябе, Стэфа, гаворка, а выходзіць — і пра цябе.

— Прабач, я не разумею цябе, мама,— адышла ад акна, каля якога ўвесь час прастаяла, і падсела да стала, насупраць маткі, Стэфа, паспакайнеўшы ці проста стрымаўшы, стрымліваючы свае пачуцці: не той чалавек маці, перад кім можна фыркаць і пыжыцца.— Ты ніколі, ніводнага разу дагэтуль не загаворвала са мною пра Нялюбу, пра тое, што я павінна была забраць яе ў Мінск, і я думала... Я была ўпэўнена, што так лепш. І для яе, і для цябе.

— А для цябе?

— Што? — пытанне прагучала так ціха: Стэфа не расчула і не адразу здагадалася, пра што спытала маці.— Для мяне? Але ж у мяне сваё і — запэўніваю цябе! — далёка не простае жыццё. Я днюю і начую ў бальніцы, і калі б не ты, калі б не ў цябе, то дзяўчынцы давялося б жыць у інтэрнаце.

— Ды ведала я гэта, забіраючы дзіця. Бог даў ёй іншае сэрца, а значыць і іншую долю. І ты, Стэфа, прымеш гэтую яе долю, папомніш мяне, сваю старую маці! — прымеш, як бы ні ўпарцілася, як бы ні адварочвалася, і пакаешся перад смерцю.

— Што ты такое кажаш, мама? — пацепвала яна плячмі пад цяжкім матчыным паглядам і ўсё ж не магла вызваліцца ад яго пранізлівага смутку, ужо быццам бы і тагасветнага.— Накапаць табе валяр'янкі?

— Ты не чуеш мяне,— не зводзіла з яе вачэй маці, заўважыўшы і бледнасць, якая пакрыла даччын твар, і нервовае пацепванне плячмі, і да канца не ўсвядомлены ёю страх, і ўпершыню не пашкадавала дачкі.

Стэфа адчула гэта яшчэ раней — сама не ведала, па якіх прыкметах, але адчула і міжволі злякалася, зніякавела: відаць, і сапраўды памрэ хутка маці, калі...

Раптам ёй успомніўся іншы, далёкі, дзень вясны семдзесят першага: яна, Стэфа, распрануўшыся, паскідаўшы ўсё як ёсць, стаяла перад люстэркам — збялелая, з прыкушанымі, паабкусванымі да крыві губамі і пацямнелымі ад страху і агіды вачмі, прыціскаючы да чужога, незнаёмага свайго жывата дрогкія рукі, пазірала на яе з люстэрка дзяўчо з пакруглелым, непрыгожа дэфармаваным станам, і страх не адразу змяніўся рашучасцю не даць разрасціся ў сабе гэтаму — ні за што на свеце не даць разрасціся!

Калі ззаду, за плячмі, з'явілася маці, Стэфа нават не зварухнулася: пад нож пойдзе, на смерць пойдзе, а не народзіць дзіця, нікому не патрэбнае. Што б там маці ні казала. Што б ні даводзіла пра волю Божую і яе жаночы абавязак мацярынскі. Яна нікому нічым не абавязана — нікому! Нават гэтаму зароджанаму ў ёй жыццю.

Маці зразумела яе намер, адчула яе рашучасць і, замест таго, каб пашкадаваць і падтрымаць, угаворваючы не рабіць ужо небяспечнага і для яе здароўя кроку, толькі сцяла вусны і ўтаропілася ў дачку цяжкім, згаслым позіркам. Колькі імгненняў, а то і хвілін, пазіралі, узіраліся яны, маці і дачка, адна ў адну, адсюль, з сягонняшняга дня было не ўбачыць, але калі маці загаварыла, словы яе камянямі ўпалі пад ногі: ні абысці, ні адступіць.

Што яна тады сказала? Стэфа напружыла памяць, азірнулася на люстэрка на супрацьлеглай сцяне і злавіла цяжкі, поўны непазбыўнага смутку матчын пагляд. «Грэх, які на табе, дачка, толькі нараджэннем дзіцяці будзе выкуплены. На забойства пойдзеш — назаўсёды дзверы перад табою зачыняцца, і мае, і Гасподнія»,— вось што маці тады сказала. Ні слова больш. Сказала і пайшла, прамая, нязломная. Як і цяпер, перад смерцю...

Злавіўшы сябе на думцы пра блізкую матчыну смерць, Стэфа нахмурылася: няма чаго паддавацца розным страхам — яна ўжо не дзяўчынка, як калісь, яна пражыла гэтыя шаснаццаць гадоў пасля нараджэння дзіцяці і сёе-тое нажыла. Сваёю, а не чужою працаю. Папракнуць яе не было за што. І маці павінна гэта ведаць.

— За што ты папракаеш мяне? — каб хоць крыху прытушыць рашучасць, апусціла пагляд Стэфа.— Ты пакінула дзяўчынку ў сябе, ты, як і хацела, выхавала яе ў сваёй веры.

— Божа літасцівы, ну які ты ўрач, якая ты псіхіятра, калі ўласнае дачкі не разумееш? — уздыхнула маці, не павысіўшы голасу.— У мяне, у тваёй маткі, вера, а ў Нялюбы — больш: неба. Чысты знак на ёй, незямны...

— Які яшчэ знак? — схаладнела Стэфа: што, калі Нялюба — яшчэ і душэўнахворая? — Які знак, мама?

— Не пра хваробу думай, а пра літасць Божую: Ягоны гэта знак, і сілу, прадвызначаную Нялюбе, ты таксама некалі адчуеш, хоць не верыш цяпер маім словам, не верыш і да канца не паверыш.

— Ды глупства ўсё гэта,— абыякава, трохі супакоіўшыся, азвалася яна пасля невялікай паўзы.— Прабач, мама, я

не хачу закранаць тваёй веры, але чалавек, гэтак жа як і ўсё астатняе,— істота, проста жывая істота. Жывёліна, калі хочаш. Жывёліна, надзеленая розумам, якога не так многа, як прынята думаць: галоўны клопат, галоўная мэта кожнага — набіць страўнік.

— Што ж, сэрца чалавечае, душа ягоная, па-твойму, гэтаксама са страўніка вырастаюць? Так разумець?

— Сэрца, душа... Гэта ўсё вычвары псіхікі,— цярпліва, як дзіцяці, патлумачыла Стэфа, не заўважаючы, як гневам наліваецца маці.— Адзін, другі ўкол — і чалавек не згадвае ні пра душу, ні пра завешчанае ёй неба.

— Ты... ты хочаш сказаць, што твая праца адно ў тым, каб заглушыць, задзьмухнуць душу, удыхнутую ў чалавека Тварцом? — прыўзнялася і цяжка гэпнулася назад на лаўку старая, глыбока абураная словамі дачкі.— Гасподзь адступіўся ад цябе, дзіця, вось што я табе скажу. І даўно, па ўсім відаць, адступіўся...

— Ды ўжо ж,— буркнула Стэфа, крыху зніякавеўшы (не збіралася ж весці тэасофскія гутаркі — чаго, запытацца, занесла?), і тут жа зазлавала, загневалася і сама.— Ведама, я ў Яго — як бяльмо на вачах! Ад зямлі, ад гэтай вось зямлі, здратаванай войнамі і бясконцымі пераўтварэннямі, адступіўся твой Гасподзь, калі ўжо гаварыць пра адступніцтва: колькі ні гнём спіны — усё галота, колькі ні просім аб літасці — усё пакутнікі.

— Ага, спакутаваліся дужа, распусце сваёй дагаджаючы,— няўцямна, быццам сціраючы з яго наліплую павуціну, ацерла старая твар далонню і паднялася. На дачку яна больш не пазірала. Здавалася, што і зусім забыла пра яе існаванне: адсунула ўбок карзіну, паднялася, перш звыкла падняўшы вочы на ікону, і пайшла да печы, адгароджанай ад хаты тонкаю дашчанаю перагародкаю.

Маўчала, чакаючы працягу гаворкі, і Стэфа: тое, што гаворка не закончана і прадоўжыцца, не сумнявалася, што нічым прыемным тая гаворка не завершыцца, таксама сумненняў не выклікала, так што спяшацца не выпадала.

Ужо ж, жыццё — не храм, з якога яе, Стэфу, можна выгнаць за абразу Бога бязвер'ем, як зрабіла калісь маці, заўважыўшы пагардлівую яе ўсмешку ў часе малітвы. Ды калі б і храм... У аднаго ў думках — малітва, у другога — каўбаса, і нічога з гэтым не зробіш. Ні сэрца, ні душа чалавечая са страўніка не вырастаюць, матчына праўда, але і тое праўда, што без кавалка хлеба і самы заняты вернік штодня не абыходзіцца: не корміць малітва...

«Ат! — адмахнулася Стэфа ад бязладных думак.— Выгаварыцца маці і супакоіцца. Не першыня. Скрозь жа выходзіла: Богу Богава, а чалавеку — усё, чым разжыцца здолее».

— Ніякай карысці — пагражаць вечным пракляццем таму, хто крочыць у пекла на сваіх уласных нагах.

— Што? — павярнулася да маці, здзіўленая тым, што так непазнавальна змяніўся яе голас.

— І нянавісць, і злосць знаходзяць сваю адпомсту,— загучала ў адказ, хоць Стэфа магла пакля сціся, што маці ніяк не азвалася на яе запытанне: корпалася з гаршкамі, павыцягванымі з печы.— Кожнае зло быццам шчэрбіну заржавелую выядае ў лёсе таго, хто яго чыніў або чыніць.

— Ты штосьці казала, мама? — не зводзіла з матчыных сцятых вуснаў пацямнелага пагляду Стэфа.— Ці мне пачулася?

Маці зірнула на яе і зноў не адказала. Пацягнула з крука ручнік, пачала выціраць рукі.

— Не разумею, чым я так правінавацілася перад табою і тваім Богам,— не здолела Стэфа схаваць раздражненне, выклікане невядомай чартаўшчынаю.— Выбарам сваім? Зямною сваёю доляю? Абыякавасцю да ўсяго, што не звязана з маім жыццём? Дык гэтак жа жывуць мільёны. Мільёны, разумееш?

— А хоць бы й мільёны,— узіралася некуды паўз яе маці, і маўчанне, што наступіла адразу пасля яе ціхіх слоў, пачало расці, цяжэла, гняло Стэфу, уціскаючы яе ў лаву. Калі ж маці, прыхінуўшыся да печы, зноў загаварыла, словы ўжо хутчэй угадваліся, чым чуліся: — Не веру выбралі, а вольніцу ва ўсім, а таго не ведаеце, што для кожнага наступае той дзень, калі блізка-блізка падступае жах. Жах перад няведаным, нявытлумачаным светам, у якім, як у пустыні, губляецца ваш шлях. Вольныя вы, але вольныя ў пустыні, адкуль калі і ёсць выйсце, то толькі для душы — цераз самую сябе да Бога. А вы не знаеце Бога, не чуеце.

— Толькі не трэба мяне агітаваць, а? Даволі, што малой задурыла галаву: да сябе не падобная дзяўчынка...— старалася прыцішыць злосць Стэфа, хоць не надта, відаць, старалася, бо ад злосці крывіўся яе не так прыгожы, як дагледжаны твар.— Так, так, задурыла галаву рознымі малітвамі, а жыць ёй, як і мне, усё-такі на зямлі давядзецца, а не на небе.

— Хто тое скажа,— азвалася ад печы старая і, быццам толькі цяпер заўважыўшы дачку, утаропілася ў яе спакойным паглядам.

— Прашу цябе, мама! — абурана крутанулася тая на лаве, адварочваючыся ад акна.— У мяне як-ніяк дыплом псіхіятра...

— Бог даў Нялюбе іншае, чым у цябе, сэрца, а значыць, і іншую долю,— спынілася ў яе за спіною маці.— І ты прымеш гэтую долю, як бы ні ўпарцілася, як бы ні адварочвалася. Прымеш і пакаешся. Няхай толькі перад самаю смерцю.

Холадам патыхнула ад другі раз за гэту гаворку паўтораных маткаю слоў, і, міжволі сцяўшыся, доўга чакала Стэфа працягу сказанага, але маці так і не азвалася больш — цяжка дыхала і маўчала. У нейкі момант Стэфе здалося, што калі б яна зараз адкінулася крыху назад, калі б змагла прыхінуцца, прыпасці да яе, як некалі ў маленстве, усё стала б значна прасцей. Прасцей і чалавечней. Але штосьці не давала зрабіць гэты просты рух, штосьці перашкаджала. І момант перацёк у хвіліну, хвіліна — у другую... Нават цяжкія, яшчэ пацяжэлыя за гэтыя хвіліны матчыны крокі не змусілі Стэфу павярнуцца.

— Я не чапала тых грошай, што ты высылала на дзяўчынку штомесяц. Клала на яе кніжку.

— Грошай? Якіх грошай? Чыіх? — стала падымацца з-за стала Стэфа і, як агаломшаная раптоўна, пасля сказанага, зноў бяссіла апусцілася на лаву. Зрабіўшы неймавернае намаганне, гэты раз усім тулавам павярнулася да маці.— Ты кажаш: штомесяц атрымлівала? Штомесяц? Але ж я...

— Цябе, як я бачу, і на гэта не хапіла,— азвалася ў матчыным голасе горыч.

— Ты не казала, што вам патрэбны грошы,— паспрабавала ўсміхнуцца Стэфа і не змагла.— Я думала... А-а-а, гэта, пэўна, непрызнаны татуля свой грэх аплачваў, а? З вялікага кахання не збаяўся некалі згвалціць малалетку і ёй — мне, дачцы тваёй! — грошай не прапанаваў, а тут, новы мундзір начапіўшы, ад сваіх шчадротаў на дзіця штосьці адарваў!

— Сціхні, Стэфа,— здавалася, згасаў матчын голас, але Стэфу ўжо нічога не магло спыніць.

— Не, вы паглядзіце на яго! Чыноўная крыса, а туды ж! — клопат праявіць уздумаў... Ды якое ён меў права? Якое, я цябе пытаю? І нашто ты прымала ягоныя падачкі? Чырвонец-другі ад сябе, ад сваёй сямейкі адшпіліў, а ты і ўзрадавалася... Не, каб у мяне, у сваёй дачкі спытаць!

— Не толькі Бог, Стэфа, а і розум ад цябе цяпер адсту-

піўся,— прагучала па-дзіцячы чыста, без ценю папроку, і рэзка павярнуўшыся на голас, раз'юшаная Стэфа ўбачыла дачку, Нялюбу: стаіць у дзвярах, спакойна, з непрыхаваным жалем пазірае на яе.

— А ты... ты...— заёрзала па падлозе, як па гарачай патэльні, бездапаможна размахваючы рукамі — як заняло раптам: ні пракаўтнуць, ні выкаўтнуць пераселы ў горле крык.

— Я не вельмі прыпазнілася, бабуля?

4

Рэпліка, нават завучаная загадзя, павісае ў паветры, калі яе не падхоплівае партнёр, каб падтрымаць, прадоўжыць гаворку, гульню, збоку, для каго непасвячонага, і абсурдную, а на самай справе звыклую і лёгка зразумелую. Ды і што такое гэта гульня? Хіба жыццё ў кожнай сваёй будзённай праяве не нагадвае тэатра абсурду? І што яшчэ яно можа нагадваць, калі чалавек дасюль не вылупіўся са шкарлупіны самасці? Высунуў галаву, з боязі вывіхнуць шыю асцярожна круціць ёю, ці то прыглядваючыся да навакольнага, чужога яму свету, ці то выхваляючыся сабою перад ім, і ведаць не ведае ні таго, адкуль з'явіўся, ні таго, куды знікне. А ўсё мітусіцца, усё баіцца спазніцца некуды і распіхвае, адпіхвае гэткіх жа, як сам, неразумных — дзе плячмі ці локцямі, дзе патрабавальнымі гучнымі воклічамі: дарогу! гэй, вы там, дайце дарогу!

Дарогу... І не, каб шырэйшай дарогі пашукаць, з цэлым сусветам роднасць сваю адчуўшы,— на сцэну жыцця шчэміцца, каб не прамінуць са смерцю сваёю спаткацца. І чым больш трагічным будзе выглядаць спатканне, тым лепш: раптам — неўзнарок — у героі патрапіць, а герой — гэта не так сабе, гэта ўжо нешта.

Што — нешта, ён, Зянон Белапёрка, акцёр яго вялікасці Тэатра, ведае даўно і пэўна: мыльная бурбалка. Як гэта ні сумна — проста мыльная бурбалка, выдзьмутая тым альбо іншым імгненнем, і яна лопне, нават мокрага следу па сабе не пакінуўшы. Быў чалавек — няма чалавека. У лепшым выпадку імя, запісанае якім-небудзь ненармальным на паперчыне, застанецца. Гамлет. Макбет. Дон-Жуан. Фаўст...

— Пачынаем. Усе па сваіх месцах. Святло на сцэну! З трэцяга эпізоду, Лявон... Пайшлі!

— Даволі няньчыцца з сваёй журбою, што каршуном твае вантробы рве, адкрыта ўсё перад табою, цябе Наступнае заве, цяпер табе з быдлячым збродам, што называецца

народам, дзяліць няма чаго зусім! Я не герой, не стану ім. Хачу быць т у т табе слугою, тваіх загадаў слухацца заўжды, калі ж мы там спаткаемся з табою, дык т а м паслужыш мне ўжо ты.

— Што будзе там...

— Што ў гудзе...

— Што будзе там, мне клопаты малыя...

— Ат, чорт! Што ў вас з дыкцыяй, мілая? — засіпеў раззлаваны Зянон, не пачуўшы падказкі.

— Тое ж, што ў Фаўста з вушамі.

— Тое ж, што ў Фаўста... Не, гэта чорт ведае што! — зароў, падхапіўшыся з крэсла, счырванелы да макаўкі лысіны Зянон.— У нашым тэатры калі-небудзь з'явіцца нармальны — нар-маль-ны! — суфлёр? Ці мне замест вушэй лакатары падчэплівацъ?

— Зноў! Ну, што такое, браткі? Калі гэта скончыцца? Аліна Барысаўна! — загундосіў Шчарбіна, не падымаючыся з крэсла, у якім разваліўся, і па ўсім было відаць, што падобная сцэна паўтаралася на сённяшняй рэпетыцыі не ўпершыню.

— Акцёр, які не ведае сваёй ролі...— высунулася з суфлёрскай будкі кучаравая, у дробненькіх завітках галоўка і тут жа, быццам злякаўшыся блізкасці абутых у красоўкі Зянонавых ступакоў, юркнула назад, схавалася.

— Што будзе там, мне клопаты малыя. Калі жыццё зруйнуецца, тады я ў новы свет перасялюся,— патэтычна, злёгку расцягваючы словы, пачаў дэкламаваць Зянон як ні ў чым не бывала.— Нашто мне знаць, цікаўны госць, ці ёсць там верх і ніз ці ёсць.

— Калі ты з рызыкай такой,— выгнуўся перад ім Лявон, і штосьці сапраўды мефістофелеўскае бліснула ў ягоных вачах,— то дай распіску — і за мной!

— Чым можаш, чорт, мне быць карысным? Хіба ж такім, як ты, памысны ўзлёт і веліч нашых спраў? Ты можаш даць пітва і страў ці золата мяшок вялізны, якое з рук плыве, бы ртуць, гульню, якой не выйграюць...

Словы сваім гучаннем пачыналі зачароўваць Зянона: ён нібыта павышэў ростам — плечы развінуліся, горда ўскінулася галава, у вачах з'явілася пагарда. Так, так, пагарда, нягледзячы на тое, што, уступаючы ў змову з д'яблам, ён уступаў у гульню, якой не выйграюць, нягледзячы на тое, што прамаўляў чужыя, не свае, словы. Фаўст, канешне ж, не герой — куды яму! Але і ён не пешка ў руках д'ябла, занадта прагных і гнусных, каб не закарцела з іх вырвацца.

— Стоп! Пераігрываеш, Зянон,— незадаволена перапыніў рэжысёр, не спяшаючыся штосьці патлумачыць.— Што з табою сёння адбываецца, чорт вазьмі?

— Перапіў учора,— хіхікнуў хтосьці ззаду, у цемнаце залы.

— Не зразумеў! — рвануўся да рампы Зянон.— Толькі ў ролю пачаў уваходзіць...

— Ты ідзеш на змову з д'яблам,— ніяк не зрэагаваў на яго рывок Шчарбіна.— Свядома ідзеш. Адчуваючы яго сілу. А прамаўляеш, стаўшы ў позу Усядзержца-Збавіцеля.

— Гэта не я, гэта гордасць Фаўста прамаўляе,—буркнуў Зянон, нечакана адчуўшы абыякавасць і да заўвагі рэжысёра, і да пастаноўкі: каму патрэбна тэатральна разыграная змова з д'яблам, калі д'ябал сёння ў кожным з двуногіх ад дакукі паміраў, не тое што супрацьстаяння не знаходзячы, а хоць бы спажыўнога каліўца сумнення.

— Прыпыняемся. Дзесяць хвілін хопіць?

— Зянон, вы што, сапраўды ўчора чыфірылі?

— Вы — гэта хто?

Ён ужо адвярнуўся ад цёмнай залы, тут жа, у глыбіні сцэны, разваліўся ў адным з крэслаў і, закінуўшы нага за нагу, расслабіўся. Нават вочы прыкрыў.

Фаўст, канешне ж, не герой — куды яму! Але хто тады ён, Зянон? Казюрка, што не належыць ні Богу, ні чорту лысаму? З груды за столькі гадоў, за столькі стагоддзяў налепленых масак выбірае патрэбную для чарговага спектакля, з дапамогаю касцюмера падбірае адпаведную ёй і стагоддзю апратку, прамаўляе завучаныя з ліста словы, не верачы ні ў іх значнасць, ні ў іх шчырасць,— і чакае, да абмірання сэрца чакае апладысментаў, заўсёды рэдкіх, нясмелых і таропкіх у амаль паўпустой на кожным спектаклі зале. Даходней было б скамарошнічаць на базарнай плошчы без усякіх прэтэнзій на мастацтва...

А што? Размаляваць спартыўны касцюм, пачапіць вастраверхую шапку са званцамі на макаўцы і, зрабіўшы сальта, паўстаць перад базарным людам уніз галавою — званочкі вызвоньваюць што-небудзь у сучасным рытме, словы папяровымі ружамі сыплюцца з рота на заплёваны асфальт, ногі чорт ведае што выраблюяць у паветры, каб ён праґрымаўся даўжэй... Чым не відовішча?

«Спадары і спадарыні! Гандляры і гандляркі! Вы плюеце на шлях, якім ідзяце? Правільна робіце. Светлай будучыні, у якую прымусам змушалі вас паверыць, няма ў прыродзе. Няма і не было. Ды і навошта яна вам, а? У звыклай гразі цяплей: як-ніяк не першае стагоддзе топчамся! — усё

ж сваё, родненькае, ні ў каго не пазычанае... Ёсць што прадаць — прадавай, няма чаго — проста паштурхайся ў цяпле і цеснаце! Многа нас, так многа, што ніякай уладзе не справіцца,— вось і плюе яна на нас, а мы на яе. Усё як мае быць, залатыя. Не трэба галавы ўверх задзіраць — і пад нагамі ёсць на што падзівіцца. Гніль, агрызкі, ашмоцце яшчэ да выхаду ў свет састарэлых газет, сліна наша пассыханая, смецце шматсезоннае — гэта тое, што зверху, што любому дурню відаць. Ніжэй жа, пад ім, пад вышчарбленым брудным асфальтам — зямля-матухна, з якой кормімся, якую ўгноім некалі сабою дзеля дзетак і ўнукаў сваіх. Хто можа прапанаваць больш? Так што смела плюйце, харкайце сабе пад ногі — ваша права аплачана вашымі галотаю і бескультур'ем...»

Чым не маналог? Галоўнае — костку натоўпу кінуць, ды так, каб у самую гушчу пацэліць, а відовішча (і якое!) забяспечана. Крыху мярзотнае? Жахлівае ў нечым? Што ж, якога ўжо заслужылі. А то — Фаўст, высокі гётэўскі стыль... Перад кім бісер раскідваюць?

Усмешка, згасаючы, крывіла тлустыя, зусім па-бабску прыпухлыя вусны і знікала ў складках нацягнутага на падбародак тонкага чорнага світарка — і калі б хто назіраў за Зянонам у гэту хвіліну, міжволі гідліва перасмыкнуў бы плячмі: надта ўжо гнуснаю выдавала ўсмешка. Быццам ён увесь род чалавечы толькі што паслаў чарцей пасвіць, папярэдне фігу без усякае абгорткі кожнаму пад нос сунуўшы.

— Белапёрка! — гукнула Іванаўна, старая вахцёрка з-за кулісаў.— Да тэлефону. Міжгорад. Міжгорад, чуеш?

— Міжгорад? — пацягнуўся, усім цяжарам цела адкідваючыся на спінку крэсла, Зянон і пачаў няспешна падымацца.— Мо Гасподзь Бог звоніць, а? Не пытала, Іванаўна?

— Ага, як жа. Табою, грахаводнікам, зацікавіўся, няйначай,— буркнула тая.

Хтосьці ў зале, за спіною рэжысёра, засмяяўся. Лявон таўхануў у плячо, па-змоўніцку падміргваючы: хто-хто, а ён ведаў, што Зянону звanілі толькі жанчыны.

Знятая тэлефонная трубка чакала яго на століку пры службовым уваходзе, і Зянону давялося па дарозе выслухаць незадаволенае бурчанне старой, якую бясконцыя званкі маладых дурніц, як яна называла ўсіх паклонніц, штораз змушалі плесціся за кулісы, у паўзмроку калідораў не-не і натыкаючыся на параскіданыя скрозь матэрыялы і скарыстаныя кавалкі старых дэкарацый.

— Алё! Прывітанне, родненькі. Як там Полацк? Стаіць? Не праваліўся ў апраметную дзесяці прамінулых стагоддзяў?

Радасці асаблівай Зянон не адчуў, але голасам валодаў, і збоку, хоць бы і вахцёрцы, якая стала сведкам гэтае гаворкі, павінна было здавацца, што ён шчыра ўзрадаваўся, пачуўшы тую, каго называў так інтымна-ласкава — дзе ўжо ў гэткі момант успомніць, што скрозь да ўсіх сваіх жанчын звяртаўся менавіта так!

— Расказвай, расказвай, родненькі. Я слухаю. Колькі хвілін у мяне яшчэ ёсць,— не слухаў ён знаёмай балбатні, абдумваючы, як, на якой ноце закончыць гаворку: Стэфа за тыя тры гады блізкасці, ад якой ён не быў у вялікім захапленні і ад якой усё ж не адмаўляўся, больш цэнячы зручнасць іх адносін, чым іх прывабнасць, паспела ўжо добра надакучыць яму, асабліва пасля таго, як перастала хаваць жаданне мацней прывязаць яго да сябе, да свайго дому. Дурная, як і ўсе бабы! — падрэзаць крылы такому арлу ніводнай з іх яшчэ не ўдавалася і не ўдасца...

— Калі б мы... што? — улавіў ён абрывак фразы і імгненна насцярожыўся.— Ты што, родненькі, забыла пра наш угавор? Мы ж з табою — даўно — усё — паміж сабою — вырашылі, ці не так? Ніякіх путаў... Пры чым тут твая дачка? Зручная для абдымкаў хвіліна заўсёды знойдзецца, не трэба толькі нічога драматызаваць.

Краем вока Зянон бачыў, як асуджальна падцяла вусны Іванаўна, раз-пораз зіркаючы на яго спадылба, і адчуваў, што пачынае злаваць. Таму знешне яшчэ больш палагоднеў і ледзь не праспяваў:

— Прабач, родненькі, у нас рэпетыцыя. Я ўсё зраблю. Магу нават сустрэць на вакзале, калі хочаш. Не? Ну, і добра. Як скажаш. Хутка ўбачымся. Заўтра? Канешне ж, заўтра. Заўтра — гэта ўсяго толькі заўтра, не больш таго...

Апошняе прамовіў, ужо націснуўшы на рычажок, і яшчэ з паўхвіліны слухаў цішыню ў трубцы — суцішваў у сабе раздражненне і ўзніклае злоснае пачуццё і да Стэфы, якая заўсёды званіла так недарэчы, у самы нязручны момант, і да старой вахцёркі, якая не першы ўжо дзесятак год разыгрывала з сябе святую і, здаецца, з асалодаю свідравала яго сваім цяжкім, асуджальным паглядам. Што, запытацца, яе так абражала? Лёгкасць у яго адносінах да жанчын? Гатоўнасць абагрэць, аблашчыць кожную — хоць словам аблашчыць, як не выпадала інакш? Ды яму, Зянону, помнік трэба за гэта стаўляць, а не асуджаць!

— У вашы гады, Іванаўна, я памяняю тэатр на манастыр,

чэ-слова,— усміхнуўся не так старой, як сваёй думцы пра помнік (яна была вартая таго, каб неяк, у час сяброўскага застолля, вярнуцца да яе) і, паклаўшы нарэшце трубку, гучна прадэкламаваў словы з чужой ролі: — Даволі няньчыцца з сваёй журбою, што каршуном твае вантробы рве, адкрыта ўсё перад табою, цябе Наступнае заве...

5

Будучыня ніколі ні для каго не наступае, і ўсё ж яна — адзіная рэальнасць, ад якой ніхто ні ў жыцці, ні выбіраючы смерць, не можа адмовіцца. Не можа, і ўсё тут. Не залежыць ад чалавека Будучыня, а калі і залежыць, то толькі ў тым, што тычыцца яго самога: ніколі не дасягаць задуманага, проста прагнуць яшчэ і яшчэ жыць і ісці да свайго паражэння, не згаджаючыся з тым, што ўсе яго намеры застануцца няздзейсненымі,— усё, што чалавеку наканавана. На большае не было волі Божае, а як не было, то, значыцца, і не варты ён падобнай літасці. Пакуль што не варты. Так Нялюба разумела.

Так разумела і часта думала пра гэта, блукаючы па шматлюдных гарадскіх вуліцах і завулках, узіраючыся ў твары з натоўпу. Так, так, менавіта натоўпу: сярод панылых аднастайных камяніц і брудных, дымных стужак машын, што з шалёным гулам праносіліся побач, твар любога прахожага, нават адзінокага, міжволі набываў шэрае, зямлістае адценне і выдаваў тварам заўсёды безаблічнага натоўпу — памыліцца было немагчыма.

Усеагульная безаблічнасць, безыменнасць пагражалі і ёй — Нялюба гэта адчувала! — і трэба было напружваць усе сілы, каб не паддацца ім, не даць уцягнуць сябе ў натоўп, не зліцца з ім у гэтай спешцы, у гэтым руху ў нікуды.

З пераездам у Мінск яна трапіла ў пастку, у каменную яго пастку, і другі тыдзень марна шукала выйсце, хоць бы якое выйсце... Заціснуты паміж дзвюх магістраляў мікраён звужаўся да калодзежа двара, пакрытага ўспухлым і пакарабачаным, патрушчаным коламі машын асфальтам, і трох ужо добра парыжэлых таполяў, раскрыжаваных на ўсіх, да пятага паверху, аконных рамах. Магістралі, што адна, што другая, сыходзіліся, зліваліся з гэткімі ж, як і яны, запруджанымі цяжкагрузамі, легкавікамі, аўтобусамі і тралейбусамі на ўсім працягу магістралі. Астравок старога, даўно закінутага, зарослага бур'яном і грудамі смецця яблыневага сада, на які яна неяк набрыла ў сваіх штодзённых вандроўках, дзічэў сярод задушаных мёртвым дротам слу-

поў, кінутых без нагляду бетонных труб і накапаных немаведама калі траншэй.

Рака, да якой яна выйшла засмечанаю лагчынкаю насупраць старога бровару, спярша ўзрадавала дзяўчынку — рака! Свіслач! — але тут жа і высветлілася, што не тое што ўвайсці ў ваду, пазіраць на яе цяжка, балюча: вада нагадвала балотную, бліжэй да берага, пакрытая тлустымі плямамі бензіну ці яшчэ якой атруты, застойвалася і гніла — ад яе ішоў непрыемны, нежывы пах. Прайшла па беразе ўверх, засмуціўшыся, вярнулася і пайшла ўслед за плынню ўніз, туды, дзе на старых картах значылася Траецкая гара і пад гарою, у бок ад яе, вусце Нямігі, трапіла ў адбудаваны і больш падобны на цацачны, чым на сапраўдны, гарадок — часцінку Верхняга горада. Няміга ж, слынная Няміга знікла — загнаная, як ёй растлумачылі, у бетонны калектар, цякла цяпер па трубе пад зямлёю. Каб хоць знак які дзенебудзь!

Адсюль, ад падножжа былога Верхняга горада, на якіх паўкіламетра мянялася і Свіслач — штучна пашыраная, закаваная ў бетон, яна ўжо не цякла, а сунулася, паўзла ўсёю сваёю бруднаю, плямістаю масаю паўз бетонныя берагі, адольваючы звілісты шлях цераз цэнтр горада, цераз два старыя, паабскубаныя з усіх бакоў вулічным рухам, гмахамі-камяніцамі ці павільёнамі для атракцыёнаў скверы, да самой сябе, і нешырокай, і неглыбокай.

Не рака, а пакалечаная, атручаная горадам рачулка... Шкада было Нялюбе яе, паланянку, да слёз, і нічым не магла яна ёй дапамагчы. Чым? Далей наогул пачыналася завадская зона — і не тое што вада, паветра гнаілася, гніло ад атрутнае горычы і дыму.

Пачвараю, жахліваю пачвараю ўявіўся Нялюбе горад у гэтыя дні знаёмства з ім, і дзівілася яна, што людзі навокал, здавалася, не толькі не заўважалі гэтага, а і не ведалі. Ці не хацелі ведаць. Імкнуліся ж сюды адусюль і цяпер, як і некалі, гатовыя па пятнаццаць-дваццаць гадоў чакаць строга лімітаваных метраў паабяцанай каморкі, цярпець інтэрнацкія будні і нястачу ва ўсім, нават у самым неабходным для сябе і сваёй сям'і.

Не, не, Нялюба не асуджала іх, як ніколі нікога не асуджала,— яна іх не разумела. Там жа, за сценамі горада, воля. Там сонца! — столькі сонца, сонечнага святла, што не падняць, не ўтрымаць на выпрастаных перад сабою руках, і трэба самой падняцца, узляцець насустрач небу, каб адчуць хараство, бязмежную вышыню і хараство прычаканага дня. Што можа з гэтым параўнацца?

— Паненка не выходзіць? — немаведама як расчула нарэшце Нялюба малады насмешлівы голас з-за спіны, што, пэўна, не першы раз спрабаваў дагукацца да яе свядомасці, і нясмела, быццам вінавацячыся перад ім, павяла галавою.

— А дзе мы едзем?

— Правей ад нас — Палац мастацтваў, калі гэта паненку цікавіць,— крыху цішэй азваўся той.

— Цікавіць,— не павярнулася Нялюба і ступіла ў расчыненыя перад ёю якраз у гэты момант дзверы.

— Тады я — той праважаты па яго залах, які табе спатрэбіцца,— спакойна саскочыў следам за ёй з трамвайнай прыступкі на бетонную пляцоўку незнаёмец, і Нялюба міжволі азірнулася: мужчына як мужчына, нават не вельмі малады. Вось толькі позірк шчыры, адкрыты і... сіні, сіні, як вада ў Дзвіне! — Мы ж знаёмыя, праўда? На Дзвіне сустракаліся тыдні два таму, каля Сафійкі. Прыгадваеш?

«На Дзвіне! Каля Сафійкі,— адтаваў, пачынаў святлець яе твар, хоць нікога такога вось сінявокага Нялюба не ўспамінала.— Мо хіба той рыбак...»

— Ну, вось і ўспомніла,— лёгка прачытаў ён яе думкі, і Нялюбу гэта чамусьці не здзівіла.— Тады пойдзем. Я ехаў сюды, у палац, спецыяльна. Удваіх, тым больш з даўняй знаёмай, наведаць новую выставу будзе яшчэ цікавей.

Ён ужо вёў яе цераз вуліцу, і Нялюба, захопленая яго напорам, добразычлівым і ўсяўладным, калі і працівілася, то адно сарамліваю ўсмешкаю: яна ж яго не ўспомніла, так і не ўспомніла, не прызнаваўшы ў ім абмінутага на Дзвіне рыбалова.

— Я — Язэп. Язэп Коржак. Не чула пра такога паэта? — засмяяўся ён, наперад ведаючы, што адказу не атрымае.— А ты... Як маглі назваць такую, як ты, летуценніцу? Марыя? Серафіма? Ці мо Сафійка, а? Як?

— Нялюба.

— Ня-люба?! Што, праўда, як тады назвалася,— Нялюба? — застыў ён, яўна здзіўлены, змусіўшы і яе прыпыніцца, прыпыніцца і кіўнуць у адказ на яго здзіўленне.— Фантастыка! Цяпер засталося раптам дазнацца, што ты прыйшла — ці не, прыляцела! — з якога-небудзь дванаццатага стагоддзя, а то і з адзінаццатага...

— Гэтага я не ведаю,— адвяла вочы Нялюба, адчуўшы, што чырванее, і памкнулася абмінуць, абысці нечаканага знаёмца, які відочна разгубіўся,— хацеў засмяяцца, абярнуць усё ў жарт і не змог: штосьці ці то ў голасе, ці то ў твары дзяўчыны перашкодзіла.

А яна ўжо, услухоўваючыся ў лёгкае, незнаёмае трапятанне сэрца, няспешна падымалася па каменных прыступках да палаца-няўклюды, што нагадваў вялізны акварыум, да шырокіх уваходных дзвярэй яго і не азіралася на паэта. Не азірнулася і на ягоны вокліч «Пачакай!» — толькі ціхенька, незаўважна ўздрыгнулі худзенькія яе плечы, уздрыгнулі і апусціліся.

Горад, што ўцягваў яе ў сваю ненасытную пашчу ўсе гэтыя дні, раптам як папярхнуўся нечым, выплюнуўшы яе смутак на гэту трамвайную пляцоўку перад Палацам мастацтваў, на гэтыя залітыя святлом прыступкі, і адступіўся: ці то надакучыла дражніць, пужаць яе сваёю непадступнасцю, ці то прытаміў і яго гэты бясконцы гон па праспектах, вуліцах і вулічках, што рана або позна, але замыкалі круг, гналі Нялюбу назад, у Стэфін дом. Круг за кругам — з дня ў дзень... Некуды ж павінны былі прывесці гэтыя ўцёкі, дык чаму не сюды?

«Мікола Танічаў. Жывапіс. Уладзіслаў Верчын. Скульптура»,— значылася на афішы, і Нялюба, якой нічога не казалі пазначаныя прозвішчы, прайшла паўз стэнд, не дужа прыглядваючыся. Ведала: цуд ці адбудзецца, ці не адбудзецца,— прозвішчы ні пры чым. Імёны і прозвішчы ва ўсім і заўсёды ні пры чым. Усё вяршылася воляю Божаю, і толькі неразумная гардыня змушала чалавека забыць пра гэта. А забываў — і марнымі аказваліся ўсе яго намаганні. Пустымі і марнымі.

Краёк лесу, залітая ззяннем лагчына, магутнае дрэва ракі, урослае ў зямное бязгучча, вечная трывога аблокаў, бачныя, асязальныя пахі траў, залацісты плод раніцы на сінім з цёмным абадком нябесным сподку...

Міжволі, падсвядома шукала Нялюба сярод карцін у зале знаёмыя вобразы пакінутага ў маленстве свету: яна і прырода, яна і свет гэты павінны былі сустрэцца, знайсці адно аднаго, бо ні яна, ні свет самі па сабе не мелі значэння, і толькі іх згода, толькі цішыня, у якой нараджалася паміж імі любоў, маглі штосьці азначаць, маглі прынесці амаль містычнае пачуццё роднасці з космасам, амаль поўнай злітнасці цела і нябесных стыхій, калі штуршкі крыві супадаюць з магутным біццём сонца ў зеніце.

Вакол жа было столькі ўсяго кідкага і ў гэтай сваёй кідкасці прэтэнцыёзнага, што часам хацелася заплюшчыцца і хоць так адасобіцца ад выстаўленых напаказ вымучаных аўтарам твораў: так шмат было ў іх гвалту над харастсвом і так мала прыроды, так мала разлітай у прыродзе радасці!

Нялюба адышлася да парэнчаў балюстрады, злёгку абаперлася, адпачываючы, і ўпершыню агледзелася. Вялізная, па баках перагароджаная шчытамі зала з-за таго, што наведвальнікаў было няшмат, выдавала пустою, гулка абзывалася ў іх пад нагамі. Карціны, развешаныя на сценах і шчытах, здаваліся на шэрым іх фоне няроўнымі стракатымі латкамі, што хоць і не стварала ўражання неахайнасці і галечы палаца, усё ж і бляску, раскошы яму не дадавала.

Там-сям, праўда, стаялі на невысокіх падстаўках скульптуры, якімі яна так і не зацікавілася (залішне матэрыяльнаю, прыземленаю скульптура ёй здалася), але і яны не мянялі агульнага ўражання.

— Што, нічога вартага ўвагі не нагледзела? — пацікавіўся знаёмы голас, і Нялюба раптоўна так шчыра ўзрадавалася яму, што і не падумала хаваць ад Язэпа гэтае радасці.— Не нагледзела і сумуеш, папракаючы мяне за запрашэнне. Угадаў?

— Не,— апусціла яна вочы, злякаўшыся сваёй нечаканай радасці: і гадзіны не прамінула, як сустрэла яго — здавалася ж, і думаць не думала...

— Сёння сапраўдным з'яўляецца толькі тое, што прыходзіць у галаву смертніку ў хвіліну, калі ён спрабуе ўратавацца. Усё астатняе — ці голая рыторыка, ці поза, ці проста фарс.

— А калі ведаць, што смерці няма? — з цікавасцю, перад якой сцішылася, прыціхла радасць, зірнула на Язэпа Нялюба, гэты раз заўважыўшы і тонкія рысы чыста славянскага яго твару, і дагледжаныя вусы, што дадавалі яму выразнасці, і русыя пасмы да плячэй, прыгожа акрэсленых модна сшытым пінжаком, і — на кожны ўзмах, на кожны жэст — трапятанне ў паветры дрогкіх, тонкіх яго пальцаў.

— Гэта — з галіны метафізікі,— не прыняў ён яе пытанне ўсур'ёз, а потым, быццам штосьці ўспомніўшы, зірнуў больш уважліва.— Хоць адкуль табе ведаць пра глыбіні метафізікі... Тут, напэўна, іншае. Што?

Пытаўся, узіраючыся ў яе так, як у сябе самога, адлюстраванага ў чыстым дзявочым паглядзе, у яе маўчанні.

— Што, а? — перапытаў няўцямна, не чакаючы адказу, і Нялюба ніяк не азвалася.— Што можаш ты, зусім яшчэ дзіця, ведаць пра чалавека такога, чаго я, прысвяціўшы вывучэнню яго ўсе свае свядомыя гады, не ведаю? Амаль любое сцвярджэнне ці перакананне сёння лжывыя ў сваёй аснове. Людзі, выбіваючыся з сілы, стараюцца збегчы, уцячы ад уласнага лёсу, заплюшчваюцца, каб яго выпадкова

не ўгледзець, затыкаюць вушы, каб не чуць яго настойлівага клічу і, так ці інакай, пазбегнуць сустрэчы з тым, чаго не мінуць. Нікому не мінуць...

— Ты чаго-небудзь баішся?

— А ты — не?! — у воклічы Язэпа міжволі прагучаў выклік.

— Баяцца тыя, хто не чуе ў сабе Бога,— ціха, ледзь чутна адказала яна, і смутку ў яе словах Язэп не пачуў.

— А-а-а, вось ты пра што,— адвярнуўся, абапёрся на балюстраду побач, не разумеючы, што яго раптам так расчаравала: убачыўшы дзяўчыну тады, на беразе Дзвіны, нутром, падсвядома адчуў ён у ёй, за ёй, таямніцу, нават больш, чым таямніцу,— незямную лёгкасць, адарванасць ад цяжкога, матэрыяльнага, надземнасць, якую так і не змог вытлумачыць. Тады не змог, а цяпер, выходзіць, ухапіўшыся за першую ж падказку, вытлумачвае? Штосьці тут не сыходзілася...

Рэзка, рыўком зноў павярнуўся ён да Нялюбы:

— А ты, вось гэтая, вось гэткая — зямная, як і я! — чым ад думак пра смерць баронішся?

— Я ведаю, што смерці няма.

— Ведаеш? Адкуль? Адкуль ведаеш? — утаропіўся Язэп у спакойны твар яе, здзівіўшыся не так словам, як гэтаму глыбокаму, непарушнаму спакою, які ён люстраваў так чыста, так непасрэдна.

— Ведаю... Ведаць не азначае памятаць,— паспрабавала растлумачыць Нялюба, і тут жа, зніякавеўшы, змоўкла, захінулася ад пранізлівай сіні Язэпавых вачэй раптам дрогкімі, непаслухмянымі вейкамі.

— Ну, добра,— адчуў ён узніклую ў ёй насцярогу і адступіў крыху ўбок, на ранейшае месца,— не будзем заглыбляцца. Кожны змушаны верыць у штосьці, і часам не важна ў што. Я, дазволю сабе запярэчыць паненцы, хоць і стары нявернік, але з тэасофіяй знаёмы не па чутках — у свой час нават у духоўную семінарыю збіраўся.

— Будучы няверн іка м? — цяпер павярнулася да яго Нялюба, і ў твары яе, незаўважна для хлопца, з'явілася бледнасць.

— Хай будзе паненцы вядома, што тых, хто шчыра верыць у Бога, няшмат і сярод святароў,— усміхнуўся Язэп.— А ўжо сярод тых, хто моліцца, паклоны адбіваючы...

— З гэтага няможна смяяцца... Гэта трагічна,— не зводзіла з яго вачэй Нялюба.— Магчыма, недалёка той дзень, калі зямля здрыганецца ад адчайнага чалавечага крыку, што будзе раздзіраць душу, як раздзірала б яе начное выццё на

поўню незлічонага мноства сабак. Гэта будзе крык аб дапамозе, маленне аб тым каб... каб хто-небудзь прыйшоў і кіраваў намі.

— Намі? — хаваўся за насмешкаю Язэп.— Але ж ты не з намі, не са мною, так жа?

— Не ведаю,— адвярнулася і пайшла ад яго прэч Нялюба, і Язэп не пайшоў следам, не асмеліўся пагукаць яе — стаяў і моўчкі пазіраў услед, адчуваючы, што штосьці ўвайшло ў яго жыццё, штосьці няўклюднае ў сваёй аграмаднасці і незразумеласці.

«Нялюба...» — паўтараў і паўтараў у думках дзіўнае імя, быццам менавіта ў ім таілася разгадка таямніцы. Не было ж такога імені — ніводная жанчына не назвала б так сваёй дачкі! Знак якійсьці? Метка? Ведае, што смерці няма, і не ведае, хто яна, адкуль і што робіць тут, на зямлі, у тлумным сталічным горадзе?

Думкі пачыналі трывожыць, а адцерабіцца ад іх не мог. Адштурхнуўся ад парэнчаў, паволі пайшоў уздоўж балюстрады да лесвіцы, каб спусціцца ўніз, і ўжо з прыступак, як пагуканы кімсьці, азірнуўся. Каля бліжняга шчыта, крыху правей ад павароткі да выхаду, бялела мармуровая фігурка дзяўчыны з ускінутымі, як крылы, рукамі — лёгкая, быццам сатканая з руху і святла, з руху яму насустрач, дзяўчына — дзяўчынка, па сутнасці! — здавалася, вось-вось узляціць, пачне падымацца вышэй і вышэй, каб у нейкае імгненне растварыцца ў цішыні, у белым святле...

Ступіў назад. Асцярожна наблізіўся да абцягнутай грубым палатном падстаўкі і, гатовы да чаго заўгодна, усё-такі злёгку ўздрыгнуў, заўважыўшы ледзь улоўнае напачатку падабенства мадэлі скульптара да той, з кім толькі што размаўляў: на папяровым квадраціку, прышпіленым іголкаю да палатна, значылася: «Мечаная. 1969 год».

6

— А я кажу: інтэлігенцыя ва ўсім вінавата! Да чаго іншага можа прывесці тое, што яна, пускаючы сліну ад замілавання, вечна азіраецца на народ? — лена жуючы словы, разглядваў свае доўгія тонкія пальцы Гаючыц, і ўсе ў пакоі міжволі сачылі за прыгожымі, крыху манернымі яго рухамі: якую вагу мелі выказванні філосафа ў акадэміі, ніхто з прысутных ніколі не цікавіўся, але тут, у Стэфінай кампаніі, да іх прыслухоўваліся — усё-такі, пакуль хмель не развязваў языкі нават самым маўклівым, прыслухоўваліся.— Мяняюцца філасофіі, паміраюць пракокі, а наша інтэлігенцыя зноў і зноў нараджае народных права-

дыроў, ці кандыдатаў на іх лаўры, гатовых вырваць з грудзей уласнае сэрца, каб асвятліць дарогу ў шчаслівую будучыню. Заўважце, на словах, усяго толькі на словах гатовых да поздвігу, а зацягнуць сонца чорныя свінцовыя хмары, загрыміць зверху, і адразу куды толькі і дзенецца ранейшая адвага. Распалены, ашалелы ад адчутае сілы натоўп прэ, напірае, а палымяныя прамоўцы на адно і здольныя ўжо — першымі пайсці на закланне.

— Прызнайцеся, вы крыху ўтрыруеце, праўда, Канстанцін Канстанцінавіч? — паспрабавала запярэчыць яму Ната (жанчына без пэўнага ўзросту і пэўнай прафесіі — так яе можна б ахарактарызаваць, калі б ёй спатрэбіліся характарыстыкі) і тут жа спалохалася.— Я згодна, згодна з вамі, але ж...

— Але не хочаце прызнавацца? — пакпіў той нязлосна, абыякава.— Рана ці позна, а давядзецца, усім давядзецца прызнавацца, мілая. Не ў адным граху, дык у другім.

— Па мне дык хоць і ў дзесятым! «Жыццё даецца нам усяго адзін раз...» — так, здаецца, у савецкіх класікаў?

— Дарэмна вы так безапеляцыйна, Зянон,— на міг звёў бровы Гаючыц: ён на дух не пераносіў гэтага Стэфінага скамароха.— Адказнасць інтэлігенцыі...

— Ды кіньце вы, ёлкі-маталкі! — умяшаўся яшчэ адзін Стэфін госць, Жыноўскі, які дагэтуль, падліваючы сам сабе, моўчкі піў чарку за чаркаю і спадцішка зіркаў то на аднаго, то на другога.— Смаркачы з дыпломамі — вось хто такія сёння вашы інтэлігенты. Развялі блуд: плюралізм, кансенсус, дэмакратыя... Цьфу ты, яй-богу! Ды ніякі не кансенсус нашаму народу патрэбен, панове, а цвёрдая ўлада. Цвёрдая рука, чорт вазьмі, якая б ведала, калі і каго ўзяць за горла і страсянуць, каб адусюль кішкі палезлі. А вы: інтэлігенцыя... абавязак... Ва ўсіх нас сёння адзін абавязак — не даць распрадаваць, абяссільваць дзяржаву.

— А-а-а... Тое, што дзяржава абабрала, ператварыла ў жабракоў увесь народ, вам, Анатоль, бачу, больш па сэрцы!

— Ды што такое сёння народ? — паспрабавала разрадзіць атмасферу, якая пачала здавацца небяспечнаю, Стэфа.— Час народніцтва, час рэвалюцыянераў-дэмакратаў, па-мойму, даўно для гэтай краіны мінуў.

— Думаць гэта не перашкаджае,— буркнуў незадаволены Гаючыц: спрачацца з жанчынаю, тым больш з гаспадыняю стала, лічыў справаю абсалютна марнаю.

— Думаць! — фыркнуў Жыноўскі на яго словы.— Вядома, што стала з канём, які зашмат думаў... Дзейнічаць, дзейнічаць трэба, шаноўныя, а не думаць — і чым больш рашуча

дзейнічаць, тым лепш. Для ўсіх лепш. Расплакаліся адзін аднаму ў камізэльку, сцябаем сябе бізунамі, якія паслужліва падсоўваюць пад руку заходнія спецы, і чакаем як не Збавіцеля, то ягонай манкі нябеснае. За пакуты свае, за цярпенне... А ўсё таму, што чужыя парадкі, адно па карцінках у рэкламных праспектах і ведаючы іх, упадабалі, і так упадабалі, што сваё да дзесятага калена парушыць гатовы. Ды і рушым жа, рушым на вачах усяго свету!

— Ведаем, ведаем мы, Анатоль, тваю ўкаранёнасць у нашу славянскую глебу,— цадзіў віно Зянон.— Глеба дужа неўрадлівая, вось бяда.

— Ага! Глеба вам не падыходзіць! Чаго ж вы ўсмакталіся ў яе так, што не адарвеш? — зазлаваў Жыноўскі, хоць і разумеў, няйначай, што яго, як звычайна, дражнілі, падкідваючы нажыўку і знарок уцягваючы ў спрэчку.— Нябось, святым духам жыць не хочаце? Гарэліцу падавай, грыбкі марынаваныя... А пад гарэліцу — чаго ж! — і пра народ можна паразважаць, сябе над ім узвышаючы, так?

— Ды хто сябе ўзвышае над народам? Хто? — еў яго позіркам Гаючыц, нервова пастукваючы пальцамі па стале.— Вы ніколі ніводнае чужое думкі не даслухалі да канца...

— Чужое! Гэта вы, Канстанцін Канстанцінавіч, правільна заўважылі,— зноў не даў яму дагаварыць Жыноўскі.— Не ўспрымаю, ведаеце, чужога: свайго скрозь ставала. Не ведаю, як вам на падмурку акадэміі, а мне сваё, тутэйшае, муляе: нашага б, славянскага, не чапалі, а мы на чужое не паквапімся.

— Мы — гэта ты? Так я разумею? — падліў масла ў агонь Зянон.

— Мы — гэта ўсе, хто са мною, хто супраць халуйства перад амерыканскім раем, перад амерыканізаваным захадам, ты гэта хацеў пачуць, слуга Мельпамены? — абсёк яго Жыноўскі, і вухам не павёўшы.— Багата халуёў з'явілася. Асабліва сярод хвалёнае панам прафесарам інтэлігенцыі. Пальчыкам хто з тарбахватаў паківае — і бяжыце, штурхаецеся, паўзці гатовы, калі загадаюць, абы вылучыцца, абы ў чарговы раз далучыцца да абраннікаў фартуны. Брыдота! Продкі некалі білі, бруднай мятлой вымятаючы са сваёй зямлі, розных шведаў, аўстрыякаў ды французаў, каб не з мячом на русь хадзілі, а з паклонам. А сёння... Цьфу!

— Ну-у, сеў на свайго канька,— засмяялася Стэфа.— Давайце лепш вып'ем.

— За дам-с,— тут жа падтрымаў Зянон, падыгрываючы, як заўсёды рабіў у такіх выпадках, гаспадыні.

— А дзе яшчэ пагаманіць? — нечакана не падтрымаў энтузіязму гэтых дваіх Гаючыц, здзівіўшы ўсіх за сталом, нават Жыноўскага, які ўпершыню за весь вечар пільна зірнуў на свайго вечнага апанента.— Я сур'ёзна, Стэфачка... Піць можна ўсюды і з кім заўгодна, а пагаманіць...

— Вось ужо не сказаў бы,— памкнуўся распушыць ужо добра паскубанае гадамі пер'е Зянон, але стрыманы не так жэстам, як красамоўным Стэфіным позіркам, змоўк, толькі неяк кісла, з непрыхаванаю незадаволенасцю ўсміхаўся.

Хвіліну, а то і дзве ў пакоі панавала маўчанне, якое калі і перапынялася чым, то толькі ціхім парыпваннем крэсла (на ім, ні да каго не прыслухоўваючыся і таму нічога не зразумеўшы, паёрзвала Ната) ці ледзь чутным шапаценнем дажджу за акном. Гаючыц, шукаючы паглядам кінутыя на стол запалкі, камячыў у пальцах цыгарэту, Жыноўскі разглядваў на прасвет прыўзнятую чарку, быццам чарговы раз вырашаў: піць альбо не піць і прадоўжыць сваю прамову. Ната лыпала вачмі то на аднаго, то на другога: вечна яна не магла разабрацца з тым, чаго хацелі мужчыны... Зянон, абапершыся рукою на спінку Стэфінага крэсла, змоўк: не хочаце піць — і чорт з вамі! Словам ад гэтага не палягчэе, радасці ні ў каго не пабольшае, а тое, што гаворка неяк прадоўжыцца, ды ад падобных гаворак ва ўсіх нармальных людзей сківіцы даўно зводзіць: гегеляў дамарошчаных зашмат развялося — плюнуць няма дзе!

Што да гаспадыні, то яна і не думала непакоіцца: адкінуўшыся на спінку крэсла і плячом адчуваючы цяпло Зянонавай рукі, раз-пораз задаволена, як аблашчаная котка, жмурылася, каб у нейкі момант адным лёгкім узмахам вейкаў адкінуць, адсунуць прастору і пэўны час пакалыхвацца на ўзнятых гэтым рухам хвалях святла. Ёй былі даспадобы і разгарачаныя выпітым госці, і тое, што сама яна крыху схмялела, і гэтае раптоўнае маўчанне за сталом, калі чуцен толькі пошум дажджу ды Зянонава спакойнае дыханне.

Гаворка адновіцца — першыня, ці што! — але справа не ў ёй, не ў гаворцы. У чым? У тым, што зноў сабраліся разам, сваёю кампаніяй. У тым, што, як і мінулы раз, знайшлося што паставіць на стол. У тым, нарэшце, што яна, Стэфа, гаспадыня тут, на сяброўскім застоллі, і ўсе пра гэта памятаюць, якою б гаворкаю ні цешыліся.

— О-о-о, ужо чвэрць на дванаццатую,— тэатральна, ніколькі не цырымонячыся, пазяхнуў Зянон.— Сапраўды час разбягацца. Як, спадар Жыноўскі?

— Ат! — адмахнуўся той і, перш чым падняцца, дацягнуўся да некранутае Стэфінай чаркі, не пытаючы дазволу, кульнуў яе ў рот.— Гаспадыня нас праводзіць?

— Ты напіўся, Толя.

— Ні-ні, Стэфа,— пахітнуўшыся, выпрастаўся той і нават зрабіў крок у яе кірунку, каб прыкласціся да ручкі, але тут жа забыў пра свой намер.— Проста не тая аўдыторыя. Не мая. Не-а, не мая.

— Канешне, канешне,— пайшла за ім Стэфа, насцярожана, спадылба зіркнуўшы на Зянона, які задумліва церабіў падбародак і не зважаў ужо ні на Жыноўскага, ні на яе: якая муха яго сёння ўкусіла? — І не збрыдне вам зубамі ляскаць адзін на аднаго... Не, каб каля жанчын трохі пазавіхацца, праўда, Ната?

— А дзе ў нас жанчыны? — сасмыкнуўшы плашч з вешака, ніяк не мог патрапіць у рукаў Жыноўскі.— Ці мо ты пра сябе, мілачка? Дык ты ж, Стэфа, у нас не жанчына, а конь з яйцамі.

— Дагаварыўся! Цьфу ты, д'яблава семя,— змагаўся з дзвярным замком Гаючыц, незадаволены ў гэты момант, здавалася, усім на свеце.— Ганіце яго, Стэфа. Усіх нас, ахламонаў, ганіце ў тры шыі. Напіліся, наеліся, а замест падзякі...

Дзверы раптоўна паддаліся, Гаючыц выпхнуўся ў калідор і, чакаючы астатніх, ужо адтуль пакланіўся гаспадыні, развітваючыся. Націн пацалунак, яе абяцанне днямі забегчы пашаптацца, таптанне Жыноўскага, смех, якім ён збудзіў рэха пустога лесвічнага спуску... Усё, нарэшце, засталося ззаду, у адшумелым вечары, і Стэфа стомлена павяла плячмі, рассеяна агледзела сябе, крутнуўшыся перад люстэркам: хмель яе раптам як рукою зняло, а на душы, як аказалася, было гадка. Пуста і гадка.

Здалося: з люстэрка пазірала на яе незнаёмка. Не магла ж гэта жанчына з шэрым ад стомы тварам і згаслымі шклянымі вачмі быць Стэфаю!

7

Музыка... Чыстая, як ручаінкі святла перад узыходам сонца: спяваюць яны, гэтыя ручаінкі, вызвоньваюць, то зліваючыся, то зноў разыходзячыся, расцякаючыся па глыбокай сінечы завоблачных высяў, каб праз міг-другі хлынуць уніз вадаспадамі промняў — ружовых, цёплых, жыватворных! І гэта — як малітва, малітва за несмяротную душу чалавечую, за Усявышняга, які пазбаўляе яе ад путаў зямных, цяжкіх і для дужага...

Музыка! Адзінае, што стала блізкім, што падтрымвала і суцяшала яе ў Стэфіным доме, а пасля таго, як адшукала Нялюба ў адной з шуфлядаў спецыяльныя навушнікі і ў любы момант з іх дапамогаю магла лёгка адгарадзіцца ад усяго і ўсіх, яна адчула, што радасць не пакінула, не пакідала яе. Варта было адшукаць радыёхвалю, на якой гучала класічная музыка — і адна з чароўных мелодый падхоплівала, закружвала ў недасяжнай раней вышыні, напаўняючы душу то радасцю, то смуткам, за якім угадвалася новая радасць, новая вышыня. Вочы закрываліся, на твары зрэдку з'яўлялася няўцямная ўсмешка — і Нялюба плыла, плыла ў сонечнае бязмежжа, у недасяжнасць, што раптам набліжалася, на колькі імгненняў станавілася не толькі дасягальнаю, але і блізкаю.

Нічога, нічога не чула яна ў такія імгненні — яе папросту не было ў гэтым невялічкім, на адзін ложак, пакойчыку з акном, занавешаным ад сцяны процілеглага дома, у якую яно ледзьве не ўпіралася, цяжкою пыльнаю штораю. Паміргваў чырвонаю лямпачкаю ўключаны прыёмнік, зрэдку, на няўлоўны рух пляча ці рукі ўздрыгвалі правадкі, падведзеныя да навушнікаў, ззаду, за плячмі, раз-пораз накочваліся, разбіваліся аб тонкія фанерныя дзверы хвалі рогату, застольнага галасу і шуму (Стэфа часта збірала гасцей), а Нялюба пагойдвалася на хвалях музыкі далёка адсюль, дзесьці ў нябесных сферах, і нерухомая, застылая на падагнутых, падкурчаных пад сябе нагах фігурка яе пасярод шырокага ложка выдавала скамянелаю, нежывою. А яшчэ дакладней — проста пакінутаю.

Імгненні доўжыліся і доўжыліся... Нялюба ніколі потым не магла вызначыць, як доўга яна адсутнічала: не адразу вярталася адчуванне часу, адчуванне рэальнасці. Вярталася толькі пасля таго, як Стэфа, зазіраючы ў твар, пачынала тузаць яе і злаваць.

А чаго, запытацца, злавала? Нялюба тут жа вызваляла ёй ложак і, выключыўшы музыку, ішла прыбіраць за Стэфінымі гасцямі, праветрывала, каб льга было дыхаць, пакой і ўкладвалася там, у прахадным пакоі, на канапе. Што яшчэ яна магла зрабіць сярод ночы? Нічога больш ад яе і не патрабавалася. Ачмурэлая ад выпітага і выслуханага Стэфа засынала, пачынала пасапваць і хутка заціхала, а Нялюба яшчэ доўга ўглядвалася ў суцемкі, у цёмнае акно, успамінаючы неба.

Не, не, не зацягнутае смугою, зжухлае ад машыннага чаду неба там, за акном, а сваё, адкрытае і зразумелае толькі ёй, Нялюбе, якое можна было абняць лёгкім узмахам



Пратра

рук — і адчуць сябе шчасліваю. Шчасліваю ад таго, што наскрозь, як і яно, пранізаная сонцам, што можа ўзняцца над зямлёю — высока-высока! — і ўсё ж не адарвецца ад зямлі, не абарве ніводнае повязі з ёю.

Ручаінкі святла зліваліся, ярка, ва ўсю шырыню пагляду, успыхвалі, пырскамі, іскрамі рассыпаліся ў паветры, каб праз імгненне зноў трымцець, зівацца празрыста-белымі стужкамі, сплятаючыся і ўтвараючы дзівосныя ўзоры,— пра тое ж, з'яўляліся гэтыя ўзоры самою мелодыяй, ці мелодыя нараджалася за імі, у недасяжнай глыбіні, Нялюба ніколі не задумвалася. А калі і задумвалася на імгненне, думкі тут жа раствараліся ў чароўным святле, чарговай мелодыі, што, створаная ў любым з прамінулых стагоддзяў, вольна лунала над зямлёю, гукаючы, вабячы за сабою дзяўчынку. Свет не заканчваўся бачным, асязальным для рук ці пагляду — ён рос, шырыўся разам з яе захапленнем, разам з далёка не заўсёды свядомым яе памкненнем увысь, у паднябесныя прасторы.

Адзінокая ў гэтым сваім памкненні, Нялюба не заўважала ні адзінокасці, ні пэўнага бяссілля, якое кожны раз вярталася: глыбока ў душы яе жыла вера ў іншае наканаванне.

Было — Нялюба дзівілася з маці: ніколі ні на чым не магла Стэфа засяродзіцца, засяродзіць сваю ўвагу надоўга. Нават уткнуўшыся ў кнігу, раз-пораз перапыняла чытанне — то шабуршэла абгорткаю вывуджанай з вазачкі цукеркі, то сунулася на кухню, каб зварыць каву, то шукала вачмі люстэрка, неяк механічна, бяздумна намацваючы кінутую дзе-небудзь побач, на канапе, шчотку для валасоў. А то, выпадкова слізгануўшы паглядам па пакоі, раптам згадвала, што не адна дома, што ёсць яшчэ дачка, Нялюба, і хмурылася, доўга ёрзала на месцы, пакуль не адганяла згадку, каб зноў заняцца сабою, сваёю асобаю.

Яны рэдка размаўлялі, яшчэ радзей усміхаліся адна адной — за ўвесь час пасля Нялюбінага пераезду ў матчын дом ніводнага разу не ўзнікла паміж ёю і Стэфаю повязі, сапраўднага разумення: Стэфа, відавочна, проста скарылася непазбежнаму, дзяўчынка ж, як ні старалася, нічога, апроч шкадавання, у душы не адчувала.

«Ты што — штодня лісты ў Полацк пішаш?» — зазірнула аднойчы Стэфа цераз яе плячо, і не тлумачыць жа было ў адказ, што яна, Нялюба, жыла воляю Божаю, а яшчэ вось гэтаю любоўю, гэтаю памяццю, якія і з'яўляліся жыццём. Стэфа і слухаць не стала б такога тлумачэння, як ніколі не слухала нічога, што магло б закрануць яе ці, таго больш, устрывожыць.

«Выкінь тое, што я твая маці, з галавы і не ўскладняй майго жыцця,— у першы ж дзень рашуча запатрабавала яна.— Не так шмат прыемных хвілін выпадае жанчыне за жыццё, і ні ад аднае з іх — чуеш? ні ад аднае! — я не збіраюся адмаўляцца. У малельню мой дом не ператворыцца, запомні! Не я тваго Хрыста ўкрыжавала, але тыя, хто ўкрыжоўваў, ведалі, што рабілі: няма чаго галовы добрым людзям задурваць. Веку свайго нікому малітваю не надтачыць, а якога чорта тады...»

Словы ў той момант неяк адразу перасталі дасягаць слыху: Нялюба пазірала на Стэфу, на яе застылы прыгожаю маскаю твар, на якім жывымі выглядалі толькі пульхныя пачуццёвыя вусны, і маўчала. Яна маўчала, а Стэфа ўсё гаварыла, гаварыла — вусны яе безупынку рухаліся: то выцягваліся — з намерам прадэманстраваць халодную, мёртвую ўсмешку, то ледзь заўважна крывіліся, хаваючы ў куточках пагарду, то не па-жаночы злосна ўздрыгвалі, быццам ссоўваючы звыклую, прыраслую да твару маску і тады адкрываючы, няхай усяго на міг, уласцівую яму жорсткасць. Нават вочы расказалі б пра яе менш, чым вусны!

«Тваё сэрца не ведае любові, таму ты не можаш палюбіць Хрыста»,— вырвалася ў яе міжволі, само сабою.

«Што?!» — злосна ўздрыгнулі збялелыя раптам матчыны вусны і тут жа знерухомелі, балючым выгінам застылі, і ўпершыню варухнулася ў сэрцы дзяўчынкі спадзяванне, што яна зможа палюбіць, некалі палюбіць і маці, у гэтым яе непрыняцці Бога, у пакінутасці Божаю літасцю неразумную і няшчасную. Няшчасную, а значыцца — вартую і шкадавання, і любові.

«Каб я больш не чула ў сваім доме падобных выказванняў!» — гнеўна выдыхнула праз нейкі час Стэфа і, падціснуўшы вусны, адвярнулася. І ніводнага разу вось ужо на працягу двух месяцаў не вярнулася да гэтае няскончанае гаворкі.

Цуд любові... Ён адбываўся не заўсёды, яна разумела. Не заўсёды і не для ўсіх. Штодня, штохвіліну чынілася на зямлі злачынства богаадступніцтва, а шмат хто, як Стэфа, нават цешыўся сваёю беспакаранасцю. Быццам слепата — не пакаранне! Быццам няздольнасць палюбіць прыніжанага, укрыжаванага — не выдавала ў чалавеку раба! Хрыстос сканаў на крыжы— гэта слабасць адкрыта ўсяму свету, Хрыстос уваскрэс — гэту сілу бачыць толькі той, хто любіць Яго, хто верыць у Яго. Здавалася б, так проста...

Абязбожаная душа чалавечая, абязбожаны свет, якім чалавек імкнецца завалодаць, значыцца, наперадзе —

смерць?! Смерць усяго жывога? Але ж не смерці шукаць загадваў Хрыстос, а, Яго ў сэрца прыняўшы, перамагаць смерць, ісці да ўваскрашэння. І не ўсім разам ісці, а кожнаму — цераз свой уласны подзвіг, сваёю сцяжынаю; і не пакуту як плату за грэх свой несучы, а радасць — радасць спасціжэння Бязмежнасці, радасць служэння Усявышняму. Тут разгадка. У гэтым — наканаванне. І яе, Нялюбіна, наканаванне.

Малая яна, слабая не толькі перад Госпадам, а і перад жыццём, усё яшчэ брудным і жорсткім? Тым большаю сілаю любові павінна была яна валодаць, каб не збаяцца ні пакуты, ні спакусы ягонай, каб палюбіць і таго, хто, як Стэфа, не чуў у сабе святла, хто, як яна, жыў у граху, ва ўладзе цёмных страсцей сваіх. Гэтага чакаў ад яе Усявышні, гэтаму вучыла яе бабуля. І няхай узносіць яе сваёю магутнаю плынню музыка, няхай усё бліжэй штораз ззяюць над ёю залітыя сонцам прасторы, будзе памятаць Нялюба пра свой абавязак перад Богам, і перад людзьмі, і, пакуль зможа вяртацца, будзе вяртацца сюды, у гэты пакінуты шчасцем дом, да Стэфы.

Занадта сляпучым стала раптам, заклубіўшыся, сцякаючыся ў адну яркую пляміну, святло... Нават музыка пацішэла...

Калі зрок набыў пэўнасць, выразнасць, міжволі ўздрыгнула: проста перад ёю, твар у твар з ёю, стаяў на кукішках мужчына. Больш таго! — ён трымаў яе за руку, якую ціха, пяшчотна пагладжваў...

Тузануўшыся на ложку, вырываючы ў яго руку, адчула — не пачула, а менавіта адчула! — што музыка пакінула гэты пакой і яна, Нялюба, дрыжыць, раз-пораз уздрыгвае, ці то ад абурэння, ці то ад раптоўнага холаду і агіды, хоць пазнавала ўжо таго, хто парушыў яе спакой і цяпер разгублена ўсміхаўся, пазіраючы то на яе, то кудысьці ўбок, у бок дзвярэй.

Разгубленасць яго нечакана змянілася злосцю — Зянон рэзка, рыўком выпрастаўся і рушыў з пакоя. Міжволі прасачыўшы за ім паглядам, дзяўчынка ўбачыла ў дзвярах Стэфу: рукі яе ўзляталі за зусім нячутнымі з-за Нялюбіных навушнікаў словамі, перакошаны гневам твар палаў, у вачах бліскалі маланкі... Бязгучны гэты жах доўжыўся і доўжыўся. Пакуль шырокая Зянонава спіна не засланіла, нарэшце, Стэфу, пакуль дзверы за імі абаімі не зачыніліся.

Дрогкімі рукамі (мо ўсё ёй толькі звідзелася?) прыкрыла Нялюба вочы і, калі ўтрымала гатовыя ўжо скаціцца слязінкі, уздыхнула з палёгкаю і пачала сцягваць з галавы навушнікі.

8

Чаго толькі чалавек не навыдумляў вакол сваёй асобы, каб хоць неяк узвысіць сябе над жывёльным светам: і разумны ён, і да Бога дапушчаны, і Космасу прыналежны... Пэўна ж, прыналежны! Вочы падняць на неба баіцца, перш чым размяняе дваццаць гадоў, забываючы, як яно выглядае ў хвіліны роздуму ці ў хвіліны трывогі, а туды ж — у небажыхары мкнецца...

Урэшце, Стэфа, ведаючы, што нічым ад іншых не адрознівалася, нікога асабліва і не асуджала, хоць сябе ўсё ж з любога статка і вылучала — падсвядома, а вылучала. Але тут і спрачацца не выпадала. Кожны пра сябе лепшае думкі, чым пра астатніх.

Кожны... Да ўсіх і кожнага Стэфе справы не было. У Навінкі траплялі чалавечыя экземплярчыкі ўжо добра падпсутыя, з якімі ніхто ні з санітараў, ні з урачоў дужа не цацкаўся,— і з імі, і з іншымі, калі сутыкалася з іншымі, яна, Стэфа, трымалася як гаспадыня. І трэба сказаць, дасюль не сустракала пярэчанняў: гаспадыня і гаспадыня! Хто сёння не хадзіў у спадарах! Тым больш у бальніцы.

Згадаўшы пра бальніцу, Стэфа міжволі перасмыкнула плячмі і спадцішка агледзела пасажыраў аўтобуса: не сказаць, каб яе дужа непакоіла думка, што сёння любы (патэнцыяльна — любы з прысутных) мог быць яе пацыентам, і ўсё ж на ўсіх, каго чапляў позірк, так відочна бачыла сляды дэградацыі, цяжкога атуплення буднямі, што нават замкнёнасць кожнага на сабе, паглыбленасць кожнага ў пустату свайго існавання нічога не хавалі. Не тое што стрэс, невялікі ўкол самалюбства — і ўшчэнт разбіваліся ўсе запоны, засланкі і засаўкі, каб агаліць, з непрыхаванаю жорсткасцю адкрыць знявечанае, раз'едзенае нянавісцю і бясконцымі сумненнямі чалавечае нутро: куды і дзяецца ўсё прыўнесенае культураю і выхаваннем!

«Гэта толькі такія, як маці, думаюць, што чалавека льга вылечыць для лепшага, Богу ўгоднага жыцця»,— мільганула кіслая, як раніца за вокнамі, думка, і Стэфа не здзівілася ні думцы, ні сваёй абыякавасці да яе: хто-хто, а яна, Стэфа, ведала, што калі чалавечае цела з усімі яго болькамі і язвамі і паддаецца часам лячэнню, то душу, аблегчыўшы яе мукі, злячыць немагчыма. Прыглушыць, а то і ўмярцвіць боль моцнымі сродкамі таму, хто браў на сябе смеласць іх прымяніць, удавалася, але разам з болем, разам з мукамі адыходзіла (ці адлятала, калі так дакладней) і душа. Несмяротная чалавечая душа, як кажуць.

«Несмяротная... I вераць жа ў такое! — хмыкнула яна ў настаўлены каўнер, падняўшыся — праціскаючыся паміж сядзенняў да выхаду.— Галактыкі гаснуць і рассмоктваюцца бязмежжам, а тут...»

Пстрыкнула парасонам, адгароджваючыся ад дажджу, нетаропка пайшла да каменнай брамы і далей, праз двор, да шэрай бальнічнай будыніны, што і гэтаю шэранню, і закрачанымі вокнамі ўздоўж па перыметру сцен нагадвала б турму, калі б Стэфа ўздумала ў яе ўзірацца. Але яна не ўзіралася, звыкла не заўважаючы ні паныласці сцен, ні кратаў на вокнах, ні цяжкіх дзвярэй, якія, здавалася, не адгароджвалі, адсякалі таго, хто ўваходзіў, ад двара, ад цьмянага з-за дажджу святла, ад самога свету: не першы год тут працавала, змірыўшыся за гэтыя гады і са змрочнымі сценамі, і з насельнікамі бальніцы, і нават з тым, што бальніцу хто з пагардаю, хто з непрыхаваным жахам называлі дурдомам. Як яе ні называй, якімі сценамі ад навакольнага жыцця ні адгароджвай — празрыстыя гэтыя сцены, непарыўная сувязь паміж тым, што за імі і вакол іх, адбывалася: ніхто ні ад чаго не быў застрахаваны, наадварот...

Наадварот, як часам думала Стэфа, тут, у дурдоме, спакайней, чым у навакольным свеце. Калі ў кім і ўспыхваў гнеўны агонь, яго было лёгка пагасіць: і ўрачы, і санітары ведалі сваю справу, сродкаў для таго, каб зняць агрэсіўнасць і неспакой і вярнуць хвораму панылую абыякавасць, ставала, пра правы чалавека на гэтыя агрэсіўнасць і неспакой нікому і ў галаву не прыйшло б загаварыць, так што... Так што ўсё, урэшце, залежала ад яе, Стэфы, і яе калег, і пакуль ім, урачам, цікава назіраць за цьмянымі глыбінямі чалавечай псіхікі, не-не і гасячы, зусім свядома гасячы ў іх слабыя промнікі свядомасці, спакою ў гэтых калідорах нішто не пагражала.

Бог, душа, нязгаснае душэўнае святло... Ды глупства гэта ўсё, як да чалавека ні стаўся. Недасканалая, упартая ў сваіх прэтэнзіях на верхавенства над светам усяго жывога жывёліна — вось што такое гэты ўслаўлены ў стагоддзях чалавек, калі зірнуць на яго цвяроза, не з вышыні ўяўлення, а з бальнічнае канапы. Любы апёк, любую язву ці рану сцерпіць, зажыўляючы, залізваючы іх, як сабака, а зачапі любы нервовы вузельчык — і паехаў, як кажуць у народзе, дах: ні табе ўспамінаў, ні табе спадзяванняў, а ўсё, чаго душа жадае — міска жвачкі і спакой. Ду-ша! Ведала Стэфа, што за гэтым стаяла — неаднойчы назірала за тымі сутаргамі псіхікі, якія называлі душэўнымі мукамі, і нават жалю ў сабе не адчувала. Ды і тое: сёння — яны яе пацыенты, заўт-

ра яна магла аказацца ў іх становішчы. Галоўнае — не паддавацца, аддаляць гэтае магчымае заўтра, шукаючы ўсё новыя і новыя лекі, выпрабоўваючы іх уздзеянне на хворых, на хворую псіхіку, а што за кошт хворых, то — як іначай?

— Добрай раніцы, Анатоль.

— А-а-а, вітаем, вітаем нашу птушку-пяюшку,— падняў галаву ад папер Жыноўскі.— З'явілася — і адразу раніца наступіла.

Ён, як заўжды, нязлосна пацвельваўся, і Стэфа звыкла не звярнула на гэта ўвагі: Жыноўскі — гэта Жыноўскі, яго трэба было прымаць такім, якім ён прыкідваўся, а яшчэ лепей — нават трохі падыграць. Сёння Стэфе падыгрываць яму не хацелася, і, хоць яна і заўважыла ў яго ў вачах нецярплівы бляск, не стала ні пра што пытацца. Распранулася, уладкавала мокры парасон, дастала з шафы свой халат і, прыдзірліва агледзеўшы яго, перш чым надзець, пачала няспешна зашпільвацца.

— Не бачу цікавасці да работы,— тэатральна ўздыхнуў Жыноўскі.— Тут ноч не спіш, каб пахваліцца новым экземплярам...

— Ты хоць здагадваешся, што ты закончаны цынік? — не павярнула Стэфа галавы.

— Знайшла чым папікнуць: цы-нік! Ды любы цынік у параўнанні са мною — бяскрыўднае кацянятка. Я не цынік, я, калі хочаш, староннік расавай чысціні, і не толькі чысціні нацыі, у першую чаргу славянскай, а наогул — чалавечай пароды. Па-ро-ды!

— Па прынцыпе: чалавек — недачалавек — звышчалавек?

Стэфа паправіла перад люстэркам прычоску і, наблізіўшыся да стала, не спяшалася прысесці побач: погляды Жыноўскага не мяняліся вось ужо колькі гадоў, звыклая перакідка словамі, як заўсёды, нагадвала будзённую размінку перад доўгім рабочым днём і прыкідвацца дужа зацікаўленаю, як кажуць, не выпадала, але штосьці перашкаджала ёй адгарадзіцца ад гаворкі іранічнаю ўсмешкаю.

— Толькі Богу да твару адзіноцтва. Як афарызм? — пытаннем на пытанне адказаў Жыноўскі.

— У новага пацыента, няйначай, пазычыў.

— Не ўгадала. У пацыенткі,— падсунуў да яе, на край стала паперы, быццам запрашаючы Стэфу азнаёміцца з імі.— Яшчэ адна Божая душа ў даўно бяздушным свеце пакутаю захлынаецца.

— Так безнадзейна? — ужо праглядвала Стэфа дакументы, з якіх вынікала, што гэтай Божай душы не споўнілася

і шаснаццаці, што прывезлі яе з інтэрната ПТВ, хоць яшчэ і паўгода не мінула, як яна была выхаванкаю сірочага дома, што прывезлі позна вечарам, спалохаўшыся істэрычнасці яе слоў і слёз, і, па сутнасці, збылі з рук на ўвесь перыяд прымусовага лячэння.— Ты ўжо вызначыў і дыягназ і курс лячэння? Вызначыў — і нічога не напісаў у гісторыі хваробы, пакінуўшы гэта мне?

— Мы, калі шаноўная калега дасць згоду, абмяркуем усё вечарам,— адкрыта пасміхаўся Жыноўскі.— Цікавыя аналогіі ўзнікаюць, узнікнуць для таго, хто схоча ва ўсім разабрацца пільна і няспешна.

— Сказанае, як разумею, азначае, што ніякае лячэнне не прызначалася і не прымянялася,— задумліва круціла ў руках бальнічную картку Стэфа.— Пабачым, пабачым...

Ніякіх аналогій яна пакуль што не прадбачыла — мо хіба Жыноўскі меў на ўвазе яе дачку? Нялюбу?

Усміхнулася, хаваючы за лёгкаю ўсмешкаю невядома з чаго раптам узніклую трывогу.

— Пройдзеш са мною?

— А што, Пятровіча няма яшчэ?

— Ды ёсць, ёсць,— адвярнулася Стэфа ад пранізлівага яго позірку.— Я, хутчэй, машынальна спытала... Шчасліва!

Выйшла, не чакаючы адказу: Жыноўскі сваёй вечнай самаўпэўненасцю раздражняў як ніколі, а ёй трэба было сабрацца з думкамі, падрыхтавацца да абходу. Штосьці таілася за намёкамі Жыноўскага, а што? Што ён такое ведаў, пра што яна, Стэфа, усё яшчэ не здагадвалася? Аб чым насмешліва папярэджваў?

Абход звычайна займаў каля дзвюх гадзін, гэтай жа раніцою (мо таму, што не-не і зіркала на гадзіннік) час раз-пораз запавольваўся, і гэтыя гадзіны ўсё доўжыліся, усё расцягваліся, падоўгу не выпускаючы кожную хвіліну,— Стэфа нават цішком, у душы, злавала, дакараючы за гэта не сябе, а ўсё таго ж Жыноўскага. Укалоў насмешкаю — і знік, а ў яе ўсё дзяжурства наперадзе...

— У ізалятары — новенькая. Манашка.

— Якая яшчэ манашка? — недаўменна зіркнула на Пятровіча Стэфа.— Дакладней можна?

— Каралева выпісалася, прывезлі манашку... У запісах значыцца: Люба Глушчэня. Сірочы дом — ПТВ — бальніца... Бацькі за няпоўныя шаснаццаць гадоў не абазваліся. Гэта ўсё.

— Добра. Дзякуй. З дзяўчынкаю, Пятровіч, я пагавару сама, так што вольны...

— Зразумеў. Дзяўчо і сапраўды бяскрыўднае... Прыходзьце ў ардынатарскую на кубачак кавы,— адступіў той убок, прапускаючы Стэфу, і яна зноў міжволі падняла на яго вочы: даў жа Бог гэткія рост і сілішчу!

Вярнулася раздражненне, і Стэфа толькі аграмадным намаганнем волі ўзяла сябе ў рукі; патрэбны былі спакой і разважлівасць, спакой і пераканананасць, што яна, урач, дужэйшая і за Бога і за д'ябла, інакш і ўваходзіць у палату не варта. Тым больш адной, самой: што ўжо што, а няўпэўненасць душэўнахворыя адчувалі адразу.

Замок адшчоўкнуўся амаль бясшумна, дзверы не зарыпелі, калі ж Стэфа ступіла за парог, то сходу апынулася твар у твар з дзяўчынкаю, якая пазірала на яе хоць і насцярожана, але спакойна.

— Добры дзень, Люба. Ты не запрашаеш мяне прайсці? — як і належыць у такім выпадку, не адвяла яна вачэй, здзіўленая, па-свойму ўражаная добра прыкметным падабенствам яе да дачкі: гэткая ж ціхасць у твары, гэтак жа да краёў напоўнены святлом, якімсьці ўнутраным свячэннем пагляд, гэткія ж чуйныя, тонкія рукі.— Нам жа трэба пагаманіць, праўда? Прайдзі, сядзь. Вось так. Вось і разумніца. Ты ж сама хацела мне ўсё расказаць, ты ўсё мне раскажаш, а цяпер адпачывай. Слухай мяне і адпачывай.

Гіпноз дзейнічаў, і далейшае ўяўлялася Стэфе простым, будзённым, як заўсёды: распытае малую, спрабуючы зглядзіць, прыцішыць што можна, вызначыць ступень паражэння, дозу для ўвядзення не на адным хворым правераната прэпарата — і работа зроблена. Што тут убачыў вечарам Жыноўскі?

— Ты магла б стаць маёй маці, а хочаш стаць маім забойцам.

— Што?! — падалася бліжэй да дзяўчынкі Стэфа, не адразу апамятаўшыся.— Ты — Люба. Ты адпачываеш. Ты ўспамінаеш, хто ты і адкуль. Ты ўспомніла?

— Дзесяць гадоў... сто гадоў... тысяча гадоў... Сцены манастыра абрушыліся ад іх бруду, ад людскіх незамоленых і недараваных грахоў, а манастыр жыве. Мною жыве. Усімі, хто не страціў веры сваёй. І колькі б мерцвякоў ні звозілі сюды адусюль, з усяго хрысціянскага свету, мёртвае жывога не пераможа, не перамагае.

— Ты ў школе. Ты ўспамінаеш сваіх сяброў і настаўнікаў,— даводзіла сваё Стэфа, узіраючыся ў дзяўчынку і знаходзячы ў ёй усё больш знаёмых, даччыных рысаў.— Ты не сірата. У цябе, як і ў кожнага дзіцяці, былі бацька і маці.

— Маці...— няўцямна паўтарыла Люба, і святло выплеснулася з вачэй долу, на цёмны, брудна-шэры лінолеум падлогі.— Маці не здольная забіць сваё дзіця, а ты заб'еш. У манастыры ўсе пра гэта ведаюць. Даўно... многія сотні гадоў... Так даўно я не помню... Я магла б памаліцца з табою, але не за цябе Бога просячы, а за дзіця тваё. Я магла б заступіць табе дарогу, але Бог пакарае мяне.

— Бога няма. Ты ўсё прыдумала,— старалася валодаць голасам Стэфа, хоць пасля слоў гэтай ненармальнай халодныя мурашкі пабеглі ў яе па спіне.— Бог, калі б ён быў, не дазволіў бы табе захварэць — яго няма, яго не было ў тваім жыцці.

— У маім жыцці ўсё было і ўсё будзе. Ты дарэмна прымаеш мяне за хворую,— ціха, ледзь чутна азвалася дзяўчынка, і Стэфе закарцела спыніць сеанс і кінуцца прэч адсюль, прэч, пакуль не позна: мо гэта яна сама пад гіпнатычным уздзеяннем і чуе зусім не тое, што прамаўляла яе пацыентка?

Утрымала сябе на месцы адно намаганнем волі. Чаго яна ўрэшце спалохалася? Гаворкі? Дык ці такое даводзілася чуць у гэтых сценах? Слабога ўздзеяння гіпнозу на хворую? Дык жа далёка не ўсіх льга падпарадкаваць сваёй волі, хіба Стэфа гэтага не ведае? Вось і з дачкою часцей за ўсё гэтак жа...

Успомніўшы пра Нялюбу, чамусьці паспакайнела.

— Чаму табе раптам прыйшло ў галаву, што ты манашка?

— Я манашка.

— Але ж ты, як і іншыя сіроты, выхоўвалася ў сірочым доме, з восені пачала вучыцца ў прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы — пачала, як бачым, няўдала. Можа, патлумачыш?

— Сцены манастыра абрушыліся ад бруду пératрушчаных на смецце гадоў, ад людскіх грахоў, незамоленых і не дараваных Госпадам, а манастыр жыве. Бо свет вакол нас — не што іншае, як прытулак Гасподні, які паскудзяць, спаскуджваюць неразумныя, пакінутыя небам перад апошнім іх выбарам людзі. Для адных гэты свет — манастыр, для другіх — памыйная яма, а і адны і другія будуць пакараны. За слепату. За бяссілле сваё.

— За бяссілле? — неяк няўцямна перапытала Стэфа,назіраючы за дзяўчынкаю: у ёй, слабой, адчувалася і духоўная сіла, і непахіснасць.

— Дужы становіцца насільнікам, разумны паддаецца гардыні, прыняты на службу Госпаду слепне ад горняга святла... Дзе тут, скажы, сіла?

— А ты, ты тут пры чым? — падалася да яе Стэфа, падуладная быццам бы ўжо і не сваёй волі.— Пэтэвушніца, дзяўчо смаркатае, а туды ж! — пра горняе святло, пра Бога...

— Бог і ў табе ёсць,— не зварухнулася на яе нецярплівы рух дзяўчынка.— Толькі ты яго не чуеш, не хочаш пачуць, баючыся платы, якую мусіш заплаціць. І — ўсё-ткі заплаціш.

— Ага,— чула яна, як разрастаюцца ў ёй гнеў, страх і гнеў,— напалохала! Думаеш, не ты з глузду з'ехала, а свет вакол цябе? Не, даражэнькая! Свет за гэтымі глухімі сценамі, з-за якіх табе не выбрацца, застаўся, а ты... ты...

Словы раптам пераселі ў горле — Стэфа запнулася, а потым і зусім змоўкла: не было перад ёю нікога, не бачыла яна ні дзяўчынкі, ні прыкручанага да падлогі ложка, на крайку якога, не прыкамячыўшы коўдры, тая толькі што сядзела, ні светлага, святлейшага за колер коўдры ценю побач.

— Мне пастаяць тут, пад дзвярмі, ці пайсці з табою? — голас Пятровіча вярнуў ёй рэальнасць хвіліны: абход заканчваўся, заставалася наведаць ізалятар, каля дзвярэй якога яны запыніліся колькі імгненняў таму, і пазнаёміцца з новенькаю.

— Але ж...— пачала Стэфа, прыгадаўшы сваю гаворку з дзяўчынкаю, і не закончыла фразы.— Ты ідзі, Пятровіч. Я закончу абход і потым зазірну. Гарбаты выпіць... Ці кубачак кавы, калі зварыце і запросіце...

Не чакаючы адказу, уставіла ключ і рашуча павярнула яго ў замку: яна, урэшце, урач, вопытны ўрач, і ў падобныя моманты павінна адчуваць сябе дужэйшаю і за Бога і за д'ябла.

## 9

Людзі, людзі, людзі... Ад іх мітусні, ад штурханіны, у якую яна патрапіла, выбраўшыся на праспект, муцілася ў галаве. Натоўп перастаў успрымацца натоўпам — Нялюбе здавалася, што яна апынулася ў сагнаным гарадскімі пастухамі статку, ахопленым страхам перад якоюсь невядомаю, нябачнаю небяспекаю, якая пагражала з усіх бакоў. Адусюль. І ад цёмных, асклізлых ад дажджоў камяніц па абодва бакі вуліцы. І ад пагрозлівага пераміргвання светафораў, ад якога пры першай жа магчымасці ашалела кідаліся прэч запрэжаныя ў гул сваіхматораў аўтамабілі. І ад брудных, заляпаных пяском і мокрым смеццем гранітных пры-

ступак, што вялі пад зямлю, у цёмныя, запоўненыя нахабнымі вулічнымі прадаўцамі газет, даўно прывялых гваздзікаў і завезенай з-за кардону касметыкай падземныя пераходы.

Калі б Нялюба хоць на міг задумалася, то, мажліва, і зразумела б, што яе самую прыспешвае, гоніць па горадзе няўцямнае адчуванне гэтай небяспекі, але думкі, быццам і іх прыглушыў, прыгасіў халодны кастрычніцкі вецер, набраклы вільгаццю, даўно аціхлі ў ёй, і жыла дзяўчынка адно вачмі, не чуючы ні хады часу, ні людскога таптання па тратуарнай гразі.

Яе зрэдку штурхалі, часцей, калі яна апыналася як бы поперак руху, злосна ці абыякава абміналі — і шэрань калыхалася побач, размываючы людскія твары, ператвараючы іх у цьмяныя невыразныя пляміны. Далей, далей! Праспект, здавалася, перацякаў цераз яе — не-не і ўзнікала патрэба спыніцца, адчуць, што і яна, як усе вакол, ступае па тратуары, што горад не сплывае ўвесь час некуды назад, а спакойна дзівіцца на мурашыную бегатню людзей.

Плашчык Нялюбін яшчэ не абсох ад дажджу, і спыняцца надоўга не выпадала: адразу станавілася зябка. Таму дзяўчынка прыпынялася на якія паўхвілінкі (адно каб позірк набыў устойлівасць і яснасць) і зноў ішла — дзе следам за рухам натоўпу, дзе насустрач яму. Зачапіўшы каго плячом або локцем, прабачалася — праўда, усё цішэй і цішэй, бо ніхто не азіраўся ні на яе, ні на яе прабачэнні; зліўшыся ж з рухам, з рытмам яго, ужо і сама не паварочвала галавы на чыю-небудзь неасцярожнасць ці грубасць.

Вось жа і не любіла штурханіны, а штосьці вабіла штораз сюды, на людны праспект, змушаючы прайсці гэты тлумны прамежак яго ажно да самай плошчы, у якую, як у тупік, праспект упіраўся, каб тут жа, не марудзячы, развярнуцца і прадоўжыць свой бег, пачаць яго спачатку, ад кропкі адліку, з захаду на ўсход — прамой, як страла, магістраллю.

Сэрца горада? Самы цэнтр яго? Ды не, мусіць... Хутчэй ужо — гістарычны цэнтр, даўно разбураны, па сутнасці, сцёрты з зямлі, які па-ранейшаму валодаў магнітным (ці яшчэ якім) полем прыцягнення. Нялюба не сказала б пэўна, але падсвядома адчувала менавіта гэта. І таму не працівілася свайму жаданню і ўслухоўвалася ў рух праспекта, як услухоўвалася б у хворы, гарачкавы пульс самога горада, зямлі, на якой ён стаяў.

Натоўп гусцеў — і яна не знаходзіла гэтаму прычыны: ГУМ жа, які працэджваў праз сябе ўсё гэта людское ско-

пішча, даўно застаўся ззаду і тут, за квартал ад плошчы, звычайна дыхалася вальней. Звычайна, але не сёння.

Выбавіўшыся ад задумлівасці, Нялюба прыгледзелася да прахожых больш пільна: усе ішлі ў адным накірунку — да плошчы, часцей — купкамі, па некалькі чалавек, па ўсім відаць, добра між сабою знаёмых, што нагадвалі ўжо не проста праходку па праспекце, а дэманстрацыю. Ды і гаварылі, калі прыслухацца, пра палітыку. Штосьці — пра апазіцыю ў парламенце, пра мітынг у яе падтрымку.

«Мітынг! Там, на плошчы, мітынг!» — як падхліснула яе раптоўная здагадка: бачыла ж мітынгі толькі ў кіно, на экране, а тут — сапраўдны, шматлюдны, у падтрымку нейкай апазіцыі, і яна, Нялюба, магла аказацца яго ўдзельніцаю...

Узрушэнне, узнікшы, тут жа прайшло (мітынг жа — не канцэрт пад адкрытым небам, каб захапіць, узвысіць душу), але цікаўнасць падштурхвала ўсё ж даволі рашуча, і праз хвіліну-другую, калі пагляду адкрылася ўрадавая плошча, амаль спрэс запоўненая народам, душа Нялюбіна памкнулася туды і нязмушана, і з пэўным хваляваннем.

Лёгкі шум пакалыхваў плошчу, заціснутую, адціснутую ад урадавых будынін праспектам, які тут, каля самага свайго вытоку, распадаўся на два рукавы, на дзве ручаіны, урэшце, пад сценамі педінстытута, спалучаныя, зведзеныя ў адно рухам па крузе. І для таго, каб апынуцца ў гэтым крузе, на астраўку, дзе тоўпіўся народ, трэба было, каб чарговая людская хваля выплюхнулася на праезджую частку, перагарадзіўшы, перапыніўшы рух транспарту, што здаралася не так і рэдка, нягледзячы на пратэст расстаўленых ледзь не праз кожныя дзесяць метраў рэгуліроўшчыкаў. Хто чуў тыя пратэсты, хто звяртаў на іх увагу?

Калі Нялюба ўплішчылася ў натоўп і пачала прабірацца, працiскацца далей — бліжэй да імправізаванай трыбуны ў самай гушчы мітынгуючых, чуваць стала трохі лепш: ці то слых прызвычаіўся, ці то радыётрансляцыю адладзілі, ачысціўшы фон, але хутка асобныя словы, абрыўкі фраз сталі складвацца ў выразную прамову, цікавую нечаканым паваротам да яе, Нялюбіных, думак.

— Так, так, адказнасць за многае — на інтэлігенцыі. І пэўная віна, і пэўная адказнасць — на інтэлігенцыі,— горача даводзіў высокі, з армейскаю выпраўкаю юнак, разпораз узмахваючы рукою, рэзка, рашуча рассякаючы паветра побач з сабою.— Хто ж яшчэ ў адказе за бездухоўнасць, якая раз'ядае век, час, не пакідаючы надзеі на чалавека? Чалавек — а гэта мы з вамі, кожны з нас! — не вы-

конвае ўскладзенай на яго місіі, свайго наканавання: ён адмовіўся ад Бога ў сабе і, нягледзячы на тэхнічныя рэвалюцыі, дэградуе, скочваецца ў сваім духоўным развіцці ўсё ніжэй і ніжэй. Чым гэта можа скончыцца, апроч катастрофы?

— Усё каркаюць, каркаюць...— уздыхнуў хтосьці непадалёку, а хто, Нялюба, каб і схацела, не змагла б высветліць: заціснутая ў натоўпе, павярнуцца на голас яна не магла.

— Далоў дамарошчаных прарокаў! Жыве Беларусь! — п'яна раўнуў хтосьці далей, праваруч ад Нялюбы, і тут жа на яго зашыкалі, супакойваючы, а то і перасцерагаючы.

— Слова мае паэт Язэп Коржак,— перапыніла далейшае высвятленне адносін абвестка з рэпрадуктара, за якою, амаль адразу, Нялюба пачула зменены мікрафонам знаёмы голас:

Душу гняце бездапаможнасць слоў,
Бездапаможнасць веры ў іх уладу.
У суддзях — праўда, раскашуе — зло,
У пашане — талент, хціўцы пры пасадах...
І што тут зменіць абяцанне змен?
Што абароніць вернасць запаветам?
Міжволі ўспомніш дзедаўскі бязмен,
Які хацеў узважыць сілу ветра.
На тое й вецер, каб ірвацца з рук,
На тое й сіла, каб не мець спачыну...
Бязвер'е ж — сіла, што не знае мук,
Не помніць мук, прынятых за Айчыну.
Прынятых тымі, хто па праўдзе жыў,
Змагаўся праўдай, словам яе кожным,
І за яе сканаў — не на крыжы,
На скрыжаванні бальшакоў астрожных...

Не заўважаючы сваго руху, свайго неадольнага памкнення ўперад, праз людскую тоўшчу, Нялюба цераз галовы, цераз мора галоў узіралася ў Язэпаву постаць каля мікрафона, у залатое полымя валасоў яго, распатланых ветрам, у твар, адсюль, здалёк, усё яшчэ даволі невыразны, размыты адлегласцю,— і словы хвалявалі, зачароўвалі яе сваёю палкасцю, і сваёю прастатою:

Хто сёння не збаіцца мук (хто з нас?)
За праўду і Айчыну? Час паўпраўды?
Але ж ён наш, ён намі створан, час,
Такім, які б усё і ўсіх апраўдваў.
Вось і апраўдваў. Вось і апраўдаў.
Няма ні вінаватых, ні герояў.
І страшна адмахнуцца — не бяда! —
І страшна думаць: пойдзе на старое...

Голас ацiх. Мiг-другi над плошчаю панавала цiшыня, i вось ужо Язэп аступае на крок ад мiкрафона, каб зноў, i больш рашуча, наблiзiцца, ускiнуць руку ўверх.

— Жыве Беларусь!

— Жыве! — азвалася, выдыхнула ў адказ плошча, i тысячы рук узляцелi над галовамi гэтак жа рашуча.

Падняўшы пагляд, Нялюба ўбачыла, як адхлынула, узвiлося, закружыла над горадам неба — не тое цяжкое, шэрае, бухматае ад хмар, пад якiм яна толькi што стаяла, а высокае, адбеленае вышынёю i гэтым ледзь улоўным рухам па крузе — шырэй i шырэй, так што хутка i паглядам нельга было ахапiць яго прастору. А ўсярэдзiне проста над ёю, у недасяжнай вышынi, ускiпаў, зараджаўся новы рух, каб праз мiг-другi пачаць павольна расцякацца, шырокiмi кругамi разыходзiцца ад цэнтра, утвараючы вiр, бяздонны вiр, у якi невядомая, няўцямна-магутная сiла ўцягвала прастору.

— Э-э-эй! Ты што — самлець уздумала ад радасцi? — трос яе хтосьцi за плячо.

— Радасцi? — лыпнула дзяўчынка вачмi на незнаёмца, густая, добра дагледжаная барада якога ў спалучэннi з хуткiм мiтуслiвым позiркам i даволi доўгiм носам выглядала да смешнага прэтэнцыёзна.— Якой радасцi?

— Як якой? — таропка адхiснуўся той, перастаўшы яе трэсцi.— Вось гэтай. Усенароднай.

— Ах, усенароднай! — буркнула Нялюба, паспрабаваўшы працiснуцца яшчэ на колькi крокаў назад: там жа, на самаробных падмостках, толькi што чытаў свой верш Язэп — яна магла гукнуць яму, магла, незаўважная ў натоўпе, дзiвiцца на яго, на яго твар.— Мне трэба прайсцi. Калi ласка...

Прайсцi было немагчыма. Сцяна людзей, якая адгароджвала дзяўчынку ад трыбуны, ад Язэпа, здавалася, рушыла ёй насустрач — яе штурхалi, адцiскалi назад, змушалi адступаць. Калi ж яна, знясiленая, спынiлася, застыла на месцы, стараючыся не паддацца людскому нацiску, не даць сябе ўцягнуць у самую гушчу натоўпу, то штуршкi з усiх бакоў сталi суправаджацца i незадаволенымi, а то i злоснымi воклiчамi. Цi чула iх Нялюба? Мо i не чула. Задумлiвы твар яе, быццам асветлены знутры няяркiм, але нязгасным полымем, быў падняты ўгору, i калi чыйсьцi позiрк неўзнарок затрымлiваўся на iм хоць на iмгненне, iмгненне, люструючыся ў гэтым позiрку, доўга захоўвала сваю таемную, прыцягальную сiлу — не-не i муляла чалавеку зноў азiрнуцца, адшукаць у людскiм моры дзiўную дзяўчынку,

каб зразумець, каб нарэшце ўцяміць, што так нечакана запыніла ўвагу, чым тлумачылася гэтае раптоўнае прыцягненне.

«Табе не спадабаўся прачытаны мною верш?»

«Гэта быў верш?»

«Пэўна ж, табе даспадобы іншае — больш лірычнае, больш інтымнае, але ж ішоў мітынг, людзі чакалі...»

«Ты не разумееш. Той, хто разумее, не мае адносін ні да людзей, ні да жыцця іх — ён стаіць адно перад сваёю прыродаю і перад Тварцом сваім».

«Не ўсім дадзена тое, што табе, Нялюба».

«Мы ўсе — на крайку бездані, і вось бы ўзляцець, ляцець — і крылы ёсць, а паветра пад крыламі не знаходзіцца».

«Гэта штосьці з філасофіі, не прызнанай у свой час».

«Не. Гэта частка нас саміх, гэта нутраное, роднае нам, але чамусьці страчанае і забытае, забытае многімі. І ты гэта ведаеш не горш за мяне».

«Але ж ты сама неяк сказала: ведаць не азначае памятаць...»

«За ўсё даводзіцца плаціць. Калі гатовы плаціць. Ты гатовы?»

«Я не думаў пра гэта».

«А пра што ты думаў там, над натоўпам?»

«Пра што? Пра людзей... Пра цябе!»

«Навошта! Табе трэба было думаць пра Бога».

«А я думаў пра цябе! пра цябе!»

— Пра цябе... пра цябе...— рэха падкідвала, перакочвала ў паветры апошнія словы, і Нялюбе чулася ў гэтым насмешка і нязлоснае пацвельванне, хоць, калі словы, рассыпаўшыся на асобныя гукі, аціхлі, яна ўбачыла, што стаіць пасярод апусцелага пляца зусім адна і толькі неразабраная, нявывезеная трыбуна нагадвае, што тут, на плошчы, нядаўна шумеў мітынг староннікаў апазіцыі.

Неба на вачах цямнела і, здавалася, усім сваім цяжарам навальвалася на дахі камяніц, прыціскаючы гмахі да асфальту, так за дзень і не падсохлага ад разводаў гразі і шматлікіх лужын: ці то ўзапраўду насоўваўся вечар, ці то зноў збіралася на дождж.

Змусіла сябе рухацца, пайшла да тралейбуснага прыпынку па той бок плошчы, не адразу зразумеўшы, чаму кожны рух, кожны крок патрабавалі ад яе напружання ўсіх сіл: ногі з цяжкасцю згіналіся, цела як здранцвела... Змерз-

ла! Яна ў сваім лёгкім плашчыку не проста азябла — змерзла і цяпер доўга, да самага дому, не сагрэецца!

Тлумачэнне было такім простым, што Нялюба міжволі ўсміхнулася, усмешкаю пакпіўшы сама з сябе: паэт прымроіўся, гаворка з ім захапіла, прызнанне яго ўразіла... Лёгкаю прастудаю, як мінімум на тыдзень, па ўсім відаць, забяспечана.

10

— Рад, што ты дома. У нас знойдзецца што выпіць?

— Ты не хочаш мяне пацалаваць? — усяго на момант разгубілася Стэфа, каб тут жа пакрыўдзіцца і надзьмуць губы.— Ты паўтара тыдні не заходзіў.

— Ужо і не чакала, праўда? — не зважаючы на яе тон, распранаўся Зянон.— Не чакала, родненькі, прызнавайся, а я — вось ён, я, жывы і здаровы... Адно смага праклятая дапякла. Так што... Так што,— па ходу абняў яе за плячо,— калі не хочаш, каб выкіпеў увесь да самага карэньчыка, налі стаграмульку.

— Ты не дужа цырымонішся са мною, так? — хінулася да яго Стэфа, адчуваючы, як па ўсім целе разліваецца знаёмы жар.

— Якія, чорт вазьмі, цырымоніі? Я з ног валюся...

— І валіся,— рагатнула і, прыхінуўшыся, цмокнула Зянона ў шчаку.— Мажа, я толькі і чакаю гэтага.

Зянон (не быў бы ён акцёрам!) раптам абмяк, пачаў завальвацца набок, цягнучы яе за сабою,— і вось ужо яны пакаціліся па падлозе, ссоўваючы, камечачы лёгкі дыван, вось ужо — спярша жартам, забаўляючыся, а потым з усёю палкасцю, разбуджанаю пацалункамі і звыкла-прыемнаю барацьбою рук, вуснаў, жаданняў — рвалі адно з аднаго не патрэбную ў гэту хвіліну апратку. Праз колькі хвілін дзве страсці зліліся ў адным памкненні задаволіцца, насыціць плоць, каб потым зможана, бяссіла распластаўшыся побач, ні Зянон, ні Стэфа не ўспомнілі ні гэтага памкнення, ні асаблівага задавальнення: страсць выпякала ўсё ўнутры, не пакідаючы следу. Душа ж...

Што да душы, да таго, ці бывала яна сведкаю падобных хвілін, ніхто нічога пэўнага ніколі не сказаў. І не скажа. Усё тут ахінута таямніцаю — таямніцаю, якую простаму смяротнаму не разгадаць. А калі гэты просты смяротны і не задумвася ніводнага разу? Калі прагнуў і прагне толькі плоцкіх уцехаў?

Не-не, не ўсё так безнадзейна. Не ўсё і не для ўсіх. Грэх на тое і грэх, каб душа ад яго адварочвалася.

— Ты не дужа цырымонішся са мною, так? — паўторанае мякчэй, размякчаным і ад таго ледзь чутным шэптам пытанне не перапыніла ціхага пагойдвання пакоя, і Стэфа адчула, што, калі, моцна сцяўшы павекі, не выслабаніцца ад яго, яно паглыне і яе, і Зянона, і гэтыя ўжо добра загуслыя суцемкі вакол. Адчула — і міжволі здзівілася: як хутка сёння сцямнела...

— Прыкрыйся чым-небудзь. Дачка пазірае.

Інстынктыўна падкурчыўшы ногі, перш чым расплюшчыцца, сутаргава намацала побач на падлозе халат і пацягнула яго на сябе. Потым, быццам толькі ў гэты, наступны, момант уцяміла і сказанае і тон сказанага, лыпнула вачмі і рэзка, рыўком села: Зянон жартуе?

Зянон сядзеў на крайку канапы і то зашпільваў, то расшпільваў верхні, пад самым каўняром, гузік на кашулі — па твары ягоным прабягалі невыразныя рухомыя цені, прыроду якіх вызначыць было немагчыма, у дзвярах жа, глыбока ў кішэні жакета засунуўшы рукі, пахітвалася Нялюба. Яна ўсміхалася, але не ёй, не Стэфе, а нечаму над ёю, за ёю там, дзе зеўрала ў двор, на сцяну суседняга гмаха, акно, і ад усмешкі гэтае Стэфе стала не па сабе: гэтак усміхаўся б, жалкуючы аб яшчэ адной страчанай, загубленай чалавечай душы пасланы небам на зямлю анёлак...

— Праходзь, малая, што ж ты? — абарваў паўзу Зянон, падымаючыся (хто-хто, а ён валодаў і сабою і сваім галасам!).— Ідзі, пастаў на агонь чайнік. Думаю, нікому з нас не зашкодзіць цяпер кубачак моцнага чаю. А?

Падаў Стэфе руку, дапамагаючы ёй падняцца, позіркам загадаў памаўчаць, не звяртацца да дачкі.

— Як, Нялюба? Заварыш чай? Ці мне самому ўсім распарадзіцца, не чакаючы тваёй згоды?

Нялюба нават не зірнула ў яго бок — невідушча, па-ранейшаму ўсміхаючыся, абмінула, як абмінула б нежывую, ссунутую са свайго звыклага месца рэч, і, прыкрыўшы за сабою дзверы ў кухню, пстрыкнула выключальнікам. Гукі музыкі з тут жа ўключанага ёю радыёпрыёмніка, перш ціхія, потым грамчэйшыя, абарвалі цішыню, якая захліснула дом у наступны момант, і Стэфіна рэакцыя на тое, што адбылося толькі што і нагадвала нямую сцэну з няўдала разыгранага фарсу, здзівіла Зянона — Стэфа смяялася. Захінаючы халат і абвязваючыся пасакам, папраўляючы скамечаную прычоску, ціха і, як здалося яму, усё-такі, нягледзячы на знешнія спакой і рашучасць, крыху разгубленаму, помсліва смяялася.

— Гэта што? Запозненая рэакцыя на маю рэпліку? — павярнуўся ён да жанчыны, раптоўна і як не ўпершыню адчуўшы да яе сапраўдную непрыязнасць.

Смех пацішэў, але яшчэ з паўхвіліны ўплятаўся ў гукі бетховенскай санаты, якую перадавалі па радыё, і Зянону нічога іншага не заставалася, як пазіраць на Стэфу, што было непрыемна, ці адвярнуцца, адысціся — хоць бы для таго, каб і тут, у пакоі, уключыць святло, што ён і зрабіў.

— Увесь час забываю, што маю ў хаце дарослую зусім дзеўку.

— Яна — твая дачка, родненькі, і чым хутчэй ты з гэтым звыкнешся...— не дагаварыў ён, сустрэўшыся з цвярозым, жорсткім у сваёй пранізлівасці Стэфіным позіркам, які, хоць і быў скіраваны на яго з люстэрка, праз адбітак, працінаў наскрозь.— Ты... Ты што, яе ненавідзіш?!

— З чаго ты ўзяў? — дрогкім узмахам вейкаў адгарадзілася яна ад яго і, калі, адвярнуўшыся ад люстэрка, ад сябе, той, у люстэрку, пайшла цераз увесь пакой да залішне сучаснага тут, у пакоі, які нагадваў каморку, серванта, каб узяць кілішкі і не дапітую ў мінулы яго прыход пляшку гарэлкі, твар яе нічым не выдаў згаслага (ці прыхаванага пасля таго, як яно так выразна праявілася) пачуцця.

— Здалося, дык і дзякуй Богу,— шумна, тэатральна ўздыхнуў Зянон.— Малая ж і так...

— Дагаворвай, чаго змоўк?

— Мы неяк іншым разам пагамонім пра гэта, калі не пярэчыш,— азірнуўся ён на прычыненыя кухонныя дзверы.— Не ў яе ж прысутнасці, родненькі!

— А чаму б і не? — паставіла на стол прынесенае і, зірнуўшы на яго ўважлівей, спакайней, адсунула крэсла і села.— Яна ж яшчэ не ўстала паміж намі. Не ўстала і не ўстане.

— Пра што ты? — ужо з пляшкаю ў руцэ гэпнуўся на крэсла і Зянон, усміхаючыся на ўсе зубы, хоць усмешка, па ўсім відаць, муляла яму, і ён, калі б даў волю словам, хутчэй за ўсё паслаў бы ў гэты момант Стэфу туды, дзе чэрці коней пасвяць.— Такой кабылцы, як ты, родненькі, ніводная саперніца ў зубы не зазірне, а калі ўжо ў сваёй дачцы бачыць саперніцу... Не знаю, не знаю. Ты зусім затуркаеш дзяўчынку, а яна і так як з таго свету.

— Ну-ну-ну, любчык, не трэба так хвалявацца. Гэта ўсё ж такі не твая дачка,— буркнула, пасунуўшы да яго свой кілішак, Стэфа, незадаволеная ўзніклаю гаворкаю пра тое, пра што часцей за ўсё і думаць не хацела.— Разлівай, чаго чакаеш?

— Што ты пра яе думаеш як урач, як псіхіятр? — марудзіў Зянон, пакручваючы пляшку ў руцэ і як не чуючы яе просьбы.— Не можаш жа ты, урэшце, не думаць!

— Ёй не пагражае дурдом, калі цябе гэта цікавіць.

— Не пагражае, кажаш? А што ёй пагражае, не задумвалася? — пазіраў ён ва ўпор.

— Што? Смерць. Як і табе і мне. Як любому з нас,— зазлавала Стэфа і, вырваўшы ў яго з рукі пляшку, сама наліла ў свой кілішак гарэлкі.— За жыццё, якім бы паскудным яно нам часам ні ўяўлялася! За нас з табою ў ім, у гэтым жыцці!

— За нас,— прадтрымаў ён абыякава, не падыграўшы, як рабіў звычайна, а потым раптам як схамянуўся, дадаў крыху весялей: — За нашу свабоду адно ад аднаго...

— Во нават як! За свабоду...

— Ты маеш што-небудзь супраць?

— Ні, Божа мой! Калі ты ўсё-такі штораз вяртаешся сюды, да мяне, нашто Бога, як кажуць, гнявіць? А што не кахаеш... не пакахаў мяне, дык і не адштурхваеш жа да канца, так? Ці то ўдзячнасці маёй чакаеш, ці то звыкся з няўдзячнасцю.

Стэфа, сама таго не жадаючы, правакавала Зянона на спрэчку, на чарговае высвятленне адносін, і тое, што ён ніяк не рэагаваў, спакойна разліваючы па кілішках рэшту гарэлкі, злавала, міжволі раздражняла яе: не, каб разыграць сцэну рэўнасці, ці хоць бы занепакоенасці! Мо і сапраўды, як прадказвалі Націны гараскопы, устане паміж імі сцяна — сцяна холаду? Мо яна ўжо ўстала? Не-не ж, і вярэдзіла штосьці думкі, як вось цяпер...

Узяўшы кілішак, абышла, падняўшыся стол. Адчула, як лёгенька ўздрыгнулі Зянонавы плечы, калі яна, зайшоўшы ззаду і схіліўшыся, прыціснулася да іх грудзьмі.

— Ты ведаеш, ты не можаш не ведаць, што гэта цела належыць табе, што я здыхаю тут без цябе па начах, адна ў халоднай пасцелі, і ўсё-такі прапануеш свабоду. Свабоду ад чаго? Для каго?

— Мы не адны ў кватэры, Стэфа,— прыўзняў ён галаву і, шчакою крануўшыся Стэфінай шчакі, прыкрыў вочы, расслабіўся, не даючы волі жаданню, што зноў міжволі варухнулася ў ім.— Мы не адны. Ты хоць помніш пра гэта, а?

— Паміж намі і ёю — цэлае мора музыкі... Чуеш? — церлася аб яго шчаку Стэфа.— І ты мог бы пацалаваць мяне, перш чым я вып'ю за цябе... за тую сілу, якою ты дзелішся са мною, якою ты заўсёды лечыш мяне...

— Цішэй, цішэй, родненькі,— паспрабаваў Зянон вызваліцца з яе абдымка.— Усяму свой час.

— Канешне, канешне! Але ж я магу цябе пацалаваць, калі хачу? Магу, скажы?

Словы цішэлі, шэпт станавіўся невыразным, і Зянону, якога апякалі, пяклі Стэфіны пацалункі, спатрэбілася ўся яго воля, каб не паддацца гэтаму палкаму націску, утрымацца ў межах разумнага і ўрэшце паслабіць, разарваць яе абдымак. Якраз своечасова, бо музыка, адгучаўшы, сціхла, сціхла і ў цішыні, раптоўнай і таму глыбейшай, чым яна была на самай справе, гучным, аглушальным здалося нават іх усхваляванае дыханне.

— Чайнік ускіпеў? — занадта паспешліва, але не суцішыўшы дыхання, гукнула дачцы Стэфа, і голас здрадзіў ёй: словы ўпалі, раскаціліся доле, ледзьве ўзляцеўшы.

Скарыстаўшы момант, Зянон вызваліў плячо і падняўся. Паспрабаваў пасадзіць на сваё месца Стэфу і сустрэў нямое супраціўленне. Адступіў, міжволі ўсміхнуўся на першыя гукі новай бетховенскай санаты, рэзкія, адрывістыя і ўсё ж поўныя ўрачыстай сілы: фон для любоўнае схваткі якраз той, што трэба... Што гэта на іх абаіх сёння найшло?

Ён ужо супакоіўся і даволі скептычна ацэньваў сітуацыю: жанчына ссумавалася па ім, па ягонай грубай сіле, што належала, як яна здагадвалася, не ёй адной, і, збудзіўшыся ад свайго чакання, забыла пра ўсё на свеце. Ён жа, Зянон... А што ён? Чаму б і не аддаць на гэты момант лішняе, тым больш, што бралі і ахвотна і з пэўным веданнем справы?

— Прынесці чай? — перапыніла яго кружэнне вакол стала Стэфа не тое што спакойна — абыякава, і Зянон здзівіўся. Здзівіўся не так абыякавасці толькі што распаленай страсцю жанчыны, як таму, што не чакаў пытання, што адно цяпер усвядоміў: другі, а то і трэці раз абыходзіў пакой па крузе, прыслухоўваючыся да таго, што рабілася ў ім, у ім самім.— Дык несці ці не?

— Мы ж... Мы ж яшчэ гэтыя кроплі не дапілі,— знайшоўся ён і ўжо ў наступны момант зноў падпарадкаваў усё сваёй волі: стол, кілішкі, словы, вясёлую ўсмешку.— А ты ж хацела выпіць за мяне — хацела і не выпіла. Ну? Тост не састарэў? Я цябе нічым за апошнюю хвіліну не расчараваў?

— Што ты думаеш... пра яе? — кіўнула Стэфа ў бок кухні, не зводзячы з Зянона халоднага насцярожанага пагляду, і ён міжволі перасмыкнуў плячмі.

— Сама сказала, што дурдом ёй не пагражае,— лена, як бы нехаця, кульнуў ён сваю чарку ў рот.— Значыцца, і непакоіцца няма чаго, так я разумею.

— Ты не адказаў.

— Дык мне ж з малой і пагаманіць ніводнага разу не давялося — па тваёй ці па яе ўласнай волі, не знаю,— пасур'ёзнеў Зянон, але ад прамога адказу, як і раней, ухіліўся.— Калі ўжо табе, матцы, родненькі...

— Збоку лепш відаць! — не прыняла яна ягонай адгаворкі.— Я ж цябе не дыягназ паставіць прашу, а меркаванне сваё наконт дзеўкі выказаць.

— Меркаванне? — чамусьці зазлаваў ён.— А то ты сама дасюль не зразумела, што дзяўчынка жыве ў іншым — не ў тваім ці маім, а ў сваім уласным свеце. У іншым, калі хочаш, вымярэнні.

— Ты гэта што... сур'ёзна? — запнулася яна на першай жа ноце абурэння і не адразу змагла прадоўжыць.— Адкуль узялося гэта іншае вымярэнне?

— Адтуль, куды нам з табою ходу няма,— ужо шкадаваў аб сказаным Зянон і таму спрабаваў перавесці ўсё ў жарт, але жарт, па ўсім відаць, атрымаўся няўдалым, бо Стэфа спахмурнела і, пакручваючы ў пальцах кілішак, ніяк не азвалася — адно пазірала на Зянона ці то з недаверам, ці то з насцярогаю.— Ды кінь ты, родненькі! То не бачыш дзяўчынкі што называецца ўпрытык, а то да душы яе адным махам хочаш дабрацца. Давай паклічам яе сюды і спытаем...

— Не, не! Не цяпер,— адвяла яна пагляд.— Што гэта на мяне найшло раптам?

Скрывіла губы, нарэшце ўбачыўшы, што круціць у пальцах кілішак з недапітаю гарэлкаю, і неяк грэбліва адсунула яго.

— Што там наш чай? Малая, відаць, заснула каля пліты.

— Вазьмі ў серванце кубкі, я зараз,— азвалася Стэфа ўжо ў дзвярах.— Хоць пару якіх бутэрбродаў зраблю да чаю. О, Божа літасцівы...

Кухня была напоўнена параю — на агні выкіпаў, шалёна булькаючы рэшткаю вады, чайнік — Нялюбы ў пакоі не было. Так здалося ёй у першы момант: дзяўчынка знікла... І толькі пасля таго, як Стэфа выключыла пліту, матлянуўшыся да акна, адчыніла фортку, яна агледзела дачку: у самым кутку, на табурэтцы, прыхінуўшыся да сцяны, Нялюба спала.

— Здарылася што-небудзь? — з'явіўся на парозе Зянон.

— Нялюба! Чуеш ты, чорт вазьмі? — валтузіла, трэсла дачку за плячо Стэфа.— Знайшла дзе спаць... Прачынайся!

— Ды чакай ты! Мо не трэба яе цяпер будзіць? — пільна ўзіраўся ў нерухомы, застылы тварык Зянон, дзівячыся яго спакою, здаецца, ужо незямному.— Пульс праверыла?

Стэфа бліснула на яго вачмі, фыркнула, абражаная ягоным умяшальніцтвам, але трэсці Нялюбу перастала і зірнула на яе больш уважліва, больш пільна.

— Не ведаю, што такое летаргічны сон...

— Не ведаеш, дык памаўчы! — рэзка абарвала яна, не даўшы Зянону дагаварыць.— Трэба перанесці яе на канапу.

— Я сам, калі дазволіш... Тут жа ў дзвярах дваім не разысціся, як ты разумееш.

Не чакаючы адказу, узяў малую на рукі, здзівіўся (здзіўленне яго хутчэй нагадвала няўцямны, містычны страх) лёгкасці, ледзь не бязважкасці сваёй ношкі і, перанёсшы дзяўчынку цераз увесь пакой, паклаў яе не тут, у пакоі, на канапе, а за адчыненымі дзвярмі ў спальню, на Стэфіным ложку.

— Табе трэба асцеражней з ёю,— павярнуўся да Стэфы.

— Ага. Пылінкі здзьмухваць з яе буду!

— Цьфу ты, з гэтымі бабамі,— зазлаваў Зянон.— Ёй «тпру», а яна «но!»... Рабі што хочаш: твая ж дачка! Дзівіць толькі, як ад такой д’яблíхі, як ты, родненькі, нарадзілася падобная істота: неба ж і зямля...

— Ты на зямлі, не забывай пра гэта,— буркнула, зачыняючы дзверы ў спальню, і тут жа выкінула з галавы ўсе думкі пра дзяўчынку: вечар і так быў сапсаваны.

## 11

«Нялюба, дзетка, прачынайся! Расплюшчыся, зірні на гэты свет Божы, на яго хараство, адсюль, зверху,— будзіў, лашчыў яе бабулін голас, і, ахутаная, сагрэтая ім, Нялюба не чула, не адчувала ўжо дажджу, халодных струменяў, на якіх пагойдвалася, даўно згубіўшы апору на выстуджанай імі зямлі, але і расплюшчыцца не магла. А голас гукаў, голас не адступаўся: — Гэта слёзы перашкаджаюць табе... Ты забыла, што марна аплакваць беды людскія, якія з’яўляюцца караю, пакараннем за слепату, за душэўнае ачарсцвенне людзей. Не Бог ад іх адвярнуўся, яны ад Яго адступіліся. У цябе ж, дзетка, іншая дарога — дарога, якая вядзе ў вечнасць».

«А людзі? Як жа людзі?!» — сілілася варухнуць губамі Нялюба, але і губы, як і павекі, засталіся нерухомымі.

«Пакуль сэрцы ў іх невідушчыя, пакуль не схіляцца перад Госпадам нашым, нішто ім не дапаможа. А ты ляці, ляці, не азіраючыся. Памятай пра іх, але не імкніся ўзяць на сябе іх беды. Кожны сам робіць свой выбар. Кожны — сам...»

«А любоў? Ты ж вучыла мяне любіць іх, такіх, якія яны ёсць, памятаеш?

«Па-мя-таеш... Памя-та-еш...» — накацілася, адкінула яе назад гулкае рэха, і толькі зробленае праз сілу намаганне вярнула Нялюбе адчуванне палёту, цяпер ужо сапраўднага, калі вышыня імкліва ляціць насустрач, калі вецер асушае слёзы і ачышчае ад спамінаў і шкадаванняў душу. Зямля адпускала яе — і ўзлятала разам з ёю, плыла следам, закручваючы ў свой рух, у сваё кружэнне струмені ветру і зорныя промні.

Дзіўная, дзівосная гэта была хвіліна! Святло, якое сыходзіла ад зямлі, акружала яе светлым залацістым німбам, не расцякалася, не выплёсквалася ў прастору, напоўненую няроўным, дрогкім ззяннем зорак, а глыбела, становячыся то яркім, палымяным, то — на ціхі ўздых ночы — празрыстым і амаль нябачным. У ім, у гэтым святле, патаналі ўжо нябачныя лясы, азярыны, клубкі дарог і густа раскіданыя ўздоўж іх паселішчы, і Нялюбе не-не і пачынала здавацца, што не зямля ўзлятала, усплывала ўслед за ёю, а аддадзены ёю космасу агонь, гарачы згустак святла, жыцця, якое прадоўжыцца ў вечнасці. Якое не згасне, а прадоўжыцца, вечна доўжачы гэты палёт, гэта бязважкае кружэнне сярод зорак.

Цела свайго Нялюба не адчувала. Больш таго — не помніла. Часцінкаю зямлі, зямною і ўжо незямною іскрачкаю пралятала яна над адным з прасцягаў, скрозь яго, каб асвятліць які-небудзь з самых аддаленых куточкаў Сусвету ці згаснуць пад нагамі ў Госпада. І столькі радасці, непераможнай радаснай сілы выпраменьвалася наўкруг, што змрок пачынаў іскрыць, радзеў і ў прагалах яго, як у расколінах, на міг-другі выразна вырысоўваліся то купаламі, зверху падобнымі да ластаўчыных гнёздаў, аблепленая царква, то краёк невядомага горнага хрыбта, то паўразбураная, урачыстая ў сваёй пакінутасці вежа, што павыбіванымі, павыломванымі вокнамі чаплялася за вышыню, то да болю знаёмы і не пазнаны ў гэтыя кароткія імгненні краявід.

Зямля? Зямля была па-ранейшаму зусім побач? Каб жа дзяўчынка магла гэта ўразумець!

Змрок змагаўся са святлом, рух цэлых пластоў бязмежнага абшару станавіўся ўсё больш хаатычным, непадуладным нейкаму аднаму кірунку ці намаганню — у гэтым руху патанула, растварылася ўсведамленне самой прасторы. Нялюба ўжо не ведала:ляціць яна, падымаючыся ўсё вышэй і вышэй, ці падае. Цемра клубілася вакол, раптоўна прабітая, пранізаная навылёт адным з промняў, успыхвала, выгарала, здавалася, да самага донца — да якой-небудзь паляны дзесьці паблізу ад Пцічы, да цеснага гарадскога завулка, больш падобнага да бруднай сцёкавай канавы, да руін, абломкаў колішняга храма, аддадзеных кажанам ці вечна галоднаму варанню, і зноў загусала, цяжка варочалася зусім побач, прагнучы паглынуць і зоркі, і іх халодныя водбліскі, і нават памяць пра іх, пра святло...

Святло змагалася за змрокам? Дабро — са злом? Нялюба разумела адно: яна не можа дазволіць цемры паглынуць сябе, сваю радасць — яна павінна перамагчы і далучыцца да святла, зліцца з ім, як далучаліся да яго, зліваліся з ім усе пагуканыя Госпадам.

— Ляці! Ляці ўсё вышэй! — шархацелі побач крылы, мноства крылаў, і каму яны належалі — птушкам ці душам гэткіх жа, як яна, нябесных вандроўнікаў, ніхто б цяпер дзяўчынцы не растлумачыў.

— Не бойся вышыні... Не бойся барацьбы! — шархацелі прыглушаныя адлегласцю галасы.

— Пагуканыя, прынятыя святлом — святлом і вернуцца некалі на зямлю,— шумелі нябачныя, пакінутыя далёка ўнізе дрэвы.

— Помні пра пакінутых Госпадам! — плакала, струменячы адвечны свой смутак, незнаёмая, нябачная крынічка, а ў Нялюбы, як яна ні намагалася адгукнуцца, сказаць, шапнуць, што яна ўсё помніць, што яна вернецца, абавязкова вернецца, нічога не атрымлівалася: вышыня ўцягвала яе ў сваю зорную пашчу — ці то для таго, каб раздзьмуць, удыхнуўшы сваю сілу, свой агонь, ці то для таго толькі, каб паглынуць, як паглынула раней, за многія тысячы гадоў, мільёны іншых іскрачак, гэткіх жа або нават значна ярчэйшых.

Цемра клубілася вакол, і дотыкі яе рабіліся ўсё балючэйшымі: ні імклівасць палёту, пад'ёму, ні бясцеласць, растворанасць у прасторы не дапамагалі дзяўчынцы ўхіліцца ад іх. Шум нарастаў, мацнеў, нагадваючы ўжо не шархаценне крылаў, а няроўны хор галасоў, то амаль пазнавальных, то глухіх і неразборлівых, калі галасы зліваліся ў адзін стогн, у адну бясслоўную скаргу, то зусім выразных.

— Хто вы? — нават гукнула Нялюба ў адзін з такіх момантаў.— За каго просіце ў Госпада?

— Просіце ў Госпада... просіце ў Госпада...— тут жа азвалася, перагароджваючы ёй дарогу, рэха, і Нялюба, хоць і не адчула ўдару аб узніклую паміж ёю і зорнаю прастораю сцяну, пачала падаць, бяссільна саслізгваць уніз, у непраглядны змрок, абрынуты ў чорную бездань ночы.

«Палёт абарваўся... Я вяртаюся...» — мільганула ў думках, і абыякавасць, з якою яна ўспрыняла, прыняла падказку, быццам паскорыла падзенне: змрок са свістам рваўся ўгору, спіхваючы дзяўчынку ва ўтвораны гэтым рухам вір: ніводзін промнік святла не рассейваў яго ні паблізу, ні далей, там, дзе ўгадвалася зямля. Менавіта ўгадвалася, бо разгледзець што-небудзь было немагчыма,— адно рос цяжар нядаўна яшчэ бязважкага цела, адно рвалася, лопалася пад яго вагою паветра.

Раптам стала ціха. Так ціха, што Нялюба выразна пачула ўдары свайго сэрца, што няспешна набягалі, падштурхоўвалі адзін аднаго, нагадваючы нетаропкія хвалі, на якіх пагойдвала яе цішыня. Так, так, пагойдвала, утрымаўшы, утрымваючы над самаю зямлёю, над самаю зямною паверхняю, і калі расплюшчыць вочы...

Клубок з двух сплеценых, уплішчаных адно ў адно целаў адкаціўся ад яе пагляду, на міг застыў, знерухомеўшы ці то ад страху перад яго адкрытасцю, ці то ад рашучага намеру не заўважаць дзяўчынкі, не зважаць на яе, і тут жа ажыў, стаў падскокваць і разгойдвацца, усё шчыльней сплятаючыся, усё бессаромней, з жывёльным стогнам, які ад яго сыходзіў, набліжаючыся. Нялюба хацела зноў заплюшчыцца, каб не бачыць ні гэтага набліжэння, ні таго, чым яно ёй пагражала, але ніяк не магла.

— Божа літасцівы! — адно і вырвалася ў яе з грудзей, абпаленых незнаёмым, невыносным болем, і адчайны крык гэты быццам патушыў наўколле.

Калі змрок адхлынуў, на дыване апалага і ўжо прыжухлага ад дажджоў лісця, там, дзе, як ёй здалося, яна толькі што бачыла ў чыімсьці страшным абдымку Стэфу, стаяла штосьці, што аддалена нагадвала труну... Труна! Адкрытая. Пустая. Сярод зацягнутага шэраю плёнкаю смугі краявіду, разгледзець які лепей, больш пільна не выпадала,— краёк паляны, засыпаны лісцем, ды гэта, невядома кім пакінутая сярод асенняга запусцення труна.

Дзяўчына памкнулася наблізіцца — і не зрушылася з месца, хацела ўспомніць словы малітвы — і не ўспомніла: душа яе знямела раптам перад убачаным.

Шорх! шорх! шорх! — не тоячы, ішоў хтосьці скрозь смугу, і яна стала напружана ўслухоўвацца, узірацца. Чакаць. Хвіліну змяніла другая, другую — трэцяя: водгулле крокаў і не набліжалася і не аддалялася, ніхто ў полі зроку не з'яўляўся. Калі ж прыкрыла стомленыя ад напружання вочы — усяго толькі на міг і прыкрыла! — крокі і зусім сціхлі.

«Здалося. Пачулася»,— лёгка вытлумачыла ўсё, што адбывалася, Нялюба, але варта было ёй зноў расплюшчыцца і зірнуць уніз, як недаўменне вярнулася. Нават узрасло. Труну, толькі што пустую, скарысталі як карыта: у ёй плюхаліся невядома кім і калі вылітыя памыі, плавалі скарынкі хлеба і markроознае шалупінне, каравыя ж, пачарнелыя дошкі цьмяна адсвечвалі наростамі тлустай гразі.

— Што, чысцюля, не падабаецца? Нос заткнуць хочацца?

Голас належаў Стэфе, яе ж самую, відаць, хавала смуга, якая так і не рассеялася, і абвёўшы паглядам яе сцяну, Нялюба змірылася з тым, што не ўбачыць матку.

— Смялей прынюхвайся, смялей,— падсмейваўся голас.— Ніхто ж табе, апроч мяне, не скажа, што гэта і ёсць сімвал жыцця, і не абы-які, не абстрактны, а зямны, прыродны. Калі нават смерць — збавенне, як шмат хто думае, то перш чым займець яго, збавенне, адчуць, трэба ўсе гэтыя памыі выхлябтаць, носу не адварочваючы. А ты, даражэнькая, як думала?

— Людзі — не свінні, Стэфа.

— Свінні. Яшчэ якія свінні! — разрагаталася тая, па-ранейшаму не паказваючыся дзяўчынцы на вочы.— Твайго Госпада можна было б папракнуць за гэта, як за шмат што іншае, але навошта? Людзі ў большасці сваёй не бачаць граху ў тым, каб штурхацца каля карыта, плюхацца ў гэтай гразі і прымаць памыі, аб'едкі з любога панскага стала як дар, як асаблівую міласць.

— Ты не любіш людзей.

— А за што іх любіць? За тое, што я — адна з іх?

— Але ж ты — адна з іх! — упершыню не падумала, а мовіла ўголас Нялюба, хоць, магчыма, у гэтым і не было асаблівае патрэбы, бо гаворка працягвалася.

— Ну, і...— Стэфа як заглынула свой смех, бо раптам закашлялася і калі зноў загаварыла, у словах пабразгвалі і злосць, і непрыхаванае раздражненне.— Ты марна думаеш, што я люблю сябе больш, чым астатніх. Я — гэткая ж дрэнь, як усе, і не вельмі шкадую аб гэтым. Чуеш?

— Не вельмі, і ўсё ж шкадуеш...

— Гэта не тое шкадаванне, якім ты, дурніца, захлынаешся,— адступіла на крок ад ванючага карыта Стэфа і, раптам стаўшы добра бачнай, нечакана нават для самой сябе зноў засмяялася.— Канешне, ёсць жа іншыя, не нашы, хлеўчукі, у якіх і свінні гладкія, дагледжаныя, і карыты не нашымі памыямі напоўненыя, але іх сутнасць, колькі ні абнось святою вадзіцаю, колькі ні абмахвай кадзілам, не зменіш. Хлеўчукі застануцца хлеўчукамі, свінні свіннямі — і закормленыя, тлустыя, і галодныя ідуць на закланне зямлі. І не гавары, не гавары,— апярэдзіла яна Нялюбіну нязгоду,— пра дух, пра душу! Калі б яны што-небудзь значылі для жыцця, для твайго Бога ці для вечнасці, іх не аплёўвалі б, не тапталі ў неадольным памкненні да вось гэтага бруднага карыта. Кожны бачыць на ўзроўні свайго носу... Ці свайго лыча, як хочаш!

Смех глушэў, раствараўся ў паветры, знікаў, аблеплены, задушаны шэранню, якая зацягвала паляну, і як ні напружвала Нялюба зрок, нічога, апроч гэтай шэрані, неякі час не бачыла. Там, за смугою, Стэфы ўжо не было — гэта яна ведала, але ўсё ўзіралася ў смугу, усё нечага чакала. А смуга пакалыхвалася, калыхалася ўсё мацней, усё пагрозлівей.

— Адпусці мяне, Уладыка, адпусці,— бязгучна малілася дзяўчынка.— Не пазбаўляй ад пакуты, якую сам цярпіш, не ўзнось над людзьмі, над бедамі іхнімі — няхай відушчасць мая супрацьстаіць слепаце іх, няхай вера мая разбурае бязвер'е іх! Вінаватыя, грэшныя яны перад Табою, Усявышні, але ж і я — адна з іх. Не дай жа мне забыць пра гэта, здымі запону з вачэй маіх: зямлі я належу, зямлі і Табе, Збавіцель,— не мяне, дык зямлю пашкадуй!

Сляпучы бліск рассёк смугу ў адказ на яе малітву, і ў вузкую, утвораную ім расколіну, на вачах пашыраючы яе, праціснулася, праціскваласся водгулле смеху, які даўно адгучаў і цяпер нагадваў хутчэй перуновы гнеў, далёкі і таму не страшны. Вось ужо гэты смех перакочваўся зусім побач, пагойдваючы ўсю тоўшчу неба над ёю, а ўнізе... Унізе, у берагах туману, пялёхкалася, уздыхала на кожны ледзь чутны ўсплёск азярына, а на зіхотка-сіняй паверхні яе чарнеў адзінокі човен з грабцом. Човен, што нагадваў труну, ці быў труною...

Спрабуючы суцішыць сэрца, Нялюба ўзіралася ў адкрытую вачам карціну, у дзіўны, страшны човен, у грабца ў ім, і хоць, здавалася, з самага пачатку, з самага першага імгнення пазнала і бачаную ўжо на паляне труну, і хлапца, хацела яшчэ раз пераканацца ў тым, што ні сэрца, ні зрок не памыляюцца.

Яны і не памыляліся: у чоўне-труне пераплываў, імкнуўся пераплыць азярыну без берагоў Язэп, Язэп Коржак, і — ці то на сілу сваю спадзяваўся, ці то становішча свайго не разумеў — не было трывогі ў яго на твары. Спакойна ўзіраўся ён у чыстую роўнядзь вады — і толькі вусны зрэдку варушыліся, так, быццам ціха, нячутна прамаўляў ён штосьці сам сабе. Што? Словы малітвы? Радкі верша?

Нялюба напружыла слых і хутка пачула, што каторы раз ужо Язэп прамаўляў адно і тое ж — адну і тую ж, звернутую невядома да каго скаргу:

— Здрадца — лёс? Не веру. Не паверу...

— Здрадца — лёс? — міжволі паўтарыла яна следам, і Язэп, відаць, не пазнаўшы яе голасу, страпянуўся, павёў паглядам вакол.— Што ты маеш на ўвазе, Язэп?

— Што? Тое, што сказаў,— перасмыкнуў ён плячмі, прадаўжаючы грэбці і не заўважаючы, што застаецца на тым жа месцы, дзе і дасюль заставаўся.

— Але ж лёс заўжды выпадае такі, якога мы заслугоўваем,— не хавала Нялюба смутку.— Хіба ты гэтага не ведаеш?

— Адкуль ты да мяне звяртаешся, малая? — нарэшце пазнаў ён голас і відочна ўзрадаваўся.— Адтуль? З вышыні?

— Галоўнае, што ты мяне чуеш, бо я... я хачу сказаць...

— Гавары, чаго спалохалася? Ці ў мамы дазволу спытаць забыла, а? Ну, ну ж! Смялей!

Азярына на вачах цямнела, мянялася, і, адчуваючы ўсю сур'ёзнасць набеглых хвілін, Нялюба не магла расшчапіць вуснаў: няўжо ён не разумеў? Няўжо не разумеў?!

— Ня-лю-ба... Імя — як адмеціна,— звяртаўся не да дзяўчынкі, якой не бачыў, а да прасторы Язэп.— Адмеціна таямніцы, разгадку якой прынясе мо адно смерць... Хоць што гэта я? Мне ж неаднойчы было сказана, што смерці няма. Так?

Ён яўна падсмейваўся, не напалоханы ні Нялюбіным маўчаннем, ні зменамі ў асвятленні, калі азярына з зіхотка-сіняй на вачах станавілася чорнай, усё больш звужаючыся, сцінаючыся пад наплывам густой смугі.

— Куды ты спяшаешся? Чаму не хочаш дачакацца мяне? — гукала ўстрывожаная Нялюба, сама не чуючы свайго голасу.

— Паэзіі таксама патрэбна таямніца, таямнічае ўздзеянне Космасу, яго духоўнага поля — іначай словы паміраюць нявымаўленымі. А словы павінны жыць, павінны перажыць чалавечы век.

— А любоў? — ціха-ціха спытала Нялюба.

— Любоў? — пачуў і адгукнуўся Язэп, хоць смуга паглынала ўжо і яго і азярыну.— Дык жа любоў і прамаўляе словы, народжаныя ў хвіліны смутку ці радасці. Ці небяспекі...

— Небяспекі? — выдыхнула яна, спрабуючы дыханнем, позіркам утрымаць смугу, што гусцела і ўсё больш нагадвала начны змрок, не крануты ніводным зорным промнем.

Ні Язэпа, ні чоўна-труны, скарыстанага ім, каб пераплыць гэтыя хвіліны, Нялюба ўжо разгледзець не магла, а голас паэта гучаў, і гучаў амаль па-ранейшаму выразна.

Здрадца — лёс? Не веру. Не паверу...
Мы скаваны. Мы ў адным чаўне.
Човен тоне, але ж вось ён, бераг,
Гэткі, як і мроілася мне.
Недасяжна-сонечны. Высокі.
Побач. Мы амаль што даплылі!
І, напэўна, колькі ўсплёскаў звонкіх
Данясе да берага прыліў.
Колькі ўсплёскаў, колькі згадак горкіх
Паглыне загадкавая сінь,
Кад над ёй — на міг — заззяла зорка...
Што ж, і гэта дадзена не ўсім.
Усміхаюся на ўсмешку лёсу.
Мы сам-насам. Мы ў адным чаўне.
Човен тоне, але ж бераг — вось ён,
Гэткі, як і мроілася мне!

— Гэткі, як і мроілася мне...— няўцямна паўтарыла за ім Нялюба ў цішыні, якую раскалоў яшчэ адзін бліск — трэці і апошні.

Так, так, гэты раз, перш чым злавіць паглядам імклівую ўспышку маланкі і апаліну, якую гэтая ўспышка-ўсмешка пакіне ў тым месцы, дзе расколецца змрок, Нялюба пачула свой голас, вымаўлены ўголас радок прагучалага верша і ўслед за ім — музыку, жалобныя, урачыстыя гукі бетховенскай санаты. Таму і не вызначыла — ні ў той момант, ні пасля — чарговы бліск маланкі разарваў смугу ці магутныя, жалобна-ўрачыстыя акорды, якія адразу знайшлі водгук у сэрцы і напоўнілі яго глыбокім смуткам.

«Бабуля! Бабулін гэта смутак!» — здагадалася яна, не паспеўшы яшчэ і зірнуць уніз, на заліты дажджом пясчаны ўзлобак, акружаны апусцелым восеньскім садам, чорнае паплеценае голле якога нагадвала дзіўны жалобны вянок. Што гэта за ўзлобак, чый гэта сад, вызначаць было б марна, ды Нялюба калі і заўважыла іх, то краем свядомасці: позірк

яе адразу прыкавала да сябе труна. Тая ж, бачаная ўжо, ці іншая, яна і цяпер пакалыхвалася — толькі цяпер не на хвалях азярыны, а на хвалях ветру. Быццам не стаяла на мокрым, размытым дажджом пяску, а падчэпленая, павіслая на нябачных простаму воку ручніках, калыхалася ад кожнага, нават слабога, павеву паветра, ад дыхання прасторы.

Нікога, нічога ў труне не было. Адблісквалі мокрыя дошкі і ледзь заўважныя водсветы не-не і распаўзаліся, расплываліся ў вільготным паветры, каб потым зноў з'явіцца, зноў утрымваць Нялюбін позірк,— адзіна яны і жылі, рухаліся, хоць слых яе ўжо ўлоўліваў ціхае, невыразнае водгулле чыіхсьці нетаропкіх крокаў і сэрца сціналася ў прадчуванні нечага нядобрага, страшнага.

Яна не ведала, не разумела, чаму не магла ўмяшацца ў тое, што адбывалася ў яе прысутнасці, у яе на вачах: на думкі ж яе, на словы яе адгукаліся і Стэфа, і Язэп, і... і бабуля! Бабуля ж будзіла яе! — будзіла і не дабудзілася, і гэта азначала...

Што гэта азначала, Нялюба не дадумала — убачыла раптам бабулю. Убачыла і пазнала адно сэрцам: згорбленая, скурчаная невыносным, так і не пераадоленым болем, яна ледзьве сунулася па пяску, усім сваім сухенькім целам з апушчанаю, абвіслаю галавою абапіраючыся на кій. Спадніца і кофта, надзетыя на яе, былі ўжо невызначальнага колеру і рваліся, распаўзаліся ад хады, агаляючы няўцямную, страшную пустату пад імі, і Нялюбе здалося, што яна страчвае розум.

— Бабуля! Бабуля, ты чуеш мяне? — гукнула, напружваючы ўсю сілу.— Божа міласэрны, злітуйся нада мною — дай ёй пачуць мяне, убачыць мяне... Бабуля! Бабуля-а!

Старая не чула. Паволі, як не праз сілу, набліжалася да адкрытае труны, і нават сам рух гэты не выдаваў жывым. Пясок адсвечваў нябачным з-за смугі сонцам, свяціўся, і на яго фоне яшчэ больш жудаснаю выглядала цёмная постаць, сагнутая, згорбленая нябачнаю, страшнаю ношкаю. Вось ужо яна параўнялася з труною, на міг застыла, знерухомела перад ёю і, тузануўшыся, прадоўжыла рух. Рух — і распад. Бо калі скурчанае цела, падпертае кіем, так і не распрастаўшыся, неяк бокам, нязграбна кульнулася ў труну, а з грудзей у Нялюбы вырваўся немы, шалёны крык, пясок вакол труны ўспыхнуў, агонь, паглынаючы труну, шугануў угору, у неба, абпаліў Нялюбін твар, на нейкі час асляпіўшы яе.

— Ба-бу-ля-я! — крыкам рваўся з яе боль, але змрок, які

паглынуў і агонь, і страшную карціну ў акружэнні чорнага, сплеценага ў жалобны вянок саду, паглынаў і крык, скоўваючы Нялюбу, студзячы яе твар і яе боль.

Міг — і ўспыхнула, заззяла ўсімі зоркамі ўгары над ёю неба, зрух і — скрануліся, паплылі зоркі, раз-пораз зрываючыся і падаючы, працінаючы Нялюбу наскрозь. Калі абарвалася і тая нябачная повязь, што ўтрымвала дзяўчынку над зямлёю, яна нават не здзівілася. Уздыхнула і, адчуўшы ўвесь цяжар гэтага ўздыху, паляцела, каменем стала падаць уніз, у ноч, на самае дно яе, адкуль рэдкімі соннымі агеньчыкамі вабіла, прыцягвала яе зямля.

12

Зямля... Колькі прызнанняў у любові яна выслухала, колькі летуценняў, збярогшы, выгадавала, колькі стогнаў і страшных праклёнцаў пахавала! Чалавек не выконваў ускладзенай на яго місіі — свайго наканавання: душа як каменем высланая, выбрукаваная, а ён... Ён не чуў Бога ў сабе і, нягледзячы на ўнушальны, як яму здавалася, поступ цывілізацыі, дэградаваў, скочваўся ў сваім духоўным развіцці да ўсё ніжэйшага ўзроўню. Чым гэта магло скончыцца, апроч катастрофы? Што карысці адмаўляцца ад падобных думак? Песімізмам, бязвер'ем даўно атручана ўсё вакол: ва ўсіх — адна трывога за заўтрашні дзень, ва ўсіх — незадаволенасць, нейкая «обреченность», і ні заплюшчыцца, ні адгарадзіцца: як іржа, раз'ядалі яны ўсе душэўныя тканкі.

Ды чаго там! Не слоўная канструкцыя, сацыяльная сістэма развальвалася, увесь час змушаючы атрэсвацца ад сколкаў і трэсак, усе звыклыя ўяўленні распаўзаліся ад лёгкага дотыку ці павеву ветру — і, пры ўсім тым, нічога не мянялася. Нічога! Тыя ж турботы ў рэдакцыі, тая ж адзінота дома, і не пісалася, зусім не пісалася. Як учора. Як заўчора... Ціхае, затхлае балота вакол, якое ўсплёсквала толькі з кожным новым усплёскам цэнаў, ды і гэта не закранала яго, Язэпа, па-сапраўднаму не закранала. Туга. Толькі туга жыла ў ім. Нават успаміны праз яе не прабіваліся.

Толькі туга... Не, Язэп разумеў, што трэба б змагчы, адолець бяссілле, бязволле і працаваць, не паддаючыся смутку і няўцямнай трывозе, і ўсё адно гадзінамі, літаральна гадзінамі праседжваў перад акном, перад адкрытым пагляду крайком небасхілу: пяро выпадала з рук, думкі ледзь-ледзь варушыліся, не-не і вяртаючыся да горкага і безнадзейнага: ды што ж гэта? што ж гэта такое?

Да прызнання, да шырокага прызнання яму — і яму! — не дажыць? Ну, і што! Якое прызнанне? Чыё? Што прынесла б прызнанне, калі бяда — у тым, што адбывалася ў дзікі, абвальны час з культураю, з літаратураю: прадоўжыцца працэс у ранейшым кірунку, у кірунку да ўсеагульнае бездухоўнасці — і канец. Канец усяму. Калі смерць гарантавана любому творцу яшчэ пры жыцці. Калі лепшыя памкненні душы — усяго толькі смецце на сметніку прагрэсу, што так і сатлее, спрахне, нікому не спатрэбіўшыся.

Заплюшчыцца б, заткнуць вушы і не бачыць, не чуць нічога — так збрыдла ўсё, так усё наперадзе беспрасветна і змрочна, ды хто ж гэткае дазволіў бы побач з сабою? Вось і растрачвалася ледзь не ўся сіла душы адно на тое, каб не ўгразнуць (не даць сябе ўцягнуць) у скепсісе і бязвер'і, якімі быў атручаны час, ад якіх захлыналася краіна: праз поры ў скуры, здавалася, пранікала ў яго, у Язэпа, атрута... Яшчэ б! Не адгарадзіцца ж ад людзей, ад іх трывог — і ягоныя гэта трывогі, і ягоны боль...

Толькі Бог уратаваў бы гэту краіну, калі б павярнуўся да яе, калі б не пазбавіў сваёй літасці! Так, так, толькі Бог! У Язэпа часам узнікала ўражанне, што ні ўлады, ні народ даўно ўжо ні на што не здатныя і не могуць павярнуць, перайначыць яе лёс, без вышэйшага ўмяшання... Няхай бы ён памыляўся, канешне! Толькі ж усё, што адбылося і адбывалася, гаварыла пра адваротнае, пра безнадзейнае ў адносінах да будучыні. Рассыпаліся, раскочваліся звенні часу, дагэтуль сцягнутыя, звязаныя агульнаю, няхай памылковаю, ідэяю, і што — хто?! — мог сягоння сабраць іх, спалучыць наноў, цяжка было нават уявіць, не тое што прадбачыць.

Народ у масе сваёй пагадзіўся з выбарам палітыкаў, цярпіць, як скрозь цярпеў, нягоды і бясконцыя страты, але плата, як Язэп разумеў, была і большаю, і страшнейшаю: самабытнасць народа, культура яго апынуліся перад пагрозаю знікнення, душы людскія ўсё лягчэй паддаваліся націску плоцкіх жаданняў і глухлі... Не, не, гэта не магло застацца непакараным!

«Рэвалюцыя! — не стамляюцца крычаць.— Рэвалюцыйныя пераўтварэнні», а і ў галаву катораму не прыходзіла, што не было, не бывае рэвалюцыйных пераўтварэнняў, а тут і там у гісторыі — рэвалюцыі неслі толькі разбурэнні, рэвалюцыі разбуралі, знішчалі тое, што ўзводзілася, будавалася папярэднікамі. Хоць бы адзін урок гісторыі пайшоў на карысць!

І ён, Язэп, пачынаў мітусіцца, геройстваваць, хоць калі зазіраў зрэдку ў сваю душу, ахінутую смуткам, смуткам і трывогаю, то міжволі адводзіў пагляд, адварочваўся: і гэтая мітусня, і гэтае геройстваванне былі выкліканы не чым іншым, як страхам, бояззю застацца ўбаку, саступіць камусьці іншаму хай нават нязначнае, непрыкметнае, але сваё, сваё месца. А яшчэ пнуўся давесці сабе і свету, што чалавек скрозь не выконваў свайго наканавання, ускладзенай на яго Усявышнім місіі!

Думкі гарчылі, душа, атручаная горыччу, ціха стагнала ў грудзях, і неба, хмурнае восеньскае неба не прымала, адштурхвала ягоную муку...

— Язэп, ты, спадзяюся, памятаеш, што запрасіў на гэты вечар гасцей?

— Што? Якіх гасцей? — сцяўшыся ад жончынага, кінутага з дзвярэй пытання, неяк няўцямна перапытаў ён.

— Прабач, тваё недатыкальнае натхненне...

— У чым справа, Ніна? — спакойна перапыніў Язэп знаёмы, хоць і толькі што распачаты жончын маналог, не заўважыўшы, здавалася, ні яе нецярпення, ні здзекліва-насмешлівага звароту.— Магу я хоць тут, у куточку, выдзеленым мне, пабыць сам-насам са сваімі думкамі? У тваім распараджэнні ўся кватэра.

— Ква-тэра! — грэбліва падціснула яна вусны, і ўпершыню ні яе тон, ні яе нават тут, на парозе кухні, падкрэслена вульгарны выгляд балюча не зачапілі Язэпа. І Ніна, якая, як заўжды ў падобныя моманты, чакала абурэння, сапраўднага ці больш-менш удала разыгранага, тут жа ўчула гэты раптоўны халадок — учула і зрэагавала па-свойму: — Калі ты называеш кватэраю гэты катух у хрушчоўцы, куды прыстойнага чалавека і запрасіць сорамна, то што тады ты — ты з усімі сваімі вершыкамі! — у гэтым свеце значыш, а? Горы залатыя абяцаў, перспектывы самыя светлыя маляваў... Дзе яны, твае перспектывы? Мо ў танюткай, выдадзенай на простай абгортачнай паперы кніжачцы, за якую табе пад нос здзекліва сунулі фігу, загорнутую ў адну-аднюткую тышчу? Тышчу! — калі ты са сваімі рэдактарамі прапіў разы ў тры больш.

— Згінь! Сыдзі, Ніна,— адмахнуўся Язэп, па звычцы і паловы са сказанага не пачуўшы.

— Сыс-ці?! Мо падкажаш, куды?

— На кудыкіну гару, дарагая,— падняўся ён.— Ужо ж які-небудзь чорт лысы цябе там чакае, дачакацца не можа.

— Чорт?! — крык пераходзіў у віск.— Чорт лысы?! Ды любы чорт побач з такім... з такім абыякавым да жаночага

характва чурбаном, як ты, здаўся б анёлам: вершыкі ён, бачыце, сачыняе, любоўнымі прызнаннямі Музе цешыцца! Не, каб заўважыць, каб нарэшце заўважыць, што ў гэтай цёмнай хрушчоўцы маладосць мая мінае, хараство маё, растаптанае табою, гіне!

— Хараство? — засмяяўся, зірнуўшы на жонку цераз плячо, Язэп.— Ды ты падыдзі да люстэрка, падзівіся: твар ад злосці перакасіла, нягледзячы на паўпуда парфумы, на яго накладзенай.

— Ты!.. Ды ты...— матлянуўшыся, выскачыла яна, як ашпараная, з кухні, і праз адно-два імгненні стала чуваць, як перш у пакоі, потым у прыхожай, штосьці з неймаверным шумам рухалася, пабразгвала, з бразгатам падала.— Усё! Усё-ўсё-ўсё! Каб я, дурніца, яшчэ хоць адзін дзень...

Бразнулі дзверы — і ўсё аціхла.

«Трэба б неяк завяршаць гэту камедыю»,— уздыхнуў Язэп, і што азвалася ў гэтым уздыху — палёгка ці яшчэ паглыбелы смутак, і сам бы ўрэшце не вызначыў. Вызваляючыся, атрэсваючыся ад толькі што абрынутага яму на галаву, замармытаў мелодыю знаёмага шлягера, пусціў з крана ваду, каб, апаласнуўшы, напоўніць чайнік. Пакуль бегла вада, пра якую ён тут жа забыў на нейкі час, уключыў газавую гарэлку і, паднёсшы запалку, доўга дзівіўся на сінія язычкі паслухмянага, прыручанага агню.

Пра што думаў? Пра тое, што год, яшчэ адзін год заканчваўся, а ён, Язэп, нічога — амаль нічога — не зрабіў. Не ставала ні сілы, ні душэўнага спакою, ні ранейшай упэўненасці. Нават злосці ў душы не было. Гон, штодзённы гон прывёў да нечаканага фінішу: сцяна! Сцяна паміж былым і наступным. Паміж ім, усё яшчэ пачаткоўцам у літаратуры, і светам... Куды імкнуўся? За якою такою аблачынкаю бег? Якім Богам падмануты?

Ужо ж, нават калі б ён, Язэп, і належаў да племені герояў, то не змог бы, і вырваўшы з грудзей палаючае сэрца, не змог павесці людзей за сабою; рабамі народжаныя, людзі заставаліся рабамі і па-ранейшаму распнулі б, укрыжавалі любога, хто сказаў бы ім пра гэта, хто паспрабаваў бы асвятліць дарогу. Яркія відэацацкі, гучныя словы, ілжывыя прамоўцы... Мяняліся дэкарацыі, выканаўцы, асвятленне — натоўп заставаўся натоўпам, з тою ж, заўсёднаю, статкаваю псіхалогіяй, і гэта засмучала, не магло не засмучаць.

Злом вякоў? Злом тысячагоддзяў? Магчыма. Але ж яго жыццё прыпала на гэты час, на гэты яго прамежак, і нешта ж трэба было рабіць, каб уратавацца. Што?

— Што? — мовіў уголас, страсаючы здранцвенне, і тут жа пачуў і шум вады з крана, адкручанага да ўпору, і настойлівы стук у дзверы. Матлянуўся перш да ракавіны, каб перакрыць ваду, потым у прыхожую.— Вярнулася? Што ж сваім ключом не пакарысталася?

— О-о, ды гэта не нас тут чакаюць,— знаёма загнусавіў хтосьці за дзвярмі, і Язэп, адчыняючы дзверы і адступаючыся, каб даць гасцям дарогу, у першы момант нават крыху сумеўся: забыў жа, зусім забыў, што хлопцы яшчэ два дні таму абяцалі зазірнуць да яго, абгаварыць ідэю новага альманаха.

— Заходзьце, заходзьце,— заўсміхаўся.— У мяне ж без цырымоній, Кастусь, ты ведаеш. Тым больш, што маёй...

— Пташка чарговы раз выпырхнула з клеткі? — скінуў і сунуў яму свой плашч Кастусь, і ў плашчы і без плашча падобны да казачнага, сумна знакамітага Кашчэя: гэткі ж доўгі і кашчавы, гэткі ж з'едлівы, нават са сваімі сябрамі.— А я марыў пажывіцца чым-небудзь, што прыемна нагадвала б мяса.

— Абыдземся бутэрбродамі,— дапамагаў уладкаваць плашч другому свайму госцю, прыглядваючыся да яго больш пільна: адно і ведаў пра яго, што выдавецкі рэдактар,— ніколі дагэтуль ніякай справы з ім не меў, не даводзілася, як кажуць.— Я якраз чайнік на агонь паставіць збіраўся.

— Думаеш, чаем нашу смагу зальеш?

— Думаю, смагу сваю вы разбавілі па дарозе сюды.

— А калі памыляешся? Калі не разбавілі?

— Спачуваю,— засмяяўся Язэп, кіруючыся ў кухню.— У хаце — ні кроплі, стары. На жаль.

— За каго ён нас прымае, Васіль, га? — буркліва гнусавіў Азярыцкі, апаражняючы прынесеную сумку: дзве пляшкі «зуброўкі» ўсталі побач з колцам кменнай каўбасы і невялікім слоічкам хрэну.— Хлеб, спадзяюся, у гэтай хаце водзіцца? Ці ты са сваёю пташкаю толькі вершамі корміцеся? Падзяўбаў — і набок... Га-га-га!

— Нешта ў цябе задужа гуллівы настрой,— гукнуў Язэп з кухні.— Сур'ёзную ж справу абмеркаваць прапаноўваў. Альманахам неяк пагражаў... Вы там уладкоўвайцеся, я зараз!

— У-ладкоў-вайцеся! Гучыць,— пакпіў Кастусь, азіраючы пакойчык, у якім апроч канапы на хісткіх ножках ды стала з двума крэсламі не першай свежасці, нічога не стаяла і не ляжала. Кнігі грудзіліся на самаробных паліцах, падчэпленых у два рады ўздоўж па перыметру сцен, гара не-

прасаванай бялізны на падваконні, засланяючы ледзь не палову акна, выглядала па меншай меры неахайна, чамаданаў, якія звычайна стаялі ў кутку, не было.— Бог мой, калі толькі паэты ў гэтай чортавай краіне змогуць разжыцца якою-ніякою мэбляю?

— «Нейкая» — да вашых паслуг, шаноўныя,— з'явіўся на парозе гаспадар з талеркаю квашаніны і боханам хлеба ў руках.— На прыстойную мэблю яшчэ не зарабіў, спадзяюся, з вашаю дапамогаю...

— Спадзяванні зусім не марныя,— азваўся Васіль («Васіль Чамярыца, з рэдакцыі серыйных выданняў»,— успомніў Язэп).— Зусім не марныя, калі...

— Калі?

— Ды сядайце перш, хлопцы! У роце ўсё перасохла,— здавалася, адно гнусавым сваім голасам пасоўваў стол бліжэй да канапы Азярыцкі, пачуваючы сябе як не гаспадаром, дык сваім у гэтым доме чалавекам.— Ідэю Васіль абмалюе. Чын чынам, як кажуць.

— Ах, так, ідэю! Хоць... У наш час яшчэ з'яўляюцца ў каго-небудзь ідэі? — пацвельваўся (у першую чаргу з самога сябе) Язэп.— Ды ўрэшце, калі на стале гарэлка, грэх сумнявацца.

— Смейся, смейся! Толькі чаркі з кухні прынясі.

— Справа ў тым,— спакойна адкаркоўваў бутэльку Чамярыца,— што не ўсе ўлічваюць рэаліі часу, які патрабуе іншага падыходу да ўсяго, у тым ліку і да кнігі.

— Што маецца на ўвазе? — паставіў на стол посуд і талерку з бутэрбродамі Язэп.— Змест? Афармленне? Кніжны рынак?

— Толькі не прыкідвайся неразумным ягняткам, якое ведаць не ведае, што над ім занесены нож, а то мы так ні да чаго пэўнага і не прыйдзем.

— Пачакай, Кастусь,— чамусьці зазлаваў ён на сябра.— Гаворка пра новы альманах, так? Ці нешта не зразумеў?

— Тлумачэнне простае,— наліўшы ў чаркі, умяшаўся ў спрэчку Чамярыца, які ўжо не хаваў пагардлівай усмешкі.— Абывацелю, як вы разумееце, не патрэбны праракі, ні свае, дамарошчаныя, ні іншаземныя. Сёння попыт на іншае.

— А-а-а-а,— астудзіла Язэпа расчараванне.— Я падумаў быў...

— Самы час выпіць,— не даў дагаварыць Азярыцкі, утрымаўшы і жэстам, і позіркам.— Ніхто з нас у праракі не лезе: ні сумленне, ні — чаго там! — фінансы не дазваляюць корчыць з сябе праведніка, так што згоду, мяркую, знойдзем.

— Згоду з сумленнем? — не стрымаўся і пакпіў Язэп, хоць тут жа, убачыўшы адразу чужыя, насцярожаныя твары хлопцаў, пашкадаваў аб гэтым: чаго яго, запытацца, заносіць? Ніхто ад яго пакуль што не патрабаваў...— Ну, добра, добра. З прарокамі ўсё ясна. Я маўчу!

— За ўзаемаразуменне! — кульнуў у рот чарку Чамярыца.

— Сам Пушкін не цураўся інтымных тэм... Сам Пушкін, Язэп!

— Ага. Што ж нам, грэшным, грахоў сваіх саромецца!

— Дайшло, пра што гаворка? — крэкнуўшы пасля выпітага, разламаў Кастусь бутэрброд.— Ты ж мне такое чытаў, та-а-ко-ое, што ў абываценя сліна пацякла б па барадзе. «Цнатлівасць канае пад націскам сілы, што прагне крыві, асалоды й крыві...»

— Стоп, стоп! Не з таго боку зайшоў, Кастусь.

— Хуба гэта не тваё? — зноў узяўся жаваць той, падміргнуўшы свайму ўсё яшчэ насцярожанаму спадарожніку.— Знаеш, які ганарар адна кантора прапаноўвае?

— За што? За тое, што пацешым замардаванага жыццём абываценя, які толькі ў ложку, зашыўшыся пад коўдру ці пад паху да сваёй соннай палавіны, і адчувае сябе гаспадаром становішча? Што падперчым ягоны даўно размыты гарэлкаю імпэт, выставіўшы свае прэтэнзіі да прыроды ў самым бессаромным выглядзе?

— А Пушкін? Аляксандр Сяргеевіч для цябе не аўтарытэт? — ікнуў і крыва ўсміхнуўся Чамярыца, незадаволены гаворкаю.

— Ах, Пушкін! Калі ўжо ягоную брудную бялізну кожны імкнецца перамацаць...— успыхнуў Язэп і рашуча адсунуў убок налітую зноў чарку.— Перш трэба кулі сваёй дачакацца, я так мяркую!

— Ну, і дурань, прабач,— буркнуў Кастусь, падаўшыся ўперад, каб чокнуцца з Чамярыцай.— Васіль справу прапануе. Грашовую, між іншым, справу. А табе зашпіліцца на ўсе гузікі раптам закарцела ні з таго ні з сяго.

— Зусім ужо расхрыстаным хадзіць, выстаўляючы напаказ тое, чаго хрысціяніну належыць саромецца, неяк не прываблівае. Нават за вялікія грошы. Так што, стары...

— Ды мы з табою ўжо амаль што дамовіліся трэцяга дня,— баяўся падняць вочы на Чамярыцу Кастусь.— Ёсць тавар, знайшоўся пакупнік, чаго тут антымоніі разводзіць?

— Можа, у чалавека прынцыпы? — зноў кінуў шаноўны рэдактар.

— Угу, прынцыпы. Хутка голаю с... пачне свяціць, а туды ж! — прынцыповы...

— Хочаш пасварыцца? — натапырыўся, спахмурнеўшы, Язэп.

— Ды годзе вам! — сплюнуў Чамярыца, беручыся за чарговую чарку.— Ніхто нікога не няволіць, а выпіць... Выпіць па-сяброўску ўсё-такі раю: шляхі гасподнія нікому не вядомыя, хто ведае, дзе апынешся ягонаю ці чыёю іншаю воляю заўтра. Будзьма!

Ён выпіў і, прыкусіўшы, падаўся да другой бутэлькі: адчувалася, што канчаткова страціў цікавасць да гаворкі і адзінае, што яго ўтрымвала тут, у гэтым пакоі, у гэтай кампаніі,— яшчэ не распачатая бутэлька гарэлкі, што, калі дап'ецца і яна, то ні пра гаворку, ні пра тых, з кім яе вёў, ён папросту не ўспомніць. Па крайняй меры, сягоння...

Калі дзверы за гасцямі зачыніліся, ён яшчэ з хвіліну не кранаўся з месца: Ніна бразнула дзвярмі, цяпер вось Кастусь... Гэтага ён і дамагаўся? Самому, аднаму закарцела з сабою разабрацца? Дык чаго тут асабліва разбірацца! Няўдачнік. Няшчасны, загнаны жыццёвымі няўдачамі паэт, якому ў яго дваццаць шэсць гадоў усё ўжо ў гэтым свеце нялюба.

Нялюба... «Нялюба — гэта ж імя дзяўчынкі, згаданай толькі што!» — апякла яго раптоўная здагадка, і Язэп спалохаўся. Спалохаўся невядома чаго, бо ўжо праз хвіліну быў непахісна пераkананы: дзіўная, ледзьве знаёмая дзяўчына нейкім чынам нагадала яму аб сабе, змусіўшы адпрэчыць усё, што адбывалася, не прымаць яго да душы,— душа жыла прадчуваннем цуду, прадчуваннем паэзіі...

— Здрадца — лёс? Не веру. Не паверу. Мы скаваны, мы ў адным чаўне...— самі сабою ўзніклі, загучалі радкі, і, забыўшы пра даўно астылую гарбату, пра так і не прыбраны пасля гасцей стол, Язэп кінуўся на кухню, да сваіх папер, раскіданых па падваконні, да акна, за якім святлела, услед за няяркімі яшчэ зоркамі падымалася, вышэла вячэрняе неба.

## 13

Зоркі не гаслі, а, рассыпаючыся, церушыліся, кружыліся ў паветры — кружыліся доўга-доўга, закружваючы прастору, ноч, і горад пасярод ночы, і вузкую вулачку яго, заціснутую паміж сценамі высокіх камяніц, на якую выходзілі вокны бальніцы. І чаго было больш у гэтым кружэнні — дзівоснага вышыннага святла ці музыкі, якая супакойвала,

закалыхвала нават хворых на бяссонне — не адказала б і самая чуйная душа. Усё вакол спала, усё ціха пакалыхвалася ў абдымках белага сну.

Высака ўгары, над завесаю снегу, скрозь яе, мігцелі, свяціліся зоркі, тут, унізе, на прыцярушаных цішынёю тратуарах, мігцелі, рухаліся няўлоўныя іх водсветы, і ад усяго, нават ад старых абшарпаных дамоў, веяла спакоем. Быццам не памяталі, не ўспомняць гэтыя сцены ні людскіх пакут, ні людскіх радасцей і назаўжды аціхлі за імі стоны, енк, сваркі, дзіцячы плач.

Спынены, застылы ў прасторы час, зачараваны, скаваны сном горад! Здэцца, калі б рыпнулі дзе-небудзь прачыненыя ў гэты сон дзверы, калі б выгукнуў, гукнуў хтосьці ў цішыню, напалоханы ёю,— з мірыядамі сняжынак, зіхоткімі аскепкамі асыпаўся б, рассыпаўся б, як цацачны, увесь фантастычны малюнак.

Фантастычны? Хутчэй ужо таямнічы. Ноч, нават калі адступала перад націскам чалавека, ніколі не падуладная яму: нездарма ж скрозь была населена рознымі прывідамі і страхамі, нездарма ж адштурхвала, выштурхвала са сваіх уладанняў тых, хто асмельваўся парушыць, абысці яе забарону. Само жыццё замірала за некалькі гадзін да світання, і калі хто і пакідаў у гэты час след на апусцелых сцяжынках ці гарадскіх вулачках, то толькі смерць. Бязлітасная, няўмольная смерць, перад якою адступала ноч, расступаліся любыя сцены, змаўкалі любыя замовы і малітвы.

Смерці баба Зіна не баялася — чакала яе спакойна, не намагалася ні прыспешваць яе прыход, ні адпрэчваць. Калі пачынаў расці, распіраць грудзі боль, адно прыкрывала вочы і бязгучна, часта без слоў, малілася. Малілася, просячы не за сябе, а за ўнучку сваю, за Нялюбу, за пакінутую Богам дачку сваю Стэфу, за ўвесь пакінуты Богам род людскі, які зацягвала, уцягвала ў свой бяздонны вір бездухоўнасць,— яе, старой, каянне бацюшка прыняў, адпусціўшы ўсе грахі і праграшэнні перад людзьмі і небам, што ж да астатніх... Кожны некалі ўстане перад Госпадам, думаў ён калі пра гэта ў жыцці ці не думаў!

— Божа, прымі душу гэтую збалелую, не адштурхні рабу тваю адно за тое, што родная дачка яе, жывучы ў граху і распусце, яе забыла,— маліўся хтосьці побач, і як ні ўзіралася баба Зіна, нічога не бачыла: цёмна было ў бальнічнай палаце, цёмна і душна. Толькі ціха, ледзь чутна гучала малітва: — Калі пакутаю вера ў Цябе асвятляецца, то столькі пакуты душа яе сцярпела, што заслужыла дараванне Тваё;

калі нястомнаю працаю на карысць веры і царквы грахі чалавека аплочваюцца, то столькі шчыравала раба гэта на зямлі, што можа смела ўстаць пад благаслаўленне Тваё. Не за сябе просіць перад Табою, а за слабейшых, а і для яе літасць Твая ўзнагародаю будзе: не за сябе моліцца, а і яе самую малітва перад табою ўзвышае. Прыслухайся, Божа, будзь літасцівым да яе, праведнай!

«Кожны некалі ўстане перад Госпадам»,— казала яна неаднойчы Стэфе, а ўсяго аднойчы і паслухала тая: дзіця ў сабе не забіла, не асмелілася забіць. Мо таму, што яе, матчынага, праклёну збаялася, а мо і з іншай якой прычыны — жаданню свайму насуперак: Стэфіна ж і не яе, не Стэфіна, гэта дзіця...

— Сястра! Сястра! — загукаў хтосьці ў цемры, і старая страпянулася на гэты кліч, памкнулася падняцца, адчуваючы, як разрывае грудзі пякучы боль.

Адна за адной успыхвалі вакол лямпачкі і, не разганяючы, не разрэджваючы змроку, сляпілі яе — сілы ж, каб падняць руку, засланіцца хоць бы рукою, не было, і яна змірылася. Чула, як цяжка ўздрыгваюць на кожны дотык святла павекі, як, пакідаючы глыбокія баразёнкі зморшчын, спаўзалі, скочваліся па шчоках слязінкі і астывала, ператваралася ў ледзяную кранутая імі падушка — але як бы іншым, падсвядомым чуццём, бо таго, што адбывалася ў палаце, пры запаленым кімсьці з суседзяў святле, не ўсведамляла.

— Камфару, сястра! Яшчэ. Дайце ёй падыхаць кіслародам і выключыце верхняе святло — раздражняе...

— Пульс ледзь адчуваецца, доктар.

— Я сказаў: кісларод! Потым — у восьмую...

— Адыходзіць, нябога, хай рыме Госпад яе душу!

— Усім — спаць. Тут бальніца, а не дом адпачынку для нерваслабых, што прыслухоўваюцца да кожнага кроку ўначы.

— Гэта ж смерць ходзіць...

— Ц-с-с!

Пагаслі і зноў пачалі ўспыхваць яркія лямпачкі — то вышэй, то ніжэй, над самым яе тварам, і не было слёз прыглушыць, прыцішыць бляск, які перашкаджаў убачыць, хто набліжаўся да яе ў зіхоткіх, ніколі не бачаных строях. Смерць? Але ж смерць пазбягала і гэткай раскошы і гэткай урачыстасці. Пасланніца Уладыкі нябеснага? Але ж яна не прыходзіць паперадзе смерці. Нялюба?

— Нялюба... дзетка...— варухнула губамі, не зважаючы ўжо ні на боль у целе, скамянелым пад яго спратамі, ні на

рэзь у вачах: ніхто, апроч дзяўчынкі, не адгукнуўся б на яе кліч у гэту апошнюю хвіліну, ніхто!

Пяшчотная, зусім бязважкая рука апусцілася на яе лоб — і знік боль, згасла пякучае халоднае святло. Стала лягчэй дыхаць, слабла, адпускала здранцвенне. Міг-другі — і яна паднялася б, устала, каб разам з дзяўчынкаю пакінуць бальніцу і ніколі сюды не вяртацца, але час быццам спыніўся: імгненне ніяк не перацякала ў наступнае, дыханне ніяк не перацякала ў рухі.

— Нялюба? Гэта ты? — памкнулася яна адагнаць узніклае сумненне, і калі рука саслізгнула з ілба і абвілася ўкруг яе шыі, удзячна ўздыхнула: — Дзякуй Богу...

Шум, падобны да шуму мноства крылаў, заглушыў яе ўздых. Пачало святлець, змрок раставаў у паветры, такім чыстым, такім адразу празрыстым, што вачам старой адкрылася ўся прастора жыцця, пражытага і цяпер, з дапамогаю лёгкага, ледзь адчувальнага абдымку знаёмай і адначасова незнаёмай рукі, прадоўжанага ў золак, у халоднае світанне, насустрач узыходу сонца.

Дзіўная, незвычайна дзіўная гэта была карціна! Нідзе, ні з аднаго боку не замыкалася яна гарызонтам і, быццам акружаючы, ахінаючы спадарожніц рухомым, распісаным жывымі фарбамі бязмежжам, то набліжалася — і тады баба Зіна пазнавала сябе і ў маладой залатакосай жнеі край поля, і ў паненцы-вершніцы з пышнай каралеўскай світы, і ў ігуменні манастыра, акружанай вернікамі, і нават у палаянцы, за косы прывязанай да гэткіх жа, як яна сама, жанчын, сагнаных да чужаземнай галеры; то зноў крыху адступала — і тады ўсё патанала ў святле, каб тут жа, ці праз колькі стагоддзяў, што прамільгнулі за гэты час, выявіцца яшчэ выразней.

Пакуль яна намагалася ўтрымаць у памяці адзін свой воблік, ён ужо змяняўся другім, трэцім... Змяняўся так імкліва, што і адбітку не пакідаў, і зноў ёй даводзілася ўзірацца ў адкрытае вачам бязмежжа, якое ўсё больш нагадвала трывожнае перадналальнічнае неба, дзе не аблачыны, наскрозь пранізаныя святлом, не цяжкія цёмныя хмары змагаліся паміж сабою за прастору, за вышыню, а добрыя і злыя сілы, не прыналежныя ўжо ні зямлі, ні зямному часу.

У вірах змроку, падобных да жудасных смерчаў, звіваліся, чэзлі і зноў успыхвалі, не даючы сябе заглынуць, струмені святла, у светлай сіні танулі, камякамі гразі раствараліся згусткі цемры, каб успучыць, узарваць гэту сінь знутры і зноў заклубіцца, зацягнуць, скруціць у сваім клубку непакорнае святло.

Дух захоплівала ад гэтае барацьбы, а і ёй жа, госці нябеснай, давядзецца сутыкнуцца з гэтымі сіламі — сутыкнуцца і не страціць ні ўпэўненасці ў сваім праве перамагчы, ні веры: не цела, якога яна даўно не адчувала, [redacted] душу яе чакалі новыя выпрабаванні, і трэба было маліцца. Маліцца — і ў малітве знаходзіць і патрэбную моц, і патрэбную мужнасць.

— Перакладваюць на каталку... Аддала, відаць, Богу душу, гаротніца!

— Сястра казала, што яшчэ ўчора адбілі тэлеграму дачцы, а бач, дасюль не прыехала.

— Нікому старыя не патрэбны — ні дзецям сваім, ні Богу. Дзе ўжо ім пра нас памятаць! Аджылі сваё, дык і бедаваць асабліва не выпадае перад смерцю.

— Да Бога далёка, а дзеці... У іх свой тлум, свой клопат.

— Хочацца ж, каб родная рука вочы закрыла. Усё лягчэй.

— Лёгкая смерць не так лёгка даецца. За яе ў жыцці адпакутаваць даводзіцца.

— Павезлі старую... А хто скажа, куды?

— Ужо ж, і для яе знойдзецца магіла! Душа б знайшла волю, а костачкі сырая зямелька адпарыць...

Словы, у якіх чуліся і жах, і смутак, і спачуванне, дагналі яе ў той момант, калі ад грознага сутыкнення дзвюх аблачын, двух пластоў неба — светлага і цёмнага — бліснула, рассекшы іх да самага нізу, маланка і ў нясцерпна яркім, крывавым бліску яе ўспыхнула і імгненна згарэла дзівосная, невядомая на зямлі птушка. Згарэла, знікла, паглынутая змрокам, птушка — адпусціла руку, знікла дзяўчынка, што суправаджала яе, бабу Зіну, на гэтым шляху. Хоць, здавалася б, пры чым тут птушка?

Хацела пагукаць унучку — і не змагла, не паспела: змрок ужо закручваў яе, душыў, і трэба было працівіцца, змагацца і, успомніўшы імя Госпада, ратаваць душу: ёй усё яшчэ належала права перамагчы ў гэтай барацьбе.

— Божа ўсемагутны! Перад Табою — яшчэ адна раба Твая, якая заплаціла за гэту сустрэчу вялікаю пакутаю чалавечаю. Не адштурхні яе, прымі душу яе і дазволь служыць ёй Табе там гэтак жа, як служыла яна Табе на зямлі. Сумленным, запоўненым працаю было яе зямное жыццё, не пакарай жа яе за чужыя грахі і дай адпачнуць каля ног Тваіх. І ды будзе лёс гэтай простай жанчыны ўсім нам вечным і дзейсным прыкладам. Амін.

Адпяванне закончылася, з купкі жанчын, якія прыйшлі на пахаванне, праз словы малітвы чуліся то ціхія ўсхліпы, то горкія ўздыхі, бо ўжо ж нялюдскім нейкім, святатацкім тут, над труною, здавалася ўсім прысутным маўчанне дачкі і ўнучкі бабы Зіны: за два дні ні слова ніводная з іх не мовіла, ні слязы не праліла. І няхай бы адно дачка яе — няшмат пашаны старая ад яе бачыла за сваё жыццё, а і дзяўчынка, якая вырасла тут, у гэтай хаце, перад горам не схілілася, не заплакала. Адно што не адыходзіла ад труны. На твары ж... На твары не-не і з'яўлялася светлая задумлівая ўсмешка, заўважыўшы якую, бабы спалохана хрысціліся.

— Божа літасцівы, усё Ты бачыш, усё ведаеш пра кожнага з жывых. Асвятлі розумы людскія, змякчы, напоўні дабрынёю сэрцы іх, каб ачысціліся прававерныя ад злосці і нянавісці, ад пыхі і зайздрасці. Пакорную рабу Тваю праводзім мы ў апошні шлях, прымі, Усемагутны, душу яе!

— Прымі, Божа! Прымі, Божа...— зашархацелі галасы, і дзіўным святлом раптам напоўнілася хата — белым-белым, як у летнюю месячную ноч. Узмахваючы кадзілам, ішоў да дзвярэй бацюшка, а за ім, вакол труны, ці вакол дзяўчынкі, якая, здавалася, прырасла да яе, уставаў, калыхаўся, мкнуў угору слуп белага святла.

Такое ўзрушэнне ахапіла ўсіх, каму адкрылася гэта, што, напэўна, калі б усплыла, адплыла ўгору за святлом, за позіркам Нялюбы цяжкая труна, яны не здзівіліся б, яны паверылі б ва ўзнясенне, як у Божую літасць. Але святло, пакалыхваючыся, паціху згасала, і ў яго калыханні незямною, бясцелаю выдавала дзяўчынка, што светла, радасна ўсміхалася насустрач іх позіркам.

14

Снег ішоў і ішоў. Ужо каторы дзень. Так, бы неба намерылася засыпаць горад, пахаваць яго ў сваім халодным ззянні. І калі б не агульныя спалох і незадаволенасць змушаных мясіць глыбокі снег гараджан, ужо ж было б чаму падзівіцца. Чысціня, белізна непазнавальна мянялі ўсё вакол: і звычайна пахмурныя камяніцы, і яшчэ з восені бязлітасна абкарнаныя ліпы ўздоўж вуліц, і няўклюдныя, згруджаныя на тралейбусных прыпынках кіёскі, якія ледзьве не ўгіналіся пад цяжарам сваіх снежных шапак, і саму гарадскую прастору, нечакана павузелую, сціснутую няспынным, неўтаймоўным рухам крыху вільготнага паветра — снегу ў паветры!

Марным выглядала завіханне людзей і машын на магістралях і тлумных скрыжаваннях: угразалі ў снежных гурбах і, пад натужнае выццё матораў, спыняліся стужкі снегападборнікаў, буксавалі ў глыбокім месіве самазвалы, бездапаможна тапталіся вакол узброеныя шырокімі фанернымі грабкамі, аблепленыя снегам і больш падобныя да няўклюдаў-снегавікоў дарожныя рабочыя ў сваіх яркіх камізэльках. Работа зноў і зноў аднаўлялася, але і снег валіў не перастаючы, нават не радзеючы — і сілы былі яўна няроўнымі.

— У такое надвор'е часта гінуць птушкі,— прагучала так ціха, што, здаецца, і зусім не прагучала.

— Што? — схамянулася побач Вера, Вера Вужава, з якою Нялюба за гэтыя паўгода не так пасябравала, як проста крышачку больш, чым з іншымі, зблізілася: часам, як сёння, вярталіся разам са школы, часам, у перапынках паміж урокамі, размаўлялі дзе-небудзь каля акна ў калідоры ці на лесвічнай пляцоўцы.— Што ты сказала?

— Цікава, чаму людзі баяцца птушак? — павярнулася да яе Нялюба, як і не пачуўшы пытання.

— Баяцца? З чаго ты ўзяла?

— А клеткі? Для чаго тады клеткі?

— Ну-у, ты скажаш! — няўпэўнена засмяялася Вера.— Гэта ж адно для таго, каб птушкі не зляцелі, не кінуліся прэч ад чалавека, ад яго жытла: дзе ж бы яны...

Відаць, адчуўшы непераканаўчасць сваіх слоў, раптоўна змоўкла і адхінулася, а потым і адступіла на крок далей, каб там, бліжэй да сцяны, схавацца ад снегу — ад ліпкага снегу, ці ад Нялюбінага позірку, якім тая быццам адгароджвалася і ад яе, і ад яе неразумення.

— Чалавек не стаў птушкаю, таму што збаяўся. Баіцца.

— Глупства,— пазірала ўбок Вера.— Глупства! І ты гэта ведаеш не горш за іншых. Ведаеш — і наўмысна паўтараеш, каб здавацца загадкаваю і тым цікавейшаю.

— Пра што ты, Вера? — не зразумела Нялюба, а твар яе, толькі што асветлены ззяннем снегу, ужо згасаў, згас, і калі яна паўтарыла пытанне, у голасе не азваліся ні цікаўнасць, ні насцярога.

— Хочаш, скажу, што пра цябе думаюць у школе? Аднакласнікі?

Яна не адказала. Як не пачула. Хоць па тым, як перасмыкнуліся і, апусціўшыся, застылі плечы (быццам нябачныя крыльцы раптам апусціліся), было відаць, што не толькі пачула, а і зразумела прыхаваны ў іх выклік, нейкім сёмым пачуццём ведаючы, чуючы ўсё, што скажа Вера ў наступны

момант, праз колькі доўгіх, здоўжаных чаканнем імгненняў. А тая нічога не заўважала — жмурылася на снег, задумліва перабірала пальцамі раменьчык сумкі, перакінутай цераз плячо, ці то яшчэ нейкі час чакаючы адразу, ці то проста падбіраючы мякчэйшыя словы. Калі ж загаварыла, у голасе азваўся незнаёмы Нялюбе смутак.

— Калі мы вось так, побач, мне заўсёды чамусьці шкада сябе... Так, так, не цябе, неаднойчы і зусім несправядліва абсмяяную нашымі дэбіламі, а сябе! Хоць, ты ж разумееш, ніколі б я не змагла прасачыць цябе ні характарам, ні тым больш лёсам, ніколі б не схацела памяняцца з табою месцамі і прыняць на сябе ўвесь цяжар неразумення, усе кпіны, прыхаваныя і непрыхаваныя, хай сабе і ад тых, каго не прызнаю, не паважаю. Быць для ўсіх вакол ненармальнаю? Бр-р-р! Што ні рабі, як ні даказвай усё жыццё адваротнае, нікому нічога не дакажаш. Да самага канца не дакажаш.

— Але ж і ты аб чымсьці шкадуеш...

— Ну, і што, што шкадую! — выпрастала руку, падставіла далонькаю ўгору, ловячы густыя сняжынкі, Вера.— Шкадаванні растаюць, як гэтыя вось сняжынкі, а жыццё працягваецца. І працягваецца сярод людзей, а не сярод птушак, як табе часам здаецца. А значыць, і мяне змушае быць такою, як іншыя, як усе іншыя, разумееш?

— У кожным чалавеку жыве Бог,— ціха, ледзь чутна азвалася Нялюба, міжволі назіраючы за тым, як растаюць сняжынкі ў Веры на далоні, і адчуваючы, як глыбее ў ёй смутак.

— Вось тут ты памыляешся,— сцяла пальцы ў кулак Вера, дзівячыся, як з-пад іх сцякаюць, плывуць тонкія струменьчыкі вады.— Вось тут самае слабае месца ў тваіх разважаннях, бо калі б і ўзапраўду ў кожным...

— Проста гэта не ўсе адчуваюць, не ўсе ведаюць,— перапыніла яе Нялюба і сама здзівілася свайму нецярпенню. Здзівілася — і ўсё-такі прадоўжыла гэтак жа настойліва: — І ты... І ты, Вера, не адчуваеш. Не адчуваеш, бо баішся гэтага адчування, баішся дадзенага табе ад нараджэння разумення, што повязь з жыццём — гэта повязь з Усявышнім, бачная ці да пэўнага часу нябачная душы. Існаванне Бога, існаванне Усявышняга Розуму ўжо даказана, па сутнасці, навукова, душы ж чалавечае вядома гэта спрадвеку. Кожнай душы.

— Кожнай? — паспрабавала Вера схаваць за ўсмешкаю раптоўнае раздражненне і, калі адчула, што яе спроба яўна марная, адмахнулася ад шчырага напачатку намеру і, па-

вярнуўшыся да Нялюбы, не хавала больш ні ўзніклага невядома з чаго раздражнення, ні горычы яго.— Як ты можаш меркаваць пра чыюсьці душу, пра любога з нас, калі ніколі нават не памкнулася па-сапраўднаму наблізіцца — хоць бы наблізіцца! — да каго-небудзь? Калі вечна адгароджваешся ад усіх — нават ад мяне! — сваім адчужэннем? І гэта ты, ты — такая ж, як мы! Што ж тады казаць пра Бога?

— Бог з тымі, хто яго любіць.

— А ты, ты, Нялюба, з кім?

— Не ведаю,— сумелася Нялюба, і тут жа, быццам не са сваіх слоў, а з чыёйсьці падказкі, спакойна дадала: — Мною, як усім і ўсімі, Бог распарадзіцца. Тады, калі знойдзе патрэбным.

— Ну, канешне! Ты ж, несумненна, ягоная абранніца. Абранніца! — і заўсёды гэта ведала. Адкуль ужо там ведала, а ведала!

— Абранніца?! Што ты маеш на ўвазе? — чарговы раз не зразумела яна ні пытання, ні раздражнення, якое ў ім азвалася.

— Тое, што ты мечаная — ім, ці яшчэ кім... Мечаная! Ненармальная, па-зямному. І гэтага нельга не заўважаць, калі толькі трохі прыгледзецца,— цікавала за яе тварам Вера.— Няўжо табе ніхто ніколі не гаварыў нешта падобнае, а? Мне здавалася...

— Пойдзем? — адвярнулася Нялюба, і гэты яе рух, падзіцячы непасрэдны, завяршыў гаворку, якая ўяўлялася ёй ужо і няшчыраю, і непатрэбнаю: звычайна ж, калі размаўлялі, размаўлялі пра той ці іншы перыяд гісторыі, якой абедзве цікавіліся, пра сцежкі, якімі выходзілі з гістарычнага мінулага ўсё новыя і новыя стагоддзі, а тут нечакана...

Хоць чаму — нечакана? Хіба гісторыя чалавецтва — не гісторыя чалавечай душы? Душы, якая скрозь прагнула радасці ці спакою, скрозь слепла ў непраглядным змроку ці ад занадта яркага, нязноснага для яе святла, а ўсё ж жыла, мучылася, імкнулася ўспомніць, хоць на міг успомніць пра іншае — духоўнае, боскае! — сваё прадвызначэнне.

Нялюба ішла, не азіраючыся на сяброўку і не захінаючы, не адварочваючы твару ад снегу — мокрыя дотыкі яго не студзілі шчок, і, хоць сняжынкі раставалі не адразу, не ў першыя імгненні, падцёкі, а то ўжо і ручаінкі слёз успрымаліся ручаінкамі цёплымі і нават крыху саланаватымі. Чые гэта маглі быць слёзы?

Снег ішоў і ішоў. Так, быццам неба намерылася засыпаць горад, пахаваць яго ў сваім халодным ззянні, а міласцю

Божаю гэта адбывалася ці няміласцю, і само не ведала: ужо ж, людзі разбяруцца! Не першыня! А што хмурыліся, звыкла бурчалі на непагадзь, раз-пораз атрасаючыся ці ўціраючыся, каб разляпіць павекі і разгледзець што якое хоць бы некалькі крокаў паперадзе, дык і ў незадаволеным бурчанні не чулася злосці, злоснага непрыняцця. Нібыта ўсе, няхай большасць і падсвядома, адчувалі дотыкі снегу як дотыкі неба і не маглі, не мелі права ні гнявацца, ні пасапраўднаму працівіцца: кожны ў такія хвіліны заставаўся перад небам адзін — нават калі галавы не падымаў, нават калі і на міг не задумваўся пра гэта. Тыя ж, хто ўсё-такі задумваўся...

Не, за ўсіх Нялюба не сказала б, але калі б ёй давялося тлумачыць, вытлумачваць сваё адчуванне, то вытлумачыла б яго блізкасцю, неймавернаю набліжанасцю неба да зямлі, калі, здавалася, штохвіліну, штоміг маглі яны сысціся, зліцца, разгнёўшы, раструшчыўшы ўсё створанае, узведзенае людзьмі, вярнуўшы, павярнуўшы іх, людзей, да вытокаў духоўнае сілы, да вытокаў. Каб убачылі Настаўніка свайго. Каб схіліліся перад Госпадам і ўспомнілі, чаму Ён іх вучыў.

Самі сабою прыйшлі словы малітвы і, ступаючы ўсё павольней, быццам урастаючы ў ціхае кружэнне снегу, моўчкі, у душы, паўтарала іх Нялюба. Яна ўжо не помніла ні гаворкі са школьнаю сяброўкаю ў зацішку сцяны, над якою даволі шырокім брылём выступала балконнае перакрыццё, ні самой яе — нават калі б Вера Вужава не адвярнула ў свой двор, у бок ад тратуара, што больш нагадваў снежны цалік, Нялюбіну самоту прысутнасць яе не парушыла б. Дзяўчынка гаварыла са сваёю душою — звярталася да Усявышняга, а гаварыла з душою, якая заўсёды памятала, ведала і шлях назад, у далёкую мінуўшчыну, і шлях у новыя нязведаныя часы. Ведала — і не заўважала свайго ведання, быццам навязаная, быццам усё яшчэ прывязаная да жыцця, да гэтага канкрэтнага дня яго, ледзьве асветленага малітваю,— і ці ж Нялюбе было прыспешваць яе?

Малілася, не чуючы слоў, даўно спыніўшыся, застыўшы пасярод тратуара, пасярод горада, нябачнага за снежнаю завесаю, і малітва не рассейвала трывогі, трывожнага адчування пакінутасці зямлі, безабароннасці яе перад людзьмі і Усявышнім.

Не, не, Нялюба верыла, усім сэрцам верыла, што Усявышні не пакіне Зямлю, не адвернецца ад людзей, але... Людзі — людзі! — былі бязлітаснымі ў адносінах да саміх сябе і паміж сабою, скрозь наракалі на свой лёс, а забывалі,

што самі сябе самаю суроваю караю караюць. Нездарма ж то аднаму, то другому пра канец свету страх нашэптваў: тыя ж, што як некалі перад гібеллю Атлантыды, ілжэпрарокі ўсюды, той жа, прыдатны для ўсіх, ілжэзбавіцель, тыя ж здрадніцтвы і духоўная здзічэласць... Быццам і не было яе, будучыні, для зямлі, для людзей на зямлі.

Дотыкі снегу — як дотыкі неба... А вось жа трымала зямля, не адпускала!

— Ты што, дадому снег нясеш?

— Дадому? — перапытала Нялюба, не адразу ўцяміўшы, што гэта суседка Стэфіна, старая Бабаіха, перастрэла яе на ганку і запыніла, тузае за рукаў.

— Ну, няўжо ж! — злосна прашамкала яна, утаропіўшыся ў дзяўчынку.— Снегам вышэй галавы засыпана, а ў пад'езд сунешся, каб скрозь па лесвіцы наслядзіць. Ведама ж, нехта за вамі гэткімі напрыбіраецца! Вось і топчам гразь...

— Выбачайце! — атрэсвалася, збівала снег з паліто выцягнутаю з кішэні рукавічкаю Нялюба, і, ледзь толькі выпусціла старая з учэпістых пальцаў рукаў, матлянулася да дзвярэй, ірванула іх і кінулася ўверх па лесвіцы. Хоць і спіною, з-за зачыненых дзвярэй, здавалася, чула непрыязнае, злоснае бурчанне: «Праўду кажуць, чокнутая... Яблык ад яблыні... Мала, што да аднае хахалі цугам хадзілі ўсё жыццё, другая ёй на дапамогу з'явілася: ляціць, людзей не бачыць...»

Прыціснуўшыся лбом да дзвярэй, Нялюба нейкі час ключа з кішэні не вымала. Стаяла нерухома, слухаючы, як ціха скочваліся доле, пастукваючы, кроплі падталага снегу,— гэтыя ціхія гукі ўсё паўней, усё выразней заглушалі гучнае, гулкае сэрцабіццё.

«Чаго гэта я? Чаго раптам спужалася? — так, нібыта Усявышні мяне ў самоце, сам-насам з чужою злосцю пакінуў? — шукала апоры ў думках.— А хоць бы і ў самоце? Хоць бы і сам-насам з чужою злосцю? Ці ж я больш вартая Яго шкадавання? Ці ж Госпад наш мяне не вучыў заўсёды...»

Нячутныя слёзы абпякалі шчокі, абпякалі пальцы, калі яна кранулася імі мокрай шчакі, і ўсё ж Нялюба не ўсведамляла, што плакала — прыціскалася тварам да дзвярэй і плакала: ёй трэба было туды, за дзверы, а дзверы не адчыняліся і ключ у кішэні нічым не нагадваў пра сябе. Яна ж і помніць не помніла пра яго ў гэту хвіліну — падняла руку і націснула на кнопку званка. Ведала, што ў хаце нікога няма, што ніхто не адгукнецца, не адчыніць, а, не падымаючы заплаканага твару, ціснула і ціснула на кнопку.

15

Будні калі чым і вызначаліся, то адно тым, што не пакідалі на дарозе жыцця глыбокага следу: ішлі, сунуліся, горбіліся пад звыклаю ношкаю турбот і спраў, паступова зліваючыся, зрастаючыся ў памяці прамінулых тыдняў ці месяцаў і знікаючы ў цемрадзі, то амаль празрыстай, то зусім непагляднай. Тыдзень пражыты, два тыдні, месяц... Азірайцеся ці не азірайцеся на іх — яны пражыты. Як ужо пражыты, але пражыты і не вернуцца, каб папхнуць, зрушыць новыя спадзяванні. Знаходзілася сіла расплюшчыць на новы дзень вочы — знаходзілася і сіла жыць. Намацаць новую зачэпку, прыдумаць новую спадзеўку і жыць. Галоўнае — не задумвацца, не шукаць нейкага асаблівага сэнсу ў кожнай праяве жыцця, у кожным сваім слове або ўчынку. Гэта Стэфа ведала дакладна. Не сённяшнім днём, як кажуць, ведала. І — гнала ад сябе думкі, адмахвалася ад іх, засланяючыся то ўсмешкаю, то гневам. А то і абыякавасцю, як цяпер, на чарговым Націным зборышчы, якія калі і вабілі яе чым-небудзь, то поўнаю ананімнасцю: усе ведалі адно аднаго ў твар, ніхто ні з кім нікога не знаёміў, ніхто нікім асабліва не цікавіўся.

Абвёўшы прысутных позіркам, міжволі перасмыкнула плячмі: на ўсіх тварах — насцярога, насцярожанае чаканне незвычайных, нечым страшных нават у сваёй прывабнасці хвілін. Таямнічых — і таму страшных. Бо хто мог сказаць напэўна, што ўбачыцца, што ўспомніцца раптам пад прымусам чужое волі, чужога біяполя? Раптам такое, пра што і думаць не думалася, і згадвацца не згадвалася доўгія гады? А ўспомніцца — і будзе тузаць, будзе мучыць...

З добра знаёмых, апроч гаспадыні, на спірытычным сеансе прысутнічалі толькі Косця Гаючыц, які прыйшоў з жонкаю і таму сеў воддаль, у кутку, дэманструючы сваю поўную незалежнасць ад уся і ўсіх. Не-залежнасць! Стэфа грэбліва падцяла вусны, разглядваючы яго жонку, прафесаршу: нялёгка, відаць, даводзілася гаротніцы штораніцу ўцісквацца ў свой бастонавы касцюм — плоці, тлушчу было замнога і для дваіх, а з яе, з-пад гэтага ледзьве сцягнутага на грудзях і на жываце касцюма цела выпірала, перла з такою сілаю, што, здавалася, расло, падымалася на якіхсьці шалёных дражджах і вось-вось прарве, парве ўсе запоны і пачне распаўзацца па пакоі ва ўсіх на вачах.

Стэфа на міг прымружыла вочы і здзівілася, калі не змагла разляпіць вейкаў ні пасля першага намагання, ні пасля другога. «Гэта яшчэ што? — зазлавала, напружылася, каб усё-такі разарваць гіпнатычнае здранцвенне, і ўздыхнула з

палёгкаю, у паўзмроку, за колькі крокаў ад сябе ўгледзеўшы знаёмую гару тлушчу, якая не толькі ў хатніх умовах, а і тут, сярод знаёмых незнаёмцаў, насіла званне прафесаршы.— Ах, чорт! Расслабілася і страціла пільнасць. Спакайней, спакайней, галубок,— не выпускай з-пад увагі галоўную Націну госцю: відаць, не простая шарлатанка...»

Позірк яе, зноў губляючы апору, наткнуўся на штосьці мяккае, тваністае, і, каб утрымацца на паверхні, у рэальнасці, Стэфа зрабіла яшчэ некалькі ўпартых намаганняў: святло яшчэ трохі прышэрхла, але яснасць, не сцёртая новым цяжкім узмахам вейкаў, засталася, і запрошаная Натаю пані Гражына, невысокая, сухажылая, стаяла насупраць, на самым вастрыі Стэфінага позірку, і мёртвым здаваўся яе твар, не кранугы ніводным водсветам.

Лёгкае патрэскванне дзвюх запаленых з вечара свечак, здавалася, толькі паглыбляла цішыню — святла іх не ставала, каб выразней убачыць, куды пазірала, куды так пільна ўзіралася пані Гражына. Некуды паўз яе, Стэфу, паверх яе галавы.

— Нельга, каб чалавек выглядваў з самога сябе — няхай заўсёды пазірае толькі ў сваю душу, цёмную і смярдзючую; нельга, каб ён спакойна, сцярожка ўзіраўся ў свет вакол, у рэчы і з'явы яго — не трэба яму ні зважаць на іх, ні па-сапраўднаму заўважаць іх, няхай ён пакутуе! Пакутуе, як пакутую я, праходзячы праз тысячагадовы дом — праз свет малахольных — і не маючы права ні ўратаваць гэты ваш свет, ні абвінаваціць вас у вашых душэўных хваробах.

Голас, глухі, не падобны ні да мужчынскага, ні да жаночага і ад таго яшчэ больш таямнічы, ледзьве не тагасветны, запанаваў у пакоі так нечакана, што Стэфа не адразу ўцяміла, што адбылося, што адбывалася: ніхто неварухнуўся, ніхто не расціснуў вуснаў, а словы гучалі. Не сказаць, каб зусім незнаёмыя, ніколі не чутыя, але тым не менш, ашаламляльныя — не ў апошнюю чаргу мо і з-за сваёй нечаканасці ашаламляльныя.

— Табе кажу, да цябе звяртаюся: страшны цябе чакае канец,— ужо толькі да яе, да Стэфы, здавалася, звяртаўся голас.— Тваё ўласнае цела здрадзіць табе, так, так. Не адышоўшы ў свой час, перад смерцю, чакаючы смерці, павернешся тварам да Бога, якога ніколі не ведала, перад якім ніколі, ніводнага разу не схілялася — і не зірне на цябе Збавіцель. Будзеш стаяць на каленях перад пустатою, з рукамі, узнятымі да знямелага, пустога для цябе неба — і на міг не адчуеш палёгкі, і да скону не дачакаешся адпушчэння грахоў.

— Ды пайшоў ты! — мармытнула яна, намагаючыся калі не падняцца з крэсла, то хоць бы распрастацца, выпрастаць здранцвелыя пад цяжарам слоў плечы.— Абпаіў, сукін сын...

На міг узнікла ўражанне, што ссунуліся, пахіліліся і ссунуліся са звыклых месцаў часавыя пласты — Стэфа падала, правальвалася ва ўтвораную паміж імі шчыліну і, яшчэ спрабуючы ўтрымацца на адламаным раптам ад памяці сколачку рэальнасці, зусім рэальнага толькі што вечара, ведала, усведамляла, што не ўтрымаецца і з вышыні свайго росту бразнецца долу, калі ніхто не падтрымае яе ў апошні момант, калі ніхто...

— Цю-ю-ю! Ад дзвюх шклянак віна паненка на нагах не трымаецца? — падхапілі, сціснулі яе ў абдымку чыесьці дужыя рукі.— Вось ужо ніяк не мог падумаць!

— Ты хто? — матлянула галавою Стэфа, адчуваючы, што звялае, бездапаможнае яе цела як не пахрумствае ў гэтых руках.— Ты хто, а?

— Той, хто упадабаў цябе і прысвоіў на ўсю гэту ноч, вырваўшы ў кампаніі малакасосаў. Хто ўзяў і прысвоіў. Вось так,— прыўзняў ён яе, прыціскаючы, уціскаючы ў сябе, і зноў усё паплыло ў Стэфы перад вачмі: шырокі ўсмешлівы твар, які яна не пазнавала, столь, падчэпленая да жоўтага пластмасавага абажура, уздыблены на край пазалепванай часопіснымі выразкамі сцяны ложак.

— Пры... прыс... воіў? — заплюшчылася, паспрабавала за вейкамі схавацца ад зноў схіленага над ёю, выраслага ў памерах і таму, здавалася, пачварнага твару, але гарачая, цёмная млосць адразу заварушылася ў грудзях, пачала падступаць да горла, душыць і давялося сутаргава зглынуць паветра і тут жа адкрыць вочы. Ад раптоўнага страху на міг працверазелы позірк спыніўся на тым, хто толькі што трымаў яе на руках, а цяпер, усадзіўшы на ложак, стаяў побач — апусціўся побач на кукішкі і разглядваў яе, дапамагаючы пагляду рукамі, кончыкамі пальцаў, рух якіх, зусім незнаёмы і прыемна пяшчотны, заўважыла яна далёка не адразу.— Ты хто?

— Хіба гэта мае цяпер значэнне? Ты... Табе страшна?

— Не. Не знаю...

— А я знаю. Страшна... Абдымі мяне за шыю,— схіліўся, навісаючы над ёю, мужчына, і Стэфа нечакана па-сапраўднаму спалохалася, раптам уцяміўшы, што ляжыць перад гэтым незнаёмцам зусім голая, што зараз адбудзецца штосьці гідкае, штосьці непапраўнае, і тузанулася што было сілы — тузанулася, рванулася прэч, далей ад гэтых рук, ад

іх нецярплівых рухаў, і, як атрымалася, насустрач ім.— Ціха, ціха, маленькая. Абдымі мяне, абдымі моцна-моцна — гэта табе зараз спатрэбіцца!

Ужо не толькі рукі, не толькі гэтыя словы ўціскалі яе ў ложак — усім целам адчувала Стэфа цяжар другога, чужога цела, сухога і гарачага. Такога гарачага, што ад дрогкіх дотыкаў яго пачынала смылець апечаная скура, а яму было мала, усё яшчэ мала — прыціскалася, уплішчвалася ў Стэфу ўсё мацней, з усё большым палам: вусны ўпіваліся ў яе вусны, глушачы, заглушаючы крык (ці мо стогн — Стэфа ўжо не разбірала), рукі, ліхаманкава камечачы, расцягваючы яе ногі, тым самым папярэджвалі пра гвалт...

— Не! Не-е!! — захлынулася яна крыкам, прагным мужчынскім пацалункам, болем, які, здавалася, раздзіраў, раздраў яе папалам, і абмякла, ці то канчаткова змогшыся ад барацьбы і страху — страху перад тым, што адбывалася, што адбылося ўжо, не прынёсшы задавальнення.

— Вось бачыш, нічога страшнага... Нічога, бачыш? — калыхаўся над ёю шэпт, калыхаўся і знікаў, раствараючыся ў пацалунках, то пяшчотных, то палкіх і калючых, і Стэфе здалося, што ён, гэты шэпт, адно і будзіў зрэдку яе свядомасць, адно і падтрымваў у ёй жыццё. Хоць, напэўна, толькі здавалася, бо праз нейкі час (вечар мінуў? ноч мінала?) цела яе пачало паддавацца чужой настойлівай ласцы, пачало, перш падсвядома, чыста інстынктыўна, адказваць — рухам на рух, дрогкім, поўным п'янлівай асалоды рухам на кожны дотык чужога і ўжо такога знаёмага цела.

Яна спала?

— Пусці! — тузанулася, вырываючыся з дужых мужчынскіх рук, і болем адгукнулася на гэты рывок стомленае, растузанае цела.— Што ты зрабіў са мною?!

— Што? Тое, што зрабіў бы любы, да каго ў рукі ты патрапіла б. Не сёння, дык заўтра.

— Пусці мяне! Чуеш?

— Куды? Наверх? — мякка, пяшчотна пагладжваў, камячыў ён рукою яе грудзі, слухаючы, як міжволі напружваліся, уздрыгвалі яны ад узбуджэння пад пальцамі.— Я ж разбудзіў цябе, збудзіў у табе жанчыну — ты павінна б адчуць удзячнасць.

— У-дзяч-насць?! — працівілася і не магла адвярнуцца, адхінуцца ад яго рук, ад яго ласкі Стэфа.— Напаіў мяне, згвалціў і...

— І ты не задаволена? — рука яго саступіла вуснам, і Стэфа з жахам адчула, як соладка зайшлося сэрца ад іх гарачых дотыкаў.— Ты не адчуваеш насалоды? Гоніш мяне?

— Мярзотны насільнік!
— Канешне.
— Скаціна!
— Не, не. Усяго толькі мужчына, маленькая... Усяго толькі мужчына, і, прызнайся, не абы-які...
— Пусці мяне! Ты... ты робіш мне балюча.
— Але ён жа салодкі, гэты боль,— ціха-ціха раскалыхваў ён свой шэпт.— Салодкі і жаданы... Скажы, што не так? Скажы... Нічога не гавары... Дай мне свае вусны, аддай мне свой агонь, як рабіла гэта толькі што. Я буду любіць цябе, маленькая, любіць, пакуль не вылюблю... Ты адчуеш. Ты сама захочаш.
— Не... Не хачу, не хачу! Не хачу, чуеш? — міжволі паддавалася, зноў уступала ў гэты бясконцы паядынак на чужым, нязручным ложку Стэфа, хоць, здавалася, ненавідзела, ад усёй душы ненавідзела свайго гвалтаўніка, сябе, увесь белы свет, у якім магчымы такія здрады, такія ночы.— Ненавіджу цябе, ненавіджу!
— Цішэй, цішэй! Нянавісць... Любоў... Гэта ўсё словы. Словы і толькі,— усё больш рашуча падпарадкоўваў ён яе сваёй волі, свайму зноў і зноў няўтольнаму жаданню.— Жыццё ж — вось гэты шал, гэтыя сутаргі страсці, маленькая. Ненавідзь мяне, але так, як у гэту хвіліну, так, як цяпер... Ах ты, золатка! Ах ты, разумніца мая...
— Не твая! не твая! не твая! — рвалася Стэфа прэч, далей ад яго вуснаў, ад яго рук і, атрымлівалася, рвалася насустрач ім, насустрач свайму болю, свайму чарговаму паражэнню.
— Яшчэ, яшчэ, маленькая... Бяры сваё. Не чакай мяне...
Яна задыхалася. Ад яго слоў. Ад пацалункаў. Ад агню, у які гэтыя пякучыя пацалункі ператваралі бясконцыя, расцягнутыя да немагчымага імгненні. Здавалася, вось-вось перарвецца дыханне — ды яна і хацела гэтага, хацела зусім свядома: усвядоміла ж, усведамляла, што бяскрыўдная напачатку вечарынка ў інтэрнаце, у кампаніі вясёлых, шчодрых дзядзечак, нейкім чынам (Стэфа не памятала калі і як) завяршылася гэтаю страшнаю ноччу, гэтым растузаным, невядома чыім ложкам, гэтым загнаным глыбока ўсярэдзіну болем, ад якога скаланалася, млела ўся яе істота.
— Уладзіслаў...— прастагнала, праваліваючыся ў гарачую задушлівую пустату, і ніштo не азвалася на гэты стогн, на імя каханага, страчанага, і страчанага цяпер ужо назаўсёды.
Калі змагла, адолела знямогу і падняла набраклыя слязьмі, цяжкія павекі, убачыла, што змрок адступіў, расступіў-

ся і ў сашчэпленых на грудзях руках пані Гражыны, якая стаіць за крок ад яе крэсла, прама насупраць, ціхенька ўздрыгвае, хістаецца агеньчык свечкі, адной з дзвюх запаленых перад пачаткам сеанса свечак, і ў святле яго, няяркім, але чыстым, калыхалася, набліжалася, становячыся ўсё больш выразнаю, выява мужчыны... добра знаёмая выява юнака...

— Уладзіслаў?

— Брава, пані Гражына! Імя ўсё-такі прагучала.

— А хто яго прамовіў? Ты што-небудзь разумееш, Кастусь? Кастусь! Ды абудзіся ты!

— Бог ты мой, Стэфа! Я і не падумала б...

— Чаго не падумала б? —- азірала кампанію Стэфа, не хаваючы недаўмення, злоснага і непрымірымага: яе (Яе!) падверглі эксперыменту? На яе лыпалі вачмі, у душы, няйначай, пасміхаючыся? — У чым справа, Ната? Можа, патлумачыш?

— Бог мой, Стэфа, ды мы ўсе табе зайздросцім! Пані Гражына абяцала, што сярод нас — вось тут, сярод нас, разумееш? — будзе знаходзіцца той, каго па-сапраўднаму ка- халі... Ну, хто-небудзь з нас па-сапраўднаму кахаў, разумееш? І імя яго прагучыць, толькі імя...

— А-а-а! Віншую, калега,— рэзка паднялася, адпіхваючы крэсла, Стэфа.— Віншую, хоць захаплення гаспадыні не падзяляю: гэта дзіцячыя забаўкі, не больш.

Дагаворвала ўжо ад дзвярэй, і так і не павярнулася да прысутных, каб хоць кіўком галавы развітацца. Злосць ападала, мякчэла, паступова саступаючы абыякавасці, звыклай, будзённай абыякавасці. Грахом даўнішнім памяць папікнула? Ну і што! Ці мала ў жыцці яна грашыла ці грашыць!

Не, Стэфа была ў норме. Абцасы звонка, роўна выстуквалі па лесвічных прыступках, падганяючы, прыспешваючы яе, і пра тое, што ў вачах стаялі слёзы, што яны ўсё-такі пральюцца, пакінуць на шчоках лёгкі след, Стэфа ў гэты момант і сама не здагадвалася.

16

— Уладзіслаў? Я не памыліўся? Нас калісьці знаёмілі...

— Як жа. Помню. Больш таго: нават вершы чытаў неаднойчы,— мякка, быццам баючыся неўзнарок разгнесці яе ў сваёй, шырокай і не проста дужай, а магутнай, як таго патрабавала прафесія, руцэ, паціскаў ужо яму руку скульптар.— Якім ветрам?

— Рэпарцёрскім, маэстра,— усміхаўся Язэп: яму шчыра падабаўся гэты каржакаваты асілак з буйна-кучараваю капною чорных як смоль валасоў і сінім-сінім паглядам — гэткую грымучую цыганска-славянскую сумесь і гады, напэўна, не возьмуць.— Тэрмінова, як заўжды ў газеце, патрабуецца рэпартаж з майстэрні скульптара. Пажадана шчымліва-рамантычны. Каб слязу выціскала ад замілавання.

— Ну-у, гэта не да мяне, браце,— жэстам запрасіў госця прайсці, прысесці дзе зручней Уладзіслаў.— З каменя няпроста слязу выціснуць. Нават вось голымі рукамі.

Рукі, ускінуўшыся, апісалі ў паветры мудрагелістую фігуру і аціхлі, сашчэпленыя на грудзях.

— Няпроста, але можна?

— З гэтым не да мяне.

— Але ж...— злавіў Язэп, што называецца, фразу за хвост, у самы апошні момант зразумеўшы: спяшацца не трэба. Не трэба, бо гаворка тым магла і закончыцца, чым распачалася,— ветліваю ўсмешкаю, якая ні да чаго не абавязвае.— Канешне, нічога напэўна пакуль што сцвярджаць не вазьмуся, але ад работ застаецца markdown рознае, кожны раз рознае ўражанне.

— Якія работы маюцца на ўвазе?

— Ды хоць бы тыя, што ўваходзілі ў экспазіцыю апошняй выставы, наладжанай у Палацы мастацтваў,— дужа не хітраваў Язэп.— Не ўсе прыгадваюцца, але...

— Але? — нецярпліва пераступіў Уладзіслаў з нагі на нагу, не зводзячы з госця пранізлівага, хоць і злёгку прыкрытага вейкамі, прымружанага позірку: сінь выплёсквалася з яго на кожны ўсплёск светлых вейкаў, і здавалася, што на кожны такі ўсплёск у гэтым адасобленым ад астатняй плошчы цяжкой палатнянаю шторою кутку майстэрні станавілася відочна святлей.— Нешта ўсё-такі пана журналіста сярод іх уразіла? Што?

— Ты не запросіш мяне ў рабочы пакой?

— Мо спачатку па кубачку кавы? — пытаннем на пытанне адказаў ён і, заўважыўшы нецярплівы Язэпаў рух, скіраваўся ўглыб майстэрні, не рассунуўшы, толькі прахінуўшы штору, і азірнуўся.— Прашу. Да кавы мы яшчэ вернемся, ці не так? Я толькі прыкрыю свежую гліну. Каб не сохла.

— Новая работа? — пацікавіўся Язэп, з цікаўнасцю назіраючы за гаспадаром, за дакладнымі рухамі, якімі ён прыкрываў мокраю анучаю яшчэ незавершаны твор.— Калі не сакрэт...

— Сакрэт,— засмяяўся Уладзіслаў.— Агледзься, пакуль я рукі апаласну: мо што з ранейшага зацікавіць. А я зараз.

— Канешне, канешне,— абвёў позіркам аграмадную, уздоўж сцен спрэс застаўленую работамі майстэрню Язэп: бюсты (іх было больш, чым чаго), расстаўленыя на прос-тых, збітых з тоўстых дубовых дошак паліцах, гіпсавыя статуі, невялікія скульптурныя кампазіцыі, зноў бюсты, цяпер ужо большыя, сярод якіх вылучаліся, лезлі на вочы скульптурныя партрэты правадыроў марксізму-ленінізму. Дзесьці сярод усяго гэтага, у застаўленай пыльнымі работамі прасторы, што нагадвала дзівосны, фантастычны сад скульптур, у большасці сваёй белых, гіпсавых, знаходзілася і адлітая з бронзы знаёмая па колішняй выставе фігурка — партрэт, не партрэт...— Тут у цябе заблудзіцца можна.

— Ага. Шмат лішняга,— адгукнуўся гаспадар.— Перш часу не ставала падступіцца, расчысціць трохі, цяпер жа, калі па шчырасці, то і не хочацца нічога расчышчаць ці мяняць. Хіба ўсё разам, і вартае і нявартае ўвагі, не ўяўляецца табе своеасаблівым партрэтам — партрэтам часу?

Ён ужо стаяў побач, без рабочай блузы, у джынсавай кашулі з кароткімі рукавамі, якая, калі меркаваць па нашыўках, мела нейкае дачыненне да амерыканскай арміі, а хутчэй за ўсё проста рэкламавала яе, яе сілу і значнасць (Язэп нічога не сказаў бы за амерыканскіх салдат, а Уладзіслаў выглядаў у гэтай адмысловай кашулі зусім някепска, яшчэ больш унушальна).

— Дык як наконт партрэта часу? Не згодны?

— Чаму ж не згодны? — разглядаў Язэп скульптуры.— Толькі...

— Толькі ва ўсім гэтым ярка выяўленага аўтарства не бачыш, так я разумею? — усміхаўся ён, спадцішка цікуючы за госцем, які не хаваў, ці не мог схаваць, расчаравання.— Усё, браце, залежыць ад пазіцыі. Ад аўтарскай пазіцыі. Адзін мастак імкнецца ўваліцца, уламацца ў свой час, абвясціўшы аб сваім прыходзе, як яму здаецца, усе прамінулыя і наступныя стагоддзі, другі... Другі — і я не хаваю, што належу да такіх! — разумее, што выяўляе, выказвае толькі сваё жыццё, тую часцінку яго, якая ўмуравана ў адведзены яму час, што ён толькі сведка, вызначаны небам і дадзеным яму дарам сведка, які, калі пакіне будучыні хоць адно сваё сведчанне, будзе пераканаы, што прызначэнне яго на зямлі выканана.

— Ты ўсур'ёз думаеш, што гэта,— матлянуў Язэп галавою ў бок велічных манументаў гіпсавых правадыроў,— сведчанні?

— А ты перакананы: некалькі пакаленняў людзей абагаўлялі іх проста так, без дай прычыны, адно ад беспрасветнага свайго глупства? Не, браце, не ўсё так проста ў гісторыі, як сяму-таму сёння ўяўляецца. Ягонае месца,— наблізіўшыся, правёў Уладзіслаў чуйнымі пальцамі па шорсткай паверхні гіпса, гіпсавай адліўкі бюста Леніна,— ніхто з паслядоўнікаў не зойме, колькі б новых архіўных дакументаў цікаўнай публіцы не падкідваў. Ты-ра-ан!

Язэп зіркнуў на скульптара з падазрэннем: чаго гэта ён, на самай справе? Знайшоў чым захапляцца!

— Знайшоў чым захапляцца,— буркнуў.

— Прадузятасць у табе цяпер гаворыць, прадузятасць і журналісцкі снабізм,— не хаваў Уладзіслаў крыху хітраватай усмешкі, дзівячыся на свае, спісаныя новым часам у розны непатрэбны злом творы.— Як жа! Столькі інфармацыі, столькі ўпершыню адкрытых дакументаў — ату яго! гані! выганяй з гісторыі, каб і духу ягонага не засталося ў хуткім часе!

— Смяешся? — адчуў ён, як варухнулася ў душы непрыязнасць.— Цяпер — смяешся, а добры ж кус, няйначай, адхапіў некалі, прафесійна выканаўшы атрыманы ад апаратчыкаў заказ?

— Добры кус, ці не вельмі, не ў тым справа. Галоўнае — не падавіўся.

Гаспадар адкрыта пасміхаўся, весела пабліскваючы на яго вачмі.

— Ды ну цябе! — адмахнуўся Язэп і ад яго пасміхання, і ад гаворкі, ужо шкадуючы, што распачаў яе.— З чаго пачынаць рэпартаж, ужо, сыходзячы з убачанага, маем. Пойдзем далей.

— Далей — у прасторы, ці далей — у часе?

— Далей — у адчуванні,— не падтрымаў ён прапанаванай гульні гэты раз.— Не ўсё ж на заказ рабілася, было ж, напэўна, і штосьці для душы.

—Дык ты па душу маю прыйшоў? Чаму ж адразу не сказаў, не папярэдзіў? — яшчэ шырэй заўсміхаўся Уладзіслаў.— Я яму — пра партрэт часу, пра вялікіх міфатворцаў, а ён... Як гэта там у цябе? «Душа што бездань, не разгледзець дна...»

— Ты абяцаў пачаставаць мяне каваю.

— А-а-а! А што, агляд ужо завершаны? Зусім нічога не зацікавіла? — пасур'ёзнеўшы, змерыў яго Уладзіслаў паглядам, быццам прымерваўся да далейшай гаворкі.— Не адно ж гліняных багоў я ляпіў усе гэтыя гады, а?

— Прабач,— не адвёў Язэп вачэй, хоць, па ўсім было

відаць, адчуў сябе ніякавата.— На выставе я бачыў некалькі вельмі паэтычных работ. Відаць, ранніх. Хацелася ўбачыць іх яшчэ раз, распытаць што якое пра гісторыю іх стварэння — чытачам гэта спадабалася б, але ў цябе не той настрой, так што... Так што частуй, як абяцаў, кубачкам кавы!

— Кава ад нас не збяжыць,— узіраўся той у журналіста, і цяжка было сказаць, разумеў ён, што спадзяваўся Язэп убачыць у майстэрні і не ўбачыў, або не.— І да кавы сёетое знойдзецца, калі ў шкапчыку пакорпацца. Мо перш патлумачыш, якія работы зацікавілі? Два месяцы, як выстава закрылася... Рэпартаж пра яе добра-такі спазняецца, праўда? Ці мо я чаго-небудзь не разумею?

Ён не разумеў. Не разумеў, чаму Язэп хітраваў, чаму не выклаў адразу, чаго хацеў, дзеля чаго прыйшоў і як не паўгадзіны ўжо адрывае яго ад працы.

— Раннія работы, кажаш? — не хаваў больш свайго раздражнення.— Тут добрую трэць работ можна аднесці да ранняга перыяду. Вунь, на другой паліцы злева...

Язэп ужо не слухаў. Павярнуўшыся і міжволі прасачыўшы за нецярплівым жэстам гаспадара, неяк адразу, у першае ж імгненне ўбачыў тое, што шукаў,— лёгкую, бязважкую фігурку, вакол якой (невядома, адкуль узнікала такое ўражанне) быццам трапяталі нябачныя, але добра адчувальныя крыльцы.

— Ты кахаў гэту дзяўчыну. Проста ты кахаў яе! — ступіў услед за прыкаваным да статуэткі паглядам Язэп, яшчэ больш уражаны раптоўна знойдзенаю разгадкаю мастакоўскае таямніцы.— Як жа я, дурань, адразу гэтага не ўцяміў — яшчэ там, на выставе?

— Што так уразіла пана паэта? — пасміхаўся, спрабуючы ўсмешкаю астудзіць ягоны пал Уладзіслаў, і ўсмешка яго была невясёлаю.— Ранняя бронза? Адлітая ў бронзе юная летуценніца?

— Чаму — «Мечаная»? Адкуль узялася гэта назва? — як не чуў (ды і не чуў яго!) Язэп.— Я хутчэй за ўсё назваў бы работу «Каханне». Ці «Каханая».

— О, Бог мой! Колькі непатрэбных слоў!

— Ты не адказаў.

— Тут не патрабуецца адказу,— адступіў Уладзіслаў крыху ўбок, да заляпанай глінаю і свабоднай цяпер падстаўкі, крутануў яе, раз і другі раз, быццам забаўляючыся, потым рашуча абмінуў госця і пачаў вызваляць праход да патрэбнай паліцы.

— Дапамагчы? — памкнуўся за ім Язэп.

— Не. Вазьмі ў закутку для адпачынку, на крэсле, шэрую драпіроўку. Кавалак палатна, адным словам... Там, там, за шторою! Знайшоў? — пытаўся, не паварочваючы галавы, і лёгкімі дакладнымі рухамі пасоўваў да краю паліцы статуэтку, каб льга было ўзяцца за яе дзвюма рукамі.— Прыкрый палатном заляпаны глінаю станок... Падстаўку! Ага. Дзякуй.

— Я дапамагу,— зноў памкнуўся, цяпер ужо насустрач яму, Язэп, але гаспадар, ціха адсунуўшы, адцёршы яго ўбок плечуком, з зайздроснаю лёгкасцю, здавалася, нават без асаблівага напружання, паставіў цяжкую, не менш як двухпудовую бронзавую фігуру дзяўчыны на няўстойлівую, але моцную падстаўку і ўжо лёгенька пакручваў яе, шукаючы найбольш адпаведны ракурс і патрэбнае ў гэту гадзіну сутак асвятленне.

— Лепш адысціся крокаў на пяць.

— Так, так! Адсюль добра...— невядома чаму расхваляваўся раптам Язэп, і яго хваляванне перадалося, няйначай, і аўтару, бо ён нечакана закашляўся і, выцягнуўшы з кішэні насоўку, пачаў выціраць сухі лоб.— Мечаная... Чаму раптам? А?

— Усе людзі — мечаныя якім-небудзь знакам,— ціха, ледзь чутна стаў тлумачыць Уладзіслаў, змірыўшыся з настырнаю цікаўнасцю журналіста і кірункам, у якім пайшла гаворка.— Знакам дабрыні. Ці Божага гневу. Ці Божага агню... Не ўсе яны і не ў кожным лёгка прачытваюцца, але калі прачытваюцца... Такіх здаўна называлі ў народзе мечанымі!

— А гэта дзяўчынка? Ты кахаў яе некалі, праўда?

— Не ведаю. Адсюль ужо не відаць.

— Няпраўда. Хочаш, я раскажу, як усё было? — не зводзіў пагляду са скульптуры Язэп.

— Навошта? — лена адгукнуўся Уладзіслаў.— Усё, як ва ўсіх. Наіўна і па-дурному.

— Але ж я сустрэў тваю дзяўчынку зусім нядаўна, цяпер. Я ведаю яе імя, і, калі меркаваць па даце, якою пазначана гэта работа, яна, дзяўчынка, магла б быць тваёй дачкою...

— Магла б. Але гэта не мая дачка.— Гаспадар, спахмурнелы твар якога ў гэты момант здаваўся не так злосным, як разгубленым, рашуча скіраваўся ў закутак, да століка, дзе ўскіпаў чайнік, адкрыў банку з каваю, ссунуў кубкі.— Пан не адмовіцца ад кроплі каньяку да кавы? На жаль, у мяне не больш пятнаццаці-дваццаці хвілін у запасе, так што прашу.

— Мечаная... Каханая... Крылатая...— мармытаў Язэп, азіраючыся на статуэтку і адсюль, з-за рассунутае шырмы, з-за століка, за якім яны размясціліся.— Відаць, крылы ўсё-такі ламаюцца, а? У аднаго пры ўзлёце, у другога пры падзенні, і цуд — адно тое, што застаюцца сведчанні, што ўсё-такі застаюцца.

— Мастацтва на тое людзям і дадзена.

Яны, абодва, думаючы кожны пра сваё, пазіралі на скульптурны партрэт дзяўчынкі, і ціха цяклі хвіліны, і ў кубках астывала горкая ад падлітага каньяку, так і не кранутая імі кава.

17

Хвіліны нетаропка перацякалі адна ў адну, зліваліся, расцягваліся, каб нечакана раптам абрынуцца кудысьці ў прамінулае, утварыць на паверхні азярцо цішыні, да якога паглядзм, душою міжволі зноў і зноў хінулася Стэфа. Успамінала, не ўспамінала... Яна не хацела ўспамінаць (мо таму што баялася гэтых успамінаў), здавалася, даўно забыты вечар, перажываць усё яшчэ раз, а, відаць жа, прыспеў час: цішыня ўцягвала яе, паглынала — у думках ажывала, ажыло яно, даўно забытае, выкінутае з галавы, і ўпершыню яна не адмахвалася ад згаданага. Упершыню...

— Я не пайду, Ната. Няёмка.

— Глупства! Майго ты бачыла: цюхця-мацюхця...— смяялася, падштурхоўваючы яе, Ната.— А сябрук яго — ці мо зямляк, я ўжо дакладна не помню,— нейкая шышка з самых вярхоў. Мо нават з добравядомага і ўсясільнага кадэбэ.

— Во, во! — з новаю сілаю запярэчыла Стэфа.

— Дык жа і цікава, дурніца: пасядзім, пагамонім, паспрабуем на кручок падчапіць.

— Не, не, прыедзе Уладзя...

— Думаеш, твой Уладзя ў Гародні вачэй за прамінулы тыдзень ні на каго не падняў? — ласкава тузала яе сяброўка.— Ды ў яго ад кожнага пільнага позірку штаны адтапырваюцца!

— Ната!

— Маўчу, маўчу,— абняла яна яе і зноў пачала падбухторваць, падштурхоўваць у бок бліжэйшага пяціпавярховіка.— Толькі ты ўжо не падводзь кампаніі: дамаўляліся ж, збіраліся... Гадзінку пасядзім — і на волю. Схочам — дыскатэку наведаем, не схочам — у кінатэатр заскочым. Ну? Мы ж ужо, лічы, прыйшлі. Хлопцы, павер мне, што трэба, і вячэра добрая забяспечана...

— Толькі калі на гадзінку,— паддалася Стэфа, у якой цікаўнасць усё-такі ўзяла верх над асцярогаю: невялікі грэх — павячэраць у Націнага Вадзіма. Ды і час дзіцячы: калі яшчэ сцёмніцца!

— Чакаем паненак... Смялей! — гукаў з прачыненых дзвярэй Вадзім, і калі Ната кінулася да яго, на міг забыўшы пра сяброўку, мякка, хоць злёгку і абняў за плечы, адхінуў яе, зрабіў красамоўны жэст.— Прашу. Сцяпан, музыку!

Грымнуў нейкі марш і тут жа, спярша крыху прыглушаны, захлынуўся добра знаёмаю мелодыяй вядомага цыганскага раманса — гітара плакала і смяялася ў руках непрысутнага музыкі, гукі паступова цішэлі, аддаляліся, так што хутка стала чуваць, як фыркала, пасмейваючыся і адцярэбліваючыся ад Вадзімавых рук, Ната, а ў пакоі, які кепска праглядваўся адсюль, з вузенькай прыхожай, з месца на месца перакочвалася рэха чыіхсьці нецярплівых крокаў.

— Сцяпан. Паверце, гэтым усё сказана.

— Што — усё? — змусіла сябе перапытаць Стэфа, каб хоць неяк схаваць, прыхаваць разгубленасць: перад ёю стаяў невысокі, каржакаваты мужчына гадоў сарака, не меней, што выдавалі глыбокія залысіны і зрэзаны далёка не першымі зморшчынамі лоб, і ў цёмным, бяздонным позірку ягоным люстравалася яна, Стэфа. Люстравалася так выразна, так аголена ясна, што ў спалоху нават памкнулася адступіць, адысціся хоць на крок, і, калі б не Вадзім з Натаю ззаду, адразу за плячмі, напэўна, кінулася б прэч адсюль, з пакоя, з незнаёмай, чужой кватэры, куды прыйшла, падштурхнутая цікаўнасцю.

Спалох не праходзіў, але не збягаць жа было ва ўсіх на вачах адно ад няўцямных прадчуванняў немінучай бяды: прадчуванне апякло і знікла, згасла ў глыбінях свядомасці, і ўсё, што ад Стэфы патрабавалася ў гэты міг — зрабіць намаганне і ўсміхнуцца незнаёмцу, у якім` угадвалася штосьці бульдожае. Мёртвая хватка ці што?

— Паненкам будзе зручней на канапе. Распараджайся, Наталі,— абмінуў яе і ўжо завіхаўся каля стала Вадзім, і Стэфа, уздрыгнуўшы на дотык дужай, патрабавальнай рукі яўна прызначанага для яе кавалера, зрабіла аграмаднае намаганне і ступіла колькі крокаў уперад, каб таропка, ні на каго не азірнуўшыся, апусціцца на канапу і тут жа адсунуцца ў самы куток, далей ад стала.

— Не, не, Стэфачка. Так не пойдзе. Так мы не дамаўляліся,— заўважыў яе манеўр гаспадар.— Мы ж тут так па-

шчыравалі, такую закусь на ўсю кампанію падрыхтавалі, што пальчыкі абліжаце.— I — праігнараваць нашу працу, нашы здольнасці? Ну, не! Гэтага мы не дазволім, праўда, Сцяпане?

— Ды хіба хто ігнаруе? — падміргнуўшы зніякавелай Стэфе, ужо ўладкаваўся той у крэсле, каб у наступны момант рашуча падацца да бутэлькі шампанскага, што ўзначальвала стол, і звыклым, прыгожым рухам ўзбаўтнуўшы ахаладжаны папярэдне напой, пачаў адкаркоўваць яе.— Вечар жа толькі-толькі пачынаецца, і ад дзяўчат — так, так, дзяўчаты, ад вас! — залежыць, якім ён выдасца. Вы дазволіце...

Корак, выбіты пенаю, апускаўся проста на падстаўленую далонь Сцяпана, шампанскае пеністымі струменямі лілося ў расстаўленыя келіхі, і першым заходам, і другім — і каб кропля ўпала на белы абрус!

Ната ў захапленні пляскала ў ладкі, крыху манерна, на манер старой тэатральнай дамы паўтараючы: «Брава! Брава!», міжволі здзіўленая, выйшла са здранцвення, пасвятлела тварам Стэфа, задаволены эфектам, які зрабіў на дзяўчат сябрук, усміхаўся, шырока і весела, Вадзім. А Сцяпан, як павышэўшы адразу ростам, ужо горда ўзвышаўся над сталом з келіхам у руцэ.

— Чаго не зробіш, калі хочаш спадабацца такім красуням? За вас. Стоячы і да дна.

Таропка ўскочыў Вадзім, засмяялася, прыгубіўшы віна, Ната. Усе пазіралі на Стэфу.

«Чаго гэта я? Яшчэ неўзнарок прымуць за вясковую дурнічку, якая шампанскага ў вочы дасюль не бачыла...» — схамянулася пад іх позіркамі Стэфа,і нервовы, найгранарашучы яе рух да стала, да паўнюткага келіха, быццам адкінуў яе за межы рэальнага: пасля першага ж глытка смачнага, п'янліва-салодкага віна адчула, як ударыў у галаву хмель, а ўсе ж весела, шумна патрабавалі: «Пі да дна! Пі да дна!». I яна піла. Усміхалася — і піла.

Потым... А што — потым? Усё змяшалася, злілося ў адну стракатую пляміну: залітая вінoм сурвэтка, цёмныя, невызначальнага колеру бутэлькі з незнаёмымі наклейкамі, знаёмыя твары, якія яна адзін ад аднаго папросту не магла часам адрозніць, перакошаная канапа, што час ад часу, калі ўсе разам спрабавалі ўціснуцца ў яе ўтульную прастору, жаласна парыпвала і ўгіналася, абрыўкі слоў, аскепкі п'янага смеху, размазаны па талерцы вінегрэт, рэпрадукцыя карціны, запоўненай голымі, тлустымі целамі натуршчыц, на сцяне насупраць, звонкія — на публіку — пацалункі...

Калі б яна, Стэфа, усведамляла, калі б яна магла тады ўсвядоміць, што адбывалася і да чаго, па сутнасці, ішло, мо і паспрабавала б атрэсціся ад усяго гэтага, вырвацца, выдрацца з гэтага вечара, з рук фокусніка, які ўмела распараджаўся ім, але яна паддалася хмелю, агульнай, нейкай шалёнай весялосці і страціла ўсякі кантроль над сабой. Быў момант, калі ясна, надзіва выразна ўбачыла, як Сцяпан падліваў, падмешваў ёй у віно штосьці яўна крапчэйшае, ды толькі момант на тое і момант, каб мінуць — перакуліцца ўгору дном і знікнуць, саступіць месца наступнаму. А ў наступны момант Стэфа ўжо смяялася на нечы жарт, не заўважаючы, з якою палкасцю хіне, туліць яе да сябе ўсё больш адкрыта Сцяпан.

І вось ужо ссунуліся, пахіхіліся і ссунуліся са звыклых месцаў часавыя пласты — Стэфа падала, правальвалася ва ўтвораную паміж імі шчыліну і, яшчэ спрабуючы ўтрымацца на адламаным раптам ад памяці сколачку рэальнасці, зусім рэальнага толькі што вечара, ведала, усведамляла, што не ўтрымаецца і ўпадзе, калі ніхто не падтрымае яе ў апошні момант, калі ніхто...

— Гэта раней ці пазней павінна было здарыцца.

— Што?! — страпянулася Стэфа, адрываючы пагляд ад папер на стале, якіх яна, канешне ж, не бачыла яшчэ толькі што, усяго імгненне назад.— Ты штосьці сказаў, Анатоль?

— Не, як вам падабаецца! Я паўгадзіны бісерам рассыпаюся, даводзячы шаноўнай калезе, што не хтосьці адзін, другі, трэці, а людства — усё людства! — перад пагрозаю агульнага вар'яцтва, а яна, бачыце, і вухам не павяла.— Жыноўскі абураўся, але не так шумна і тэатральна, як зазвычай, калі збіраўся падражніць, неўпрыкмет зачапіць суразмоўніка, а стомлена, больш па заведзенай звычцы.— Ты часам не ўцюрылася ў свайго патлатага арангутанга?

— А ты ўсё за людства турбуешся? — міжволі пакрыўдзілася яна за «арангутанга» і таму ўсміхалася, прыкідваючыся як мага больш абыякавай.

— Дурніца ты, галубка, як і ўсе бабы.

— Канешне,— пагадзілася.— Пэўна ж, бабы — дурніцы вялікія, калі аддалі вам уладу і спакойна пазіраюць, як вы, разумнікі, падштурхваеце свет да катастрофы.

— Ну-у, адразу газетчына паперла! — скрывіўся Жыноўскі.— Усе катастрофы спеюць знутры — з нутра гэтага лепшага са светаў, і колькі б мы ні мітусіліся, куды б ні ўцякалі, збегчы не ўдасца. Жыцця не хопіць: занадта хуткі працэс.

— А як жа твая тэорыя дужай рукі? — прадоўжыла пакінутыя запісы Стэфа, страчваючы цікавасць да гаворкі.— Няма каму ўзяцца і скруціць галаву гэтаму працэсу?

— О-го! Мяне — маёю ж зброяю... Адпомста за «арангутарга»?

— Ты гэткі ж арангутанг.

— Не. Хвост карацейшы,— адкінуўшыся на спінку крэсла, заржаў Жыноўскі, не чакаючы яе рэакцыі.

— Цьфу ты на яго! Толькі б зубы скаліць...— з нечаканай гідлівасцю зірнула на яго Стэфа.— Лепш скажы, чаго ты дамагаешся, тупа настойваючы на новым эксперыменце.

— А то ты не ведаеш, чаго! Разам жа задумвалі...— пасур'ёзнеў той, на вачах мяняючыся з твару: твар нерухомеў, блякнуў і ўсё больш нагадваў маску, пакуль не адмерла, не сышло з яго ўсё да апошняе жывінкі.— Чалавек заслугоўвае сваёй мярзотнай долі. Любы чалавек. І каму, як не нам, псіхіятрам, давесці гэта Госпаду Богу?

— Хутчэй ужо сатане.

— Што ж, няхай сабе і сатане. Калі гэта ён валадарыць у свеце бясконцага мноства самцоў і самак,— у голасе Жыноўскага азваўся, пачаў вызвоньваць метал.— Прыдумалі: любоў, вернасць, шлях да ісціны... Ды ўся чалавечая ісціна ў тым, што галодны хоча ад пуза наесціся, сыты — у ахвоту пакамячыць пад сабою бабу, а здаволены бабаю, яе грубымі ласкамі — смачна паспаць. Праблемы пачынаюцца тады, калі штосьці ў гэтым ланцужку не спрацоўвае, калі хоць адно звяно выпадае.

— Гэта ўсё?

— Што — усё? — не зразумеў.

— Гэта ўсё, што ты хочаш давесці спадару Д'яблу? — адкрыта пасміхалася, пацвельвалася Стэфа, якой даўно, не сённяшнім днём збрыдзеў Жыноўскі і ягоная вечная гульня ў супермена: той, з успаміну, гэтаксама ўяўляў сябе ўсемагутным...— Слабенькія, добра-такі абмусоленыя за гісторыю чалавецтва доказы, ты не лічыш?

— Ды ты проста зусім па-бабску, пардон, заўсёды пачынаеш з хваста,— буркнуў Анатоль, і хоць па ўсім было відаць, што пераводзіць спрэчку ў сварку ён не імкнуўся, не хацеў, але штосьці ў словах, ці ў тоне Стэфіным, яго, напэўна, зачапіла.— Чалавек заслугоўвае сваёй мярзотнай долі, і ты гэта ведаеш не горш за мяне. Адно, што я гэтага нават перад самім сабою не ўтойваю, а ты... Ты, птушкапяюшка, часам не пачала шкадаваць нас, двуногіх, а?

У пытанні, прамоўленым не з'едліва, а хутчэй спалохана (што гэта яна, на самай справе?), азвалася, як пачулася

Стэфе, шчырая занепакоенасць. Ёй, урэшце, і самой часам здавалася, што захворвае: штосьці ў ёй усё часцей не паддавалася ні аналізу, ні самаўздзеянню, але гэта яе, Стэфін, клопат, з гэтым яна як-небудзь сама разбярэцца. А ў астатнім...

— Нас з табою, Жыноўскі, ніхто не пашкадуе: няма за што,— нечакана апярэдзілі думку словы, жорсткія і бяссільныя адначасна, і, каб хоць неяк згладзіць сказанае, Стэфа змусіла сябе засмяяцца.— Мо таму мы не за Бога, а за д'ябла ў гаворках чапляемся, бо даўно ў служках ягоных ходзім.

— Глядзі, каб дах ад падобных думак не паехаў: прыклады на вачах,— матлянуўся паўз яе ў дзверы Жыноўскі і ўжо ад дзвярэй, павольна павёўшы галавою, але так і не зачапіўшы згаслым халодным паглядам Стэфу, якая ўсё яшчэ ўсміхалася, дадаў: — Любому ўладыку толькі моцныя духам служаць сабе на карысць.

18

— Полымя любасці, яснае мудрасці грэх утаймуе, праўду ўшануе, злобу адвее, ласкай сагрэе — знойдзеш сваю ўцеху ў раі,— уступіў у дыялог з Мефістофелем хор анёлаў — і пачала святлець, асвятляцца дзівосным святлом апошняя дзея спектакля, сцэна пахавання вялікага, трагічнага ў сваёй велічы Фаўста.— Хто ачышчаецца полымем чыстым, той прычашчаецца раем вячыстым, эфір узлагоджаны нас закалыхвае, хай дух адроджаны вольнасцю дыхае!

Затрымцелі, зашархацелі ў паветры крылы анёлаў, сцэна напоўнілася срэбным ззяннем, якое не згасала, не чэзла ў промнях пражэктараў, а глыбела, мяняючыся перш у тоне, у насычанасці колеру, потым ужо ў колеры. Эфект, яўна разлічаны на публіку, і публіка, як зазвычай, не прымусіла чакаць — пачуліся, сталі гучнець і на колькі хвілін заглушылі ўсе астатнія гукі апладысменты, каб то цішэць, то ўспыхваць з новаю сілаю.

Канец. Спектакль адыграны. Заставалася ўсім разам, усім занятым у «Фаўсце», выйсці на авансцэну для развітальнага паклону. Але гэта ўжо як водзіцца. Нават калі зала напалову пустая. Нават калі ўсяго некалькі дзесяткаў чалавек прыйшлі пачуць сказанае даўно і далёка і паўторанае тут, цяпер, імі, акцёрамі.

«Хто ачышчаецца полымем чыстым, той прычашчаецца раем вячыстым...» Біблію цытаваў стары, а гучыць жа, і сёння гучыць!

— Толькі слухаць няма каму,— буркнуў Зянон, азіраючыся не на Лявона ў плашчы Мефістофеля, а на залу, што пусцела на вачах.

— Зарплату ж плацяць. Так што, браце, наракаць можна адно на тое, што плацяць малавата. Мала. А публіка...

— Ты што, сур'ёзна? Ці ўсё яшчэ не выйшаў з адыгранай ролі? — утаропіўся ў яго, чамусьці пакрыўдзіўшыся, Зянон і, хоць спыніўся поперак вузкага калідорчыка і перагарадзіў дарогу ўсім, хто ішоў ззаду, за імі, нейкі час не заўважаў гэтага.— Што мы — ты, я, яны! — без публікі?

— Цана кожнага — такая, якую за яго даюць,— завучаным жэстам Лявон перакінуў край плашча цераз плячо і хоць разумеў, што іграе адно для купкі харыстак, занятых у масоўках, прадоўжыў з ранейшым пафасам: — Напэўна далі б крыху звыш вызначанага ў калідорах адпаведных міністэрстваў, калі б душу сваю кожны заклаў, дык жа і заклаў бы сёй-той з нас, ды закладваць, як высвятляецца, даўно няма чаго: закладзеныя, не раз пераразакладваліся душы нашы. А публіка...

— Брава! — пачулася чыёсьці яўна насмешлівае з калідорных суцемкаў, і Зянон па-сапраўднаму зазлаваў.

— А публіка — дурная? Ты гэта хацеў сказаць?

— Ды ідзеце вы, ці не? Мо мы так і будзем таптацца вакол вас... Не нагаварыліся!

— Дагаворым у «Мутным воку»?

— Вып'ем, згодны.

Рэплікі, у такт з крокамі, усё яшчэ пакалыхваліся ў паветры, а сказанага ўжо ніхто не згадваў. Не памятаў. Нават героі толькі што сымправізаванага эпізоду. Напружанне спектакля, які патрабаваў аграмадных душэўных высілкаў ад кожнага, спадала, слабла — думкі паціху вярталіся да рэальнасці, да згадак пра надакучлівы хатні клопат, які зноў адкладзецца на заўтра, бо сёння, цяпер, хацелася аднаго, усім — аднаго і таго ж: хутчэй дабрацца дадому, прыняць гарачую ванну, глынуць чаго гаркага ці смачнага і расслабіцца, даць волю ляноце. Заслужанай, што б там хто ні казаў, ляноце.

Цяпер жа, перш чым, на хаду развітваючыся, разбрыдуцца ад тэатральнага пад'езда хто на аўтобусны прыпынак, хто на станцыю метро, хто да сваёй, прыпаркаванай непадалёку машыны, яшчэ трэба было зняць грым, пераапрануцца і ўвайсці ў іншы, у зямны свой вобраз. А то ці мала што! Яшчэ пачнеш дэкламаваць радкі з «Фаўста» проста пасярод вуліцы!

Зянону, папраўдзе, не было куды спяшацца. Дамоў, у

сваю бабылёву кватэру, прыйсці ніколі не позна: ніхто яго там не чакаў. Ні з кім з жанчын вечар, у якім быў заняты ў спектаклі, звычайна не дзяліў: душа, хоць і не дужа верыў у гэтае яе права, не дазваляла. «Мутнае вока» зачынялася толькі ў дванаццаць: не тое што выпіць чарку-другую, а добра-такі накуляцца на працягу дзвюх, дзвюх з паловаю гадзін можна. Так што...

У паўзмроку грымёрні звыкла свяцілася насустрач пагляду толькі асветленае бакавою лямпаю люстэрка, і Зянон колькі хвілін ўзіраўся ў аблічча старога Фаўста — у свой, зменены грымам да непазнавальнасці твар: штосьці ў ім насцярожвала.

Чамусьці ж — чаму? — выбар рэжысёра на ролю спакушанага д'яблам доктара спыніўся некалі на ім... Не, ён, Зянон, хоць ніколі не выказаў бы гэтага ўголас, быў удзячны Шчарбіне: Мефістофель Мефістофелем — урэшце, ён зрэдку з кожнага выглядваў! — а каб сыграць Фаўста, трэба было штораз дацягвацца да нябачных, спрадвеку патаемных струн душы, пра якія і ведаць не ведаў дасюль. Часам, як у гэтыя вось хвіліны, абзываўся ў ім непакой, змушаючы ўслухоўвацца ў цішыню вакол і нечага чакаць. Чаго? Каб жа ён мог уцяміць, чаго менавіта!

— Трымайся, стары,— падміргнуў свайму адбітку ў люстэрку.— У мяне ўсе твае праблемы наперадзе, а, бачыш жа, жыву і не шманаю.

Фраза так не адпавядала моманту, што быццам узарвала цішыню. Стала адразу чуваць, як усё яшчэ шумна за кулісамі, у цесных каморках-грымёрнях раз-пораз бразгалі дзверы, рыпелі шуфляды, чуліся галасы, якія не-не і перакрываў, на міг перапыняючы, зычны, грэнадзёрскі голас вахцёркі.

— Святло не забывайце выключаць! Святла ўключанага, кажу, не пакідайце!

Звыклая мітусня пасля спектакля, звыклая перакідка словамі, слова — туды, слова — сюды... Своеасаблівы акцёрскі пінг-понг, калі не мае значэння ні змест сказанага, ні тон — абы заўчасна не аціхаў шум, абы раней часу, пакуль не закончыўся, не сышоў у нябыт яшчэ адзін дзень, яшчэ адзін вечар, не захліснулі стома і тупая абыякавасць. Абыякавасць да ўсяго і ўсіх, якую з гадамі ўсё цяжэй утойваць, хаваць адзін ад аднаго.

Думалася пра гэта спакойна, калі наогул думалася. Як і для астатніх, для Зянона тэатр даўно стаў домам, і няхай дом гэты часцей за ўсё нагадваў цесную, пракураную наскрозь камуналку, дзе не-не і ўсчыналіся чарговыя зва-

ды і сваркі, жыцця свайго без яго Зянон, канешне ж, не ўяўляў.

Ды і тое... Учора — жыў, прамаўляў з падмосткаў за спакутаванага за людзей святога, сёння — за грэшніка, якому няма пакаяння, заўтра, магчыма, сам сатана ў абліччы гнуснага гвалтаўніка ці забойцы будзе выхваляцца сваёю злоснаю сілаю. Гэта ж колькі непадобных адзін да аднаго лёсаў, колькі жыццёвых драм, колькі марных памкненняў выбрацца са сваіх сумненняў і выйсці на адзіна правільны — табе толькі вызначаны — шлях!

— Марных, канешне ж, марных... Як там — у цябе? — пачаў Зянон сцягваць парык, узіраючыся ў сябе таго, ужо раздвоенага.— Аж дзве душы ў грудзях зацяты бой вядуць і варагуюць між сабой. Адна ўсё млее ад пажады, трымаецца за свет зямны, другая ж больш імкнецца да прынады з тых сфер, куды ідуць з труны.

Дэкламаваў абыякава, без належнай для гэтай сцэны інтанацыі і з няўклюднымі, не адпаведнымі зместу паўзамі, калі не так сціраў грым, як размазваў яго па шчоках, і брудныя сляды яшчэ не змытай і ўжо зусім парушанай маскі, утойваючы ў сабе штосьці вар'яцкае, міжволі стрымлівалі рухі. Рухі — і словы.

Толькі цяпер адчуў, адчуваў Зянон увесь цяжар стомы. Мо і палягчэла б, калі б і думкі, што ўсё вярталіся да адыгранага спектакля, льга сцерці разам з грымам, дык жа нельга. І нават яўная несуразмернасць яго асобы з асобаю доктара Фаўста нічога ў дадзеным выпадку не мяняла. Не адмяняла.

У касцюме Фаўста ён  б ы ў  Фаўстам, і гэта залежнасць ад касцюма, адкрытая не сёння, і сёння не меншала, не слабла: і ў жэстах, і ў міміцы твару, і ў голасе, які толькі што гучаў, паверх стомы і абыякавасці, хутчэй крыху найгранай, прабіваліся чужыя, не ягоныя рысы. Усё яшчэ прабіваліся...

І калі перад пачаткам спектакля, перад выхадам на сцэну гэта ўсведамлялася шчасцем, да якога так прагна імкнецца кожны, у кім некалі нарадзіўся акцёр! — дык цяпер, у сутаргавых спробах вызваліцца ад чужога аблічча, ад сыгранага вобраза, угадваліся і надрыў, і прыкрыты абыякавасцю страх. Так, бы ён, вяртаючыся да сябе самога, зноў улазячы ў сваю скуру, нейкім дзесятым пачуццём, але напэўна ведаў, што зноў толькі з цяжкасцю, праз немалыя намаганні ўцісне цца ў яе,— і яшчэ доўга будзе пачуваць сябе ніякавата: нявольнік свайго цела, свайго лёсу, урэшце, штораз, штовечар вяртаўся да разумення, да ўсведам-

сваю бабылёву кватэру, прыйсці ніколі не позна: ніхто яго там не чакаў. Ні з кім з жанчын вечар, у якім быў заняты ў спектаклі, звычайна не дзяліў: душа, хоць і не дужа верыў у гэтае яе права, не дазваляла. «Мутнае вока» зачынялася толькі ў дванаццаць: не тое што выпіць чарку-другую, а добра-такі накуляцца на працягу дзвюх, дзвюх з паловаю гадзін можна. Так што...

У паўзмроку грымёрні звыкла свяцілася насустрач пагляду толькі асветленае бакавою лямпаю люстэрка, і Зянон колькі хвілін ўзіраўся ў аблічча старога Фаўста — у свой, зменены грымам да непазнавальнасці твар: штосьці ў ім насцярожвала.

Чамусьці ж — чаму? — выбар рэжысёра на ролю спакушанага д'яблам доктара спыніўся некалі на ім... Не, ён, Зянон, хоць ніколі не выказаў бы гэтага ўголас, быў удзячны Шчарбіне: Мефістофель Мефістофелем — урэшце, ён зрэдку з кожнага выглядваў! — а каб сыграць Фаўста, трэба было штораз дацягвацца да нябачных, спрадвеку патаемных струн душы, пра якія і ведаць не ведаў дасюль. Часам, як у гэтыя вось хвіліны, абзываўся ў ім непакой, змушаючы ўслухоўвацца ў цішыню вакол і нечага чакаць. Чаго? Каб жа ён мог уцяміць, чаго менавіта!

— Трымайся, стары,— падміргнуў свайму адбітку ў люстэрку.— У мяне ўсе твае праблемы наперадзе, а, бачыш жа, жыву і не шманаю.

Фраза так не адпавядала моманту, што быццам узарвала цішыню. Стала адразу чуваць, як усё яшчэ шумна за кулісамі, у цесных каморках-грымёрнях раз-пораз бразгалі дзверы, рыпелі шуфляды, чуліся галасы, якія не-не і перакрываў, на міг перапыняючы, зычны, грэнадзёрскі голас вахцёркі.

— Святло не забывайце выключаць! Святла ўключанага, кажу, не пакідайце!

Звыклая мітусня пасля спектакля, звыклая перакідка словамі, слова — туды, слова — сюды... Своеасаблівы акцёрскі пінг-понг, калі не мае значэння ні змест сказанага, ні тон — абы заўчасна не аціхаў шум, абы раней часу, пакуль не закончыўся, не сышоў у нябыт яшчэ адзін дзень, яшчэ адзін вечар, не захліснулі стома і тупая абыякавасць. Абыякавасць да ўсяго і ўсіх, якую з гадамі ўсё цяжэй утойваць, хаваць адзін ад аднаго.

Думалася пра гэта спакойна, калі наогул думалася. Як і для астатніх, для Зянона тэатр даўно стаў домам, і няхай дом гэты часцей за ўсё нагадваў цесную, пракураную наскрозь камуналку, дзе не-не і ўсчыналіся чарговыя зва-

Горад душыў яе ў сваіх каменных абдымках, і ўсё часцей дзяўчынцы здавалася, што дні, тыдні не міналі, а абміналі яе, каб знікнуць недзе ў суцемках памяці. І неба — не гукала. Хіба мо толькі Нялюба не чула, перастала яго цяпер чуць?

Шумна. Занадта брудна і шумна вакол, каб учуць ціхі радасны кліч неба, і глухла Нялюба — адчувала, што, калі не сарве, не адкіне брудную абалонку будзённасці, калі не вырвецца з абрыдлага палону, хоць бы і за межы свайго зямнога жыцця, то аглухне. Аглухне, як і ўсе астатнія. І ўжо назаўсёды.

Ведала ж, чула ў сабе: толькі спалучыўшы, зліўшы свае пакуты за ісціну і волю з вечнаю крыжаваю пакутаю Хрыста, можа чалавек прымірыцца з рэчаіснасцю і на збітым шляху свайго часу разгледзець, прыкмеціць сцежку, часта — зусім вузкую, паміж вечнаю баязлівасцю, якая так лёгка саступае злу, і нахабным гвалтам, якому здаецца, што ён са злом змагаецца.

Гэта цяжка. Гэта, безумоўна, цяжка. Але ж магчыма! Адно прагні чысціні, як прагнуў бы самай вялікай узнагароды, адно заставайся чыстым перад любым і кожным, і найперш — перад Госпадам, у памкненнях сваіх і спадзяваннях...

— Нялюба! Чуеш? Выклікаюць...— пасля таго, як адчула колькі моцных кухталёў у бок, пачула яна нарэшце Верын гучны шэпт.— Сава ўжо кіруецца сюды.

Савою ў класе звалі Жану Рыгораўну, выкладчыцу літаратуры, і Нялюба міжволі злёгку пачырванела.

— Прабачце, я задумалася і не пачула пытання.

Хтосьці ззаду насмешліва фыркнуў, крутанулася, каб убачыць таго, хто так адрыта пасміхаўся з сяброўкі, Вера, а Нялюба, ускінуўшы вышэй галаву і гордым рухам гэтым быццам сцёршы, астудзіўшы разлітую па твару чырвань, ужо спакойна ўсміхалася: ледзь заўважная на звыклай бледнасці ўсмешка гэта адгароджвала яе ад класа надзейней, чым адгарадзіла б цэлая армія заступніц,— хіба можна пакрыўдзіць таго, хто загадзя даруе любую крыўду?

— Мы тут, усе разам,— павярнуўшыся да акна спіною, агледзела Жана Рыгораўна з-за непамерна вялікіх на яе худзенькім твары акуляраў класны пакой — і ў пакоі адразу ўсталявалася цішыня,— спрабуем разважаць пра лёс і геній Аляксандра Салжаніцына. І ўсім было б цікава выслухаць твае меркаванні.

— Але...

— Пытанне,— не дала яна сябе перапыніць,— на якое

мы шукаем адказ: што — геніяльнасць, геніяльная праява яго пісьменніцкага дару ці абавязак перад народам і прага здзейсніць грамадзянскі і пісьменніцкі подзвіг — водзіць пяром гэтага вялікага нашага сучасніка?

— Пры чым тут усё гэта? — асмелілася запярэчыць Нялюба, хоць звычайна ў дыспуты, умела наладжаныя настаўніцаю, не ўступала, баючыся не так насмешак, як поўнага неразумення.— І пражытае ім, і здзейсненае ім трэба мераць зусім іншымі меркамі.

— Якімі ж? Патлумач, будзь ласкаваю.

Клас заціх. Усе пазіралі на Нялюбу.

— Шлях Аляксандра Салжаніцына, пераканана, быў прадвызначаны. У ім — над ім — Бог: Ягонаю воляю рос, мужнеў талент, Ягоная рука не давала, не дае ўпасці раней, чым будзе выканана гэта прадвызначэнне.

— Ты ў дадзеным выпадку гаворыш пра лёс? — старалася не паказаць, што крыху баіцца працягу гаворкі Жана Рыгораўна.

— Не. Пра шлях,— падняла на яе вочы Нялюба, і ў пацішэлым, прыглушаным голасе яе азваўся глыбока прыхаваны боль.— Пра шлях, які бачыцца вельмі ясна. Любому. Любому, з кім Бог, хто ч у е яго волю, хто бачыць, усведамляе прадвызначанае, няхай сабе і падсвядома, і мае ў сабе сілу прайсці гэты шлях да канца. Да канца! І на міг не засумняваўшыся ў яго нямарнасці ці правільнасці.

— Ты гаворыш так пераканана, Нялюба, што міжволі змушаеш прыслухоўвацца да сказанага,— спакойным паваротам галавы перапыніла настаўніца ўзніклы ў пакоі лёгкі гул.— Думаеш, талент, геніяльнасць нічога ў лёсе не вызначаюць?

— Але ж колькі розумаў, колькі таленавітых людзей у самыя розныя эпохі не перайшлі мяжы паміж смерцю і несмяротнасцю, бо ў нейкі момант, у пэўны перыяд свайго жыцця засумняваліся ў сваім праве на шлях, на вялікую мэту — мэта тут жа была страчана, рука, дапамога Божая перасталі адчувацца, і сіла, перш сіла пераканананасці, а потым і фізічная сіла, пакідала творцу. Пакідала, здавалася б, у самым росквіце, на ўздыме. І не было каго абвінавачваць. Бог адступаўся тады, калі ад Яго адварочваўся, Яго пераставаў чуць Ягоны абраннік.

Нялюба прамаўляла так ціха, што нават настаўніцы, якая стаяла ўсяго за колькі крокаў ад яе, даводзілася напружваць слых, але ніхто з вучняў не зварухнуўся.

— З тваіх слоў вынікае, што Аляксандр Салжаніцын — абраннік Божы?

— Мы ўсе,— апусціла галаву Нялюба,— абраннікі Божыя...

Апошніх слоў не расчула нават Вера Вужава, хоць яна сядзела побач, за тым жа сталом, і калі зазвінеў, на друзкі разбіваючы цяжкую, цяжка навіслую над сталамі цішыню, званок, усе міжволі адчулі палёгку. Палёгку і вызваленне.

Зарыпелі крэслы. Запстрыкалі замкі дыпламатаў.

— Сме-ела! Раней за такое... Таму — хай жыве дэмакратыя!

— Усё імкнешся першым з уласнае скуры вылузацца,— залішне рэзка абарвала Жоржа Соладава раззлаваная Вера: усё б да ўласнага ўзроўню, да сваёй хіленькай троечкі звесці!

— Ты і сапраўды так думаеш, палачанка? Што ўсе мы — абраннікі Божыя?

— Усе, апроч цябе! — адшыла, баронячы сяброўку, другога задужа цікаўнага аднакласніка Вера, а калі азірнулася на Нялюбу, здзівілася яе спакою, спакойнай усмешцы і цяпер, у тлуме школьнага перапынку, няглядзячы на ўвесь шум і мітусню вакол.

— Ведаеш, я раней думала, што Госпад адступіўся ад людзей, адступіўся ўжо назаўсёды,— прамовіла раптам Нялюба.— І баялася гэтых думак.

— А цяпер? — міжволі перайшла на шэпт Вера, азіраючыся.— Цяпер перастала баяцца?

— Перастала. Няма больш страху ў маёй душы. Мне нарэшце дазволена...

— Што — дазволена? Што? — падалася бліжэй Вера, крануўшыся яе рукі,— і адхінулася Нялюба ад гэтага руху, ад гэтага пытання, мякка, але рашуча адхінулася. Так, бы нічога не магла дадаць да сказанага.— Ці ты і так сказала мне зашмат?

— Прабач,— ледзь чутна прадоўжыла, перасільваючы сябе, Нялюба,— ты некалі зразумееш... Ты сама, сама павінна зразумець, куды цябе гукае душа.

Так і не падняўшы больш вачэй ні на яе, ні на каго іншага, сасмыкнула са спінкі крэсла сумку з падручнікамі і пайшла да дзвярэй. Пайшла лёгка, бязважкімі, зусім нячутнымі крокамі — як усё роўна падлогі не краналася, і не толькі прыціхлая, зніякавелая Вера — усе, хто яшчэ заставаўся ў класе, праводзілі яе позіркамі. Чаго было ў гэтых позірках больш — неразумення ці непрыязнасці, выкліканай неразуменнем, вызначыць у гэты момант не ўзяўся б, відаць, ніхто.

20

— Гэта яшчэ адкуль? — гучна пазяхнула, лена пацягваючыся, Стэфа.— Хацела чайнік паставіць, а ў цябе ўжо ўвесь стол застаўлены рознымі прысмакамі. Што святкуеш?

— Хрыстос уваскрэс!

— А-а-а, Вялікдзень... У мяне дзяжурства, я б і не ўспомніла пра яго.

Распатланая, у халаце, накінутым паверх пакамечанай начной сарочкі, са слядамі кепска змытага ўвечары макіяжу на пакамечаным і неяк адразу пастарэлым твары, Стэфа выглядала не проста неахайна — яна як бы выпадала з гэтае раніцы, на дзіва яснай, сонечнай, і нагадвала, нагадвала ў гэты момант Нялюбе старчыху, бадзягу-жабрачку, чый узрост даўно невызначальны і ні для каго ў цэлым свеце не мае ніякага значэння. Нялюба нават уздрыгнула, так выразна ўбачыўшы гэтую старчыху побач, на ўзбоччы раніцы,— і тут жа адчула, як пекануў па душы жаль: «Стэфа?! Яе Госпад спадобіў, ці проста звідзелася? Вялікдзень сёння, свята ўваскрасення Гасподняга...»

Думка, заслоненая, адцесненая словамі малітвы, не вярталася — і паціху святлела на душы ў дзяўчынкі. Дух Ісуса Хрыста ў сваёй ачышчанай вогненнай сутнасці, з'яўляючыся ўвасабленнем Боскага пачатку ва ўсім, і не мог, відаць, быць яўленым кожнаму, любому, без таго, каб чалавек сам, усёю сілаю свайго сэрца, памкнуўся да Яго — насустрач святлу, якое Ён выпраменьваў. А як збудзіць у кім іншым — хоць бы і ў Стэфе — такое памкненне, Нялюба не ведала. Святлом сваёй душы? Сілаю свайго памкнення? Малітваю?

Не было шляху без Бога. Не было і няма. Той, хто забыў настаўніка, забыў сваю будучыню. І калі настаўніка забыў цэлы народ...

— Ты што, на Усеначнай была?

Стэфа жавала бутэрброд з ветчыною, раз-пораз прыхлёбваючы гарбату, і хоць пазірала на Нялюбу, па ўсім адчувалася, што спытала мімаходзь, без асаблівае цікавасці — абы не маўчаць вось так, твар у твар з дачкою. Але калі тая ніяк не адгукнулася, раптам, ні з таго ні з сяго зазлавала.

— У сабор хадзіла, пытаюся, ці так...

— Я малілася.

— Дзе? Вось тут? — не хаваючыся, пасміхалася Стэфа: ёй чамусьці замуляла ў гэту хвіліну пагаманіць — не гаманіць жа з малою ўсур'ёз! — Кухня, прама скажам, мала нагадвае храм.

— Чалавек ёсць храм Божы.

— О-о-о...

— Так, чалавек ёсць храм Божы,— грамчэй, настойлівей паўтарыла Нялюба, не адвёўшы пагляду і тым змушаючы зрабіць гэта Стэфу, якая глынула гарбаты і папярхнулася.— У ім, у чалавеку, моліцца, пакутуе і радуецца дух, у ім жыве любоў. Калі жыве... Калі з самага пачатку не задушаная...

Словы згасалі, і дзяўчынцы здавалася, што гэты раз яна сама таму прычынаю.

— Людзі, прывыкшы жыць у натоўпе, перасталі думаць, і часам наведванне храмаў нагадвае разбурэнне іх.

— Затое ты зашмат думаеш пра ўсю гэту нябесную чартаўшчыну! — зрабіла намаганне Стэфа, каб не ўзарвацца, стрымаць сваю незадаволенасць: смаркачка, [illegible] туды ж! — у тэасофскія гаворкі лезе! — Любоў, нелюбоў... У цябе экзамены хутка, адны і другія, ва ўніверсітэт, у цябе...

— Не злавацца трэба сёння, а радавацца,— апусціла вочы Нялюба, адсоўваючы некранутую талерку.

— Ага,— дажоўвала булку Стэфа,— ужо ж, вялікая радасць — не мець спакою ні дома, ні на рабоце! Тут ты ва мне храм Божы шукаеш, там гэткая ж, як ты, ненармальная...

— Я знаю.

— Што... ты знаеш? — не зразумела Стэфа, чаго яна раптам спалохалася.

— Знаю, што ні мяне, ні яе ты не чуеш. Усё яшчэ не можаш пачуць.

Нялюба зноў пазірала на маці. Адкрыта. Без ценю асуджэння ці папроку ў паглядзе. Ведаючы ў гэты момант, выразна ўяўляючы, бачачы Стэфін шлях, увесь, да канца, які будзе трагічным, страшным у сваёй трагічнасці.

— Усё яшчэ не можаш пачуць...— няўцямна паўтарыла другі раз, і гэты раз голас яе ўздрыгнуў, выдаючы ўнутранае напружанне.

— Не смей гаварыць са мною гэткім тонам,— ужо ўзяла сябе ў рукі Стэфа, цяпер усур'ёз, па-сапраўднаму зазлаваўшы: смаркачка, а праведніцу з сябе корчыць! — Смаркачка, а праведніцу з сябе корчыш, матку павучаючы. Пражыві, сцярпі спачатку з маё, а потым лезь з павучаннямі! Усё, што мне трэба пачуць, я чую, не хвалюйся. І марна спадзяешся, што абаронена імем Хрыстовым і пройдзеш табе наканаванае, ніводнага разу не спатыкнуўшыся: не гэткія, як ты, носам зямлю карабацілі, з вышыні, на якую караскаліся, бразнуўшыся. За зямлю даводзіцца чапляцца, а не за

неба — і табе давядзецца, як і ўсім нам грэшным, бо зямля нікога, чуеш, нікога! — не адпускае са сваіх кіпцюроў.

— А ты спрабавала вырвацца? Ці хоць бы ўбачыць неба над сабою ва ўсёй яго бязмежнасці?

— Цьфу ты на яе! — падхапілася Стэфа, быццам уджаленая гэтымі ціхімі, ледзь чутна моўленымі пытаннямі.— Зноў — дваццаць пяць разоў... Далося табе гэтае неба! Ды як ты не разумееш, дурніца, што колькі б твой Хрыстос ні ўваскрасаў на нашай зямельцы, столькі б разоў яго і распіналі людзі на крыжы свайго неразумення і страху?

— І распіналі...— ужо не ёй, сабе адказала Нялюба, бо Стэфы ў пакоі даўно не было — яна і пыталася ўжо аднекуль са спальні, з-за гучнага шоргату вываленага на ложак адзення і парыпвання шафных дзверцаў, а, хутчэй, нават не пыталася, а папракала, папікала дачку за ўпартую сілу перакананасці, якая, як ёй здавалася, ні на чым не грунтавалася.

— І распіналі,— прашаптала яшчэ цішэй.— Быццам можна распнуць на крыжы святло...

«Вунь яно, святло,— поіць усё жывое вакол!» — прадоўжыла ў думках, пераводзячы пагляд на акно, на шматок сонечнага неба за ім і адчуваючы, як гаючая, жыццятворная сіла ўліваецца ў душу, як зноў лёгкасцю напаўняецца яна, толькі што прыгнечаная глыбокім матчыным неразуменнем,— і не згадала больш ніводнага са сваіх трывожных прадчуванняў, не азірнулася на прамінулыя, адсунутыя свядомасцю назад, у пражытае, хвіліны.

Сонца, аграмаднае вогненнае кола яго нетаропка і няўхільна паварочвала Зямлю, змушала яе кожнаю зёлкаю, кожнаю кветкаю, кожным кусцікам і дрэвам цягнуцца ўгору, чапляцца за гарачыя ратавальныя промні, самім рухам гэтым вызначаючы, выказваючы небу ўдзячнасць, сваё маўклівае захапленне і ўдзячнасць. І толькі людзі звыкла не заўважалі хараства, святочнай урачыстасці гэтай раніцы: не падымаючы галавы, корпаліся кожны ў сваёй кучцы попелу — таго, што раней ці пазней стане прахам, попелам, і не адчувалі, не хацелі, не імкнуліся адчуць сваёй знітаванасці вечнай, еднасці з усім, што адбывалася паверх іх галоў, у такой недасяжнай і такой блізкай высі.

Сцены, сцены, сцены! Умураваныя ў іх людскія шпакоўні шчаміліся ўздоўж іх усё вышэй, адно для таго, здавалася, каб як мага надзейней адгарадзіцца і ад зямлі і ад неба, і сумна было пазіраць на Божы свет з-за такой загарадкі. Сумна і трывожна. Нават у радасці, у радасным усведамленні шчасця, непаўторнасці кожнага такога імгнення ў

кароткім зямным жыцці, якія прыкавалі Нялюбу да акна, таілася няўцямная трывога. Хрыстос уваскрэс, так. Але ж не цуд тым прадэманстраваў свету, а сілу духа, сілу любові і самаахвярнасці. Як было гэтага не зразумець?!

— Ну, я пайшла,— гукнула Стэфа, змусіўшы дзяўчынку павярнуцца на голас, на вокліч.— Калі пазвоніць Ната, скажы... Ат! Увогуле, гэта не важна.

— Як завуць тую дзяўчынку ў бальніцы, да якой ты едзеш? — нечакана нават для самой сябе спытала Нялюба.

— Люба... А што? — застыла, ужо скіраваўшыся было да дзвярэй, Стэфа, зноўку, знянацку амаль што напалоханая нечаканым паваротам гаворкі.— Табе раптам прыйшло ў галаву, што я еду менавіта да яе, але чаму, чаму?! Яна проста адна з хворых у маім аддзяленні...

— Яна не хворая. Яна іншая. Не такая, як усе.

— Іншая... Не такая... Глупства! Што ты ў гэтым разумееш?

Матлянулася ў калідор. Таропка зачыняючыся за ёю, бразнулі дзверы, і стала ціха. Так ціха, што Нялюба і праз мернае, гучнае ціканне будзільніка чула, пачула, як над ёю, вакол яе пакалыхвалася, срэбна вызвоньваючы, цішыня.

— Люба... Канешне ж, яе завуць Любаю!

Радасць, выплеснуўшыся ў паветра зусім па-дзіцячы непасрэдным воклічам, не парушыла цішыні. Крыху паглыбіла яе, так, але ў празрыстай, наскрозь прасвечанай сонечнымі промнямі глыбіні, яшчэ не чутная ні ўзрушанай дзяўчынцы, ні раніцы, якая яе абдымала, ужо нараджалася музыка. Музыка новага дня.

## 21

Дзень разгараўся хутка. Калі, выйшаўшы з паўпустога, як звычайна ў нядзелю, аўтобуса, Стэфа скіравалася да бальнічнае брамы, сонца ўжо выкацілася з-за шэрых змрочных карпусоў і ўсім сваім касматым, ашчэраным стрэламі промняў цяжарам павісла на таполевым голлі. Павісла — і як заблыталася ў ім. Дзве-тры хвіліны знарок счакала Стэфа, не зрабіўшы і руху, каб угледзець, усачыць, як зварухнецца, зрушыцца гэта, падобная цяпер на фантастычнага павука аграмадзіна,— і каб зрух! Тапырылася ўжо добра набухлымі пупышкамі голле, пырхалі з галінкі на галінку, звонка ценькаючы, мітуслівыя сініцы — так, быццам жывыя іскаркі танулі, раставалі ў негарачым, усё яшчэ няяркім ззянні, каб тут жа ўспыхнуць дзесьці побач, непадалёку, ці крыху далей, недзе на самай мяжы святла і ценю, і ўсё. І ўсё...

Пагляд хутка стаміўся, Стэфа ўспомніла, што і так прыпазнялася. Вясна, Вялікдзень, заблытанае ў голлі сонца... Усё гэта прыгожыя дэкарацыі, на фоне якіх разгортвалася мярзотная, мярзотная ва ўсёй сваёй трагічнасці драма чалавечага жыцця: пачынаючыся бруднаю, крываваю купеллю нараджэння, яно, гэта ўхваленае столькі разоў і столькімі жыццё, корчылася ў сутаргах чалавечага самалюбства і чалавечага страху, пакуль, па дарозе на кладзішча, не застравала на нейкі час тут, у гэтых сценах, каб выявіць усю сваю слабасць і безабароннасць. І ніхто, нават сам Гасподзь Бог, не ўмешваўся ў хто ведае калі і кім вызначаны расклад: тузайся, чалавеча, чапляйся за дрогкую павуцінку свядомасці!

— Яшчэ не пайшоў? — сунула азяблыя пальцы ў падстаўленую насустрач прыгаршню Жыноўскага, вітаючыся і прымаючы яго дапамогу, каб вызваліцца ад паліто.— Ты хоць ведаеш, гаротнік, чым адрозніваецца сённяшняя нядзеля ад мінулай?

— Ужо ж мне не ведаць! Пацыентка наша — цю-цю...

— Што?! — папярхнуўшыся глытком паветра, ледзьве прадыхнула, ледзьве выдыхнула Стэфа.— Ты каго...

— Яе, яе, галуба,— падсоўваў крэсла Жыноўскі.— Вырвалася, выпырхнула птушка-пяюшка. Хрэн яго ведае як, але факт застаецца фактам: клетка пустая.

— Можна хоць раз патлумачыць што-небудзь чалавечаю моваю? — заглыбляючыся, аднаўляла яна парушаны рытм дыхання.

— Што, пяціпавярховым загнуць, каб дайшло? — незадаволены, адышоўся той да акна і, крануўшыся звыклых і звычайна незаўважных кратаў пальцамі, знерухомеў, так, нібыта вывучаў іх якасць, іх моц.— Усё начальства на вушах стаіць: якраз сёння інспекцыю гарвыканкомаўскую чорт прынясе, так што... Так што грызці мазгі будуць доўга і ўедліва: чаму раптам? як гэта магчыма?

— А гэта — магчыма?

Не было жалю ў яе ў душы. Пасля раптоўнага спалоху адчула, адчувала нават палёгку. Так, так, палёгку, хоць ніколі не прызналася б у тым Анатолю: чамусьці непакоіла яе ўвесь час прысутнасць гэтай дзяўчынкі ў аддзяленні, у палаце, і таму перашкаджала, муляла. Чаму, вызначаць не ўзялася б, ды ёй, папраўдзе, і аднаго ўсведамлення хапала...

— Ты ўпэўнены, што гэта магчыма? — паўтарыла, хаваючы нецярпенне, якое проста-такі падштурхоўвала ісці, бегчы, і на свае вочы пераканацца ў тым, што ўсё сказа-

нае — праўда, што дзяўчынка знікла і, дасць Бог, не вернецца ўжо сюды, ніколі не вернецца.

— Усе замкі, калі праверылі, былі адкрытыя. А хто іх адкрыў і як, пакажа ўжо, відаць, следства,— знешне абыякава адгукнуўся Жыноўскі і, нарэшце адарваўшыся ад закрачанага акна, якое ўвесь гэты час нечым прываблівала яго, павярнуўся і пайшоў да стала, да свайго крэсла за сталом. Адсунуў яго нагою, сеў. Спадылба зіркнуў на яе і, адваліўшыся на спінку, прымружыў вочы.— Міліцыя ўжо задзейнічана — цяпер гэта яе клопат. Пакуль што...

— А ты, ты сам, Анатоль, як усё вытлумачваеш?

— Ды ніяк, чорт вазьмі, не вытлумачваю,— лена, стомлена абурыўся Жыноўскі, не расплюшчваючы вачэй.— Галаву зламаў, думаючы, і ніякага тлумачэння, апроч зусім непрымальнага для нармальнай, здаровай псіхікі, не знаходжу. Разумееш...

Ён рыўком выпрастаўся, уважліва зіркнуў на Стэфу цераз стол (ці не пасміхаецца?) і забарабаніў пальцамі па стале.

— Памятаеш, мы неяк, спрабуючы вызначыць мяжу, за якою пачынаецца душэўнае захворванне, абмяркоўвалі магчымыя праявы псіхічнай энергіі ў чалавеку, надзеленым моцнаю, мужнаю воляю.

— І што? — насцярожылася Стэфа.— Яна ж зусім дзяўчынка.

— Пры чым тут тое, што яна яшчэ зусім дзяўчынка? Я ж не пра знешні воблік, не пра знешняе, усім, а не толькі нам з табою бачнае, кажу, а пра сілу, якая можа таіцца ўнутры, у душы, у нервовых цэнтрах, у нервовых вузлах — называй, як хочаш! Пра гэта не так шмат пісалі, але ж пісалі, і я — як і ты! як і ўсе астатнія, чорт вазьмі! — штораз ад яго адмахваўся. Чаму? — вось пытанне, якое мне муляе.

— У нас з табою тут, у бальніцы, іншыя задачы.

— Больш сціплыя? Больш празаічныя? — свідраваў ён яе зноў жывым, яркім да вогненнасці паглядам.— Згодны. Калі маеш справу з хвораю псіхікай, задача ў любога ўрача адна — зняць агрэсіўнасць, прытушыць нервовыя цэнтры, каб чалавек супакоіўся і хоць бы адной-дзвюма нітачкамі зачапіўся за рэальнасць, за рэальнае жыццё. Вось толькі што такое гэта рэальнае жыццё, калі зірнуць з іншага, з адваротнага боку? Калі знойдзецца, існуе той, хто можа ўстаць па той бок? Га?

— Ты думаеш...— не закончыла Стэфа фразы, збаяўшыся нават простага дапушчэння таго, што Любіна захворванне мела нейкую, а то і прамую, сувязь з таямніцамі тага-

светнага, не даступнага, усё яшчэ не даступнага для разумення.

— Я ўсё больш схіляюся да такога тлумачэння,— адказаў Жыноўскі на нясказанае, нявымаўленае.— Што ж да цябе.. Ты, старая, як я цяпер мяркую, з самага пачатку здагадвалася, чыста інтуітыўна адчувала нязвычнасць, неардынарнасць апошняга выпадку. Так, так, адчувала, хоць і баялася гэтага адчування, хавалася ад яго за шчытом непрымання, адчужэння.

— Дык ты маёй псіхікай зацікавіўся пасля таго, як збегла пэтэвушніца? — памкнулася пакпіць і такім чынам абараніцца Стэфа, і сама зразумела, што нічога не выйдзе: гэты раз Жыноўскі не блефаваў, не разыгрываў з сябе разумніка, пакрыўджанага людзьмі.— Прабач, але ты агаломшыў мяне і навіною, і сваімі разважаннямі: толькі ж з вуліцы, з дому...

— Ат! Невукі мы. Невукі і палахліўцы. І пашэнціць сустрэць шчаслівы выпадак, баімося наблізіцца, угледзецца.

— А мо выдумляеш ты ўсё? Нічога ж пэўнага невядома.

— Гэта нам з табою невядома. Тут. У Саўдэпіі, адгароджанай ад свету фанабэрлівым невуцтвам нават самых вучоных галоў,— з ранейшым палам працягваў Жыноўскі, хоць стома, якая заўважалася нават па твары, запавольвала жэсты.— Сусветная навука, хоць і асцярожна, даўно працуе з псіхічнаю энергіяй: даходзяць жа нават да нас агрызкі навін... Не, чорт вазьмі, мы з табою хоць і спеліся някепска за гэтыя гады, а і ў словах песні і ў музыцы блытаемся. Усё яшчэ блытаемся, калі ўпусцілі такую мажлівасць хоць бы прыадкрыць, калі не адкрыць запону поўнай таямнічасці.

— Ды прывязуць яе назад, тваю мажлівасць...— хавала раздражненне Стэфа: мажлівасць, немажлівасць... Не хапала яшчэ, каб у іх саміх дах паехаў!

— А вось у тым, што прывязуць, я дужа сумняваюся,— цяжка падняўся з крэсла Анатоль, больш не пазіраючы на яе, на яе халодны, абыякавы твар.— Схаджу да Савеліча.

Кіўнула ў адказ, не абазваўшыся. Міжволі правяла яго паглядам да дзвярэй, на міг-другі засяродзілася на руках, на пальцах, якія, як высветлілася, ужо доўга церла, пагладжвала, спрабуючы сагрэць: ніхто, ніякі Жыноўскі не адарве яе, Стэфу, ад рэальнасці, асязальнасці кожнай хвіліны — навука навукаю, а жыццё жыццём. Падумаеш, дзіва: дзяўчо з не зламанаю нават хваробаю воляю! Пакінула якая-небудзь бальнічная разявака незамкнёнымі дзверы — вось і сышла, збегла малая з бальніцы. Хто б тут жыў па сваёй волі?

Думка неперераканаўчая, асабліва для Жыноўскага, так. Ну і што? Лепш самім галовы падставіць, прызнаўшы паражэнне там, дзе яго ніводная камісія і праверка не ўстановяць? Даказаць жа што-небудзь пэўнае пра наяўнасць невядомай звышмагутнай сілы, энергіі ў дзяўчынкі, цэлым кансіліумам урачоў прызнанай душэўнахворай, немагчыма. Ды і хто ўзяўся б, будучы пры сваім розуме? А падазрэнні, адчуванні... Іх жа навуковым адкрыццём не аб'явіш!

Пальцы пацiху саграваліся, страхі пацiху адпускалі. У адрозненне ад Анатоля, расстроенага, стомленага пасля начнога дзяжурства, Стэфа адчувала, з першага імгнення, пасля першых жа слоў была перакана на, што дзяўчынкі не знойдуць, што сюды, у бальніцу, яна не вернецца. А як не вернецца, дык і гаварыць няма пра што, і спадзявацца няма на што. Што да яе, Стэфы, яна рада таму, што здарылася, што здарылася ўсё менавіта так. Так, а не іначай.

— А Нялюба твая адкуль пра яе ведае?

— Ня-люба?! — ускінулася, павяла галавою, шукаючы позіркам таго, хто спытаў у яе пра дачку, і не адразу змагла адцерабіцца ад халодных мурашак, што папаўзлі па спіне: у пакоі яна была, канешне ж, адна.

Апусціліся, абвялі рукі («Гэта яшчэ што за насланнё?»), у душы зноў заварушыўся маленькі, гадзенькі страх, які, калі яму даць разрасціся, калі бязлітасна не задушыць тут жа, у першае ж імгненне, пачне душыць, паглынаючы, імгненне за імгненнем, і без наркотыка будзе не абысціся, не выбрацца.

«Трэба б, відаць, з цягам часу работу памяняць...» — мільганула няўпэўненае, балючае, і калі рэзка азваўся тэлефон, уся здрыганулася, тут жа адчуўшы, што залішне рэзкі ўнутраны рух гэты адгукнуўся, пачаў расцякацца тупым галаўным болем.

— Вас слухаюць.

— Стэфа, сонейка, твая дачка сказала...

— Што там яшчэ сказала мая дачка? — сама таго не жадаючы, даволі груба абарвала Гаючыца, чый уедлівы, добра натрэніраваны на глыбакадумных маналогах голас, канешне ж, пазнала, Стэфа, і хоць у наступнае імгненне ўжо асадзіла сябе, прабачацца не стала.

— Сказала, што дзяжурыш... Што-небудзь здарылася?

— Адна... адна хворая самавольна сышла,— цяпер падбірала ўжо словы.— Разбіраемся вось.

— Я не да часу, як кажуць...

— Не, не, Канстанцін Канстанцінавіч! Калі адгарадзіцца ад усяго, то сама тут з глузду з'едзеш,— памякчэла, ужо

радуючыся нечаканаму званку, Стэфа.— Вы ж з нейкаю прапановаю, так я разумею? Угадала?

— Ох, і небяспечная вы жанчына, Стэфачка. Усё наперад ведаеце,— засмяяўся, хоць і не вельмі шчыра, філосаф.— Дзве турпуцёўкі хачу вам прапанаваць. На Поўнач. На Салавецкія астравы. Памятаецца, вы неяк выказвалі жаданне.

— Салавецкія астравы? Ну, канешне! — спрабавала прыгадаць, калі яна выказвала падобнае жаданне, і, не прыгадаўшы, адно перасмыкнула плячмі.— Калі тэрміны і цана прыдатныя...

— Прыдатныя, прыдатныя! — заспяшаўся той.— Канец чэрвеня, плата, паверце, чыста сімвалічная. Ды і кампанія, я хацеў сказаць: група! — падбіраецца нішто сабе. Так што?

— Так што едзем! Дзякуй!

— Вось і лады. Вось і радасць старому вашаму паклонніку,— зачасціў той, яўна ўзрадаваўшыся.— На тым і ручкі вашы цалую, развітваючыся...

— Адкуль званок? З таго свету?

Не заўважыўшы, калі вярнуўся ў пакой Жыноўскі, палахліва сцялася на яго словы — і тут жа, мо таму, што рэзка павярнулася на голас і заўважыла такую знаёмую змрочную ўхмылачку, якую скрозь не магла цярпець, разыграла гнеўнае абурэнне.

— Што ты ўвесь час сябе не кім іншым, як Князем апраметнай, уяўляеш? Не збрыдзела? Словы, ухмылачкі, прароцтвы... І ўсё сажаю падфарбавана, каб любога, хто трапіцца пад руку, як мага больш запэцкаць і потым задаволена пасмяяцца!

— Вось гэта сыграна, чорт вазьмі! — іскры так і сыплюцца,— стомлена, жэстам, поўным дакукі і абыякавасці, адмахнуўся ён.— Іскры — гэта добра...

— Ёсць што-небудзь новае?

— Нічога. У інтэрнаце не аб'яўлялася. У доме для сірот, дзе вырасла, таксама.

— А то гэта навіна!

— Дурніца ты, Стэфа, калі радуешся,— скідаў халат Жыноўскі перад адчыненаю шафаю, спіною да Стэфы, і штосьці ў напружанай гэтай спіне, ва ўсім вобліку ягоным гаварыла цяпер за тое, што ў ім, недзе глыбока ўнутры, з'явілася першая шчылінка, першы надлом, які будзе цяжка загаіць нават з дапамогаю такой моцнай, як у яго, волі.— Дурніца, так, так, бо не разумееш, што гэта прыгавор. Прыгавор усім такім, як мы з табою, сляпым і глухім.

— Кінь ты, Анатоль. Табе трэба проста выспацца,— чула і не чула Стэфа сказанага, узіраючыся ў запаволеныя, ненатуральныя ў гэтай сваёй запаволенасці рухі Жыноўскага.— Гэта шаляніца, іншая... Свет — велічыня пастаянная.

— Свет — вытворнае ад святла. Ад святла, а не ад змроку, і калі б мы гэта разумелі...

Дзверы за ім зачыніліся амаль нячутна, і ўжо праз міг Стэфа не змагла б сказаць з усёю пэўнасцю, была, адбылася яе гаворка з Анатолем, ці не: тужліва тачылася з усіх сцен вакол густая, задушлівая ў сваёй некранутасці цішыня. І каб гук які ці рух!

Калі аднačасова, аднаімгненна са стукам у дзверы, у дзвярах, загароджваючы іх сабою, з'явіўся Савеліч са сваім «Хрыстос васкрэс!», ёй здалося, што яна спала і толькі-толькі прачыналася для новага дня, для новых падзей.

Вялікдзень? Гэты дзень — Вялікдзень?!

22

Падручнікі з усімі іх прапіснымі ісцінамі збрыдлі Нялюбе: экзаменаў, якія набліжаліся, яна не баялася, нічога новага, цікавага вывудзіць з даўно пройдзенага і неаднойчы паўторанага не спадзявалася, і таму ўсё часцей адсоўвала ўбок і кнігі і запісы і сыходзіла з дому. Пры першай жа мажлівасці. На першы ж штуршок думкі. І потым ішла, не задумваючыся куды, не ведаючы, дзе дагоніць яе стома: горад жа такі аграмадны, вуліцы пераходзілі, перацякалі адна ў адну і кожная імкнулася вырвацца з высокіх каменных берагоў, дамкнуць, дабегчы туды, дзе кранаўся яе светлы краёк неба.

Калі стома даганяла раней, чым падымала яе на сваіх крылах душа, Нялюба вярталася ў цэнтр горада, да яго тэатраў і музеяў, выбіраючы, часта зусім наўздагад, адзін з іх для сустрэчы з мастацтвам.

Часцей, як у гэты дзень, прываблівае, падсвядома вабіў Дзяржаўны мастацкі музей, дзе было сабрана лепшае з усяго, што мелася ў рэспубліцы. І сярод усяго — некалькі сапраўдных шэдэўраў старажытнага іканапісу і драўлянай культавай скульптуры, якія, увабраўшы ў сябе энергію ўсіх прамінулых стагоддзяў, цяпер выпраменьвалі яе, ачышчаючы і ўзвышаючы духам тых, хто спыняўся, заміраў перад імі, зачараваны, кожны раз крыху зніякавелы і ўсё-такі горды сваёй прыналежнасцю да чалавецтва, і праз яго — да Бога.

Наведвальнікаў, як звычайна, калі не планаваліся экскурсіі ні для школьнікаў, ні для турыстаў, у залах праходжвалася няшмнога, у зале ж старажытнага мастацтва, куды адразу, імкліва, на адным дыханні ўзляцеўшы па мармуровых лесвічных прыступках, скіравалася Нялюба, наогул не было ні душы. Толькі цішыня люстравалася ў пазалоце цяжкіх акладаў і тонкіх спляценнях вычварнай разьбы алтарнай брамы. Толькі цішыня...

Цішыня гэты раз чамусьці не адчувалася. Не, яна, Нялюба, нікога, ні аднюткага чалавека ў зале не знайшла, не заўважыла, але і таго, што адна тут, сам-насам са сваёю душою, адчування не было. Хтосьці за ёю незаўважна цікаваў — і гэта яўна была не старая музейная наглядчыца, што, канешне ж, сядзела, пазяхаючы, недзе зусім непадалёку, за шырока адчыненымі дзвярмі ў наступны пакой, у наступную залу. А тады — хто?

Не падымаючы галавы прыслухоўвалася. Ціха, ледзь адчувальна пагойдвалася, вызвоньваючы, святло. Ціха, быццам не тоячыся, перабіраў нябачныя струны святла, слізгаў, рухаўся ад абраза да абраза пагляд. Ціха шархацела скалыхнутае ім паветра, так, нібы шархацелі недзе блізка-блізка, за плячмі, крылы...

А мо гэта і былі крылы, бо вось жа адчувала Нялюба ўжо лёгкія павевы, якія студзілі твар, змешваліся з дыханнем, напаўняючы яе, усю істоту яе, трымценнем, прадчуваннем незямной насалоды палёту, імклівага руху ўгору, за межы асязальнага, за межы бачнага і добра знаёмага.

— Гасподзь літасцівы, што ж гэта? — шаптала, кусаючы ў напружанні, у непасільным намаганні пабялелыя вусны, дзяўчынка.— Хіба не Ты мяне гукаеш?

— Пагуканы дойдзе...— ясна пачула ў адказ на сваё маленне Нялюба і ўкленчыла перад яўленым ёй голасам, перад ззяннем, якім ён сыходзіў на яе, да яе, вяртаючы дню, рэчаіснасці, праяўленаму ў гэтай рэчаіснасці жыццю.— Па зямлі трэба, нагамі чалавечымі, прыйсці да мяне, перш зямное наканаванне выканаўшы. Хуткі твой шлях, дзіця, але не спяшайся. Светлым будзе тваё ўваскрашэнне, але не за сябе прасі, не за сябе маліся, калі адкрываецца тваё сэрца для малітвы.

Голас аціхаў, знікаў, і Нялюба не асмельвалася, не асмелілася ўтрымваць яго, звярнуўшыся да Таго, хто прамаўляў да яе, са словамі малітвы: Ён прамаўляў, Ён — гаварыў з ёю!

Усведамленне цуду, усведамленне вышыні, на якую ёй толькі што пашчасціла і было дазволена ўзняцца, навалі-

ся ўсім сваім цяжарам так нечакана, так раптоўна, што сілы пакінулі Нялюбу. Калі б не пагляд Багародзіцы, перад чыім абразом укленчвала яна,— пагляд, які прасіў, які загадваў, які, працінаючы наскрозь, будзіў, раскалыхваў сцятае, спыненае моцным, нечалавечым захапленнем сэрца, то, напэўна, не прыйшла б да свядомасці, не апрытомнела б.

«Што ж гэта? Што гэта такое?» — білася ў спратах болю, болю і зноўку ўзніклага захаплення, бяссілая думка, а ўжо і думку, і яе самую захліствала, акрывала магутнаю хваляю цішыня, з-за якой, паверх якой накочвалася аднекуль здалёк водгулле незнаёмых лёгкіх крокаў...

— Ты сюды прыходзіш маліцца? Сюды — а не ў храм?

Уздрыгнула ўсім худзенькім целам, так, быццам яе груба, бязлітасна ўдарылі ззаду, і калі, падняўшы вочы на абраз Святой Багародзіцы, стала падымацца з каленяў, усё працягвала ціха ўздрыгваць, хаваючы, стрымліваючы зябкае дрыжанне плеч і рук.

— Прабач... — адступаўся голас, але калі Нялюба пахіснулася на нягнуткіх, здзеравянелых нагах, дужая сяброўская рука, рух якой ёй чамусьці здаўся знаёмым, падтрымала дзяўчынку.

— Прабач, але ж сюды мог зайсці хто заўгодна... Мне пакінуць цябе адну ці застацца?

Слязінкі, скаціўшыся, абпяклі ёй шчокі — Нялюба не заўважала. Яна пазнала, у першае ж імгненне пазнала голас таго, хто да яе звярнуўся, хто напалохаў яе радасць.

— Ты паплач, паплач, як хочаш,— абдымаў дзяўчынку за плечы, ціха, пяшчотна пагладжваючы яе руку сваёй, узрушаны, узрадаваны і ўзрушаны ўбачаным, незнарок падгледжаным Язэп.— Толькі не збягай... Не адлятай у сваё завоблачнае царства, добра? Зямлі будзе без цябе зябка, няўтульна.

— Адкуль ты ведаеш... — не змагла Нялюба дагаварыць тое, што збіралася сказаць: раптам, непрыхавана і балюча, адчула і апёкі ад слёз, што ўсё каціліся па шчоках, і апёкі ад дотыкаў хлапечых рук, да якіх міжволі хінулася, захопленая, зачараваная іх блізкасцю знянацку.— Адпусці.

— Вярнулася? — адступіў на крок Язэп, пільна ўзіраючыся збоку ў прасветлены, заліты слязьмі дзявочы твар.— Можна мне сцерці калючыя слязінкі?

— Не, не! — адвярнулася Нялюба ад хлопца і тут жа, прыгадаўшы, што насоўка засталася ў сумцы, пакінутай пры ўваходзе, падняла на яго зіхоткія вочы і праз слёзы ўсміхнулася.

— Ну, вось бачыш, ты толькі-толькі пачынаеш думаць, што мне, хутчэй за ўсё, можна давяраць, а я ўжо шчаслівы. Калі паненка дазволіць...

Ён амаль неадчувальнымі ў сваёй лёгкасці рухамі прамакаў, асушаў выцягнутаю з кішэні хусцінкаю слёзы, што ўсё яшчэ, хоць і цішэй, каціліся па бледных шчоках, прамакаў і прыгаворваў: «Ну ж, ну, малая!», пакуль Нялюба не ўзяла ў яго з рук насоўку, каб самой уцерціся, сцерці з твару са слязьмі і набеглыя зноў хмурынкі, а потым вінавата, даверліва і крышачку вінавата ўсміхнуцца насустрач яго адкрытаму, сіняму-сіняму позірку.

— Усё о'кэй?

— Дзякуй.

— Рад служыць.

Словы гаварылі адно, позіркі — другое. На адно-два імгненні, раптам спахапіўшыся, адводзілі адно ад аднаго вочы, а ўсё роўна чыстае, дзівоснае святло перацякала, пераплёсквалася з аднаго позірку ў другі свабодна, нязмушана, з усёю шчодрасцю, на якую здольная толькі маладосць.

— Ты не была ў ніжніх залах? На першым паверсе?

— Не... Я адразу сюды...— чырванела, усвядоміўшы, што па-ранейшаму стаіць перад абразом Багародзіцы — з сэрцам, павернутым ад яе да гэтага светлавалосага памагатага, гатовая прызнаць у ім каханага, аддаць яму сэрца, як аддавала радасць.

— Пойдзем,— адчуў Язэп яе ніякаватасць.— Пойдзем, я пакажу табе абраз канца дваццатага стагоддзя — карціну Гаўрыіла Вашчанкі, якой наканавана стаць абразом. Заўтра, ці праз стагоддзе, што ў прынцыпе не важна.

Ступіла за ім Нялюба — пагуканая, не азірнулася і пайшла следам. Не пазбыўшыся пачуцця няўцямнай віны, але без шкадавання. І калі, перш чым пачаць спускацца ўніз па лесвіцы, Язэп падаў ёй руку, прапануючы дапамогу, спакойна, быццам чакала гэтага руху, спалучыла, счапіла з ім свае ўсё яшчэ дрогкія пальцы. І аціхла. І нібыта аслепла раптам, больш не заўважаючы нічога вакол. Нічога і нікога.

— Расплюшчыш вочы, калі я скажу,— мацней сцяў у сваіх яе пальцы Язэп, і Нялюба здзівілася, як дакладна, як чуйна адчуваў ён яе душэўны стан.— Яшчэ колькі крокаў... Ну, вось. Прыйшлі!

Яна ціхенька тузанула руку, каб вызваліць яе,— рука тут жа выслізнула. Выслізнула — і нязграбна, непрыгожа застыла ў паветры, там, дзе апынулася.

— Што ж не пазіраеш?

Змаргнуўшы, шырока раскрыла вочы. Перш, у першыя імгненні нічога, апроч вялізнай стракатай пляміны на сцяне насупраць, за крокаў дзесяць ад таго месца, дзе яны спыніліся, не ўгледзела. Але паступова, на кожны ўзмах вейкаў, зрок вяртаўся, набываў усё большую выразнасць — і вось ужо ўскалыхнулася ў ёй хваляванне, ускіпаючы, выштурхваючы з грудзей сэрца, вось ужо праясненым позіркам, сэрцам, усёю сваёю істотаю памкнулася яна да палатна ледзьве не на ўсю сцяну. Памкнулася, хоць і руху не зрабіла, застыўшы, прыстыўшы да падлогі: рух, звыклы, бачны рух нічога, нічагуткі не вырашаў — памкненню не плоць, не цела ўладыка, а дух, душа. Душа ж Нялюбіна ўжо білася каля падножжа аграмаднага драўлянага крыжа, які пераразаў убачаную, набліжаную мастаком прастору, абодвума сваімі канцамі перацякаючы, урастаючы ў яе...

— З табою ўсё ў парадку?

Пытаўся, крануўшыся пляча, Язэп, але яна, хоць і пачула яго словы, адчула яго дотык, ніяк не адгукнулася — не змагла б, калі б нават і схацела. А яна і не хацела. І Язэп жа гэта разумеў, бо новай спробы наблізіцца, збудзіць яе свядомасць не зрабіў.

Абраз? Магчыма... Чым больш узіралася Нялюба ў карціну, тым больш схілялася да думкі, што ўпершыню так яскрава бачыла матэрыялізаваную малітву аднаго са сваіх сучаснікаў, вялікага мастака, і гарачая малітва яго не за чалавека, слабога і неразумнага ў сваім эгаізме, а за чалавецтва. За ўсё чалавецтва.

Дух і матэрыя, зліваючыся і ўтвараючы крыж — крыж пакуты, наканаванае кожнаму ў гэтым жыцці, хоча ён прызнаваць гэта або не, спалучалі, ядналі ў адной прасторы, у бязмежжы яе, зямлю і неба, зямную юдоль і памкненні духа, і гэта нязвыкла, не адразу прымальна мяняла здаўна, спрадвеку знаёмы сімвал.

Крыж пакуты Хрыстовай, які, здавалася, рос, вырастаў, доўжачыся ў бясконцасць, знаходзячы патрэбную апору, станавіўся, стаў сімвалам пакутнага шляху чалавецтва са сваёй прадгісторыі, што так ці іначай паўтаралася ў кожным пакаленні, на кожным новым вітку развіцця, у будучыню. У будучыню, якую льга было загубіць нязжытымі дзікунствам, невуцтвам і неразуменнем наканаванага.

Так, так, аграмадны драўляны крыж, які пераразаў убачаную, набліжаную мастаком прастору, сімвалізаваў Шлях. Бо вось жа ў цёмных, пякельных языках полымя каля яго

падножжа праступалі, каб тут жа знікнуць, асыпацца попелам і зноў на міг з'явіцца, выявы твараў, у якіх пазнаваліся твары былых дыктатараў, а за імі, вырастаючы з іх вогненных усплёскаў — з бясконцасці ў бясконцасць — стагоддзі, пакаленні людзей. І падаў на іх некалі ўкрыжаваны імі Хрыстос — і сіліўся ўтрымаць яго, падставіўшы плячо, падставіўшы самога сябе, хтосьці з вернікаў — і адступала, адпаўзала полымя, а ўгары, над шляхам, святлела, разгаралася раніца — і нараджэнне яе вітаў, тубячы ў трубы, Божы пасланец...

— Ён прыходзіў... Ён яшчэ прыйдзе!

— Ты пра Хрыста?

— Хрыстос — пасланец Гасподні, адзін з Ягоных пасланцоў, які прыходзіў, каб давесці людзям, што смерці няма.

— «Не памром, а зменімся...» Так?

— Чш-ш-ш...

Гэтай хвіліне не патрэбны былі словы. Нават не прамоўленыя, нікім з іх дваіх не сказаныя ўголас.

23

— «Жыццё нагадвае жыццё ў дурдоме, дзе кожны — цар сваёй пустой душы...» Як? У аднаго маладога паэта прачытаў. Коршак... Не, Коржак, здаецца. Ну, ды гэта не важна! Як табе гэты «цар сваёй пустой душы»?

Зянон замнога піў — і сам гэта разумеў, але што ж яшчэ рабіць доўгімі вечарамі ў гатэлі пад час гастроляў у абласным цэнтры?

— Лявоне, чаго змоўк? А?

— Думаю.

— Ду-умаеш?! — здзівіўся Белапёрка.— Выходзіць, што ўся выпітая за вечар гарэлка папросту змарнавана. Ду-ма-е!

— Ты ж сам папытаў пра цара,— падняў на яго асалавелыя вочы Лявон, які ўжо з паўгадзіны змагаўся з жаданнем адкінуцца на падушку і, паслаўшы куды далей і сябрука, і яго гарэлку, і наогул уся і ўсіх на сотні міль вакол, спаць, спаць, спаць, каб нарэшце адаспацца за ўсе апошнія, здоўжаныя п'янкамі вечары, калі ні сну, ні хоць бы спакою...— Ты ж пра некага пытаўся?

— А-а-а... Пра гэта. Пра маладога паэта, які напісаў: «Жыццё нагадвае жыццё ў дурдоме, дзе кожны — цар сваёй пустой душы». Кожны, уяўляеш? Чамусьці зачапіла... Гэта ж значыць: і я, і ты. І ты, Лявоне! — для большай пераканаўчасці тыцнуў у яго пальцам, і раз, і другі раз.

— То чаго ж,— з лёгкасцю пагадзіўся той.— І я, як усе.

— Як усе...— паўтарыў, выцэджваючы апошнія кроплі гарэлкі ў гранёныя гатэльныя шклянкі, і незадаволена зморшчыўся.— А вось гэта дудкі, браток. Ты — не як усе. Ты блазен. Блазен яго вялікасці Тэатра, які можа памяняць сваю вастраверхую шапку са званцамі толькі на лаўры, на лаўровы вянок.

— Ага, так мне яго і паднеслі! — ікнуў Лявон, стараючыся ўтрымаць Зянонаў твар у фокусе пагляду, але ўсе яго намаганні, па ўсім было відаць, ні да чаго не прыводзілі.— Ты, бляха-муха, можаш успомніць, калі апошні лаўровы лісток у булён кінуў? І я не ўспомню. Тое і яно. Ні лаўраў, ні церняў не заробім: плаціць, бляха-муха, няма каму.

Ён зноў ікнуў, не заўважаючы, як грэбліва падцінае вусны, гледзячы на яго, Белапёрка, хоць сам, калі б азірнуўся на люстэрка на сцяне ззаду, лёгка пераканаўся б, што выглядаў не нашмат лепш за свайго сабутэльніка.

— Плаціць няма каму, кажаш? А як жа той, каму мы вераю і праўдаю служым вось ужо колькі год? Га? Пра яго ты, Лявоне, забыўся, а я — я, Зянон Белапёрка! — памятаю. Дзе б ні знаходзіўся, што б ні рабіў, а чый служка, памятаю.

— Калі гэта ён табе плаціў? — трасянуўшы галавою, утарапіўся ў яго пустым паглядам Лявон.— Чым?

— Дурань, бля...— пасунуў да яго чарку з апошнімі выціснутымі кроплямі Зянон.— Дурань, бо не разумееш. Не ўвесь жа чалавек у тым, што сабою ўяўляе. Нешта ж і там, там,— пастукаў пальцамі па рабрынах,— ціўкае. Яшчэ б разабраць, учуць зрэдчас што якое, а то колькі ні ўслухоўваюся...

— Гарэлка там боўтаецца.

— Не, браце. Гарэлка — гэта так... Каб заліць, заглушыць незразумелае, дагэтуль не расчутае ў сабе,— прыкрыўшы вочы, думаў ён уголас.— Раптам там не д'яблава семя, як жыццё ўвесь час даводзіць, а іскра Божая? — вось што мучыць, спаць не дае. Вось што хацелася б уразумець. Мо толькі не дадзена мне ўразумець, мо рылам, як кажуць, не выйшаў.

Вачыма шукаў люстэрка і не знаходзіў. Цяжка, не падымаючыся, разам з хісткім крэслам паварочваўся ад стала і задаволена крэкнуў, калі нарэшце ўбачыў і люстэрка, і сябе, свой адбітак у ім, які акрэсліваўся выразна і не раздвойваўся, як раздвойваўся б, калі б Зянон, як учора, да чорцікаў напіўся.

— Ха-аро-ош, сукін сын! — усміхнуўся свайму адбітку, яўна задаволены ўбачаным.— Не бярэ гарэлка, гэта добра: ёсць яшчэ, значыцца, сілухна, не ўся выйшла. А як ёсць сіла, то і агонь у грудзях не згасне!

— З чаго б, скажы, у табе агонь палымнеў? Ні закахацца даўно не здольны, ні ў любові да чалавецтва, якім у душы пагарджаеш, паратунку не шукаеш...

— «Да ча-ла-вецт-ва...» Дурань, бля! — сплюнуў Зянон, так, быццам сплёўваў пад ногі раптоўную злосць.— Тут ад самога сябе часам так смярдзіць, што адварочвае: столькі бруду, столькі ўсякай гадасці за гады назбіралася, што не адчысціцца, а ён мне пра ўвесь зброд чалавечы... Яго, гэты зброд, за што любіць? За тое, што на першы ж посвіст бізуна ў руцэ чарговага самазванца збіваецца ў статак і паслухмяна мыкае, услаўляючы сваё рабства? За тое, што высочвае і так або йначай зжырае сваіх лепшых сыноў, прыкрываючыся невядома ад каго сцягамі свабоды і роўнасці? Ці мо за тое, што сам з гэтага статку і жыву, змушаны жыць па яго законах?

— А хоць бы і так. Чым ты лепшы за астатніх?

— І лепшы, лепшы! Ужо адно тым, што бачу, разумею, хто ■ і з кім, з чым на гэтай зямлі маю справу ад нараджэння да смерці,— не заўважаў Зянон, што звяртаецца не да сябрука, які, нязграбна асунуўшыся на ложак, пасопваў ззаду, а да сябе самога, да свайго не вельмі выразнага адбітку ў патрэсканым, пацямнелым ад старасці люстэрку.— Чакаю ад людзей пахвалы, так. Разыгрываю з сябе скамароха, каб пацешыць публіку і заслужыць апладысменты яе, так. Але ж і сам пацяшаюся, выкідваючы, выплёўваючы штовечар у цёмную залу павучанні тых, хто самі, пры жыцці, былі цынікамі і распуснікамі, ці з імпэтам, з усім палам свайго таленту, няхай сабе і з чужых слоў, дэманструю чысценькім, прыгладжаным для тэатральнага вечара сугрworld мадзянам тое бруднае карыта, каля якога яны — і яны! — тоўпяцца, каб ухапіць што тлусцейшае. А яны — апладзіруюць. Робяць выгляд, што паказанае, сказанае ніякім чынам іх не тычыцца, адбіваюць далоні і тым выклікаюць яшчэ большую пагарду.

— Навошта ж забываць, што ты — адзін з іх, усяго на паўтары-дзве гадзіны аддзелены ад іх рампаю і святлом пражэктараў? Святло гасне — і ты, следам за імі, мкнешся да таго ж карыта. Нальюць вам туды гарэлкі...

— Вам?! Ты сказаў: вам? — ажно падаўся ўперад Зянон, абураны насмешкаю, якая прагучала так выразна, што памыліцца ён не змог бы, калі б раптам і схацеў.— Мо, чорт

вазьмі, патлумачыш, чаму адасабляешся, узвышаеш сябе нада мною грэшным, не п'яным, а ўсяго толькі грэшным? Мы ж з табою адной крыві, ты і я, ці не так?

— Ну, не,— засмяяўся той, у люстэрку,— наўрад ці. Але мне даспадобы твая шапка са званцамі: за іх звонкім пабразгваннем нікому, ніводнаму са смяротных, не расчуць неба.

— Пры чым тут неба? — патрос галавою, спрабуючы ўразумець пачутае, Зянон і толькі збудзіў, скалыхнуў тупы боль у патыліцы.— І наогул, хто ты такі, чорт вазьмі, каб пасміхацца з мяне, з мяне — Зянона Белапёркі? Са мною трэба мірна — чуеш? — мірна, не дужа націскаючы.

— Ды хіба на цябе трэба націскаць? І ты ж — не чалавек, а чалавечак: сам мордаю сцяну гатовы дзень і ноч прасаваць, абы злосныя, ці прагныя, агеньчыкі ў паглядзе загарэлісл, абы праз тое альбо іншае жаданне жыццё пагукала. Жыццё! Што ты, або такія, як ты, можаце ведаць пра жыццё?

— А-а-а, вось скуль вецер! — стрымліваў сябе Зянон.— «Турбота сэрца точыць і грызе, а мы без сораму і без апаскі, як твар, хаваем подласць нашу ў маскі і губім непасрэднасць пакрысе...»

— Чужою мудрасцю мудрым не станеш.

— А на фіга яна мне, мудрасць? — не хаваў больш злосці, злоснага гневу Зянон, якому надакучыла пацвельванне.— Сёння адзін спектакль адыграны, заўтра прыйдзе чарга другому, у перапынках жа паміж імі, калі крутабокая маладзіца пад руку не трапіць, і напіцца не грэх. Абы ніхто ў сваё сіло падманам ці хітрасцю не злавіў, за лапку, як папугая ў клетцы, навязаўшы.

— А то ты не навязаны!

— Дык мо гэта ты — той, хто мяне навязаў ці збіраецца навязаць? — пагрозліва падымаўся з крэсла ён, да хрусту ў пальцах сціскаючы кулакі.— Мая воля, запомні гэта! — варта і не такой, як у цябе, паскуднай морды, так што атрымай!

Нанесены з усяго размаху ўдар аказаўся такім моцным, што прабіў, праламаў наскрозь, да самай сцяны, люстэрка, цёмнае шкло якога рассыпалася на драбнюткія друзочкі і доўга, здавалася, цэлую вечнасць асыпалася долу, пад ногі, туды, дзе ўжо ярка крамянелі кроплі з разбітай у кроў рукі.

— Ля-вон!! Лявон, маць тваю!

Лявон не азваўся, толькі смешна, па-дзіцячы пачмокаў у сне губамі, але з суседняга нумара злосна застукалі ў сцяну — і сцяна пахіснулася, паплыла ў Зянона перад вачмі.

Ён страсянуў галавою, раз і другі раз, каб ачомацца трохі, і ўсё-такі яшчэ пэўны час тупа пазіраў на скрываўленую руку.

Не адразу адчуўшы боль, не адразу ўсвядоміўшы тое, што адбылося, доўга не мог зрушыцца з месца. Калі ж адступіўся, адышоўся на крок-другі і пацягнуў са спінкі крэсла ручнік, каб абматаць ім параненую руку і спыніць кроў, неяк раптам пацверазеў: гнусная ўхмылка ў люстэрку, разбітае на друзкі шкло, кроў на падлозе...

— Сам сабе, выходзіць, у морду заехаў?

24

У гэта немагчыма было паверыць: школьныя экзамены засталіся ззаду і маці, ледзь не ў апошні момант перад ад'ездам у аэрапорт, да самай апошняй хвіліны чакаючы з'яўлення Зянона ці хоць бы якога знаку яго, усё-такі прапанавала, няхай і без асаблівае ахвоты, другую пуцёўку на экскурсію на Салавецкія астравы (пуцёўка ж яўна прападала) ёй, Нялюбе. Так, так, ёй, і — нават больш таго! — настойвала на самастойнасці, на пэўнай адасобленасці ад яе ў часе паездкі, на працягу ўсяго тыдня.

Агаломшаная нечаканасцю, неспадзяванай радасцю, Нялюба доўгі час жыла, як у сне — аднойчы і страпянулася, абудзілася ад здранцвення, калі самалёт, рассякаючы аблокі, набіраў вышыню і неба, неабдымнае ў сваёй сіні, у сваім горнім хараstве, затрымцела, заструменілася чыстымі пералівамі святла за шклом ілюмінатара.

Неба! Празрыста-сіняе, халоднае ў сваім яркім, сляпучым ззянні, яно струменілася зусім побач і ўсё-такі заставалася недасяжным, таямнічым і недасяжным, што дзівіла Нялюбу. Яна ж ведала, памятала яго іншым — яна магла зліваацца, злівалася з ім, з яго то светлымі, зіхоткімі, то цёмнымі хвалямі, і ў палёце і ў падзенні, адчуваючы, балюча, усёю істотаю адчуваючы яго трапяткую, жывую повязь з зямлёю. Повязь — праз яе, Нялюбу, праз яе любоў да зямлі — з тымі, хто заставаўся на зямлі, з самою зямлёю. Чула ж, як дыхалі травы, як у сне пад соннае прыцмокванне рачных хваляў піло першую расу лісце лазняку, як магутным чыстым акордам адгукаўся на кожны павеў ветрыка сасновы бор і трапятанне крылаў будзіла птушак. А над усім, над усім расло, шырылася неба.

Мо таму, што думкамі, сэрцам імкнулася Нялюба далей, на поўнач, да халоднага паўночнага мора, чые хвалі амывалі, астуджвалі старыя муры Салавецкага манастыра, шлях

толькі паўтараў ужо, здавалася, даўно пройдзенае, бачанае — хутчэй! хутчэй!

І апускалася, пагойдваючы самалёт над бязмежжам лясоў затканая аблокамі прастора, і збіваў з ног напоены незнаёмым водарам вецер, каб падхапіць, панесці яе над вулачкамі зусім не змененага стагоддзямі Архангельска да шырокай, магутнай тут, недалёка ад вусця Дзвіны, і з чайкамі, адною з іх, білася над цёмнымі, цёмна-бурымі хвалямі ракі душа, зачараваная дзіўным, дзівосным хараством, якое не псавалі, не маглі забрудзіць ні недагледжанасць, непрыбранасць вышчарбленых, задымленых набярэжных, ні беднасць спрэс забудаваных драўлянымі баракамі гарадскіх кварталаў, ні расцягненасць заваленых лесам прычалаў з іржавымі няўклюдамі-баржамі на кароткіх павадках. Сама прастора была іншаю — струменілася, клубілася, спружыніста ўцягвалася ў вір вышыні, каб праз хвіліну-другую расплаўленым срэбрам расцячыся па схілах далягляду і зноў паўстаць перад вачмі ва ўсёй сваёй неабдымнасці. Неабдымнасці і... цішыні...

Так, так, цішыні, якая не парушалася нічым. Ні пустой балбатнёю распараных нечаканаю ў гэтых шыротах спёкаю турыстаў, ні вуркатаннем матораў унізе, каля прычала, дзе працавіта мітусіліся, шчыруючы, два кацяркі, ні бразгатам партовых кранаў крыху ўбаку, ні хваравітым пафыркваннем старэнькіх фанерных аўтобусаў на пляцоўцы за імі. Ціха каціла, перакочвала свае цяжкія хвалі Дзвіна, ціха цякло, абмінаючы ўтвораныя завіхрэннямі ветру віры, над ёю неба — і столькі было ва ўсім затоенай, прыхаванай ад абыякавых вачэй урачыстасці, так глыбока заваблівала, уцягвала позірк чыстая, наскрозь празрыстая сінеча далячыняў, што міжволі сціналася, абмірала ад захаплення сэрца.

Калі ж іх групу ў ліку іншых размясцілі на цеплаходзе, у цесных, на чатыры койкі, каютах і цеплаход павольна адплыў ад прычала і ўзяў курс на поўнач, у бок мора, Нялюба адчула такое ўзрушэнне, што змушана была на нейкі час адвярнуцца ад неба і не толькі заплюшчыць вочы, а і захінуцца рукавом куртачкі, рукою. Сэрца супакойвалася доўга — вяртаўся ж, урэшце, не спакой, а ўсяго толькі сіла. Сіла вынесці, вытрываць гарачы пагляд неба і не кінуцца ў абдымкі вышыні, забыўшыся на ўсё на свеце.

— Вам што, стала кепска? Ці проста надакучыла шэрая аднастайнасць мясцовага, небагатага, прама скажам, краявіду?

Падняла вочы — незнаёмы дзядок у модным не па ўзросце спартыўным касцюме з living рознымі каляровымі блямбамі і нашыўкамі.

— Да вас, да вас, маладая лэдзі, звяртаюся,— заўважыў ён яе недаўменне і не адступіў, не адышоўся.— Мне здалося, што вы з тых летуценніц, якіх кранае, змушае заплакаць ад замілавання і захаплення якая-небудзь казюрка ці пакрытая пылам зёлка.

— А вы...— абарвала сябе Нялюба на паўслове і хуценька, хаваючы вочы, у якіх паблісквалі ўжо здрадлівыя слязінкі, адвярнулася, каб не сарвацца, не пакрыўдзіць старога чалавека.

— А я рэаліст, правільна,— расчэсваў ён пяцярнёю акуратную сваю бародку, пільна цікуючы за Нялюбаю, за кожным яе рухам.— І мы маглі б стаць сябрамі... Ну? Як прапанова?

— Дзякуй, але ў мяне свае сябры,— адштурхнулася ад парэнчаў, каля якіх, абапіраючыся на іх, стаяла, і пайшла Нялюба, так больш і не азірнуўшыся на дзіўнага старога.

— Але ж у маладой лэдзі няма сяброў. Ніводнага, наколькі я мог заўважыць,— задумліва прамовіў ёй услед стары, а да яе, Нялюбы, звяртаўся ці сам сабе гаварыў, зразумець было цяжка: стаяў, назіраў за тым, як яна ішла ўздоўж па борце цеплахода, невідушча абмінаючы купкі турыстаў ці пустыя, яшчэ па дню, відаць, вынесеныя з салона адпачынку шэзлонгі, як пачала падымацца па выскабленых, да бляску нацёртых драўляных прыступках наверх, на верхнюю палубу ў самым носе карабля і хутка знікла за высокім яе борцікам.— Дзічок... Дзічок, які наўрад ці каму ўдасца калі-небудзь прышчапіць...

Словы патанулі ў крыку наляцелых чаіц. Усе позіркі міжволі сачылі за мітушэннем крылаў, за імклівым падзеннем насустрач хвалі адной, другой чайкі, а потым і ўсёй чарады іх услед за кінутымі з палубы крышынкамі хлеба і гэткім жа імклівым, толькі больш шумным і мітуслівым узлётам.

Нялюба назірала за птушкамі, захінаючыся ад ветру, які там, наверсе, адчуваўся мацней, і, дзівячыся не так імклівасці іх і крыклівасці, вясёламу мітушэнню, як незразумелай, недарэчнай, на яе погляд, прывязанасці да цеплахода, да гэтага астраўка людзей сярод бурапенных, адно зверху крыху падсвечаных вячэрнім сонцам, вячэрнім небам хваляў. Няўжо неба не гукала іх? Не вабіла? У іх жа такія дужыя крылы...

Думка некалькі кароткіх імгненняў утрымлівала яе

ўвагу, але час, берагі якога падмывалі, размывалі ручаіны святла, ручаіны залатых на сыходзе дня сонечных промняў, ужо зноў губляў для Нялюбы ўсякую рэальнасць. Бязмежнасць, сама Вялікая Бязмежнасць уцягвала яе пагляд, яе памкненне, рух насустрач — адно вецер, то рванымі шматкамі паветра, якія нагадвалі даўно адсталых ад цеплахода чаек, то брудна-жоўтымі халоднымі падцёкамі пены, у якія гэтыя шматкі тут жа, на вачах ператвараліся, ненадоўга пакідаў ззаду, недзе адразу за плячмі, напачатку добра бачны, выразны след, але назад Нялюба не пазірала, не азіралася.

Ні час, ні вехі, расстаўленыя ім уздоўж шляху, не мелі ўжо ніякага значэння: цераз усю ноч будзе дагараць, дагарыць вячэрняя зара, адно каб гарачым, вогненным дотыкам збудзіць новы світанак, і, выцягваючы з мора, з кранутых нябесным, горнім свячэннем тоняў яго, выцягнуць, явіць свету так і не згаслае нават для кароткага адпачынку сонца. І сонца, перш чым заззяць над бязмежным разлівам вады, знойдзе, выразна пазначыць на даляглядзе ўсё яшчэ цёмную граду Салавецкіх астравоў, спачатку ледзь пазнавальных, больш падобных на спіны нерпаў, нечакана сустрэтых у адкрытым моры, а потым, па меры набліжэння, паўсталых перад паглядамі тых, хто не праспіць гэты момант, ва ўсёй сваёй таямнічай велічы, ва ўсім бязмоўным хараստве.

Заход... Вечар... Усё вакол так мала нагадвала звыклазнаёмую вячэрнюю пару, што і думкі не ўзнікала пакінуць палубу, пайсці спаць. Ды і проста зірнуць на гадзіннік не прыходзіла ў галаву!

Перад ёю, у яе на вачах, адбывалася таямнічае дзейства прыроды, Космасу — пры чым тут званасць, пэўнасць гадзіны, ці гадзін? Неба сваімі гарачымі краямі ўрастала ў мора, утвараючы круг, цэнтрам якога нязменна заставалася яна, Нялюба,— і агонь, імкнучыся вырвацца, расцякаўся, расплёскваўся ўшыркі, і дрогкія языкі яго падоўгу тушыла нябачная акіянская плынь, і там, дзе яны гаслі, у паветры, высока над імі, ускіпалі, пачыналі кіпець аблокі. Адзін усплёск, другі, трэці...

У шалёным клубку звіваліся, скручваліся ўжо не аблокі, а святло і цемра — магутныя струмені святла і пляміны цемры — і ў спалучэнні і адштурхванні, у іх барацьбе ўгадвалася барацьба, вечная непрымірымая барацьба розных, супрацьлегла розных касмічных сіл, ці энергій: паветра, шчыльна насычанае электрычнасцю, іскрыла, іскры, узлятаючы ўсё вышэй і вышэй, там, угары, ператвараліся ў стрэлы маланак і апякалі, абпальвалі, прапальвалі наскрозь

цёмныя аблокі. І ўсё гэта толькі ў цэнтры, над галавою ў Нялюбы,— навокал жа, па ўсім небасхіле, калыхаўся, адсвечваў усімі адценнямі залатога і крамянага чысты агонь заходу.

Нават калі з адной з адагнаных, зрашэчаных маланкамі хмаркі раптам пасыпаўся дождж, непрыемна калючы і халодны, ён не згасіў, нават не прыглушыў ззяння, залатога свячэння неба, ужо нябачнага з-за далягляду сонца. Вецер абрываў, адносіў рэдкія, разрэджаныя святлом струмені дажджу кудысьці ўбок, і хмарка чэзла, знікала, на міг афарбоўваючыся балючаю чырванню, зноў, і цяпер ужо назаўсёды, шэрхла, злівалася з выссю, раставала ў ёй. І хоць тут жа на яе месцы ўсплывала, пачынала налівацца, набухаць агнём другая — і гэтую другую, як потым кожную наступную, уцягваў вір вышыні.

Паміж дзвюма стыхіямі — стыхіяй вады і стыхіяй нябеснага агню — Нялюба даўно страціла адчуванне свайго цела, сваёй істоты. Адно душа яе трымцела ад захаплення. Ад захаплення і ўдзячнасці Таму, хто даў ёй гэтыя хвіліны, хто дазволіў так наблізіцца да таямніцы хараства, такога зямнога ў сваёй незямной прыналежнасці, і зразумець, што Ён — не толькі ў ёй, што Ён — ва ўсім, бачным і нябачным, усвядомленым і ўсё яшчэ далёкім ад чалавечага ўсведамлення, як і ўчора, і пазаўчора...

— Дзівіся... Гэта ўсё і тваё, дзіця, калі здолееш узяць, умясціць у сваім сэрцы, каб перадаць наступным пакаленням, наступным эпохам. Яны чакаюць. Я ўжо бачу іх...

— Наступным? Дык жа і сёння...— хацела спытаць, сказаць Нялюба, але зварухнуць, расцяць вуснаў не змагла і сумелася: хто да яе прамаўляў? З кім яна памкнулася ўступіць у гаворку?

— Сёння мала відушчых сярод людзей: страх і забабоны перашкаджаюць ім адчуць, спазнаць хараство Бязмежнасці, усвядоміць сваю прыналежнасць да яе, да Вялікага Космасу.

— Да Бога...— расцяла яна вусны і, хоць шэпт нагадваў хутчэй балючы ўздых-выдых, які, здавалася, разарваў грудзі, дыхаць стала лягчэй.

Змянілася, мянялася штосьці ў наваколлі. Дакладней, на небе. З хмаркі, якая толькі крыху ссунулася ўбок, уніз ад самай высокай кропкі, усё яшчэ сеяўся касы дождж, і халодныя пырскі яго не-не і даляталі сюды, на палубу, але і гэта апошняя хмарка штоміг святлела, раставала ў срэбным там, угары, ззянні. Калі ж растала, растварылася, выціснуўшы долу апошнюю жменю бліскучых халодных кро-

пель,— над морам, перакінуўшыся цераз яго, над ім, высокаю аркаю, заззяла, зазіхацела ў промнях нябачнага за далягладам сонца вясёлка. Над цёмным морам, якое не засвяцілі, не падпалілі нават стрэлы маланак,— зіхоткая, яркая вясёлка.

Хвіліны доўжыліся — узрушэнне, разуменне незвычайнай урачыстасці гэтых хвілін не мінала: не позіркам, сэрцам убірала Нялюба ніці святла, агонь Бязмежнасці, і гэты агонь асвятляў, высвечваў у ёй, у яе бясконцым у абодва канцы жыцця шлях, вечны шлях узыходжання, нягледзячы на ўсе запоны і перашкоды, лёгкі, радасны шлях да Бога. Да Бога ў сабе, і ва ўсім жывым, існым. І так высока імкнуў гэты шлях, знікаючы ў вогненнай вышыні, у зорнай прасторы, што гукнуць туды, у Бязмежнасць, Нялюба не асмельвалася. Хоць павінна, павінна была б, што б ні здарылася пасля, у наступнае імгненне! — яна ж так доўга марыла пра гэта неба, пра гэтае бязгучча пад небам дня, які не заканчваўся, не згасаў, а перацякаў, пераходзіў у наступны, спалучаючы далёка за поўнач злучаючы дзве зары, вячэрнюю і ранішнюю, якая ўжо займалася.

На палубе даўно нікога не было. Толькі світальны вецер і яна, Нялюба, азяблая і шчаслівая, самая шчаслівая на свеце: бяздомная, знайшла, убачыла свой дом — Бязмежнасць, змалку пазбаўленая ласкі, пяшчоты маці, адчула, адчувала дотыкі ласкавага, пяшчотнага дыхання Маці-Прыроды.

Сама сабою прыйшла малітва. Бязгучная, звернутая да раніцы, якая ўставала насустрач, да Таго, чыя ласка сыходзіла на яе, Нялюбу, як і на ўсю зямлю, ззяннем, гарачымі зіхоткімі іскрамі з вогнішча новага дня, малітва да краёў напаўняла душу, ачышчаючы яе, акрыляючы радасныя думкі і памкненні, і столькі было ў непрамоўленых словах удзячнасці, захаплення і ўдзячнасці, што, здавалася, расступаўся, шырэў далягляд. Далёка на далягладзе, над цёмнымі спінамі астравоў, з камянёў іх, адшліфаваных хвалямі стагоддзяў і рукамі, мукамі чалавечымі, уставаў, з кожным новым імгненнем вырастаў, імкнучыся ў неба, храм Гасподні, увенчаны крыжам. Крыжам мукі Хрыстовай, крыжам вечнага ў сваім абнаўленні жыцця.

*

— Ну, як паездка? Дакука не заела? — з парога, ледзь толькі павіталася, пацікавілася Ната, хоць у тым, як адразу прыліпла да люстэрка, то разгладжваючы кончыкамі пальцаў ужо добра прыкметныя зморшчынкі ўкруг вачэй і

вуснаў, то доўга, спярша ў адзін, пасля ў другі бок зачэсваючы густою шчоткаю даўгія, прамыя, як стрэлы пырніку, валасы, асаблівае цікавасці не праявіла, і Стэфа прамаўчала.— Ты не зважай, я зараз... Шастала тут непадалёку, дай, думаю, зайду, бо яўна дадому, на чарговы сеанс Кашпіроўскага, ужо не паспяваю. Ты не супраць? Не перашкоджу?

— Праходзь,— кіўнула Стэфа і, не чакаючы госці, прайшла ў пакой і цераз яго на кухню, каб паставіць на агонь чайнік: сеанс дык сеанс, усё лепей, чым бясконца вызваньваць Зянона.

Не дужа ўзрадавалася сяброўцы, так. Але ж кінулася на званок у дзверы, адпіхнуўшы Нялюбу, якая апынулася бліжэй да калідора, з адною думкаю: «Зянон! Нарэшце!», і калі... Але прыйшла і прыйшла. Не знойдзецца пра што пагаманіць, моўчкі пасядзяць — не першыня!

— Стэф, ты так і не адказала,— з'явілася ў кухні Ната.— Што паездка? Марная трата часу і грошай? Ці мо ўсё-такі каго вартага падчапіла, а то твой...

— Ната, я ж прасіла!

— Усё, усё! — адмахнулася тая і, падбіраючы на калені шырокую спадніцу, пачала месціцца да стала.— Бачу, што не варта працягваць, хоць і гляджу на ўсё значна прасцей: гэты, другі, трэці... Мы ж ужо не семнаццацігодкі.

— Цукру ці варэння? — разлівала Стэфа гарбату.— Мо крыху падабрэеш, калі падсалодзішся.

— Ага,— навальвала ўжо Ната на свой сподак слівовае варэнне,— дабрэю на вачах. Тым больш, што па табе відаць: ні аб чым ніколечкі не шкадуеш...

— Чаму ж? Шкадую.

Ната папярхнулася. Адкашляўшыся, утаропілася ў Стэфу з такім адкрытым недаверам, што тая, упершыню так яскрава параўнаўшы Нату з рыбінаю з выпучанымі з-пад густа нафарбаваных вейкаў вачмі, не магла ўтрымацца ад смеху: ні даць, ні ўзяць — старая плотка, якая ўявіла сябе некалі русалкаю!

— Т-ты чаго? А?

— Гарбата стыне,— не стала прабачацца Стэфа, проста падсунула бліжэй да сподка з варэннем кубак духмянае гарбаты для Наты і адпіла ад свайго.— Не было, не было там вартых кавалераў: ці старыя — пясок сыпаўся, ці зусім шчаўлікі — губашлёпы, ледзь не першы раз ад мамчынай спадніцы адарваныя, выбраўшыся ў прапанаваную паездку, так што...

— Чаго ж тады шкадаваць? Сервіс жа, ведаю, так сабе...

Як скрозь у гэтай краіне, хоць уздоўж, хоць упоперак праедзь!

— Чаго? Нават цяжка сказаць,— пасур'ёзнела Стэфа, раптам расхацеўшы працягваць гаворку і нешта тлумачыць сяброўцы: сабе не заўсёды льга растлумачыць прычыну душэўнага парывання ці раптоўнае шкадобы, а каму іншаму... Аб чым там ужо цяпер шкадаваць? — Ды ты пі, пі гарбату, а то і пяці хвілін не застаецца да пачатку перадачы — засяродзіцца не паспееш.

— У-гу, у-гу,— заспяшалася Ната, зіркнуўшы на гадзіннік.— А ты? Мы ж удзвюх збіраліся...

— Удзвюх і паседзімо. Мо сёння ўдасца зразумець: шарлатан гэты твой Кашпіроўскі ці засяроджаны на самім сабе прафесіянал, якому пляваць і на карысць і на шкоду сваіх сеансаў, сваіх невядома з якой прычыны дазволеных урадам эксперыментаў над шматмільённай аўдыторыяй.

— Ды ён жа мужык, Стэфа. Мужык! — і гэтым усё сказана,— ажно прыцмокнула, паднёсшы да губ пальцы, падымаючыся.— Няўжо не зразумела?

— Такія часцей за ўсё і аказваюцца шарлатанамі.

— Фі, Стэфа! — падцяла яна вусны, падыгрываючы сама сабе, і вышмыгнула з кухні.— Дзе тут у цябе што ўключаецца?

Прайшоўшы следам, перш чым для большай зручнасці залезці з нагамі на канапу і прымасціцца ў кутку яе з падсунутай пад спіну падушачкай, Стэфа міжволі зіркнула на прычыненыя дзверы ў спальню, дзе, як заўсёды, калі хто-небудзь прыходзіў, хавалася ад яе і ад яе гасцей дачка, і чаго ў гэтым Стэфіным позірку было больш — звыклай абыякавасці ці неакрэсленай, падсвядомай трывогі, не вызначыла б і сама. Думка слізганула ўслед за позіркам і згасла, не закрануўшы ні душы, ні свядомасці,— у пакоі ўжо ўладарыў слынны экстрасенс: яго гладкі дагледжаны твар і добра пастаўлены глыбокі голас на нейкі час прыкавалі ўвагу і, каб адцерабіцца, вызваліцца ад першага ўражання і зачапіцца за яго халодны пранізлівы пагляд, Стэфа змусіла сябе засяродзіцца.

Пагляд Кашпіроўскага калоўся — міжволі хацелася заплюшчыцца, схавацца ад яго, аддаўшыся на волю хваляў значна мякчэйшага, хоць і валявога, уладнага голасу, і Стэфа ледзьве здолела застацца не толькі знешне, але і ўнутрана абыякаваю да энергіі, якую экстрасенс выпраменьваў з дапамогаю экрана, праз яго, на ўсіх, хто намерыўся такім чынам падправіць сваё здароўе. Калі ж адчула незалежнасць і ад голасу, што ўнушаў, даводзіў самыя звычайныя, самыя

трывіяльныя ісціны, і ад цяжкога, зацененага магутнаю, скіраванаю на даверлівую паству думкаю пагляду,— назіраць стала цікава.

«Прафесіянал... Прафесіянал, які не збаяўся стаць шарлатанам, каб адхапіць большы і тлусцейшы кавалак!» — падумала амаль што з захапленнем. Ужо ж нават без ценю асуджэння: асмеліўся і эксперыментуе над цэлаю краінаю, у душы, нябось, пасміхаючыся і над уладамі, і над наіўным людам, а ўсё роўна малайчына! Дазваляюць — карыстаецца, чаму б і не?

Незадаволена зіркнула на дачку, якая прайшла цераз пакой на кухню, але нічога не сказала. Ні ёй (чаго ёй раптам уздумалася?), ні Наце, якая ці то ўжо спала ў крэсле, ці то проста сцялася ў ім з заплюшчанымі вачмі, млеючы ад кантакту са сваім душкай, сам-насам з ім, як ёй у гэты момант, пэўна ж, уяўлялася.

— Вам прынесці гарбаты?

Калі б у пакоі раптам разарвалася бомба, большага ўражання гэта, відаць, не зрабіла б. Як уджаленая, ускочыла і гэпнулася, цяжка абвалілася назад у крэсла Ната, мармычучы штосьці няўцямнае, уздрыгнула, сутаргава павяла плячмі Стэфа і, утропіўшыся ў дзяўчынку так, быццам тая ўяўляла сабою здань, прывід, перш чым вярнуць здольнасць што-небудзь вымавіць, доўга бязгучна жвакала губамі.

— Ты што, ідыётка, не разумееш...

Не дагаварыла. Не таму, што раптам заўважыла, як спакойна, калі не адкрыта насмешліва, усміхалася на яе спалох, на яе нарэшце выплеснуты, выкаўтнуты гнеў Нялюба,— раптам, невядома з якой прычыны, стаў мігаць, пакрыўся стракатым рабаціннем тэлеэкран і голас Кашпіроўскага патануў у шуме і трэску.

— Ат, чорт! Што з ім, Стэфа? — заёрзала, вяртаючыся да рэальнасці таго, што адбывалася, Ната.— Мо антэна ў сваім гняздзе ссунулася і знік кантакт?

— Зірні,— не зводзіла Стэфа вачэй з дачкі, чамусьці (з нейкай вар'яцкай упэўненасцю) перакананая, што гэта яе, Нялюбы, з'яўленне ў пакоі перапыніла сеанс экстрасенса.— Тэлевізар трэба памяняць, ды ўсё патрэбнай сумы не набіраецца.

Нялюба пазірала не на маці, не на мітушэнне ліній і каляровых плямін на экране, а на Нату, якая мітусілася каля тэлевізара, марна спрабуючы адладзіць, настроіць яго на работу, толькі што перапыненую, і ўсміхалася. Раззлаваная ж Стэфа, хоць гнеў, хутчэй за ўсё крыху найграны

(перад сяброўкаю няёмка!), ужо саступаў незнаёмай, раздражняльнай разгубленасці, такой неўласцівай для яе, ці таго больш — не ўсвядомленаму ні адразу, ні потым і таму быццам бы і наогул не ўзнікламу страху, ссунулася на край канапы, рыўком, рэзка паднялася: жаданне падскочыць да дзяўчынкі, страсянуць яе што ёсць моцы, ударыць было такім неадольным, што далёка не на першым кроку ў яе накірунку змагла ўзяць сябе ў рукі і аграмадным намаганнем волі ўтрымацца ад падобных дзеянняў.

Крок, яшчэ крок — і вось яны ўжо стаяць твар да твару, адна супраць другой, маці і дачка, такія розныя і, нягледзячы на ўсё знешняе падабенства, такія непадобныя, што здаюцца чужымі. Больш таго! — ворагамі, якім і варагаваць няма з-за чаго і прымірыцца, разысціся па-добраму немагчыма.

Першаю, упершыню ў сутычцы з дачкою адчуўшы сілу дзяўчынкі і яе непахіснасць, адступіла Стэфа.

— Мы — пілі ўжо — гарбату! — прамовіла запаволена, ледзь што не па складах.— І як-небудзь самі тут разбяромся.

— Канешне, канешне, я не падумала... Хацела як лепей.

Пайшла. Назад на кухню. Калі дзверы за ёю зачыніліся, Стэфа ўздыхнула з палёгкаю: чорт тое ведаў, чым бы іх супрацьстаянне скончылася, калі б не стрымала, не суцішыла яна свой гнеў!

— Вы так і не знайшлі за ўсе прамінулыя месяцы агульнай для абедзвюх мовы?

— Ды выключы ты яго! — перастаўшы стрымлівацца, злосна, несправядліва злосна кінула яна Наце, якая па-ранейшаму корпалася каля тэлевізара.— К чорту ўсіх Кашпіроўскіх!

— А ён, дарагуша, пры чым тут? А? — не пакрыўдзілася Ната і, хоць і выключыла няспраўны, сапсаваны раптам тэлевізар з яўным шкадаваннем, лёгка адмахнулася і ад гэтага шкадавання, і ад злосных Стэфіных слоў.— Сіла ў мужыку проста-такі ведзьмакоўская: чорт ведае адкуль наскрозь, здаецца, прасвечвае сваім цёмным, п’янлівым позіркам, такое высвечваючы... Та-ако-ое!

— Што ў параўнанні з гэтым усе нашы бальнічныя эксперыменты? — падумала ўголас, адказваючы не Наце, а хутчэй сабе, сваім думкам, Стэфа і нават злёгку ўздрыгнула, усвядоміўшы, што сказала тое, пра што лепш маўчаць, нават і з сяброўкаю.

Каб неяк выйсці са становішча і не даць Наце ўклініцца ў гаворку пасля яўна неасцярожнай фразы, загаварыла гучней і больш рашуча.

— Не за гарамі той час, калі твайго Кашпіроўскага асудзяць, забараніўшы падобную дзейнасць і яму і ўсім такім, як ён. На дзесяць, на дваццаць... А мо і на ўсе сто гадоў наперадзе! Задужа тонкай матэрыяй аперыруюць, задужа самаўпэўнена і безаглядна. А тут асцярожнасць патрэбна, любоў, калі хочаш...

Зноў яна гаварыла не тое, не так — быццам за язык хто ўвесь час цягнуў! Навошта наогул што-небудзь тлумачыць? Тым больш Наце, якую ніколі нічога сур'ёзна не цікавіла?

— Паслухай, родненькая, чаго ты раптам так нервуешся? — падсела Ната на канапу, блізарука ўзіраючыся ў яе твар.— З-за тэлевізара? З-за мяне і маёй веры ў Кашпіроўскага?

— Але ж ты не ўяўляеш...

— І не хачу ўяўляць! Не хачу, разумееш? — адкінуўшы даўгія свае валасы назад, за спіну, сцяла яна перад сабою рукі.— Не ў жыцці, дык з экрана хтосьці суцяшае мяне, улагоджвае, супакойвае — і што? Каму-небудзь я сваёю наіўнай вераю перашкаджаю? Не падабаецца Кашпіроўскі — не пазірай, выключы сваю скрынку на гэтыя паўгадзіны, а за ўсіх — за мяне! — вырашаць навошта?

— Не за ўсіх, Ната, а за ўсіх неразумных,— падалася да яе Стэфа, памкнуўшыся абняць, прыхінуць да сябе, і толькі ўсміхнулася, калі тая міжволі адхіснулася, нават крыху адсунулася.— Толькі тыя, хто ведаюць сілу і небяспеку псіхічнай энергіі, якой спрабуюць карыстацца сёння ўсе, каму ўздумаецца, адчуваюць трывогу: чалавека так лёгка ператварыць у зомбі, у манкурта, якім можна маніпуляваць колькі заўгодна і як заўгодна.

— Ну-у, ты дагаварылася! Пры чым тут...

— Пры тым. Экстрасенс такога кшталту, як Кашпіроўскі, канешне ж, мае моцную энергетыку ўздзеяння — сілу гіпнозу, па-іншаму, і тое, што ён выйшаў на падобныя масавыя сеансы, гаворыць не толькі пра духоўны ўзровень беднага, адурманенага палітыкамі народа нашага, гатовага паверыць хоць у д'ябла, абы адчуць хоць нейкую палёгку, хоць нейкі душэўны камфорт. Не толькі, на жаль...— усміхалася Стэфа крыху збянтэжанай яе сур'ёзнасцю і таму прыцiхлай Наце, у душы дзівячыся сабе, сваёй упартай зацятасці.— Справа ў тым, як мне, псіхіятру, здаецца, што ў адкрытых для прыёму прасторавай, касмічнай энергетыкі і ўсё-такі невысокіх па сваім духоўным узроўні людзях, такіх, як Кашпіроўскі,— так, так, як гэта ні крыўдна табе пачуць, у такіх, як ён! — часцей за ўсё знаходзіць гняздо, зручны прытулак злая сіла. Якраз злая сіла.

— Але чаму, чаму трэба думаць, што менавіта злая?
— Д'ябальская, калі так табе больш падабаецца.
— Чаму абавязкова злая, д'ябальская? — ёрзала па крайку канапы Ната пад пільным Стэфіным позіркам.
— Ды хоць бы таму, што калі б светлая сіла, чыстая энергетыка напоўніла каго-небудзь з двухногіх, трэба было б вітаць прыход Чалавека, прыход новага Ісуса Хрыста. Вось так, зайка.
— Думаеш, і ў ім — д'ябал?
— Думаю: яго, яго сілу ўздзеяння, унушэння, асабліва тады, калі яна скіравана на масы, на людскія скопішчы, няхай сабе і перад экранамі тэлевізараў, скарыстоўвае злая, д'ябальская сіла. Вынікі падобных сеансаў, вядомыя нам, спецыялістам, гавораць якраз за тое.
— І напляваць! Тым больш,— паднялася Ната і пайшла да стала, дзе ляжалі цыгарэты і запалкі,— што ў вас, спецыялістах, можа гаварыць простая зайздрасць.
— Зайздрасць? — зірнула ёй услед Стэфа.— Мажліва, і зайздрасць. Але перш — адчуванне, прафесійнае чуццё, зайка. Ведаючы, што думка, токі яе, скіраваныя ў прастору, не могуць не наткнуцца на чужыя, гэткія ж моцныя ці слабейшыя, і не пераўтварыцца, зліўшыся з імі, ці адштурхоўваючыся ад іх, цяжка пераканаць сябе ў адваротным. А калі яшчэ прастора аграмадная, прастора над цэлаю краінаю?
— Вылечваюцца ж некаторыя,— спрабавала, хоць і слаба, усё яшчэ бараніцца Ната.
— За кошт каго-небудзь непадалёку, а то і кагосьці вельмі далёкага: міжвольнае донарства так і застаецца невядомым, не даказаным. Чым і карыстаецца да пары да часу беспакарана Кашпіроўскі.
— А ты? Ты не карыстаешся?
Стэфа быццам увесь час падсвядома чакала з'яўлення дачкі і таго, што яна ўмяшаецца ў гаворку, амаль што не здзівілася, па крайняй меры, знешне, пачуўшы яе голас, яе пытанні. Павярнулася, зірнула на Нялюбу, якая застыла, чакаючы адказу, у дзвярах, перавяла позірк на напружаную, занадта напружаную (цыгарэта ўздрыгвала ў нервова сцятых пальцах) Нату і, перш чым адказаць, колькі імгненняў яшчэ памарудзіла, счакала. Калі ж адчула, што паўза ненатуральна зацягваецца, спакойна, не мяняючы ні позы, ні накірунку пагляду, кіўнула:
— І я карыстаюся. Спрабую карыстацца, калі ўзнікае патрэба.
— Але ж і ў табе няма любові. Ні да чалавека, ні да Уся-

вышняга,— азвалася ў поўнай цішыні, якая ўсталявалася ў пакоі пасля Стэфіных слоў, Нялюба.— А без гэтага нікога не злячыць, не наблізіць — ні хворага, ні незразуметага.

— Я пайду, Стэфа? — гасіла ў попельніцы толькі што прыпаленую цыгарэту Ната, і рухі і намер яе выглядалі рашучымі.

— Разам пойдзем,— паднялася Стэфа.— Самы час прайсціся, падыхаць свежым паветрам.

Дэманстратыўна («Чорт ведае што!») больш так і не зірнуўшы ў бок дзяўчынкі, выйшлі ў калідор абедзве разам: зашоргалі выцягнутыя з шафы туфлі, бразнуў аб штосьці цвёрдае раменьчык знятай з вешака сумкі, раз-пораз абзываліся на століку перад люстэркам скарыстаныя перш адной, потым другой жанчынай карабкі і карабочкі, цюбікі і шчотачкі.

І Стэфа, і яе госця, хоць ні ў якім разе не прызналіся б у гэтым нават самім сабе, міжволі прыслухоўваліся да гукаў, да крокаў у пакінутым толькі што пакоі. Адначасова страпянуліся, недаўменна зіркнуўшы адна на адну, калі ўслед за тым, як пстрыкнуў уключаны Нялюбаю тэлевізар, пачуўся выразны, спакойны голас дыктаркі, якая паведамляла: «А цяпер запрашаем усіх аматараў музыкі на канцэрт вядомай віяланчэлісткі Наталлі Гутман, які склалі творы Федэрыка Шапэна...»

25

У судзе, у вузкім і даволі цемнаватым калідоры было нешматлюдна, і ўсё ж чакаць Язэпу давялося: і прыехаў зарана, на цэлых паўгадзіны раней прызначанага часу, і якая-ніякая чарга набіралася. Нават калі па адной-дзвюх справах усе яны сабраліся, і на іх пэўны час спатрэбіцца... Ды і Ніны дасюль не было, хоць менавіта па пададзенай ёю заяве на развод іх сёння выклікалі.

Няўдачнік... Варты жалю вершаплёт... Рамантычны дурань... Мажліва, у Ніны і меліся нейкія свае падставы для падобных вызначэнняў (сам сябе, здаралася, не мякчэйшымі словамі асаджваў, прызямляў), мажліва, даўно, яшчэ тады, калі жонка заявіла недвухсэнсоўна, што не збіраецца нараджаць яму дзяцей, каб не пладзіць галечу на гэтым свеце, трэба было развесціся, і ўсё роўна на душы з самага ранку панаваў смутак: яшчэ адна вяха неўладкаванага жыцця, няспраўджанага спадзявання на шчасце, і колькі іх давядзецца мінуць, пакуль выб'ецца, выцерабіцца на правільны, на свой, шлях, ні ён, ні хто іншы напэўна не сказаў бы

і цяпер. Адно што Язэп не збіраўся адступацца, скарацца. Ні ў якім разе.

Нікому сёння не патрэбна паэзія? Так і застануцца нікім не заўважанымі, нікім не запатрабаванымі самыя чыстыя памкненні душы? Няпраўда. Ніводнае памкненне, ніводная шчырая, скіраваная на дабро думка не губляецца, не знікае ў пустаце ўжо хоць бы таму, што пустаты няма. Няма ў прыродзе. І калі думка асвятліла краёк душы, калі вершаваныя радкі агучылі куточак прасторы, бачыцца на крок далей, дыхаецца непараўнана лягчэй.

Урэшце, не ўсё ж жыццё чалавека ў тым, што яго змалку акружае,— ёсць іншае, унутранае, жыццё, і яно не менш складанае і часта больш трагічнае, чым знешняе, бачнае, і яно, няхай дрогкімі, нябачнымі, але моцнымі, жывымі ніточкамі спалучае кожнага (і яго, Язэпа) з іншымі, з цэлым людствам. Чаму ён павінен думаць пра сябе як пра вечнага самотніка, надзеленага нейкімі асаблівымі, нікому іншаму не ўласцівымі якасцямі? Навошта заведама, па ўласнай волі, адмаўляцца ад духоўнай еднасці з усімі тымі, хто гэтак жа, як і ён, пакутна, праз вечныя сумненні, шукалі свой адметны шлях на гэтым канкрэтным прамежку часу, гісторыі, вечнасці, і адмаўляцца адно таму, што плячом, спакутаваным у чаканні сэрцам не адчуваў іх блізкасці, не адчуваў слодычы, радасці супрацоўніцтва!

Адганяючы думкі, агледзеўся, прысеў на крэсла ў самым цямнейшым кутку калідора, хвіліну-другую сачыў за дзвярмі, адчыненымі ў спякотны летні дзень, напоўнены гулам матораў, водгуллем то таропкіх, то цяжкіх, няспешных крокаў і неразборлівымі адсюль, з памяшкання, галасамі і шолахамі: перагаворваліся, мінаючы ганак суда, прахожыя, лена, ледзь чутна перашэптваліся ў іх над галовамі пыльныя, разамлелыя ад спёкі ліпы, злёгку вызвоньвалі, напружваючыся, перш чым правесці, прапусціць чаргі вы тралейбус, шматлікія праўды і праўдкі... Горад там, за дзвярмі, жыў звыклым, тлумным жыццём, і ніхто ў цэлым горадзе і думаць не думаў пра яго, Язэпавы, сумненні: жывы, дык і жыві, пакутуй, імкніся, калі ёсць сіла і ахвота, дакапацца да сваёй чалавечай сутнасці!

Паэт Язэп Коржак... Цешыць, канешне. Ды толькі ці паэт ён? Здаралася ж, і тыдзень мінаў, і некалькі тыдняў, а ніводнага радка не з'яўлялася. Ні ў душы, ні на паперы. Паміраў ад тугі, ад невыноснага ў бяздзейнасці чакання, ад злоснай незадаволенасці ўсім і ўсімі, і сабою ў тым ліку, пакуль не накочвалася гарачая хваля святла (зямнога ці незямнога, ён ніколі не мог вызначыць), калі ўсё раптам

пераўтваралася ў гэтым святле, набываючы выразнасць, яснасць, калі ўсё пачынала гучаць. І словы таксама. Але дзе тут яго заслуга? Сваёю ж воляю, сваім, нават самым прагным, жаданнем не зрушваў з месца ніводнага слоўка!

За агароджаю гадоў
Чакае смерць — чакае воля —
Бязмежнае, як неба, поле
З няроўным ланцужком слядоў.

Чые сляды, вядуць куды —
Да ног Хрыста ці д'яблу ў рукі,
Не ўведаць без тугі і мукі,
Без мукі і сляпой жуды...

Чыё гэта? Чаму, як вывела ягоная рука гэтыя радкі? Прайшла паўз яго, паўз яго думкі цыбатая дзяўчынка з дзіўным, недзявочым імем Нялюба — і абудзілася, пачала жыць сваім, асобным ад яго, Язэпа, жыццём душа... Мо справа ў ёй, у зусім выпадкова сустрэтай некалі дзяўчынцы? Мо яна і ёсць ягоная Муза?

— Не цікавіўся, ці на месцы суддзя?

— Што? — няўцямна перапытаў, не заўважыўшы, хоць і сачыў увесь час за дзвярмі, прыходу Ніны.

— Я сама,— не стала перапытваць Ніна, скрывіўшы ўмела падмаляваныя капрызныя вусны, і рашуча пайшла да другіх па калідоры дзвярэй, якія паўгадзіны таму Язэп абмінуў зусім абыякава. Усяго міг-другі памарудзіла, адно каб вальней распрастаць плечы і какетлівым рухам выгнуць прыгожую шыю, і націснула на дзвярную ручку.— Вы дазволіце?

Ледзь толькі дзверы за ёю прычыніліся, Язэп падняўся, перакананы, што зараз паклічуць і яго. І не памыліўся. Бо вось ужо высунуўся, выглянуў у калідор, шукаючы яго паглядам, высокі, мажны вусач гадоў трыццаці пяці, вось ужо голас яго будзіў прыглушанае шумам вуліцы калідорнае рэха:

— Хто сярод прысутных — Язэп Коржак? Прайдзіце, калі ласка.

«Прайдзіце!» — фыркнуў, стараючыся суцішыць невядома чаго раптам усхваляванае сэрца, Язэп, але тыя некалькі неабходных крокаў да дзвярэй зрабіў знешне спакойна, са спакойнай рашучасцю: няхай гэты чыноўнік не думае...

У невялічкім пакойчыку, на крэсле, якое было высунута крыху ўперад, бліжэй да стала суддзі, з шэрагу гэткіх жа крэслаў уздоўж сцяны, сядзела, закінуўшы нага на нагу, Ніна — яна і галавы да былога (для яе ўжо даўно былога!) мужа не павярнула. Яму суддзя моўчкі, абыякавым жэстам

паказаў на другое крэсла, бліжэй да зануранай над стосам папер дамы без пэўнага ўзросту, хто ведае калі, па ўсім відаць, яшчэ ў далёкай маладосці, перафарбаванай у бландзінку — да судовай сакратаркі, няйначай, ад самага свайго нараджэння.

«За агароджаю гадоў чакае смерць — чакае воля...» — зноў прыйшлі на памяць радкі з верша, і ён смакаваў іх, паварочваў і так і гэтак, узіраючыся ў акно, якое выходзіла ў засень страката, скрозь лістоту асветленага дворыка, і, канешне ж, прапусціў першыя, зададзеныя больш для парадку пытанні.

— Ваш род заняткаў,— настойліва паўтарыў, узвысіўшы голас, суддзя і потым, на Язэпава таропкае «Прабачце!» дадаў хутчэй для сябе, а не па звыклай завядзёнцы: — Вырашаецца жыццёва важная справа, а вы, малады чалавек...

— Прабачце,— яшчэ раз схіліў галаву Язэп.— Я — пазаштатны карэспандэнт «Незалежнай газеты». І мару не аб тым, каб аднойчы апынуцца ў яе штаце, а аб тым, каб напісаць вартую сваіх памкненняў кнігу.

Апошняе казаў ужо не для яго, а для Ніны, але яна і выгляду не падала, што зразумела ці, таго больш, прыняла яго тлумачэнне: спакойна пакалыхвала прыгожа выстаўленую нагу, цярэбячы рукою раменьчык сумачкі, адразу ледзь толькі ўселася, пакладзенай на калені, і не зводзіла вачэй з суддзі, якога гэта (заўважна не адно для яе, а і для Язэпа) яўна хвалявала.

— Што складала даходы вашай сям'і?

— Даходы? Гэта так цяпер называецца?

— Адказвайце, калі ласка, на пастаўленае пытанне,— перапыніў суддзя, пазіраючы не на яго, а на Ніну.

— Так, так,— усміхнуўся Язэп,— канешне. Даходы сям'і, калі яе па людскіх і Божых мерках можна назваць сям'ёю, складалі ўсе гэтыя гады жончына зарплата і мае ганарары. Даволі сціплыя і нестабільныя, трэба прызнаць.

— Не спрабавалі ўладкавацца больш стабільна?

— Я працую,— спакойна патлумачыў.— І дзяржава плаціць за гэту не вельмі прадукцыйную пакуль што працу столькі, колькі можа. Шкада, што такога заробку не стае, каб аплачваць усё, чаго можа прагнуць і прагне спакон веку жанчына. Асабліва такая...

— Ніна Уладзіміраўна,— чарговы раз не даў яму дагаварыць суддзя,— вы не надумалі забраць сваю заяву?

— Не,— не змяніла позы Ніна.— Паўгода, як сям'я распалася, і я не знаходжу — ды і не шукаю, папраўдзе! — ніводнай зачэпкі, каб пачаць усё спачатку.

— Каханне падманула, дзіця займець не пажадала,— ёй у тон прадоўжыў Язэп і, тут жа адчуўшы, што парадыруе і так парадыйную сітуацыю, змоўк і пасля ўзніклай па яго віне доўгай паўзы змушаны быў, каб неяк змякчыць сваю хлапчукоўскую выхадку, дадаць: — На вялікі жаль, я не той, хто патрэбен Ніне, і, калі гэта стала ясна і ёй і мне, нічога ў нас ужо не атрымаецца.

— Кватэру вы атрымалі разам? — звяртаўся да Ніны суддзя, і Язэп, хоць і насцярожыўся, чакаючы Нінінага адказу, ніяк знешне не зрэагаваў ні на пытанне, ні на характарыстыку кватэры, зачытаную з ліста прыемным ва ўсіх адносінах чыноўнікам.— Аднапакаёўка... чатырнаццаць квадратных... першы паверх у хрушчоўскім пяціпавярховіку...

— На тое, што вы называеце кватэраю,— заўсміхалася яму, ці то падтрымліваючы, ці то запыняючы, Ніна,— прэтэнзій не маю: я ў гэтым клапоўніку, прабачце за параўнанне, у свой час нават не прапісвалася.

Сцяўшыся, як ад удару ніжэй пояса, Язэп зрабіў адзін, потым другі глыбокі ўдых, каб расслабіцца і ўтрымацца ад адказу. Ад любога адказу. Тым больш, што яго ўмяшанне ў гаворку Ніны з суддзёю, па ўсім відаць, ужо не патрабавалася: ішлі нязначныя ўдакладненні, агаворваліся ўмовы аплаты судовых расходаў, яшчэ якіясьці дэталі судовага працэсу, які нідзе ні на міг не забуксаваў і заканчваўся, як значылася ў судовым рашэнні, на карысць абодвух бакоў. Ужо ж, на карысць! А хто з іх і як ёю, гэтаю карысцю, распарадзіцца з цягам часу, пакажа сам час.

— Выпіску з рашэння суда можна будзе атрымаць заўтра апаўдня. У Тамары Аркадзеўны,— падняўся суддзя. Падняўся, каб дапамагчы Ніне, занадта паспешна, змусіўшы насупленую Тамару Аркадзеўну ледзьве не ўпершыню адарваць пагляд ад папер і зіркнуць на яго з непрыхаваным асуджэннем.

— Я вам вельмі ўдзячна, Віктар Аляксандравіч,— праігнаравала і яе позірк і яе сама Ніна.— Спадзяюся яшчэ ўбачыць вас. Не заўтра, дык неяк іншым разам. З іншай нагоды.

Той толькі рукамі развёў, уступаючы Язэпу праход, і падкрэслена афіцыйна, так, нібыта адно цяпер успомніў і пра свой статус афіцыйнай асобы, і пра далікатнасць разгледжанай справы аб разводзе, і пра насупленую сакратарку ў сябе за спіною, развітаўся: пташка выпырхнула і таму, што трапіць неяк яму ў рукі яшчэ раз, з іншай, як абяцала, нагоды, веры не было.

Міжволі, па звычцы, зіркнуўшы на гадзіннік, Язэп здзівіўся: яны правялі ў кабінеце больш гадзіны? Але ж гэта азначала, што добрую палову са сказанага там ён проста не чуў...

— Ты задаволены?

— А ты?

— Вуе-вуе, дарагі.

— Не пацалуеш на развітанне?

— Абыдзешся! — узмахнула рукою, кіруючыся да цёмналіловай «васьмёркі», якая чакала яе непадалёку.

— Абыдуся,— буркнуў Язэп і павярнуў зусім у супрацьлеглы бок адно з прынцыпу: яго, дурня, яшчэ сумненні ўвесь час, да самага апошняга моманту, грызлі! Няўцешная сяброўка... Як жа! За другім разам яна ў сваім выбары не памыліцца, ён мог быць спакойным!

«Чаго гэта ты? — абарваў сябе ў думках.— І ты ж вольны. Вольны, як вецер. Радавацца трэба!»

Але радасць гарчыла. Чамусьці ўсё-такі гарчыла.

— Час не падкажаце?

— Канец свету,— падняў вочы на абчапляную сумкамі таўстуху, якая, змянеўшы ад яго адказу, на міг-другі прыстыла да тратуару, і адчуў прыкрасць, счырванеў ад няёмкасці.— Прабачце, я не пачуў. Цяпер палова на пятую, шаноўная.

Матлянуўся прэч. Цераз вуліцу. Ледзьве не трапіўшы пад легкавік, які нечакана вынырнуў з бліжняга завулка. Аблаяў сябе, сваю рассеянасць яшчэ цяжэйшымі, чым у вадзіцеля легкавіка, словамі, і, адчуўшы палёгку, пашыбаваў уніз, да ракі, у сквер над ракою: трэба пабыць сярод дрэў, памаўчаць, падумаць. Раптам напаткае там...

Не напаткае, не. Трэці месяц нідзе, ні ў адной з тых мясцін, дзе яна бывала раней, не траплялася яму дзіўная дзяўчынка: як ужо гукала сэрца, а ўсё дарэмна.

Гадзінамі, суткамі часам, шалеў над вершамі, над радкамі, якія нараджаліся самі сабою, кружыліся вакол, агучваючы цішыню голасам юнай летуценніцы — вось-вось, здавалася, ухопіць Язэп нітачку, срэбны праменьчык, які спалучыць, звяжа яго з Нялюбаю, але ўсё, што заставалася ў яго пасля, у выніку аграмадных намаганняў,— вершы, гуканні яго ў прастору, у вечнасць. Ды яшчэ туга, глыбокая туга па нечым недасягальным нават для думак.

«А раптам — гэта каханне? Раптам ты проста па вушы закахаўся, стары, і закахаўся ў прывід?» — зноў і зноў спрабаваў усмешкаю неяк зазямліць нязвыкласць, невымернасць дзіўнага, не знаёмага раней пачуцця, але ўсмеш-

ка згасала ў новай хвалі святла, якая накочвалася невядома адкуль і сплывала невядома куды, пакідаючы ў сэрцы, у народжаных у ім вершах, журботны, радасны след. Не імя, толькі светлы радасны след...

Трэба было нешта рабіць, а што ён мог зрабіць? Што?

26

«Дзівоснае покрыва раскінута небам над зямлёю, дзівосныя кветкі зацвітаюць на гэтым покрыве, вабячы позіркі людскія, ачышчаючы, зорным агнём прычашчаючы душы іхнія, а людзі... Людзі, замест таго, каб узвысіцца, падняцца да яго, пнуцца, робяць усё, каб уніз, да сябе, пацягнуць, і думаць не думаючы, што нават самае гаючае страчвае сілу сваю ў брудзе зямным»,— загучаў у ёй голас, і Нялюба застыла перад акном, за якім узыходзіла яркае, вогненнае сонца, укленчыла перад ім, як перад абразом Госпадніім, чуйна ўслухоўваючыся, баючыся парушыць, разарваць узніклую повязь.

«Адкрыта сэрца маё, адкрыта...»

«Прагнучы лёгкага, паказнога ачышчэння, скамячылі, запэцкалі людзі прагнымі рукамі адзежу Хрыста — доўга адмываць давядзецца... І табе давядзецца, дзіця, не ў гэтым жыцці, дык у іншым,— гучалі, абцякалі яе словы.— Ніхто не можа ўратаваць каго іншага ад наступу цёмнай сілы, бо ўзгадавана, выпеставана тая сіла ў душы чалавека і павінна быць пераможана ім самім».

«Але ж да Цябе, Уладыка, звяртаюцца з вераю, што дапаможаш, падтрымаеш...» — асмелілася Нялюба запярэчыць.

«Дапамагаю... падтрымліваю... Не стамляюцца вучні мае даводзіць усім і ўсюды: пакуль не зразумее кожны ўсяе велічы свайго паходжання, што ён ёсць частачка Боскага Я ва ўсёй зменлівасці ўсемагчымых формаў, і што за ўсё і адказнасць на ім самім, і што няма нікога, хто мог бы дараваць яму грахі ягоныя ці аддзячыць за заслугі ягоныя, і што адно сам ён і сейбіт і жнец усяго створанага ім, не заўсёды ў духу і ісціне, да таго часу будзе тварыць, насаджаць ён тыя вар'яцтвы, злачыннасць і распусту, якія даўно пагражаюць зямлі страшнай пагібеллю».

«Не дапусці гэтага, Уладыка! Ты ж не дапусціш гэтага, так?» — з маленнем звярталася яна да неба, слепнучы ад святла, ад гарачага яго ззяння.

«Сілаю, гвалтам нельга перапыніць шлях, якім ідзе чалавецтва, інакш злосніцтва і жорсткасць пяройдуць у

зверства. Толькі сваёю воляю, толькі свядома робіцца выбар — і кожным з вас, дзіця, паасобку, і ўсімі разам. Зроблены ж выбар вядзе ці да Бога, ці да д'ябла, і неба не ўмешваецца...»

«Да Цябе, да Цябе, Уладыка, звяртаюцца людзі з вераю, што дапаможаш, падтрымаеш!» — спрабавала Нялюба словамі, маленнем суцішыць боль, які разрываў грудзі.

«Шмат будзе залежаць ад жанчыны: скрозь яна вядзе, яна натхняе, яна чуйным сэрцам сваім адчувае правільны кірунак! Сцвярджаю: сцяг вялікай Раўнавагі Свету падніме на шляху чалавецтва жанчына. Наступае той час, калі яна паўстане і адваюе правa ад яе забранае ці аддадзенае ёю па сваёй волі, каб паспець, паспець саткаць крылы Святла ад Зямлі да самых аддаленых Светаў».

«А калі... калі не паспее?» — адно намаганнем волі не губляла яна прытомнасці.

«Занадта вялікая барацьба для аднаго жыцця. Занадта вялікія здольнасці душы для аднаго круга... Пачатак і канец зліваюцца, служачы кропкаю апоры, кропкаю адліку, калі, уразумеўшы, што завяршэнне ёсць пачатак, дух пачынае спасцігаць, прымае ўсю сутнасць Быцця».

«Сказана: "Не памром, але зменімся..."»

«Ты, дзіця, чысцінёю сэрца, чысцінёю любові да ўсяго зямнога і нябеснага скарачаеш шлях да мяне, далёка ззаду пакідаючы тых, хто ў слепаце сваёй гатовы ўзненавідзець цябе. Сцеражыся: чым вышэй падымаешся, тым больш драбнееш у вачах зайздрасці, тым люцей праяўляюцца скіраваныя на цябе людская зайздрасць, людская нянавісць».

«З Тваёю дапамогаю...»

Боль, стогн вырваўся з грудзей з такою сілаю, што, адштурхнутая ім, Нялюба не ўтрымалася, упала — нязграбна, бокам, балюча падламаўшы пад сябе руку, абсунулася на падлогу. І хоць адчула холад бетоннай, адно тонкім лінолеумам пакрытай падлогі, не адразу, не ў міг падзення, ачуняла. Перш пачула цяжкія мужчынскія крокі, якія, здавалася, скаланалі ўвесь дом, потым рухі, пякучыя дотыкі чужых, прагных рук...

Лыпнула вачмі — і не адразу ўцяміла, што адбылося, што адбывалася. Хтосьці трымаў яе на руках? Яе кудысьці неслі?

Тузанулася. Раз, і другі раз.

— Палягчэла? Табе трэба трохі паляжаць, я зараз... На ложку, пагадзіся, усё-такі зручней, чым на падлозе.

Ужо хацела ўздыхнуць з палёгкаю, пазнаючы, пазнаўшы голас матчынага прыяцеля, але штосьці не давала, штосьці... Рукі! Гэта залішне смелыя, прагныя рукі Зянонавы не давалі ёй расслабіцца! Ужо ж і на ложак яе апусцілі, і падушку паправілі, і адпусцілі нібыта —ажно не, не адпускалі, чапляліся за яе ўсё яшчэ не вельмі паслухмянае цела, то лёгенька пагладжваючы яго, то, здавалася, на міг-другі ўпіваючыся ў яго.

— Што вы робіце? — абурылася Нялюба, перш і ў думках не дапускаючы магчымасці гвалту, гвалтоўнага намеру ашалелага раптам ад яе блізкасці Зянона.— Дзе Стэфа?

— Навошта Стэфа? Пры чым тут Стэфа? Ты толькі не хвалюйся, добра? Табе няма чаго хвалявацца. Трэба адляжацца, і ўсё... І ўсё,— угаворваў ён яе, як малую, стоячы перад ложкам на каленях, і калі б Нялюба зірнула, калі б магла зірнуць на ягоны твар збоку, то напэўна ўбачыла б, што Зянон цьмяна ўяўляў, што гаварылі вусны, а што — рукі.— Такіх, як ты, не бывае, даўно няма... Я знаю. Я чакаў цябе ўсё сваё жыццё, і сам не раз смяяўся са свайго чакання.

— Не чапайце мяне! Не дакранайцеся да мяне,— адсоўвалася ўглыб ложка, марна спрабуючы адцерабіцца ад ягоных рук Нялюба, і хоць сіла паціху вярталася да яе, падняцца, саскочыць з ложка, каб пагукаць Стэфу, пагукаць каго з суседзяў, калі Стэфа яшчэ не прыйшла, усё яшчэ не магла. І таму баранілася адно бязгучнаю, бясслоўнаю малітваю, звернутаю да Усявышняга, ды кволымі ўзмахамі рук.

— Не бойся! Не бойся мяне,— паўтараў Зянон раз-по-раз, не адступаючыся, камечачы, цягнучы да сябе яе стары халацік так таропка, з такою сілаю, што тканіна распаўзалася ў пальцах.— Я хачу крануцца, пацалаваць...

— Што-о?!

Не крык, гнеўны і балючы, пачуў Зянон у той момант, калі рука яго, расхінуўшы, разарваўшы халат, слізнула вышэй, услед за шалёным, ненасытным паглядам, а ўдар. Удар, больш падобны да моцнага электрычнага разрада, які, асляпіўшы, адкінуў яго да супрацьлеглай сцяны з такою сілаю, што косткі хруснулі. Памкнуўся ўстаць — не здолеў, злосна, са злоснаю нецярплівасцю сплюнуў — плявок, вярнуўшыся, чмякнуўся яму ж у твар, застагнаў ад бяссілля, ад бяссільнае крыўды на нябачнага абаронцу — пачуў жа не стогн, а плач. Ціхі дзіцячы плач.

«Нячысцік паблытаў, няйначай»,— мільганула ў думках, і хоць тлумачэнне яўна не выдавала бліскучым, чамусьці

стала крыху лягчэй. Зянон здолеў нават зварухнуцца, варухнуў перш адною рукой, потым другою. Па-ранейшаму нічога не бачыў — усё плыло, расплывалася, як у тумане — але ж рухацца мог і, калі прыкладзе колькі добрых намаганняў, здолее выбрацца з пакоя. Здолее, хоць усё яшчэ не ўяўляў, дзе, у якім баку ад яго знаходзіліся выратавальныя дзверы — сцяна і сцяна, колькі ні абмацваў рукамі.

— Нячысцік паблытаў, няйначай...— буркнуў, прабурчаў тое, пра што думаў, але сэнсу не ўлавіў.

Нічога, ніводнае пачуцце ў душы не абзывалася. Зянон ні пра дзяўчынку больш не памятаў, ні пра сваё шалёнае жаданне завалодаць ёю, яе чыстым некранутым хараством — усё, і тое, што адбылося колькі хвілін таму, і тое, што чакала яго за парогам гэтага пакоя, гэтага дня, злівалася ў адну белую дрогкую пляміну перад вачмі: ён павінен знайсці выхад! ён павінен!

Прасоўваўся ўздоўж сцяны бокам, ледзь што не на карачках, так і не змусіўшы сябе падняцца на ногі, устаць у поўны рост, і, калі ўгледзеў у ліпкім белым мроіве вакол цёмную, падобную да ручаінкі шчыліну, не задумаўшыся і на імгненне, памкнуўся ў тым кірунку: зрух, яшчэ адзін, яшчэ... Сцяна правальвалася некуды ў пустату, у паўзмрок, і там — дзверы, там — выхад!

Ціхі, па-дзіцячы няўцешны плач чуўся па-ранейшаму аднекуль ззаду, з-за плячэй, але ці мала хто дзе плакаў — блізка альбо далёка! Дзверы паддаліся, зрок паціху, па праменьчыку, вяртаўся: Зянон нідзе, ніводнага разу не ўпаў, не спатыкнуўся, а выйшаўшы на вуліцу і трапіўшы ў вулічны натоўп, нікога, ніводнага з сустрэчных прахожых і плечуком не зачапіў. Здалося аднойчы, што хтосьці яго гукаў, пагукаў, але, напэўна, здалося, бо даўно ўжо ні крокаў сваіх, ні чыіх бы там ні было галасоў, ні гулу машын з-за плачу не чуў.

Хвіліны перацякалі ў гадзіны, суцемкі змяніліся вечарам, вечар заканчваўся і блізілася, каб паглынуць, заглынуць яго, ноч, а плач у яго ў вушах не сціхаў.

— Паслухайце, чорт вазьмі, можна памяняць пласцінку? — гнеўна абурыўшыся, зароў, калі гэты плач зрабіўся невыносным, нясцерпна гучным.— Памяняйце пласцінку, кажу!

— Зянон, ты напіўся. Напіўся, прабач, як сапожнік,— абдымаў яго хтосьці за плечы, і ад усведамлення гэтага стала чамусьці яшчэ горш.

— Ты хто? — зашморгаў, заплюхаў носам ужо сам, адчу-

ваючы, што гарачыя, пякучыя слёзы вось-вось пырснуць з вачэй, зальюць твар.— Хто ты такі, каб мяне, акцёра Божаю ласкаю, шкадаваць? Га?

— Хіба гэта мае якое-небудзь значэнне, стары? Ты цэлы вечар наліваў мне, як самому сабе, сабакам бы я быў, калі б кінуў цябе аднаго тут, пад дзвярамі начной забягалаўкі.

— Кінь! Хрэн з ім з усім! — выціраў Зянон мокры ад слёз твар аб плячо выпадковага свайго прыяцеля.— Я нікуды не пайду, чуеш? Ні-ку-ды!

— Ну і дурань. Я ж як лепш... Таксі чакае.

— Ды пайшоў ты разам з ім...

Пайшоў. Зянон бачыў, як хіснуўся следам і знік, растварыўся ў ночы яго не вельмі выразны цень, чуў, як рванулася з месца машына, і — не бачыў, не чуў нічога: цішыня, раптоўная і аграмадная, як ноч вакол, абвалілася на яго ўсім сваім цяжарам — ні зварухнуцца, ні ўздыхнуць, і адно слёзы цяклі і цяклі па шчоках, вымываючы баразёнкі няўцямнай, незнаёмай тугі.

Штосьці ім, Зянонам, было ў гэты вечар незваротна страчана, што — ведала адно ноч, а ноч глуха, зацята маўчала.

27

І ноч мінула, і дзень дагараў, паступова пераходзячы, перасоўваючыся ў засень таполяў,— Нялюба дамоў так і не прыйшла. І Стэфа, збіраючыся праз тры дні ад'язджаць на мора, у Кактэбель з Зянонам, напачатку злавала: знікла ж некуды якраз тады, калі спраў па горла і патрэбна дапамога! Думка пра тое, што магло што-небудзь здарыцца, не прыходзіла ёй у галаву: што там магло здарыцца? Горш было тое, што Зянон, адгарадзіўшыся сваім клопатам, не зазіраў.

Злосць адбірала і тую сілу, якою Стэфа трымалася ўвесь гэты доўгі спякотны дзень: яшчэ адзін-два гэткія ж шалёныя ўсплёскі — і ніхто і нішто не падняло б яе з ложка да самай раніцы. Гары яно гарам, усё непераробленае! Ведама ж, шчасце баба ўхапіла — паездку на турбазу ў Крым з каханкам, якому напляваць і на паездку, і на ўсё тое, што даводзілася Стэфе пракручваць, каб вымаліць у галоўурача адпачынак за свой кошт якраз на гэтыя дні, падрыхтаваць сякі-такі патрэбны на крымскіх пляжах гардэроб, угаварыць Нату прыглядваць на працягу ўсіх двух тыдняў за дачкою: клопат невялікі, але праз дні чатыры ў той пачыналіся ўступныя экзамены ва ўніверсітэт...

— Ало! Ало, чорт вазьмі!

— Анёлак гневаецца? З чаго б раптам, на ноч гледзячы?

— А-а, гэта ты,— пазнала голас Жыноўскага і ў першы момант нават узрадавалася: усё было з кім пагаварыць, хоць і па тэлефоне, а то тое і чакай, што злосцю захлынешся.— Загневаешся тут! Усё пайшло неяк наперакасяк, Анатоль. Калі б верыла ўсякім забабонам, напэўна, устрымалася б ад паездкі, няхай сабе не толькі запланаванае, а ўжо, па сутнасці, падрыхтаванае: то адно не так, то другое.

— Ды што — адно, што — другое, дурніца? Надарылася магчымасць вырвацца з абрыдлай паўсядзённасці, паляжаць пузам угору на гарачым пясочку — і дзе! на крымскім узбярэжжы! — а ты смэркі развешваеш. Нічога ж экстраардынарнага не здарылася ні за гэты дзень, ні за гэты вечар, спадзяюся?

— Экстраардынарнага? Ды не, здаецца...— упершыню, невядома чаму раптам, кальнула яе трывога.— Дзеўкі другі дзень няма, а так...

— Няма? Як гэта няма? — усклікнуў той так узрушана, быццам толькі і чакаў нечага падобнага.— Ты шукала? Звярталася куды-небудзь з запытаннем?

— Куды? Куды, чорт вазьмі, я павінна звяртацца, калі і думаць не думала пра яе ўвесь дзень? Не да таго, ведаеш: не на печы ж, урэшце, ляжала...

— Але ж гэта ўжо другая, Стэфа,— прыцішыў голас Жыноўскі, не хаваючы раптоўнае трывогі, якая змяніла ўзрушэнне.— Другая, разумееш? Ты гэта разумееш?

— Што ты маеш на ўвазе, Анатоль? — разнервавалася Стэфа, адчуўшы, учуўшы за ягонымі словамі яшчэ адну перашкоду, якую давядзецца адольваць, па ўсім відаць, не адкладваючы.— Што значыць — другая? Не хочаш жа ты сказаць...

— Менавіта гэта я і хачу сказаць,— рэзка абарваў ён яе.— Мая табе парада, даражэнькая: абзвані як мага хутчэй усе бальніцы, дай неабходныя звесткі ў міліцыю. Пакуль не позна.

— Але ж...

— Ёсць тут нейкая загадка, якую мне пакуль што не разгадаць, але я... Я патэлефаную пазней!

Кароткія гудкі ў трубцы напалохалі Стэфу больш, чым пачутыя словы: што ён унюхаў, гэты псіх? На што намякаў?

Утаропіўшыся ў трубку, якую ўсё яшчэ трымала ў руках, думала нядоўга. Пстрыкнула рычажком і, дачакаўшыся гудка доўгага, пачала набіраць нумар сяброўкі.

— Ната, зноў я,— заспяшалася.— Зрабі мне адну не вельмі прыемную паслугу, а?

— Дык мы ж пра ўсё нібыта дамовіліся,— засмяялася тая.

— Справа ў тым, што дзеўка нечакана знікла. Другі дзень дамоў не з'яўляецца,— патлумачыла, адно для таго, каб выказаць сваю просьбу.— Не змагла б ты — праз свайго былога! — адшукаць для мяне тэлефон забытага татачкі?

— Ка-го?!

— Сцяпана. Бацькі Нялюбінага. Ён жа па міністэрскіх калідорах штодня шпацыруе, мажлівасці яўна большыя, чым у мяне. Няхай бы пашчыраваў трохі на старасці гадоў дзеля дачушкі.

— Ты звар'яцела...

— Я чакаю нумар тэлефона, Ната.

Глыбока ўздыхнула, аднаўляючы рытм дыхання. Пацягнула шнур, разматала яго да канца, каб перанесці апарат у пакой, бліжэй да канапы, на якую тут жа, зусім бяссільная, плюхнулася, распростваючыся, выпростваючы ногі. Штосьці ва ўсім, што адбывалася, не сыходзілася — што? Нічога асаблівага ў паводзінах дзяўчынкі апошнім часам не заўважалася. Мо толькі ўсміхалася часцей, чым да паездкі на Салавецкія астравы, нейк дзіўна святлеючы тварам, дык жа ўсміхалася і ўсміхалася. Падручнікаў не адкідвала, да экзаменаў рыхтавалася сур'ёзна, чаго, урэшце, яшчэ?

Сутычкі паміж імі не ўспыхвалі, і даўно ўжо: прыцёрліся, прызвычаіліся адна да адной за год, ды і дзяліць, папраўдзе, не было чаго. Дваццаць восем метраў хрушчоўкі? У малой ставала розуму не ўставаць у маці на дарозе, што б урэшце ні адбывалася на гэтых метрах: уліпала ў які-небудзь куточак і спакойна адгароджвалася ад усяго навушнікамі.

Не, не, нічым, звязаным з ёю, Стэфаю, сыход з дому не вытлумачваўся. Тым больш цяпер, калі сякія-такія адносіны, даволі цярпімыя для абедзвюх, паміж імі ўсталяваліся і ўмовы сумеснага пражывання выпрацаваны. Чыстая яна, Стэфа, і перад людзьмі, як кажуць, і перад Богам. Але тады... Тады, атрымлівалася, у той лухце, якую нёс па тэлефоне Жыноўскі, быў не толькі намёк!

— Цьфу ты! — зазлавала цяпер ужо на самую сябе: ляжыць, разважае, замест таго, каб узяць сябе ў рукі, і супакоіцца, і знайсці сабе занятак сярод поўнага вэрхалу рэчаў і думак.

Падбіла вышэй падушку і села, абхапіўшы калені рукамі і, сцяўшыся ў пругкі, спружыністы камячок, у любы момант гатовы распрастацца, падкінуць, кінуць яе да дзвярэй ці да тэлефона: абыякавасць змянілася ўпэўненасцю, што зда-

рылася самае горшае і цяпер павінна з'явіцца толькі пацвярджэнне...

— Ну што? Знайшла? — не дала Наце і рота раскрыць.— Дыктуй. Дваццаць дзевяць — чатырнаццаць — нуль-два...— Дыктавала руцэ, спяшаючыся.— Спадзяюся, гэта хатні тэлефон?

«Дваццаць дзевяць — чатырнаццаць — нуль-два...— пачала набіраць патрэбны нумар, хоць і адчула, як раптам, раптоўна адхлынуў ад твару, ад цела жар і ўся яна пакрылася ледзяною скарынкаю холаду.— Ну ж, ну!»

— Вас слухаюць,— звыкла-абыякава азваўся халодны жаночы голас, і Стэфе давялося зрабіць пэўнае намаганне, каб не заскрыгатаць зубамі і адказаць як мага спакайней.

— Ёсць пільная, неадкладная патрэба перамовіцца са Сцяпанам Аляксандравічам, хоць я прашу прабачэння...

— Хто яго просіць? — пачулася ў голасе лёгкая насцярога.

— Хто? — захлынулася раптоўнаю нянавісцю Стэфа.— Маці ягонай пазашлюбнай дачкі.

Не сказала, а секанула наводмах, з усяго размаху: кожнай — свая ношка праўды? Няхай так!

— Ш-што?! — запнулася на слове шаноўная матрона, яўна глыбока ўражаная і пачутым, і тонам, якім было сказана.— Пачакайце адну хвіліну.

Хвіліна доўжылася і доўжылася. Стэфа чакала.

— Добры вечар,— нарэшце пачула яна ў трубцы голас гаспадара, які пры выпадку, канешне ж, не пазнала б.— З кім маю гонар гутарыць? Вы часам не наблыталі...

— Я — нічога — не — наблытала, Сцяпан Аляксандравіч, і вы гэта цудоўна ведаеце,— рэзка, залішне рэзка пачала яна і змусіла сябе тут жа змякчыць крыху тон і засяродзіцца не на ўспамінах, якія зноў усплылі з далёкага мінулага, а на тым, дзеля чаго званіла.— І тэлефаную толькі таму, што дачка, ваша... наша з вамі дачка нечакана прапала. Другі дзень як няма. І я падумала, што вы... Што вы дапаможаце ў росшуку. Вы дапаможаце?

Трубка не абзывалася. Стэфа з паўхвіліны слухала цяжкое дыханне яўна не маладога ўжо чалавека, і не ведала, што і падумаць.

— Урэшце, гэта першая мая просьба за ўсе прамінулыя гады,— прадоўжыла, ужо ледзьве не шкадуючы, што патурбавала старога ў гэты вечар.— Я проста не ведаю, што рабіць.

— Так, так,— выйшаў той нарэшце са здранцвення.— Я ўсё зразумеў. Патрэбны даныя. Хаця... Я звяжуся з МУСам

і даручу каму-небудзь росшук. Та... Вам як потым паведаміць?

— Буду чакаць каля тэлефона. Нумар: дваццаць сем — дваццаць — дзевятнаццаць. Дзякуй.

«Дрэнь ты, дзеўка! Яшчэ тая дрэнь, калі задумацца!» — лена вылаяла сябе ў думках за зроблены званок, у душы задаволеная яго вынікам: на нейкі час, хоць бы толькі на ноч наперадзе, спіхнула праблему на дужэйшага, на мужчыну, а тое, ці мела права зрабіць гэта і зрабіць падобным чынам, нікога, апроч яе, Стэфы, урэшце не тычылася. Зрабіла і зрабіла. Усё роўна без Сцяпанавай дапамогі не абышлося б, так што на гадзіну раней, на гадзіну пазней...

Доўга, занадта доўга жыла ў ёй нянавісць да Сцяпана: усё жыццё яе пайшло наперакасяк пасля тае, праведзенае з ім ночы, згарэла, так і не ўспыхнуўшы ніколі больш ні да каго, каханне, якому так недарэчна, так не па-людску змусіў ён яе здрадзіць, і што — дараваць? Дараваць і забыць?

Ат! Можна было пайсці прылегчы: да раніцы наўрад ці што высветліцца... Паспрабавала падагнаць сябе, але сілы падняцца з канапы, дабрысці да ложка і разабраць пасцель яўна не хапала. Таму скруцілася клубочкам прама на канапе і заплюшчыла вочы. Святла не выключала — яно не перашкаджала — проста прымружыла вочы і такім чынам адгарадзілася ад прамінулага дня, ад нечаканага клопату, ад усіх сказаных і не сказаных за вечар слоў.

Чарговы паварот? Чарговы балючы злом лёсу? Ёй жа ўжо далёка не васемнаццаць! Паспела абнюхаць усе куткі і закуточкі абмежаванай як і ва ўсіх, жыццём, полам, прафесіяй рэчаіснасці, дрэнню адусюль пахла, дрэнню і затхласцю. Адно толькі вочы ўгору падняць...

Неба, ледзь толькі Стэфа падняла вочы, адступіла. Адхіснулася. І каб праменьчык дзе выбліснуў! Роўнае, матавае, даволі цьмянае свячэнне паветра не давала загуснуць, настаяцца змроку і прыкрыць бляклую зеляніну лазняку крыху воддаль, крокаў за дзесяць ад яе, і сцежку, добра знаёмую сцежку, якая хавалася ў яе зарасніку, але адкуль яно, гэта свячэнне сыходзіла, вызначыць так і не ўдавалася, колькі ні ўзіралася Стэфа ў далягляд, у вышыню, з даляглядам злітую. Хоць не гэта, урэшце, яе зацікавіла; ці то здалося, як неаднойчы ўжо здавалася, ці то ўзапраўду ўбачылася толькі што, у адно з кароткіх імгненняў, што зверху, з засланага белым мроівам неба апусцілася ў лазняк птушка. Белая з залатымі іскрамі на пер'і птушка, за якою яна, Стэфа, каторы ўжо дзень, каторы год палява-

ла, прагнучы падстрэліць, прагнучы прысвоіць чароўнае апярэнне.

— Гэ-э-эй! — ціха гукнула насустрач лазняку, насустрач яго шапаценню.— Аддай мне птушку, чуеш?

— Ш-ш-ш-ш! — адбегся шолах, і на хвалі яго, на зломе пругкай і зусім бязлістай галінкі з'явілася птушка.

— А-а, вось ты дзе! — здымала з пляча лук Стэфа, не адпускаючы яе адразу прасвятлелым паглядам.— Сама ў рукі ідзеш...

Птушка, сочачы за яе набліжэннем, не выказвала ні насцярогі, ні намеру ўспырхнуць і адляцець далей. Нерухомая, зіхоткая ў белым мроіве дня і ад таго яшчэ больш прывабная, яшчэ больш жаданая, яна пазірала на Стэфу, на лук у яе руках, і адно ціхае пакалыханне галінкі гаварыла за тое, што яна была рэальнаю. Блізкаю. Жывою.

Выпушчаная ўмелаю рукою страла з лёгкім, ледзь чутным свістам рассекла паветра — і працяла, прабіла зіхоткае цельца птушкі, прайшоўшы наскрозь. Наскрозь! — Стэфа бачыла гэта на свае вочы, а птушка не здрыганулася. Толькі злёгку калыхнула пер'ем, атросшы, асыпаўшы долу колькі гарачых іскрачак.

— Ах, так! — выцягвала Стэфа другую стралу, падступаючыся, падкрадваючыся яшчэ на два-тры крокі бліжэй.— Ну, чакай жа!

Посвіст стралы, якая зноў патрапіла ў цэль і зноў аказалася бяссільнаю, ледзьве паспеў аціхнуць, а Стэфа робіць новую, трэцюю спробу, цэлячыся яшчэ старанней: стольк гадоў ганяцца за вогненнаю птушкаю, высочваць яе і ў спёку і ў непагадзь, каб, высачыўшы, упаляваўшы, застацца ні з чым? Ды яна яе сваімі рукамі, сваімі рукамі...

— Ш-ш-ш-ш! — пакаціўся, збіваючы яе з ног, пагрозлівы шолах, і хоць, чапляючыся што ёсць моцы за лазіны, на нагах Стэфа ўтрымалася, птушку ў нейкі момант з пагляду выпусціла.

У наступны ж момант яркая ўспышка асляпіла яе: апякаючы, абпальваючы рукі, твар, у паветра, у паднябессе ўзлятала, падымалася зіхоткае воблака — і гарачыя іскры густа сыпаліся вакол, і дыміўся, у любую хвіліну гатовы ўспыхнуць, запалаць лазняк...

Трэба было бегчы, трэба было ратавацца, а Стэфа не магла крануцца з месца: яна ж пацэліла! яна ж падбіла птушку!

— Хіба гэта ты страляла?

— Што? — страпянулася яна на голас, што прагучаў з-за спіны...

— Што? Што такое?! — прахапілася, пачуўшы нарэшце тэлефон і не адразу ўцяміўшы, чаму ён так рэзка, так груба парушыў цішыню, парушыў яе сон.

Счакала яшчэ колькі імгненняў, узяла трубку.

— Ало-ало!

— Збяры ўсю сваю мужнасць, Стэфа, і ўтрымай сябе ў руках,— чула і не разумела яна слоў.— Табе давядзецца выехаць у Полацк. Зараз жа! Дзяўчынку знайшлі... Там, у Полацку. Больш за суткі ўжо прайшло, як... Прычына высветліцца больш дакладна на месцы, па прыездзе, так што...

— Яна што — разбілася? — не пазнаючы свайго голасу, прамовіла Стэфа, адно каб нешта сказаць, і сама не зразумела, як блізка да ісціны падвяла яе падсвядомасць, падсвядомая вера ў Нялюбіны палёты.— Нешта ж, відаць, патлумачылі?

— Яе знайшлі на беразе Дзвіны, непадалёку ад Сафійкі,— неахвотна, як праз сілу, патлумачыў Сцяпан Аляксандравіч і ўсё ж не здолеў схаваць ці хоць бы прыхаваць балючыя, шчымліва-балючыя ноткі, што здзівілі Стэфу.— Кажуць: спынілася сэрца. Даныя экспертызы, магчыма, нават паўторнай, удакладніце на месцы.

— Цягнік жа толькі ўвечары.

— Табе паўгадзіны хопіць на зборы? Праз паўгадзіны заедзе машына. Шафёр паступае ў тваё распараджэнне. Інструкцыі належныя ён атрымаў і ўвесь — ці амаль увесь — клопат ляжа на ягоныя плечы. Спадзяюся, ты не будзеш пярэчыць?

Сувязь адключылася. Крывячы, пакусваючы вусны, Стэфа аднавіла ў памяці гутарку і засталася незадаволенаю сабой: са сну, ад нечаканага павароту падзей не ўцяміла, што павінна была нейкім чынам хоць бы падыграць моманту, прыкінуўшыся няўцешнаю, расстроенаю, агаломшанаю горкаю навіною, а не здолела. І тым яўна засмуціла старога грахаводніка: нават тон у канцы гаворкі памяняў.

«Полацак... Полацак...— мармытала, прыкідваючы, што з адзежы магло спатрэбіцца ў гэтыя два дні наперадзе.— Галоўнае — паспець напісаць і пакінуць на стале, на добра бачным месцы, пасланне Зянону з усімі тлумачэннямі і неабходнымі даручэннямі: малую пахавае ў Полацку, каля маткі, памінкі справіць ужо дома, а потым — у дарогу, да мора...»

— Дрэнь ты, дзеўка! Сучка і дрэнь! — пазяхнула, пацягваючыся, і, хоць гадзіннік паказваў усяго палову на шостую, пачала набіраць Націн нумар.

Запушчаны, аброслы за прамінулы год пылам і павуцінаю матчын дом; суседзі, якія адварочваліся пры яе набліжэнні і зацята, асуджальна маўчалі ў яе прысутнасці, нават на цырымоніі пахавання; бяссонне, дзве бяссонныя ночы, запоўненыя разбэрсанымі, мітуслівымі ў сваім памкненні апраўдацца, апраўдаць тое, што здарылася, канешне ж, не па яе, Стэфінай, віне, хоць усе вакол думалі менавіта гэтак; няўцямныя, залішне сур'ёзныя ў прысутнасці пракуратуры тлумачэнні ўрачоў-экспертаў; удзел і адначасова няўдзел ва ўсім, што адбывалася, рабілася воляю Пятровіча і рукамі незнаёмых людзей; упершыню востра, балюча адчутае ёю адзіноцтва сярод натоўпу, які сабраўся ў дзень пахавання дачкі; кароткі памінальны абед, на якім, апроч яе і Пятровіча, прысутнічалі толькі нанятыя і аплачаныя ім памагатыя; няблізкая, задушлівая не так ад спёкі, як ад цяжкога маўчання ў машыне, дарога назад...

Калі Пятровіч прытармазіў каля Стэфінага пад'езда, яна ледзьве знайшла ў сабе сілу, каб як мага больш шчыра падзякаваць яму за ўсё і не пахіснуцца, зрабіўшы першыя крокі.

Яе ніхто не сустракаў, і на міг мільганула спадзяванне, што і ў доме нікога няма. Хоць не, сама ж дала Зянону даручэнне сабраць, купіць усё для стала, для памінальнай вячэры, і гукнуць сяго-таго са знаёмцаў — ужо ж, той паклапаціўся!

— Ат, чорт! — закорпалася з ключом, які ніяк не хацеў паварочвацца ў адтуліне, і ўжо хацела націснуць на званок, як дзверы адчыніліся.

— Стэф, родненькі! Мы тут зачакаліся,— наляцела на яе з дзвярэй Ната, адбіраючы сумку і заціснутую ў руцэ лёгкую куртачку.— Хадзі сюды. Мо напрасткі, не заходзячы ў пакой, пройдзеш у ванну? Пад душ? Усе нашы спачуванні...

— Ды пачакай ты! — абарвала яе Стэфа, азіраючыся, як у чужым доме.— Тут мазгі дымяцца... Перш глынуць бы чаго моцнага з дарогі, а ўжо потым...

— Правільная думка,— ступіў насустрач Зянон з келіхам у руцэ, і штосьці ці то ў яго запаволеным крыху руху, ці то ў твары, быццам скамянелым, згаслым за гэтыя дні, насцярожыла Стэфу: ён чаго перажывае? З-за паездкі, якая магла сарвацца? — Гарэлка, добры глыток яе, якраз тое, што ў гэту хвіліну патрэбна. Усё астатняе пачакае.

— Тым больш, што мы, птушка-пяюшка, былі і ёсць з табою,— уставіў сваё Жыноўскі, падышоўшы і крануўшыся яе пляча.

Ната, Зянон, Анатоль... Усе?

— Мы вырашылі нікога асабліва не збіраць,— заўважыў яе позірк, скіраваны ўглыб пакоя, Зянон.— Выпадак, як кажуць, не той... Ты згодна?

Не адказаўшы, мо таму, што насцярога, узніклая ў адносінах да Зянона, які не тое што не абняў, а і не дакрануўся да яе за ўсе гэтыя хвіліны, не праходзіла, узяла келіх, больш як напалову напоўнены чыстаю гарэлкаю, і выпіла. Выпіла ўсё да дна.

— Я табе гурочак...— матлянулася да стала Ната.

— Не, не,— зморшчыўшыся, трэсла галавою Стэфа.— Вы сядайце, я зараз... Усё-такі прыму душ.

— Давай, давай,— падбадзёрыў, адступаючы, Жыноўскі.— Тут жа ўсе свае, і ўсе разумеюць...

Што ўсе разумелі, даслухоўваць не стала. Прычыніла за сабою дзверы і пачала скідаць, зрываць з сябе адзежу, прапахлую потам, дарогаю, зямлёю, якою закідалі труну, людскім асуджэннем і яшчэ хто знае чым, непрыемным і непрымальным.

«Усё! усё! усё!» — паўтарала, сцяўшы вусны, пад моцнымі струменямі пушчанай з крана вады, у такт іх перазвону, і напружанне паціху спадала, адпускала яе. Вярталася пачуццё ўпэўненасці. Вярталася разам з упэўненасцю сіла. Быццам вада, яе то гарачыя, то амаль ледзяныя струмені змывалі з потам, са стомаю і згадкі, усе як ёсць згадкі. Змые — і выйдзе да сяброў Стэфа, выйдзе, адно каб напіцца — ніхто не адбярэ ў яе сёння права напіцца! Так, так, набярэцца да чорцікаў, і потым праваліцца ў сон, і заўтра прачнецца свежаю, абноўленаю, гатоваю да паездкі куды заўгодна.

— Усё! усё! усё! — паўтарала ўжо ўголас, не заўважаючы, не чуючы слёз, што змешваліся са струменямі вады, змываліся імі: на змену напружанасці, сцятаму, сціснутаму ў ёй нервоваму ўзрушэнню прыходзіла супакаенне. Супакаенне і звыклая абыякавасць да ўсяго і ўсіх на гэтым свеце.

Калі расцерлася ручніком і ўлезла ў хатнюю, даўгую з высокімі разрэзамі па баках, сукенку, і цяпло пачало разлівацца, разыходзіцца па целе мяккімі прыемнымі хвалямі, адчула сябе настолькі лепш, што нават усміхнулася свайму адбітку ў цьмяным, запацелым люстэрку. Валасы — як у мокрай курыцы? Ну, ды не займацца ж у гэтыя хвіліны яшчэ і прычоскаю!

— О-о, зусім іншая жанчына перад намі,— крэкнуў Жыноўскі, устаючы насустрач, і толькі цяпер Стэфа заўважыла, што ён ужо добра схмялеў і не так шмат яму заставалася,

каб дабраць сваё. Ну, ды гэта ўрэшце яе не хвалявала: дабярэ і дабярэ! Яна сама хацела сёння напіцца!

— Мы тут, як бачыш, ужо напаміналіся,— буркнуў Зянон.

— Спадзяюся, і на маю долю нешта засталося,— не дала насцярозе, якая зноўку ў ёй азвалася, разрасціся Стэфа.— Налівай, чаго раздумваеш?

— Высветлілі прычыну смерці? Неяк патлумачылі?

Зіркнула на Жыноўскага злосна-недаверліва і, каб тут жа не абурыцца і не нагаварыць чаго лішняга, змоўчала, моўчкі выпіла, узяла пададзены Натаю бутэрброд.

— Ты не адказала.

— Ды пацярпіце вы! — заступілася за сяброўку Ната.— Няхай чалавек прыкусіць з дарогі.

— Чаму ж! Я адкажу,— адкусіла ад булкі з вяндлінаю Стэфа і, толькі пачаўшы жаваць, прадоўжыла: — Прычына вызначана дакладна: сэрца. Раптам спынілася сэрца. Побач, як ты разумееш, нікога на той момант не аказалася.

— А як дзяўчынка апынулася ў Полацку?

— Спытай што-небудзь лягчэйшае.

— Не-не-не! — рашуча запярэчыла Ната, і гэта такса-ма па-свойму не магло не здзіўляць: звычайна ж і роту баялася адкрыць у прысутнасці калючага Жыноўскага.— Пакуль Стэфа добра не пад'есць з дарогі, пакуль не адыдзе хоць крыху пасля ўсяго перажытага, ніякіх пытанняў! Майце ж хоць нейкую літасць, Анатоль: яна такое перажыла за два прамінулых дні, такое...

— Ну, ці перажыла што, не сёння і не заўтра стане вядома,— цадзіў праз зубы, і не зірнуўшы ў яе бок, Жыноўскі.— А вось што нічога ў гэтай гісторыі не зразумела, і цяпер ужо ясна.

— Кінь, не пачынай, Анатоль,— міралюбіва, размяклая ад выпітага, адгукнулася Стэфа.— Не нашмат больш і ты разумееш, як я ведаю. Галоўнае: нічыёй віны там няма.

— Нічыёй?!

— І ты маеш нешта супраць мяне? — павярнулася да Зянона.— Ты, дзеля каго я...

— Стэфа! — падымаўся абражаны, абураны яе тонам Зянон, падымаўся з адною думкаю: пайсці, сысці як мага хутчэй адсюль, з гэтага дома, каб не бачыць ні сваёй каханкі з цёмным, шалёным, як бы ні старалася яна прыглушыць яго, агнём у вачах, ні яе адпаведна падабранай кампаніі: бач, свідруюць яго паглядамі!

— Давайце памянём нябогу, царства ёй нябеснае,— умяшалася Ната, хоць адно і зразумела — прыхаваную

небяспеку моманту.— Мы ж з гэтае прычыны сабраліся сёння.

Пілі — кожны сам па сабе. Зянон, адышоўшыся ад стала і прысеўшы крыху воддаль, на крайку канапы, перш чым глынуць, доўга ўзіраўся ў празрыстую вогненную вадкасць — быццам шукаў у ёй, шукаў і не знаходзіў ніводнага водсвету мінулага, некалі ў мінулым зусім някепска праведзеных хвілін у гэтым доме. Жыноўскі, імгненна перакуліўшы чарку ў рот і тут жа забыўшы пра яе, жаваў, жаваў у роце гурок з тою ж няспешнасцю, з якою, відаць, варочаліся ў ім яго цяжкія змрочныя думкі. Ната зіркала то на яго, то на Зянона, пакутліва вызначаючы, ад каго з іх сыходзіла большая небяспека і, як не помнячы, што ў чарцы гарэлка, і не вада, адпівала, адхлёбвала з яе маленькімі глыткамі: позірк — глыток, позірк — глыток... І толькі Стэфа, даўно — адразу! — схмялелая, усё яшчэ, раз за разам, адно намервалася падняць сваю чарку: міжволі складвалася ўражанне, што кожны раз ёй штосьці перашкаджала, штосьці ў ёй самой, нязгладжанае, нязгашанае нават усім выпітым дасюль.

— Я вось думаю,— падняў на яе вочы Жыноўскі,— чаму толькі хворыя — хворыя ў нашым разуменні! — душы адчуваюць сувязь з небам, з усім, і былым і будучым, цераз яго. Так, нібыта ўся наша рэальнасць, уся наша разумнасць перад чымсьці высокім, недасягальным і меднае капейчыны не варта, і яны, мечаныя сваёю хваробаю, гэта з самага пачатку ведаюць. Уяўляеш? Яны, тыя, каго мы называем, і на міг не засумняваўшыся, вар'ятамі, шаленіцамі, чуюць неба, ведаюць Бога, а нас з усімі нашымі д'ябальскімі эксперыментамі чакае ўрэшце апраметная. Уяўляеш?

— Ты напіўся, Анатоль.

— Чакай, Стэфа! Ты не пра тое,— упіраўся ён у яе цяжкім паглядам, быццам нарэшце знайшоў апору.— Напіўся, не напіўся... Не ў гэтым справа. Я даўно ўжо не хачу працвярэжвацца — раптам, пасля стольківх гадоў запою, працверазець і ўбачыць, што я проста сволач. Што мы... што мы з табою сволачы, Стэфа. Ні больш, ні менш. Як, дарэчы, і ўсе астатнія. Таму і жлукцім гарэлку, ледзь толькі запячэ, засмыліць якая-ніякая цвярозая думка.

Стэфа, замест адказу, выпіла, і п'яная ўсмешка скрывіла яе твар: філосаф, ты ж разумееш! Набраўся, як свіння...

— Твая дачка не толькі тварам паходзіла на нашу з табою пацыентку, Стэфа,— прадоўжыў ён, кінуўшы агрызак гурка на талерку.— І не пярэч. Ты павінна, павінна была заўважыць, іначай — ніякі ты не псіхіятр, галубчык. Ніякі,

ці вельмі хрэновы. Жыццё, шчаслівы для сапраўднага ўрача выпадак даваў нам унікальны шанец наблізіцца, упершыню наблізіцца да разгадкі адвечнае, заваленай , заставаленай тысячагоддзямі таямніцы чалавека, а мы... А мы, як аказалася, проста сляпыя. Сляпыя і глухія да ўсяго, што не тычыцца непасрэдна нас саміх, нашага, паскуднага па ўсіх вышэйшых мерках, існавання.

— Глупства! — адрэзала, ікнуўшы, Стэфа.— А ты што — хацеў бы стаць на месца самога Госпада Бога? Фігушкі! Не з тваімі прапітымі мазгамі! Не з тваімі, і не з маімі. І я, у адрозненне ад цябе, не лезу з-за гэтага на сцяну, не пнуся даказаць усяму свету, што злеплена з іншага, чым усе астатнія, цеста.

— Але ж твая дачка...

— Не чапай маёй дачкі! — ускіпела Стэфа, і жар кінуўся ёй у твар, гарачы і гнеўны.— Жыла — як жыла, памерла — як памерла. Ніхто ніякіх эксперыментаў над ёю не праводзіў, чуеш, ты?

— Гэта ты мяне не чуеш. Не хочаш пачуць.

— Ды будзе вам,— замітусілася паміж імі не на жарт перапалоханая Ната.— Тут жа не навуковы сімпозіум, тут проста памінкі. Налівай яшчэ па адной, Зянон, і досыць. Стэфе трэба адпачыць пасля дарогі. Пасля адной дарогі, перад другою...

— Ёй трэба выгаварыцца,— наліваў сабе, не чакаючы, пакуль гэта зробіць, наблізіўшыся, Зянон, знешне зусім спакойны, хоць крыху і збялелы Жыноўскі, і рукі яго, пры тым, што пагляд, здавалася, за час гаворкі трохі пасвятлеў, пацверазеў, ледзь прыкметна ўздрыгвалі.— Не адпачыць, а выгаварыцца, каб выкаўтаць, выхаркаць на гэты стол усю горыч, усю злосць, усё злоснае непрыняцце сваёй віны.

— Ды якой такой віны, чорт вазьмі! — рэзка адсунулася ад стала адно што не перакуліўшы крэсла, на якім сядзела, Стэфа, і ў вачах у яе заблішчалі маланкі.— Не сюсюкала над ёю, як некаторыя: «Ах, донечка! Ах, любая!»? Так, не сюсюкала. Не любіла ўсёю сілаю душы, як магла б любіць, калі б некалі, пры яе нараджэнні, збудзілася ва мне пачуццё мацярынства? Мажліва. Ну, і што? Дзе тут віна? Я ж не падштурхвала яе, не адштурхнула, справакаваўшы на нечаканы сыход з дому, як ты, напэўна, думаеш!

Счапіўшыся ў спрэчцы, глыбока зачапіўшы адно аднаго за жывое, і Стэфа, і Жыноўскі не заўважалі ўжо нікога і нічога вакол: дзве волі, два погляды схлёснуліся паміж сабой, і хмель надаваў паядынку, супрацьстаянню іх яшчэ

большы напал. Тое, што кожны з дваіх спрачаўся сам з сабою, з прыхаваным, надзейна схаваным у глыбіні душы суменнем ва ўласнай праваце, не даходзіла, ды і не магло ў гэту хвіліну дайсці ні да аднаго.

— А тая? Пацыентка, табою памянёная? Манашка прыблудная? — не пакідала ўзятага тону Стэфа.— Ці не ты ўвесь час даводзіў, што трэба, як і ў выпадку з астатнімі, уводзіць ёй адменены мною з першага ж дня прэпарат? Ці не ты настойваў на пачатку новага эксперыменту? Ці не ты, а?

— Дурніца,— нязлосна адгукнуўся Жыноўскі.— Калі б мы пачалі прапанаваны мною эксперымент з самага пачатку, з дня яе паступлення ў клініку, і пад маім, толькі пад маім кіраўніцтвам, на сёння, на сённяшні дзень мы мелі б — я перакананы, што мелі б — унікальныя навуковыя даныя, невядомыя ў свеце.

— Унікальныя... Навуковыя... Кінь! Ніхто — чуеш, ніхто! — ў гэткай бальніцы, як наша, не можа займацца чыста навуковаю работаю, і ты гэта ведаеш не горш за мяне. Задавальнялі свой навуковы сверб часам за кошт каго-небудзь з хворых, вось і ўсё. Усё, галубчык! І тое — з аглядкаю адно на аднаго і на ўсіх зацікаўленых. Бо не палажана. Бо адказнасць — задужа вялікая для ўрача сярэдняй рукі.

— Ты так мала сябе цэніш? — зноў падняў ён на яе цяжкі, памутнелы пагляд.— Ці проста хмель у галаву ўдарыў?

— А хоць бы і хмель! — па-ранейшаму гучна, па-ранейшаму непрымірыма запярэчыла Стэфа, але па тым, як згасалі, гаслі адна за адной маланкі ў яе ў вачах, як згасаў пасля кожнай успышкі новага, кароткага напружання збялелы твар, адчувалася, што запал яе мінаў, што хмель ужо хутка возьме сваё, запаволіўшы перш словы, а потым і рухі.— Мяркуеш, аднаму табе муляе напіцца, калі свет раптам, проста на вачах, кульнецца цераз галаву, паказаўшы табе, і табе заадно з усімі, брудную с...? Нічога, нічога, нічога не хачу — чуеш, Жыноўскі? Нічыіх эксперыментаў! Нічыіх гаворак пра работу! Нічыіх згадак пра свае ці чужыя памылкі! Нарадзіцца — ужо ў большасці выпадкаў памылка, а калі яшчэ такое бяздарнае жыццё...

— Табе трэба прылегчы, Стэфа,— абняла яе ззаду за плечы Ната, ласкава прыхінаючы да сябе.

— У нас што — ужо няма чаго выпіць?

— Перад табою ж — поўная чарка. Мо до?

— А Зянон дзе? — узяла Стэфа чарку не вельмі зграбнымі пальцамі і выплеснула колькі той гарэлкі на абрус, грэбліва зморшчыўшы нос.— Зянон, давай вып'ем за цябе!

— Баба — яна і ёсць баба,— сплюнуў якуюсь крышынку, што трапіла да яго ў чарку, Жыноўскі і стаў цяжка, адпіхваючы, адсоўваючы застаўлены стол, падымацца.— Дачку памянула б, сябе, дурніцу, пашкадаваўшы...

— Пайшоў прэч, Жыноўскі,— жавала запхнуты ў рот кавалачак сыру Стэфа.— Ву-чы-цель знайшоўся... Дзе Зянон, Ната?

— Пайшоў лавіць таксі, сказаў. Каб не ператвараць тваю кватэру ў начлежку,— пагладжвала ёй плячо Ната, цікуючы за п'яным госцем, які, калі не прасачыць, пераверне і стол, і ўсё вакол уверх дном.— А вось, дарэчы, і ён. Дзверы адчыняе.

— Зянон! — гукнула цераз усю кватэру Стэфа, адчуўшы, што ўсё плыве, кружыцца перад вачмі і чамусьці, невядома з чаго раптам, спалохаўшыся.— Зянон!

— Спадарыні што-небудзь патрэбна? — з'явіўся той у пакоі, але не ў яе полі зроку, хоць Стэфа і павярнулася тут жа на голас.— Таксі каля пад'езда, так што з гасцямі клопату не будзе.

— Ты ж не пакінеш мяне сёння адну? Ты вернешся? — матляла яна галавою, марна спрабуючы атрэсці туман, які зацягваў пагляд, хаваў усё вакол у сваім шэра-жоўтым мроіве.— Я не змагу адна...

— Да самалёта на Сімферопаль, калі ты не перадумаеш ехаць, застаецца ўсяго нічога — якіх-небудзь чатырнаццаць гадзін. А яшчэ ж трэба выспацца,— ужо вёў Зянон да выхаду Жыноўскага, які абмяк і не працівіўся, і так і не азірнуўся на жанчын.— З табою застанецца нанач Ната. Так што ўсё о'кэй.

— Ната? — няўпэўнена перапытала яна цішыню пасля таго, як бразнулі дзверы.

— Я тут, родненькі,— адгукнулася тая ў той жа момант.— Пасцель разбіраю... Зараз мы з табою прыбярэмся збольшага і завалімся ў ложак! Зараз я табе дапамагу, пачакай трошкі...

— Зусім развезла... Здэцца, ужо ні рукою, ні нагою самастойна не зварухну,— паскардзілася Стэфа, робячы адно намаганне за другім, каб вярнуць зроку яснасць, каб вярнуць адчуванне якой-ніякой рэальнасці.— Скажы, чаму мяне ніхто, ніхто ў цэлым свеце не любіць? Га, Ната? І там, у Полацку, ніхто не падышоў са шчырым словам, і тут... Нават Зянон... Ты заўважыла? Ты заўважыла, Ната, што ён да мяне змяніўся? Не падышоў, не пацалаваў...

— Спераажываўся ён тут, за гэтыя дні.

— Спе... спера-жываўся? Не, не,— мармытала Стэфа

пад звон посуду, які прыбірала са стала сяброўка.— Астыў ён, астывае... Мне не трэба б з ім цяпер ехаць, Ната. Я ведаю: не трэба. І паеду... Паеду, мо адно для таго, каб там, на моры, страціць яго канчаткова і больш не вярнуцца... Больш ужо не вярнуцца да сябе ранейшай.

— Не гавары рознае глупства, родненькі,— дапамагала ўжо Ната ёй падняцца з крэсла.— Гэта ў цябе ад стомы. Ад стомы і перажыванняў. Бо колькі б і перад кім бы ні харахорылася, а бабаю была, бабаю і застанешся. І так і павінна быць, Стэфа, так, [redacted] не іначай. Паплакаць у такую хвіліну нікому не грэх.

— Але ж я не плачу,— паднялася за ёю ў спальню Стэфа, не заўважаючы слёз.— З чаго мне плакаць? З чаго, скажы?

— Усё будзе добра. Усё будзе так, як схочаш,— супакойвала, не ўціраючы ёй слёз, Ната.— Паспіш, адаспішся — і свет адразу паўстане іншым, і сонейка возьмецца свяціць іначай. Стомленай душы патрэбен адпачынак. Адпачынак, і больш нічога.

— Я не любіла яе, Ната. Табе прызнаюся: не любіла, не знаходзіла ў сваім сэрцы цяпла. Але ж і яна — і яна таксама, павер! — адказвала мне тым жа... У нас было мала часу...

Мармытала ўсё невыразней, праз дрымоту, паддаючыся Націнаму клопату, паслухмяна падымаючы рукі, каб яна дапамагла сцягнуць з плеч сукенку, і хоць сэнсу, патаемнага, балючага сэнсу сказанага не губляла, адчувалася, што сама Стэфа да канца не ўсведамляла, што гаварыла, на што ціха, жаласліва, скардзілася, бо ўжо, яшчэ не крануўшыся падушкі, засынала.

— Яна так і не назвала мяне ніводнага разу мамаю... Пасля таго, як я забараніла ёй гэта... У мяне было мала часу, мала часу...

29

Не прайшло і тыдня, а Зянона раздражняла ўжо ўсё: і ліпеньская спёка, якая сёлета і тут, на Кактэбельскіх пляжах, даймала, не спадаючы, здавалася, нават уначы, калі павінна б адчувацца хоць нейкая прахалода; і мора, больш падобнае на цёплы кісель, замешаны на слізкіх, непрыемных ні на выгляд, ні тым больш на дотык мядузах і брудных, паплеценых паміж сабою водарасцях; і цесная каморка пад самым дахам знакамітага акцёрскага прафілакторыя, дзе адчуваў сябе шчаслівым яшчэ летась і дзе цяпер задыхаўся, асабліва калі заходзіла Стэфа; і сама Стэфа, да поўнага непрыняцця, да агіды часам пакорная, непатрабавальная...

Прычына, відаць, была хутчэй за ўсё ў ёй, у тым, што хацеў таго Зянон ці не хацеў, а, прыехаўшы сюды разам са Стэфаю, адчуваў сябе нейкім чынам абавязаным прытрымлівацца даўно збрыдлых адносін паміж імі. Каханаю не была, але ж як каханка дагэтуль задавальняла, вось ужо на працягу некалькіх гадоў, а тут... Тут раптам, калі б асмеліўся прызнацца ў гэтым хоць бы самому сабе, дачка яе, мёртвая дачка яе ўстала паміж. Паміж былым і цяперашнім. Паміж усім, што перажылі ўдваіх, і ўсім, чаго для іх дваіх ужо ніколі не будзе.

Разрыў, што наспяваў, што ўсё відочней набліжаўся, быў немінучым, а Стэфе як засляпіла: ліпла да яго, ледзь толькі сустракаліся, лашчылася, толькі што не муркала побач — і памятаць не памятала, што дзіця, што дачку сваю толькі што пахавала!

Ён, Зянон, памятаў. Усё памятаў. Усё да апошняе рыскі. З тае апошняе сустрэчы з дзяўчынаю жыў як сам не свой, але чаму? Чаму? Ну, страціў на момант кантроль над сваімі пачуццямі, ну, павёў сябе як скаціна, як бугай, аслепленым раптоўнаю страсцю, але ж па-чалавечы гэта зразумела і вытлумачваецца прыродаю, грубаю мужчынскаю пародаю. Ды і ачомаўся ж ён, перш чым стала б позна, адступіўся ўрэшце! Што яна там сабе наўяўляла? Чаго так напалохалася? Ад чаго кінулася ўцякаць — ад тых агідных, брыдкіх у сваёй агалцеласці хвілін ці ад нечага яшчэ больш агіднага і брыдкага ў будучым, што бачыла, што прадбачыла толькі яна? Павяла ж сябе з ім, бугаём, і рашуча, і бязбоязна. Быццам магутным шчытом абароненая...

Так, так, нешта ж яго, Зянона, тады спыніла, нешта ж адкінула — што? Не слабая ж дзявочая рука, не пратэст дзяўчыны, які ўжо не ўспрымаўся!

Заварочаўся, затузаўся, упіваючыся, уціскаючыся ўсім целам у гарачыя мулкі камяні прыбярэжнай гальгі і, калі адчуў яшчэ большую прыкрасць, ускочыў і, нават не ўспомніўшы пра Стэфу, якая загарала побач і даўно, злёгку прыўзняўшыся на локцях, узіралася ў яго, у яго неспакой, матлянуўся да вады, насустрач хвалі. Абпёкся аб слізкую, ліпкую запону з мядуз і, паднырнуўшы пад яе, паплыў ад берага. Далей і далей. Туды, дзе заканчвалася зона для купання і за яркімі, ярка-аранжавымі буйкамі святлела чыстая паласа вады. Дзе толькі мора і неба над ім.

«Няма ў смерці дзяўчыны маёй віны! Няма! Няма!» — адсякаў узмахамі рук метр за метрам і, хоць ведаў, падсвядома ведаў, што нічога, нічога і нікому яго ўцёкі з пляжа, з людскога, распластанага на лежаках і проста на гарачых

камянях натоўпу не дакажуць, нейкі час адчуваў палёгку. Сапраўдную палёгку. Плыць бы і плыць вось так — праз увесь гэты дзень — цераз усё Чорнае мора і не азірацца, ніводнага разу не азірнуцца ні на бераг, ні на сваё мінулае жыццё!

Хвіліны расцягваліся, даўжэлі, і, калі, стаміўшыся, Зянон перавярнуўся на спіну, раскінуў рукі і застыў, рытмічна, па волі амаль незаўважных тут, на глыбіні, хваляў, закалыхаўся твар да твару з небам, з высокім, залітым зіхоткім ззяннем небам, час зусім спыніўся. Мора і неба... Неба і мора... Што для іх — паміж імі! — чалавек? Што для іх ягонае імя?

Калі чым і апраўдвалася яго знаходжанне тут, на поўдні, далёка ад звыклых паўночна-заходніх шыротаў, дык толькі падобнымі хвілінамі: забывалася, папросту не існавала нейкі час усё тое дробнае, нязначнае, а то і зусім дробязнае, якім запаўняліся дні, тыдні, месяцы — перад сабою ды яшчэ перад гэтым вось небам трымала душа адказ, адчуваючы і сваю грахоўнасць, і сваю недасканаласць. Здэцца, іскрачкаю ўзмыла б угору і ці злучылася б з гарачым зіхоткім ззяннем, ці патанула ў ім, згасаючы і доўгадоўга аддаючы прасторы сілу памкнення, прагу не зямнога, а больш высокага ачышчэння. Шкада, што не магла, не асмельвалася душа маліцца, а то б...

«А то б — што? — прыкрыў вочы, даючы ім адпачыць ад занадта яркага святла, што лілося зверху.— Папрасіў бы ў вечнасці, у неба прабачэння за сваю мізэрнасць?!»

Усмешкі, хоць і стараўся ўсміхнуцца, не атрымалася, а неба, высокае, недасяжнае, па-ранейшаму стаяла ў вачах, нягледзячы на тое, што сціскаў павекі мацней і мацней, і недзе там, на небе... Не, не, Зянон не павінен пра гэта думаць! Міжволі, як д'яблам, д'ябальскім жаданнем, непадуладным волі, падштурхнуты, пакваліўся на дзявочую чысціню, але ж апамятаўся, своечасова апамятаўся і не ўчыніў святатацтва, не ўзяў яшчэ адзін грэх на душу. Хапіла і таго, што неаднойчы паглядам лашчыў малую, што ў глыбіні сэрца, самым патаемным і чыстым у сабе, цягнуўся да яе — падсвядома, да таго самага вечара зусім падсвядома. А тады — як зацьменне найшло раптам, і добра, што было каму за дзяўчыну заступіцца...

Ад нечаканай думкі Зянона ажно падкінула. Ён нязграбна ўзмахнуў рукамі, быццам спалохаўся чаго, і, перш чым апамятаўся, добра-такі глынуў гаркаватае марской вады, на міг, яўна нечакана захліснуты хваляю. Крутнуўся, выныраючы, павярнуўся на жывот і, сплюнуўшы разам з вадою

спалох, паплыў. Нетаропка паплыў не назад, а ўздоўж берага, які адсюль, здалёк, бачыўся і не такім забудаваным, і не такім шматлюдным, як на самой справе.

Быў Бог, не было яго — не яму, Зянону, разбірацца. Дзяўчына, па-дурному ці па-прарочы названая некалі маткаю — Нялюбаю, не паходзіла ні на кога, вылучаючыся не толькі ў натоўпе, з каго б ён ні складаўся, але і дома, гэта Зянон разумеў. Бачыў. І штосьці ж за яе адасобленасцю, за яе адчужэннем ад усяго і ўсіх — пры ўсёй нязвыклай у сучасным свеце мяккасці і дабрыні — стаяла. Напэўна стаяла. Сама смерць Нялюбіна ўспрымалася часам, як цяпер, не смерцю, а віною. Толькі віною. Ягонаю, Зянонаваю, і ўсіхнаю віною. За неразгледжанае ў ёй. За незразуметае і такое блізкае, такое жаданае, што цяпер, калі Зянон адчуваў усё іначай, з папраўкаю на незваротнасць, не-не і цягнула заплакаць. Ад бяссілля. Ад злоснага бяссілля.

Колькі жанчын перабраў, колькі самых неверагодных у сваёй ілжывасці слоў нагаварыў ім, дурніцам, у хвіліны блізкасці, і думаць не думаючы, што сутыкнецца, што ўсё-такі сутыкнецца на сваім шляху з нечым іншым, пакутна недасягальным і, перш чым зразумее ўсю трагічнасць і ўсё шчасце гэтае сустрэчы, усё страціць. Усё! — і спакой, і спадзяванні, і нават жаданне апраўдацца, апраўдвацца і апраўдацца хоць бы перад самім сабою. І чым апраўдаўся б? Тым, што скамарох, а са скамароха і пытаць можна адно як са скамароха?

— Ты што, мужык, няйначай, у Турцыю сабраўся?

Павярнуў галаву — катэр выратавальнай службы: няўжо так далёка заплыў?

— Усё о'кэй,— патрос галавою, макнуўшы твар у ваду, каб выйсці са здранцвення.— Пакорна паварочваю назад, і сілы, як бачыце, даплыць хопіць.

— Ну, ну! А то і штрафануць можам за парушэнне...

Мегафон змоўк, але катэр не адплываў і з выключаным маторам ціха пагойдваўся на хвалях непадалёку. Зянону нічога іншага не заставалася, як скіраваць назад.

У той момант, калі ўжо мінаў маркіровачны буй, пачуў раптам, што ззаду, з мора, яго нехта гукае. Павярнуў галаву — ні душы. Павярнуўся ўсім тулавам, кругамі падграбаючы пад сябе ваду, каб утрымацца на адным месцы,— скрозь, да самага гарызонта, пуста. Нават катэр адплыў і ў полі зроку, перад вачмі, не з'яўляўся.

— Скамарох! — вылаяў сябе ўголас Зянон, і, адчуўшы, што ад душы крыху адлягло, адпусціла, размашыста, хутка паплыў насустрач пляжнаму гоману.

— Калі б я не ведала, што ты так добра плаваеш...— сустрэла яго абураная, раздражнёная ягонай доўгай адсутнасцю Стэфа, але Зянон спакойна, ніяк не адгукнуўшыся і тут жа перастаўшы слухаць яе збрыдлую за гэтыя дні буркатню, зусім абыякава адхінуў ручнік і з уздыхам, больш падобным да стогну, распластаўся на гальцы.

Стэфа, крыху панізіўшы голас, гундосіла і гундосіла над вухам. Як надакучлівая муха. Хацеў ужо адагнаць, адмахнуцца ад яе, але не знайшоў у сабе ні сілы, ні патрэбнай рашучасці: усё і так, само сабою, ішло да канца... Было б нават дзіўна, калі б у гэткім пекле не згарэла, не асыпалася лёгкім попелам усё як ёсць, усё як ёсць...

Паласа берага разам з пляжамі, перапоўненымі загарэлым, распараным людам, пачала ўсё больш адчувальна выгінацца, выпінацца з двух бакоў угору. Перш пасыпалася ўніз, проста на яго, Зянона, распластанага ўнізе, галька, і нейкім дзесятым пачуццём ён адчуў, імгненна зразумеў, што будзе засыпаны, завалены ёю, калі не пачне выбірацца, выкарасквацца адгэтуль тут жа, не прамарудзіўшы і хвіліны. Потым — не паспеў ён прыўзняцца, адпаўзці з-пад граду камянёў — з даволі высока ўжо ўздыбленых грабянёў берага пачала абсоўвацца, а пасля і каціцца ўніз лавіна людзей, лавіна скурчаных, паралізаваных страхам целаў.

«Няўжо ўсё? Хана?» — тузануўся што было сілы Зянон, прыўстаў, адразу ж збіты з ног, зноў стаў падымацца, адштурхваючы, адкідваючы плячмі, локцямі, нагамі аблепленыя галькаю, потныя пакамечаныя целы. Сілы з кожным новым рухам, з кожным злосным штуршком прыбывала — так, нібы менавіта злосць, злоснае непрыняцце нечаканай і, па ўсім відаць, д'ябальскай навалы пад пякучымі, пякуча-белымі промнямі сонца і ўтойвала сілу: трэба было адно не спыняцца, не шкадаваць нікога і караскацца, караскацца ўгору па плячах, па тулавах, па галовах тых, хто скарыўся і тым самым прыняў, прымаў сваё падзенне, сваю пагібель у гэтым жывым, страшным клубку натоўпу, шматгаловага, шматрукага, шматногага натоўпу.

Адно — не спыняцца! І Зянон лез, караскаўся вышэй і вышэй, таптаў людзей, не зважаючы на іх стогны, на іх крыкі, адчуваючы аграмадную сваю перавагу над імі, бязмозглымі, баязлівымі ў сваёй масе: статак — заўсёды статак, колькі ні ўзвышай яго ў думках, ці ў песнях. А калі ўжо гарачыя бізуны заскачуць па спінах...

І ён жа адчуваў удары бізуна, і ягонае ж цела пасля кожнага чарговага рыўка пакрывалася крывавымі пісягамі і чорнымі гузакамі, але не прасіць жа літасці ў д'ябла, рас-

паранага работаю? Не чакаць жа падмогі ад таго, каму яшчэ толькі ўчора імкнуўся горда плюнуць у бараду! Скамароху не прывыкаць — ён скрозь паміж Богам і д'яблам круціцца. Часам на падмостках, а здараецца, і каля ног, пад нагамі, у пыле, які больш нагадвае прах, шматвяковы людскі прах.

— Зянон! Зянон! — чуе ён адчайнае Стэфіна гуканне аднекуль ззаду, з-за спіны, і не паварочваецца: нельга прамарудзіць, нельга ўпусціць ніводнага імгнення, а то і ён апынецца ўнізе, у жахлівым чалавечым катле, з якога ўжо не выберацца.

— Зянон! — гукае яго хтосьці зверху, і смех, прыхаваны смех дрыжыць у голасе.— Успомні, што ты Фаўст, што шмат чаму можаш навучыць гэтых неразумных.

— Хіба чалавека можна чаму-небудзь навучыць? — бароніцца ён не ад слоў, а ад непрагучалага яшчэ смеху.— Уся пакутная гісторыя роду чалавечага нікога нічаму не навучыла.

— А ты паспрабуй! — паддражніваў нябачны дарадца.— Паспрабуй! Я табе і падмосткі збудую, і шапку са званцамі для прадстаўлення падкіну. Як?

— Давай,— зразумеў Зянон, з кім меў справу, і пагадзіўся, бо адчуваў ужо, што так і не далезе да верху, так і не выберацца з гэтага пекла сам, самастойна.— У скамароха заўсёды знойдзецца што сказаць. Хоць ім, нябогам, хоць табе, усясільны.

— Га-га-га! — не стрымліваў той больш смеху, зарагатаў весела і, як здалося Зянону, зусім нязлосна.— Ужо ж мне рупіць пачуць такога, як ты, чарвяка!

Смех не аціхаў, але, няйначай з калючых крышынак яго, перад Зянонам, у яго на вачах, выраслі тэатральныя падмосткі: бэлька да бэлькі, дошка да дошкі... Яшчэ міг-другі — і льга будзе ступіць на іх і нарэшце адчуць пад нагамі больш надзейную апору.

— Ну! Чаго марудзіш? Народ чакае, га-га-га... Бяры сваю шапку і пачынай.

Абапёршыся на рукі, Зянон падцягнуўся і, атросшы чыесьці рукі, пераваліўся на ўзведзеную для яго сцэну. Нейкі час баяўся зірнуць уніз, туды, адкуль — яшчэ невядома якою цаною — выбраўся. А калі ўсё-такі сабраўся з духам і зірнуў, у першы момант адчуў сябе падманутым: бераг ападаў, апускаўся, расцягваючыся ў абодва канцы ад яго ранейшымі, перапоўненымі задаволеным людам пляжамі, і падмосткі, якія ён уявіў падрыхтаванаю для яго выступлення сцэнаю, з'явіліся не чым іншым, як звычайным, добра знаёмым яму салярыем. Калі б не шапка са званцамі, што

ляжала ў яго каля ног, падман быў бы поўным, і яму нічога лепшага не заставалася б, як засмяяцца.

Нахіліўся. Асцярожна ўзяў у рукі вастраверхую шапку. Пакруціў у руках, разглядваючы старое тонкае сукно, дрогкія срэбныя званочкі, якія весела адгукаліся на самы нязначны рух.

«Аднекуль жа прывалок, падла!» — валаяў, нібыта пахваліў, гаспадара шапкі, і вось ужо нацягваў, насоўваў яе на галаву, цікуючы за натоўпам на пляжы, які рос і рос, ліхаманкава ўспамінаючы прыдуманы калісьці ў тэатры маналог — маналог для базарнай плошчы, для базарнага шумнага люду. Бо чым, урэшце, адрозніваўся ад базару гэты пляж, гэта аграмаднае лежбішча для шчаслівых?

— Оп-ля! — скамандаваў сабе і лёгка зрабіў звыклы і патрэбны цяпер рух, становячыся на рукі, галавою ўніз.

— Дзынь-дзынь-дзынь! — падтрымалі яго намер срэбныя званцы, азваўшыся звонка і весела, і Зянон колькі разоў пераступіў з рукі на руку, каб апынуцца тварам да прыціхлага пляжа, а не да мора, як атрымалася.

Цяпер, хоць і ў перавернутым выглядзе, яму стала відаць уся бясформенная глыба аголеных целаў, якая, калі злёгку прымружыць вочы, выглядала адною расплывістаю, ачмурэлаю ад сонца і толькі што паражытага спалоху пачвараю.

— Гэй, вы там, на лежбішчы! Спадары і спадарыні сваіх акруглых, набітых усякаю дрэннню жыватоў, якія вы з пыхаю падстаўляеце сонцу! Плявалі і плюеце на свой шлях, вызначаны Тым, хто аддаў вам сваю пакуту і свае спадзяванні? Правільна робіце. Светлай будучыні, у якую прымусам змушалі паверыць ачмурэлыя ад пралітае крыві бальшавікі, няма ў прыродзе. Няма і не было. Ды і навошта яна вам, га? І так жа — тлушч па мордах цячэ... Звыкліся, як ні кажы, даўно звыкліся і з тым, што скрозь трэба ашалела штурхацца, праштурхвацца да карыта, і з тым, што ад векавой гразі ўжо не адцерабіцца. Падумаеш: гразь! Яно ж нават цяплей у гразі: як-ніяк не першае стагоддзе топчацеся — усё ж сваё, родненькае, ні ў каго не пазычанае!

Прамаўляў гучна, час ад часу нават узвышаючы голас, каб расчулі, бо знізу, з натоўпу, спярша нібыта баязліва, з аглядкаю на суседзяў, а потым у адкрытую, нахабна, паляцелі ў яго з'едлівы свіст і абуранае галёканне.

— Ах, вам не падабаецца? Праўды пра сябе не хочаце пачуць? — прадоўжыў пад усё больш пагрозлівы гул натоўпу і ціхі, супакойлівы звон раскалыханых на скамарошай шапцы званочкаў.— Давядзецца, калі ўжо прадстаўленне наладжана д'яблу на пацеху. Многа вас, рабствам узгадава-

ных, так многа, што ніякой уладзе не справіцца,— вось і плюе яна на вас, а вы на яе. Усё, як і мае быць, мае залатыя! Не трэба хоць зрэдку, хоць час ад часу, пра сваё прызначэнне на зямлі згадваць, не трэба галаву ў неба задзіраць — і пад нагамі знойдзецца, як скрозь знаходзілася, на што падзівіцца. Гніль, агрызкі і акуркі, пустыя пляшкі і ржавыя бляшанкі, ашмоцце яшчэ да выхаду ў свет састарэлых газет, ад якіх пахне пазаўчарашнім селядцом, згусткі сліны вашае ядавітае, смецце шматсезоннае... Любому дурню відаць! Ніжэй жа, пад гэтым, бачным любому дурню слоем, пад брудным вышчарбленым асфальтам,— зямля, сырая зямелька, якую ўгноіце некалі сабою дзеля дзетак і ўнукаў сваіх, хто можа прапанаваць больш? Чыя душа вынесе больш? Так што смела, не саромеючыся, плюйце, харкайце на сваю карміцельку — ваша права аплачана вашаю ж духоўнаю галечаю і лю́бым вашым сэрцам, зачарсцвелым ад нелюбові, бескультур'ем. Глядзіш — мо і хвасты з цягам часу неўпрыкмет адрастуць, каб за жыццё, за мярзотную жытку зручней было чапляцца, а?

Свіст, галёканне, гнеўныя крыкі абурэння ўжо заглушалі словы, і Зянон, пазмрачнелы і ўсё-такі задаволены, што кінуў гэтую костку народу — натоўпу! — і пацэліў у самую гушчу яго: пачвара зрушылася, зараўла, вось-вось кінецца на яго, пачне шпурляць у яго камяні, рашуча кульнуўся ў паветры і стаў нарэшце на ногі. Рух, лёгкі ўзмах рукі — і садраў з галавы дуркаватую шапку са званцамі, падкінуў угору.

— Ура народу-самажэрцу! — выгукнуў і, ухіляючыся ад першых штуршкоў, якія скаланулі падмосткі, ад шпурнутых у яго камянёў, адступіў крыху назад. Адступаў яшчэ і яшчэ глыбей, да самага краю дашчанай паверхні, за якім, ужо зрэдку захлістваючы крайнія дошкі, ускіпалі, пеніліся, раўлі высокія хвалі.

Калі камяні пасыпаліся градам і, хоць і ўсляпую, а пачалі трапляць усё бліжэй і бліжэй, моцным штуршком падкінуўшы ў паветра дужае трэніраванае цела, зрабіў сальта і даў нырца ў першую ж набеглую хвалю. Адчуў удар і не адразу ўцяміў, ці то кепска, нязграбна і раней часу ўвайшоў у ваду, ці то ўсё ж дагнаў яго чыйсьці камень,— змрок, у які Зянон апускаўся, радзеў, станавіўся бірузовым і вось ужо, ярка ўспыхнуўшы, запалаў вакол.

— Зянон! — дагнаў яго другі ўдар, балючэйшы за першы.— Зянон, ды прачніся ты! Згарыш...

Лыпнуў вачмі, раз і другі раз, з цяжкасцю варухнуўся, варухнуў здранцвелае ад доўгага ляжання цела. Балела,

смылела, здавалася, усё ад галавы да ног — добра-такі, відаць, падсмаліўся на сонцы. Няўжо заснуў? Заснуў проста на пляжы, пад пякучымі промнямі, і насніў чорт ведае чаго?

— Тут недзе была мая шапка...— мармытнуў, усё яшчэ спрасоння.

— Якая яшчэ шапка? — не зразумела жанчына.— Я адышлася да кіёска з вадою, думала: дужа не затрымаюся, ажно з гадзіну мусіла ўсё-такі прастаяць, пакуль чарга падышла... І ў галаву не брала, што можаш заснуць на такой спёцы. На, глыні ліманаду.

Зянон, узяўшы пададзеную бутэльку, піў цёплы, непрыемны на смак ліманад і ўпершыню Стэфа ўявілася такою чужою, такою далёкаю і чужою, што адно адхрысціцца...

— Гэта мы, мы з табою, забілі Нялюбу,— сказаў зусім неспадзявана, нечакана нават для самога сябе, і, як падкінуты ў паветра сказаным, так, з недапітаю бутэлькаю ліманаду ў руцэ, колькі разоў спатыкнуўшыся аб цесна састаўленыя лежакі, пашыбаваў прэч. З пляжа. Са свайго сну. Са свайго мінулага. Пераканаíы, што звароту ўжо не было. Не будзе. Што б за гэтым сыходам ні стаяла.

30

Калі дзверы пустой, цёмнай яе кватэры зачыніліся і Стэфа ўключыла святло, гадзіннік паказваў дзесяць хвілін на трэцюю. Глыбокая ноч. Спярша самалёт, затрымаўшыся ў Сімферопалі, прызямліўся ў Мінску са спазненнем на тры гадзіны, потым багаж доўга прачакалі і яна паспела не адзін раз пашкадаваць, што здала сумку пры вылеце, а атрымаўшы нарэшце сумку, як не з паўгадзіны ўгаворвала таксіста везці ў горад за тую суму, якую мела напрыканцы свайго няўдалага, хоць, па ўсіх абывацельскіх мерках, і шыкоўнага адпачынку.

Шыкоўнага... Зянон, нічога не патлумачыўшы і пакінуўшы яе на ўзбярэжжы адну, з'ехаў яшчэ тыдзень таму, яшчэ ў той дзень, ашалелы ад спёкі, калі кінуў ёй у твар бязглуздае, жорсткае абвінавачванне: «Гэта мы з табою...» Што ён меў на ўвазе, яднаючы, спалучаючы іх дваіх нікім і нічым не даказанаю віною, цяпер не спытаць.

— Ат! Выкінуць трэба ўсё з галавы! Выкінуць раз і назаўсёды. Што яна — мужыка для начной пацехі не знойдзе, калі што... Не клінам жа свет на гэтым былым сышоўся! Даўно адчувала, даўно прадчувала, прадбачыла падобны фінт — да таго, як кажуць, ішло, так што нечаканасцю, ці тым больш трагедыяй, расстанне з ім не ўяўлялася. Ні

тады, у Кактэбелі, ні цяпер, па прыездзе. Яшчэ пасмяецца некалі з акцёрскай, нават у той далёка не тэатральнай сітуацыі — чыста акцёрскай патэтыкі: «Гэта мы, мы з табою, забілі...»

Кінуўшы неразабраныя рэчы і не знайшоўшы ў сабе сілы залезці пад душ, адно спаласнула твар цёплаю вадою. Распраналася па дарозе ў спальню, на міг-другі затрымаўшыся каля люстэрка, заўважыла, што пасвяжэла за два тыдні і выглядала на ўсе сто,— адно што прайсціся, пакруціцца не было перад кім.

— Спаць, спаць, спаць! — падагнала сябе і гнутка, усім целам пацягнулася, перш чым нырнуць пад прасціну і з уздыхам палёгкі выпрастацца на зручным, звыклым ложку, звёўшы стомленыя павекі.

І дзіўная справа! — нягледзячы на тое, што ад стомы і жадання спаць толькі што адно не млела, тут, нарэшце улёгшыся, адчула: не засне. Сон не ішоў. Ні адразу, ні пасля, праз колькі здоўжаных чаканнем хвілін: хоць вочы зашывай! Ляжала, старанна, рытмічна дыхала, гнала любыя думкі, усё больш настойліва загадваючы сабе спаць, адключыцца ад усяго і спаць — і хоць бы што! Суцемкі, то апускаючыся і ахутваючы яе, то зноў адступаючыся да акна, за акно, ціха, з ціхім, ледзь улоўным шолахам пакалыхваліся ў цёмным кубе пакоя, і яна, Стэфа, нібыта ўмураваная ў яго, у ноч, што яго акружала, пачувала сябе малою, бяссілаю казюркаю. Ні больш, ні менш.

Так не магло прадаўжацца доўга. Нейкі час Стэфа яшчэ спрабавала адолець бяссонніцу, шукала больш утульную позу, спрабуючы расслабіцца, але хутка была змушана падняцца, каб уключыць святло. Не тут, не ў спальні, а ў зале, адкуль, як ёй здавалася, тачылася, прасочвалася ўслед за няроўным водсветам вулічнага ліхтара якаясь няўцямная трывога.

Намацала выключальнік, пстрыкнула ім і рэзка павярнулася, каб ахапіць паглядам увесь пакой: усё на сваіх месцах, усё — як зазвычай, калі не лічыць кінутай пасярод пакоя вялікай дарожнай сумкі. Ад чаго магла сыходзіць трывога?

І тут яна, перш, на колькі імгненняў раней, напружыўшыся, убачыла на стале, пасярод стала, пісьмо. Дакладней — канверт, бо ні маркі, ні якога-небудзь іншага паштовага знаку, ні нават кароткага, з некалькіх літар надпісу не было. Яго самога — Стэфа магла б паклясціся чым заўгодна! — яшчэ паўгадзіны таму не было: хіба не заўважыла б яна канверта на такім адкрытым пагляду месцы?

«Парві, парві на дробныя кавалачкі, не чытаючы, не заціраючы ў канверт»,— шапнуў голас перасцярогі, і Стэфа тут жа паспяшалася пагадзіцца з ім, стала пераконваць сябе што так і сама намервалася зрабіць, што так і зробіць урэшце, каб потым не шкадаваць, ні аб чым не шкадаваць. Але адна хвіліна выцясняла другую, другая — трэцюю, а жанчына і руху ў накірунку да стала не зрабіла: хто яго ведаў, чыё таямнічае пасланне там ляжала!

— Ды гэта ж Зянон, няйначай, заходзіў і гэткім чынам развітаўся, ключы ад кватэры ў канверце пакінуўшы! — вырвалася нечакана і на поўны голас, так што цішыня ўскінулася і, спалохана сцяўшыся недзе ў самым дальнім кутку, дыхаючы цяжка, няроўна, у такт з яе, Стэфіным, дыханнем.— Цьфу ты, насланнё...

Узяла сябе ў рукі (дома ж! у сваёй кватэры!), выраўніваючы дыханне, падышла да стала і, перш чым узяць канверт, апусцілася на падсунутае бліжэй крэсла.

«Мама, ты не разумела мяне...» — кінуліся ў вочы першыя словы на складзеным, укладзеным у канверт аркушы, і Стэфу быццам токам ударыла: дачка пісала! дачка звярталася да яе, упершыню, адно толькі цяпер, па смерці, называючы мамаю!

Пальцы ўздрыгвалі, дрыжалі, у любы момант гатовыя адкаснуцца ад лістка, калі б штосьці раптам напалохала яе, але разгарнуць невядома калі і кім прынесенае ў хату пісьмо Стэфа ўсё ж разгарнула: адступацца, па ўсім відаць, было позна. Позна — і недаравальна, калі хоць крайком свядомасці ўспомніць, што яна псіхіятр.

«Мама, ты не разумела мяне,— пабеглі літары, словы насустрач пагляду.— Не зразумела, не адчула, што я любіла і люблю цябе. Люблю не толькі па абавязку, абавязаная табе самім нараджэннем сваім, а і па волі сэрца — усім сэрцам. Маўчала ж, чакаючы таго моманту, калі адгукнешся ты на мой маўклівы кліч, каб сказаць: няшчасная ты мая, адзінокая...»

Сцяўшы зубы, у бяссільным гневе скамячыла лісток: бач ты на гэтую разумніцу! Шкадаваць яе ўздумала — і калі? Калу Богу душу сваю аддала...

— Ты таксама палюбіш мяне, ты ўжо мяне любіш! — загучаў у пакоі Нялюбін голас, агучваючы напісанае, не дачытанае ёю, і Стэфа адчула, што камянее ад жаху, ад жадання і немагчымасці закрычаць.— Што чалавек павінен, тое ён і можа... Не цяпер, дык пазней усвядоміш ты гэту любоў і памкнешся, сама памкнешся ўстаць перад Богам, якога не ведаеш, каб апраўдацца. Апраўдацца за тое,

што жыла, жывеш — як трава пры дарозе: нехта пакарыстаецца, нехта прытопча... Калі ўся сіла ідзе адно на выжыванне, на тое, каб улавіць, ухапіць сваю долю цяпла, вільгаці, зямнога соку — дзе ўжо тут падняць галаву ўгору, убачыць свой адбітак на небе, уразумець сваю прыналежнасць да Бога, да вечнасці? Грэх жа, любы грэх — і гэты таксама! — зжываецца толькі любоўю, радасцю любіць.

— Радасцю? — выціснула з сябе Стэфа, каб не маўчаць, каб хоць неяк умяшацца ў тое, што адбывалася, і ад напружання ў яе ажно пот на лбе выступіў.— Мо скажаш, якая такая радасць была табе — ад тваёй любові?

— Любоў — заўсёды радасць. Асабліва, калі яна — ахвяра.

— Ці не хочаш ты, мёртвая, давесці мне, жывой, што адно дзеля мяне прынесла ахвяру? Ахвяравала сваім жыццём?

— Бог не прыняў маёй ахвяры. І мне шкада цябе, мама, мая бедная мама!

— Шка-да?! — абхапіла Стэфа абедзвюма рукамі галаву, якая расколвалася ад болю, ад неразумення і болю, і застагнала.— Цябе ж няма! Няма, чуеш?

— Мне проста не дазволена вярнуцца на зямлю... да цябе...— цішэў, быццам аддаляўся голас.— У нас ёсць яшчэ дваццаць адзін дзень, мама. Дваццаць адзін з адведзеных мне, як і ўсім, сарака. І калі ты... Калі ў любы з гэтых дзён ты пагукаеш мяне — успомніш і пагукаеш, я адгукнуся, загавару да цябе. Бо я дзень і ноч помню пра цябе. Я люблю...

— Але я не хачу, не хачу тваёй любві! Я не хачу, каб ты адгукалася! — закрычала ў адказ, перапыняючы, абрываючы гучанне ненавіснага ёй у гэты момант голасу, Стэфа, і хоць адчувала, нейкім патаемным веданнем ведала, што ён ужо не вернецца, сёння — не вернецца, зноў і зноў паўтарала гэтыя фразы, працівячыся пачутаму, пярэчачы, спрабуючы давесці Нялюбе (ці хутчэй — самой сабе!), што здольная на пратэст, што зусім не забіраецца з'ехаць з глузду з-за нейкіх там выбрыкаў уяўлення, падагрэтага бяссонніцаю.

Калі ўрэшце змаглася, знясілела ад слоў, ад марных сваіх спробаў давесці штосьці сабе, сваёй бяссонніцы, гэтай недарэчнай, бязглуздай ночы і змоўкла, услухоўваючыся ў цішыню, не адразу заўважыла, што ноч мінала, мінула, што за акном даўно світала і ў пакоі было светла не ад прышэрхлай лямпы, а ад таго, за акном, нябеснага святла.

Гадзіннік, напэўна, не заведзены ўчора, у мітусні ад'езду і прыезду, стаяў, і, зноў перавёўшы пагляд на акно, на краёк неба за ім, Стэфа напружана церла лоб, раз-пораз право-

дзіла далонямі па твары, так, нібыта сцірала і ніяк не магла сцерці з яго перажытыя імгненні. Што гэта было? Яна не ведала.

Не, не, тлумачэнне абавязкова знайшлося б, калі б у яе цяпер стала сілы разважаць! Вось жа яна, Стэфа,— жывая, здаровая, пры сваім розуме і ў сваёй хаце, а голас... Ці мала што магло пачуцца ці звідзецца стомленаму дарогаю, перажываннямі чалавеку! Псіхіка — рэч тонкая, патрабуе тонкага абыходжання, і ў гэту хвіліну галоўнае для Стэфы — адпачынак. Адпачынак і добры сон. Нічыйго голасу яна не чула, ніякага канверта ў руках не трымала...

І канверт і выцягнуты з яго і гнеўна скамечаны Стэфаю лісток па-ранейшаму ляжалі на стале, рэзка, да рэзі ў вачах вылучаючыся на цёмнай яго паверхні. Уздрыгнуўшы так балюча, што здалося: штосьці абарвалася ўнутры, Стэфа з хвіліну марудзіла, а потым рашуча і без шкадавання пачала рваць, разрываць іх — перш скамечаны лісток, а потым і канверт — на дробныя-драбнюткія кавалачкі.

— Вось так... вось так...— паўтарала на кожны рух, і па-ціху вяртаўся спакой, і ўсё далей адступала ноч.

Ранак убіраўся ў першыя строі: заружавелі высокія нябачныя аблачыны, павольны рух якіх хутчэй угадваўся, чым заўважаўся, па цёплых водсветах на лісцях таполі і на сцяне дома насупраць, павернутай на ўсход. Яшчэ колькі хвілін — і шырокія прагалы паміж аблачынкамі пачалі напітвацца, набракаць аднекуль з вышыні, з касмічных далячыняў чысцюткім, крыштальна звонкім блакітам. А за ім, далей на ўсход, там, дзе сыходзіліся дзве прасторы, зямная і нябесная, і спалучаліся, утвараючы правільна акруглую сферу, лініі далягляду, ружовы колер саступаў насычанаму залатому і, па ўсім відаць, хутка павінна было паказацца сонца.

Сонца... Яно яшчэ ўчора так шчодра саргавала Стэфу ў Кактэбелі, што і сёння, тут, у запыленым, затузаным транспартам і мітуслівым людам горадзе, у адной з цесных і не вельмі ўтульных яго кватэр-каморак, не магло яе не прывітаць, не падбадзёрыць: не адзін жа дзень, не толькі гэты вось дзень наперадзе!

Не адыходзячыся ад акна, як прыляпіўшыся паглядам да яркіх водсветаў неба за ягонымі шыбамі, у прасветах паміж таполевым веццем, Стэфа слухала і слухала цішыню ў кватэры, у сябе за спіною, і не паварочвалася, каб зноў не ўбачыць гулкую яе пустату і пасяродцы, на стале, засланым цёмным абрусам, шматкі разарванага ў адчаі, у адчайным пратэсце, паслання. Чакала. Каго? Чаго?

Калі рэзка, патрабавальна азваўся ў прыхожай тэлефон, званок, па ўсіх ранейшых мерках — занадта ранні, ні сваёю гучнасцю, ні нечаканасцю не напалохаў: матлянулася праз пакой, у дзверы, быццам чакала менавіта гэтага тэлефоннага званка.

— Слухаю.

— О-о-о, думаў, што давядзецца разоў пяць набіраць, каб збудзіць паненку ад сну, ад летуценняў, прывезеных у чамадане,— загукаў у трубку з другога канца горада Жыноўскі,— ажно яна ўжо на нагах. Пра мяне, гаротніка, успомніла, няйначай?

— Калі меркаваць па голасе, не дужа гараваў ты тут без мяне,— усміхалася Стэфа, узрадаваўшыся, што жыццё пагукала, зноў гукала яе, хоць бы і грубаватым, каляным нават на слых голасам Жыноўскага.— Чаго не вітаешся?

— Здароў. Я тут чакаю, чакаю...

— Чаго чакаеш?

— Падмены, чорт вазьмі, чаго ж яшчэ? — задаволена бурчаў той.— Ты віхляла задам перад мужыкамі ўсяго чарнаморскага ўзбярэжжа, Савеліч з'ехаў на кангрэс, а я другі тыдзень трублю тут без выхадных, без элементарнай падмены. Каб ведаў, дзе знаходзіцца на сённяшні дзень рэзідэнцыя Госпада Бога, дальбог, даўно апеляцыю напісаў бы і падаў.

— А ў мяне, грэшнай, мільгала спадзяванне, што сёння яшчэ і адаспацца змагу.

— Не-не-не, даражэнькая! — тут жа ўзвыў той.— І не думай, і не мыслі: усё кіну і збягу, і няхай гарам тут усё пойдзе — жывы я чалавек, ці не? Га, галубчык?

— Жывы, канешне ж, жывы,— уздыхнула Стэфа больш найграна, чым сапраўды засмуціўшыся.— Адасплюся якнебудзь потым.

— Во-во! Рукі ў ногі і...

— Дарэчы, каторы цяпер час, Анатоль? — спытала, успомніўшы, што так і не завяла гадзіннік.

— Палова на шостую. Так што — самы час для працоўнага чалавека на работу збірацца.

— Угу. Еду.

Паклала трубку. Пацягнулася перад люстэркам і пайшла назад, у пакой. Праз пакой — у кухню, дзе ўключыла газ і паставіла на агонь чайнік: пакуль разбярэ рэчы і пераапранецца, вада ўскіпіць і льга будзе прыгатаваць кубачак кавы. А пасля кубачка кавы ёй сам чорт не страшны — так, здаецца, сцвярджаюць разумныя людзі?

Так, так, яна, Стэфа, сама — гаспадыня свайго лёсу. І

сёння, і заўтра, і заўсёды. А калі так, то і сумнявацца не выпадае. Што схоча, тое і зробіць. З кім схоча пагаманіць, з тым і пагамоніць, калі надарыцца хвіліна шчырасці. А ўсё астатняе... Усё астатняе — у сметніцу! на сметнік! у цёмную прорву былога! Было — і было, і шкадаваць не варта. Не ёй, Стэфе, шкадаваць, калі цэлы кавалак жыцця яшчэ наперадзе, і гэты кавалак — увесь, цалкам! — належыць ёй, ёй адной!

31

Прыйшоў Уладзіслаў на вернісаж толькі таму, што не хацеў пакрыўдзіць мэтра, праігнараваўшы (так бы гэта ўспрынялося!) ягонае асабістае запрашэнне, а так бы...

«Ну, ну! — стрымаў сябе.— Жывапіс тут ні пры чым. І хоць стары яўна і залішне часта паўтараецца, насілуючы ранейшыя і даўно згаслыя эмоцыі, ёсць палотны нішто сабе».

— Прабачце! — наляцела на яго жанчына, аслепленая пейзажам летняга, залітага яркімі фарбамі дня.— Прабачце, калі ласка!

— Мне нават прыемна,— буркнуў Уладзіслаў па звычцы, і блізка не зацікавіўшыся даўгавалосаю, з зусім невыразным тварам аматаркаю жывапісу, а яна ўжо прыліпла да ягонага твару паглядам, у якім чыталіся і здзіўленне, і нерашучасць, і яшчэ штосьці, што наўрад ці льга было вызначыць.— Мы ж з вамі не знаёмыя, ці не так?

Ён ужо ступіў убок, адступаючы, але жанчына рашуча падалася следам, чапляючыся за рукаў.

— Вы ж Уладзіслаў, праўда? А мяне, мяне вы хіба не пазнаяце? — лапатала.— Я Ната, Ната, Стэфіна сяброўка, колішняя суседка па інтэрнаце. Памятаеце?

Спахмурнеўшы, пазіраў на яе Уладзіслаў — пазнаваў і не пазнаваў былую сваю знаёмую... Столькі гадоў прайшло!

— Столькі гадоў прайшло...— паўтарыў тое, што мільганула ў думках, не ведаючы, што сказаць.

— Бог мой, ну, канешне! І трэба ж — усё-такі сустрэліся,— па-свойску абапіралася ўжо Ната на ягоную руку, шчаслівая тым, што на іх, такіх непадобных, звярталі ўвагу і ёй, крыху разгубленай у гэтым месіве незнаёмых людзей, ёсць з кім перамовіцца.— Семнаццаць... не, лічы, усе васемнаццаць год мінула, бо Нялюбе — гэта Стэфіна дачка, Уладзіслаў! — днямі споўнілася б семнаццаць...

— Чакайце, чакайце! — застагнаў Уладзіслаў, якому так хацелася атрэсці яе руку і збегчы, што даводзілася, стрым-

ліваючы сябе, напружваць усю сілу працідзеяння.— Мо льга неяк па парадку? А? Я абсалютна нічога не разумею.

— Па парадку? Але ж я і кажу,— не выпускаючы ўхамутанае рукі, імкнулася Ната пазіраць яму ў твар і таму прыўздымалася на дыбачкі і смешна выварочвала шыю — знізу ўверх, са свайго невысокага ў параўнанні з ягоным росту.— Пасля таго як... Пасля гвалту, учыненага над Стэфаю, калі вы адвярнуліся ад яе — не, не, я ні ў якім разе не абвінавачваю вас, Уладзіслаў: на вашым месцы любы павёў бы сябе так, а не іначай! — Стэфа зацяжарала і, больш таго, вымушана была нарадзіць дзіця. Маці яе настойвала, вось і вымушана была... І нарадзіла. Дзяўчынку. Нялюбаю звалі.

— Нялюбаю? Але ж гэта не імя,— ужо не спрабаваў бараніцца ён: мо таму, што нахлынулі раптам успаміны, здавалася, даўно пахаваныя ў мінулым, мо таму, што раптам зацікавіўся няхітраю гісторыяй былой каханай.— Хто б назваў так сваю дачку?

— Ты што, Стэфы не ведаў? — хвалюючыся, незаўважна для самой сябе, перайшла яна на «ты», і нават Уладзіслаў заўважыў не вельмі прыхаваную трывогу і на павернутым да яго твары, і ў голасе жанчыны.— У яе пасля таго выпадку як чорт усяліўся: нікому і нічога не магла дараваць, усяму свету гатова была помсціць за страчанае каханне, за паламаны лёс свой.

— А што дачка?

— Дзяўчынка з бабкаю вырасла. Толькі самы апошні год, пасля смерці старой, пражыла са Стэфаю.

— Пражыла? Яна што...— не дагаварыў Уладзіслаў.

— Яе месяц ужо як таксама няма,— церабіла Ната дрогкімі пальцамі лацкан ягонага пінжака.— Стэфа ніколі на яе асабліва не зважала — ні раней, ні потым, калі забрала ў Мінск, да сябе, а тут, пасля яе смерці... Нават не ведаю, ці казаць.

— Ды вы скажыце напачатку, што з дачкою яе, з гэтаю Нялюбаю, сталася,— зазлаваў, нягледзячы на тое, што так доўга стрымліваўся, Уладзіслаў: скача з аднаго на другое, муляе ў роце непаслухмяныя словы, замест таго каб растлумачыць усё па парадку, калі ўжо ўзялася штосьці тлумачыць.— Што ўсё-такі здарылася? Няшчасны выпадак? Гвалт, страшнейшы, чым некалі над яе маткаю? Што?

— Ніхто нічога не стаў вытлумачваць,— адпусціла яна яго руку, яшчэ больш разгубіўшыся ад яго націску і не ведаючы, ці мела яна ўрэшце права пасля столькіх гадоў, што ўсталі паміж Уладзіслававам і Стэфаю, цяпер, у гэтую вось

хвіліну, што-небудзь з таго, што тычылася адно Стэфы, тлумачыць яму, даўно староннiяму чалавеку, але ж калі распачала... Тым больш, што дасюль ён ні пра што і не пытаўся! — Знайшлі дзяўчынку, як сказалі, у Полацку, на беразе ракі. Медыцынскае заключэнне: раптоўна спынілася сэрца. Што само па сабе дзіўна: Нялюба не была хваравітаю — што ўжо там, але не гэта...

— А Стэфа?

— Стэфа? — перапытала ўжо з непрыхаванаю трывогаю, а потым насмелілася і ўсё-такі прадоўжыла.— Разумееш, спярша яна ўспрыняла смерць дачкі спакойна. Знешне — амаль абыякава. Паехала з... Адным словам, нават паездку запланаваную ў Крым і ўзяты з яе нагоды адпачынак за свой кошт не стала адмяняць. А цяпер... Цяпер, па прыездзе, на вачах мяняецца. Як захварэла. Як захворвае: і думае: і гаворыць адно пра дзяўчынку. А то і з ёю самою.

— Не зразумеў,— напружваў Уладзіслаў і слых, і памяць, каб што якое ўразумець.— Стэфа ж псіхіятр, па крайняй меры, павінна была ім стаць.

— Гэта нічога, на жаль, не мяняе. А то і ўсугубляе справу,— ціха азвалася Ната, ужо шкадуючы, што паддалася моманту і распачала нікому не патрэбную гаворку — гаворку, па сутнасці, з незнаёмцам, колькі ні азірайся на мінулае.— Не ведаю, як растлумачыць... Дух даччыны пачаў ёй з'яўляцца, голас яе чуе... Скажы, ты верыш у падобныя рэчы?

— Не знаю,— разгубіўся Уладзіслаў.— Ніколі не думаў, ніколі не цікавіўся акультнымі навукамі... Хутчэй за ўсё, не веру.

— І яна не верыць. Ніколі, у адрозненне ад мяне, не верыла! Ад таго і небяспека: вар'яцее штораз, што ёсць сілы працівячыся... Быццам гэтаму можна працівіцца! Слухай,— з маленнем і ў голасе і ў паглядзе прадоўжыла, зачапіўшыся, як ёй здалося ў гэты міг, за ўдалую, калі меркаваць па раптоўным бляску ў вачах, думку,— мо ты пазвоніш ёй? Я разумею, я ўсё разумею! Столькі год мінула, столькі ўсяго ў душы перагарэла за ўсе прамінулыя паміж вамі гады, што просьба мая выглядае, мякка кажучы, дзіўнаю, але я прашу, я ўсё-такі прашу: пазвані! Проста так. Ніяк не вытлумачваючы прычыны. А? Адно каб думкі яе пераключыць на штосьці іншае, больш вартае будучыні, і тым самым вырваць з адзіноцтва, у якім яна замыкаецца, а? Мяне яна ўжо не чуе... Мо пазвоніш?

— Не, не! — рашуча запярэчыў ён, адступаючы.— Раз-

бітае не склеіць, а ўрач з мяне заўсёды быў ніякі. Ніякі, паверце!

— Мне здалося...

— Не, не! — сціраў ён з твару нябачную павуціну ўспамінаў, нават не заўважаючы сваіх рухаў.— Мне шкада вашу... Шчыра шкада Стэфу, але... Але я нічым не змагу ёй дапамагчы. Не змагу, нават калі б урэшце і схацеў.

— Кожны сам расплачваецца за свае памылкі? Кожны сам у адказе за свой лёс, так? Прабачце!

Ці то баронячыся ад слёз, якія пяклі ўжо знутры, ці то ўхіляючыся ад несправядлівасці іншых, грубых і абвінавачвальных, слоў, Ната нетаропка, рэзка адвярнулася і пайшла, і Уладзіслаў ніяк не памкнуўся затрымаць яе. Сустрэўшыся, не павіталіся — пагаманіўшы, абышліся без развітальных слоў... Быццам і не было ніякай сустрэчы!

«Пазвані...» Куды? Дзеля чаго? Каб сказаць, што ўсе гэтыя няпоўныя васемнаццаць гадоў памятаў пра яе, кахаў яе? Дык жа няпраўда. Не памятаў. Не кахаў. Згадваў калі-нікалі, не без таго, але ж згадка, няхай сабе нават і прыемная,— яшчэ не туга па страчаным, страчаным аднойчы і назаўсёды, так што... Так што супакойся, хлопец, і выкінь і сустрэчу і гаворку з галавы!»

Супакоіўся Уладзіслаў даволі хутка. Яшчэ нейкі час пастаяў, праводзячы позіркам купку высокапастаўленых гасцей выстаўкі, хоць, па ўсім відаць, абыякавых да яе, і пайшоў у адваротным кірунку, да высокай каменнай лесвіцы.

Палотны, палотны, палотны! І кожнае — яркі згустак фарбаў, згустак леташніх, пазалеташніх і яшчэ хто ведае якому часу прыналежных і даўно пазбытых эмоцый. Усё плыло перад вачмі, усё злівалася ў адну стракатую пляміну — і не было ні сілы, ні жадання прыпыніцца, спыніць яе рост і зачапіцца за якую-небудзь рэалію. Міжволі думалася пра тое, што скрозь, колькі не перабірай гісторыю, вораг мастака — ён сам, што колькасць у мастацтве ніколі нічога не вызначала, а мэтр, як любы на што-небудзь здатны мастак, пішучы шмат і без належнага адбору, адно прайграваў на гэтым. Усё часцей заўважалася, што вылушчвае свой талент, спусташае душу, не клапоцячыся пра новае назапашванне ведаў, эмоцый, назіранняў...

Ён разумеў, што ўсё гэта тычылася і яго самога, найперш — яго самога, і хмурыўся, хмура ківаў у адказ на вітанні знаёмых калег, рашуча кіруючыся да лесвіцы, да выхаду. На банкеце, наладжаным з нагоды адкрыцця выстаўкі, абыдуцца і без яго, а работы паглядзіць як-небудзь пазней. Днямі. Калі ў залах будзе ціха і пуста. Калі ў ім, у

душы ягонай, зноў усталююцца разуменне і спагада, і настрой, адпаведным чынам, зменіцца.

Што там нарасказвала яму сустрэтая выпадкова псіхапатка пра Стэфу? І хто яна яму сёння, гэта Стэфа?

32

Дождж зусім не нагадваў летні. Цыруболіў і цыруболіў, пагражаючы заліць, патушыць вечар. Другую гадзіну сядзела Стэфа перад адчыненым акном, хуталася ў накінуты на плечы шарсцяны плед і слухала, слухала цёплы перазвон струменяў, удзячны шолах пасвяжэлай таполевай лістоты, глыбокую, адасобленую ўсімі гэтымі згукамі ад зямлі цішыню неба. Ведала: яно, неба, адгукнецца, калі наогул адгукнецца, пад самы ранак, на золку, як было ўжо неаднойчы, і ўсё роўна ўвесь час услухоўвалася, сцярожка і пільна,— заканчваўся апошні з тых дзён, якія давала ёй Нялюба на роздум, а думкі, хоць і круціліся дзень і ноч вакол таго, што адбылося і адбывалася, не нашмат за ўсе гэтыя дні праясніліся, пасвятлелі. Што ёй з імі, балючымі, рабіць?

Раскажы яна каму пра сваё чаканне, пра гаворкі з памерлаю дачкою на золку, у шарую перадсвітальную гадзіну, хто знае, пра што падумаюць, асцярогшыся. Калі ўжо Ната, скрозь, колькі яна яе памятае, захопленая ўсякімі экстрасенсамі, сеансамі медыумаў і групавымі медытацыямі, спалохалася яе прызнанняў, то ўжо што пра простых смяротных казаць у такім выпадку! Яна ж, трэба прызнацца, і сама сябе часам не разумела...

Адно і разумела: сябры пакідалі, пакінулі яе (ці і не было іх, сапраўдных сяброў?), і яна засталася адна. Адна ў гэтай вось кватэры. Адна ў цэлым свеце. І чым часцей задумвалася, тым шчыльней сціскалася вакол адзінота: ніхто не заходзіў, ніхто не тэлефанаваў. Дождж пастукаў у акно — узрадавалася...

Мажліва, яна сама, сама і вінаватая ва ўсім? Здаўна ж, скрозь бачыла і чула толькі сябе. Недзе там жыла, гадавала яе дачку старэнькая, не вельмі здаровая маці? Ну, і што! Не гукала ж яна з Мінску Стэфу, не прасіла дапамагчы... Памерла маці, не дачакаўшыся яе? Ну, што ж, усе некалі паміраюць — раней ці пазней. Чым тут дапаможаш? Вялікая, амаль што незнаёмая дзеўка, дачка Стэфіна, стала жыць побач? Не адмаўлялася ж Стэфа карміць яе, вучыць яе, не праганяла...

Усё так. Усё нібыта так і ёсць, і лёгка вытлумачваецца, калі б давялося каму тлумачыць. І ўсё ж, нешта муляла,

нешта тузала душу: думалася пра тое, пра што Стэфа дагэтуль і згадваць не згадвала.

І маці, і Нялюба любілі яе... Мо ў гэтым справа? У гэтым, а не ў чым іншым? Не заўважала Стэфа ні матчынае, ні даччынае любові, не прымала, нават калі заўважала.

Зябка сцепанула плячмі, шчыльней захінулася ў плед і памкнулася прычыніць акно: час класціся, калі не хоча праспаць прыход раніцы. Хоць дождж, урэшце, не перашкаджаў, і калі легчы не ў спальні, а тут, у зале, на канапе, крыху манатонная песня яго хутка закалыхае. Вось і няхай закалыхвае.

Прынесла са спальні падушку і коўдру і, нядоўга думаючы, адмаўляцца ці не адмаўляцца ад душа, юркнула пад коўдру. Шчыльней, з усіх бакоў, падаткнула яе вакол і сцішылася. Вачэй не заплюшчвала — пазірала на занавешанае толькі дажджом акно і паціху, ведучы ціхі адлік прамільгнулых імгненняў, адцярэблівалася ад непрыемных, кранутых горыччу думак: дождж, дождж... Ва ўсім свеце ішоў дождж...

Кроплямі, струменямі дажджу распаўзаўся, расцякаўся па зямлі вечар: брудныя яго лужыны то там, то сям адблісквалі цёмным, а месцамі і чорным, як дзёгаць, небам, і ад гэтых трывожных водбліскаў рабілася трывожна, нават страшна і ёй, Стэфе. Толькі што тут, побач, высокімі мурамі вырастаў, уздымаўся знаёмы, вядомы да самай малой шчэрбінкі на тратуары горад, а цяпер, ледзь толькі знік за бліжнім паваротам аўтобус, на якім яна прыехала з работы, з бальніцы, пасля дзяжурства, і дамы, і вуліцы з усім сваім начыннем растварыліся ў цемры, у струменях дажджу, што хлынуў зусім нечакана і не сціхаў, а з кожным імгненнем набіраў сілу.

Яна тапталася на месцы, круцячы галавою, кідалася бегчы, не зважаючы ўжо на глыбокія лужыны і калдобіны, то ў адзін бок, то ў другі, супрацьлеглы,— каб хоць якая прыкмета жытла! Каб хоць адна жывая душа трапіла на вочы!

Цёмная, чорная вада лілася зверху, цёмная, чорная вада пад нагамі... Вымакла ўжо да ніткі, туфлі засталіся недзе ў гразі, у адной з калдобін, і адшукаць іх не было ніякай магчымасці, сумка, якою яна спачатку, зусім інстынктыўна, прыкрыла галаву, раскісала, распаўзалася ў пальцах — і што рабіць, дзе хавацца ад раптоўнай навалы, Стэфа не ведала. Не бачыла. Усё часцей, без дай прычыны спыніўшыся пасярод якой-небудзь лужыны, сцінацца ад жаху перад тым, што яе чакала, што яе магло чакаць, калі дождж

не ацiхне i гадзiну, i другую, а вечар не расступiцца, не адступiць перад чыiм-небудзь, хоць чыiм-небудзь агеньчыкам цi асветленым акном.

— Няўжо я адна тут? Няўжо я зусiм адна? — пытала ў цемры, у дажджу, у нябачнага за iм неба, i не было ў iх для яе хоць якога-небудзь адказу.

— Лю-дзi!! Адгукнiцеся хто-небудзь! Падайце хто-небудзь голас! — гукала ў цемру, у дождж, у нябачнае з-за цемры i дажджу неба, i клiч не вяртаўся, знiкаў, змыты, размыты струменямi вады.

— Госпадзi, твая гэта работа цi д'яблава? За што мне такое ад неба, мною не ўведанага? — у адчаi, захлынаючыся i дажджом, i гэтым сваiм адчайным крыкам, крычала ў пустату перад сабою i над сабою, i ў святатацтве яе, у неразуменнi таго, што i каму крычала, чулася не толькi балючае недаўменне, але i пакута, першая сапраўдная, першая адчутая ею ў жыццi, у безнадзейнасцi гэтага жыцця, пакута.

Зямля ж пад нагамi ператваралася ў суцэльнае месiва. Здэцца, калi б не кiдалася ўвесь час Стэфа то ў адзiн, то ў другi бок, калi б спынiлася, знясiлеўшы, гразь тут жа пачала б усмоктваць яе, паглынаць. I так ужо з цяжкасцю выцягвала Стэфа ногi з размяклай, лiпкай глiны, блытаючыся ў залепленай ёю, цяжкой ад вады i гразi спаднiцы, i так ужо ледзьве рухалася.

Крычаць яна перастала: сутаргаю зводзiла твар на кожны выдраны з глоткi крык, на кожны гук. Ды i спадзеўкi не было, што хтосьцi яе ў гэтым пекле пачуе. Хто?

Сiла пакiдала яе. Стэфа старалася не паддавацца, не паддацца слабасцi, слабасцi i жаху перад неверагодным — неверагодным для яе, для горада, для ўсяго жывога канцом, але з кожнаю хвiлiнаю слабела. Рухi яе запавольвалiся ўсё больш, холад, якога дагэтуль не адчувала, даймаў усё больш i, распаўзаючыся, скоўваў непаслухмянае цела. Панiчныя, мiтуслiвыя думкi марудна, але саступалi абыякавасцi. Тупой, выклiканай змогаю абыякавасцi.

На нейкi момант як пачуўся чыйсьцi слабы, цiхi, быццам iшоў з-пад зямлi, клiч, але, вiдаць, толькi пачуўся, бо колькi потым нi напружвала Стэфа слых, i хвiлiну i другую нiчога, апроч шуму дажджу, не чула. I ўсё ж, сярод гэтага патопу апынулася, напэўна, не яна адна, бо праз колькi хвiлiн клiч, больш падобны на цiхi стогн, паўтарыўся, i Стэфа, сабраўшыся з сiлаю, кiнулася ў той бок, адкуль ён даносiўся, гучаў усё больш выразней.

— Я тут! Я тут! — загукала, напружана, да рэзi ў вачах, узiраючыся ў чорныя падцёкi цемры перад сабою.

Стогн пагучнеў, і, зрабіўшы яшчэ два-тры крокі, Стэфа ўбачыла таго, хто стагнаў. Стары (чым ён мог ёй дапамагчы?), заваліўшыся набок, не мог выцерабіцца, выпаўзці з глыбокай калдобіны і, раз-пораз сплёўваючы гразь, якую адграбаў здзеравянелаю ад холаду жменяю далей ад твару, ад самага роту, жаласна, ужо безнадзейна стагнаў. Згледзеў яе, паспрабаваў прыўзняцца і зноў саслізнуў уніз.

— Памажы...— захлынаўся граззю,— ты ж жанчына, ты можаш дапамагчы...

Стэфа, якая спярша адкаснулася, адступіла назад, усё ж на просьбу яго, на жаласны кліч яго падалася крыху бліжэй і, нахіліўшыся, падала старому руку — разумела, добра бачыла, што не вывалачэ яго, не здолее, і падала, дазволіла нямогламу ўчапіцца ў сваю руку і напружыць у апошнім намаганні ўсю астатнюю сілу.

Рывок. Яшчэ і яшчэ... Цела яе ўгразала ў гліну, слізгалася і павінна было вось-вось хруснуць, зламацца ад непамернае натугі — тады яна, застагнаўшы ад роспачы і бяссілля, расціснула пальцы і тузанулася прэч, назад.

Дождж пераходзіў у лівень. Здавалася, сцяна вады адгарадзіла ад яе адразу залітую паверх краёў калдобіну, дзе ляжаў стары, і яна доўга не магла здыхацца, хоць трохі адладзіць запаленае дыханне, каб прайсці далей, каб хоць на некалькі крокаў пасунуцца ўперад. Уперад... Дзе ён, той перад, вызначыць у гэтай залеве ўжо не ўзялася б. Ды і не гэта ўжо было важна.

Калі слепа, невідушча наткнулася неўзабаве яшчэ на нечае цела, распасцёртае ў гразі, адступіць, абмінуць яго не было сілы. Нахілілася, схілілася ледзь не да самай зямлі, каб, на міг прыкрыўшы сабою, сваім целам, разгледзець таго, хто ляжаў якраз поперак яе шляху — жывы ці мярцвяк, і разгледзела перш толькі тое, што, здаецца, не мярцвяк. Углядалася зноўку і зноўку, то быццам пазнаючы кагосьці са сваіх знаёмых (каго?), то не пазнаючы, хоць мужчына ляжаў на спіне, тварам угору і ўжо нават не спрабаваў хоць неяк захінуць, прыкрыць твар ад халодных струменяў. Ён цяжка, з сябе, дыхаў, раз-пораз захліпаючыся, і не варушыў ні рукою, ні нагою. Здавалася, нават не зморгваў ужо.

— Зянон?! Гэта ты? — нечакана ўявілася Стэфе, што яна пазнае — пазнала! — у небараку свайго былога каханка, і калі той у адказ слаба варухнуў галавою, быццам пацвярджаў яе здагадку, агаломшаная ўбачаным, закрычала, залямантавала: — Чаго разлёгся? Чаму не змагаешся супраць той навалачы, што наслала гэты лівень на нашы галовы?

Падымайся, чуеш? Не можаш ісці — паўзі! Счапі зубы, калі спатрэбіцца, зубамі за зямлю, за гэтую вось раскіслую ад вады зямлю чапляйся і паўзі! Ты ж чалавек! Ты ж мужчына! Ты не павінен — не павінен, чуеш? — паддавацца гэтай навале! Сашчапі зубы і падымайся, хоць сам, хоць з маёю дапамогаю... Мне ж не падняць цябе, не вывалачы, калі і ты...

Тузала і тузала яго. Трэсла то за адно плячо, то за другое, змушаючы напружыць усю сілу і падняцца, дапамагчы ёй падняць яго — сама ж ледзьве трымалася на нагах і слабела, слабела.

Зусім знясіленая, разагнулася, падставіла твар халодным струменям, адпачываючы,— не кідаць жа яго тут паддыхаць! — і калі зноў павярнулася да Зянона, нічога, апроч ліпкай чорнай гразі, па калена ў якой стаяла, не ўбачыла. Быццам і не ляжаў ён тут толькі што тварам угару, знясілены, паўмёртвы...

— Што, пракляты? Радуешся?! — загукала ў дождж, насустрач яго струменям, туды, дзе павінна было быць неба, больш не хаваючы слёз, не хаваючы злосці, злоснае сваёй нянавісці.— Богам прыкінуўся і зводзіш, вынішчаеш род чалавечы, грахамі яго папікаючы? Як жа! Не раскаяліся, мордамі пыл перад табою метучы! Усё людское ўхвалы, усё славы прагнеш, пракляцце на тваю сівую галаву! Смерць ён, бачыце, за нас прыняў... Шлях ён, бачыце, для ўсіх вызначыў на стагоддзі наперад... Ды гары ён гарам, гэты шлях, калі толькі пакуту на ім знаходзіш! Ненавіджу! Ненавіджу цябе!

Адчайны, сіплы крык яе не-не і перарываўся бязгучным стогнам, які скаланаў, выварочваў усё нутро, пакуль зусім не аслабнуў і не згас, патушаны дажджом, патушаны злоснымі бяссільнымі слязьмі яе, размытымі, і змытымі ім, і тады за шумам струменяў і чаўканнем гразі пад нагамі сталі чуваць галасы, стогны, крыкі іншых, гэткіх жа, як і яна, Стэфа, ці яшчэ большых грэшнікаў, і ўсе прасілі аб літасці:

— Уратуй і злітуйся над намі!

— Божа літасцівы, калі ты ёсць, калі ты не пакінуў нас на шляху нашым, дапамажы!

— Ратуйце, сілы нябесныя: зямля не трымае... Мы праклянём грахі нашыя, толькі ўратуйце!

— Заслужылі мы гнеў твой, Божа, але не карай так жорстка і нас, і дзяцей нашых, народжаных і ненароджаных...

— Народжаных і ненароджаных... Народжаных і ненароджаных...

Галасы зліваліся — і тады ўжо нельга было разабраць слоў, потым зноў прарываўся з гулу і ляманту адзін ці другі, каб назваць імя таго, каго столькі гадоў душа не ўспамінала, і прасіў, прасіў аб жаданай літасці:

— Дапамажы... Злітуйся!

— Дапамажы... Злітуйся!

Калі лівень пачаў аціхаць, стогн, у якім сышліся пакута і спадзяванне, жах і маленне, скалануў абсяг.

— Я паслаў вас на зямлю, каб вы сцвердзілі волю маю, а вы ўгразлі ў грахах сваіх,— загрымела зверху.— Я паслаў вас тварыць дабро, гадаваць дух свой для новых пераўтварэнняў, зямных і нябесных, а вы адвярнуліся ад дабра і чыніце зло, чыніце гвалт і несправядлівасць. Я паказаў вам шлях у будучыню, якая і ёсць Божае царства, а вы корпаецеся ў гразі паўсядзённасці, у смецці сваіх бяссільных думак і жаданняў.

«Ён жа судзіць нас... Асудзіў,— мільганула ў Стэфы адчайная ў сваёй безвыходнасці думка.— Павінна прыйсці дапамога, але, відаць, няма, няма адсюль выйсця!»

— Вы не сцвердзілі волі маёй. Вы забылі, што пасланыя на зямлю, каб тварыць дабро. Вы заблудзіліся ў грахах сваіх, паміж былым і будучым, і не шукаеце страчанага шляху. Чаго ж вы, заслужыўшы ўсё, што вас чакае, хочаце? Чаго просіце ў неаднойчы запляванага вамі ў слепаце і злосці неба? Жыццё ж — не толькі гэты малы прамежак паміж нараджэннем і смерцю, а і яго з годнасцю не адолелі.

— Жыццё — не толькі гэты малы прамежак... не толькі... не толькі...— перакочвала рэха ў Стэфы над галавою цяжкія, пякучыя словы, і яна міжволі ўгінала галаву ўсё ніжэй і ніжэй.

Балюча стукнуўшыся лбом аб штосьці цвёрдае, лыпнула вачмі і доўга, з хвіліну, не магла ўцяміць, дзе знаходзіцца, як трапіла сюды з холаду і макрэчы. Потым, раптоўна, убачыла растузаную занач канапу, адчыненае ў дзень, у белы дзень акно... Так, так, праспала не толькі золак, але і ўзыход сонца і добрую палову раніцы, а значыць...

— Нялюба! — пагукала, саскочыўшы з канапы.— Нялюба, ты прыходзіла і не схацела будзіць мяне?

У адказ калыхнулася і адхлынула ад акна — праз акно! — святло, лёгкая, наскрозь празрыстая аблачынка.

33

Ранішні аўтобус, на які ўзяла білет, прыходзіў у Полацк толькі вечарам, хаця і да суцемкаў, і прыкінуўшы, колькі часу спатрэбіцца, каб схадзіць на могілкі, пастаяць якіх

пяць-дзесяць хвілін каля магілы і пакласці на развітанне кветкі, Стэфа лёгка змірылася з нязручнасцю доўгай дарогі: якраз паспявала на зваротны цягнік... Не заставацца ж, на самай справе, у Полацку, у пустой матчынай хаце начаваць! Не, не, толькі не гэта!

Чаго ехала? Ужо ж, не для таго, каб былым суседзям на вочы трапіць і тым апраўдацца. Не апраўдання (хто б і за што яе апраўдваў?) шукала, а супакаення. Сорак дзён мінула з дня смерці дачкі, і не дачка — маўчанне яе гукала: чагосьці Стэфа з іх начных гаворак не зразумела, чагосьці вельмі важнага. Вось і не вяртаўся спакой, вось і муляла, мучыла жаданне дагаварыць, уразумець усё да канца і на тым паставіць кропку.

З вялізным букетам астраў Стэфа міжволі прываблівала позіркі людзей — і ў аўтобусе, і на аўтобуснай станцыі, і на гарадскіх вуліцах, калі ішла да могілкаў. Мо і са знаёмых хто трапляўся па дарозе, не бачыла. Не заўважала. Наогул, нікога і нічога ні побач з сабою, ні далей не заўважала.

Толькі аднойчы азірнулася. На Сафійскі сабор. Быццам пагукаў раптам той — настойліва і ўладна. Але і гэтага Стэфа не ўсвядоміла: азірнулася, зябка перасмыкнула плячмі і яшчэ больш заспяшалася, прыспешваючы і прыспешваючы крокі. Услед за ўжо нізкім, пунсовым ад блізкай сустрэчы з зямлёю, з тым крайком яе, што хаваўся за лесам, сонцам — насустрач вечару...

Вечар выдаўся ўсё яшчэ па-летняму цёплым, і хоць сонца дагарала, афарбоўваючы ўсё вакол трывожнымі, чырвонымі водсветамі, да суцемкаў, да той шарай гадзіны, калі пачне выпаўзаць адусюль, з усіх куткоў і ямін, на вачах загусаючы, змрок, шлях здаваўся няблізкім. Але гадзіны паўтары-дзве ў Стэфы было, і марна яна нервавалася, разпораз, перакідваючы з рукі ў руку кветкі, важкі свой букет, няздольная хоць на міг прыпыніцца, суцішыць, крыху выраўняць дыханне і супакоіць няясную, але ўсё больш адчувальную трывогу, якая расла і расла.

Урэшце, чаго было трывожыцца, паддавацца вячэрняму трывожнаму настрою? Занадта вялікая дарога для таго, хто едзе, адно каб пакласці на магілу ахапак першых астраў? Ну, дык гэта як зірнуць! Душэўны спакой і не таго, як кажуць, варты. А спакою душы якраз і бракавала. Дагэтуль. З дня вяртання ад мора дамоў, у пустую кватэру, па сённяшні дзень — і цяпер, у гэтыя вось хвіліны! — вярэдзіў яе боль. Менавіта боль, а не ўспаміны і прыгадкі, як думалася раней. І калі не справіцца з ім, з болем, калі не вырвецца з яго

любою — любою! — цаною, то фінал вядомы. Задужа добра вядомы.

«Ну, вось,— уздыхнула, прытармožваючы, прыпыняючыся перад кладзішчанскаю брамаю,— здыхайся, супакойся і спакойна агледзься. Памятаецца, трэба ўзяць ад брамы правей, і метраў праз сто, за купкаю бяроз...»

Узяла правей. Пайшла ўздоўж спрэс агароджаных, нясёлетніх, магіл туды, дзе, ярка вылучаючыся на фоне буйной зеляніны вакол, свяціліся, ззялі ўсімі водсветамі золата, залатога пяску свежанасыпаныя грудкі: недзе там, побач з матчынаю магілаю пахавалі Нялюбу, і каму, як не Стэфе, прынесці ёй кветкі?

Позірк слізгаў з крыжа на крыж, з адной жалобнай шыльдачкі на другую, не затрымліваючыся на незнаёмых прозвішчах і лічбах, якія пазначалі, замыкалі жыццёвы шлях кожнага пахаванага тут за апошні год, толькі за апошні год. Стэфа не ведала, не памятала нікога з іх, і таму яны як бы і не існавалі ніколі — што тут высвятляць, што вычытваць? Праз які дзесятак крокаў, за купкаю маладых бярозак з ледзь прыкметна парадзелаю ўжо лістотаю — яна пазнавала іх! пазнавала месца! — ляжаць свае, родныя.

Яшчэ не дайшоўшы, адчула: трывога не ціхне, як чакалася, а расце, шырыцца. Штосьці, нават здалёк, выглядала не так, як засталося ў памяці, зусім не так, і гэта насцярожвала, не магло не насцярожваць Стэфу.

Магілы! Іх не дзве — побач, адна каля аднае, як было сорак дзён таму, а адна, толькі адна... Мо яна, Стэфа, памылілася і пайшла не ў той бок? Мо гэта зусім і не матчына магіла? Ці мала ў якім канцы кладзішча маглі расці падобныя бярозкі?

Упілася пацямнелым паглядам у крыж, у надпіс на крыжы — маці, маці пад ім ляжала, без усякага сумнення: і надпіс за тое сведчыў, і добра знаёмы вышываны ручнік на крыжы, завязаны ў дзень пахавання старой Нялюбінымі рукамі, а... А другой магілы — Нялюбінай! — побач не было. І следу яе не было! Дзірван і дзірван. Не кранутыя рыдлёўкаю ні ўчора, ні пазаўчора, ні сорак дзён таму. Тут і сумнявацца не даводзілася.

Закружылася галава. Стэфа на хвіліну прымружыла вочы, каб стрымаць гэта кружэнне і ўтрымацца, усё-такі, нягледзячы на шок, утрымацца на нагах. Магіла знікла?! Такога здарыцца проста не магло, такога ніколі не здаралася ў жыцці, у рэальным, нармальным па ўсіх мерках жыцці, і варта засяродзіцца, аднавіць у памяці нядаўнія, яшчэ добра памятныя падзеі...

Засяродзіцца Стэфа не здолела. Паўтарала, талдычыла адно і тое ж: «Глупства! Усё гэта глупства! Проста штосьці паблыталася... заблыталася... Галоўнае: не даць разрасціся ў сабе страху! Галоўнае: не даць разрасціся...»

Страх міжволі разрастаўся ў ёй, і трэба было нешта рабіць, нешта мусова рабіць: абысці матчыну магілу, даследаваць кожную пядзю дзірвану вакол, агледзець усе магілы побач — калі спатрэбіцца, абабегчы ў пошуку даччынага грудка ўсё кладзішча. Толькі не стаяць тут нерухома! Толькі не ўрастаць, не ўрасці ў жах неверагоднага!

Заўважыўшы, што ўсё яшчэ трымае, прыціскае да грудзей цяжкі букет астраў, тут жа адчула, што ён даўно адцягваў рукі, замінаў, і таропка, дрогкім, нервовым рухам паклала (хутчэй, упусціла) яго на край матчынай магілы. Хуценька, быццам абпяклася аб штосьці, адняла, тузанула назад рукі і папікнула сябе ў думках: чаго, запытацца, разгубілася? Чаго тузаецца?

Знойдзецца, абавязкова знойдзецца тое месца, дзе пахавана Нялюба! — ніхто, ні Бог, ні д'ябал, не прымусіць яе паверыць, што можна па смерці, пасля смерці ўскрэснуць і, выбраўшыся з долу, з-пад двухметровае тоўшчы зямлі, зраўняць дол з зямлёю, сцерці ўсякі след яго, нават самы што ні на ёсць нязначны. Глупства! Казкі для легкаверні-каў! Яна, Стэфа, дзякаваць Богу, яшчэ не зусім з'ехала з глузду, не, не!

— Цьфу ты! — сплюнула сваё раздражненне і, вызваляючыся са здранцвення, матлянулася да наступнага, да суседняга грудка. Потым да другога, да трэцяга.— Недзе тут... Недзе паблізу, я ж добра помню... Хавалі побач з маткаю, дзе ж яшчэ!

Прозвішчы, імёны, чужыя і ніколі раней не чутыя, ад грудка да грудка мяняліся, не мяняючы рэальнай у сваёй нерэальнасці, неверагоднасці сітуацыі: ні адненькай падказкі, ніводнага самага малога намёку на тое, што яна выбрала правільны кірунак, што тлумачэнне знойдзецца і ўсё стане на сваё месца. Усё! — Нялюбіна смерць, пахаванне, свежанасыпаная магіла, абкладзеная жалобнымі вянкамі... Не гэта магіла, дык наступная...

Крыжы, наспех афарбаваныя ў той ці іншы жалобны дзень слупкі з прыбітымі да іх дошчачкамі, незнаёмыя прозвішчы на гэтых дошчачках — спрэс незнаёмыя! У нейкі момант Стэфе здалося, што яна кепска, не задумваючыся, прачытвае, счытвае іх на хаду, на бягу, і магла прапусціць патрэбную, але яна не стала вяртацца (там, дзе трэба, спынілася б — убачыла і спынілася!), адно паспрабавала крыху

запаволіць хаду, што ўсё больш нагадвала бег. Паспрабавала — і няўдала. Бо тут жа зноў засяшалася, кідаючыся ад магілы да магілы, ад аднаго надпісу да другога.

«Што ж гэта такое? Ды што ж гэта?»

Сонца садзілася, выблытваючы, выцягваючы з сасновага голля заблытаныя ў ім апошнія промні, ужо добра-такі прышэрхлыя за гэтыя паўгадзіны, і Стэфа зрэдчас баязліва, неяк зацкавана азіралася па баках: хутка пачне цёмніцца — тут, у засені магутных кладзішчанскіх соснаў, цямнела заўсёды раней, а калі не паспець, калі не знайсці магілы дачкі да цемнаты, то, значыць, яна ніколі яе не знойдзе. Усё ж вакол і так працівілася яе пошуку. Відочна працівілася! Сцежка ўвесь час вузела і раз-пораз абрывалася, уткнуўшыся ў металічную, сям-там паржавелую агароджу ці ў зараснік калючай дзікай шыпшыны. Кусты і дрэвы проста на вачах пагрозліва раслі ўшыркі і ўгору і галіны й галінкі іх самахоць, без адзінага парыву ветру, варушыліся, схіляліся ніжэй і ніжэй, ліплі да плячэй, да рук, ледзь толькі Стэфа спрабавала адмахнуцца, адпіхнуцца ад іх ці іхніх ценяў. Водсветы неба, усплёскі яго паміж усё больш цёмнага, пачварнага голля чэзлі, шэрхлі, набракалі халоднаю, мёртваю сінечаю...

Трэба было вяртацца. Тут, у старой частцы кладзішча, у непралазным гушчары кустоўя і дрэў і пахіленых, а то і напалову спрахлых крыжоў, нікога даўно не хавалі. Нікога і даўно... Навошта яна, Стэфа, сюды прыблукала? І куды — цяпер? Дзе, у які бок адсюль, калі агледзецца, знаходзілася пакінутая матчына магіла?

Кінулася правей, у прагал паміж соснамі, дзе, здавалася, прасвечвала святло, прасвечваў край могільніка,— там груда пасцягваных невядома з якіх часоў замшэлых камянёў, памкнулся абмінуць гэту груду і выбрацца на зарослую і ўсё ж крыху бачную ў траве, сярод зарослых, удзірванелых магіл сцежку — сцежка выслізнула з-пад ног, і Стэфа ледзьве паспела адступіцца, адступіць і не праваліцца ў абсыпаную няроўным краем і зарослую дзікім малліннікам яміну. Адчуўшы, як нямее, дранцвее ад кожнага ледзянога дотыку цішыні спіна, азірнуцца збаялася. Матлянулася і пачала прадзірацца назад.

Чаплялася за сям-там павыпіраныя з зямлі карані, спатыкалася, сутаргава хапалася рукамі за паветра, каб часам не ўхапіцца за крыж ці халодны замшэлы валун, і ўсё ж то плячом, то рукою не-не і чула іх холад, іх пякучы, смяротны холад. І тады ўздрыгвала ўсім целам, і тады доўга не магла спыніць калатун, хоць адразу ж, у тое ж імгненне

кідалася ў супрацьлеглы бок, на чарговы, мо нават і ўяўны, выбліск сцежкі недзе побач, за крок-другі, у траве.

«Ды што ж гэта такое? Куды я трапіла? — адчайна ўспыхвала думка на шалёны ўсплёск сэрцабіцця.— Кладзішча ж не такое вялікае, каб заблудзіцца, каб блукаць па ім цэлы вечар... Спакайней, спакайней трэба!»

Спакайней не атрымлівалася. Падганяў страх. Страх упасці сярод старых, чужых магіл і не падняцца, ужо не падняцца. Яна ж і так ледзьве адольвала ягоныя загарадкі, даўно пагубляўшы недзе, за адною з іх, туфлі, паабдзіраўшы аб калючае кустоўе ногі і рукі. Спыняцца, а тым больш бяссільна абваліцца на сцежку цяпер нельга. Ні ў якім разе нельга! — гэта ж яна разумела.

Далей, далей! Няхай гасне, згасне ў прагалах паміж галінамі неба, няхай абломяцца, віснучы над ёю, чапляючыся за яе, за яе адзенне, усе як ёсць галіны — Стэфа не падцасца страху. Не, не. Некуды ж яна ўрэшце выберацца, калі перастане хадзіць па крузе, калі перастане ўздрыгваць на кожны дотык, на кожны шолах і будзе пільней углядацца пад ногі. Страх яе вадзіў, страх, а не д'ябал! — і няма чаго выдумляць усялякую халеру, пакуль душа трывае, пакуль яшчэ, раз-пораз сцінаючыся і абміраючы, трывае.

Далей, далей! — угаворвала, падганяла сябе, не заўважаючы ўжо ні крыжоў, ні надмагільных камянёў поперак шляху, ні змрочных, раскалыханых невядома кім соснаў, якія ўпіваліся ў плечы вострым, як кіпцюры, голлем і ўсё хацелі спыніць яе, утрымаць тут, сярод магіл, дачакаўшыся, калі стане, спыніцца сцятае жахам сэрца. Вечар яшчэ не дагарэў, неба яшчэ тлела, сцежкі — любой! — калі прастуеш напрасткі, па прамой, трымацца неабавязкова: яна спрадвек кружляла сярод зарослых магіл і не мела пэўнага накірунку.

Думкі не цішылі балючых штуршкоў у грудзях, не дапамагалі прадзірацца праз кладзішчанскі гушчар, але ўсё ж падтрымлівалі нейкім чынам. Падтрымлівалі рашучасць. Дадавалі сілы. Бо вось жа не падкошваліся ногі і, нават спатыкнуўшыся і распрастаўшыся на якой-небудзь магіле, Стэфа кожны раз падымалася і рабіла наступны крок. Няўцямна атрэсвалася, адцярэблівалася ад калючага голля, што чаплялася за яе, і, зрабіўшы наступнае намаганне, шыбавала далей. І ніводнага разу не азірнулася больш, не павяла паглядам у адзін ці ў другі бок. Быццам у спіну хтосьці падштурхваў.

Пачаў вяртацца і слых. Спярша пачула няясны, страшны сваімі хаатычнымі, невыразнымі ўсплёскамі гул — гэта

ён, няйначай, і падштурхваў яе праз кладзішча, а потым, паступова, крок за крокам, стаў добра чуцен сухі трэск сучча пад нагамі і шоргат, халодны металічны шоргат, што ўсё гучнеў і праз хвіліну нагадваў злосны скрыгат жалезных гусеніцаў якойсьці чыста д'ябальскай машыны. Калі ж скрыгат раптоўна, на міг-другі абрываўся, кароткую, жахлівую паўзу запаўнялі глухія стогны і прыглушаны, здушаны зямлёю енк, ад якога стыла кроў у венах.

— Ня-люба!? — разам са стогнам вырвалася ў Стэфы з грудзей адчайнае, амаль ужо безнадзейнае.— Гэта я, Нялюба!

Знясілеўшы ад выкаўтнутага крыку, ад клічу свайго няўцямнага, губляючы прытомнасць, упала ў траву, тварам, залітым горкім потам і слязьмі, уніз. Яшчэ падумала: «Як ціха раптам стала...», але думка выслізгвала, згасала — і разам з ёю згасала апошняя сіла.

Колькі часу мінула, цяжка сказаць. Апрытомнеўшы, Стэфа не адразу змагла ўцяміць, дзе яна, чаму ляжыць на траве, пад адкрытым небам, яшчэ не згаслым пасля заходу сонца. Марудна, імгненне за імгненнем, вярталася толькі што перажытае, і, перш чым, следам за прыгадкамі, яшчэ цьмянымі, невыразнымі, прыйшоў, аднаўляючы над ёю сваю ўладу, здавалася, пазбыты ўжо страх, аграмадным намаганнем волі паднялася — напружылася што было моцы і ўстала на ногі. І тут жа гучна, злосна вылаялася, пазнаўшы месца, канчаткова вярнуўшыся да рэальнасці месца і часу, хоць ні ўспомніць, ні зразумець, як тут, на полі, за тры-чатыры крокі ад кладзішчанскай брамы, апынулася, урэшце не магла. Не змагла б ні за што на свеце. Дабегла? Вырвалася з уласнага жаху? Дапамог хто?

Прыкрыла твар далонямі, адгароджваючыся ад наўколля, ад вечара, ад усяго, чаму ён стаў сведкам. Памарудзіла, перш чым адняць іх і агледзецца больш уважліва. Калі ж адняла і агледзелася, першае, што ўбачыла,— рассыпаны пад нагамі букет астраў. Той самы букет, які паклала на край матчынае магілы!

«Яна што — не прыняла маіх кветак? Ці, можа...» — перш гнеў, потым збуджаная гневам крыўда, а потым і жах, толькі што перажыты ёю жах азваліся ў душы, і Стэфа збаялася дадумаць да канца, захітала галавою, і думкам, і небу, высокаму, абыякаваму да яе небу выказваючы сваю нязгоду: назад яна, Стэфа, не пойдзе, другі раз ужо ні за што не пойдзе!

Адышлася нават на колькі крокаў. Зноў утаропілася міжволі ў парассыпаныя, прыкамечаныя астры: атрымлівалася,

што і яе самую, і прынесеныя ёю кветкі выкінулі, выпхнулі з кладзішча, папужаўшы, перш да смерці напужаўшы енкам і стогнамі мерцвякоў? Але ж у такім выпадку застаецца адно плюнуць і, павярнуўшыся, пайсці адсюль, пайсці і ніколі, ніколі больш не вяртацца. Душу надарвала, кідаючыся з канца ў канец кладзішча ў пошуку магілы дачкі, адзенне, твар паабдзірала аб калючае кустоўе і вострае сучча, туфлі, зусім новыя туфлі недзе ў траве ці сухім ламаччы згубіла...

Туфлі былі на нагах. Са слядамі напатканага недзе сырога пяску, з застраглымі ў іх, у абодвух, травінкамі, але на нагах і цэлыя, не папсаваныя. І блузка на плячах нідзе не парвана, нават не дужа запэцканая. І на аголеных да локцяў руках ні аднае вартае ўвагі драпіны, так, нібыта...

— Ха-ха-ха! Дык гэта ж... Ха-ха-ха! — захлынулася яна раптам смехам, і пакуль гэты гучны, грубы для жанчыны смех не перайшоў у глыбока нутраное, балючае ракатанне, а потым і ва ўсхліпы, ні спыніць, ні суцішыць яго Стэфа не магла. Заціскала даланёю рот, душылася смехам, душылася непралітымі, перагорклымі слязьмі — і не магла, ніяк не магла да канца адсмяяцца.

І толькі калі смех зусім заглушылі гучныя ўсхліпы, якія, скаланаючы цела, усё ж паціху радзелі, цішэлі, знясіленая, згаслая Стэфа адчула глыбокую, цяжкую, як гэты вечар, стому. Стому, ды яшчэ — абыякавасць. Ішла на магілу дачкі і не дайшла? Ну, што ж. Так таму і быць. Праз сорак хвілін, калі верыць гадзінніку, адпраўляўся цягнік на Мінск, і Стэфа на яго якраз паспявала, нягледзячы ні на што паспявала. Страціўшы на падыходзе да кладзішча прытомнасць і хто знае што перажыўшы ў непрытомным стане, страціла і душэўную раўнавагу? Страчанае не вяртаецца, тут не загадаеш. Сілы дабрысці да станцыі ёй хопіць, а там...

Грэблівa, калі не баязліва, абмінула раскіданыя на траве астры і, выбраўшыся на дарогу, пайшла ў бок станцыі. Ледзьве перастаўляючы ногі. Не азіраючыся. Хоць калі б на міг азірнулася, то ўбачыла б над кладзішчам, над пагоркам яго, зарослым магутнымі вечназялёнымі соснамі, дзіўнае, таямнічае ў сваёй незямной чысціні ззянне. Ззянне, якое напалохала б яе яшчэ мацней.

34

Язэп не любіў гэткай работы: дзеля трох-чатырох старонак сухога тэксту, які складзе чыстая, не афарбаваная ні ягонаю згодаю, ні ягонаю нязгодаю інфармацыя з залы пленума, даводзілася выседжваць у гэтай душнай, заўсёды

прыцемненай зале два дні запар — з раніцы да вечара. Адно што калі-нікалі словам з кім са знаёмых мастакоў перакінецца ў перапынку, у невялічкім фае ці ў перапоўненай нават у часе пасяджэнняў невялічкай кавярні ўнізе, пад самаю лесвіцаю, куды і ён, як шмат хто з прысутных, не-не і збягаў ад палкай, траскучай балбатні чарговага прамоўцы.

Чорт тое ведаў напэўна, але і з ім, Язэпам, і з усімі іншымі, калі прыгледзецца, штосьці адбывалася, і гэтае штосьці ўтойвала, а то і не ўтойвала, а адкрыта выпраменьвала небяспеку. Не першы ж дзень, не першы год ужо, калі папраўдзе, ледзь не ўся сіла душы ішла на тое, каб не ўгразнуць — не даць сябе ўцягнуць! — у скепсіс і бязвер'е, якімі атручаны час, якімі атручана краіна. Праз поры ў скуры, здавалася, пранікала ў яго, Язэпа, атрута... Яшчэ б! Не адгародзішся ж ад людзей, ад іх трывог — і ягоныя гэта трывогі, і ягоны боль. Наперадзе ж усё яшчэ ніводнага прасвету. Ніводнага...

Не, не! Толькі Бог, відаць, уратаваў бы гэту краіну, калі б, урэшце, павярнуўся да яе, калі б не пазбавіў, як пазбаўляў дагэтуль, свае літасці! Што да яго, да Язэпа, то ў яго апошнім часам склалася такое ўражанне, што ўжо ні ўлады, ні народ ні на што стваральнае сёння проста не здатныя — хто ж паверне, хто зменіць яе лёс?

Заплюшчыцца б, заткнуць вушы і не бачыць, не чуць нічога — так збрыдла ўласнае бяссілле, уласная бездапаможнасць, такім беспрасветна-змрочным уяўлялася часта ўсё наперадзе.

«Ну, ну! — зморшчыўся ад сваіх кіслых думак.— З такімі думкамі, браце, нельга жыць, не тое што працаваць на карысць газеты, якая аблашчыла цябе сваёю ўвагаю і плаціць якую-ніякую зарплату, каб ты не здох з голаду...»

— Язэп! Коржак! Табе толькі кубачак кавы ўзяць, ці пажаваць чаго хочаш? — гукаў яму хтосьці наперадзе, амаль што ад самай стойкі, і Язэп, не пазнаўшы яго голасу, не адразу адшукаў паглядам у ладным натоўпе Уладзіслава.

— Каву. Толькі каву,— адказаў не так на яго пытанне, як на энергічнае, нецярплівае памахванне рукою («Хутчэй! Хутчэй!»).— Толькі, калі можаш, двайную.

Выбраўся з чаргі, пачаў шукаць, дзе, да якога століка прыткнуцца, каб хоць кубкі льга прымасціць на крайку, і так і не адшукаўшы, падаўся насустрач Уладзіславу, які, трымаючы высока, на ўзроўні твару, паднос з кубкамі і бутэрбродамі, складзенымі на ім проста горкаю, ужо рассякаў прастору сваім магутным торсам, змушаючы ўсіх міжволі расступацца, даваць яму дарогу.

— Бяры правей,— ківаў у бок акна, рашуча, нягледзячы ні на што, кіруючыся туды са сваёю смехатворна лёгкаю ношкаю.— Пацеснім трохі хлопцаў і неяк прымосцімся... Бліжэй да паветра... Прапусціш, Жора? На пяток сантыметраў ссунешся?

— А табе што — толькі пяці сантыметраў не стае? — засмяяўся той, адхінаючыся.— Мо на адным пальцы ўстаяць збіраешся, плечы над натоўпам вытыркнуўшы?

— Знайшоў, чорт вазьмі, Гулівера! — буркнуў Уладзіслаў, ужо добра пацясніўшы і незнаёмага Язэпу Жору, і ўсю ягоную кампанію ўбок, ледзьве не пад самыя дзверы.— Ты тут, Язэп, ужо ж не па сваёй волі, га? Для паэта — работка не з прыемных.

— Не скажы,— адгукнуўся, займаючы адваяваную і для яго прастору каля самага акна, Язэп.— Часам паслухаць, як, прыгожа акцёрствуючы, плача каму-небудзь з начальства ў добра сшыты камзол творчая інтэлігенцыя, не зашкодзіць і рамантыку... Калі ты гэта меў на ўвазе, пацвельваючыся.

— Гэта, гэта,— уладкоўваў ён паднос на крайку падаконніка і, калі ўладкаваў, задаволена крэкнуў і падаўся да свайго кубачка кавы.— Прашу! Каб ад чужой гаварыльні мазгі раней часу не адключыліся. А то хто ж потым усё гэта абмалюе сваім таленавітым пяром?

— А ты не збіраешся на хвіліну-другую асядлаць прапанаваную начальствам трыбуну?

— Я?! Ды ты што? Ніводная трыбуна таго, што я б сказаў, не вытрывала б. Каму — гаварыць? Таму вузкалобаму чыноўніку, якога на сённяшні дзень паставілі над культураю? Над культураю! — ты толькі задумайся... Ці мо во ім, гэткім жа, як і я, ахламонам? Мы ж ужо і так адзін аднаму плешыны павыядалі, далдонячы ўслед за партыйнымі гаварунамі чорт ведае што.

— А як жа віна, адказнасць інтэлігенцыі за тую бездухоўнасць, якая раз'ядае век, час, не пакідаючы надзеі? Не пакідаючы надзеі на чалавека? — адхлёбваючы гарачую каву і крыху пацвельваючыся, як і яго суразмоўнік, прывёў Язэп чыесьці словы, адно каб паддражніць незнаёма агрэсіўнага сёння Уладзіслава і прадоўжыць гаворку.— Усе ж толькі і гавораць пра пакаянне, пра патрэбу ў пакаянні: маўляў, пакаемся, браткі, перад тым, як падступацца да адраджэння ідэалаў страчаных, да адраджэння нацыі.

— Віна, адказнасць, пакаянне... Словы, паэце, усяго толькі словы, пазычаныя ў былога. Пустыя бразгалкі,—

усміхнуўся на Язэпаву тыраду Уладзіслаў.— Тое, што інтэлігенцыя сёння — дрэнь, не пярэчу, але калі яна была чым іншым?

— Ну-у...

— Хочаш сказаць: у мінулыя стагоддзі, на пачатку гэтага, калі яна сюсюкала над кожным выхадцам з народа? «Ах, гарапашнікі! Ах, няшчасныя, пакінутыя ў беднасці і невуцтве...» Прытворства ўсё. Самае што ні на ёсць беспардоннае прытворства! Самі без пакорнага слугавання розных Манек і Ванек і кроку не маглі ступіць, баючыся ручкі, а то і, крый Божа,— белыя штанцы свае ненарокам запэцкаць, а ў пісаннях сваіх, адзін перад адным, разуменнем народа і ўласнаю душэўнасцю выхваляючыся. Не веру. Не верыў ніколі і не веру, не паверу ва ўсё гэта штукарства.

Абвёў рукою з заціснутым у ёй бутэрбродам якуюсь складаную фігуру ў паветры, і Язэп, чамусьці даволі напружана, прасачыў за рухам, ці то сілячыся прачытаць, разгадаць яго сімволіку, ці то проста паддаўшыся сіле, перакананасці Уладзіслава, з якою не пагаджаўся і якой паддаваўся.

— Маўчыш? Зачапіла?

— Ды не. Думаю: і з аднаго боку — словы, і з другога таксама... Але выбар слоў нас і розніць.

— Павярну-уў... Малайчына! — дажоўваў бутэрброд Уладзіслаў, пільна, неяк прафесійна ўзіраючыся ў Язэпа.— Сам не ведаю, што на мяне раптам найшло. Заразіўся ад якога з гаваруноў? Як думаеш? Урэшце ж... Урэшце, не першы раз! Мяне слова «інтэлігенцыя» раздражняе не менш, чым чырвоная ануча выпушчанага з-за загарадкі быка. Ін-тэ-лі-генцыя! Мазгі, часцей за ўсё, курыныя, а гонару — пуза да самага падбародка.

— Ты часам не ўтрыруеш?

— Утрырую. І, заўваж, свядома. Ведаючы, што выключэнні з правілаў, як правіла, толькі пацвярджаюць іх. Ды ты зірні, зірні вакол. Хоць тут, у гэтай зале, хоць бы і не ў гэтай, а ў любой, дзе сабраўся дзесятак-другі самаўпэўненых, упэўненых у сваёй абранасці, у сваёй выключнасці людзей. Гнусненькае, скажу, відовішча.

— Але ж і мы з табою з гэтага племені,— вяла бараніўся Язэп, больш для таго, каб змусіць Уладзіслава прадоўжыць, недзе глыбока ў душы шкадуючы, што не меў з сабою дыктафона, каб цішком, дужа не выстаўляючыся, запісаць гаворку.

— Не, не! — не пагадзіўся Уладзіслаў.— Дзякуй, канешне, за шчырае ў тваіх вуснах «мы», але я — работнік. Няхай

сабе і ад мастацтва, але гэткі ж, як кожны на зямлі, работнік. Уся розніца паміж намі, што адзін з нас вырошчвае хлеб, другі мае справу з рознымі жалязякамі, трэці шые адзенне, а я, гэтак жа, як і яны, сваімі рукамі ляплю, дзяў- бу камень ці дрэва. І я, як і яны, магу прайсці адзіна магчымы для чалавека шлях ад работніка да майстра, а магу і не прайсці. Спатыкнуся на чым-небудзь, захварэю, хай Бог бароніць, сап'юся, урэшце... А ты: інтэлігенцыя! Адказнасць! Свой, свой шлях трэба прайсці. Да канца. У тым і задача. Разумееш?

— Угу,— кіўнуў Язэп, яўна ў захапленні ад скульптара, заўсёды, колькі яго ведаў, негаваркога і іранічнага, у лепшым выпадку, а тут... Тут і слова адразу не падбярэш, каб вызначыць момант: не разыгрываў жа ён яго на самай справе!

— Задурыў галаву? Прабач,— па-ранейшаму пільна ўзіраўся ў яго Уладзіслаў, хоць імпэт прыцішыў, гаварыў спакайней.— Далдоню: свой шлях, свой шлях, а адкуль, у каго дазнацца, дзе ён, мой шлях, ці выбіўся я на яго... Тое і яно, браце.

— Што новага ў майстэрні? Усё яшчэ стаіць навідавоку, бліжэй да вачэй, наша бронзавая летуценніца, ці прыбраў далей ад спакусы? — усміхаўся, мяняючы тэму гаворкі Язэп, хоць чамусьці раптам сціснула ад згадкі пра скульптуру (нават толькі пра скульптуру!) спалоханае нечага сэрца.— Я, на вялікі жаль, так і не сустрэў больш гэту дзяўчынку... Нялюбу... Хоць шукаў гэтае сустрэчы.

— Пайшлі адсюль! — рушыў з кавярні Уладзіслаў, і ўвесь яго насуплены, пазмрачнелы выгляд казаў за тое, што Язэп закрануў штосьці яшчэ не адбалелае, непрыемнае, хоць, здавалася ж, мінулы раз, у майстэрні, гаворка працякала мірна, спакойна.

— Ты што-небудзь ведаеш? — абпякла няўцямная здагадка, перш чым ён кінуўся следам за ім.— Ты што-небудзь чуў пра сваю «Мечаную?» Пра маю...

Ужо выйшаўшы з кавярні, за дзвярамі, пад самаю лесвіцаю, дзе яму даводзілася нават крыху прыгінацца, каб не зачапіць яе галавою, Уладзіслаў рэзка, зусім неспадзявана для Язэпа, учапіўся ў яго плячо і тузануў, моцным рыўком пацягнуў на сябе.

— Усё да душы маёй дакопваешся? А? Усё глыбей, балючэй капнуць хочаш, каб мяне ўсяго да самых вантробаў скаланула?

— Ды ты што?! Аксціся! — моршчыўся ад болю ў плячы Язэп.— Проста раней я часта сустракаў малую, і думаў...

— Няма ўжо тваёй малой. Няма, чуеш? — адпусціў той сціснутае, ледзьве не паламанае магутнаю ручышчаю плячо і адвярнуўся, каб не бачыць перш разгубленага, недаверлівага, а потым, ужо ў наступнае імгненне, збялелага, без ніводнае крывінкі Язэпавага твару.— Трэці месяц ужо, як няма. Пахавана ў Полацку, дзе яе знайшлі на беразе Дзвіны: спынілася сэрца. Маці ж яе... Ну, ды гэта цябе ні цяпер, ні пасля не зацікавіць.

— Яна ж сказала: смерці няма,— ледзь чутна азваўся, звяртаючыся хутчэй да самога сябе, Язэп.

— Прабач, браток. Я, канешне ж, чурбан негабляваны, калі гэтак...— так і не зірнуўшы больш на яго, адно злёгку, лёгкім рухам крануўшыся пляча, пайшоў прэч Уладзіслаў. У Язэпа ж быццам лужына туману распаўзлася перад вачмі, і колькі ён ні ўзіраўся, ні Нялюбы, ні Уладзіслава, неспадзяванага весніка яе смерці, у гэтым святле не бачыў.

Смерці? Не, не, дзяўчынка ж гаварыла, сцвярджала, што смерці няма, няма ў прыродзе, і Язэп верыў, паверыў ёй. Урэшце, паверыў. Мо адно таму, што незаўважна, у думках, у працы над вершамі, як даўно прызнаўся сабе, пакахаў...

— З панам журналістам усё ў парадку? — пакпіў хтосьці, мякка адхінаючы яго, каб вызваліць заняты ім праход.

— Прабачце,— машынальна буркнуў Язэп, але дарогу тут жа саступіў і, нават не зірнуўшы каму, рушыў да выхаду з Палаца мастацтваў, далей ад перапоўненай пленарнай залы, далей ад людзей: не вытрываў бы ў гэтую хвіліну ніякае свецкае размовы — ні па справе, ні без справы.

Хтосьці пагукаў яго зверху, з лесвіцы, але Язэп і галавы не павярнуў. Як не чуў. А дакладней за ўсё, і не чуў.

Цяжкія шкляныя дзверы, выпускаючы яго, бясшумна адчыніліся — гарадскі гул сухою, гарачаю хваляю хлынуў насустрач, і ўсё, што здолеў,— зрабіў колькі няпэўных крокаў ад дзвярэй. Спыніўся, не дайшоўшы да краю каменнага ганка, уражаны думкаю: тут, перад гэтым ганкам, па той бок трамвайных рэйкаў, на прыпынку яны з Нялюбаю ўпершыню сустрэліся. Сустрэліся і загаманілі. Круг замкнуўся? Усе разважанні пра тое, што смерці няма, аказаліся пустымі? Гэткія пустышкі, нікчэмныя пустышкі хворага ўяўлення?

Не, не! А тады што — яго паэзія? Што тады — гэта неба над горадам, над жыццём, над стагоддзем?

Шукаючы апоры, позірк зачапіўся за краёк высокага, па-вераснёўску канапатага ад лёгкіх, рухомых, сям-там ласкава падсвечаных сонцам аблачынак, і Язэп не стрымаў уздыху. Гэткая бездань! Гэткая ненасытная бездань! А душа

трымціць адно ад асцярожнага дотыку ўспамінаў: там, недзе там і чакае дом, сапраўдны дом...

Памкнуўся, адмахнуўшыся ад няўцямнай думкі, адвярнуцца, адвесці позірк ад, як ніколі раней, прывабнай і, як ніколі раней, страшнай вышыні і не змог. Не здолеў. Нават пад апушчаныя, моцна сцятыя павекі, калі ён, нечага спалохаўшыся, заплюшчыў вочы, прасочвалася дзівоснае, падсіненае вышынным ветрам святло, і салодка абмірала ў прадчуванні нечага невядомага, невядомага і здаўна, змалку, жаданага, збуджаная болем душа.

35

«Душа, што бездань,— не разгледзець дна за воблакамі... Грукатам лавіны раздушыць крык... Апомнішся — адна...» — круціліся ў галаве, усплыўшы з памяці, чыесьці радкі, ці то неяк прачытаныя, ці то ад некага чутыя, і Стэфа са здзіўленнем прыслухоўвалася да іх гучання, да іх незнаёмай музыкі. «Апомнішся — адна...» Дык жа і адна! Куды, у які бок ні азірніся,— адна!

Заазіралася, быццам хацела праверыць толькі што ў думках прызнанае, хоць даўно і для ўсіх відочнае. Пустая пляцоўка, ад якой ад'язджаў рэйсавы аўтобус, пусты ў гэты ранні час завулак, пусты бальнічны двор...

Ат! Усе — пакутуюць, і ўсе аднолькава — і невылечна — хворыя. Прыкідваюцца здаровымі, а то, як яна, і шчаслівымі, а ў саміх душа, нутро як іржою шматгадоваю раз'едзеныя: краніся, адно краніся — і запахне гніллю...

Так, не хацела яна, Стэфа, язвы, струп'е нутра чалавечага заўважаць — і заўважала. З дня ў дзень усё выразней бачыла. Кароткага позірку часам ставала, каб вызначыць ступень, стадыю захворвання таго, каго позірк неўзнарок зачапіў па дарозе,— а ў грудзях ажно паколвала ад адчування чужога, прыхаванага болю: здавалася, калі б наблізілася яна яшчэ крыху і звяла над галавою ў чалавека дрогкія гарачыя далоні свае, боль перацёк бы ў яе — гноем, гніллю перацёк... Але набліжацца, а калі-нікалі і проста пазіраць лішняе імгненне Стэфа баялася, думаючы пра душэўны надлом, пра тое, што, хутчэй за ўсё, давала аб сабе знаць былое яе, няхай і нядоўгае і не вельмі каб сур'ёзнае, захапленне парапсіхалогіяй.

«Усе прыкметы звіхнутага на сваёй выключнасці дамарошчанага экстрасенса,— паспрабавала ўсміхнуцца ў адказ на свае звыклыя страхі і, як і раней, не змагла: усмешка нагадвала балючую грымасу, ад якой нямелі мышцы твару,

і зноў давялося пальцамі, лёгкімі дотыкамі іх здымаць узніклае напружанне.— Ну-ну, самыя думкі перад тым, як прыняць дзяжурства ў аддзяленні! Мо ўжо час самой запісвацца ў пацыенты?»

— Усе мы — пацыенты Усявышняга.

— Ц-с-с, яна не наша...

— Наша, наша! Маска ўжо ледзьве трымаецца. Тузануць за адну з аслаблых завязак — і развяжацца, спадзе...

— А рукі? У яе ж рукі забойцы!

— Хто з нас можа пахваліцца чысцейшымі? Урэшце, кожны прыходзіць да таго, што забівае сябе самога. І гэтая прыйдзе. Ужо, калі прыгледзецца, ідзе...

— Пусціце, пусціце мяне! Я не вар'ятка, чуеце?

Галасы, ледзь толькі Стэфа пераступіла цераз парог клінікі, абрынуліся на яе, адно што не збіўшы з ног: здзіўленая, напужаная, застыла, прыстыла яна да падлогі, спрабуючы ўцяміць, хто і з чым, з якімі абвінавачваннямі звяртаўся да яе. Нідзе нікога. Пусты, наскрозь пусты калідор — сцены і сцены! Варта ж было зрабіць крок-другі — галасы зноў зашархацелі, быццам асыпаючыся са сценаў, быццам менавіта сцены гаварылі:

— Забойца! Глядзіце: ідзе забойца многіх з нас, загнаных сюды ў апошнія гады!

— Пашкадуйце яе: не ведала, што тварыла, і ідзе насустрач Божаму прысуду...

— Ц-с-с, яна нас чуе.

— А калі й чуе? Хто, хто мяне некалі сілком, па адным знаку кадэбэшніка кінутага сюды на пацеху гэткім, як яна, калі-небудзь пашкадаваў? Га?

— Праклінайце! Праклінайце ўсіх адказных за нашы мукі!

— Яна баіцца нашых ценяў. Ха-ха-ха, яна баіцца!

— Усё яшчэ наперадзе. Недарэмна ж у свой час сказана: жывыя пазайздросцяць мёртвым.

— Нашых ценяў... Яна баіцца нашых ценяў, ха-ха-ха!

Усё паскараючы крокі, Стэфа ўжо не ішла, а бегла па доўгім калідоры без аніводнага акна, гатовая закрычаць, пагукаць на дапамогу, і калі б не ўперлася ўрэшце ў дзверы ардынатарскай, якія адразу ж, пасля лёгкага штуршка, адчыніліся, упускаючы яе, то напэўна б закрычала. А так — ускочыла ў пакой, шчыльна прычыніла за сабою дзверы, падпёршы іх спіною і цяжка аддыхваючыся. І хоць тут жа ўбачыла, што ў ардынатарскай нікога ні з урачоў, ні з сясцёр не было, але галасоў больш не чула і тым задаволілася.

«Трэба кідаць работу. Сёння ж напісаць заяву, пакласці яе на стол Савелічу і сысці. Сысці куды заўгодна. Абы далей адсюль, ад гэтых сценаў, афарбаваных мінулым».

Думкі, рашэнне, прынятае ў думках, нечакана супакоілі. Проста апошнім часам, усе апошнія месяцы яна зашмат думала пра тагасветнае, вось і чулася то тут, то там чорт ведае што. Хоць ці ж ёй, псіхіятру, тлумачыць, да чаго вялі падобныя думкі, падобныя галюцынацыі?

Не, не, даволі! Даволі яна ўзіралася ў прадонні душаў чалавечых. Прадонне, калі ў яго доўга ўзірацца, прыцягвае, уцягвае ў сваю цёмную глыбіню. Ужо ўцягвае! — сёння Стэфа адчула гэта ясна і, як кажуць, недвухсэнсоўна. Не было ў яе часу адступіцца, і аднаго дня ўжо не заставалася. Калегі зразумеюць. Павінны зразумець. Не яна першая, не яна апошняя... У кожнага — свая мяжа. Яна, Стэфа, сваю ўжо, відаць, пераступіла. Адно, каб не было позна!

— Вы тут? — зазірнула ў пакой санітарка.— Там Савеліч усіх збірае, сказаў клікаць.

— Зайдзіце, Соня,— пазнала яе Стэфа і, хоць і ўздрыгнула, пачуўшы голас, але раптоўнага спалоху ўжо нічым больш не выдала.— Зайдзіце і пачакайце хвіліну: я перадам для Савеліча паперу.

— Паперу? Але ж ён...

— Пачакайце, будзьце ласкавы! — не хавала Стэфа нецярпення.— Я не затрымаю вас.

Просьба прагучала рэзкавата, але Стэфе і ў галаву не прыйшло неяк змякчыць яе: адчуванне таго, што дапушчальная для псіхіятра мяжа ёю пяройдзена, ці вось-вось будзе пяройдзена, здымала, адпрэчвала ўсе сумненні — і нічыё асуджэнне цяпер ужо яе не хвалявала. Жыццё, яе, Стэфіна, жыццё распадалася на два кавалкі, большы з якіх пражыты, гэтым вось ранкам, нечакана, прама з-пад ног, спіхнуты ў бяздонную прорву мінулага, яшчэ падаў, яшчэ не знік з пагляду, цягнучы, уцягваючы яго за сабою, другі ж, няпэўны, ледзьве акрэслены Стэфіным памкненнем штосьці змяніць, штосьці рашуча супрацьпаставіць таму, пражытаму, ужо мёртваму, прыспешваў, адно што пад руку не падштурхваў раз-пораз.

А мо й падштурхваў, бо не-не і дзівілася Стэфа раптоўнай гэтай рашучасці тут жа, нікому нічога не тлумачачы, перайначыць, перайграць свой лёс: заява аб тым, што яна, у сувязі з яўным пагаршэннем здароўя, складае з сябе абавязкі ўрача псіхіятрычнай клінікі і просіць лічыць яе з сённяшняга дня звольненай з займаемай пасады на любой

зручнай для кіраўніцтва клінікі падставе, пісалася лёгка, быццам пад чыюсьці дыктоўку, і ніводнага разу не прыпыніла руку, не запаволіла пісьма сумненне, хоць бы самае слабое.

Дапісала. Рашуча падпісалася.

— Вазьміце, Соня,— падала паперу санітарцы, якая хоць і падціснула незадаволена вусны, але паслухмяна чакала.— Перадайце начальству і скажыце: ніякіх іншых тлумачэнняў не будзе. Ні сёння, ні калі-небудзь пасля.

Не азірнуўшыся, выйшла следам за жанчынаю ў калідор і скіравалася да выхаду з бальніцы, унутрана гатовая да чаго заўгодна. Нават да таго, што сцены пачнуць сыходзіцца, душыць яе ў сваіх каменных абдымках, не выпускаючы яе... Але нічога такога не здарылася: ніхто не ўтрымваў яе, нішто не загароджвала шляху. Галасы, праўда, чутыя крыху раней і збуджаныя водгуллем яе таропкіх упэўненых крокаў, усё-такі азваліся, зашархацелі ўслед, але так ціха, так невыразна, што Стэфа не разабрала ніводнага слова. Мільганула думка: «Нібыта й не сама іду, а вядзе хтосьці...», хоць і тады страх, напатканы ў гэтым калідоры зусім нядаўна, не вярнуўся — не было больш страху ў яе ў душы, не чула яна яго.

Лёс уступіў у свае правы, і ведала пра тое Стэфа ці нават і не здагадвалася, не мела значэння: яна падпарадкавалася — гэта было галоўнае.

Ранак, затканы сонечнымі промнямі, набыў за праведзеныя ёю ў сценах клінікі паўгадзіны ярчэйшую афарбоўку. Пацямнела, набрыняла халоднаю чырванню лістота; цёмна-ліловымі, а дзе-нідзе чорнымі выдавалі ў яе асвятленні камлі; даўно парыжэлая і цяпер як прышэрхлая пад цяжарам зямліста-попельных ценяў трава пагойдвала начапляныя ветрам павуцінкі; адсвечваў не гэтым, ранішнім, а заўтрашнім, свінцовым ад першых па-сапраўднаму восеньскіх хмар небам скрозь павышчэрбліваны, палопаны ўздоўж і ўшыркі асфальт... А над усім, прыглушаючы ўсе колеры, дзвюма ўзнятымі невядома кім паходнямі гарэлі каля самай брамы клёны. Гарэлі так ярка, быццам — насуперак усяму! — іх агонь і быў тым гімнам прыродзе, зямному хараству, які ўваскрэсіць у яго спрадвечных духоўных памкненнях і чалавека.

У першы момант, калі ўспыхнуў захоплены, зачараваны ўбачаным пагляд, Стэфе здалося, што надышоў той якраз момант, якому дадзена, запаведана зняць усе шматгадовыя наслаенні, усе прырослыя, прыкіпелыя за гэтыя гады маскі да людскіх твараў і агаліць, адкрыць патаемную сутнасць,

нічым не прыкрытае нутро, першаіснасць, калі заўгодна, каб яна, Стэфа, зразумела, убачыла, што чалавек — любы чалавек! — не ўсё, чым ён уяўляецца самому сабе, што ён прыгажэйшы, душэўна больш тонкі і дабрэйшы, чым думае пра сябе сам. Трэба адно не засланяцца, не адгароджвацца ад святла, вось гэтага чыстага нябеснага святла, якое жывіць душу, якое дае сілу жыць і думаць,— і душа пачне расці, цягнуцца да неба...

Думка, разважанне было такім неўласцівым для Стэфы, што, канешне ж, не магло пакінуць глыбокі след у душы, але душа ўсё-такі страпянулася, азваўшыся на яго, і гэты зрух яе некалі яшчэ нагадае пра сябе. Некалі... Хто б сказаў, на якой адлегласці ад таго дня, ад той хвіліны знаходзілася цяпер Стэфа?

Дайшоўшы да аўтобуснага прыпынку, крыху пастаяла, чакаючы аўтобуса, потым жа, не так ад нецярпення, як ад якойсьці ўнутранай, глыбокай залагоджанасці, якую не хацела парушаць, павярнулася і пайшла ў бок горада. Шлях няблізкі, дык жа і вольнага часу ўжо не пазычаць — чаму б і не прайсціся? Чаму не падыхаць апошнім восеньскім цяплом? Дзень даваў ёй шанец, і гэты раз Стэфа і не думала ад яго адмаўляцца. Вось ужо не!

Гэты раз... Чамусьці падумала менавіта так, хоць ні пра які іншы раз успомніць не змагла б. Урэшце, любы дзень, любое імгненне давалі ёй пэўны шанец штосьці змяніць, штосьці ў сваім жыцці, у сваім лёсе падправіць, а выкарыстоўвала яго Стэфа ці не выкарыстоўвала, залежала ў большасці хоць і не толькі ад яе самой, мела адноснае значэнне. Усё, што ні рабілася, рабілася да лепшага — вось яе дэвіз на працягу ўсяго жыцця дагэтуль, і адмаўляцца ад яго Стэфа не збіралася. Не бачыла прычыны. Выбар — заўсёды за ёю, а вынікі... Вынікі маглі быць якімі заўгодна!

Яркае лісце на пацямнелым, бліскучым на сонцы голлі, чысты, крышталёвы блакіт нябёсаў, срэбныя, добра бачныя павуцінкі ў празрыстых, нябачных валасах ветру, якія мякка краналіся Стэфіных валасоў, заблытваліся з імі, пакідаючы ледзь заўважны ў іх густой русай капне след,— усё ўспрымалася Стэфаю з радасцю, такою ціхаю, такою незнаёмаю, што яна не адразу і вызначыла яе. А калі і вызначыла, назвала, то не адразу паверыла. Радасць? Пасля ўсяго, што за апошнія месяцы здарылася? Пасля ўсяго ў сувязі з гэтым перажытага?

Успомніўся раптам даўні, яшчэ з часоў школьнай вучобы, выпадак. Мо таму, што здарыўся ён у адзін з такіх вось дзён цёплага бабінага лета, успомніўся вельмі яскрава, ва

ўсіх сваіх падрабязнасцях. Яна нават водар яго адчула, гаркаваты і ўсё роўна прыемны — дыхалася лёгка, на поўныя грудзі...

Яны, школьнікі («У сёмым? — не, у восьмым класе ўжо вучыліся!»), працавалі ў прыгарадным калгасе, на бульбяных палетках, як было тады заведзена, ужо трэці ці чацвёрты дзень. Мішу Саўкаву, як самаму сур'ёзнаму з іх, давяралі каня, і ўвечары, калі прыйшоў час вяртацца з поля, Міша, на зайздрасць усім астатнім, узяў з сабою на падводу, апроч свайго сябрука Гены, і яе, Стэфу: два, два з паловаю кіламетры — не дарога, а ўсё ямчэй ехаць, а не ісці, заграбаючы пыл натомленымі за дзень нагамі. А калі яшчэ сцебануць Варанка лазінаю для большага спрыту...

Падагнаць каня прыйшло ў галаву ёй, Стэфе. Хлопцы, падпёршы адзін аднаго плячмі, каторую ўжо хвіліну маўчалі, і яна раптам раззлавалася: чаго, запытацца, села з імі? Слухаць іх маўчанне і думаць хто ведае пра што?

— Но-о! — вырваўшы ў Мішы лазіну, падхліснула Варанка.— Но! Пайшоў! Спіш на хаду...

— Ты чаго? — утаропіўшыся ў яе, выгукнуў Міша.— Конь жа стомлены, ды і мы, наколькі я ведаю, нікуды не спяшаліся.

— Не спяшаліся, а цяпер спяшаемся,— адцясніла яго Стэфа плячом і, стаўшы для большай устойлівасці на калені, падганяла і падганяла каня.— Чыгуначны пераезд вось-вось перакрыюць, не стаяць жа потым добрых паўгадзіны, чакаючы, пакуль усе нашы нам ручкамі памахаюць. Но-о!

Пераезд ужо сапраўды перакрывалі — было відаць, як цётка Нюта корпалася са сваёю нескладанаю механікаю, адкручваючы, апускаючы цяжкі шлагбаўм, і калі паспець адолець невысокі, насыпаны па абодва бакі ад'яго пагорак, падвода яшчэ праскочыла б.

— Ты што — здурэла? Цягнік жа ўжо чуваць...— учапіўся ёй у плячо спалоханы, збялелы на палатно Гена, адчуваючы, бачачы, што ўжо позна, што добра адсцябанага Стэфаю Варанка ўжо не спыніць, але Стэфа, і сама напалоханая, замест таго, каб нацягнуць лейчыны і паспрабаваць утрымаць каня, хоць бы і перад самым шлагбаўмам, упусціла іх з рук.

Памкнуўся быў Міша адхіліць яе, але ў гэты момант кола падводы трапіла ў глыбокую калдобіну і вазок падкінула, адкінуўшы хлопца ўбок. А конь, якому, у дадатак да ўсяго, цяпер біла па нагах пакладзеная на днішча падводы і ссунутая, прасунутая далёка наперад дошка, як ашалеў ад

болю, ад болю і страху, бо і ён жа, няйначай, чуў блізкае, небяспечна блізкае пастукванне жалезных колаў цягніка і ляцеў, ламаючы хісткую загарадку, ужо напрасткі.

— Куды?! Куды, мацъ вашу?! — раўла цётка Нюта, перакрываючы крыкам і тупат капытоў ашалелага каня, і бразгат старой расхістанай падводы, і гул цягніка, які набліжаўся, накочваўся з неверагоднаю хуткасцю.

Падвода, усім сваім цяжарам нязграбна матляючыся, кідаючыся з боку на бок, праскочыла пераезд і са страшэнным грукатам, як здавалася скамянелай ад смяротнага напружання Стэфе, панеслася ўніз з пагорка. Ашалелы конь не зважаў ні на іх крыкі, ні на нацягнутыя лейцы, за якія Міша, урэшце адпіхнуўшы, адцясніўшы Стэфу, тузаў што было сілы, ашалелая ад усяго, што адбывалася, Стэфа сутаргава чаплялася за борцікі падводы, думаючы, паўтараючы ў думках: «Усё! Гэта канец! Разаб'ёмся, як піць даць...»

Калі ў чарговай выбоіне на спуску падводу моцна тузанула з боку ўбок, падкінуўшы Стэфу, і яе аслаблыя рукі ў нейкі момант не знайшлі апоры, адчуць яна, па сутнасці, нічога не паспела. Толькі праляцеўшы ў паветры і балюча чмякнуўшы аб зямлю ўзбоч дарогі, на самым адхоне, зразумела, што яе выкінула з вазка, які пранёсся, прагрукатаў над ёю і перавернецца, выкуліць хлопцаў невядома на якім павароце, што яна ўпала і коцііца па адхоне ўніз.

Удалае, якраз на схіле, падзенне безумоўна змякчыла ўдар, і ўжо праз адно-два імгненні стала ясна, што з ёю будзе ўсё ў парадку: галава не звернута набок, усе косткі нібыта цэлыя. Плячо, на якое прыйшоўся ўдар пры прызямленні, крыху пабольвала, ну, дык гэта, у параўнанні з тым, чым магло б урэшце скончыцца падобнае здарэнне, такая дробязь, што і зважаць на яе не варта было. А вось хлопцы...

Думка пра хлопцаў, падспудная віна за тое, што з імі магло здарыцца кожную хвіліну нешта значна горшае, змусіла яе падняць галаву, паспрабаваць калі не падняцца на ногі, то хоць бы сесці і агледзецца. І хоць касцей яна яўна не папераломвала, цела, яшчэ скутае амаль не аслаблым нервовым напружаннем, не дужа слухалася.

— От, чорт! — памянула міжволі нячысціка, раззлаваная і на сябе, дурніцу, і на шалёнага каня, і на абставіны, у якіх яна апынулася, і ад нягучнага воклічу трохі палягчэла — ці то гук уласнага голасу і шумны выдых застаялага ў грудзях паветра дапамог, ці то гэта раптоўная злосць, якая вярнула, вяртала сілу.— Трэба ж было дурніцы паддацца на

ўгаворы хлопцаў і потым уявіць разбітую брудную калымагу вазком егіпецкай царыцы!

— Як ты там? Цэлая? — гукала, спускаючыся ад пераезда ўніз, да яе, цётка Нюта, і разам з яе пытаннем, з яе трывогаю, абрынуўся на Стэфу гул і бразгат цягніка, які, мінуўшы пераезд, імчаў у бок станцыі ўсё яшчэ недзе вельмі блізка, ледзьве не над самаю галавою.— Жывая ты там, пытаю?

Кіўнула. Раптам адчуўшы, як сціснула горла нарэшце ўсвядомленае ёю: «Жывая! Магло ж...»

Дадумваць не стала. Глытаючы слёзы, з дапамогаю падаспелай цёткі Нюты паднялася на ногі і, перш чым зірнуць на яе, неяк азвацца на яе клопат, зірнула ўслед цягніку, хвост якога ўсё яшчэ быў відзён паміж купкамі прыдарожных ясеняў.

— Конь панёс, ці што?

— Хацелі, каб трохі хутчэй... А ён...

— Хацелі! А ён! — паддражніла, уважліва абмацваючы яе, цётка.— З табою, па ўсім відаць, абышлося. Дзякуй Богу, дзеўка, што абышлося. Мо і з тымі, дасць Бог, неяк абыдзецца. Вунь — вашыя, усе астатнія ўжо лятуць... Ідзі ўздоўж насыпу, не шкрабіся адразу на пагорак. Мне трэба вяртацца.

— Дзякуй,— не стрымліваючыся, плакала, ціхенька шморгала носам Стэфа...

Ціха, нячутна плакала Стэфа і цяпер, успамінаючы тую хвіліну, хоць не адразу і заўважыла слёзы. Слёзы — скрозь усмешку, бо вось жа толькі што ўсміхалася. Раніцы. Сонцу. Шляху.

Тады, больш двух дзесяткаў гадоў таму назад, усё абышлося. Усё скончылася спалохам і гузакамі — як для яе, Стэфы, так і для Мішы з Генам, чыя запрэжка аказалася такою няўмелаю, такою няўдалаю. І нават з канём, з Варанком, да якога ніхто з іх траіх да самага канца работ больш не адважваўся наблізіцца, не здарылася нічога страшнага, нічога непапраўнага: збітыя, падбітыя заднія ногі ўцалелі. Але штосьці ж, што змусіла яе сёння ўспомніць той дзень, той даўні выпадак, які ледзь не скончыўся трагічна, мабыць жа, засталося. Што? Чым сённяшні ранак нагадваў, нагадаў ёй той далёкі вераснёўскі адвячорак за сцяною дваццаці гадоў?

«Гэтак жа ціха было вакол пасля таго, як адгрукатаў, знік удалечыні сумнапамятны цягнік, гэтак жа светла,— знайшла адказ у думках Стэфа.— Быццам са смерцю сваёю размінулася...»

Ды і размінулася! Зноў лёс уступаў у свае правы, і здагадвалася пра тое Стэфа ці не здагадвалася, як і той раз, не мела асаблівага значэння: яна падпарадкавалася — гэта галоўнае.

36

Тэлефон званіў бясконца — Стэфа як не чула. А часам і сапраўды не чула, то падоўгу дзівячыся на такія знаёмыя, здавалася, сцёртыя, прышэрхлыя ад доўгага карыстання і — адначасова — зусім чужыя ёй сёння рэчы, якімі за доўгія гады загрувашчана яе кватэрка, то разглядваючы выпрастаныя перад сабою і дрогкія на святле рукі так пільна, быццам бачыла іх вось так блізка ўпершыню.

Дзіўны ўсё-такі гэта інструмент — рукі! Сціснеш што ёсць сілы пальцы ў кулак, напружышся і з размаху ўдарыш ім па паветры — разаб'ецца, лопне яно па крузе, укруг удару, і будзе доўга расцякацца, разбягацца няроўнымі дрогкімі хвалямі. Паслабіш пальцы, наблізіш іх да шчакі, кранешся лёгкім дотыкам скуры — адгукнецца на пяшчоту ўсё цела, уся істота яе. Увап'ешся імі ў валасы, тузанеш адчайным рыўком — і, скаланутая, рассечаная папалам рэзкім, кароткім, як удар, болем, застогнеш ад раптоўнае бездапаможнасці... І гэта ж толькі ў гэтую вось хвіліну, калі яны, рукі, нічым не занятыя, а калі знайсці для іх той ці іншы занятак?

Тэлефон званіў і званіў. З рэдкімі перапынкамі. І ніводнага разу Стэфа нават не памкнулася яго адключыць. Проста не зважала на бясконцыя надакучлівыя званкі — і ўсё.

Занятак... Занятак не знаходзіўся. Вось ужо каторую гадзіну спрабавала Стэфа прызвычаіцца да свайго новага стану, прывыкнуць да ўсведамлення, што наперадзе — воля, поўная, нічым не абмежаваная воля, і ўсе спробы ні да чаго (хоць бы толькі ў думках) не прывялі. Не прыводзілі. Адчувала сябе лішняй. Чужой. Чужой нават тут, у пакоі, з якога столькі гадоў ляпіла і зляпіла ўрэшце прыдатнае для жыцця гняздо, не кажучы ўжо пра тлумны горад за яго вокнамі ці, таго больш, пра аграмадны і не знаёмы ў сваёй неабдымнасці свет, якому горад і ўсё ў горадзе належала.

Каму яна, Стэфа, патрэбна? Хворым, якіх пакінула? Дык хіба можна каму з іх дапамагчы, нягледзячы на ўсе намаганні.

Сціскаючы пальцы ў кулакі, уздыхнула. І тут жа аблаяла сябе ў думках: чаго, запытацца, хавае сябе зажыва? Адвяла,

адпрэчыла небяспеку, якою пагражала ёй далейшая работа ў псіхіятрычнай бальніцы,— і адпрэчыла своечасова. Няма спакою дома, у загрувашчанай непатрэбнымі ў сваёй большасці рэчамі і ўспамінамі кватэры — можна плюнуць і на яе, і на ўспаміны, што ў ёй прыжыліся, і сысці ў белы свет. Свет вялікі, і для яе, Стэфы, у ім месца знойдзецца. Не сёння, дык заўтра. Не заўтра, дык нейкі час апасля. Нездарма ж Нялюба ўвесь час гукала яе, мо якраз таму і перастаўшы гукаць, што не паслухала яе Стэфа,— тады, калі чула яе кліч, не паслухала, а сёння...

Сёння ўслухоўвалася ў сябе, у зрухі, якія ў ёй адбыліся і адбываліся, і разумела толькі адно: яе, ранейшай, пасля тае яе паездкі ў Полацк, на так і не адшуканую магілу дачкі, даўно не існавала, а іншаю сабою, сённяшняю, яна распараджацца яшчэ не навучылася. Зроблены ўсяго першы крок, няўмелы і амаль што ўсляпую, і трэба адважвацца і рабіць наступны... Ведаць бы яшчэ, які, у які бок!

Званілі. Цяпер ужо ў дзверы. Пачуўшы званок, хацела адмахнуцца, адвярнуцца ад дзвярэй, як адварочвалася дагэтуль ад тэлефона, але шалёная думка («А раптам гэта пасланец лёсу? А раптам — Нялюба?!») падштурхоўвала ўжо, прыспешвала яе: адчыняй! ідзі адчыняй!

У першы момант, убачыўшы ў дзвярах устрывожанага, злёгку ўзбуджанага ці то гэтаю трывогаю, ці то кульнутаю перад тым, як ехаць да яе, чаркаю спірту Жыноўскага, памкнулася, міжволі зрабіла рух, каб прычыніць дзверы, не ўпускаць яго ў хату, але той, відаць, быў гатовы да такой яе рэакцыі, бо ручку, за якую ўчапіўся, трымаў моцна, не адпускаў, ды і Стэфа, засаромеўшыся свайго руху, свайго незразумелага спалоху, адступіла: з кім, з кім, а з Анатолем жа яна магла пагаманіць, не дужа тоячыся, не хаваючыся за маскаю заўсёды крыху найгранага раўнадушша.

— Ну-у, родненькі, не чакаў! — гудзеў ужо той, уваходзячы і адцясняючы яе далей у калідор.— Не думаў, што ты мне гэткую фігу пад нос, пад самы, што называецца, нос сунеш. Ні з таго, ні з сяго, так? Без асаблівае прычыны, так? Што я павінен быў адчуць, не здагадваешся? Савеліч жа мяне ледзьве не сажраў у прысутнасці ўсяго калектыву, быццам не ты, галубчык, а я, сівагаловы, сваёю заяваю яго ледзьве да інфаркту не давёў. Так і пырскаў слінаю ва ўсе бакі, абураючыся: «Ды што яна сабе дазваляе? Ды ці можа ўрач вось так раптам, нікога не папярэдзіўшы, плюнуць на свой абавязак? Калі б яшчэ якая важная падстава...» Ды ты ж яго ведаеш!

— Цябе ён паслаў?

— Бог мой, мы ж нават не павіталіся,— падаўся да яе Жыноўскі, і тое, што Стэфа не ўхілілася ні ад ягонага абдымку, ні ад паказнога пацалунка ў шчочку, як было паміж імі прынята, адразу насцярожыла яго, насцярожыла і засмуціла.— Што-небудзь здарылася, а, Стэфа? Яшчэ штонебудзь у дадатак да ўсяго?

— Цябе Савеліч паслаў? — перапытала Стэфа, калі ён адпусціў яе і пайшоў следам, у пакой.

— Пры чым тут Савеліч? Я што, па-твойму, мог сёння не прыехаць? Мог зрабіць выгляд, што нічога не адбылося? Баба з воза, маўляў, кабыле лягчэй... Мы ж зусім някепска разумелі адно аднаго дагэтуль. Ці я памыляюся?

Стэфа моўчкі паказала на крэсла, запрашаючы яго прысесці, а сама прайшла да канапы, машынальна паправіла скамечаную, ссунутую са спінкі ўніз пасцілку і, спакойна павярнуўшыся, села. Спярша на краёк. Потым, пад пільным позіркам Жыноўскага, глыбей, зручней — нават абаперлася, хоць і бокам, для большай зручнасці на спінку.

— Ты не адказала,— нагадаў Анатоль.

— Я думаю: гаварыць будзеш ты.

— Я?! Але ж ты павінна неяк патлумачыць...

— Хіба ты нічога не зразумеў? — перапыніла яго Стэфа, не даўшы дагаварыць.— Павінен жа быў раней, яшчэ раней усё заўважыць.

— Што — усё? Што, чорт вазьмі? — успыхнуў, сарваўся з месца і забегаў па пакоі, крыху супакоіўшыся пасля сваіх першых назіранняў і стаўшы нарэшце самім сабою, такім, якім яго ведала Стэфа.— Што ты ўбіла ў галаву чорт ведае што і ўявіла сябе ні больш ні менш, як Марыяй Магдаленай? Што здыхаеш тут па начах адна, без свайго ненажэрнага ў адносінах з бабамі арангутанга, які цябе кінуў цяпер, менавіта цяпер, хоць мог бы зрабіць гэта даўно і калі заўгодна? Ды гукнула б каму іншаму! Мне б, дурню, пазваніла: прыязджай, сякі-такі, пашапчы чаго-небудзь, а то думкі галаву змулялі, а то... Дурань я, дурань, прызнаю. Мог бы і прыехаць, і пажыць тут невылазна, з дня ў дзень, і ў ложак да цябе легчы, калі б не адштурхнула, як некалі...

— Адштурхнула б. А цяпер ты, можа, сядзеш?

Анатоль як спатыкнуўся. Нават апору рукою пашукаў, пахіснуўшыся ад таго, што занадта рэзка спыніўся, але, каб намацаць край стала ці крэсла, яму давялося б прыгнуцца, і рука, колькі разоў шкрабануўшы паветра, застыла.

— У каго з нас дваіх нервовы зрыў, а? — усміхнуўся на

недарэчнасць і сваёй позы і сваіх слоў.— Хто каго супакойвае?

Адсунуў крэсла, збіраючысяісці насупраць. Потым раптам перадумаў, падаўся да яе, Стэфы, каб сесці побач, і хоць па ледзь заўважным паколванні ў руках, у кончыках пальцаў, адчуў яе насцярогу, усё-такі не адступіўся, апусціўся на канапу.

— Спадзяюся, ты не чакаеш, што загавару з табою, як са сваёю пацыенткаю? — павольна павярнуўся.— Ты ж сама псіхіятр, і — павер, гэта зусім не камплімент! — псіхіятр някепскі па ўсіх мерках, хто б і што б табе калі ні казаў. Таму і не аспрэчваю твайго рашэння — ні як урач, ні як сябра: табе, як і кожнаму з нас, безумоўна патрэбен адпачынак...

— Гаворка не пра адпачынак,— пасля доўгай паўзы, узніклай пасля яго слоў, азвалася Стэфа, і голас яе ўпершыню з пачатку гаворкі пачаў набываць звыклую афарбоўку.— Калі той, хто мае справу з хворымі, з душэўнахворымі, не маючы больш абарончага, самаахоўнага шчыта, становіцца адкрытым для любога ўздзеяння, для любога болю, яму трэба развітвацца са сваёю прафесіяю. І не табе мне гэта тлумачыць, Анатоль.

— Але ж гэта часова. Ча-со-ва! — памкнуўся ён па-сяброўску абняць яе за плечы, але Стэфа мякка ўхілілася і ён не паўтарыў спробы.— Адыдзе, адсунецца далей перажытае — і зямля па-ранейшаму, а то і хутчэй, будзе круціцца вакол сваёй восі, падстаўляючы сонцу то адзін, то другі азяблы занач бок. Адно даверыцца часу, даверыцца яго руху — і жыццё зноў набудзе страчаны смак. Ранейшы. Крыху, як вядзецца, гаркавы, але што ж... Галоўнае, роднenькі, не паддацца часовае слабасці.

— Ты хацеў сказаць: страху? — пазірала паўз яго, кудысьці за акно, Стэфа, разумеючы, чуючы ўсё не сказанае Жыноўскім.— Дык хіба ты — і ты, Анатоль! — не баішся? Хіба ты каторы ўжо год не імкнешся заліць свой страх, свой няўцямны страх гарэлкаю? Гуляеш то ў незалежнага палітыка, то ў расчараванага людзьмі экстрасенса, а сам... Урэшце, не будзем пра гэта. Не пра цябе гаворка.

— Чаму ж! Ты ўпершыню так вось, без бабскага прыдурвання і з усёю шчырасцю разважаеш, так што — гатовы слухаць і далей,— перасеў ён усё-такі на падсунутае крыху бліжэй крэсла і адгарадзіў, загарадзіў сабою Стэфу ад акна.— Ты спалохалася...

— Я занадта выразна бачу і чую раней нябачнае і нячутае і, калі ты ўсё яшчэ прагнеш тлумачэнняў, спрабую, не

затыкаючы вушэй, хоць на самае непрыемнае заплюшчыцца, заплюшчыць вочы,— ніяк не магла цяпер абмінуць Жыноўскага паглядам Стэфа і калі, змушаная, раз-пораз зіркала на яго, лёгкая, амаль няўлоўная грымаса на міг перакошвала яе твар.— Аказваецца, усе... Усе людзі — даволі гнусныя па сваёй прыродзе, і мы з табою не выключэнне.

— Гэта ты ў самую кропку,— невядома чым задаволены, зарагатаў Жыноўскі,— у самую што на ёсць кропачку, няхай сабе за ўсе прамінулыя стагоддзі і добра ўжо залапаную рознымі правідцамі і філосафамі! Гнусныя, зайка. Канешне, гнусныя. Ну, і што? Не ў пятлю ж ад гэтага лезці ўсім як ёсць! Прыгожую карціну, ха-ха-ха, уяўляла б сабою чалавецтва, якое ўласным самагубствам, агульным самагубствам звяло б, нарэшце, усе рахункі з вечнасцю.

— Чалавецтва некалі тым і скончыць.

— Што?! Ты сур'ёзна? — рагатаў, не мог спыніцца ён, хоць смяяўся ўжо праз слёзы, якія выступілі на вачах ад гэтага дурнога, нястрымнага рогату.— Ды зірні, як кожны за сваё гнуснае жыццё чапляецца, як смерці сваёй баіцца, гатовы чым заўгодна і кім заўгодна за адно якое лішняе імгненне заплаціць! Самагубствам яны скончаць, як жа! Адно, калі планету ў апраметную спіхнуць.

— Не ўтрыруй, Жыноўскі,— звяла бровы Стэфа.— Каго ты бачыш, апроч пацыентаў Навінак, гэтых вечных паддоследных тваёй, ці чыёй хочаш амбіцыі?

— Стоп, стоп, стоп, зайка! Так мы не дамаўляліся,— каўтнуў, нарэшце, свой смех Жыноўскі і цяпер уціраўся, выціраў вочы выцягнутаю з кішэні насоўкаю, спадцішка цікуючы за незнаёмаю, у нечым зусім новаю для сябе Стэфаю, за кожным яе рухам.— Усё скрозь было ў межах дазволенага, у дапушчальных усімі меркамі дозах, і сёе-тое, ты не можаш не пагадзіцца, нашы доследы далі і клініцы, і хворым. Калі ты проста не хочаш надалей прымаць удзел...

— Усё, чаго я хачу,— гэта растлумачыць табе, што бяссільнай штосьці істотна змяніць — у сабе, у табе, у свеце! — мне прыйшло ў галаву адступіцца,— патлумачыла яна нехаця,— своечасова адступіцца і надалей, на ўсе гады надалей, ісці толькі на кліч, толькі да таго, хто кліча, чакаючы ад мяне, менавіта ад мяне, нейкай дапамогі. Разумееш?

— А калі паклічу я? Калі я — клічу?

— Табе не патрэбна мая дапамога, Анатоль,— апусціла яна вочы, каб хоць так прыгасіць іх гарачы бляск.— Лёс, нягледзячы ні на мае, ні на тваё намаганні, ужо не адпусціць цябе.

— Ды пайшла ты! Прарочыца, маць тваю! — сарваўся

той з крэсла, не так раззлаваны, як хацеў паказаць, колькі разгублены.— Як не са сваіх слоў гаворыш, а я, дурань...

Уражаны нечаканаю думкаю, застыў на колькі імгненняў пасярод пакоя, потым, з уласціваю яму рашучасцю, матлянууўся цераз увесь пакой да Стэфы і тут жа, даволі спрытна, апусціўся перад ёю на кукішкі — твар да твару, вочы ў вочы.

— Паглядзі мне ў вочы, Стэфа, і, не адводзячы пагляду, скажы: ты не заўважала, што цябе час ад часу вядзе, што табою час ад часу камандуе чужая воля? Ніводнага разу за ўсе прамінулы дні, месяцы не заўважала?

Стэфе было мулка пад яго калючым паглядам, насцярожаным і пільным: яна раз-пораз, быццам стала мерзнуць, пацепвала плячмі, павольна, незаўважна для самой сябе сціскала і расціскала сашчэпленыя на каленях пальцы раптам дрогкіх і непаслухмяных рук і разгублена ўсміхалася, не знаходзячы вартага моманту адказу. Не расказваць жа Жыноўскаму, як спярша, толькі ўбачыўшы яго ў дзвярах, збіралася, пра гаворкі з Нялюбаю пасля яе пахавання, пра добра чутныя галасы сценаў, рэчаў, хуткіх ценяў іх, за якімі цяжка ўсачыць, нават засяродзіўшыся. Зразумець, можа, ён і зразумеў бы, але і з дыягназам адпаведным не прамарудзіў бы. А там хто яго ведае...

— Дык заўважала ці не заўважала? — трэці раз перапытаў ён.

— Гэта важна для дыягназу? Ці ты яго ўжо загадзя вызначыў і цяпер шукаеш пацвярджэння? — сарвалася ў яе з вуснаў іранічнае, злоснае, як калісь, у дні былых навуковых баталій, калі раптам станавілася відочнаю падаплёка яго далёка не навуковых доказаў.— Штосьці я не разумею...

— Слухай, давай вып'ем, калі ў цябе знойдзецца ў хаце што крапчэйшае за ваду, а? — падымаўся ён, адводзячы пагляд і тым прызнаючы сваё паражэнне. Па крайняй меры, на гэтым этапе.— Спяшаўся і не ўзяў нічога па дарозе.

— Зірні ў серванце.

— Не-не-не, зайка,— вяла запярэчыў, не павярнуўшы галавы.— Ты ўжо сама. Як хлебасольная гаспадыня. Да пляшкі ж яшчэ сёе-тое спатрэбіцца.

— О, ужо гэтыя мужыкі! — яўна без асаблівае ахвоты ссунулася з канапы Стэфа і, перш чым скіравацца да серванта, міжволі, скараючыся няўцямнаму ўнутранаму штуршку, зірнула на рукі, ці не дрыжаць часам...

Рукі не дрыжалі, з'явілася нават ўпэўненасць: яна вый-

грае. Адно сачыць за сабою і не сказаць нічога лішняга. Нічога такога, што насцярожыла б яго — нюх жа ў шаноўнага калегі, як у сабакі.

— Што рабіць збіраешся?

— Пасплю, пачытаю... Занятак заўсёды, калі яго шукаеш, знаходзіцца.

— А ты шукаеш?

— Воля за гэты першы дзень яшчэ не паспела надакучыць.

— Магу, як хочаш, параіць...

— Не трэба! Ты дужа спяшаешся, Анатоль, угадаць, а то і апярэдзіць мой наступны крок. Гэта м о й ход, мой, разумееш?

— Чаго ўжо тут не разумець! — не пазіраў на яе Жыноўскі, таптаўся каля стала, каля якога яна шчыравала, то адыходзячы, каб не перашкаджаць, да прыадчыненага ў адвячорак акна: ішла перакідка словамі, і ніхто з іх дваіх, ён быў перакананы, не падманваўся тою відочнаю лёгкасцю, з якою яны вымаўляліся.— Я ніколі не займаў у тваім жыцці і самага нязначнага месца.

— А то ты б трымаўся яго, калі б яно для цябе з'явілася! І табе ж, як любому, патрэбна не разумная, а мяккая, пакорная ў тваіх руках, баба,— не хавала іроніі Стэфа.— Што б ты са мною, такою вось, рабіў, галубчык?

— У пасцелі ўсе аднолькавыя: заплюшчышся — і...

— Не скажы!

— Не будзі ўва мне звера, зайка, добра? Я ж яшчэ не выпіў і згараю ад нецярпення,— спыніўся ён у яе за спіною, і Стэфа тут жа адышла ўбок, падцягнула нагою бліжэй да стала крэсла.

— Усё ўжо на стале. Прашу! Спадзяюся, што, выпіўшы, ты нарэшце забудзеш, дзеля чаго з'явіўся.

— Стэ-фа!

— Сам жа назваў мяне не так даўно някепскім спецыялістам, так што давай не будзем адно з адным у кошкі-мышкі гуляць,— сачыла Стэфа за тым, як Жыноўскі разліваў па чарках гарэлку.— Твае намеры і раней пры жаданні даволі лёгка прачытваліся, тым больш цяпер, калі я магу...

— Што можаш? — хуценька падняў ён на яе вочы.

— Калі я магу пазіраць на цябе збоку, ужо як бы й здалёк, з пэўнай адлегласці,— падправілася Стэфа, адзначыўшы ў думках, што ні на хвіліну не павінна губляць пільнасці.— З самага пачатку, пасля таго, як Савеліч азнаёміў вас з маёй заявою, вы, усе разам, прыйшлі да высновы, што маеце справу з адхіленнем ад нормы: як гэта так, маўляў? Як гэ-

та — ні з таго, ні з сяго? Каму нармальнаму, псіхічна здароваму прыйдзе такое ў галаву?

— Ну, было. Ну, гаварылі,— лёгка пагадзіўся Жыноўскі, якому пасля кульнутае ў рот чаркі яўна палягчэла.— Калі сыходзіць з агульнапрынятых нормаў... З працоўнага заканадаўства, калі хочаш? — то падобныя заявы падаюцца загадзя, і ты гэта цудоўна ведаеш. Але ж табе раптам, ні з таго, ні з сяго замуляла... Чаго не п'еш?

— За цябе,— падняла Стэфа чарку, хоць, адно прыгубіўшы яе, піць не стала — і не хацелася, і баялася: ад Жыноўскага чаго заўгодна ў падобнай сітуацыі можна чакаць, а калі перад ім гарэлка...— Ды ты налівай, не азірайся на мяне. Сам бачыш: у нас розныя вагавыя катэгорыі.

Гаворка аціхла. Нейкі час Жыноўскі моўчкі, чарка за чаркаю, піў, зрэдку моршчачыся на тое, што прыкусіць асабліва чым не знайшлося: пячэнне, два яблыкі, лустачка даўно счарсцвелага сыру (на ягоны пагляд спадылба Стэфа толькі рукамі развяла), але хутка палагаднеў, стаў рабіць даўжэйшыя паўзы, заўважыў, што гаспадыня, частуючы яго, так і не ўзялася больш, нават для прыліку, за ледзьве прыгубленую чарку.

— Мяне ігнаруеш, ці гарэлка не свежая?

— Нешта галава пачынае балець, калі вып'ю,— патлумачыла, узіраючыся ў яго крыху адмяклы і ўсё ж цяжкаваты, непрыемны ёй цяпер твар, бо за ім чыталася ўся жорсткасць, уся бесцырымоннасць Жыноўскага і ў адносінах да хворых, і ў адносінах да сваіх калег, да яе, Стэфы, хоць самога, калі верыць зроку, чакаў хуткі і страшны канец.

— Га-ла-ва? — налівае Жыноўскі сабе чарговую порцыю.— А што ў гэтай галаве за галасы завяліся?

— Якія галасы?

— Сама ж неяк казала, няхай сабе і не мне...

— Ат! — адмахнулася Стэфа.— Пасля дзесяці гадоў працы ў Навінках усё гэта выедзенага яйка не варта. Стамілася. Збрыдла ўсё. Стала нецікава. Выбірай любое тлумачэнне, калі табе спатрэбілася раптам тлумачэнне.

— На які хрэн яно мне! Мне ты, ты ў аддзяленні патрэбна, а не твая заява,— на вачах п'янеў Жыноўскі, нягледзячы на тое, што калі-нікалі жаваў, жвакаў у роце сухі сыр.— Словам не будзе з кім перамовіцца, не тое што... Чорт цябе знае, што ты надумала, а мяне, зайка, Навінкі ўжо не выпусцяць. Не адпусцяць. Нават калі б не адну заяву напісаў, а ўсе дзесяць, адна за адною,— праз дзень-другі, працверазіўшыся пасля чарговага запою, зноў — і па сваёй волі, заўваж! — назад прывалакуся. Мо адно для таго, каб яшчэ

раз, каторы ўжо раз пераканацца, што не толькі ў маёй душы пустка, брудная, засмечаная ўсякім смеццем пустка, хрэн яго ведае. Я і сам часам не сказаў бы, не ведаю.

— Шмат п'еш, Анатоль.

— Пашкадавала? Паверыла, што сама вырвалася, і мяне надумала пашкадаваць?

— Начорта ты мне здаўся. Цябе ёсць каму шкадаваць,— паднялася, каб уключыць святло і перасесці на канапу, Стэфа: сядзець так блізка ад схмялелага Жыноўскага, ад ягоных цяжкіх позіркаў спадылба, станавілася ўсё больш гідка.— А наконт таго, вырвалася я нарэшце ці не вырвалася, сёння гаварыць ранавата. Назад шляху няма — гэта адназначна.

— Ну-ну! —хмыкнуў той.— Назад — не наперад...

Стэфа, зручна ўладкаваўшыся на канапе, не абзыўнулася: і гаворка, і нязваны госць ёй хутка надакучылі, і нават прыкідвацца хоць крыху зацікаўленай не хацелася — няхай дапівае і вымятаецца. Цэлы дзень, і яшчэ зусім нядаўна, перад самым яго прыходам, здавалася, што тая нітачка, ухапіўшыся за якую, яна выберацца з мінулага, трымціць блізка-блізка, на адлегласці выпрастанай рукі, і варта толькі згледзець яе, крануцца яе хоць бы кончыкамі пальцаў — вачам, пагляду адкрыецца ўвесь шлях наперадзе, а цяпер...

Не, і цяпер прадчуванне новага павароту лёсу не знікала, не знікла, але ён быццам аддаліўся, аддаляўся кожную хвіліну — і гэта не магло не раздражняць. Выгнаць Анатоля, ці што? Дык жа не выганіш, пакуль з пляшкі ўсё не высмакча. Добра, што хутка, праз адну-дзве чаркі да дна дабярэцца.

— Стэф!

— Гарэлка ўся, калі ты гэта хацеў спытаць.

— Пры чым тут гарэлка? — зморшчыўся той, як ад болю, але і апошнія кроплі выцэджваў у чарку, баючыся хоць бы адну кропельку з іх расплёскаць.— Я ж пагаманіць зайшоў.

Яна зноў змоўчала. Абмінаючы яго паглядам і ўзіраючыся ў цёмнае акно, маўчала, і маўчанне цёплымі хвалямі пакалыхвала пакой, прастору вечара за акном, срэбную нітачку шляху цераз усю гэту прастору — яе, Стэфінага, шляху...

Калі зусім побач гэпнуўся на канапу Жыноўскі, пра якога яна на добрыя паўгадзіны папросту забыла, уздрыгнула, здрыганулася ўсім целам, гідліва адсунулася як мага далей, у самы куточак, і спусціла з канапы толькі што ўтульна падкурчаныя ногі, у любы момант гатовая падняцца і адысціся.

— Дапіў? Праводзіць цябе, сам разумееш, не буду, так што, родненькі...

— Усе ў ложку аднолькавыя...— памкнуўся ён, губляючы раўнавагу, бліжэй, і калі абураная Стэфа што ёсць сілы штурханула яго ў грудзі, пахіснуўся і тут жа заваліўся набок. Адчуўшы ж шчакою мяккі дотык засланай тканаю пасцілкаю канапы, задаволена замармытаў штосьці няўцямнае і змоўк.

Праз хвіліну, калі Стэфа, саскочыўшы з канапы, памкнулася да яго, каб змусіць падняцца і пакінуць хату, Жыноўскі ўжо мірна пахрапваў. Тузанула яго, раз і другі раз, потым, нечакана супакоіўшыся, адступілася: што з яго возьмеш? І хіба мела значэнне чыя-небудзь прысутнасць ці адсутнасць цяпер, у гэту вось хвіліну, калі цішыня, якую не парушаў, не мог парушыць цяжкі мужчынскі храп, зноў панавала ў яе ў душы, зноў, як толькі што, пакалыхвала на цёплых сваіх хвалях пакой, прастору вечара за акном, срэбную нітачку яе, Стэфінага, шляху цераз усю гэту прастору?

## 37

Гэты раз у знаёмым кабінеце Жыноўскі ўбачыў не толькі следчага Віктара Восіпавіча Казловіча, з якім меў ужо не адну гутарку, але і новую персону, калі меркаваць па першым уражанні, даволі важную птушку.

«Наўрад ці з міліцэйскай парафіі, трэба браць значна вышэй,— мільганула ў першае ж імгненне, пасля кароткага позірку ў яго бок, і хоць прысутнасць незнаёмца або прыналежнасць яго да якой заўгодна ўрадавай структуры нічога ў прынцыпе не мянялі, аднекуль раптам з'явілася трывога. Нават не трывога, а трывожнае ўсведамленне: ён, гэты трэці ў кабінеце, мае самае непасрэднае дачыненне да апошніх падзей. Нездарма ж падзеі развіваюцца такім чынам.

— Сядайце, Анатоль Віктаравіч, гаворка доўгая.

— Дык я ж усё, што ведаў, ужо расказаў. Расказваў вам... Віктар Восіпавіч, мінулы раз...

— Давядзецца яшчэ раз расказаць. І як мага падрабязней,— разгарнуў свае паперы следчы і, зрабіўшы пэўнае намаганне, каб не азірнуцца на таго, трэцяга, які апынуў- ся цяпер у Жыноўскага за спіною, упіўся паглядам у схуднелы, пачарнелы за апошнія дні твар выкліканага на допыт псіхіятра.— Можаце пачынаць. Што прывяло вас у той вечар да грамадзянкі Стэфаніі Божыч?

— Што? Яна напісала і перадала начальству заяву. Заяву

аб сваім звальненні. Дакладней — аб сваім адыходзе з бальніцы, са службы. Бо адразу ж — ні я, ні хто іншы, апроч санітаркі, праз якую яна перадала паперу, Стэфу ў той ранак нават не бачыў! — сышла, не прыступіўшы да работы. На тэлефонныя званкі на працягу ўсяго дня не адказвала, вось я і...

— Вас паслалі да яе дамоў?

— Ды не,— хмурнеў і так нахмураны Жыноўскі пад пільным паглядам следчага: як на злачынцу, няйначай, пазіраў! — Мяне, як калегу, як найбольш блізкага да Стэфы калегу, распытвалі, што ды як, ды чаму — адказваць не было чаго. Сам галаву ламаў. Вось і паехаў, ледзь толькі скончылася дзяжурства.

— Нічога незвычайнага ў паводзінах яе апошнім часам не заўважалі? На рабоце ці дома?

— Нічога пэўнага,— перасмыкнуў ён плячмі.— Залішняй, ці хоць бы нязвыклай прыкметнай нервовасці ні ў гаворках, ні ў рабоце не было. Казалі...

— Што — казалі? — падагнаў яго следчы.

— Сяброўцы сваёй — вы ж, відаць, гаварылі з ёю! — скардзілася, што галасы... што даччын голас чуе, гаворыць з ёю. Мне ж, калі спытаўся, нічога патлумачыць не схацела.

— Што ж, вернемся да падзей згаданага вечара, калі пасля дзяжурства вы, Анатоль Віктаравіч, паехалі да сваёй каляжанкі,— пазначыў штосьці Казловіч у пратаколе.— Усё па парадку, калі ласка, і, па мажлівасці, не прапускаючы ніводнай дэталі.

— Дэталі не вельмі запомніліся, Віктар Восіпавіч. Дзень у бальніцы склаўся няўдала: зашмат абмеркаванняў Стэфінага ўчынку, зашмат нервовых разборак і ўсякіх дапушчэнняў, а ўсё ж не на пляжы, як вы разумееце, адбывалася, а ў калідорах Навінак, так што...— паўза не зацягнулася, бо яго ніхто не перапыняў і давялося прадоўжыць: — Доўга, даўжэй, чым звычайна, званіў. Думаў ужо, што няма Стэфы, што марна ехаў, але дзверы ўсё-такі адчыніліся, і яна... Здалося, што не мяне чакала ўбачыць, кагосьці іншага.

— Каго? — хуценька ўмяшаўся следчы.— Вы ведаеце, каго?

— Не ведаю,— памуляўся Жыноўскі, дакараючы сябе ў душы за неасцярожнасць.— Месяц-паўтара таму яе кінуў... яна разышлася са сваім даўнім сябрам, з каханкам, калі быць дакладным: ужо ж, пагадзіцеся, ёй прыемней было б убачыць пад сваімі дзвярамі яго, а не мяне. Хоць гэта ўжо лірыка, а вас, як я разумею, лірыка не цікавіць.

— Нас усё цікавіць,— адгукнуўся, не змякчаючы афіцыйнага тону, Казловіч.— Усё, што можа праліць святло на раптоўнае знікненне грамадзянкі Божыч. Людзі бяследна не знікаюць.

— Чаму ж вы ў такім разе не пытаецеся, як звалі яе палюбоўніка?

— Мы ведаем яго імя.

— А-а-а,— падазрона зіркнуў на следчага ён.— Я забыў, што вы абавязаны ўсё ведаць.

— Прадоўжыце свой расказ, Анатоль Віктаравіч.

— Стэфа адчыніла дзверы — я ўвайшоў. Спярша, запатрабаваўшы тлумачэння, пільна сачыў за ёю, за кожным яе словам, за выразам твару, міжволі, як урач, напачатку западозрыўшы самае нежаданае: праца ў Навінках, ведаеце, нікому здароўя не дадае — з душэўнахворымі працуем, сваім душэўным спакоем рызыкуючы. А тут — гэта нечаканая заява і нежаданне каму б там ні было што-небудзь патлумачыць... Але — ніводнай прыкметы псіхічнага зрыву! Ніводнай! Заўважалася лёгкая насцярога? Так, заўважалася. Адчувалася нязлосная іранічнасць у адказ на мае прэтэнзіі на гранічную шчырасць? Пэўне ж, адчувалася. І гэта зразумела: заўважала ж і маю насцярогу, і маю дапытлівасць. Заўважала, але вось няўпэўненасці, страху, нервовага напружання ні ў голасе, ні ў паводзінах не было. Гэта я як урач сцвярджаю з усёю адказнасцю. Мы не адзін год працавалі поплеч, па-свойму сябравалі — я б заўважыў, калі што якое.

— Пра што канкрэтна гаварылі? Цэлы ж вечар быў у вашым распараджэнні...— прыжмурыўся следчы, спадцішка, пакуль Жыноўскі, засяродзіўшыся на сваіх думках, не зважаў на субяседніка, разглядваў яго.

— Сёння цяжка перадаць тую гаворку... Я ўгаворваў, яна на ўгаворы не паддавалася — ішла перакідка словамі з большай ці меншай эмацыянальнасцю, як заўсёды паміж даўно і добра знаёмымі людзьмі, што разумеюць адзін аднаго з паўслова.

— Нечым жа ваша калега вытлумачвала прынятае так нечакана, ужо ў бальніцы, рашэнне?

— Стамілася. Збрыдла ўсё. Стала нецікава. Вось тры варыянты, якія яна прапанавала мне на выбар. Хоць яны, усе тры, у нечым зліваюцца,— рабіў пэўныя намаганні, каб не паказаць ні сваёй раптоўна ўзніклай непрыязнасці, ні сваёй дакукі, Жыноўскі, і ад таго гаворка са следчым падавалася яшчэ больш занудлівай і не патрэбнай: усё даўно і неаднойчы расказана і абмеркавана (чорт яго, Анатоля, тузануў у той вечар скіравацца да Стэфы), усе магчымыя тлумачэнні

раптоўнага знікнення Стэфы разбіваліся аб нелагічнасць яго, нелагічнасць і непатрэбнасць. Жыла ў сваёй хаце, новая работа, калі б уздумала Стэфа яе шукаць, у сталічным горадзе напэўна знайшлася б, здароўе...— Мо я нечага не зразумеў, мо гэта ўсё-такі звязана з нейкім зрухам у псіхіцы, вельмі глыбокім і таму не заўважаным? Не трэба забываць, што Стэфа псіхіятр, і псіхіятр вопытны, здольны кіраваць часам не толькі знешнімі, добра ўсвядомленымі паводзінамі, ■ і падсвядомасцю. Тады, праўда, атрымліваецца... атрымліваецца, што яна мяне вакол пальца абвяла?

— Ёсць што-небудзь, што пацвердзіла б ваша падазрэнне?

— Нічога. Нічога канкрэтнага. Апроч адной, прыгаданай раптам фразы: «Бяссільнай штосьці змяніць у сабе, у табе, у свеце, мне прыйшло ў галаву адступіцца і надалей, на ўсе гады надалей ісці толькі на кліч, толькі да таго, хто кліча, чакаючы ад мяне дапамогі...» Так яна сказала пасля майго чарговага звароту да яе сумлення,— пацямнеў тварам Жыноўскі, чамусьці зусім не ўзрадаваны гэтаю новаю згадкаю.

— І вы лічыце, што гэта фраза пацвярджае тое, што расшукваемая Стэфанія Божыч сапраўды «чула» галасы, ці голас? Так мне вас разумець, Анатоль Віктаравіч? — пацікавіўся следчы знешне абыякава, тым жа пазбаўленым эмацыянальнасці голасам, што і раней, не зводзячы, аднак, з Жыноўскага насцярожанага пагляду.

— Думаючы, што размаўляе са сваім сумленнем, чалавек размаўляе з Богам,— азваўся, думаючы ўголас, той.— Але гэта рэдка. Часцей жа ён вядзе мілую гаворку з д'яблам, і калі падобная гаворка паўтараецца — двойчы і тройчы — немінуча, рана ці позна, становіцца нашым кліентам.

— Гэта філасофія?

— Гэта псіхіятрыя, спадар следчы. Псіхіятрыя, адносіны да якой у нашай краіне, у самым лепшым выпадку, плёвыя.

— Вернемся, калі не пярэчыце, да нашага выпадку. Гаспадыня прапанавала вам выпіць...

— Я прапанаваў,— перапыніў яго Жыноўскі, змрочны, як ноч, і нечым няўлоўным падобны ў гэту хвіліну да старога падслепаватага філіна.— Спытаў, ці было ў хаце што выпіць, і Стэфа паставіла на стол усё, што знайшлося.

— Разам, удваіх пілі?

— Я піў,— зноў падкрэсліў ён.— Адзін. Таму і адключыўся потым так рэзка, што са мною, паверце ўжо на слова, рэдка здараецца. Нават калі перап'ю крыху. А тут... Не абедаў, і ў Стэфы не знайшлося, чым прыкусіць... Калі ўран-

ні прачнуўся і, уцяміўшы, дзе і як апынуўся, абышоў хату, Стэфы ў хаце не знайшоў. Падумаў: не схацела са мною, свіннёю, у сваёй хаце начаваць і пайшла да сяброўкі. Інтуіцыя, мо таму, што галава гула пасля перапою, нічо-га мне не падказвала, і нічога не заставалася, як пайсці прэч.

— Штосьці ж змусіла вас пазваніць вечарам сяброўцы.

— Калі мужык едзе да жанчыны, няхай сабе і не да той, з якой спіць, каб, высветліўшы ўсе абставіны яе паводзін напярэдадні, супакоіць, а то і прыгрэць, каб папрасіла, а сам, ледзь толькі дабіраецца да канапы, звальваецца і засынае мёртвым сном, ён, па меншай меры, ачомаўшыся, павінен папрасіць прабачэння, так? І ў думках жа не было, што яе давядзецца расшукваць з дапамогаю міліцыі,— душыўся словамі Жыноўскі і таму вымаўляў іх з натугаю, моршчачыся, быццам выплёўваў на стол сабраную ў душы горыч.

— Чым вы — вы як псіхіятр! — вытлумачваеце знікненне жанчыны, раптоўны сыход яе з дому менавіта ў той вечар, калі да яе завітваеце з сяброўскім візітам вы, Анатоль Віктаравіч? — узяў ужо след Казловіч, задаволены і сабою і тым кірункам, які набывала распачатая па ініцыятыве прысутнай у кабінеце высокай асобы гаворка.

— Усё вытлумачваецца, калі прыняць як факт тое, што Стэфа сапраўды чула яе кліч — наяве ці толькі ў душы: у абодвух выпадках гэта сведчыла б аб душэўным захвораванні ці... Ці, калі памятаць пра абмежаванасць нашых ведаў у гэтай галіне, аб якіхсьці новых, нікім дагэтуль не вытлумачаных духоўных уласцівасцях чалавека. Да прыкладу, чалавека — носьбіта значна большай, значна больш магутнай, чым у іншых, псіхічнай энергіі, пра што сёння ахвотна і, на жаль, цалкам бяздоказна, пішуць шмат якія выданні. Прызнацца, нічога падобнага ў Стэфы я не заўважаў. Па крайняй меры, да самага апошняга часу, як мне здаецца.

— Да самага апошняга часу? — страпянуўся, зіркнуўшы ў бок трэцяга прысутнага, пра якога Жыноўскі, па ўсім было відаць, ужо забыў, следчы.— Значыцца, апошнім часам сёе-тое ў паводзінах вашай каляжанкі ўсё-такі насцярожвала, спыняла ўвагу?

— Гэтае «сёе-тое» — такое нязначнае, што яго, па сутнасці, і вызначыць немагчыма. Проста пасля яе нядаўняй паездкі ў Полацк...

— Якой паездкі? Калі? Тут патрэбна ўдакладненне, прабачце.

— Недзе з тыдзень да таго, як Стэфа напісала сваю заяву,

яна ездзіла ў Полацк. На магілы, няйначай. Я пытаўся,— вывуджваў Жыноўскі з памяці ўжо амаль забытае.— Папрасіла падмяніць на наступны дзень, і я падмяніў — не першыня. А потым... Потым, як цяпер прыгадваецца, пасля гэтай паездкі, у ёй — у рухах, у словах, нават ва ўсмешцы — з'явіўся неўласцівы ёй ніколі раней, дзіўны спакой, і трэба было на працягу дзесяці гадоў ведаць заўсёды імпульсіўную, да колкасці іранічную, а то і злосную Стэфу, каб заўважыць, адчуць усю незвычайнасць падобнай змены, хоць бы і чыста вонкавай напачатку, якая з ёй адбылася. Усё збіраўся пагаманіць са Стэфаю, ды так і не сабраўся. Спярша вольнай хвіліны не знаходзілася, потым жа тое ўражанне нібыта прыцерлася, сцерлася...

— А ў згаданы намі вечар вы не заводзілі гаворкі пра тую паездку ў Полацк?

— Ды не. Мне неяк не прыйшло ў галаву звязаць з ёю Стэфін учынак. Ні памерлая летась маці яе, ні тым больш дачка, якая і расла не з ёю, ніколі не значылі для Стэфы, як гэта дзіка ні прагучыць, столькі, колькі значыў абраны для начных уцехаў каханка. Як я помню, чамусьці ім дваім, маці і дачцы, не магла Стэфа дараваць тое, што так і не выйшла некалі замуж, не стварыла сям'і. Глупства, канешне, але я сам неаднойчы чуў падобныя Стэфіны выказванні, і хоць кабылкаю яна лічылася пародзістаю...

— Не будзем адхіляцца,— перапыніў яго лірычнае адступленне Казловіч, гідліва падцінаючы вусны.— На вашу думку, прычынаю нервовага стрэсу, калі ён усё-такі меў месца, з'явілася не смерць дачкі, а разрыў з каханкам?

— Безумоўна. Смерць дачкі і на адзін дзень не парушыла яе плану паехаць з ім на поўдзень. Хаця...

— Хаця што?

— Хаця ўпершыню, як цяпер прыгадваецца, Стэфа загаварыла пра дачку толькі пасля смерці дзяўчынкі. І гаварыла як пра жывую. Так што...— заёрзаў, адчуўшы нязручнасць крэсла, на якім сядзеў, Жыноўскі.— Чужая душа — пацёмкі, Віктар Восіпавіч. На жаль, нават для нас, псіхіятраў. А калі дапусціць, што чалавек падуладны яшчэ і вышэйшай сіле — касмічнай... Хоць пра гэта не тут і не нам з вамі разважаць.

— Па крайняй меры, не сёння.

— Па-ранейшаму падазраеце мяне ў здзяйсненні невядома з якой прычыны зладзейства? — адкінуўшыся ў крэсле, зірнуў ён ва ўпор на следчага, і стомленая ўсмешка, якая слізганула па твары і знікла, і на міг не асвятліла гэтага цяжкога пагляду.

— Адзін з суседзяў грамадзянкі Стэфаніі Божыч па лесвічнай пляцоўцы, які, выгуляўшы сабаку, даволі позна ўжо вяртаўся дамоў, бачыў яе. Бачыў і запомніў, бо зрэагавала, занепакоілася раптам, калі жанчына праходзіла паўз іх, звычайна спакойная пры сустрэчах з ёю аўчарка, і яму ледзьве ўдалося супакоіць яе.

— Адно Богу альбо д'яблу вядома, што ўчула разумная, чуйная да любой змены ў чалавеку жывёліна.

— Дзякуй, Анатоль Віктаравіч,— падняўся следчы, падаючы Жыноўскаму падпісаны пропуск.— Будзем разлічваць на вашу шчырую дапамогу і надалей.

— Канешне, канешне,— ківаў Жыноўскі, нязграбна, бокам адступаючы да дзвярэй, і раптам як апамятаўся, выпрастаўся на ўвесь свой доўгі рост і, рэзка, адрывіста развітаўшыся, пайшоў.

— Гэта паездка ў Полацк...

— Мы ёю зараз жа зоймемся, Сцяпан Аляксандравіч,— стаяў навыцяжку Казловіч, хоць той, хто звярнуўся да яго толькі што, і галавы ад акна ў яго бок не павярнуў.— Я сам, асабіста, сёння ж выеду ў Полацк, каб разабрацца, апытаць усіх, каго можна. Ніхто ў гэтым жыцці бясследна не знікае.

Апошняе сказаў ужо сам сабе, адно каб схаваць за словамі ўздых. Уздых, прычыны якога высокі госць гэтага кабінета не зразумеў бы.

38

Які ўжо дзень ні пра Мінск, ні пра дом Стэфа не ўспаміная. Быццам і не было іх у яе жыцці ніколі. Верасень выдаўся цёплым, сонечным, і хоць з дня ў дзень і святла і цяпла патроху менела, заўважалася гэта не адразу і без асаблівае журботы. Яна ведала, і ведала напэўна, што адшукае Нялюбу яшчэ да зімы, да халадоў, значыць, і хвалявацца не было прычыны. І кірунак шляху, і дзень сустрэчы з Нялюбаю цвёрда вызначаны — трэба адно не спыняцца нідзе надоўга, ісці, з вёскі ў вёску, ад скрыжавання да скрыжавання, не губляючы нітачкі шляху, нітачкі клічу. Заплюшчвалася ж і чула, як гукала ёй дачка: «Мама! Ты помніш, мама, як мы з табою...»

Што яна павінна была помніць і ўспомніць, ніколі Стэфа не магла пачуць да канца, ды гэта не ўяўлялася асабліва важным: распытае пры сустрэчы! Галоўнае — не дужа затрымлівацца каля тых хворых, хто, адчуўшы яе ўнутраную, прыхаваную сілу, яе энергетыку праз асцярожны дотык рукі ці толькі праз дотык позірку, прасілі дапамагчы ім, ура-

таваць іх. Дапамагала. Ратавала, калі ўдавалася. Але ж усіх не ўратуеш, а ўсе, усе людзі вакол былі хворымі, цяжка хворымі: відушчыя, а не бачылі ні зла, ні дабра, ні хараства; з вушамі, не глухія, а не чулі ні птушыных песень, ні крыкаў аб дапамозе; добра ўкормленыя, прагныя да плоцкіх уцехаў, а ніводнага здаровага памкнення ў душы...

Спыніцца над каторым, загамоніць, а ён, і слова ў адказ не мовіўшы, адразу ўпіваецца ў яе паглядам і смокча, смокча яе душэўную сілу — да адурэння, да таго моманту, пакуль і рукі свае ўзяць не памкнуцца, учуўшы, ледзь толькі сіла расцяклася па целе, што баба перад ім, і не старая яшчэ.

Баба... Замест звычайнай чалавечай удзячнасці за паратунак — гнуснае, мярзотненькае жаданне аблапаць...

Не, не, у яе, у Стэфы, павінна застацца сіла і для дачкі: хто ж дзяўчынку ўратуе, як не яна, яе маці? Шлях няблізкі, спынялася адно нанач, пастукаўшыся ў тыя дзверы, якія, ведала, адчыняцца, каб знайшла яна за імі свой часовы прытулак, кавалак хлеба і прытулак нанач. Што яшчэ трэба? Абы не вельмі дапытваліся, хто ды адкуль ідзе, што змусіла ў даволі лёгкай для восені апратцы (вязаная спадніца ды куртачка на тонкай падшыўцы паверх світарка з каўняром пад горла) мераць адзін за адным прасёлкі. Тлумачыць цяжка. З кожным новым днём цяжэй.

Мінулае адсоўвалася, адступала — пройдзеныя Стэфаю вёрсты нагрувашчваліся паміж ёю і ім, усё надзейней адгароджваючы ад людской цікаўнасці. Хутка ўжо сама Стэфа з цяжкасцю будзе ўспамінаць што якое з пражытага ў тым далёкім жыцці.

Пакрыўдзіла дачку, моцна, відаць, пакрыўдзіла, што сышла яна з дому і не вярнулася. Не дзень, не два прайшлі, пакуль, трапіўшы недзе ў бяду, пачала гукаць да яе, паклікала... Што яшчэ? Нічога больш не ішло ў галаву.

Людзей, якія пускалі Стэфу пераначаваць, нічога больш асабліва не цікавіла: не дужа спачувалі, але не дужа і асуджалі. З уласнага вопыту ведалі: з моладдзю заўсёды няпроста, слова катораму поперак не скажы...

Канешне, за ўсіх бы Стэфа не сказала, а гаспадары тых хатаў, куды яе пускалі, жылі сціпла, небагата. Міска варанай капусты, колькі пахкіх бульбін ды конаўка малака для любога госця, нават для такога нечаканага, знайшліся б, на большыя ж прысмакі і самі яны ў будні дзень не разлічвалі. Абміналі пакуль што сур'ёзныя хваробы — і дзякаваць Богу, як кажуць, а змога навальваецца, плечы ўгінаючы, часам ужо і дыхаць не даючы, дык жа гады... Старасць — не радасць, не пацешыць.

Слова за слова, пра дзяцей, што аселі ў горадзе, раскажуць — ды не з крыўдаю, хоць усё радзей завітваюць тыя дамоў, у родную вёску, а з пэўным задавальненнем, няхай сабе і кранутым зрэдку прыхаванаю горыччу: што ж, маўляў, і дзецям іхнім, як і ім, скрозь, праз усё жыццё, пудовыя чыгуны з печы ў печ цягаць ды брыгадзіру ў ногі кланяцца за каня?

Слухала Стэфа няхітрыя расказы — і не чула. Ніводны ж на адзіноцтва, на пустату ў душы ніколі не пажаліўся, а пакутавалі ж, самі таго не падазраючы, ад гэтага!

На волі, пад усё яшчэ высокім чыстым небам дыхалася лягчэй. Вочы гаманілі з наўколлем, апранутым у ранішні туманок, з-за якога не адразу, не раптам выступалі золата і барва прысадаў ці пералескаў крыху воддаль ад іх, але калі выступалі, ярчэлі пад першымі сонечнымі промнямі, усё мянялася, станавілася то радасна-зіхоткім, то сумна-трывожным — ад яе, Стэфы, нейкім чынам залежала, якое адценне пераважала.

Сіла зямлі, глыбінная, таямнічая, адчувалася ва ўсім. З-пад першай, яшчэ не зжухлай пасцілкі апалага лісця выпіналіся, выгіналі край сцежкі магутныя карані старых вербаў ці галінастых таполяў, аблепленых да самага верху вялікімі сучкаватымі гнёздамі шумнага ва ўсе поры года варання. Свечкамі гарэлі пасаджаныя ўздоўж іх маладыя клёнікі, нецярплівыя ў сваім памкненні выбегчы з засені і, перабегшы па іржышчы даўно скошанае поле, далучыцца да асыпанага золатам бярэзніку, і марна вецер зрэдчас спрабаваў згасіць, ці хоць бы прыглушыць, гэтыя нецярплівыя ўсплёскі агню — адно абпальваў, афарбоўваў гэтым агнём свае даўгія валасы і на міг-другі рабіўся бачным, ярка-рыжым, амаль што вогненным. Утульна масціліся край поля скірды саломы, і адвольны, багаты ўзор іх на цёмным іржышчы, адсюль, здалёк, уяўляўся знятым, скапіраваным са старажытнае вышыванкі з магічнымі знакамі багіні пладароддзя.

Удалечыні, яшчэ даволі далекавата, так што выдавалі цацачнымі, бялелі хаткі, і, не чуючы ў сабе жадання ісці сярод белага дня праз вёску, дзе Нялюба не прыпынялася, Стэфа звярнула ўбок ад прасёлка, каб напраснкі, праз гушчар лазняку, выбрацца да рачулкі і крочыць далей берагам, сцежкаю ўздоўж яго. Рана або позна, а не міне вызначанага для яе шляху — з людзьмі ж лішні раз сутыкацца не хацелася.

Рачулка, ні шляху, ні назвы якой не ведала, сустрэла ціхім, пяшчотным лапатаннем вады, якая, здавалася, пера-

бірала ў струменях стракатыя промні, выбіраючы самыя пругкія, самыя звонкія, каб прастора магла саткаць з іх звонкую пявучую цішыню, і хоць да самай вады падысці, наблізіцца было немагчыма, бо бераг аказаўся топкім, балоцістым, свежасць, халадок, што ад яе ішоў, добра адчуваліся. Стэфа нават плячмі міжволі раз і другі перасмыкнула, каб адагнаць холад, які крануў спіну. Але хутка звыклася з новым адчуваннем, а мінуўшы зараснікі і выйшаў- шы на залітую сонцам паляну, якая пераходзіла, перацякала лілова- вым полымем яшчэ не адцвілага верасу ў лагчыну, спрэс застаўленую стагамі, стажкамі нарыхтаванага ўлетку сена, і зусім перастала мерзнуць, з задавальненнем удыхала чыстае, настоенае на зямных пахах паветра.

Ці то Бог, калісьці адштурхнуты, не прыняты Стэфаю, дарыў ёй гэтыя імгненні, гэты дзень, зачараваны журботным асеннім хараством, перш чым паказаць той край бездані, да якога яна немінуча набліжалася, ці то сама бездань, у любы момант гатовая паглынуць яе, цешылася, забаўлялася са слабою яе душою — душа рвалася ўдалеч, насустрач клічу, які гучаў усё выразней, усё балючэй.

Тое, што адкрылася вачам, ледзь толькі абмінула, абабегла яна куст вербалозу за колькі крокаў ад сцежкі, змусіла спыніцца і нейкі час сутаргава хапаць ротам паветра, каб пракаўтнуць раптам пераселы ў горле гарачы камяк болю і не захлынуцца: на цёмнай, скрываўленай траве ляжала, па ўсім відаць, груба, бязлітасна згвалтаванае, растузанае дзяўчо, і даўкі, болем выпхнуты з грудзей, з нутра яе стогн раз-пораз скаланаў схіленую над ёю цішыню.

— Мама! Ма-ма...— праз балючы стогн, праз слёзы даносілася зрэдчас.

— Нялюба! — здолела, адкінула нарэшце здранцвенне Стэфа, матлянуўшыся да яе.— Што яны з табою зрабілі?!

Хто — яны, каго склінала, усім сваім пражытым жыццём склінала ў гэту хвіліну Стэфа, укленчваючы перад кволым, стаптаным дзявочым цельцам, амаль што не прыкрытым разадранаю, скрываўленаю знізу сукенкаю, з якога ўсё яшчэ тачылася на траву, на зямлю цёмнымі кроплямі кроў, яна не думала. Усе! Усе, хто жылі толькі сваімі патрэбамі — патрэбамі аднаго дня, адной хвіліны, якая абарочвалася для некага, як для гэтай вось, нічым і ні перад кім не вінаватай маленькай істоты, гвалтам, глыбокім няшчасцем, а то і смерцю.

Тое, што перад ёю не дачка, не Нялюба, як напачатку здалося, палёгкі не прынесла — адно што дыханне вярнулася, пацяху выраўніваючыся і вяртаючы здольнасць калі

не спакойна, то цвяроза думаць: кім бы ні была гэта дзяўчынка, яна, Стэфа, ёй дапаможа, павінна дапамагчы! Трэба толькі засяродзіцца, сабраць усю сваю сілу, усю энергію ў кончыках пальцаў і думаць пра малую, думаць пра яе...

— Я... Я не хачу жыць...— цяпер ужо, заўважыўшы, што не адна, што побач — не адзін з тых, ад каго яна не змагла адбіцца, адбіваючыся што было сілы, наўзрыд заплакала малая, і столькі горычы было ў гэтым няўцешным плачы, што сэрца Стэфіна зайшлося ад болю, балюча сцялася.

— Цішэй, цішэй, маленькая,— зашаптала яна, схіляючыся над ёю, набліжаючы, зводзячы ў яе над галавою гарачыя, трапяткія ад прыхаванага ўнутранага жару далоні.— Усё будзе добра, усё зажыве... Пражыты жах адпусціць цябе, калі ты даверышся мне, маім рукам. Ну ж, ну! Супакойся, слухай удары свайго сэрца і думай пра тое, што будзеш жыць, будзеш усміхацца жыццю. Зараз, зараз я загавару, спыню кроў, і ранкі пачнуць зацягвацца, загойвацца — сачы за маімі рукамі, пакуль вочы не пачнуць заплюшчвацца, пакуль яны не заплюшчацца.

Фізічна, усёю істотаю адчувала, як па руках, праз кончыкі пальцаў выцякае, перацякае з яе ў дзяўчынку, у распасцёртае перад ёю, аціхлае пасля перанесенай пакуты цельца ўласная сіла, нутраны, толькі што глыбока прыхаваны жыццёвы агонь, і радавалася, і не шукала тлумачэння ні гэтай радасці, ні гэтай сіле: на месцы няшчаснай магла б быць і Нялюба...

— Ісус Хрыстос, Ісус Хрыстос...— не ўтрымалася ад міжвольнага папроку, і хоць словы, горкія, балючыя, прыйшлі ўжо нібыта і не па яе волі, прадоўжыла з яшчэ большаю горыччу: — Што б ён прапанаваў свету, калі б нарадзіўся жанчынаю? Якою мукаю адкупіўся б ад смерці, як ягоную муку церпіць, нясе праз усё жыццё сваё любая жанчына? Колькі разоў распінаюць, укрыжоўваюць яе на крыжы рук, колькі крыві выцякае ў яе з сярэдзіны, колькі здрадцаў, скарыстаўшы яе давер або яе слабасць і потым адпіхнуўшы, спіхнуўшы ў бездань пакуты, адкупляюцца ад страшнага граху, ад стаптанай, залітай крывёю і слязьмі чысціні яе адно крывымі ўхмылкамі? А яна жыве, яна ўсё-такі жыве і нараджае новае жыццё. на радасць ці на муку...

Горкія, нібыта не толькі сваім жыццём выпакутаваныя словы аціхалі, памiралі ў Стэфы на вуснах — здавалася, сіла пакідала, пакінула яе: вочы нагадвалі згаслыя вугольчыкі, у твары ні крывінкі, надломленыя нябачным цяжарам плечы ледзьве ўтрымліваюць звялыя, як лазінкі, рукі. Міг-

другі — і ўпадзе, зваліцца побач з дзяўчынкаю, якая, у сне ўсё яшчэ раз-пораз усхліпваючы, спала.

Не, не, дазволіць сабе цяпер кароткі адпачынак Стэфа не магла: калі ўжо сіла ўнушэння дзейнічала, трэба было здолець падняць, перанесці дзяўчынку з лазняку да першага стажка, каб, паклаўшы там, прыкрыць сухім сенам, сагрэць, перш чым вырашаць, што рабіць з ёю далей. Канец верасня — не ліпень, зямля ўжо добра настылая...

І на міг не задумалася, адкуль у яе зноў узялася сіла — проста, калі паднялася, не зводзячы пагляда з распасцёртага перад ёю цельца, адчула, што раптоўная змога адступала, адступіла амаль што бясследна, і ўсе дзеянні, усе рухі як бы самі сабою рабіліся ўпэўненымі, дакладнымі. Падабрала заўважаны непадалёку плашч малой, пашукала паглядам і, знайшоўшы, атрэсла ад пяску другі басаножак. Насунуўшы яго на нагу дзяўчынкі, акрыла плашчом растузанае, усё ў крывавых падцёках і драпінках цела яе, скаванае ў гэтыя хвіліны гіпнатычным сном, і, узяўшы яго на рукі, павольна, пад уздзеяннем адной-адзінай думкі, аднаго жадання дайсці, абавязкова дайсці са сваёю ношкаю да вызначанага, самага блізкага адсюль стога сена, пайшла праз лазняк.

Існі, як ні дзіўна, станавілася з кожным новым крокам усё лягчэй: лазняк расступаўся, лугавіна сама слалася пад ногі раўнюткім, мяккім дыванам, лёгкае цела, якое несла, пяшчотна прыхінаючы да сябе, што ні крок лягчэла і хутка стала зусім бязважкім — Стэфа раз і другі раз нават прыслухалася да дыхання дзяўчынкі.

«Усё будзе добра, усё зажыве... Застанецца рубец на душы, які не-не і пачне смылець у якую самотную хвіліну, але пярэжыты жах адпусціць цябе, з маёю дапамогаю адпусціць...— думала, узіраючыся ў зусім яшчэ дзіцячы тварык, і думала напружана, скіравана, каб перадаць сваю ўпэўненасць і дзяўчынцы.— Жах адпусціць, ты будзеш жыць, зноў усміхацца жыццю і, хоць неаднойчы ўспомніш пра пярэжытае сёння, успомніш з горыччу, а не з жахам, які, калі б даць яму ўкараніцца, аднойчы сажраў бы цябе. Жыццё жорсткае, асабліва для жанчыны, гэта праўда, родненькі, але нельга яго баяцца, нельга паказаць каму б там ні было, што баішся. Адбівайся, колькі можаш, раздзірай яму, паскуднаму, твар кіпцюрамі, плюй яму ў вочы — і жыві! Жыві — назло ўсёй жорсткасці падараванага табе пры нараджэнні свету: ён табе — і табе! — належыць, як любому, адно не адварочвайся ад яго. І цяпер, пасля перанесенай пакуты, пасля першага ўкрыжавання твайго — не адвароч-

вайся, чуеш? Я пакладу цябе на падсцілку з сена — ты праз нейкі час прачнешся і зірнеш на свет яснымі вачмі. Ты не будзеш баяцца жыць далей, чуеш?»

Унушэнне, па ўсім відаць, дасягнула душы спакутаванай дзяўчынкі, бо калі праз нейкі час яна лыпнула вачмі і, канчаткова прачнуўшыся, убачыла, што ляжыць на сухім, залацістым ад яркага сонца сене побач з незнаёмаю жанчынаю са стомленым і непрыхавана добрым тварам, ледзь прыкметная ўсмешка кранула яе паскусваныя ад болю і гнеўнага бяссілля вусны.

— Ну, вось ты і скажаш мне цяпер, як цябе завуць,— звярнулася да яе Стэфа.

— Стэфа.

— Стэ-фа?! — уздрыгнула яна, нечага раптам спалохаўшыся, і тут жа ўзяла сябе ў рукі, змусіла супакоіцца і прадоўжыць гаворку.— Гэта і маё імя, родненькі, так што мы з табою, як аказалася, амаль што сваякі. Стэфа і мама Стэфа... Так мяне заве мая дачка, можаш і ты так да мяне звяртацца, калі хочаш.

— Я... Мяне...— запнулася, успомніўшы, дзе і чаму знаходзілася, дзяўчынка і падалася да плашча, якім была прыкрыта, каб зняць, ссунуць яго, але рука раптам спынілася, застыла ў паветры і ўжо ў наступны момант бездапаможна ўпала на сена.

— Цябе, не папытаўшы тваёй згоды, раней часу, не пашкадаваўшы, не адчуўшы і кроплі чалавечае літасці да цябе, такой юнай і такой чыстай, згвалцілі, зрабілі жанчынаю якіясь нягоднікі,— кранулася гэтай скамянелай рукі Стэфа, аддаючы ёй сваё цяпло.— І ўсё ж ты, нягледзячы на перажыты жах, нягледзячы на горкую крыўду, павінна засяродзіцца на далейшым: жыццё працягваецца, чуеш? Калі ёсць надзея знайсці гвалтаўнікоў і ты іх ведаеш...

— Не, не! — заплюшчылася дзяўчынка, хаваючы набеглыя слёзы, але слёзы ўсё роўна каціліся па шчоках, размываючы, змываючы з твару водбліскі неба.— Яны не нашы... Не вясковыя... Я нічога, нічога, апроч болю, не помню!

— І не трэба,— выцірала ёй слёзы Стэфа,— і не думай больш пра іх: гэтыя мярзотнікі, рана ці позна, сваё атрымаюць, а ты... Ты, я знаю, прыходзіла сюды, каб спаткацца з хараством. Прыходзіла часта. Заўсёды адна. Каб ніхто не перашкодзіў. І ніхто не перашкаджаў, пакуль не сустрэліся, не перастрэлі цябе, безабаронную, на тваёй сцежцы заезджыя нягоднікі — хто-небудзь з так званых «памагатых падшэфнаму калгасу», праўда ж? І яны, хутчэй за ўсё, былі

п'янымі, хоць і белы дзень на дварэ, бо погань гэтая распаўзаецца цяпер паўсюдна...

— Яны не нашы, не вясковыя!

— Канешне, канешне. У вёску ты павінна вярнуцца без слёз на вачах, без жаху ў сэрцы. Толькі так! Праводжу, калі хочаш, цябе ў твой двор, да маткі.

— Я сама! — ускінулася яна і, тут жа згасшы, абвяла, асунулася на край стога.— Я сама павінна. Трошкі паляжу... трошкі адляжуся — і пайду.

«Горкае дзіця яшчэ...» — мільганула ў Стэфы, і зноў яна ўзіралася ў заплаканы твар дзяўчынкі, скіроўваючы ўсю сілу душы на тое, каб пералілася яе мужнасць, яе, Стэфіна, мужнае жаданне супрацьстаяць таму, што чакала, што ўжо чакала малую наперадзе, і зноў хвіліны спатыкаліся адна аб адну, запавольваючы і запавольваючы хаду.

Здавалася, час вось-вось спыніцца і яны — абедзве — апынуцца па той бок яго, дзе не будзе ні гэтае лагчыны, ні сцежкі, на якой яны сышліся, і разыдуцца кожная ў свой бок, ні перажытага жаху і цёмнага крывавага следу яго на прыкамечанай траве...

Але толькі здавалася, бо дзяўчынка ўжо ўставала з зямлі, спрабуючы хоць трохі агледзець сябе, агладзіць, захінуць на грудзях разадраную сваю сукенку. Рухі, напэўна, прычынялі ёй боль, бо твар балюча моршчыўся, але ў вачах паблісквалі ўжо халодныя, упартыя агеньчыкі, якія дапамагалі, дапамаглі нават у самы першы момант, устаяць на хісткіх нагах, што ледзьве не надломваліся ад слабасці,— устаяць, і потым зрабіць крок, другі, каб пераканацца, што можа ісці, што адна, самастойна, дойдзе дадому, да двору.

Не раз, не два агледзела яна сябе. Агледзеўшы, тузанула, адарвала край падола, які анучаю матляўся край калена, з цяжкасцю, аграмадным намаганнем волі сагнулася і выцерла адарваным шматком сям-там засохлую на скуры кроў. Выпрасталася ўжо з плашчом у руцэ, агледзела і яго з усіх бакоў і, толькі пераканаўшыся, што чысты і нідзе не падраны, пачала надзяваць яго.

Стэфа, якая назірала за ёю з самага пачатку са страхам і захапленнем, памкнулася была дапамагчы і як наткнулася на раптам чужы, балючы пагляд дзяўчынкі, для якой у гэтыя хвіліны ўжо нікога не існавала. Яна, яе боль — і больш нікога і нічога. Пакуль не пачне цішэць пакута, пакуль не загоіцца рана...

Калі дзяўчынка шчытна, крысо на крысо, захінулася ў свой плашчык і, тоненькая, нягнуткая на непаслухмяных, нібыта драўляных нагах, якія адно што не падгіналіся пад

цяжарам яе гора, яе болю, пайшла цераз лугавіну ў бок вёскі, сэрца ў Стэфы зашчымела — боль, даўні, забыты, вяртаўся, вяртаў адчуванне пакінутасці ўсімі і жалю, вострага жалю да сябе.

«Ну, вось ты і скажаш мне цяпер, як цябе завуць».

«Стэфа».

«Стэ-фа?!» — узарваў думкі вернуты згадкаю вокліч, і, міжволі, няўцямна зрабіўшы колькі крокаў услед дзяўчынцы, яна спынілася, знерухомела, уражаная страшным паразрэннем: лёс — паўтараўся? Лёс выштурхваў з круга яшчэ адну нябогу, даўшы ёй ужо аднойчы скарыстанае ім імя і запляміўшы нянавісцю юнае сэрца? Пэўна ж, без д'ябла і гэты раз не абышлося...

«Трэба пабегчы за малою, трэба сказаць...— тузанулася і засталася на месцы Стэфа, знясіленая ўжо адно нескарыстаным памкненнем.— Што сказаць? Што я ёй скажу? Што яшчэ не раз будзе ўкрыжавана на крыжы рук сваіх? Што яшчэ не раз будзе сцякаць крывёю і нутро яе і душа ад крыўды? Што колькі б і хто б ні адкупляўся ад яе чысціні, ад яе шчырасці крывою ўхмылкаю ці грубаю лаянкаю, яна будзе жыць, будзе нараджаць новае жыццё — на радасць ці на муку, не задумваючыся, Богам гэта ёй запаведана ці д'яблам? Яна ж — гэта я, я ў далёкім юнацтве...»

Усё плыло, расплывалася перад вачмі: поле бліжэй да вёскі, лугавіна, тут, з бліжэйшага яе краю, застаўленая стагамі сена, бярэзнік за ёю, вёска крыху далей, у аддаленні, дзяўчынка, якая ішла да вёскі парыжэлаю травою... Не, дзяўчынку Стэфа бачыла. Нягледзячы на слёзы, што засцілалі вочы, добра бачыла, мо таму, што калючаю рыжаю травою, без сцежкі, тоненькая, нягнуткая, на непаслухмяных, нібыта драўляных нагах, якія адно што не падгіналіся, не надломваліся пад цяжарам нечаканага гора, невыноснага болю, ішла яна сама. Яна, Стэфа, жорстка, несправядліва пакараная лёсам.

## 39

Павар'яцелі ўсе! Кідаюцца — хто подбегам, хто падскокам—ад адной пазычанай у мінулага ідэі да другой, ад аднаго аслепленага прагаю ўлады лідэра да другога, і кожны раз з захапленнем, якім захлынаюцца нават словы, кожны раз з новым, яшчэ большым імпэтам. Здавалася, было разбурана, ушчэнт патрушчана нагамі натоўпаў, абураных усім, што адбывалася ў не такой і даўняй гісторыі і адкрылася толькі самым апошнім часам, пад улюлюканне

газет і жалобнае маўчанне дзесяткі разоў паказаных кадраў старой, архіўнай хронікі, ажно не. Газеты пачалі сіпнуць ад уласнага крыку і, застаючыся без сродкаў і жаб- руючы дзе толькі і ў каго толькі можна, усё часцей выно- сілі на свае яшчэ нядаўна напоўненыя праведным гневам старонкі сёе-тое з памыйкі грамадскага жыцця. Кадры хронікі прымільгаліся і пабляклі. І вось ужо, перш сарамліва, а потым усё смялей, усё нахабней загучала адусюль: абагачайся! Любымі сродкамі — за кошт чаго заўгодна, пакуль не абышоў хто-небудзь іншы — грабі пад сябе што толькі можна! І — пайшло, паехала.

Уладзіслаў сплюнуў, каб не захлынуцца горыччу: не толькі думкі гарчылі... Лягчэй не стала, думкі па-ранейшаму, каторы ўжо дзень, не паварочвалі ў старое звыклае рэчышча, калі хвалявала толькі праца, толькі непакорная рукам гліна: яго праца скульптара, як высвятлялася, як пацвярджаў кожны новы дзень, мела попыт толькі ў служак розных пахавальных бюро, бо калі і ўзнікала сёння патрэба ў помніках, то адно ў надмагільных... Сумна. Сумна і горка.

Можна, канешне, працаваць для сябе. Для душы, як кажуць. Але дзе браць грошы на матэрыял, які падаражаў ужо ў сотні разоў? Чым, з якіх сродкаў аплачваць майстэрню, калі плата за яе арэнду расце не тое што з месяца ў месяц, а з дня на дзень? Мітусіцца ў пошуку багаценькага заказчыка на будучы, загадзя ўзведзены надмагільны склеп? Пры выпадку танцаваць на пузе перад высокапастаўленым чыноўнікам, як робяць некаторыя?

Горыч падступала да горла, душыла, і Уладзіслаў, перастаўшы кідацца з кута ў кут, застыў пасярод майстэрні, перад станком з распачатаю і даўно закінутаю работаю — каўтнуў набеглую горкую сліну і чакаў. Чаго?

Гучна, на ўвесь пакой вылаяўся, абазваўшы сябе самым што ні на ёсць бязмозглым ёлупнем, і пайшоў да шкапчыка, каб чаго-небудзь моцнага, калі знойдзецца пасля стольках маркотных дзён што-небудзь, не дапітае ўчора ці пазаўчора, наліць. Нічога ні ў адной пляшцы не знайшоў. Злосна бразнуў дзверкамі, злосна, быццам на чыйсьці крыўдны смех ззаду, азірнуўся на спрэс застаўленую гіпсавымі бюстамі розных заказных і ў большасці сваёй часовых, даўно звергнутых багоў і бажкоў: на што, запытацца, растрачаны лепшыя гады жыцця?

Як падштурхнуты кім, не справіўшыся з наплывам няўцямнага, злоснага пачуцця, якое набухала і набухла ў ім, балюча раздзіраючы грудзі, матлянуўся назад, схапіў з табурэткі цяжкі молат, замахнуўся... Першы ж удар разнёс на

друзкі вялікі гіпсавы партрэт былога военачальніка, за ім рассыпаўся другі, трэці... Грукат стаяў страшэнны, у вушах у яго пазакладала, а ён махаў і махаў молатам налева і направа, крышачы ўсё, што трапляла пад руку, што тварыў некалі гэтымі ж рукамі.

— Уладзіслаў Пятровіч! Што гэта вы надумалі? — пачуў голас старой вахцёркі ў адну з паўз, патрэбных, каб крыху атрэсціся ад сколкаў і глынуць паветра, і толькі тады апамятаўся. Паволі, цяжка дыхаючы, павярнуўся да дзвярэй.

— Вам што-небудзь раптам спатрэбілася, Філіпаўна?

— Не... Мне здалося...— утрупянела тая, зірнуўшы на яго шэры, заліты потам твар.— Раптам якое няшчасце...

— Няшчасце? — кінуў ён молат і стаў уціраццa падвязаным зранку і на адно гэта і патрэбным сёння хвартухом.— Няшчасце ў тым, Філіпаўна, што дурнямі мы, чалавекі, нараджаемся, дурнямі і паміраем, калі прыходзіць час.

— Мо дапамагчы чым? — пачала супакойвацца старая, папікаючы сябе ў душы за непатрэбную паніку: не першы ж год пры гэтых майстэрнях, неаднойчы то ў аднаго, то ў другога мастака назірала за гэты час штосьці падобнае.— Мо чайку моцнага заварыць?

— Дзякуй, не адмоўлюся,— адвярнуўся зніякавелы пад яе паглядам Уладзіслаў.— Паўдня цяпер прыбіраць давядзецца.

Пазіраў ён на ўчынены пагром без шкадавання: каму гэты заасад сёння, не кажучы пра будучыя часы, прыдаўся б? Заказное... Зрабіў, атрымаў пачак зашмальцаваных купюр ад заказчыка — і ўсё на тым. Пражытачны мінімум забяспечаны, пра душу, пакуль не смыліць, не тузае, можна не думаць...

І не думаў жа, не думаў дагэтуль! Заводзіўся калі-нікалі пражорлівы чарвячок сумнення, але і тады, нават калі ён пачынаў выгрызаць сабе зручнейшае месцейка, варта было адно сустрэцца з кім з сябрукоў за пляшкаю — і ўсе сумненні знікалі. Ніводзін жа са скульптараў ні ў адзін з часоў не працаваў без заказу: гэта ж не графік, не жывапісец, у якіх усяго матэрыялу часта — адзін-адзіны аркуш паперы, загрунтаваны кардон ды аловак ці агрызак вугольчыка. Па крайняй меры, напачатку, пакуль не дайшло да фарбаў. Скульптуру ж з паветра ці з паперы не зробіш — патрэбен вечны матэрыял, які сам, без заказчыка аплаціць ніколі не здолееш. А хто плаціць, той...

Ат! — адмахнуўся ад згорклых думак, сярод якіх таптаўся амаль увесь апошні месяц, і пачаў прыбіраць, зграбаць

у кучу, на разасланую папярэдне анучу, асколкі гіпсу. Награбаў, як падняць, і выносіў. Зноў награбаў — і выносіў, не-не і сумна, без усмешкі прыгадваючы старую прымаўку: з-за дурной галавы і нагам работа.

«Жыццё ж яшчэ не завершана,— паспрабаваў падбадзёрыць сябе, разглядваючы дужыя, мускулістыя, пакрытыя пылам і мутнымі ад гіпсавага пылу кропелькамі поту рукі.— Сёе-тое яшчэ змагу...» Але тут жа міжволі сам сабе запярэчыў: «Каб жа ведаць, што зможаш! Што ёсць яшчэ час! Хто калі мог сказаць што-небудзь пэўнае нават толькі пра заўтрашні дзень? Мажліва, ім і завершыцца шлях, пройдзены, як высвятляецца, усляпую?»

Пыл (ці, можа, непрамоўленыя словы?) перасядаў у горле, раз-пораз змушаючы Уладзіслава адкашлівацца, стомаю, пакуль яшчэ прыемнаю, наліваліся рукі, плечы, а ён, лясёнку за лясёнкаю, усё выносіў з майстэрні пабітыя гіпсы. У пакоі патроху прастарнела, і, калі на падлозе не засталося больш смецця, а ўсе астатнія работы, ацалелыя пасля пагрому, былі парассоўваны па самых дальніх кутках паліц і рашуча занавешаны цяжкою палатнянаю штораю, нават дыхаць стала лягчэй. Нічога не муляла вачэй, нічога не выклікала непатрэбных асацыяцый — бяры кавалак гліны і пачынай усё спачатку!

Уладзіслаў кругамі — круг за кругам — хадзіў па майстэрні, не знаходзячы месца, паціраючы, тручы адна аб адну чыста вымытыя рукі і не заўважаючы гэтага. Заўважыў — рэзка, быццам спатыкнуўся раптам аб уласны позірк, спыніўся і доўга, неяк адчужана ад усяго, што трапляла на вочы, азіраўся. Калі позірк застыў на аграмаднай, з-пад самай столі, палатнянай шторы, пакамечанай і нават крыху замызганай па краях, якою сам, уласнаручна, занавесіў усе старыя работы, адчуў, што гняце яго, перашкаджае яму менавіта шэрая, нічым не перабітая яе плоскасць.

Думаў, што ўсе пражытыя гады разам з творамі на паліцы пазапіхваў і нарэшце вызваліўся, а таго не ўлічыў, што даўно звыкся, зросся з імі і, вось так адразу, разам, няхай нават і проста палатнянай пыльнаю штораю адсякаючы іх ад сябе, парушаў, парушыў штосьці і ў сваёй душы.

Рабіць і надалей выгляд, што нічога асаблівага не здарылася? Пераканаць сябе, што і сапраўды нічога асаблівага, нічога, вартага жалю ці, тым больш, прыкрых папрокаў, не здарылася? Дык жа не пераканае. Добрых дзве трэці жыцця ззаду. Пройдзены. Пражыты. Застаўлены даўно, калі не адразу, нікому не патрэбнымі статуямі і статуэткамі. І нават калі дапусціць, што ён, Уладзіслаў, перабольшвае, у адпа-

веднасці з момантам і настроем, і свае страты, і свае хібы, ганарыцца не было чым.

Колькі работ вылучыў бы з толькі што занавешанае грузы іх сам? Тры? Дзве? Ці толькі адну? Тую, на якую на працягу стольких гадоў баяўся азірнуцца?

«Мечаная...» Летуценная... Каханая... Ведаў, чаго баяўся! Разварушыў неяк сябра-паэт яго ўспаміны — і вось вынік: ледзь не палова гіпсаў патрушчана і выкінута на сметнік, астатнім, усім уперамешку, застаўлены, пазапіхваны ўсе паліцы, ажно да самай столі, ад якіх ён тут жа паспяшаўся адгарадзіцца, распачатая работа так і засыхае на станку незавершанаю, а ён, злосны, спустошаны гэтаю злосцю, кідаецца з кута ў кут апусцелай раптам майстэрні, як загнаны ў пастку, у клетку звер.

Паэт закахаўся ў юную летуценніцу, якая аказалася Стэфінаю дачкою. Ну, і што? Ён, Уладзіслаў, пры чым? Яму — што да яе ранняй, загадкавай смерці? Ні слыхам жа, ні позіркам...

Стэфа, якую не бачыў з самага таго дня, калі яны рассталіся, раптоўна, невядома з якой прычыны сышла з дому... Ну, а яму, Уладзіславу, якая да гэтага справа? Некалі сышла ад яго, цяпер сышла з дому — яе, як кажуць, права! Чым ён, Уладзіслаў, мог дапамагчы? Навошта яму наогул пра ўсё гэта ведаць?

«Ах, Язэп, Язэп! — папракнуў у думках сябра.— Прыйшоў, змусіў дзівіцца на старую, яшчэ студэнцкую работу, развярэдзіў былое. А што мне з ім — і з сабою! — цяпер рабіць? І сам жа быў незадаволены тым, што ляпіў, на што ўсе гэтыя гады з лёгкасцю пагаджаўся з-за заробку, ці з-за ілжывай прэстыжнасці заказу, ці яшчэ чорт ведае з-за чаго, але каб так раптам перакруціла ўсяго...»

Штора, у якую ўтаропіўся, прыгнятала, гняла ўсёю сваёю шэраю плоскасцю, і вытрымліваць гэты гнёт далей Уладзіслаў не мог. Рвануўся, ухапіў свабодны, чысцейшы за астатнія, станок і, перанёсшы, паставіў упрытык да абвіслага палатна. Вярнуўся назад, на сярэдзіну пакоя, зірнуў, ці не трэба перасунуць, пераставіць падстаўку, і, вырашыўшы, што не трэба, пайшоў да крэсла. Узяў са спінкі чыстую драпіроўку, якая калі-нікалі, падчас візіту нечаканага госця, замяняла яму і абрус і сурвэтку, і, матлянуўшыся праз пакой, прыкрыў ёю круглую, хісткую паверхню высокай, на ўзроўні рук, падстаўкі.

Заставалася адшукаць і перанесці сюды статуэтку «Мечанай», і Уладзіслаў, які злёгку хітраваў, настройваючыся на пошук, бо добра памятаў, дзе, з якога краю паліцы ставіў

яе зусім нядаўна, шукаў нядоўга. Калі ж прынёс і ўладкаваў на падрыхтаванае месца, хвіліну-другую пакручваў статуэтку, так і гэтак, не так шукаючы лепшы ракурс, як цешачыся кожным дотыкам да халоднай шурпатай паверхні.

Адступіўшы на колькі крокаў, неяк адразу зніякавеў, згас.

— Філіял Эрмітажу, халера ясная... Мастак прадстаўлены адною адзінаю работаю.

Тая, ранейшая, горыч афарбавала словы, і выходзіла: дзень змарнаваны і ўсе намаганні выблытацца з сумненняў і зразумець, убачыць, што зроблены нейкі зрух, хоць бы і самы нязначны, да іншай, новай мэты, аказаліся марнымі. У майстэрні папрастарнела, пасвятлела, а ў душы, у развярэджанай яго душы?

Не, усё ён сёння рабіў і зрабіў правільна. Мо толькі позна спахапіўся, позна задумаўся над сваім жыццём, сэнс якога бачыў і бачыць у працы. У працы... Вось толькі ў якой? Дзеля чаго? Дзеля каго?

«Жыццё ж яшчэ не завершана,— пачаў зноў пераконваць сябе.— Яшчэ штосьці магу, магу...»

«Каб жа ведаць, што зможаш, што ёсць, застаецца на гэта час! — тут жа азвалася сумненне.— Не такія, як ты, магуты, ламаліся пад непасільным гнётам думак. А калі гэта цёмныя, беспрасветныя думкі, то...»

«Чаму беспрасветныя? — абурыўся Уладзіслаў.— На зямлі ніколі не перавядуцца летуценніцы, і закаханыя ў іх паэты, і верныя іх паэзіі мастакі: адзін хтосьці адступіцца, здрадзіўшы прадвызначанаму, здрадзіўшы свайму дару, другі ўстане на яго месца».

«Ты сваё месца саступаеш камусьці іншаму?»

«Пакуль што не...»

«Пакуль — што?»

«Пакуль не апусцяцца рукі, буду біцца. Буду, калі трэба, прабівацца назад, праз усю тоўшчу пражытых гадоў — да сябе маладога, да сябе сапраўднага, упэўненага, што за плячмі — Бог».

«Ого, куды хапіў! Быццам не ты маліўся ўвесь гэты час аднаму і таму ж Богу — поспеху...»

«Мне ж не сто гадоў!»

«Гады ні раней, ні цяпер не маюць значэння, як ты не разумееш? Некалі ў маладосці ты не знайшоў і кропелькі літасці да той, каго кахаў, цяпер, праз столькі гадоў, не знаходзіш і кропелькі мужнасці, каб прызнаць, што і на табе — віна за яе падзенне, за яе заўчасную смерць».

«Смерць?!»

«Я гэтага не сказаў...»

— Ты сказаў! Сказаў! — узарваўся Уладзіслаў, саскокваючы з краю стала, на якім сядзеў, так, быццам размаўляў толькі што не сам з сабою, а з кім іншым, незгаворлівым і насмешлівым.— Цьфу ты, чорт. І не піў — і здурнеў...

Знарачыта гучна пазяхаючы, пацягнуўся, развязаў і кінуў на крэсла хвартух: новае жыццё, як водзіцца, пачнецца з панядзелка, а сёння... Перш чым пакінуць майстэрню, звыкла агледзеў яе, старанна абмінаючы позіркам выстаўленую, пастаўленую навідавоку бронзавую статую сваёй былой каханай, і пайшоў да дзвярэй. Ішоў і спіною, нутром адчуваў, што ўслед яму — з любоўю і мяккім папрокам — пазірае Стэфа, жывая ці мёртвая...

Не хацеў ад дзвярэй азірацца — і азірнуўся: Стэфа, такая, якою ён яе памятаў, забыўшы пра ўсё на свеце, імкнулася ўзляцець, падняцца ўслед за ўзмахам сваіх лёгкіх, трапяткіх рук, і столькі радасці, светлай раданай сілы было ў гэтым памкненні, што бронза ажыла, ажывала на вачах.

Уражаны, глыбока ўзрушаны Уладзіслаў міжволі заплюшчыўся, але і пасля гэтага, і нават пасля таго, як ціха зачыніў за сабою дзверы, бачыў Стэфу, трымценне яе рук, імклівасць іх узмаху за міг, здаецца, усяго за міг да ўзлёту.

## 40

Птушкі адляталі на поўдзень. Чароды іх ляцелі і ляцелі насустрач, і Стэфа заўважала іх усё часцей. Мо таму, што ўсё часцей міжволі падымала пагляд на неба, на хмурынкі, якіх з дня на дзень наплывала больш і больш: бабіна лета заканчвалася, цяпло адступала, і ад зямлі і ад неба цягнула холадам. Асабліва па начах. Уначы. Калі нічыя хата, нічый надвор не прываблівалі Стэфу і, паблукаўшы вакол вёскі, набраўшы ў якім садку запазуху духмяных яблыкаў, яна ўладкоўвалася на начлег дзе-небудзь на ўскрайку, далей ад брахлівых сабак,— у пуні, забітай пад самую страху сухім сенам, а то і проста ў стозе сена, і, узіраючыся ў дрогкі змрок, грызла іх адзін за адным датуль, пакуль не засынала.

Пра што думала? Ды ні пра што. Думкі звычайна тузаюць, непакояць чалавека, калі ён па сваёй ці не па сваёй волі, а ў выніку абставін, выпадае з часу, з натоўпу, з якім звыкся, з асяродку ці краявіду, у якія гадамі балюча ўжываўся, з выбудаванага са звычак і пераможаных ці хоць бы ўпарадкаваных жаданняў спакою. Стэфа ж, аднойчы адкінуўшы ўсе былыя, ранейшыя повязі з жыццём, жыла тым, што яе акружала ў кожную канкрэтную хвіліну,— ці-

шынёю, бязважкім лётам аблачынак, пахам сена, смачным пахрумстваннем яблыкаў, хвалістымі мяккімі пералівамі змроку, якія падганялі, падкочвалі да яе сон. У сон жа, нярэдка пад самую раніцу, прыходзіла, здаралася, Нялюба...

Гэты раз яблыкаў Стэфа набрала шмат — можна б хрумсцець імі да самай раніцы, калі б не стома, якая, не дужа цырымонячыся, навалілася на яе ўсім сваім цяжарам у самы нечаканы момант — раптоўна і знянацку: выпаў з рукі недагрызены яблык, пацяжэла, упала на плячо галава, уздрыгнулі, затрымцелі, спрабуючы разляпіцца, расплюшчыцца, набрынялыя змрокам павекі... Стэфа яшчэ працівілася, імкнучыся зноў убачыць цёмнае зорнае неба, якім укрывалася, але стома не адпускала, а сон ужо збіраў рассыпаныя зоркі, зграбаў іх ёй запазуху: чым не яблыкі? Чым не пачастунак?

Птушкі адляталі... Чуючы набліжэнне халадоў, дзень і ноч ляцелі з поўначы на поўдзень, услед за цяплом, і ад шолаху мноства крылаў глухла наўкольная цішыня. Глухла і не чула ўжо ні гэтага шолаху, ні пранізлівых развітальных крыкаў, падхопленых і сыпанутых на зямлю ветрам, ні стуку апалых зорак, спелымі яблыкамі раскочаных рэхам па высокай прыжухлай траве, ні цяжкога, напружанага дыхання зямлі, у якую ўжо ўпала новае зерне. Новае, кінутае дбайным гаспадаром зерне, што вось-вось пачне прарастаць, што ўжо прарастае з кожнае зямное поры, з кожнае расселіны, пратыкаючы, прабіваючы ўсе перашкоды...

Вось штосьці ціхенька хруснула — і згук, заціхаючы, пакаціўся, папоўз далей, каб праз нейкі час вярнуцца, паўтарыцца выразней, грамчэй і збудзіць глухое, ледзьве пазнавальнае рэха. Вось ужо, проста над ёю, штосьці ціхенька пахруствала, лопалася, і не адразу Стэфа ўцяміла, што гэта зярняты, нягледзячы на блізкія халады, нечакана, дружна пайшлі ў рост, і трэба б адсунуцца, не перашкаджаць ім... Яна нават паспрабавала прыўзняцца — і не зварухнулася, не магла варухнуць ні рукою, ні нагою. Спалохаўшыся (не прыстыла ж яна да зямлі?), тузанулася мацней, з усяе моцы памкнулася хоць бы адарвацца ад цяжкой зямной глыбы, але і другая спроба аказалася няўдалаю.

«Якая халера?» — абурылася ў думках, але і абурэнне не выклікала ні прыліву новае сілы, ні новага жадання супраціўляцца, і Стэфа скарылася: зямля, зямная глыба трымала яе, прыціскаючы, уціскаючы ў сябе ўсё глыбей і глыбей, і што тут зробіш! Яна, Стэфа, слабейшая, яна знясілела пас-

ля першых жа намаганняў вызваліцца і цяпер лепш самой, не збаяўшыся цёмнай зямной утробы, даць сябе ўцягнуць углыб, у цемру, у цішыню.

Цішыня, праўда, калі ўслухацца, лопалася па ўсёй паверхні, і хутка яна здагадалася, пачала здагадвацца: лопалася, прарастаючы, кінутае ў неастылую пасля лета глебу зерне. Калі ж лёгкае пахрустванне перайшло ў ціхі, ледзь улоўны шолах, стала ясна, што парасткі пайшлі ў рост, таропка, міліметр за міліметрам, адольваючы свой падземны шлях...

Падземны? Але дзе ж тады яна, Стэфа? Чула ж, адчувала, як гэтыя парасткі, шалёным мноствам вострых, непераможных шабелек упіваюцца ў яе, растуць — праз яе, быццам даўно злілася, зраслася Стэфа з зямлёю, стала ёю і аддасць сваю сілу, сваё жыццё дзеля новай, іншае яго праявы — жытнёвым каласам, ці простаму пырніку, ці кволаму дрэўцу пасярод гэтага пырніку.

Быццам... Ды так яно і было, няйначай. Нездарма ж вярнуўся боль, нездарма ж скручвала, выкручвала яе ад болю, як пры родавых схватках. Хутчэй! Хутчэй бы ўжо!

«Расслабся,— шаптаў, падказваў ёй унутраны голас,— не напружвайся. Прапусці новае жыццё, ні аб чым не шкадуючы, нават аб самой сваёй смерці, бо не смерць гэта, не смерць...»

«Не смерць, а што? — парэчыла Стэфа больш з-за ўпартасці, чым з-за неразумення.— Мяне ж гукае Нялюба, нам трэба сустрэцца!»

«І сустрэнецеся! З зямлі праб'ецца трава, у траве закалышацца, набіраючыся моцы, кволы дубчык, з якога вырасце высокае і магутнае дрэва — і будуць паіць яго сінія дажджы, будуць лашчыць яго цёплыя вятры, з кожнаю новаю лістотаю будуць вырастаць на яго голлі новыя птушыныя гнёзды...»

«Пры чым тут дрэва? Пры чым тут вятры і гнёзды?»

«Ты ж прагнеш сустрэчы з небам».

«З небам? Хто табе такое сказаў? Я пытала пра дачку. Пра Нялюбу, чуеш?»

«Чуеш... чуеш... чуеш...» — адпаўзаў, аціхаў недзе далей падхоплены рэхам шолах.

Хто, хто б яе цяпер пачуў?! Боль, крамсаючы цела ўдоўж і поперак, выцягваў, здавалася, з яго жылы — міліметр за міліметрам, нерв за нервам. Хоць якія нервы, якія жылы, калі не існавала больш цела, самога цела яе? Замест яго, на тым месцы, дзе прылягла Стэфа адпачыць, падзівіцца на цёмнае зорнае неба, бурна, дружна ішла ў рост трава —

разрасталіся, счапляліся, перапляталіся паміж сабою дрогкія, прагныя ў сваёй ненасытнасці карэньчыкі і, сцябліна за сцяблінаю, шчытна — адна да адной, прабіваліся вышэй, на зямную паверхню, да святла і паветра. Хвіліна, ноч, стагоддзе міне — гэтага ўжо не прасачыць! — і зірне яна, Стэфа, на свет сотнямі, тысячамі кволых, тонкіх травінак, і чым сустрэне яе свет — лугавым раздоллем, чыімсьці жорсткім ступаком, плугам — прадбачыць цяжка. Немагчыма. Адно што надзівіцца небам, надыхаецца чыстым, халодным, як заўсёды па восені, паветрам і супакоіцца.

Боль адступіў — і думалася пра ўсё гэта спакойна. Так — гэтак, якая розніца! Хутка прыйдзе Нялюба...

Час спакойна, абыякава адматваўся назад, і ў той самы момант, калі травінкі, мноства тонкіх зялёных травінак, што працялі яе наскрозь, прараслі з яе, пырснулі нарэшце з-пад зямлі, сталі атрасацца ад нябачных пясчынак, Стэфа ясна ўбачыла дзяўчынку... Ды не дзяўчынку, а сябе! — сябе, зусім маладзенькую, у лёгкай паркалёвай сукенцы, што ледзь прыкрывала калені і, калі падлятаў, надзімаў яе гарэзлівы вецер, весела ўзлятала вышэй, да самых рук, і даводзілася лавіць яе, зноў і зноў агладжваць уніз.

— Ты... Я... Мы з табою адно цэлае, ці не так?

Дзяўчынка не адказала, задраўшы галаву, засмяялася і пабегла да Стэфы — яна, Стэфа, юная і шчаслівая, шырока раскідваючы рукі, бегла да яе сённяшняй, і гэта нагадвала цуд, было сапраўдным, ніколі не бачаным цудам!

«Я, напэўна, сплю»,— пачала яна сябе супакойваць і ўсё ж, спакваля, міжволі, падалася насустрач дзяўчынцы, з цяжкасцю выпростваючы непаслухмяныя, амаль непад'ёмныя рукі.

Сцебанула па руках надзьмутая ветрам сукенка, сыпануў у твар калючы дзявочы смех, кальнула штосьці ў сэрцы — і вось ужо, не проста абмінуўшы, а прабегшы напраскі скрозь яе, Стэфу, нябачную, бясцелую, знікала дзяўчынка ў сінім мроіве дня. А насупраць, твар у твар да яе, ужо стаяла іншая дзяўчынка — тая ж самая і іншая, бо не іскрыўся яе смех, бо згас крануты зусім дарослаю трывогаю твар і так пакруглеў стан, што...

«Ды гэта ж я, цяжарная!» — зніякавела ад неспадзяванага напаміну Стэфа.

— Ненавіджу! Усіх ненавіджу! І цябе таксама! — закрычала дзяўчына, і твар яе перакасіла ад злосці, ад мукі і злосці.

— Але ж я невінаватая,— паспрабавала бараніцца Стэфа.— Ты знаеш, што невінаватая.

— Як жа! — фыркнула маладая.— Чорт тузануў, паабяцаўшы пацеху, і ты...

— Чорт? Які чорт?! — закрычала, адчуваючы, што халодны пот градам коціцца па збялелым, змярцвелым твары.— Якая пацеха ў тым, што цябе гвалцяць?

Крык рваўся ў яе з грудзей і, вырваўшыся, нячутна ападаў на зямлю, а той Стэфы, якой яна гэта крычала, не было ўжо ні паблізу, ні воддаль — знікла, згінула.

«Я сплю, я проста сплю і не магу прачнуцца»,— зноў паспрабавала Стэфа супакоіцца, разважаць спакайней, але знік, растварыўся ў паветры знаёмы, абжыты ўжо краявід, і яна ніяк не магла ўцяміць, дзе апынулася. Празрысты, напоўнены дзіўным святлом калодзежны зруб? Выцягнуты ўгору, у нябачнае бязмежжа пакой матчынай хаты? Проста аграмадны слуп святла паміж зямлёю і небам? Што яе акружала?

Адказу так і не знайшлося, а праз нейкі час Стэфа ўжо і пра пытанне не згадвала: зноў яна раздвойвалася, раздвоілася — і бачыла сябе, сябе самую, няхай і на іншым, даўно пройдзеным прамежку жыцця. Гэты раз не вельмі і здзівілася ўбачанаму, адразу пазнаўшы і дзень, і міг, як кажуць: яна, як таго запатрабавала маці, нарадзіла дзіця, дзяўчынку, і пакідала яе, ад'язджаючы ў Мінск. Так, так, яшчэ і сама як след не ачуняла пасля родаў, і ад'язджала. Каб не бачыць народжанай пад змусам дзяўчынкі. Каб не задушыць яе як-небудзь ад бяссільнае злосці, у хвіліну адчаю. Каб забыць пра яе!

Стэфа міжволі прыкрыла вочы і застагнала, калі ўбачыла, што з перакошаным ад нянавісці тварам адштурхвае матчыны рукі, адштурхвае малую ў яе на руках, не пажадаўшы нават зірнуць лішні раз на ружовы зморшчаны тварык. Міг-другі — і адступіцца, знікне за сцяною святла маці з дзяўчынкаю, з Нялюбаю на руках, а яна ні гукнуць не можа, ні зварухнуцца...

Чым стала потым яе, Стэфіна, жыццё? Што, якое такое шчасце аплочвала яна потым сваімі маладымі гадамі? Вось гэты пакутны шлях назад, у памяць?

Слуп святла хістаўся, расхістваўся ўсё мацней і, паступова згасаючы, ператвараючыся ці то ў падножжа якойсьці гіганцкай калоны, ці то ў перакладзіну гіганцкага крыжа, нейкі час нагадваў няўклюдны, жахлівы маятнік, які, здавалася, вось-вось разаб'е, разнясе на дробныя аскепкі ўвесь гэты непрыбраны, спаскуджаны людзьмі свет. Стэфа чула глухія, цяжкія ўдары і сцікалася ад жаху: вось зараз! вось зараз!

Першая адколатая глыба змроку ўпала, кацілася на яе амаль бязгучна, але калі здрыганулася, пачала расколвацца, распадацца пад ударамі магутнага маятніка ўся сцяна, гул, грукат сталі нарастаць, набліжаючыся, пагражаючы пахаваць Стэфу пад абломкамі.

«І няхай, няхай»,— шаптала яна, змірыўшыся, скараючыся немінучаму, і калі што і спыніла абвал, адгарадзіўшы, засланіўшы маятнік смерці новаю згадкаю, новаю карцінаю з даўно пражытага і перажытага, то толькі гэта, не ўласцівая раней Стэфе, пакора.

— Я памалюся за тваю душу.

— Што?! — усклікнула Стэфа адначасова з тою, расфуфыранаю і звыш усякае меры нафарбаванаю гараджанкаю, якою сама, гадоў дзесяць таму, з'явілася, не пасаромелася з'явіцца перад маці, у яе хаце: як жа! доктарка! дыпламаваны псіхіятр!

— Я буду маліцца за тваю душу,— не апусціўшы вачэй, паўтарыла сямігадовая дзяўчынка, і столькі спачування, столькі недзіцячае шкадобы было ў яе голасе, у яе светлым тварыку, што і навапечаная доктарка, перш захлынуўшыся гневам, гнеўным абурэннем, усё-такі не адважылася накінуцца на малую, паставіць яе на месца — моўчкі, невідушча адвяла, адхінула малую з дарогі і прайшла да стала, да лаўкі, на якую, знясілеўшы раптам, стомлена апусцілася.

— Бяжы, Нялюба, на сонейка. Пагуляй, пакуль мы пагамонім,— усміхнулася дзяўчынцы маці, і Стэфе раптам адсюль, з-за непераадольнай агароджы гадоў, здалося, што яна ўсміхаецца ёй, сваёй дачцы, сваёй ганарлівай, неразумнай у сваім гонары дачцы.

Слёзы засцілалі ёй вочы. Яна пакутавала, што не можа сцерці іх, што ўсё невыразней бачыць і матчын твар, і яе ўсмешку, пасланую малой, і саму малую, якая знікла ў сонечных промнях...

«А дзе ж Нялюба? Куды дзелася?» — устрывожана ўзіралася ў размытую слязьмі далеч, у памяць, і нічога, апроч бела-блакітных сполахаў на цёмнай, чорнай сцяне неба не бачыла. Доўга, цэлую вечнасць, здавалася, не бачыла.

— Нялюба! — пачала гукаць.— Нялюба!

Прастора маўчала, не абзывалася, і Стэфа зноў гукала, зноў і зноў. Дачка не магла яе не пачуць, не магла адштурхнуць — яна ж усё даравала ёй, усё! І былую абыякавасць, і былую нелюбоў, і былое бязвер'е. Хто б і што б сёння ні даводзіў ёй, Стэфе, яна знала: у яе ёсць дачка, Нялюба, і Стэфа патрэбна ёй, усё яшчэ патрэбна. Таму і гукае, таму і не спыняе пошуку.

— Нялюба, я пабач... Я амаль што дайшла, чуеш?

— Чуеш... чуеш... чуеш...— азвалася недзе непадалёку рэха, і Стэфа чуйна спрапянулася, прыпала да зямлі, слухаючы водгулле, якое аціхала, адкочвалася некуды далей, у незнаёмую, непазнавальную ў гэту хвіліну далеч.

На міг ёй здалося, што і яна пакацілася ўслед за ім: колькі ж ні ўслухоўвалася, нічога не магла разабраць, колькі ні ўзіралася — шэрань і шэрань. Страху не было. Чамусьці не было. Хоць адчувала, што нейкая цёмная сіла, нечая халодная рука падштурхоўвае ў спіну, хоць зноў і зноў даводзілася раз-пораз бездапаможна хапацца рукамі за паветра, стараючыся ўтрымацца, не сарвацца ў нябачную бездань, з якой патыхала гніллю і тагасветным холадам.

Куды яе гнала? Куды магла прынесці гэта віхура? Вакол, куды ні зірнуць,— бязмежжа, населенае невыразнымі ценямі, галасамі, што прамаўлялі якіясьці словы, і словы гэтыя нагадвалі больш шолах полымя, калі яно ўзлятае, пакідаючы пасля сябе халодны попел...

Калі бездань пад ёю раптам асвяцілася хоць і цьмяным, але святлом, Стэфа не паверыла сваім вачам: пагляду адкрылася лагчына, спрэс зрэзаная шматлікімі раўчукамі і рачулкамі, якія, пераплятаючыся, нітуючыся з дужым целам ракі —Дзвіны, яе роднай Дзвіны, Стэфа ні хвіліны не сумнявалася! — нагадвалі крону магутнага, распластанага на зямлі дрэва. Падабенства павялічвалі і раскіданыя ўздоўж невялікія і вялікія паселішчы — своеасаблівыя людскія гняздоўі, да любога з якіх адно паглядам і дацягнешся.

«Як з самалёта гляджу»,— мільганула ў думках, і Стэфа нават сумна ўсміхнулася падуманаму: свайго цела не можа намацаць, ні вагі ягонае, ні абрысаў ягоных, хоць бы самых прыблізных, не адчуваючы, а тут самалёт... Трэба б лепш угледзецца, больш пільна! — нездарма ж над гэтым месцам кружыць, як бы завісшы ў паветры, ужо ж, нездарма, відаць.

Думка, ледзьве акрэсліўшыся, пацягнула ўніз — ніжэй і ніжэй. Ужо льга стала разгледзець, як мянялі колер ракі, колер вады віры і водмелі, як павольна, не губляючы годнасці, сыходзіліся, у ветлівым паклоне краналіся адна аднае і зноў расхіналіся пад павевам нячутнага ветру вершаліны бяроз, як разгладжвалі, згладжвалі ўсе шурпатасці аблогі вакол лёгкія цені аблачынак, што не-не і пралятаталі над самымі вершалінамі, падганяючы чароды гусей.

Далягляд паступова звужаўся, так, так, але пагляд глыбеў, зачэрпваючы з адкрытай яму глыбіні ўсё больш і больш. Хутка шкрабануў па зямлі, потым, крануўшыся рачной зіхоткай роўнядзі, распырскаў наліплыя да яе халодныя

сонечныя водбліскі. Калі ж паспрабаваў падняцца, прыўзняць паніжэлае, пацяжэлае неба, наткнуўся на нечаканую перашкоду — на сцены гарадскіх камяніц, на спічастыя вежы сабора... Полацк? Сафійка?!

Стэфа рашуча нічога не разумела, а сэрца ўжо калацілася ў прадчуванні разгадкі: тут, недзе тут знайшлі Нялюбу...

— Каб займець права аддаліцца ад свету, пакінуць гэты свет, трэба здолець развітацца з ім.

Хто гэта сказаў? Чые словы прагучалі? Гадаць, угадваць не мела сэнсу, тым больш што ўвагу Стэфіну прыцягнула ў гэты момант іншае: зямля, невысокі, сям-там моцна пакарабачаны раскіданымі хто ведае ў якія часы валунамі бераг Дзвіны набліжаўся з такою хуткасцю, што яна, Стэфа, немінуча разаб'ецца, уплішчыцца ў яго, калі нейкім чынам, хоць бы і цудам, у самы апошні міг, не стрымае, не спыніць гэтага імклівага падзення.

«Ну! Ну ж!» — звяла, сцяла дрогкія павекі, хапаючы ротам паветра і чакаючы ўдару, і расплюшчылася толькі тады, калі, па ўсіх падліках, даўно павінна была ператварыцца ў блін. Расплюшчылася — і з асалодаю ўдыхаючы нарэшце нерухомае, напоенае рачным халадком паветра, не адразу заўважыла, што паблізу, усяго за некалькі крокаў ад яе, Стэфы, і ад вады, прыткнуўшыся, прыпаўшы шчакою да пяску, ляжала Нялюба. Жывая ці мёртвая...

— Каб займець права аддаліцца ад свету, пакінуць гэты свет, трэба здолець развітацца з ім.

— Што? — спрапянулася, агледзела бязлюдны бераг Стэфа, шукаючы паглядам таго, хто паўтарыў зусім нядаўна ўжо сказанае, і тут — толькі цяпер! — убачыла дачку.— Нялюба? Нялюба!

Сарвалася з месца, радасна, імкліва кінулася да дзяўчынкі і, наткнуўшыся ўжо праз два-тры крокі на зусім нечаканую, нябачную загарадку, якая не пусціла, не пускала яе далей, усё ніяк не магла ўцяміць, у чым справа: білася ў гэту сцяну рукамі, тварам, усім целам і гукала, гукала:

— Нялюба! Дачушка!

Крык, адчайны крык яе будзіў, раздзіраў прастору: усё мацней калыхалася, раскалыхвалася паветра, лопалася, уздыблівалася пад нагамі зямная паверхня, рассоўваючы берагі, сінімі, а потым чорна-зялёнымі хвалямі пачала выплюхвацца, хлынула паверх усяго дзвінская вада.

— Пусціце! Пусціце, там мая дачка,— плакала ад бяссілля Стэфа, а пясчаны бераг, на якім ляжала Нялюба, рос, вышэў, падымаўся ўжо ўвачавідкі — і вось ужо, ледзь толькі наблізілася да яе вышыня, зварухнулася, пачала ўставаць

нерухомая дагэтуль дзяўчынка і выразны, выразна акрэслены на светлым фоне неба сілуэт яе рос, мяняўся на вачах. Перш раскінутыя, ускінутыя Нялюбаю ўгору рукі перараслі ў крылы, у два срэбна-белых крылы, потым і ўся яна, лёгкая, імклівая ў сваім парыванні, адштурхнуўшыся ад цёмнага грэбня ўздыбленага берага, стала ператварацца ў белую птушку са срэбна-белымі, зіхоткімі крыламі. У птушку, якую гукала вышыня.

— Нялюба, а як жа я? Як жа я?

— Імя Божае не свеціцца ў табе, усё яшчэ не свеціцца...— зашархацелі над ёю крылы, мноства крылаў, і цяпер колькі ні ўзіралася Стэфа ў неба, спрэс закрытае, заслоненае птушкамі, разгледзець, сэрцам адчуць, дзе сярод іх дачка, Нялюба, не магла. Хутка, наогул, нічога не магла ўгледзець, бо ўніз, на яе, на зямлю, паляцела, густа пасыпалася белае бязважкае пер'е.

— Нялюба...— застагнала, задыхаючыся ў сне і пачынаючы прачынацца, Стэфа, і, калі нарэшце прачнулася — уцяміла, што прачнулася і ляжыць на растузанай, раскіданай капе сена, позірк яшчэ доўга насцярожана абмацваў пашарэлае і ўсё ж па-ранейшаму густа абсыпанае чыстымі, вільготнымі ад перадсвітальнага холаду зоркамі неба: за нешта ж яно ёй папікала... За што?

41

Гаворка са следчым выматвала і, хоць падазрэнне з яго і знялі, Жыноўскі наконт сваёй, усё яшчэ немалой, ролі ў следстве не памыляўся: ніводнай новай зачэпкі ў Казловіча за апошні тыдзень не з'явілася, на след Стэфы міліцыя дагэтуль не выйшла, так што... Так што пасляць каго куды ўслед за чортаваю бабкаю не выпадала, хоць часам і муляла.

Ну, прыходзіў, калі выклікалі... Ну, гаварыў штосьці кожны раз у адказ на збрыдлыя пытанні... І што? Якая карысць? Змянілася б што-небудзь на сённяшні дзень, калі б ён безагаворачна прызнаў, што Стэфін учынак выкліканы хваробаю, бо нічым іншым яго не вытлумачыць? Усе сёння шызанутыя, у той ці іншай ступені: і Стэфа — не выключэнне, і ён сам, і гэты ўпарты казёл са сваімі папкамі, каго б ён з сябе ні строіў. У кожнага свой пункцік, і гэта даказвала толькі адно: чалавек — не такая разумная і не залежная ад прыроды істота, якою сябе скрозь уяўляў.

«Народ... народ патрабуе...» — шчабечуць, закочваючы вочы, то з адной, то з другой, яшчэ вышэйшай, трыбуны, а скажы катораму з народных заступнікаў, што пляваць ён

хацеў на народ і пляваў, не дужа клапоцячыся пра тое, на каго цыркала ліпкая, атрутная сліна, дык жа біцца кінецца, на поўным сур'ёзе судом пагражаць пачне. Як жа! Незаслужана абражаным сябе адчуе, справядлівасці для сябе, любімага, ад усіх запатрабуе.

— Цьфу! — сплюнуў Жыноўскі, спрабуючы адчапіцца ад непрыемных раздражнёных думак, і спыніўся, каб агледзецца і выбраць патрэбны кірунак: імчаўся ж па вуліцы, не заўважаючы нічога вакол, хто ведае куды! Няйначай, як адхлістаны пугаю, ашалелы ад болю і гарачага подыху волі конь.— Цьфу ты, ядры тваю...

— Адтуль?

— Адкуль? — адгукнуўся, перш чым пазнаў голас той, што спытала, а потым і яе самую.— Прабач, не пазнаў у натоўпе...

— Пяць-шэсць чалавек для цябе ўжо натоўп? — пасміхнулася, але неяк сумна, разгублена, Ната, якая, убачыўшы непадалёку ад аўтобуснага прыпынку Жыноўскага, не магла не падысці да яго, не загаманіць з ім.

— Часам, нават застаўшыся на якую хвіліну сам-насам з сабою, доўга не можаш вызваліцца ад адчування, што вакол па-ранейшаму натоўп, што ты ў натоўпе... Што ў цябе? Ёсць што-небудзь новае? — уздыхнуў і, узяўшы Нату пад локаць, адвёў крыху ўбок, на край тратуара, шчодра пасыпанага абляцелым за апошнія дні лісцем.

— У Полацку Стэфа не з'яўлялася. Гэты раз — не з'яўлялася. Правяралі. Але...

— Але?

— Але ёсць — праўда, пакуль што не правераныя — сведчанні, што яе бачылі па дарозе ў той бок,— стала таропка, запінаючыся на кожнай фразе, тлумачыць Ната, адчуўшы, што ўзрадавана нечспадзяванаю сустрэчаю з Жыноўскім, што з'явілася магчымасць сёе-тое ў яго распытаць і пацвердзіць ці адпрэчыць свае сумненні: скрозь не любіла яго, нават пабойвалася, а тут шчыра, па крайняй меры, у першую хвіліну, узрадавалася.— З Мядзельскага сельсавета званілі. Сказалі, што жанчыну, падобную знешне на тую, якую, скарыстаўшы фотаздымкі, паказвалі па тэлевізары, бачылі перш у адной, потым у другой вёсцы і ўсюды прымалі за лекарку. За чарадзейку. Уяўляеш?

— За чарадзейку? — прымружыў вочы зацікаўлены Анатоль.— Значыцца, яна паспрабавала, спрабуе лячыць псіхічнаю энергіяй. Свядома ці несвядома... Ці-ка-ва!

— Думаеш, гэта яна? Стэфа?

— Пераканаыя, зайка,— задаволена паціраў ён успаце-

лыя раптам далоні, не заўважаючы гэтага.— Для падобнага лячэння патрэбна адпаведная падрыхтоўка. І не толькі падрыхтоўка, яшчэ і...

Змоўк, не дагаварыўшы, і, калі зірнуў на зусім зніякавелую Нату, якая не хавала ні сваёй падазронасці, ні сваёй трывогі за сяброўку і ўсё ж чакала, па ўсім відаць, іншага, больш пэўнага адказу, прадоўжыў:

— Ты ў нас прызнаная аматарка і знаўца ўсякіх містычных праяў і думаеш адразу чорт ведае пра што. А гэта... Гэта, калі б я меў іншыя ўмовы і свабоду эксперыментаваць, льга даказаць абсалютна навукова. Чалавек,— не разважаў, а хутчэй думаў ён уголас,— не адно тое, што ён уяўляе сабою знешне, фізічна ўспрымальна, разумееш? Воблік яго, аблічча яго маюць вельмі адноснае значэнне, калі наогул маюць,— усё, усё, як я часцей і часцей пераконваюся, залежыць ад закладзенага ў яго зерня духа.

— Зерня? Якога зерня? — спалохалася Ната яго занадта ўзрушаных і незразумелых слоў і ледзьве ўтрымала сябе на месцы: усе гэтыя псіхіятры — псіхі, чаго добрага яшчэ...— Кім закладзенага?

— Ну, не ведаю. Прыродаю. Космасам. Богам! Якая мне — ці табе да гэтага справа? Я пра іншае,— не пазіраў на яе Жыноўскі і таму не бачыў ні яе спалоху, ні яе напружання.— Пра іншае... Медыумы, праводзячы публічныя медытацыі на падрыхтаваным, папярэдне прадуманым сеансе, выклікаюць з прасторы, з самага нізкага яе слою, чыйсьці дух, чыюсьці душу — па крайняй меры, яны так лічаць, ды і ты так, а не іначай, думаеш. А тут... Тут, калі нічога асабліва не ўскладняць, усё наадварот.

— Тут — гэта ў выпадку са Стэфаю? — асцярожна перапытала Ната, гатовая ў любы момант адкаснуцца ад гаворкі, назваць любую, нават самую неpraўдападобную прычыну і збегчы.

— Калі дапусціць,— не чуў ён яе пытання,— што можна выклікаць чыйсьці дух, то чаму гэты дух не можа пагукаць чалавека, звярнуўшыся да яго і назваўшы любое імя? А? Містыка, канешне. Містыка чыстай вады. Але толькі таму, што мы, прабач, ні фіга пра сябе не ведаем і ведаць не хочам. Далдонім пра феномен чалавека, пра сувязь мікракосму з макракосмасам, а самі і на імгненне не дапускаем сапраўднае ідэнтычнасці чалавека і касмічнага цела Сусвету. Калі ж, крый Божа, сутыкнемся, станем сведкамі гэтага славутага чалавечага феномену, тут жа лямантуем пра падмену, пра падман зроку, пра невядомае навуцы захворванне. Даследчыкі, ядры тваю, вучоныя... Балбесы зашораныя!

— Але якое дачыненне...— памкнулася перапыніць яго разважанні Ната, ужо шкадуючы, што паддалася няўцямнай трывозе і падышла да Жыноўскага, гукнула яго з натоўпу, каб распытаць пра вядомае яму: што тут выпытаеш, як у яго самога, па ўсім відаць, дах паехаў.

— Ты не разумееш,— сціснуў ён Націн локаць,— не разумееш сказанага, бо я занадта блытана, бесталкова тлумачу. Ёсць бачны — і нябачны свет вакол, нават Біблія на гэта спасылаецца... Яны, гэтыя светы, пастаянна ўзаемадзейнічаюць, не могуць не ўзаемадзейнічаць! А мы, мы не ўспрымаем іх узаемадзеяння, узаемапранікнення, па крайняй меры, свядома, пры сваёй памяці! Мо таму, што няздольныя, усё яшчэ няздольныя адкрыць у сабе падобную магчымасць, мо таму, што не дапушчаныя да таямніцы, бо не вартыя большага, чым сёння, даверу. Разумееш? У масе сваёй — не вартыя. Але не-не і з'яўляюцца сярод людзей мечаныя — мечаныя незвычайным талентам, ці незямною чуйнасцю, ці хваробаю... Так, так, хвароба — гэтаксама метка, пэўная адмеціна неба, асабліва хвароба душэўная.

— Стэфа, па-твойму, мечаная?

— Стэфа? — не адразу зразумеў Жыноўскі.— Што ж, калі гэта пра яе гавораць як пра цудадзейную лекарку, як пра чарадзейку, то канешне. І яна. Хацеў бы я, чорт вазьмі, ведаць напэўна! І больш падрабязна! А гэтыя казлы ў міліцыі...

— Яны знойдуць Стэфу. Яны, па сутнасці, яе знайшлі.

— Лепш бы не знаходзілі,— буркнуў згаслы, спахмурнелы раптам Жыноўскі, упершыню за час іх размовы прыгледзеўшыся да сваёй суразмоўніцы: стаіць, хутаецца ў залішне модны для яе ўзросту плашчык, раз-пораз няўцямна матляе галавою, каб адкінуць убок ускудлачаныя, раскіданыя ветрам валасы, нічым, як звычайна, не сабраныя, не сколатыя, а тое, што і ў галаве свішча вецер...— Па мне,— прадоўжыў больш рашуча,— трэба б пакінуць усё як ёсць. Сышла з дому. Не вярнулася, хоць нічога гэтаму не перашкаджала. Жывая, па здабытых міліцыяй сведчаннях. Ні ў якім злачынстве не замешана. Чаго яшчэ, я пытаю? Чаго нам яшчэ?

— Жорсткі вы чалавек, Анатоль,— нечакана перайшла яна з ім на вы, не хаваючы расчаравання, з-пад якога ўсё яшчэ прасвечваў перажыты спалох.— За вочы, нічога пэўнага не ведаючы, ставіце дыягназ і тут жа, з абыякавасцю ў сэрцы, адварочваецеся: гульня, па-вашаму, згуляна, Стэфа спісана.

— Цьфу ты з табою! — шчыра абурыўся ўражаны такім

неразуменнем усяго, пра што яны гаварылі, Жыноўскі.— Я ёй пра папа, а яна — пра папову яешню! Гульня... Стэфа... Пры чым тут твой пафас? Мо яна, Стэфа наша, упершыню адчувае сябе шчаслівую? А мы то паніхіду па ёй гатовы заказваць, то міліцыю па следзе пускаем.

— А што б вы, Анатоль, прапанавалі? — ужо рашуча нічога не разумела Ната.— Хто сёння, апроч міліцыі...

— Ні-хто! Ніхто не мае права і не павінен заяўляць прэтэнзій на чалавека, на яго свабоду, калі ён не пагражае спакою астатніх, і пакуль мы гэтага не зразумеем, нічога ў нашым жыцці не зменіцца. І калі раней я сцвярджаў адваротнае...

— Прабачце, Анатоль, але мне трэба бегчы,— насмелілася нарэшце Ната хоць у думках паслаць Жыноўскага к чорту і развітацца.— Думала, што вам вядома пра Стэфу крыху больш, чым мне, таму і гукнула з натоўпу.

— Стэфа, Стэфа! Стэфа сама, сваім розумам, выбрала свой канец, пра што тут гаварыць?

— Канец? — павярнула галаву, на міг прыстываючы да зямлі, Ната.— Чаму канец?

— Людзі не птушкі, яны не вяртаюцца туды, адкуль адлятаюць на кліч неба,— цяпер ужо адвярнуўся ад прыгнечанай, не задаволенай і сабою і гаворкаю з ім Наты Анатоль.— Бывайце, шаноўная. Дзякуй за добрыя весткі.

Апошняе прабурчаў літаральна сабе пад нос, хоць сапраўды лічыў, змушаны быў прызнаць, што гэта даўгавалосая жэрдка з курынымі мазгамі, на якую ён раней і позірку пашкадаваў бы, здолела ў піку яму сякія-такія звесткі адкапаць. Напужаў дурніцу сваімі разважаннямі ледзьве не да смерці і павярнуўся спіною...

Усміхнуўся нязвыклым, нязвыкла сентыментальным думкам, агледзеўшыся, здзіўлена заўважыў, што трапіў у натоўп і разам з ім, ягонаю, а не сваёю воляю спускаецца ў метро. Чаго? Яму ж на аўтобус, які ідзе да Навінак, трэба патрапіць: на цэлы рабочы дзень яго з работы ніхто не адпускаў.

У аўтобусе, гэтаксама перапоўненым, нягледзячы на тое, што белы дзень і ўсе павінны быць у гэты час на рабоце, усчалася сварка: некага мацней, чым трэба, штурхнулі і ён абурыўся, у адказ хлынула не па-жаночы грубая лаянка, якая момантамі пераходзіла ў віск, калі ж яшчэ хтосьці з суседзяў умяшаўся... Адным словам, хоць з аўтобуса выскоквай!

Жыноўскі, магчыма, і выйшаў бы, але выйсці, каб, аберагаючы вушы, дачакацца наступнага рэйсавага аўтобуса,

было складаней, чым зайсці: ведаючы, што едзе да канца, да самага канечнага прыпынку, уплішчыўся ў сяродку, дзе звычайна дыхалася вальней, і цяпер мусіў бы праштурхоўвацца, працісквацца назад літаральна па галовах. Вось і адмовіўся адразу ад свайго намеру — толькі пакутліва моршчыўся на кожны новы выбух лаянкі, няздольны ў гэтыя хвіліны глыбока засяродзіцца на чым-небудзь сваім і не слухаць, не чуць нічога вакол. Ды і тое... Замнога кантактаў з рознаю людскою дрэнню з самае раніцы — міжволі дурдом, куды кіраваўся, ўявіцца ціхім прыстанкам душы.

Думка спадабалася. Мо таму, што ўрэшце зачапіла яго, адцягнуўшы ўвагу ад таго, што адбывалася паблізу. І Жыноўскі задаволена пакручваў яе то так, то гэтак, усё больш пераконваючыся ў яе разумнасці: у свеце, звар'яцелым ад баталій палітыкаў і ўсіх масцей палітыканаў, ад іх далёка небеспаспяховых намаганняў вывернуць навыварат усё — лад жыцця, звычкі і звычаі, мазгі, як іржою, раз'едзеныя рабствам душы, адзіным, як ні дзіўна, адзіным месцам, ціхім і спакойным сярод агульнае звады, з'яўлялася клініка для душэўнахворых. Ні табе палітыкі, ні табе ўсёразбуральнае страсці. Нават пра тое, што ўкрыты, надзейна заслонены ад людскіх натоўпаў тоўстымі бальнічнымі сценамі, кратамі на вокнах і аховаю дужых санітараў у калідорах, згадваць зусім не абавязкова: кожнаму ягоны шлях ужо прадвызначаны. Прадвызначаны смерцю. Толькі ёю...

## 42

— Ма-ма...— у бяспамяцтве, ледзь чутна шаптала зрэдку дзяўчына перасохлымі, палопанымі ад пастаянна высокай тэмпературы вуснамі, і Стэфа, якая не чула ні завывання сабакі ў двары, у будцы каля хлеўчука, ні цяжкіх крокаў старой Тэклі па хаце і яе цяжкога, гучнага малення перад абразом святога Міколы-ўгодніка, тут жа кідалася на ціхі гарачкавы шэпт.

— Што, родненькая? Я зараз, зараз...

Змочвала, выцірала яе сухія вусны мокраю анучкаю, дзьмула на яе гарачы лоб, зноў, засяроджваючыся, збірала ўсю сілу сваёй збуджанай мацярынскае любові ў руках, у дрогкіх пальцах, і трымала, да змогі, пакуль бяссільна не абсоўвалася ў крэсле побач з хвораю, трымала рукі ў яе над галавою.

— Ты будзеш жыць! Будзеш! — паўтарала нячутна, адным душэўным зрухам.— Калі смерці спатрэбіцца чыё-не-

будзь жыццё — яна возьме маё. Маё, а не тваё, дачушка... Ты будзеш жыць!

— Свят, свят, свят! — кіруючыся да дзвярэй, у двор, каб сцебануць чым трапіць сабаку і потым знайсці занятак рукам, хрысцілася старая, калі ж, гадзін праз колькі, вярталася ў хату, знаходзіла тую ж карціну, чула тыя ж гарачыя заклінанні.

Чацвёрты дзень, як прыйшла аднекуль у вёску абарваная, як жабрачка, лекарка з балючым, галодным бляскам у вачах і — напрасткі да яе, Тэклі, у двор, у хату: дзяўчынка тут, маўляў, дачка яе хворая... Яно ўсё так, канешне: які ўжо месяц жыве ў Тэклі яе ўнучатая пляменніца, не жыве — памірае, нягледзячы на тое, што і з бальніцы прыязджалі, прапаноўвалі забраць гаротніцу да сябе, на вачах у Тэклі памірае. Не схацела ў бальніцу, усё прасілася, пакуль пры памяці, каб не аддавала ў бальніцу...

— Найсвяцейшая Багародзіца, усемагутным заступніцтвам Тваім памажы мне ў гэтай малітве маёй упрасіць Сына Твайго, Бога майго, каб Ён дапамог ачуняць служцы Божай, сіротцы няшчаснай, якая знайшла прытулак у гэтай хаце,— малілася Тэкля, ужо дужа і не спадзеючыся на літасць Божую, прасіла аб гэтай вялікай літасці.— Усе анёлы Госпадавы і ўсе святыя, прасіце Бога, каб дапамог Ён і ачуняла служка ягоная Люба, маладая і бязвінная перад Госпадам.

— Пі-іць... пі-іць...— прамаўляла, выціскала з сябе разам са стогнам дзяўчына, і, калі Тэкля з малітваю наблізілася, то ўбачыла, што Стэфа падносіць да яе сухіх, спечаных губ лыжку з настоем і яна п'е — выпіла і гэту лыжку, і другую, і трэцюю, перш чым сцяла губы і аціхла.

— Мо злітуецца Госпад...— кранула Стэфу за плячо.— Ідзі паляжы трохі, адпачні. Я каля дзеўкі пасяджу.

— Не, не! — адкаснулася тая, адно і зразумеўшы, што яе хочуць адарваць ад Нялюбы.

— Звалішся ж, не вытрымаеш. Чацвёрты дзень ад ложка не адыходзіш,— пераконвала старая і, калі Стэфа больш не абзыўнулася, не чуючы і як забыўшыся на яе, на яе прысутнасць, сумна пахітала галавою і ўздыхнула, і пасунулася да цёплай печы: цямнела цяпер рана, а ў хаце ёй, старой, якая ўвечары работа?

Яна доўга крахтала, укладваючыся. Адкуль бы ні прыйшла да яе ў хату нечаканая падмога, усё Богу трэба дзякаваць: памерла б ужо, відаць, дзеўка — ці тут, у хаце, ці ў бальніцы, калі б не госця прыблудная, балесная... Усё шэпча нешта сама сабе, усё ўглядваецца ў хворую — не адно

паглядам, а і нутром, здаецца, праз яго: мо і злітуецца Господ над абедзвюма...

Святло міргнула? Ды не нібыта. Лямпачка, хоць і няяркая, але свяціла спраўна, асвятляючы бедную, не вельмі дагледжаную сваёю старэнькаю гаспадыняю хату, і ў жаўтаватым святле яе то сцікалася вакол ложка і згорбленай над ім Стэфы, то зноў распаўзалася па кутах цішыня. Густая, асязальная цішыня. Стэфа не-не і паводзіла плячмі, часам адчуваючы яе нябачны, усё больш гнятлівы цяжар, часам зусім няўцямна, бо не зводзіла ж вачэй з бледнага тварыка перад сабою і кожны раз балюча ўздрыгвала, змушала сябе страпянуцца і зноў засяродзіцца, калі стомленыя, пачырванелыя ад доўгага бяссоння вочы раптам пачыналі заплюшчвацца, зліпацца: ёй нельга было спаць, нельга было прыснуць і на хвіліну.

Не, не! Яна не засне. Яна так доўга ішла, баючыся неўзнарок упусціць нітачку клічу і ніколі не адшукаць сваёй дачкі, сваёй Нялюбы, што цяпер усё стрывае, усё зможа вытрымаць — абы Нялюба жыла, абы яна толькі жыла. Галоўнае: Стэфа паспела, і яшчэ не позна. Няхай толькі цяпер, на чацвёртую ноч, стала паціху спадаць тэмпература і гарачкавае бяспамяцтва перайшло ў сон, у глыбокі гаючы сон...

«Адна... Скрозь адна... Ніводнага чалавека побач, з кім льга б загаварыць пра гэтую душэўную муку, пра гэтую душэўную адзіноту, ніводнага...— загаманіла яна да самой сябе.— Хай бы ўжо вера ў душы прарасла — хоць маленькім парастачкам прарасла! Я б адхукала яе, узгадавала... Ды не, душа як каменнем высланая, выбрукаваная».

«Без волі Бога і палюбіць Яго нельга».

«Ты, Нялюба? Прачнулася? Тады скажы: ты верыш, што я не разумела, проста не разумела, чым, кім ты магла б стаць для мяне, калі б у табе, у цябе шукала я ўцехі і апоры?»

«Ды не ў мяне трэба было шукаць, а ў Таго, чыё імя не свеціцца ў табе, на жаль, не свеціцца і ніколі не свяцілася».

«Я не вінавата!»

«Ты вінавата, бо скрозь спадзявалася толькі на сябе, на сваю сілу, забыўшыся на тое, што няма ў чалавека сваёй уласнай сілы: усё ў ім — ад Бога, усё Богам дадзена».

«Не чую я гэтага. Не адчуваю. І хацела б, а не магу,— паскардзілася Стэфа дачцы, хоць тая яшчэ ніводнага разу не павярнула да яе галавы — стаяла спіною, з галавою ўхутаўшыся ў коўдру і ўтаропіўшыся ў акно, у бяздонную чарнату за ім, не асветленую ніводным праменьчыкам, ніводнаю зоркаю.— Пуста ўва мне, наскрозь пуста».

«Пуста? А дзе ж дзелася ўзгадаваная, выкармленая тваімі крывёю і плоццю пачвара? Яшчэ ж нядаўна раўла, злосна тупала, патрабуючы свайго ад любога самца».

«Пра што ты? Пра якую пачвару? — зрабіла колькі крокаў да яе Стэфа, каб наблізіцца, крануць за плячо і, павярнуўшы да сябе, зазірнуць у твар, пераканацца, што не пасміхаецца з яе, але крокі нібы завіслі ў паветры і адлегласць паміж ёю і нязграбна захутанаю ў коўдру дачкою засталася ранейшаю.— Я не разумею, Нялюба...»

«А вечная, ненасытная прага мужчыны, прага сексу? Няўжо адступіўся д'ябал? Няўжо адмовіўся ад сваёй бязмежнае ўлады?»

Стэфа нічога не разумела. У Нялюбы — і раптам такі дзёрзкі з'едлівы тон? У Нялюбы — падобныя думкі і словы? Яна ж толькі што на Бога спасылалася...

«Ты ж толькі што на Бога спасылалася»,— паўтарыла ўголас тое, пра што падумала, і балюча ўздрыгнула, пачуўшы ў адказ перш ціхі, а потым усё больш гучны, ніколі раней не чуты Нялюбін смех.

«На Бога! На Бога! Што б ён прапанаваў свету, калі б нарадзіўся на свет жанчынаю? Якою мукаю адкупіўся б ад смерці, як я г о муку церпіць, нясе любая баба цераз усё жыццё сваё? А? — аціхаў нервова заглынуты смех.— Колькі разоў распінаюць яе на крыжы рук, колькі крыві выцякае ў яе з сярэдзіны, колькі здрадцаў адкупляецца ад яе чысціні крывымі ўхмылкамі? А яна жыве, яна нараджае новае жыццё — на радасць, ці на муку».

«Гэта не твае словы!.Не твае! — зноў памкнулася наблізіцца, тузанулася да яе Стэфа і раптам, ураджаная, адразу знясіленая раптоўнаю здагадкаю, абмякла, знерухомела.— Ты — не Нялюба, ты...»

«Чаго ж спалохалася? Дагаворвай,— паварочвалася да яе прыкрытая канцом коўдры галава, і Стэфа заплюшчылася, моцна сцяла павекі, каб не бачыць, не ўбачыць твару таго, з кім гаварыла,— яна ўжо ведала, што падманулася, што гэта не дачка, не Нялюба, а сам сатана, няйначай, у яе абліччы, з яе голасам.— Хіба мы з табою калінебудзь па-сапраўднаму варагавалі, Стэфа? Ды не ж, не! Ты — мне, я — табе, усё сумленна, усё, як прынята ў гэтым свеце».

«Дзе Нялюба? — змусіла сябе Стэфа ўсё-такі расплюшчыцца і зірнуць у незнаёмы твар, па якім распаўзлася крывая ўсмешка, тут жа, з першага позірку заўважыўшы ў ім падабенства з тварам свайго нядаўняга палюбоўніка.— Што... што ты з ёю зрабіў?»

«Я?! — усміхаўся той усё шырэй.— Пры чым тут я, шаноўная?»

«Аднекуль жа ты ўзяўся тут,— змрачнела Стэфа, азіраючыся і не бачачы вакол ні знаёмых сцен, ні ложка, каля якога толькі што сядзела, ні печы, на якой яшчэ хвіліну таму пахрапвала старая Тэкля,— адно акно, ці то ўстаўленае ў саму цямрэчу, ці то проста падвешанае над ёю, і гаспадар яго, знешне зусім не такі страшны, якім скрозь уяўляўся.— Аднекуль жа цябе прынесла сюды якраз цяпер, калі я знайшла Нялюбу».

«Ня-лю-бу? — лёгкім рухам, так, як адкідваў бы накінуты на плечы плашч, адкінуў ён убок нахамутаную на сябе коўдру.— Дзе ты бачыла Нялюбу?»

«Я лячыла яе. Я ўжо амаль што вылечыла яе, і гэта ты... ты...»

Стэфа задыхалася. Ёй раптам пачало не ставаць паветра, і яна хапала, хапала яго ротам, адчуваючы, што яшчэ хвіліна-другая — і захлынецца, спыніцца зведзенае сутаргаю сэрца.

«Аддай мне яе... Пакажы...— прасіла, прасілася ў смерці, і калі вакол пачало крыху святлець і са змроку выступілі бярвенчатыя сцены, ложак каля сцяны і яна ўбачыла, што ён не пусты, што на ім па-ранейшаму ляжыць Нялюба, слёзы хлынулі ў яе з вачэй.— Нялюба!»

«Хіба гэта Нялюба? — азваўся, хоць і знік, стаў нябачным д'ябал.— Зірні ўважлівей, угледзься больш пільна: тая, каго ты ўратавала цаною свайго жыцця,— не твая дачка, не Нялюба. Гэта Люба. Люба Глушчэня. Адна з тваіх пацыентак у Навінках. Памятаеш? Ну, памятаеш? Яна яшчэ знікла аднойчы з палаты...»

Голас, губляючы свае з'едлівыя ноткі, цішэў, аддаляўся, змушаючы Стэфу напружваць апошнюю сілу, каб штосьці расчуць, бо бачыць яна ўжо нічога не бачыла: слёзы, халодныя пякучыя слёзы залівалі ёй вочы, дыханне, раз-пораз абрываючыся, перапынялася, сэрца павольна, усё павольней адлічвала апошнія ўдары.

Страху яна не адчувала. Болю і шкадавання таксама. Аб чым шкадаваць? Як жыла, так і памірала. Не было Бога ў яе ў душы, не было нават у гэтую апошнюю хвіліну. Бог быў высока. Над ёю. Там, адкуль яшчэ зусім нядаўна гукала яе дачка.

*1993*

## Змест

ІМЕМ АЙЦА І СЫНА. *Аповесць* — 3

МЕЧАНАЯ. *Раман* — 62

**Бондар Т.**

Б81 Імем Айца і Сына: Аповесць, раман. Мн.: Маст. літ., 2000.— 317 с.

ISBN 985-02-0380-3

Свет жанчыны, глыбіні жаночай душы, у якіх так дзівосна пераплятаюцца «змяіныя сцежкі» інтуіцыі і здаровы сэнс, закладзены самой прыродай, заўсёды скрупулёзна даследаваўся пісьменніцай Таісай Бондар. Вось і ў новай кнізе яе героіні пакутуюць і радуюцца, кахаюць і ненавідзяць, імкнучыся ўразумець і прыняць вытокі сваіх пачуццяў, каб выжыць і жыць, каб здзейсніўся лёс.

**УДК 882.6-31**

**ББК 84(4Беи)6**

Літаратурна-мастацкае выданне

**Бондар Таіса Мікалаеўна**

**ІМЕМ АЙЦА І СЫНА**

Аповесць, раман

Адказны за выпуск Г. С. Шупенька
Мастак Р. М. Сустаў
Мастацкі рэдактар М. Я. Шкурпіт

Падп. да друку 06.12.99. Фармат 84x108 1/32. Папера афс. № 1. Гарнітура Тып Таймс. Афс. друк. Ум. друк. арк. 16,80. Ум. фарб. адб. 18,69. Ул.-выд. арк. 19,76. Тыраж 1650. экз. Зак. 4099.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 19.11.97. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Аддрукавана з арыгінал-макета заказчыка на ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінаце ВПП імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.